АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ
МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА,
ЭТНАГРАФІІ
І ФАЛЬКЛОРУ

# Чаго на свеце не бывае

Антырэлігійныя
казкі,
анекдоты,
прыказкі
ўсходнеславянскіх
народаў

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1990

ББК 82.3(2)-6
Ч-12

Собраны лучшие образцы антирелигиозного устнопоэтического творчества русского, белорусского и украинского народов, в которых разоблачается эксплуататорская сущность церкви в дореволюционный период, показывается критическое отношение трудящихся к религиозным обрядам. Во вступительной статье исследуется развитие атеистических идей в фольклоре.

Сборник рассчитан на широкий круг читателей.

Складальнікі:
А. С. Фядосік, Г. А. Пятроўская

Уступны артыкул А. С. Фядосіка

Рэдактар В. К. Бандарчык

Рэцэнзенты:
кандыдаты філалагічных навук
У. К. Касько, І. І. Крук, І. У. Саламевіч

Мастак Э. Э. Жакевіч

**Чаго на свеце не бывае:** Антырэлігійн. казкі, анекдоты, прыказкі ўсходнеслав. народаў.— Мн.: Навука і тэхніка, 1990.— 416 с.
Ч-12
ISBN 5-343-00153-X.

Чего на свете не бывает: Антирелигиозн. сказки, анекдоты, пословицы восточнослав. народов.

Сабраны лепшыя ўзоры антырэлігійнай вуснапаэтычнай творчасці рускага, беларускага і ўкраінскага народаў, у якіх выкрываецца эксплуататарская сутнасць царквы ў дарэвалюцыйны перыяд, паказваецца крытычнае стаўленне працоўных да рэлігійиых абрадаў. Ва ўступным артыкуле даследуецца развіццё атэістычных ідэй у фальклоры.

Зборнік разлічан на шырокае кола чытачоў.

**Ч** $\frac{\textbf{4702000000—78}}{\textbf{М316(03)—90}}$ **150—89** **ББК 82.3(2)-6**

ISBN 5-343-00153-X

## АТЭІСТЫЧНЫЯ ІДЭІ
## Ў ФАЛЬКЛОРЫ ЎСХОДНЕСЛАВЯНСКІХ НАРОДАЎ

Камуністычная партыя клапоціцца аб умацаванні матэрыялістычнага светапогляду савецкіх людзей. У новай рэдакцыі Праграмы КПСС, прынятай XXVII з'ездам партыі, вялікая ўвага ўдзяляецца атэістычнаму выхаванню. «Партыя выкарыстоўвае сродкі ідэйнага ўздзеяння для шырокага распаўсюджвання навукова-матэрыялістычнага светаразумення, для пераадолення рэлігійных забабонаў, не дапускае абразы пачуццяў веруючых. Выступаючы за няўхільнае выкананне канстытуцыйных гарантый свабоды сумлення, партыя асуджае спробы выкарыстаць рэлігію на шкоду інтарэсам грамадства і асобы. Важнейшая састаўная частка атэістычнага выхавання — павышэнне працоўнай і грамадскай актыўнасці людзей, іх асвета, шырокае распаўсюджванне новых савецкіх абрадаў і звычаяў»[1]. Важную ролю ў атэістычным выхаванні павінны адыграць самыя разнастайныя, добра зразумелыя, даступныя народу матэрыялы. Сярод гэтых матэрыялаў плённа выкарыстоўваюцца ў выхаваўчай рабоце вуснапаэтычныя творы ўсходнеславянскіх народаў.

Яшчэ ў глыбокай старажытнасці пачалі ўзнікаць і распаўсюджвацца фальклорныя творы, у якіх выразна выказваецца крытычнае стаўленне народаў да хрысціянскай рэлігіі, царкоўных абрадаў і духавенства. Антырэлігійныя ідэі ў гэтых творах пастунова набывалі ўсё больш і больш усвядомлены крытычны характар, нягледзячы на жорсткую барацьбу з атэістычнымі настроямі тагачасных улад і царкоўнікаў. Каталіцкія царкоўнікі, напрыклад, па-зверску расправіліся з беларускім прагрэсіўным дзеячам XVII ст. Казімірам Лышчынскім, які ў трактаце «Аб неіснаванні бога» выказаў думку, што бога стварыў чалавек, выступаў супраць веры ва ўсемагутнага тварца, абвяргаў вучэнне аб тройцы, адмаўляў магчымасць уваскрасення з мёртвых і жыццё ў замагільным свеце. Стары і Новы запаветы называў казкамі. Сеймавы суд прыгаварыў абезгаловіць і спаліць на кастры К. Лышчынскага. 30 сакавіка 1689 г. на плошчы Старое Мяста ў Варшаве атэіст быў пакараны.

---

[1] Материалы XXVII съезда Коммунистической партии Советского Союза. М., 1986. С. 165.

Згодна з указам 1649 г. цара Аляксея Міхайлавіча, ваяводы павінны былі выяўляць і сурова караць тых людзей, якія «сказки сказывают небывалые и празднословием, и смехотворением, и кощунением души свои губят». Царскія законы прадугледжвалі пакаранне тых, хто высмейваў «Свяшчэннае пісанне» і здзекліва ставіўся да царкоўных абрадаў. У адпаведнасці з 182-м артыкулам «Уложения о наказаниях» такія асобы падлягалі арышту і турэмнаму зняволенню. Царская цэнзура не дазваляла друкаваць антырэлігійныя народныя творы. У спецыяльным «Зборніку пастаноў і распараджэнняў па цэнзуры» былі змешчаны ўрадавыя забароны друкаваць матэрыялы антыцаркоўнага і антыцарскага зместу. Цэнзура строга выконвала гэтыя распараджэнні. Толькі выпадкова і за мяжой іх удавалася апублікаваць.

Зборнік А. М. Афанасьева «Рускія запаветныя казкі» быў надрукаваны ў Жэневе ананімна. А кніга «Народныя рускія легенды», якая выйшла ў свет у 1859 г., была забаронена цэнзурай да 1914 г. Многія творы, змешчаныя ў гэтых выданнях, мелі ярка выражаны антырэлігійны і антыклерыкальны характар. Мітрапаліт Філарэт пісаў обер-пракурору сінода А. П. Талстому, што ў змешчаных А. М. Афанасьевым казках «абражаюцца набожныя пачуцці, маральнасць і прыстойнасць», і патрабаваў знайсці сродкі для аховы рэлігіі ад «друкаванага кашчунства і ганьбавання». Думкі мітрапаліта і обер-пракурора сінода супадалі.

У фундаментальных зборах І. А. Худзякова, Д. М. Садоўнікава, І. І. Манжуры, П. В. Шэйна, У. М. Дабравольскага, Е. Р. Раманава, М. Федароўскага, Б. Д. Грынчанкі, А. К. Сержпутоўскага і іншых фалькларыстаў было надрукавана шмат легенд, казак, анекдотаў, жартаў, апавяданняў з вострай крытыкай духавенства і рэлігіі. У фальклорных творах славянскія народы выказвалі сваё крытычнае стаўленне да рэлігіі, выкрывалі эксплуататарскую сутнасць царквы, з'едліва высмейвалі духавенства. Крытыка рэлігіі ў пэўныя гістарычныя перыяды была цесна звязана з рэвалюцыйным вызваленчым рухам працоўных. «Патрабаванне адмаўлення ад ілюзій аб сваім становішчы ёсць *патрабаванне адмаўлення ад такога становішча, якое мае патрэбу ў ілюзіях*. Крытыка рэлігіі ёсць, такім чынам, *у зародку крытыка той юдалі плачу, свяшчэнным арэолам* якой з'яўляецца рэлігія... Крытыка рэлігіі вызваляе чалавека ад ілюзій, каб ён мысліў, дзейнічаў, будаваў сваю рэчаіснасць як чалавек, які вызваліўся ад ілюзій, які стаў разумным; каб ён варочаўся вакол сябе самога і свайго сапраўднага сонца. Рэлігія ёсць толькі ілюзорнае сонца, якое рухаецца вакол чалавека да таго часу, пакуль ён не пачынае рухацца вакол сябе самога»[2],— падкрэсліваў К. Маркс.

---

[2] К. Маркс и Ф. Энгельс о религии. М., 1955. С. 30.

Як жа ставіліся славянскія народы да царквы і рэлігіі? А. С. Пушкін заўважаў, што ў народзе існуе пагарда да папоў і абыякавасць да рэлігіі.[3]

Адносіны рускага народа да рэлігіі выразна ахарактарызаваў В. Р. Бялінскі ў вядомым пісьме да М. В. Гогаля, у якім вялікі крытык абвяргаў думку аб тым, што рускі народ самы рэлігійны ў свеце. У якасці аднаго з доказаў В. Р. Бялінскі прывёў прыказку, у якой адлюстроўваюцца безуважныя адносіны народа да абразоў: «Годится — молиться, не годится — горшки покрывать», і сцвярджаў, што па характару свайму гэта глыбока атэістычны народ. Аднак В. Р. Бялінскі не лічыў светапогляд рускага народа свядома атэістычным, а прызнаваў наяўнасць у ім шматлікіх забабонаў[4].

Падобную думку аб стаўленні рускага народа да рэлігіі выказваў А. І. Герцэн. Ён таксама грунтаваўся на фальклоры: героем усіх народных непрыстойных песенек, прадметам насмешак лічыў папа, дыякана або іх жонак. Сведчанне абыякавасці рускіх людзей да рэлігіі А. І. Герцэн знаходзіў у прыказках: «Гром не грянет — мужик не перекрестится», «На бога надейся, да сам не плошай»[5].

Узоры каламыек і частушак антырэлігійнага зместу знаходзілі даследчыкі ў фальклорных запісах Т. Р. Шаўчэнкі[6].

Адносіны да рэлігіі беларускага народа характарызавалі як абыякавыя многія этнографы і фалькларысты дарэвалюцыйнага часу. У «Матэрыялах для вывучэння быту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю» (СПб, 1902, т. 3, с. 13) карэспандэнт П. В. Шэйна з Каралеўскай воласці Віцебскага павета А. Ф. Лісоўскі так вызначыў адносіны беларусаў да рэлігіі:

«Адносіны тутэйшага беларуса да рэлігіі вельмі цяжка вызначыць; больш правільна будзе сказаць, што яна яго зусім не цікавіць. У царкву беларусы ходзяць толькі для правядзення часу; хрысцяць дзяцей, вянчаюцца ў царкве толькі таму, што без гэтага нельга, але ўнутраны, духоўны бок рэлігіі, здаецца, іх зусім не цікавіць. У бога вераць, г. зн. вераць, што бог «стварыў свет і ўсіх тварэй і кожнаму даў сваю долю». Долі гэтай ніякім чынам не мінуеш і не зменіш. Але далей пра бога як пра істоту, што злітуецца і карае, яны не маюць ні малейшага разумення. Пра бессмяротнасць душы так выказваюцца: «Ну куды там пойдзеш на той свет? Стухнеш, згнееш у труне — вось і ўсё тут!»

Падобныя вывады аб светапоглядзе беларусаў рабіў таксама І. Сербаў[7].

Такім чынам, яшчэ дарэвалюцыйныя даследчыкі заўважылі,

---

[3] Пушкин А. С. Полн. собр. соч. М.; Л., 1949. Т. 11. С. 17.
[4] Белинский В. Г. Полн. собр. соч. М., 1956. Т. 10. С. 215.
[5] Герцен А. И. Собр. соч.: В 30 т. М., 1955. Т. 6. С. 211.
[6] Лавров Ф. І. Українська народна антирелігійна сатира: Київ, 1965. С. 17
[7] Сербов И. А. Поездки по Полесью 1911 и 1912 гг. Вильна, 1917. С. 33.

што рэлігійная вера глыбока не ўкаранілася ў свядомасць усходнеславянскіх народаў. Але ж і раўнадушнае, абыякавае стаўленне да афіцыйнай рэлігіі — гэта яшчэ не атэізм, які засноўваецца на адмаўленні веры ў існаванне ўсякіх звышнатуральных сіл. Вуснапаэтычная творчасць славянскіх народаў, якая дае багаты матэрыял для даследавання развіцця атэізму, з'яўляецца яркім пацвярджэннем вывадаў аб безуважных адносінах працоўных да хрысціянскай рэлігіі, іх крытычным стаўленні да «Свяшчэннага пісання», царкоўных абрадаў і духавенства. Разам з тым было б няправільна лічыць, што атэізм быў пануючым у светапоглядзе славянскіх народаў у дарэвалюцыйны час. У. І. Ленін яшчэ ў 1902 г. адзначаў і негатыўныя элементы ў светапоглядзе народа, пісаў аб велізарным «распаўсюджанні ў народных масах рэлігійных «заблуджэнняў»[8] і паставіў эвалюцыю светапогляду мас у залежнасць ад пашырэння асветы: «І чым больш будзе распаўсюджвацца асвета ў народзе, чым болей рэлігійныя забабоны будуць выцясняцца сацыялістычнай свядомасцю, тым бліжэй будзе дзень перамогі пралетарыяту...»[9]

У вуснапаэтычнай творчасці адлюстраваліся не толькі стыхійна-матэрыялістычныя погляды народаў, але і іх прымхі, забабоны і ў пэўнай ступені старажытныя вераванні. Аднак гэта не дае падставы для вывадаў, якія рабіў Я. У. Анічкаў аб цеснай сувязі рэлігійнай свядомасці з узнікненнем паэзіі[10]. На яго думку, фальклор глыбока рэлігійны. «Чым глыбей мы ўдумваемся ў які-небудзь помнік народнай паэзіі, тым ясней яго асноўная рэлігійна-бытавая або рытуальна-абрадавая, хатня-гаспадарчая або «міжнародна-палітычная» задумка. Паступова нейкае асобае жыццё, якое нараджае паэзію, адкрываецца перад намі. Асобая жывая вера чыста рускага, своеасаблівага хрысціянства, потым хрысціянска-язычніцкае двухвер'е, потым старое язычніцтва старажытных славян — вось тая тоўшча, праз якую прабіваюцца праменні даследавання помнікаў народнай паэзіі»[11]. В. Я. Гусеў правільна раскрыў сувязь ідэалістычнай канцэпцыі фальклору Я. У. Анічкава з яго фідэізмам і ацаніў яе як рэакцыйную[12]. Гэта яскрава выяўляецца і ў спробах вызначыць паходжанне вуснай народнай творчасці, і ў тлумачэнні яе адносін да рэчаіснасці. Па сутнасці, вытокі фальклору Я. У. Анічкаў выводзіў з рэлігіі, з рэлігійных абрадаў. Няма патрэбы засяроджваць тут вялікую

---

[8] Ленин В. И. Полн. собр. соч. Т. 6. С. 265.
[9] Там жа.
[10] Аничков Е. В. Весенняя обрядовая песня на Западе и у славян. Ч. І. От обряда к песне. СПб, 1903.
[11] История русской литературы / Под ред. Е. В. Аничкова, А. К. Бороздина, Д. Н. Овсянико-Куликовского. М., 1908. Т. І. Вып. 4. С. 14.
[12] Гусев В. Е. Философские труды В. И. Ленина и теоретическое изучение фольклора // Ленинское наследие и изучение фольклора. М.; Л., 1970.

ўвагу на праблеме паходжання вуснай народнай творчасці. Пра гэта нямала ўжо напісана. Скажам толькі, што фальклор сапраўды быў цесна звязаны з народнай абраднасцю і зведаў на сабе ўплыў старажытных вераванняў і хрысціянскай рэлігіі. Але вытокі свае бярэ ён з працэсаў працы, рэлігія ж, у тым ліку і хрысціянская, выкарыстала і фальклорна-этнаграфічныя абрады, і народную паэзію. Зразумела, працэс гэты надзвычай складаны і патрабуе глыбокага асэнсавання, мы ж абмяжуемся толькі гэтым кароткім сцвярджэннем, таму што галоўнай нашай задачай з'яўляецца даследаванне лепшых узораў розных жанраў народнай паэтычнай творчасці.

Востра крытыкавалася ў народзе духавенства. Абумоўлена гэта было перш за ўсё тым, што служыцелі царквы былі такімі ж жорсткімі эксплуататарамі, як памешчыкі і капіталісты. Да секулярызацыі царкоўных і манастырскіх зямель у 1764 г. царква, манастыры і асобныя свяшчэннікі былі буйнымі землеўладальнікамі, якія да скасавання прыгоннага права ў 1861 г. мелі нават прыгонных сялян. Царкоўныя феадалы прымушалі сваіх «братоў у Хрысце» працаваць з усіх сіл на зямлі, якая належала духоўным пастырам. Мітрапаліт Макарый у «Гісторыі рускай царквы» прызнаваў, што сялянам царкоўных і манастырскіх вотчын было значна горш, чым прыгонным сялянам, якія належалі панам: «Сяляне царкоўных вотчын, мітрапаліцкіх і іншых адбывалі, падобна сялянам іншых зямель, усе дзяржаўныя падаткі і павіннасці і пры гэтым не толькі не карысталіся якімі-небудзь ільготамі, наадварот, абкладзены былі нават больш, чым іншыя сяляне»[13]. Сяляне Канстанцінаўскага мітрапаліцкага манастыра скардзіліся мітрапаліту Кіпрыяну на ігумена, які жорстка прыгнятаў іх[14].

Бязлітасная эксплуатацыя прыгонных сялян папамі выклікала таксама скаргі. Сяляне вёскі Стайкі пісалі Магілёўскаму епіскапу, што пратаіярэй Пётр Карбоўскі выкарыстоўваў іх на прыгоне без меры, знясільваў дарэшты і жорстка караў, часам уласнаручна. У выніку гэтага сяляне засталіся без жывёлы і хлеба[15].

Становішча прыгонных сялян царкоўных і манастырскіх зямель адбілася ў народных прыказках: «Манастыршчына горш за паншчыну», «Попу — что сноп, что стог — все равно, все мало»; «Коли б не піп, та не пан, то не був би й мужик голоштан».

Вышэйшае духавенства апраўдвала прыгоннае права, імкнулася даказаць яго законнасць і справядлівасць. Мітрапаліт Філарэт спасылаўся нават на Біблію, каб сцвердзіць «справядлівасць» прыгоннага стану сялян, а ў час падрыхтоўкі рэформы выступаў супраць вызвалення іх з зямлёй і выказаўся

---

[13] Макарий. История русской церкви. СПб, 1903. Т. 11. С. 202—203.
[14] Там жа. 1866. Т. 5. С. 56—57.
[15] Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Мн., 1940. Т. 2. С. 189.

за захаванне цялесных пакаранняў. Паводле сцвярджэнняў «божых служак», прыгнечанае становішча сялян суджана ім самім богам, і толькі ўсявышні здольны палепшыць іх лёс. Але працоўныя з цягам часу пераконваліся, што «да бога высока, а да цара далёка», «к небесам высоко, в реку глубоко, а приходится вертеться, некуда деться», «бог не поможе, як життя негоже», і зразумелі, што не ад бога і яго памазанніка цара варта чакаць паляпшэння жыцця і што ніякія малітвы да ўсявышняга ім не дапамогуць: «Маліся, хоць ты лоб расквась,— усё роўна», «Бог-то бог, да и сам не будь плох», «Богу не молись, а до берега гребись, бо втонеш».

Праваслаўная царква ў царскай Расіі была афіцыяльнай, а праваслаўнае духавенства займала прывілеяванае становішча. З часоў Пятра I на чале царквы стаяў цар. Па сутнасці, царква была дзяржаўнай установай, а духавенства — чыноўнікамі, якія, як іншыя пануючыя класы, мелі розныя прывілеі. Царскія законы ахоўвалі веру ад «багахульства». Духавенства старалася апраўдаць дадзеныя яму прывілеі і заўзята абараняла інтарэсы эксплуататарскага класа, не грэбавала пры гэтым ніякімі сродкамі. У. І. Ленін падкрэсліваў, што ўсе прыгнятаючыя класы, каб захаваць сваё панаванне, маюць патрэбу «ў дзвюх сацыяльных функцыях: у функцыі ката і ў функцыі папа. Кат павінен падаўляць пратэст і абурэнне прыгнечаных. Поп павінен суцяшаць прыгнечаных, маляваць ім перспектывы (гэта асабліва зручна рабіць без парукі за «ажыццявімасць» такіх перспектыў...) змякчэння няшчасцяў і ахвяр пры захаванні класавага панавання, а тым самым прымірадь іх з гэтым панаваннем, адвучваць іх ад рэвалюцыйных дзеянняў, падрываць іх рэвалюцыйны настрой, разбураць іх рэвалюцыйную рашучасць»[16]. Сінод і вышэйшае духавенства патрабавалі ад свяшчэннікаў павучаць прыхаджан, каб яны захоўвалі вернасць цару, падпарадкоўваліся начальнікам, ім пастаўленым. Страх перад нарастаючым рэвалюцыйным рухам штурхаў іх на стварэнне новых форм «выхавання» працоўных мас. У 1902 г. у Маскве была арганізавана камісія рэлігійнай «асветы» рабочых з мэтай адцягнуць іх увагу ад рэвалюцыйнай барацьбы. У час рэлігійных гутарак, арганізаваных камісіяй, прапаведавалася контррэвалюцыйная ідэалогія.

Не толькі пропаведзі, але і розныя рэлігійныя абрады царызм выкарыстоўваў у сваіх мэтах. У адпаведнасці з царскім указам не захоўвалася тайна споведзі. У выніку гэтага было нямала выпадкаў, калі даверлівыя людзі, якія выказвалі ў час споведзі сваю прыхільнасць да рэвалюцыянераў, траплялі ў турму.

Слабасць крытыкі царквы і рэлігіі — вынік класавай абмежаванасці сялян, у якіх у адказ на жорсткі прыгнёт самаўладства накапілася нямала нянавісці і жадання змагацца. І ў

---

[16] Ленин В. И. Полн. собр. соч. Т. 26. С. 237.

той жа час большая частка сялянства не прымала ўдзелу ў рэвалюцыйнай барацьбе, а толькі плакала і малілася, звярталася да ўлад з прашэннямі. Усё гэта неабходна прымаць пад увагу, каб зразумець складанасць шляху сялян да атэізму. З развіццём класавай і палітычнай свядомасці працоўных расла колькасць фальклорных твораў, у якіх крытыка рэлігіі і духавенства станавілася ўсё больш вострай і паслядоўнай. Працоўны народ паступова навучыўся распазнаваць у асобе папа (або ксяндза) свайго эксплуататара. У сувязі з гэтым становіцца зразумелай вастрыня сатыры ў вуснапаэтычных творах усходнеславянскіх народаў, накіраванай супраць духавенства. Антырэлігійныя творы ўзніклі таксама як выказванне нянавісці, якая стагоддзямі збіралася ў сялян да «святых» айцоў за іх крывадушныя пропаведзі аб пакорлівасці і цярплівасці, аб прымірэнні са сваім гаротным становішчам, за ілюзорнае абяцанне вечнага шчасця ў замагільным свеце.

Крытыка прапаведнікаў хрысціянскай рэлігіі была крытыкай самой рэлігіі ў пэўнай ступені ў залежнасці ад ідэйнага зместу твораў. У шматлікіх народных казках, анекдотах, прыказках намаляваны яркія сатырычныя тыпы папа, ксяндза, дыякана і іншых царкоўных служыцеляў. Асабліва выразна выяўляюцца найбольш істотныя іх рысы ў тых творах, у якіх раскрываюцца ўзаемаадносіны папа і яго работніка, батрака, папа і селяніна, яго жонкі. Паказваецца яўная неадпаведнасць паміж пропаведзямі духоўных пастыраў і выкананнем імі самімі «божых» запаведзей.

Неабходна мець на ўвазе, што і пасля секулярызацыі манастырска-царкоўных зямель і нават пасля адмены прыгоннага права царква, манастыры і духавенства засталіся буйнымі землеўладальнікамі. На сотнях тысяч дзесяцін іх зямлі працавалі не архірэі, благачынныя і іншыя служыцелі царквы, а сяляне-беднякі.

Плата за розныя рэлігійныя адправы была непамерным цяжарам для насельніцтва краіны. Вялікі прыбытак мелі царкоўнікі ад збораў з паствы, гандлю культавымі рэчамі, свечкамі. Не шкадавала грошай для служыцеляў культу і царская казна. Даходы Пецярбургскага мітрапаліта дасягалі, напрыклад, 269 тысяч рублёў у год, мітрапалітаў Маскоўскага і Кіеўскага — больш чым па 80 тысяч, а архіепіскапа Наўгародскага — звыш 307 тысяч рублёў[17]. Вышэйшае духавенства купалася ў раскошы, жыло за кошт працоўных, большасць якіх зведвала голад і галечу. Царква вучыла, што ў рай трапіць перш за ўсё бядняк-гаротнік. Чым цяжэй ён будзе жыць на гэтым свеце, тым лягчэй яму будзе трапіць у царства нябеснае. Але само духавенства не адмаўлялася ад багаццяў і добрага жыцця на зямлі. Адсюль зразумела, чаму свяшчэннікі благаслаўлялі ца-

[17] Лукин Н. Революция и церковь. Л.; М., 1925. С. 6—18.

рызм на расправы з рэвалюцыйным народам, на чарнасоценныя пагромы: каб запалохаць людзей і адцягнуць іх увагу ад барацьбы за свабоду. Перадавыя працоўныя зразумелі ролю царкоўнікаў і ў некаторых казках, песнях, прыказках, прыпеўках заклікалі змагацца не толькі з панамі, царскімі чыноўнікамі, купцамі і капіталістамі, але і з папамі, ксяндзамі.

У антыклерыкальных народных творах ярка адлюстраваны антаганістычныя адносіны паміж папом і яго батраком. «У папа пуза таўсцее, а ў батрака спіна млее», «Мужику тошно, а попу в мошну», «Піп ледачий — любить борщ горячий, мужик же голодний — з'їсць і холодний»,— гаварылі сяляне.

У рускіх казках «Хітры мужык і прагны поп», «Батрак», украінскіх «Як гуцул наймаўся ў папа», «Хітры наймiт», беларускіх «Папоўскі парабак», «Поп і работнік» даюцца яркія малюнкі жорсткай эксплуатацыі сялян-батракоў. У востры канфлікт уступаюць поп і яго работнік. У выніку сутычак, якія носяць у асноўным сацыяльны характар, хоць часам праяўляецца гэта ў асабістых канфліктных сітуацыях, звычайна верх бярэ парабак. Напрыклад, у рускай чарадзейнай казцы «Батрак» поп хоча прымусіць работніка збегчы ад яго, каб не заплаціць за працу, як дамаўляліся. Батраку дапамагае дзівосная дудка, пад якую ён вымушае скакаць да знямогі папа, пападдзю. У камічнае становішча трапляе і чорт, якога лёгка ашуквае батрак і забірае восем мяшкоў золата. Не сілай, а кемлівасцю і хітрасцю перамагае работнік і папа, і д'ябла, і цара. Прагны поп спадзяваўся ашукаць беднага гуцула (украінская казка «Як гуцул наймаўся ў папа») і прымусіць яго працаваць на сябе амаль задарам, але пралічыўся і аддаў тры мяшкі пшаніцы дасціпнаму селяніну, які спрытна абхітрыў ганарыстага божага служку пры складанні пагаднення аб умовах працы і аплаты. У беларускай казцы «Папоўскі парабак» адлюстроўваюцца ўмовы працы і жыцця работнікаў папа, якія былі такімі цяжкімі, што ні адзін парабак не вытрымліваў. Два браты папрацавалі ў папа па некалькі дзён, але вымушаны былі адмовіцца. Аднак малодшы брат, якога ў казцы называюць дурным, у сутычках з папом бярэ верх. Прагны поп, каб менш траціцца на ежу парабку, у час вячэры прымушаў батрака выводзіць на двор сваіх дзяцей, загадваў выходзіць на працу, калі закукуе зязюля, а замест зязюлі пасадзіў кукаваць за печ маці, спрабаваў утапіць яго. Парабак жа спрытна выкарыстаў сваю ўяўную дурасць і прычыніў нямала бед і непрыемнасцей бацюшку пры выкананні яго загадаў. Камізм становішча папа заключаецца ў дакладным выкананні селянінам яго патрабаванняў. Загадаў, напрыклад, поп зарэзаць тую аўцу, якая паглядзіць на парабка, а ён парэзаў усіх: усе паглядзелі на яго. Загадала пападдзя ўкінуць у гаршкі з баранінай пятрушкі — работнік зарэзаў сабачку Пятрушку і кавалкамі сабачага мяса «аздобіў» страву. У дурнях застаецца поп.

Усходнеславянскія казкі даюць сатырычны тып папа-эксплуататара, які са сваёй адукацыяй інтэлектуальна ўступае простаму, але мудраму і кемліваму селяніну. З'едліва высмейваюць паразітызм і прагнасць папа прыказкі, прымаўкі і загадкі: «Никто, братья, не знает натуру попову: он три слова скажет — и давай корову», «Поповское брюхо из семи овчин сшито», «У попа глаза завидущи, а руки загребущи», «Нема нікому так добре на світі, як попові та котові — обидва лежат та хліб дурно ідять», «У владики брюхо велике», «Піп — це небесний птах, що не сіє, не жне, а з дурнів годується», «Ад таго поп і гладак, што наеўся дый набак», «Мядзведзь не мядзведзь, а пчол абдзірае». У народных творах духавенства надзялялася такімі ж рысамі, як і простыя людзі.

Духоўныя пастыры павучалі прыхаджан: «Не крыўдзі бліжняга твайго і не грабежнічай», «Любі бліжняга твайго, як самога сябе». Гэтыя біблейскія запаведзі выдаваліся за «божыя» словы. У вуснапаэтычных творах, асабліва ў празаічных жанрах, паказваецца сапраўдны твар царкоўных служак. «Поп любіў дармавых работнікаў і з імі дамаўляўся так: калі ты раззлаваўся, то ідзеш у мяне без платы»,— гаворыцца ў рускай казцы «Поп і работнік». «Жыў поп прагны. Чым больш давай яму, тым больш просіць» — так пачынаецца руская казка «Як каваль папа правучыў». Падобным чынам характарызуецца поп ва ўкраінскай казцы «Камусьці капаў яму, а сам трапіў»: «Жыў сабе поп, ды такі скупы, што й не сказаць. Гаспадарства ў яго было вялікае, а самому рабіць не хацелася. І от задумаў ён наняць найміта, ды каб танней». Поп марыў не толькі менш заплаціць парабку, а прымусіць працаваць дарма і нават хацеў адрэзаць яму язык, гаворыцца ў казцы. За дармавую працу поп згодзен быў пайсці на рызыку: паводле дамоўленасці і сам мог страціць язык. Так і здарылася. Больш таго, парабак абхітрыў яго — поп сам топіць пападдзю. «Капаў камусьці яму, а сам і папаўся»,— падводзіцца вынік. У беларускай казцы «Валачашчыся парабак, ці служачы хлеб сабачы» поп ставіцца ў адзін рад з панам, жыццё ў якога падаецца рэалістычнымі фарбамі: «Служыць ён пану верна, шчыра працуе, а пан частуе яго кожны дзень: «Гультай, пся крэў! Немаш табе лозы!» Ведама ж, праўду кажуць людзі, што служы пану верна, а ён табе... у пана ласка па парог». Падобны малюнак даецца і ў казцы аб адносінах да парабка скупога і завіднага папа, які прымушаў работніка ўставаць да світання, працаваць з усіх сіл, але дагадзіць не здолеў. Надаела парабку амаль дарма рабіць папу, і ён «бунтуе», вымушае заплаціць за працу ўперад. Важна, што ў казцы і паны і папы характарызуюцца аднолькава: яны імкнуцца выціснуць усе сілы з парабкаў. Адзінства інтарэсаў эксплуататараў выразна адлюстроўваецца ў прыказках: «Купец торгом, поп горлом, мужик горбом», «Попівські очі, а панська кишеня», «Пан

скуру здзірае, а поп душу вымае», «Дзе поп царкву ставіць, там пан карчму ладзіць».

Вострай антыклерыкальнай накіраванасцю вызначаюцца анекдоты. Як і ў казках, у іх выразна выяўляецца сацыяльная несправядлівасць. У рускім анекдоце «Поп і батрак» і беларускім «Папоўскі полудзень»[18] расказваецца, як поп з работнікам грэблі сена. Здавалася б, што ў творах адзначаецца аднолькавасць становішча: абодва працуюць. Аднак невялікая, але значная для ідэйнага зместу дэталь падкрэслівае іх сацыяльную няроўнасць: папу прынеслі на абед бутэльку малака, а работніку — бутэльку вады. Дзякуючы гэтай дэталі анекдот набывае выразную сацыяльную накіраванасць. Батрак своеасабліва правучыў папа пасля абеду: пачаў грэбці сена ў рэчку. «Што ты робіш, разбойнік? Куды грабеш?— залемантаваў поп.— Вы, бацюшка, грабяцё сваёй кароўцы, а я — сваёй, каб і мне малако давала,— адказаў батрак»[19].

З'едліва крытыкуе народ прагнасць царкоўнікаў да грошай: «Карман сух, так и поп глух», «Попу да вору дай хоть золота гору, им все мало», «Піп — дерун: дере і з живого, і з мертвого», «Люди в церкві думають за гріхи, а піп за гроші», «Радзіся, жаніся і памірай, а ўсё папу грошы дай», «Бездань, як папова кішэнь: што ні кладзі — назад не вернеш». Творы аб паборах духавенства за рэлігійныя адправы, як і ўсе іншыя антыпапоўскія, складзеныя народам, грунтуюцца на жыццёвых фактах. У архівах захоўваецца нямала матэрыялаў аб вымаганнях папамі непамернай платы за хрышчэнне дзяцей, вянчанне, адпяванне памёршых. У шырока вядомай славянскім народам казцы «Пахаванне сабакі (казла)» (сюжэтны тып 1842) поп адмаўляецца пахаваць дзіця беднага селяніна, у якога няма чым заплаціць за адпяванне, але ахвотна згаджаецца пахаваць сабаку, які нібы пакінуў папу (і архірэю — у радзе варыянтаў) шмат грошай. Такім чынам, важнейшыя характэрныя рысы служыцеляў праваслаўнай і каталіцкай царквы негатыўна абмалёўваюцца ў вуснапаэтычных творах усіх усходнеславянскіх народаў.

З'едліва высмейваюцца ў славянскім фальклоры манахі, іх «праведнае» жыццё, далёка не бязгрэшныя паводзіны. У казцы «Бесклапотны манастыр» (сюжэтны тып 922) Пятру I ігумен гаворыць, што ў манастыры няма ні работы, ні клопату: раніцай манахі падымуцца, чаю пап'юць, пойдуць у царкву, крыху памоляцца, паснедаюць, зноў крыху памоляцца — і так увесь дзень то ядзяць, то моляцца. Калі ж цар дае «работу»— рашыць тры задачы за ноч,— ігумен іх не «асіліў», і за яго рашае мельнік.

---

[18] Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі. Мн., 1939. С. 25.

[19] Русское народно-поэтическое творчество против церкви и религии/Сост. А. В. Домановского и Н. В. Новикова. М.; Л., 1961. С. 213.

Аб непрыязных адносінах сялян да манахаў сведчаць і народныя прыказкі: «Монастырщина, что барщина», «Не земля монастырь кормит, а мужичок», «Не будь такой, как монах святой», «Ченці і бога в монастирях продають», «Коли ігумен за чарку, то братія за ковші», «Калі б у манастыры дровы рубалі, туды б не ўцякалі», «Манах бяжыць ад работы, як чорт ад крыжа».

Каб больш выразна паказаць негатыўныя рысы духавенства, у народных творах шырока выкарыстоўваецца прыём антытэзы: бяздзейнасці і гультайству белага і чорнага духавенства procіпастаўляецца працавітасць сялян, іх здольнасць выканаць самую цяжкую і складаную работу.

Востра высмейваецца ў народных творах вышэйшае духавенства. У казках «Ці бачыў архірэй душу чалавека», «Чорт і пастух», «Пахаванне казла» і іншых архірэй, каб пазбегнуць выкрыцця самога сябе, за вялікі хабар ідзе на любы грэх (пасылае папом непісьменнага чалавека, танцуе пад дудку, адпявае казла і г. д.).

У фальклорных творах увасабляюцца антыклерыкальныя ідэі, якія з'явіліся вынікам шматгадовых назіранняў і вялікага практычнага вопыту. Гэтым і абумоўліваецца ўзнікненне тыповага боскага служкі ў шматлікіх казках і анекдотах, песнях і прыпеўках, прыказках і прымаўках. Вобраз папа часам даводзіцца да гратэску, падкрэсліваецца яго прагнасць як найбольш характэрная рыса царкоўных служыцеляў. У беларускай казцы, запісанай Ч. Пяткевічам[20], гэта рыса выяўляецца ў раскрыцці адносін папа да грошай: пабачыў бацюшка кучку сярэбраных рублёў, якія палажыў селянін, каб за іх поп пахаваў сучку, і «паповы вочы загарэліся полымем». Прагнасць перамагла ўсведамленне і таго, што за такія справы і «астрогам пахне». Такім жа прагным паказваецца ў гэтай казцы і архірэй, да якога селянін звярнуўся з просьбай пастрыгчы казла і даць яму імя айцец Іван. Спачатку раскрычаўся архірэй, аблаяў мужыка, але «хоць і архірэй, да ўсё ж такі паповае вока: як пачуў, што рублі звоняць, хаваючыся ў кішэнях», згадзіўся зрабіць казла айцом Іванам! Так зрываецца маска святасці са служыцеляў культу, якія выкарыстоўваюць для сваіх карыслівых мэт царкоўную службу, нават «Свяшчэннае пісанне». Дзякуючы такому выкрыццю народныя творы набываюць выразны антырэлігійны сэнс. Важна падкрэсліць, што прагнасць выступае ў шматлікіх казках і анекдотах той сілай, якая штурхае папа на розныя заганныя ўчынкі, нават на злачынства. Але яго махінацыі звычайна канчаюцца няўдачай. Думаў, напрыклад, поп ашукаць бедняка і адабраць ад яго апошнюю карову, далучыць яе да свайго статка, а ашукаў самога сябе: яго статак апынуўся ў хляве селяні-

[20] Pietkiewicz Cz. Kultura duchowa Polesia Rzeczyckiego. Warszawa, 1938. S. 180.

на (сюжэтны тып 1735). Падмануў поп селяніна і забраў у яго чарадзейныя жорны і залатую козку, але нядоўга карыстаўся імі: малайцы з чарадзейнай торбы так правучылі, што аддаў ён назад і жорны і козку[21]. Цікава, што народ лічыць гэту рысу папа вынікам божага закляцця. У легендзе «Бог і поп» усявышні пераканаўся ў бязмежнай скнарнасці свайго служкі і благаславіў яго на паборы: «Будзеш ты браць і з жывога і з мёртвага, і з беднага і з багатага, і ўсё табе мала будзець» [22]. Тут гучыць народны папрок богу, які наслаў як бяду на чалавецтва прагнасць папа, і ні бог, ні святыя не маюць сілы пазбавіць яго ад гэтай заганы.

Творы, прысвечаныя выкрыццю карыслівасці царкоўнікаў, якія служаць «не для Ісуса, а для хлеба куса», мелі не толькі антыклерыкальнае, але і антырэлігійнае значэнне, перш за ўсё таму, што ў працоўных узнікала сумненне ў шчырасці веры духоўных пастыраў.

Надзвычайнай папулярнасцю карысталіся ў славянскіх народаў творы пра амаральныя паводзіны свяшчэннаслужыцеляў. Сацыяльна-эканамічныя супярэчнасці паміж працоўнымі сялянамі і духавенствам, якое жыло за кошт працы сялян, класавая нянавісць абумоўлівалі згушчэнне фарб, мастацкую гіпербалізацыю пры абмалёўцы вобразаў царкоўнікаў. Народ бачыў супярэчнасці ў словах і паводзінах духоўных пастыраў, якія заклікалі людзей выконваць божыя запаведзі, у тым ліку і запаведзь «не пралюбадзейнічай», а самі іх часта забывалі, аб чым сведчаць шматлікія дакументы і матэрыялы. Нават мітрапаліт Макарый у «Гісторыі рускай царквы» пісаў, што п'янства і распуста былі галоўнымі заганамі духавенства на працягу ўсёй гісторыі царквы[23]. Народныя творы грунтаваліся на рэальнай аснове.

Вельмі пашыранымі былі казкі і анекдоты пра распуснага папа, якога селянін застае ў сваёй жонкі. «Божы» служка трапляе ў кадушку з пер'ем, дзёгцем, смалой або сажай. Селянін выдае папа за чорта, а за паказ бярэ вялікія грошы (сюжэтны тып 1725). Камічны эфект у казках гэтага тыпу ўзмацняецца камічнымі дэталямі: поп усхопліваецца з пасцелі без портак і бегае па хаце, не ведаючы, куды схавацца. Больш таго: поп у адной сарочцы, выкачаны ў пер'е, выстаўляецца на публічнае асмяянне — з яго смяюцца велізарны натоўп людзей, якія з'ехаліся на кірмаш, або паны. Камічныя дэталі маюць сацыяльную значнасць. Яны дапамагаюць больш ярка раскрыць сутнасць тыпу, у якім увасоблены найбольш істотныя рысы і якасці духавенства.

Шматлікія народныя творы паказвалі царкоўных служы-

---

[21] Добровольский В. Н. Смоленский этнографический сборник. СПб, 1891. Ч. 1. С. 585—590.
[22] Романов Е. Р. Белорусский сборник. Витебск, 1891. Вып. 4. С. 214—215.
[23] Макарий. История русской церкви. СПб, 1887. Т. 6. Кн. 1. С. 123.

целяў п'яніцамі і нячыстымі на руку. У некаторых казках гэтыя заганы праяўляюцца ў служыцеляў кліру адначасова і ўзаемазвязана. У рускай казцы «Поп і дыякан», украінскай «Дзяк-злодзей і поп-варажбіт» і беларускай «Казцы пра папа і дзяка» царкоўнікі — аматары крадзяжу. Найбольш востра высмейваюцца яны ў беларускай і ўкраінскай казках, дзе прычынай крадзяжу паказана жаданне п'янстваваць: «Хочацца ім піць, да німа за што»[24]. І дадумаліся яны, што адзін будзе красці, а другі адгадваць і, такім чынам, «будзе з чаго выпіць». Аб вялікай папулярнасці гэтай казкі сведчыць той факт, што яе варыянты былі змешчаны П. В. Шэйнам, У. М. Дабравольскім, М. Федароўскім і іншымі фалькларыстамі. У адрозненне ад іншых казак тут намеры царкоўнаслужыцеляў здзяйсняюцца, яны надзяляюцца дастатковым спрытам для крадзяжу і ашуканства. Цікава, што поп, які двойчы выпадкова адгадаў, дзе знаходзіцца не імі ўкрадзенае, ва ўкраінскай казцы знаходзіць выйсце: каб больш не варажыць, ён па парадзе дзяка спальвае хату і ў хаце ўсе кнігі, з дапамогай якіх ён нібы адгадваў[25].

Гэтыя казкі наносяць адчувальны ўдар і па знахарству. Малюнкі, у якіх паказваецца, як поп «адгадваў» месца знаходжання ўкрадзенага, удала выкрываюць махінатарскую аснову ўсякага чарадзейства. У прыпісванні папу ролі знахара, які робіць выгляд, што выкарыстоўвае ў час сваёй варажбы «свяшчэнныя» кнігі, відаць імкненне не толькі выкрыць ашуканства царкоўнікаў, але і пасеяць сумненне ў ісціннай святасці рэлігійных кніг.

Аднак не заўсёды папу і дзяку ўдаецца ашукаць сялян. Існуе нямала твораў, у якіх іх спробы ўкрасці канчаюцца няўдачай. Звычайна дзяк паведамляе аб гэтым папу ў час малебна. Малебен ператвараецца ў трапную сатырычную пародыю.

У многіх усходнеславянскіх народных казках, анекдотах, песнях і прыказках духоўным пастырам проціпастаўляецца кемлівы і дасціпны селянін, выразна выяўляецца аптымістычны настрой працоўных мас, усведамленне імі пачуцця ўласнай годнасці, іх вера ў светлую будучыню, у магчымасць свайго вызвалення ад усякага прыгнёту.

Найбольш ярка непрывабнае аблічча папа і станоўчыя якасці селяніна раскрываюцца ў паказе іх сутыкненняў. Поп, у якога прагнасць зацямняе розум, імкнецца ашукаць прыхаджаніна. Спачатку яму гэта ўдаецца. Але селянін толькі прыкідваецца недалёкім, дурнаватым, на самай справе ён разумней

---

[24] Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. СПб, 1902. Т. 2. С. 213—217.

[25] Биля райських воріт: Збірник атеїстичного фольклору українського населения Карпат / Упоряд. І. М. Сенька. Ужгород, 1980. С. 190—193.

за свайго пастыра, і яму лёгка ўдаецца адпомсціць ашуканцу. Мужык, напрыклад, пераконвае боскіх служак, што яго каўпак чарадзейны, і прадае ім па надзвычай высокай цане. Яны паверылі таксама ў цудадзейнасць звычайнай палкі і купілі яе ў селяніна за вялікія грошы (казка «Як поп ашукаў Тараса аднойчы, а Тарас яго двойчы»[26]). Папы трацяць разуменне звычайных абставін, вераць у звышнатуральныя сілы, сяляне трапна выкарыстоўваюць веру царкоўнікаў, каб пасмяяцца з іх. Аб'ектам кпінаў спрытных жартаўнікоў яны становяцца ў многіх славянскіх фальклорных творах. У казцы «Шут Шуткін, як ён папа, мужыкоў і пана ашукаў»[27] насмешнік утапіў у балоце папоўскага каня, адрэзаў яму галаву і так спрытна накпіў з бацюшкі, што той палічыў вінаватым ва ўсім сябе.

Паводзіны святчэннікаў паказваюцца часам гратэскна. У анекдоце «Як поп цяліўся» царкоўны служка верыць, што ён цяжарны і што цяля, якое выпадкова палажылі да яго на печ, было народжана ім. Гіпербалізуюцца яго негатыўныя рысы і ў анекдоце «Ці была ў папа галава». Нават пападдзя не можа ўспомніць, ці браў поп з сабой галаву, калі пайшоў з хаты.

Востра крытыкуюць славянскія народы, асабліва ўкраінскі і беларускі, каталіцкае духавенства, у якім яны бачылі не толькі боскага служку, але і абаронцу, прапаведніка, захопніцкай палітыкі кіруючых шляхецка-каталіцкіх колаў Польшчы.

У народных творах выкрываюцца тыя ж заганы, якія былі аднолькава характэрны і праваслаўнаму і каталіцкаму духавенству. Гультайства ксяндзоў з'едліва крытыкуецца ў казцы «Аб тым, як ксяндзы вылечыліся», дзе малююцца тыпы «гладкіх, атылых ксяндзоў», якія «растаўсцелі, як вепрукі», што спатрэбілася ехаць на воды, каб «зняць лой». Але нечакана замест курорта яны апынуліся на бровары і зведалі на сабе такія ж здзекі, як і іншыя рабочыя, паспыталі бізуна. Паднявольная праца як сродак лячэння ад гультайства і абжорства дапамагла ксяндзам так схуднець, што іх нельга было пазнаць. Адпала патрэба і ў паездцы на воды. У гэтай казцы адлюстраваны мары працоўнага народа аб пакаранні эксплуататараў.

Небездакорны спосаб жыцця каталіцкіх свяшчэннаслужыцеляў, іх бесчалавечныя адносіны да слуг адлюстраваліся таксама ў прыказках і прымаўках: «На пацеры ксёндз дагадаецца, але працаваць не збіраецца», «Я ксяндзоўскі слуга, сагнуўся, як дуга: як жа мне не сагнуцца, калі нечым апрануцца». Народ крытыкуе ілжывасць і ханжаства каталіцкіх свя-

[26] Добровольский В. Н. Смоленский этнографический сборник. Ч. 1. С. 693—696.

[27] Там жа. С. 681—690.

тош. Асаблівай вастрыні крытыка дасягае ў творах, у якіх выкрываецца амаральнасць ксяндзоў і манахаў. Абумоўліваецца гэта тым, што каталіцкія свяшчэннаслужыцелі, нягледзячы на ўведзены ў XI ст. цэлібат і на свае заклікі да аскетызму і адмаўлення ад людскога шчасця, ніколі не былі ўзорам устрымання і цноты. Нават пáпы распуснічалі не горш за ксяндзоў. Напрыклад, папа Іаан XII «ператварыў Лацеранскі палац у публічны дом»[28], а папа Аляксандр VI жыў у кровазмяшэнні са сваёй дачкой Лукрэцыяй Борджа[29]. Народ трапным сатырычным словам выкрываў распуснасць каталіцкіх свяшчэннікаў, у многіх казках і анекдотах яны церпяць ганьбу і здзекі сялян, якія застаюць іх у жонак. А ў анекдоце «Споведзь шляхціца» выразна раскрываецца аблічча каталіцкіх манахаў. У час споведзі шляхціц прызнаўся бернардыну ў граху: цалаваў чужую жонку. Але апраўдваўся тым, што яму параілі гэта зрабіць для лячэння вачэй. Бернардын сказаў, каб ён не верыў парадам: калі б гэта была праўда, ён ужо праз сцяну бачыў бы.

Ганьбуюцца ксяндзы і ў прыказках: «Чоткі на руцэ, а дзеўкі на ўме», «Чарнец пацеркі раскрывае, але на маладзіц паглядае», «Ксёндз кажа — падай, божа, што высока, а што нізка, дык я сам вазьму».

Такім чынам, крытыка каталіцызму і яго прапаведнікаў была не менш вострай і разнабаковай, чым крытыка праваслаўнага духавенства.

На ідэйнай якасці фальклорных твораў, у тым ліку антыклерыкальных казак, анекдотаў, прыказак, адбіліся і станоўчыя і слабыя бакі светапогляду сялян. У гэтых творах ярка паказана непрымірымая нянавісць сялян да прыгнятальнікаў паноў і папоў. Разам з тым тут адлюстравалася неразуменне сялянамі шляхоў барацьбы за вызваленне, недастатковае ўсведамленне імі сутнасці класавых узаемаадносін, задач рэвалюцыйнай барацьбы. У адпаведнасці са спецыфікай вуснапаэтычнай творчасці сацыяльныя тыпы, створаныя народам, з'яўляюцца надзвычай абагульненымі, што, аднак, не пазбаўляе іх жыццёвай сілы: абагульняюцца і выпукляюцца найбольш характэрныя рысы той або іншай сацыяльнай групы ў пэўным вобразе. Жыццёвасць персанажаў дасягаецца майстэрскім выкарыстаннем багатага арсенала мастацкіх выяўленчых сродкаў. Ні казка, ні тым больш анекдот не даюць разгорнутых партрэтаў папоў, ксяндзоў, дыякана, дзяка. Між тым воблікі іх паўстаюць дастаткова акрэслена: некалькі трапных «штрыхоў» — і партрэт персанажа выразна паўстае ва ўяўленні слухачоў. Часам гэтыя характарыстычныя дэталі-штрыхі даюцца ў розных месцах твора, кожная наступная дэталь дапаўняе папярэднія. Удала выкарыстоўваюцца параўнанні і эпітэты.

---

[28] Лозинский С. Г. История папства. М., 1934. Т. 1. С. 43.
[29] Бебель А. Христианство и социализм. М., 1959. С. 25.

Напрыклад, каб вылучыць адну з важнейшых рыс папа або ксяндза, у прыватнасці іх распуснасць, гультайства, ужываецца параўнанне: поп прыстае да жанчын, «бы шаўцоўская смала»; ксяндзы «растаўсцелі, як адкормленыя вепрукі».

Эпітэты выкарыстоўваюцца і ў партрэтных замалёўках вобраза, і пры адлюстраванні асноўных рыс характару персанажаў, пры гэтым эпітэт нярэдка адлюстроўвае адносіны сялян да духавенства. Эпітэт «кудлаты» («касматы, калтунаваты разяўрот»), напрыклад, характарызуе не толькі знешні выгляд папа, але і выражае стаўленне да яго сялян; эпітэт «ласы» да грошай вызначае яго прагнасць, таксама: жаднючы, прагны, скупы, скупендзя. Асабліва часта ўжываецца прыём перабольшвання і завастрэння той або іншай рысы папа, каб лепш акцэнтаваць на ёй увагу слухачоў. Прыём гіпербалізацыі сілы чалавека выкарыстоўваецца пры характарыстыцы папоўскага работніка: ён адным штуршком забівае каня, ловіць мядзведзя, перамагае чорта і інш. Важна адзначыць, што калі ў вобразе папа завострана паказваюцца адмоўныя рысы, то ў вобразе работніка, наадварот, станоўчыя. Дзякуючы гэтаму больш ярка і акрэслена адлюстроўваюцца тыповыя рысы адпаведных сацыяльных груп, іх узаемаадносіны, стаўленне да іх народа.

Своеасабліва самахарактарызуюцца прадстаўнікі духавенства праз гаворку, мову. Поп часта прыкідваецца дабрадзеем працоўных і таму звяртаецца да селяніна з ліслівымі словамі: «дзіця маё», «дзеткі», «душа», «свет». Але найбольшую ролю ў самараскрыцці персанажаў адыгрываюць дыялогі. Напрыклад, у казцы «Пахаванне казла» дыялог — важнейшы сродак выкрыцця прагнасці, ханжаства і крывадушнасці архірэя, папа, дыякана.

Смех антырэлігійных і антыклерыкальных твораў меў асобае значэнне, таму што быў накіраваны супраць тых асноў, якія аб'яўляліся свяшчэннымі, і разбураў іх свяшчэннасць.

Крытыка духавенства нярэдка спалучалася з выкрыццём далёка не высакароднай ролі царквы і рэлігіі ў грамадстве, што асабліва ярка праяўлялася ў творах, у якіх адлюстравалася стаўленне народа да царкоўных малебнаў, абрадаў.

Эксплуататарская сутнасць царквы дасціпна выкрываецца ў прыказках: «Селянін толькі і чуе дай: богу на свечкі, цару на падаткі, ксяндзу на аплаткі», «Адной малітвай грахоў не адбудзеш: заграбі хлеба капу і цягні папу», «Дерет коза лозу, а волк козу, а мужик волка, а поп мужика», «Благослови, владыко, драть с бедного лыко», «І попи, і пані — одного поля бур'яни», «Богові поклони, а попам мільйони» і інш.

У некаторых народных творах выказваецца пратэст супраць імкнення асвяціць і апраўдаць імем бога здзекі аднаго чалавека з другога. У іх выявілася ўзросшая свядомасць працоў-

нага чалавека, які не прыміраецца са сваім паднявольным становішчам, пратэстуе супраць сацыяльнай несправядлівасці і спроб царкоўнікаў апраўдаць яе. Аднак у дарэвалюцыйны час працоўныя не ўзняліся да выражэння сапраўднага паслядоўнага атэізму, заснаванага на навукова-матэрыялістычным светаразуменні. Крытычнае стаўленне да веры ў бога і святых нярэдка спалучалася з прызнаннем існавання таямнічых істот са звышнатуральнай сілай. У радзе фальклорных твораў адлюстраваўся светапогляд адсталай часткі сялян, неразуменне імі сапраўднай сутнасці ідэі добрага «божанькі», усемагутнага, літасцівага і справядлівага, як гаварылі царкоўнікі.

Матэрыялістычны светапогляд працоўных быў стыхійны, ён вынікаў з жыццёвага вопыту тагачасных людзей, якія з прычыны сацыяльнага і духоўнага прыгнёту і амаль суцэльнай непісьменнасці не здолелі стаць паслядоўнымі атэістамі. Фальклорныя творы, галоўнымі персанажамі якіх былі бог і святыя апосталы, былі менш распаўсюджанымі, але і яны адыгралі станоўчую ролю ў вызваленні працоўных ад рэлігійнага ўплыву.

У вуснапаэтычных творах адлюстравалася крытычнае стаўленне працоўных да царкоўных догматаў, біблейскіх міфаў. Царкоўнаму вучэнню аб усёмагутнасці, ўсёведнасці, літасцівасці, справядлівасці і святасці бога, апосталаў славянскія народы супрацьпаставілі творы, якія развенчваюць царкоўныя ідэалы. Ідэал «справядлівага» бога з'едліва высмейваецца ў легендзе, надрукаванай М. Федароўскім. Бедны селянін зварыў сабе страву, пераліў яе ў збаночак і пайшоў у свет шукаць справядлівага чалавека, з якім можна было б падзяліцца абедам. Сустракае ён бога, які прапануе паабедаць з ім. Але селянін не згаджаецца і гаворыць яму:

— Э, калі ты бог, то я не буду з табою ў паляруша есці: які ты справядлівы, калі адзін аж надта многа мае, а другі з голаду здыхае!

Не лепш характарызуе селянін і сына божага:

— Э, такія вы ўсе справядлівыя: які бацька, такі і сын — увесь род ваш гэтакі[30].

Як відаць, у легендзе выяўляецца не толькі нявер'е ў ідэал бога, створаны царквой, але і ўсведамленне працоўнымі несправядлівасці існуючага ладу. У «Апавяданні аб тым, як салдат правучыў смерць» бог загадаў смерці тры гады знішчаць людзей сярэдняга ўзросту, потым — малых дзяцей. Толькі салдат выратоўваў людзей, загадваючы смерці знішчаць не людзей, а дрэвы. Бог пакараў салдата: прымусіў яго тры гады насіць на сваіх плячах смерць, каб яна марыла народ. Але салдат і тут абхітрыў смерць: засадзіў яе ў табакерку. Процістаўленне ў легендзе простага чалавека «літасціваму» богу

[30] Federowski M. Lud białoruski. Krakow, 1903. T. 2. S. 133—134.

не ў карысць усявышняга. Гуманнасць і самаахвярнасць, кемлівасць і знаходлівасць салдата, помслівасць і бязлітасная жорсткасць бога — вось рысы, якія падкрэсліваюцца ў легендзе пры гэтым супрацьпастаўленні. Праціпастаўленне гэтых рыс пераканаўча абвяргае сцвярджэнні царкоўнікаў пра гуманнасць бога.

У легендзе «Як бог смерць па маці ад дзяцей пасылаў»[31] нават смерць больш літасцівая, чым бог: яна пашкадавала дзяцей і не брала ад іх маці, колькі бог ні пасылаў за ёю. Няўмольную смерць здолелі расчуліць і ўпрасіць нават дзеці, бога ж не ўпросіш, сцвярджаецца ў легендзе. Бог карае анёла, які таксама шкадуе дзяцей, і выганяе яго з царства нябеснага ў зямное, адбірае крыллі[32]. Распаўсюджванне такіх легенд было вынікам разбурэння ілюзій пра добрага бога, на дапамогу якога разлічваў працоўны чалавек ва ўмовах жорсткага прыгнёту. Горкі жыццёвы вопыт паступова пазбаўляў надзей на божую літасць. Ва ўяўленні селяніна-бедняка бог паўставаў ужо ў іншым абліччы — не носьбітам дабра і справядлівасці, а сейбітам гора і бяды, абаронцам інтарэсаў пануючых класаў. Да яго не было добрых пачуццяў, а, наадварот, толькі нянавісць. Прыказкі: «Няхай тое чорт з'есць, што бог дасць», «Голенький — «ох», а по голеньким бьет бог» — і ўзніклі ў выніку расчаравання веруючых у бога.

У многіх творах бог надзяляецца такімі адмоўнымі людскімі рысамі, якія развенчваюць уяўленні аб яго ідэальнасці, святасці, усёмагутнасці. Бог — авантурыст і махляр: ён імкнецца адабраць ад беднага селяніна жарабя, за хабар «пераконвае» суддзяў, што жарабя нарадзілася не кабылай селяніна, а божым калочкам («Бог і мужык»[33]); ён ашуканец, спрыяе прыгнятальнікам: «І бог ашуканствам жыве, у аднаго адбярэ, а другому дасць», «За тем боже, кто кого переможе», «Бог не поможе, як життя негоже»; вучыць ашуканству людзей — дае параду селяніну Несцерку, як яму жыць: «Няхай круціць ды матае і душу пітае» (казка «Несцерка»). Важна адзначыць, што тут паказваецца вынік божага павучання: шляхам ашуканства нажываюцца багацці. Стваральнікі гэтых казак блізка падышлі да разумення таго, што існаваўшы ў той час эксплуататарскі лад заснаваны на сацыяльнай несправядлівасці, класавай няроўнасці. Раскрываецца тут негатыўная роля рэлігіі, якая асвячае божым імем ашуканства аднаго чалавека другім.

Бяссільным і не ўсёведаючым паказваецца Ісус Хрыстос. У рускай казцы «Разбагацеўшы мужык і жабракі» заможны селянін дае Ісусу Хрысту і архангелу Гаўрылу аб'едкі ад сваёй вячэры, а раніцай кліча іх на працу і лупцуе Ісуса Хрыста,

---

[31] Federowski M. Lud białoruski. T. 2. S. 272.
[32] Добровольский В. Н. Смоленский этнографический сборник. Ч. I. С. 323—325.
[33] Романов Е. Р. Белорусский сборник. Вып. 4. С. 23—24.

які ляжаў з краю. Калі ж яны не пайшлі працаваць, ён зноў б'е Ісуса Хрыста, які памяняўся з архангелам месцамі. Сын божы, пра якога ў Евангеллі гаворыцца, што ён быў пракрокам, ведаў аб будучых падзеях, тут не толькі нічога не мог прадбачыць, але і паўстаў бяссільным, бездапаможным. У рускай казцы «Чаму бог памёр» селянін расказвае сваму земляку, што бог памёр са злосці, бо ніхто яму не падпарадкуецца і яго ўгоднікі таксама.

Шматлікімі чалавечымі заганамі надзяляюцца ў вуснапаэтычных творах святыя Мікола, Пятро, Павел, Ілья і інш. Божыя абраннікі паказваюцца ганарыстымі, помслівымі, злапамятнымі, карыслівымі, п'яніцамі, зладзеямі, ашуканцамі і крывадушнікамі. Ганарысты Ягоры жорстка помсціць селяніну толькі за тое, што апошні палічыў яго дапамогу менш важнай, чым Міколы (легенда «Аб святым Міколе і Ягор'і»[34]). Такім жа помслівым паказваецца і Мікола, які крыўдзіцца на селяніна за тое, што назваў лепшым каня Юр'я[35]. Глухі Ілья пасылае дождж не туды, дзе пыл, а туды, дзе быў («Пра Ілью»[36]). Народ сатырык з вялікім майстэрствам развянчаў арэол святасці і іншых божых угоднікаў. Найбольшае згушчэнне фарбаў відаць у абмалёўцы Ілы і Паўла-Пятра. У сутыкненнях з сялянамі яны аж трасуцца ад злосці, калі тыя скажуць не так, як ім хацелася б, праклінаюць іх. Святыя паказваюцца слабейшымі за звычайных людзей, ад якіх у час сутычак ім добра дастаецца.

Сярод твораў, у якіх выказана крытычнае стаўленне да біблейскага бога і святых угоднікаў, найбольшае месца займаюць легенды. У адрозненне ад чарадзейных казак у іх звычайна адсутнічаюць зачыны, прыёмы паўтораў і траічнасці. Фантастычныя дзеянні персанажаў падаюцца як сапраўдныя. Вуснапаэтычныя творы праўдзіва адлюстроўваюць рэчаіснасць. Праўдзівасць народных казак і легенд заключаецца ў тым, што ў іх своеасабліва, праз прызму фантастыкі, нярэдка гіпербалізавана і завострана паказваюцца найбольш істотныя бакі сапраўдных узаемаадносін людзей, адлюстроўваюцца тыповыя рысы прадстаўнікоў розных грамадскіх класаў і сацыяльных груп.

Фантастыка біблейскіх міфаў, героі якіх, паводле сцвярджэнняў царкоўнікаў і тэолагаў, нібы існавалі ў сапраўднасці, адлюстроўвае рэчаіснасць у скажоным выглядзе. Тым не менш веруючыя людзі прызнаюць існаванне бога і звышнатуральных істот, пагаджаюцца з біблейскімі міфамі і робяць усё, каб дагадзіць цару нябеснаму і царкве і тым самым дамагчыся яго літасці. Значная шкоднасць «Свяшчэннага пісання»

[34] Добровольский В. Н. Смоленский этнографический сборник. Ч. 1. С. 302—306.
[35] Романов Е. Р. Белорусский сборник. Вып. 4. С. 19—20.
[36] Русское народно-поэтическое творчество против церкви и религии. С. 39.

ў тым, што яно патрабуе не толькі верыць у бога, але і ва ўсім спадзявацца на яго. «Свяшчэннае пісанне» перашкаджае свядомай творчай працы, барацьбе за падпарадкаванне сіл прыроды чалавеку, развіццю рэвалюцыйнага руху.

Хрысціянская рэлігія прызнае таксама існаванне д'ябла, у якім увасабляецца зло. Д'яблу, сатане ў хрысціянстве адводзіцца значнае месца. У біблейскім міфе аб грэхападзенні Адама і Евы д'ябал аказваецца хітрэйшым за бога: яму ўдаецца пераканаць жанчыну парушыць божыя забароны і паспрабаваць яблыка з дрэва пазнання дабра і зла. У Бібліі сцвярджаецца, што бог патрабаваў прыносіць ахвяры не толькі яму, але і сатане ( Левіт, гл. 16, с. 7—10). Вялікая сіла сатаны прызнаецца і ў Евангеллі, дзе ён спрабуе спакусіць самога Ісуса Хрыста, шкодзіць людзям. Духавенства падтрымлівае веру ў злых духаў, каб запалохаць людзей і прымусіць іх звяртацца за дапамогай да свяшчэннікаў, якія нібы здольны абараніць іх ад д'ябла.

Вера ў д'ябла (чорта, вельзявула, сатану) мае глыбокі сацыяльны сэнс у класавым грамадстве: яна выкарыстоўваецца для ўмацавання эксплуататарскага ладу. Прычынай сацыяльнай несправядлівасці, сацыяльнага зла царква аб'яўляе не панаванне цара, памешчыкаў, капіталістаў, купцоў, кулакоў, а існаванне д'ябла. Усякая ж барацьба супраць эксплуататарскіх парадкаў называлася царкоўнікамі і контррэвалюцыянерамі «сатанінскай» справай.

Спробы царкоўнікаў унушыць страх перад д'яблам не далі жаданых для царквы вынікаў. Не толькі атэісты, але і веруючыя не адчувалі страху перад чортам, аб чым сведчаць шматлікія рускія, украінскія і беларускія творы, у якіх чорт паказваецца ў камічным выглядзе. Дасціпны народны гумар развейвае боязь чарцей і нават страх перад пеклам — іх сталым месцам знаходжання. Салдат трапіў у пекла і «давай чарцей пад бокі штыхом вярсаць,— ганяе іх па пеклу. Недзе ім дзецца!» Рады былі б пазбавіцца чэрці ад салдата, але не могуць. Толькі хітрасцю ўдаецца ім выгнаць салдата з пекла[37]. Разбурае пекла і селянін-музыкант: ён зайграў так, што ўсё пекла разляцелася ў шчэпкі, «а чэрці разбегліся па ўсяму свету»[38]. Герой рускай казкі «Салдат на тым свеце» не толькі верхаводзіць чарцямі ў пекле, але і вызваляе ўсіх грэшнікаў. Калі ж ён папрасіў сатану адпусціць яго на зямлю, яму была пастаўлена ўмова: пакінуць у пекле некалькі чалавек. Але салдату шкада было кожнага чалавека. Выйсце знайшлося: адправіў у пекла папа і манаха, на яго думку, лішніх людзей[39].

Глыбокі сацыяльны сэнс мае казка «Каваль і чорт», у якой

---

[37] Романов Е. Р. Белорусский сборник. Витебск, 1887. Вып. 3. С. 426—427.
[38] Сержпутовский А. К. Сказки и рассказы белорусов-полешуков. С. 4.
[39] Русское народно-поэтическое творчество против церкви и религии. С. 44.

просты рабочы чалавек аказваецца мудрэйшым за чорта. Умовы жыцця і працы каваля і чорту здаліся больш цяжкімі, чым існаванне ў пекле. Чорт вымушаны быў збегчы з кузнечнага цэха[40]. Асаблівай папулярнасцю карысталіся казкі, у якіх чалавек спрытна ашуквае чорта і пераконвае яго ў сваёй моцы. Каб выявіць сілу, чалавек, напрыклад, патрабуе ад чорта сціснуць камень так, каб пацякла вада. Чорту не ўдаецца. Чалавек жа пад выглядам каменя сціскае сыр — і «вада» з яго цячэ («Клімко-вор і чэрці»[41]). У спрэчцы, хто каго перагоніць, чалавек пасылае замест сябе «свайго сына» — зайца. Чорт не здолеў дагнаць яго («Чорт, мядзведзь і заяц»[42]). На прапанову чорта абнесці кабылу вакол балота Іванька-дурачок сеў верхам і аб'ехаў балота, у той час як чорт узяў яе на плечы і нёс, пакуль не зваліўся («Іванька-дурачок і чорт»). Апошнія дзве казачныя сітуацыі нагадваюць адпаведныя месцы «Казкі пра папа і пра работніка яго Балду» А. С. Пушкіна, напісанай па фальклорных матывах. У разнастайных казачных сітуацыях ёсць агульнае: чорт у іх паказаны слабейшым за чалавека, дурным, бездапаможным. Калі ж чорт і валодае звышнатуральнай сілай, дык гэта сіла нярэдка выкарыстоўваецца чалавекам для сваіх мэт («Паляшук і чорт»[43], «Чорт у мужыка на службе»[44] і інш.). Часам вобраз д'ябла пазбаўлены адмоўных рыс, ён добрасумленна дапамагае чалавеку ў цяжкай працы. Народ нібы хоча сцвердзіць, што чалавек здольны падпарадкаваць сабе ўсё, абапіраючыся на велізарную сілу чалавечага розуму. Больш таго, нячысцікі ў пекле выконваюць часам ролю той сілы, што карае сацыяльнае зло, носьбітамі якога былі ў час жыцця на зямлі эксплуататары. У гэтых матывах увасобіліся мары і спадзяванні працоўных аб пакаранні прыгнятальнікаў.

У некаторых народных творах д'ябал удзельнічае ў стварэнні свету, што супярэчыць біблейскаму міфу, згодна з якім зямля, неба, сонца, месяц, раслінны і жывёльны свет, чалавек былі створаны богам. Проціпастаўленне кананічным рэлігійным міфам народнай фантазіі адыгрывала станоўчую ролю ва ўзнікненні антырэлігійных настрояў, выклікала сумненне ў сапраўднасці «Свяшчэннага пісання».

У развянчанні рэлігійных уяўленняў пра д'ябла і развейванні страху перад нібыта існуючай нячыстай сілай важную ролю адыгрываў смех, які быў той зброяй, што трапна паражала царкоўныя догматы, біблейскія міфы. Д'ябал трапляе ў казках і легендах у камічнае становішча. Камічны чорт, які завязаў вочы, каб не вылезлі ад свісту Іванькі-дурачка, а той так

---

[40] Русское народно-поэтическое творчество против церкви и религии. С. 44—46.
[41] Шейн П. В. Материалы. Т. 2. С. 297—299.
[42] Там жа. С. 116—117.
[43] Сержпутовский А. К. Сказки и рассказы белорусов-полешуков. С. 173—176.
[44] Романов Е. Р. Белорусский сборник. Вып. 4. С. 52—60.

«свіснуў» даўбешкай па галаве, што чорт аж упаў («Іванька-дурачок і чорт»). Таксама камічны чорт, які на сваім карку возіць па вадзе і гразі палешука («Паляшук і чорт»). Смешныя чэрці, якія баяцца салдата і хітрасцю выжываюць яго з пекла («Салдат і смерць»). Выклікае смех чорт, які баіцца аднаго слова «баба» і што ёсць моцы кідаецца ад яе ўцякаць («Мужык дурань, як варона, а хіцёр, як чорт»).

Такім чынам, камізм вобразаў розных нячысцікаў развейваў уяўленні аб іх звышнатуральнай сіле, разбураў страх перад імі, істотна падрываў рэлігійную веру. Аднак існаванне бога і д'ябла ў гэтых творах катэгарычна не абвяргалася, а толькі бралася пад сумненне. Царква імкнулася ўкараніць у свядомасць народа «Свяшчэннае пісанне», па якому паходжанне сусвету, нябесных цел, расліннага і жывёльнага свету, прыродных з'яў, грамадскіх падзей звязваецца з богам, яго воляй.

У казках, легендах, анекдотах народ па-свойму тлумачыць паходжанне сусвету, высмейвае намаганні свяшчэннаслужыцеляў давесці да свядомасці працоўных рэлігійную трактоўку. У беларускім («Як пропаведзь не ўдалася») і ўкраінскім («Пра сатварэнне свету») анекдотах выкрываецца недарэчнасць рэлігійнага вучэння аб стварэнні чалавека. Поп з амбону расказаў людзям, як на пачатку свету, калі «не было ні кала, ні двара, ні тычыны, ні ляшчыны, так бог зляпіў з гліны Адама і паставіў пад плотам сушыць». Селянін жа адразу зразумеў недарэчнасць папоўскай пропаведзі і спытаў у боскага служкі, хто ж тады плот зрабіў? У другім украінскім анекдоце «Дачытаўся» селянін яшчэ больш дасціпна і рэзка смяецца са сцверджанняў папа, які хацеў расказаць, што адбывалася, калі не было ні неба, ні зямлі, а толькі адзін плот стаяў: «А дзе ж колле было, калі не было зямлі? На тваёй галаве стаяла, ці што?» Цікава, што ў знак пратэсту супраць ілжывасці пропаведзі прыхаджане пакінулі адразу ж царкву. Агляну ўся поп, думаў працягваць чытанне, але ў божым храме ўжо нікога не было[45]. У беларускім анекдоце «Аб стварэнні свету, шляхты, селяніна» народная іронія, якая пераходзіць у сарказм, з'едліва высмейвае біблейскі міф аб паходжанні чалавека. Шляхціцаў ляпіў бог не з гліны, а з пшанічнай мукі. І калі бог адлучыўся, іх з'еў сабака. Раззлаваны бог як хваціць «сабаку, як дасць аб камень — выскачыў шляхціц і стаў называцца Камінскі, хваціў аб асіну — Асінскі, аб вольху — Альхоўскі...»[46] Падобныя анекдоты ўзніклі як вынік распаўсюджання атэістычных ідэй з этыялагічных легенд, якія ў працэсе трансфармацыі ператварыліся ў анекдоты з ярка выражаным сатырычным зместам.

---

[45] Народ про релігію /Упорядк. М. С. Родіна, Ф. Д. Ткаченко. Київ, 1958. С. 30.

[46] Крачковский Ю. Ф. Быт западно-русского селянина. М., 1874. С. 211—212.

У народных творах з'едліва высмейваецца таксама біблейская легенда аб грэхападзенні Адама і Евы («За што?», «Добры адказ» і інш.). Саркастычны смех гучыць з біблейскага міфа аб патопе і выратаванні богам праведнага Ноя і ўсіх жывёл («У школе»). Здаровы народны розум не мог пагадзіцца з біблейскімі байкамі аб тым, што ў адным каўчэгу па волі бога было выратавана ў час патопу некалькі чалавек і па дзве пары жывёл, як расказваецца ў адным месцы Бібліі, або па сем пар «чыстых» і дзве пары «нячыстых» жывёл, як супярэчліва паведамляецца ў другім месцы Бібліі. Дзеянне адбываецца ў школе. Настаўнік пытаецца ў вучня, каб той адказаў, што Ной узяў у каўчэг чыстых сем пар, а нячыстых дзве пары? «Нагавіцаў»,— адказаў вучань. Падобныя сатырычныя творы былі вельмі папулярнымі сярод усходнеславянскіх народаў.

Не менш вострай была крытыка Евангелля. Часам высмейванне евангельскіх павучэнняў спалучалася з развянчаннем «святасці» божых угоднікаў. У казцы «П'яніца» асабліваи вастрыні крытыка Евангелля дасягае таму, што яна зыходзіць ад маральна нізкага чалавека — п'яніцы, які выкрывае заганнасць святых. Тут нібы сцвярджаецца, што нават п'яніца стаіць вышэй святых, ён гаворыць непрыемную праўду божым угоднікам, напрыклад евангелісту Іаану: «Ты сам напісаў, што калі будзеш стукаць, то адчыняць, а калі станеш шукаць, та знойдзеш. Я от ужэ мо паўгадзіны грукаюса, а ты ўсё не адчыняеш... Дык от як ты нашага брата ашукоўваеш»[47]. Такая крытыка «Свяшчэннага пісання» імпанавала настроям працоўных, якія абураліся сацыяльнай несправядлівасцю, што панавала ў той час у грамадстве і асвячалася царквой.

Сын божы Ісус Хрыстос заклікае ў Евангеллі людзей не клапаціцца, што есці і што піць, у ва што адзецца. Ён звярнуў увагу на птушак, якія «ні сеюць, ні жнуць, ні збіраюць у жытніцы», а іх айцец нябесны корміць. Працоўныя крытычна ўспрынялі сэнс гэтага евангельскага павучання. У выніку з'явіліся творы, у якіх высмейваецца заклік ва ўсім спадзявацца на бога. У адказ на пропаведзь, заснаваную на гэтым павучанні, сяляне сказалі:

— Эх, бацюшка! Калі яны (птушкі) нічога не робяць, то гэтакае іх жыццё: ходзяць зімою па дарозе ды памёт дзяўбуць альбо падлу ядуць.

Супраць спадзяванняў на бога выступаюць і прыказкі: «Богу помолившись, сыт не будешь», «Жилами не нажить, то бог не даст», «На бога сподівався — без штанів зостався», «На бога надзейся, калі хлеб у торбе», «Сам не дагледзіш, і бог не паможа».

Фальклорныя творы, у якіх крытыкавалася «Свяшчэннае

---

[47] Сержпутоўскі А. Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павета. Л., 1926. С. 91.

пісанне», мелі асаблівае значэнне ў развіцці атэістычных ідэй таму, што яны падрывалі асновы хрысціянскай рэлігіі.

Шырока распаўсюдзіліся ў народзе творы, у якіх адлюстраваны адносіны працоўных мас да царкоўна-рэлігійных абрадаў. Духавенства імкнулася ўкараніць веру ў неабходнасць выканання рэлігійных абрадаў, палохала паству гневам божым і страшным судом. Намеры царкоўнікаў былі далёка не высакародныя; яны ставілі мэту адцягнуць увагу працоўных ад класавай барацьбы, пераканаць, што толькі малітвамі, пакланеннем абразам, верай ва ўсемагутнага бога можна палепшыць сваё становішча. Царква ўцяшала спадзяваннямі на нябесную ўзнагароду ў замагільным царстве за пакуты на гэтым свеце.

Вялікае значэнне надавала царква культу абразоў. Свяшчэннаслужыцелі павучалі прыхаджан, што царкоўныя абразы маюць цудатворную сілу. Пакланеннем ім можна ўплываць на прыроду і грамадства, выратавацца ад смерці, вылечыцца ад хваробы, пазбегнуць пажару, пакараць ворага і да т. п. Аднак у асяроддзі працоўных мас узнікалі і карысталіся вялікай папулярнасцю творы, у якіх святасць і цудадзейнасць абразоў абвяргаецца. Адсутнасць шанавання абразоў і махлярства папоў у штучным іх стварэнні раскрываецца ў казцы «Святы Панцеляймон». Работнікі, якіх бацюшка марыў голадам, елі смятану і памазалі губы на іконе святога Панцеляймона, а поп за гэта палкай збіў Панцеляймона. Работнікі занеслі ікону ў балота, а поп замест яе паставіў мужыка. Воск са свечкі капнуў на ногі селяніну, і ён збег. Казка раскрывае жорсткую эксплуатацыю папом работнікаў і выкрывае махлярскую тэхніку стварэння цудаў.

У беларускай казцы «Святыя іконы» трапна высмейваецца недарэчнасць пакланення абразам і вера ў іх цудатворную моц. Селянін быў на кірмашы і збіраўся ехаць дадому, але «чорт панёс» яго купіць абразы. Едучы дадому, ён згубіў торбу, пакінуў кабылу, з абодвух бакоў дарогі пастаўляў абразы, каб сцераглі яе ад воўка, а сам пайшоў шукаць торбу. Знайшоў, але калі вярнуўся, убачыў, што воўк задушыў кабылу. Раззлаваўся селянін на абразы, выразаў паплiску і давай лупіць святога ўгодніка. Адсутнасць пашаны да святых яскрава праяўляецца ў лаянцы селяніна: «Я,— кажа,— аддаў за цябе столькі грошай, што ты са сваімі патрахамі не варт, а ты мне зрабіў гэтакую пакасць, дык на ж табе яшчэ! яшчэ!» І пабіў ікону «на шчэпачкі». Для таго часу лічылася кашчунствам называць «святога» «падлам», як асмельваецца на гэта селянін і непачціва выказваецца аб ім, трапна ўжываючы параўнанні, метафары: «глядзіць, як баран», «губы развесіў», «вочы вылупіў».

У камічнае становішча трапляе поп ва ўкраінскай казцы «Як дзед Архіп рабіў ангелаў», у якой просты селянін спрытна абхітрыў папа: узяў ад яго матэрыял і плату за заказаныя анёлы для царквы, а калі поп прыехаў забіраць іх, дзед Архіп засмуціў

яго, сказаў, што «толькі адкрыў вокны, а яны ж святыя анёлы — як паднімуцца і паляцелі да чортавай маці». Падобнай знявагай абразоў прасякнуты і многія іншыя ўкраінскія, рускія і беларускія народныя творы.

У шматлікіх вуснапаэтычных творах, такім чынам, адлюстроўваецца глыбокае перакананне ў марнасці пакланення абразам, як, напрыклад, у прыказцы: «Святыя свяціцелі, што з вамі рабіць будзеш: ні хлеба спячы, ні дыры залатаць, прыйдзецца так павыкідаць».

Духавенства патрабавала строгага выканання пастоў, якія займалі ў праваслаўнай царкве 257 дзён у год. У гэтыя дні веруючыя павінны былі часткова або поўнасцю адмаўляцца ад ежы, абавязкова ад скаромнай (жывёльнага тлушчу, мяса, малака і інш.). Па сутнасці, увядзеннем пастоў царква імкнулася асвяціць і своеасабліва «ўзаконіць», апраўдаць паўгалоднае існаванне працоўных, таму што пануючыя класы часцей за ўсё не прытрымліваліся пастоў. Народ разумеў недарэчнасць патрабаванняў царквы, таму многія працоўныя пазбягалі выканання пастоў. У народных творах адлюстравалася хітрасць сялян, якія спрытна ашуквалі папоў або ксяндзоў і елі скаромную ежу з іх дазволу. Напрыклад, у адным анекдоце селянін дабіўся дазволу есці тое ў пост, што пераначуе ў зубах. Ён узяў на ноч у зубы цэлы кумпяк мяса, а потым на працягу ўсяго паста еў па кавалачку мяса кожны дзень. У другім анекдоце селянін атрымлівае дазвол есці каўбасу ў час падарожжа. Пайшоў ён у лес, з'еў там каўбасу, працаваў і граху не меў. Падобныя творы бытавалі ў рускага і ўкраінскага народаў. Напрыклад, ва ўкраінскім анекдоце («Падарожная») баба ў пост наварыла скаромнага, вынесла ежу на вуліцу, села на дарозе і спакойна ела («аж за вушамі трашчыць»), калі ж яе пачалі палохаць божай карай, яна адказала, што падарожная[48]. Адмаўленне працоўных выконваць пасты адлюстравалася ў трапных прыказках: «Пост не мост — аб'ехаць можна», «Голод не знае посту», «У бідного щодня піст», «Народ посту трымався, а піп обжирався», «Двюма кінцямі божий піст: попові сало, мирянам — риб'ячий хвіст», «Спасціўся ў нітку, а ўсё няма прыбытку».

Народ выкрываў крывадушнасць царкоўнікаў, якія толькі ад людзей патрабавалі прытрымлівацца пастоў, самі ж ніколі не былі ўзорам у гэтым: «У попа піст, а в зубах курячий хвіст», «Каму пост, а папу мясаед». У папулярным усходнеславянскім анекдоце «Карась» нявер'е папоў і народа ў грахоўнасць пастоў раскрываецца шляхам сатырычнага паказу папа ў ролі своеасаблівага фокусніка: на памінках, якія адбываліся ў пост, ён звяртаецца да бога з просьбайператварыць парася ў карася і, хоць фактычнае ператварэнне не здзейснілася, дазваляе пры-

---

[48] Народ про релігію. С. 101.

сутным есці добрага «карася» і сам не адмаўляецца ад свежанінкі ў пост. Нямала бытавала ў народзе твораў, у якіх раскрывалася шкоднасць пастоў для здароўя людзей («Мужык пасля каляд»[49], «Спасціўся ў нітку, а ўсё няма прыбытку» і інш.)

Шырока распаўсюдзіліся яшчэ ў дарэвалюцыйны час вуснапаэтычныя творы, у якіх высмейваліся царкоўныя набажэнствы, малітвы і пропаведзі свяшчэннікаў. Едкая сатыра гэтых твораў развейвала веру ў «Святасць» і звышнатуральную моц малітваў, богаслужэнняў. Духавенства спрабавала пераканаць прыхаджан, што толькі праз малітву чалавек можа ажыццявіць свае намеры. Але ў народзе гэтыя спробы нярэдка сустракалі працідзеянне, асабліва крытычна ўспрымаліся малітвы, якія складваліся з мэтай умацавання манархічнай улады. Л. М. Талстой пісаў: «Загадваюць папы, каб на малітве дзякан палавіну часу крычаў многія лета прававеранай набожнай распусніцы імператрыцы ці набожнаму цару разбойніку, забойцы, і я павінен маліцца аб гэтым. Загадваюць яны праклясці і перапаліць і перавешаць маіх братоў, і я павінен крычаць за імі анафема». Нямала малітваў складвалася супраць рэвалюцыйнага руху, у цэрквах праклінаіся рэвалюцыянеры, аддаваліся анафеме прагрэсіўныя дзеячы, пісьменнікі.

Вера ў дзейнасць малітваў эфектыўна абвяргалася ў сатырычных пародыях, шмат якіх было складзена, напрыклад, на малітву «Ойча наш». У рускай казцы «Веставы ў генерала на весцях, або салдацкае «Ойча наш» салдат дасціпна адказвае на ўсе пытанні генерала, выкрывае сацыяльную несправядлівасць, якая панавала ў той час у краіне: «Грэх памёр, праўда згарэла, правасуддзе збегла, дабрачыннасць жабруе, раскоша пад арыштам, закон на гузіках, вернасць на аптэкарскіх вагах, надзея з якарам на дне мора, ды і цярплівасць скора лопне». У гэтай салдацкай пародыі малітвы, якую ён чытае генералу, камічны эфект дасягаецца шляхам спалучэння малітвеных слоў з вершаваным паказам муштры ў царскім войску. У беларускай казцы «Салдацкі «Ойча наш»[50] парадзіраванне малітвы амаль такое ж, як і ў рускай казцы. Увогуле салдат нярэдка выступае ў народных творах у якасці выразніка атэістычных настрояў. У казцы «Як салдат абучаў «закону божаму», распаўсюджанай у рускага і беларускага народаў, ён гуляе ў царкве ў карты і спрытна «выкручваецца», калі яго выклікае за гэта камандзір, якому дакладвае, што вучыў аднаго чалавека закону божаму: туз абазначае адзінага бога, двойка — бога-айца і сына, тройка — святую тройцу, шасцёрка — шэсць дзён у тыдзень, сямёрка — тыдзень, васьмёрка — Ноя з жонкай і яго трох сыноў з іхнімі жонкамі[51] і г. д. Сатырычнае парадзіраванне малітвы

[49] Federowski M. Lud białoruski. T. 3. S. 163.
[50] АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 7, сш. 4, с. 36—42.
[51] Русское народно-поэтическое творчество о религии. С. 24.

«Ойча наш» мела асаблівае значэнне, таму што свяшчэннаслужыцелі прыпісвалі яе аўтарства сыну божаму — Ісусу Хрысту, спасылаючыся пры гэтым на Евангелле. У многіх пародыях «свяшчэннасць» малітвы знарок зніжаецца ўвядзеннем у яе тэкст жартоўных песенек, часам дзіцячых, як, напрыклад: «Ойча наш, бацька наш, курэй краў, пад печ хаваў...»[52] Марнасць чытання гэтай малітвы выразна раскрываецца ва ўкраінскай прыказцы: «Отче наш, іже еси — ти нам хліба не даси». Да гэтай малітвы народ звяртаецца толькі ў нястачы: «Голодній був, сім раз «Отче наш» говорив, та не мог заснути, а як наївся, то й не перекрестився та й заснув»[53]. Важна мець на ўвазе, што мэта ўсякай малітвы — упрасіць бога зрабіць цуд насуперак прыродзе, яе законам, стыхіям, а таксама насуперак заканамернасцям і нечаканасцям падзей у грамадстве:

«Аб чым бы ні маліўся чалавек — ён моліцца аб цудзе. Усякая малітва зводзіцца да наступнага: «Вялікі божа, зрабі так, каб двойчы два не было чатыры!»

Але ці можа нават асабісты, жывы, вобразны бог зрабіць так, каб двойчы два не было чатыры?

Усякі веруючы павінен адказаць: «Можа» — і павінен пераканаць самога сябе ў гэтым.

Але калі розум яго паўстае супраць такое бязглуздзіцы?»[54] — іранічна запытваў І. С. Тургенеў у адным з вершаў у прозе.

У вуснапаэтычных творах адмаўляецца магчымасць цудаў. Больш таго, выкрываецца іх сутнасць, паказваецца «тэхніка» іх стварэння. У казцы «Набожны ксёндз» раскрываецца шарлатанства ксяндза, які пад выглядам «святога духа» загадаў касцельнаму парабку ўпусціць голуба пры пэўных словах. Аднак яго падман выявіўся, калі парабак гучна сказаў, што «святога духа» з'еў кот.

Існавалі творы, у якіх крытыкаваліся і іншыя рэлігійныя абрады, царкоўныя рэчы. Народ выказваў, напрыклад, сумненне ў правамернасці шанавання крыжа: «З аднаго дрэва і крыж і лапата».

Выкананне рэлігійных абрадаў у царскай Расіі мела класавую мэту: умацоўваць у свядомасці народа хрысціянскую ідэалогію, у аснове якой быў заклік да цярплівасці і пакорлівасці, пераконваць у грахоўнасці перад богам і ў неабходнасці з дапамогай малітваў, набажэнстваў пазбаўляцца ад грахоў. Дзейнасць царкоўнікаў адцягвала працоўныя масы ад барацьбы за сацыяльную справядлівасць. Народныя творы, накіраваныя супраць царкоўных абрадаў, мелі таму антырэлі-

---

[52] Романов Е. Р. Белорусский сборник. Вып. 1—2. С. 28. Украінская пародыя падобная: «Отче наш, батька наш, кури крав, та в мішок клав...» (Народ про релігію. С. 117).

[53] Народ про релігію. С. 122.

[54] Тургенев И. С. Молитва. Соч.: В 12 т. М., 1982. Т. 10. С. 172.

гійнае і сацыяльнае значэнне, істотна ўплывалі на свядомасць веруючых.

Крытычна ставіўся народ не толькі да хрысціянскай рэлігіі, але і да розных іншых вераванняў, найбольш жывучымі з якіх былі вераванні ў звышнатуральную сілу калдуноў і чараўніц, ведзьмароў і вядзьмарак, знахароў і шаптух. Старажытныя па паходжанні прымхі і забабоны або іх рэшткі час ад часу выяўляюцца і цяпер.

Варажба і знахарства, чараўніцтва і вядзьмарства існавалі насуперак імкненням царквы і самаўладства, якія змагаліся з імі. Але змагаліся яны не таму, што перашкаджалі чалавеку амаль на кожным кроку ў жыцці, а таму што старадаўнія рэлігійныя погляды людзей, якія адбіліся ў іх, часта не толькі не супадалі, а ішлі ўразрэз з царкоўным вучэннем. Быў час, калі з чараўнікамі і ведзьмамі жорстка распраўляліся. Для Расіі гэта было рэдкасцю, а для заходніх краін і Беларусі, асабліва калі яна была ў складзе Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, выпадкаў спальвання «чараўнікоў» і «ведзьмаў» было нямала. У лісце вознага Браслаўскага павета (1615) расказваецца пра спальванне трох чараўнікоў і чараўніц. Каб праверыць сувязь з «нячыстай сілай», іх звязвалі вяроўкай і кідалі ў ваду. Калі чалавек не тапіўся, яго лічылі чараўніком[55]. У «Паэтычных поглядах славян на прыроду» (М., 1869, т. 3, с. 511—512) А. М. Афанасьеў прыводзіць пісьмо кіраўніка маёнтка графа Тышкевіча, якое адносіцца да сярэдзіны XVIII ст., дзе паведамляецца пра спальванне шасці западозраных у чараўніцтве людзей. «Тры з іх прызналіся». Далей гаворыцца, што хтосьці заламаў у двух месцах панскае жыта. Каб выявіць, які чараўнік зрабіў гэта, кіраўнік маёнтка сабраў з дзесяці касцёлаў ваду і варыў кісель. Усе чараўнікі павінны былі прыйсці прасіць кісялю і такім чынам выдаць сябе.

Важна адзначыць, што спосаб праверкі прыналежнасці да вядзьмарак праз акунанне ў ваду часам прымяняўся і да дваранак[56].

Чараўніцтва і знахарства маюць шмат агульнага з хрысціянскай і іншымі рэлігіямі і па сваёй сутнасці грунтуюцца на той жа веры ў звышнатуральнае — асноўнай рысе ўсякай рэлігіі. Царкоўнікі нярэдка выкарыстоўваюць для ўмацавання веры падманнае вылечванне з дапамогай святых мошчаў, прошчаў, цудатворных абразоў, а ўсё гэта мае аднолькавую глебу са знахарствам. У грамадстве з антаганістычнымі класамі жывучасць веры ў чараўнікоў і знахароў тлумачыцца таксама сацыяльнай прыгнечанасцю працоўных мас, уяўнай безда-

---

[55] Гісторыя Беларусі ў дакументах и матэрыялах. Мн., 1936. С. 546—549.
[56] Антонович Б. В. Колдовство. Документы — процессы — исследования. СПб, 1877. С. 27

паможнасцю іх перад стыхійнымі сіламі прыроды і грамадства. Вядомы савецкі этнограф С. А. Токараў тлумачыць стойкасць рэлігійных вераванняў тым, што казённая царква не магла даць прыгнечанаму народу таго, чаго ён патрабаваў ад рэлігіі, а суцяшала замагільнай узнагародай, спадзяванні на якую не маглі задаволіць масы[57].Сяляне, ахопленыя страхам перад пагрозай галоднай смерці ў засушлівае лета, звярталіся да папоў з просьбай маліцца, каб бог даў дождж. Царкоўнікі наладжвалі малебны, «хрэсныя ходы», але гэта не дапамагала, тады людзі ў роспачы звярталіся да знахароў, каб яны выклікалі дождж. Адсутнасць кваліфікаванай медыцынскай дапамогі таксама вымушала працоўных прасіць лекаў у чараўнікоў і шаптух, якія нярэдка карысталіся і лекавымі травамі, але спалучалі іх з замовамі.

У народных творах трапна выкрываецца махлярская сутнасць знахарства, яго «тэхніка». Ва ўкраінскім вершы «Неразлучна тройца»[58] абвяргаецца вера ў цудатворныя абразы і ў магчымасць вылечыцца з дапамогай варажбіткі, якая «лячыла» так: «тыдзень варажыла, покуль скрыню спаражніла»,— а ўсё скончылася трагічна. Іранічна высмейваецца «лячэнне» бабкі Мар'янкі ў рускім анекдоце «Палегчала»[59], у якім паказваецца, што сялянам сапраўды «лягчэй» станавілася пасля лячэння: яны ўсё дабро пакідалі ў бабкі.

У беларускіх казках «Аб пану, што дзеда знахарам зрабіў» і «Шаптуха»[60] развейваецца ўяўленне пра магічную сілу знахарскіх замоў. Важна адзначыць, што знахарству вучаць у гэтых творах сялян паны. Але жаданне навучыць знахарству беднякоў узнікае ў паноў не ад высакародных мэт — дапамагчы чалавеку, якога яны вучаць, пазбавіцца ад галечы, а каб накпіць з яго. Пан вучыць дзеда замове, якую трэба гаварыць пры «лячэнні» хворага: «Як прыйдзеш да хворага, то скажы: «Бегла сучка цераз мост, чатыры нагі, пяты хвост!»[61] Старэнькую бабульку другі пан павучае так: «От як пазавуць цябе к хвораму, то ты пахукай трэйко на яго да й шапчы: «Сіголаў жыў, сіголаў не». Пашапчы о гэ трохі, дай яму выпіць вады, то ён і паправіцца. А калі памрэ, то сіголаў яго бяры»[62]. Паны разлічвалі пасмяяцца з бедных людзей, але вымушаны былі звяртацца да іх са сваёй хваробай. Кпіны паноў з простых сялян бумерангам б'юць па саміх жа ашуканцах, і што дзіўна,— смех з камічных замоў выратоўвае паноў.

У казцы «Заламка» дасціпна выкрываецца знахарская «тэхніка» шкодных падрабляянняў. Цікава расказваецца

---

[57] Токарев С. А. Религиозные верования восточнославянских народов XIX— начала XX века. М.; Л., 1957. С. 152—155.
[58] Народ про релігію. С. 294—296.
[59] Русское народно-поэтическое творчество против церкви и религии. С. 87.
[60] Сержпутовский А. К. Сказки и рассказы белорусов-полешуков. С. 176—178.
[61] Federowski M. Lud białoruski. T. 2. S. 139.
[62] Сержпутовский А. К. Сказки и рассказы белорусов-полешуков. С. 176—178.

пра залом — кучку жытніх каласоў, звязаных ведзьмаром у вузел з мэтай нашкодзіць гаспадарам нівы: выклікаць бяду, хваробу. Каб знішчыць залом, запрашалі папа, які чытаў малітвы і вырываў звязаную кучку каласоў і абавязкова не голай рукой, а праз епітрахіль. Прыводзілі і знахара, які гаварыў спецыяльную замову, часам раздзяваўся, запальваў грамнічную свечку. Супраць страшнага ведзьмара выступае ў казцы селянін, які многа хадзіў па свеце, многа бачыў і ведаў. Ен сам зрабіў заламку, каб выкрыць ашуканца-ведзьмара, і калі той скінуў нагавіцы і сарочку і папоўз голым да заламкі, уссеў на яго вярхом і пачаў біць з прыгаворам, каб больш не падманваў людзей. Як гаворыцца ў казцы, людзі самі пераканаліся, што вядзьмар нічога не мог зрабіць смеламу чалавеку.

Махлярская сутнасць знахарства выкрываецца і ў казцы «Адраблянне», у якой знахар — агідны злачынец, які за некалькі бутэлек гарэлкі душыць апошніх сялянскіх кароў. Яго ловяць, калі ён «адрабляе» ні ў чым не вінаватаму селяніну — душыць яго вала. Знахара збілі за гэта так, што ледзь жывым «папоўз у суваратьі». Воблік яго тут, як і ў папярэдняй казцы, агідны, ён характарызуецца словамі, якія выразна адлюстроўваюць непрыязныя адносіны сялян.

Значэнне народных твораў, накіраваных супраць знахарства, было не меншым, чым іншых антырэлігійных, таму што і ў іх таксама падрываліся асновы вельмі жывучых забабонаў і вераванняў.

Пасля перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі многія гады актыўна бытавалі шматлікія традыцыйныя народныя творы, у якіх адлюстраваліся ўзаемаадносіны папоў і іх служкаў, раскрываўся маральны воблік «святых айцоў», выказваліся антырэлігійныя настроі працоўных мас. У значнай частцы песень, апавяданняў, прыпевак, якія бытуюць у савецкі час, адлюстроўваецца мінулае жыццё, ідэі страцілі сваю актуальнасць, папулярнасць знізілася. Але нямала і такіх антырэлігійных і антыклерыкальных традыцыйных твораў, ідэйны змест якіх не згубіў сваёй надзённасці і адпавядае эстэтычным запатрабаванням савецкіх людзей; яны карыстаюцца поспехам у шырокіх мас, і іх з поўным правам адносяць не толькі да фальклорнай спадчыны, але і да савецкай народнай творчасці.

Тэмы і вобразы дакастрычніцкага фальклору нярэдка выкарыстоўваюцца ў наш час для адлюстравання новых з'яў. У казцы «Ленінская праўда», вядомай у рускім, украінскім і беларускім фальклоры, традыцыйная тэма шукання праўды набывае новы змест. У ёй браты-праўдашукальнікі не знайшлі праўды ні ў пана, ні ў папа, ні ў купца, ні ў фабрыканта, і толькі адзін з іх знайшоў яе ў Леніна, гэта праўда перамагла ў 1917 г.

Многія антырэлігійныя савецкія творы носяць сатырычны характар. Стрэлы сатыры накіраваны супраць рэштак таго, што

ўжо аджыло свой век, але ўчэпіста трымаецца ў свядомасці некаторых людзей — супраць рэлігійных перажыткаў.

У народных творах востра крытыкавалася контррэвалюцыйная дзейнасць часткі духавенства ў гады грамадзянскай вайны і сацыялістычнага будаўніцтва. Народ не падтрымліваў здраднікаў папоў і ксяндзоў у час Вялікай Айчыннай вайны.

Антырэлігійная народная творчасць савецкага часу таксама характарызуецца тэматычнай разнастайнасцю: у ёй выкрываецца фабрыкацыя «нятленных мошчаў», ашуканства са «святой» вадой, прошчамі і цудадзейнымі крыніцамі, адлюстроўваюцца змены ў сямейных абрадах, у свядомасці савецкіх людзей.

Напрыклад, новае ў светапоглядзе народа ярка выказана ў прыказках: «Без бога — широка дорога», «Божая ласка не дасць хлеба і мяска», «Без попа і бога нам рівна дорога», «Святий дух зник, як пух», «Тому бог не нужен, кто с наукой дружен». Савецкі народ выступае супраць рэлігійных святкаванняў: «Калі ўсіх святых памінаць, то не будзе калі працаваць», «Святий боже орати не поможе». У сучасных народных творах крытыка «Свяшчэннага пісання» якасна адрозніваецца ад дарэвалюцыйнай: яна засноўваецца на паслядоўным навуковым атэізме. Ісціннасць біблейскіх міфаў не толькі абвяргаецца, але і паказваецца шкоднасць веры ў іх сапраўднасць. «Святыя навукі — людзям на мукі»,— гаворыць народ.

Атэізм савецкага народа грунтуецца на навуковым адмаўленні існавання бога і іншых звышнатуральных сіл. «Не учись бога славить — учись государством править», «Ад навукі мацнее розум і рукі», «Малітва калечыць — навука лечыць»,— гавораць савецкія людзі. Велічныя поспехі навукі і тэхнікі аказваюць вялікі агітацыйны прапагандысцкі ўплыў на масы і садзейнічаюць хутчэйшаму вызваленню ўсіх савецкіх людзей ад рэлігійнага ўплыву.

Народныя творы з крытыкай царквы і рэлігіі, складзеныя ў савецкі час, адлюстравалі ўсе гістарычныя падзеі, звязаныя з барацьбой супраць рэлігійнай ідэалогіі і контррэвалюцыйнага духавенства ў розныя перыяды жыцця нашай краіны.

Аднак барацьба з рэлігіяй у многіх месцах, асабліва ў 20—30-я гады, зводзілася да руйнавання, разбору і зносу царкоўных храмаў і манастыроў без уліку іх каштоўнасці як помнікаў культуры народаў. Маладасведчаныя людзі такім чынам «змагаліся» з рэлігіяй, спадзяваліся пераадолець яе ўплыў. Пры гэтым яны забывалі не толькі патрабаванні У. І. Леніна пра няўхільнае выкананне закона аб свабодзе сумлення, але не зважалі і на яго заклапочанасць захаваннем помнікаў архітэктуры, у тым ліку і царкоўных сабораў. З успамінаў У. Д. Бонч-Бруевіча вядома, што Ленін зацвердзіў спецыяльную дырэктыву аб аднаўленні часткова пашкоджанага Крамля. Сам цікавіўся рэстаўрацыйнымі работамі. Каб зразумець, якое значэнне нада-

ваў У. І. Ленін помнікам, трэба ўлічыць, што гэта адбывалася ў той час, калі наша краіна змагалася з унутранай контррэвалюцыяй і інтэрвенцыяй Антанты, калі насельніцтва гарадоў жыло ў голадзе і холадзе. Дзеячы створанага пазней грамадскага таварыства ваяўнічых бязбожнікаў нярэдка не імкнуліся да карэктнага тлумачэння сутнасці рэлігіі, яе ролі ў розныя гістарычныя эпохі, не выхоўвалі веруючых у матэрыялістычным духу, а бесцырымонна ўмешваліся ў царкоўныя справы, наносілі шкоду антырэлігійнай прапагандзе. У той час большая частка насельніцтва прытрымлівалася рэлігійных абрадаў, праўда, не заўсёды ўсвядомлена, а часцей за ўсё па традыцыі. Пераканаўчая растлумачальная работа прынесла б ім карысць. Яшчэ больш людзей, асабліва ў Беларусі, выконвалі народныя традыцыйныя абрады, у аснове якіх захаваліся рэшткі язычніцтва. І з гэтым многія заўзятыя ідэолагі таксама змагаліся. У некаторых раёнах забараняліся святкаванні каляд, купалля, абходы валачобнікаў, таму што афіцыйныя асобы не разумелі сутнасці народных абрадаў.

Спробы тлумачэння некаторых язычніцкіх свят былі яшчэ ў першыя гады Савецкай улады. Напрыклад, у снежні 1922 г. з артыкулам «Каляды» выступіў у газеце «Савецкая Беларусь» Змітрок Бядуля. Ён спрабаваў вытлумачыць паходжанне язычніцкіх свят, веры ў многіх багоў, культу бога-сонца, продкаў, імкнуўся прыстасаваць святкаванне каляд да тагачаснай рэчаіснасці. З. Бядуля канстатаваў, што Савецкая ўлада не забараніла калядных святкаванняў і іх варта выкарыстаць у культурна-асветных мэтах. Ён параіў запазычыць вопыт рускіх камсамольцаў, якія намагаліся паказаць «паганскую прыроду хрыстова Ражства» і выРашылі арганізаваць у гэты час карнавалы з удзельнікамі ў касцюмах старасвецкіх язычніцкіх багоў, што ўвасобілі ў сабе сонца і прыродныя вытворчыя сілы, з агітатарамі ў вопратцы старажытных чараўнікоў, якія ставілі мэту вытлумачыць калядныя святкаванні. У тэатралізаваныя прадстаўленні ўводзіліся таксама гумарыстычныя бытавыя матывы і палітычная сатыра з карыкатурнымі карнавальнымі маскамі Калчака, Дзянікіна, Антанты, кулака, нэпмана і інш. Усё гэта меркавалася суправаджаць спевамі і танцамі, спальваннем «балванаў-божышчаў, зусім непатрэбных працоўнаму люду», адзначаў З. Бядуля. Падрыхтаваць лекцыі, даклады, карнавальныя спектаклі прапаноўваў пісьменнік і беларускім камсамольцам.

На жаль, і ў такім выглядзе, і ў традыцыйным святкаванне каляд адбывалася ў вельмі нямногіх раёнах рэспублікі.

У цяперашні час — час перабудовы, калі ідзе пераацэнка ўсіх каштоўнасцей і пераасэнсоўваюцца многія гістарычныя падзеі, узнікла неабходнасць перабудовы і атэістычнай прапаганды. У ранейшай антырэлігійнай рабоце не ўлічваліся змены тэалагічных дактрын, якія цяпер прыблізіліся да сучаснага

жыцця, да патрэб чалавека і таму сталі прыцягальнымі для веруючых. У гады ж застою атэістычная прапаганда нярэдка адрывалася ад жыццёвых праблем чалавека. Катэгарычнае адмаўленне рэлігіі без сувязі з надзённымі пытаннямі рэчаіснасці, без спалучэння тэорыі атэізму з эфектыўнай прапагандысцкай практыкай не давалі належных вынікаў. Цяпер ужо нельга ставіцца да рэлігіі так прымітыўна, як раней, лічыць яе простым «перажыткам» мінулага, забабоннай верай у звышнатуральнае. Рэлігійны светапогляд не абмяжоўваецца толькі верай у звышнатуральныя сілы, а спалучае ў сабе шмат іншых кампанентаў — этнічных, эстэтычных, маральна-этычных, прававых. Веруючы цяпер не забіты непісьменны селянін, як у многіх выпадках было ў мінулым, а адукаваны чалавек, які добра знаёмы з Біблiяй, цікавіцца навінкамі навукі, літаратуры і мастацтва, нічым не адрозніваецца ад іншых людзей ні ў працы, ні ў грамадскай актыўнасці. Усё гэта неабходна ўлічваць у атэістычнай прапагандзе.

З гісторыі рускай праваслаўнай царквы, якая нядаўна адзначыла 1000-годдзе хрышчэння Русі, вядома, што яна адкрыта змагалася з Савецкай уладай у першыя гады пасля перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Прайшло нямала часу, пакуль царква змяніла свае адносіны да дзяржавы рабочых і сялян і стала падтрымліваць наш сацыялістычны лад. Многія свяшчэннікі разам з усім народам прайшлі цяжкія выпрабаванні ў гады Вялікай Айчыннай вайны, звярталіся з заклікамі да савецкага народа абараняць Радзіму ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. З палымянымі словамі стаць на абарону Айчыны звярнуліся да веруючых кіраўнік рускай праваслаўнай царквы мітрапаліт Сергій і мітрапаліт Ленінградскі Алексій. Савецкіх людзей, у якіх знаходзілі лістоўкі з тэкстамі гэтых заклікаў, гітлераўцы расстрэльвалі. У архівах фашысцкага рэйха знайшлі загад рэйхсфюрэра СС Гейдрыха ад 16 жніўня 1941 г. арыштаваць мітрапаліта Сергія пасля захопу Масквы[63]. Некаторыя свяшчэннікі самі ўдзельнічалі ў барацьбе з акупантамі, многія дапамагалі партызанам, часам выратоўвалі ад гібелі падпольшчыкаў.

Аднак былі і такія праваслаўныя свяшчэннікі, пра якіх мітрапаліт Сергій пісаў, што яны «не захацелі пакутаваць з народам Божым і палічылі за лепшае мець часовы граху слодыч»[64]. З адабрэння ка́та беларускага народа эсэсаўскага генеральнага камісара Беларусі Кубэ архіепіскап Філафей разам з іншымі свяшчэннікамі-здраднікамі стварылі беларускую аўтакефальную царкву і ад імя царкоўнага сабору, які адбыўся ў Мінску летам 1942 г., паслалі тэлеграму Гітлеру з падзякай за вызваленне Беларусі ад «маскоўска-бальшавіц-

---

[63] Кононенко В. Память блокады//Наука и религия. 1988. № 5. С. 10.
[64] Там жа.

кага бязбожнага ярма». Архіепіскап Філафей падпісаў адозву да беларускай моладзі з заклікам ехаць у Германію, дзе прапанаваў юнакам і дзяўчатам «стаць пры варштатах на фабрыках і заводах ды ў сельскай гаспадарцы»[65] замест нямецкіх жаўнераў. Але на яго агітацыю добраахвотна ехаць на фашысцкую катаргу амаль ніхто не паддаўся.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны царква вядзе міратворчую дзейнасць, удзельнічае ў рабоце Фонду міру, Дзіцячага фонду, Савецкага фонду культуры, падтрымлівае сучасную ўнутраную і знешнюю палітыку Камуністычнай партыі і Савецкага ўрада. Усё гэта не можа не атрымаць адабрэння грамадскасці, якая адмоўна ставіцца да былых выпадкаў адміністрацыйнага націску на царкву, абразы пачуццяў веруючых, заўзятай бязбожніцкай ваяўнічасці, прамалінейнай крытыкі рэлігійнага веравучэння, хрысціянскіх догматаў.

Сучасная перабудова атэістычнай прапаганды патрабуе ўдасканальвання яе метадаў і форм. Неабходна адмовіцца ад лабавой прымітыўнай крытыкі царквы і рэлігіі, перайсці да пераканання веруючых шляхам гутарак, абуджэння цікавасці да навуковых матэрыялаў, якія маглі б супрацьстаяць рэлігійным уяўленням, выклікаць сумненне ў ісціннасці хрысціянскіх догматаў. У гэтай справе прапагандыстам атэізму добрую паслугу зробяць фальклорныя творы, змешчаныя ў прапануемым зборніку,— тыя матэрыялы, якія трэба выкарыстоўваць у камуністычным выхаванні, таму што, як пісаў У. І. Ленін у артыкуле «Аб значэнні ваяўнічага матэрыялізму», «масам неабходна даць самы разнастайны матэрыял па атэістычнай прапагандзе, знаёміць іх з фактамі з самых розных галін жыцця, падысці да іх і так і гэтак для таго, каб іх зацікавіць, прабудзіць іх ад рэлігійнага сну, узварухнуць іх з самых розных бакоў, самымі рознымі спосабамі і т. п.»[66] У гэтым жа артыкуле У. І. Ленін выказаў думкі, актуальнасць якіх не страчана і ў наш час: «Самае важнае — часцей за ўсё іменна гэта забываюць нашы нібыта марксісцкія, а на самай справе скажаючыя марксізм камуністы — гэта здолець зацікавіць зусім яшчэ няразвітыя масы свядомымі адносінамі да рэлігійных пытанняў і свядомай крытыкай рэлігій»[67]. І сучасных веруючых таксама трэба зацікавіць «свядомымі адносінамі» да рэлігіі, і ў гэтым народная паэзія павінна дапамагчы прапагандыстам атэізму.

Выхаваўчае значэнне атэістычнага фальклору абумоўліваецца вялікай цікавасцю, з якой адносяцца да яго народныя масы.

*А. С. ФЯДОСІК*

---

[65] Кононенко В. Память блокады//Наука и религия. 1988. № 5. С. 14—15.
[66] Ленин В. И. Полн. собр. соч. Т. 45. С. 26.
[67] Там жа. С. 27.



## КАК ПОП РАБОТНИКОВ МОРИЛ

Вот в некотором царстве, в некотором государстве, именно в том, в каком живем мы, жил один мужик. У него было три сына — два умных, а третий дурак. Жили они очень бедно. Отец посылает сыновей:

— Идите хоть один в работники: дома делать нечего!

Сыновья собрались: ни тому, ни другому неохота идти в работники. Перетолковали, вздумали жребий кинуть — кому идти в работники. Большак брат справился и отправился в путь-дорожку. Поступил в работники к попу. Тот его ничем почти не кормил, проморил зиму. Ушел большак. На другой год отправился к попу средний брат — и тоже чуть с голоду не помер. Настала очередь меньшому брату идти — Ивану-дураку. Вот он снарядился и отправился в дорогу. Вышел — попадает поп навстречу ему.

— Далеко ли, добрый человек, идешь? — спрашивает поп.

— Иду себе места искать! — говорит.

— Ну, наймись ко мне в работники!

— Найми! — говорит.— Сколько дашь?

— Сто рублей дам,— говорит,— за зиму!

— Ну, а сто рублей дашь, я и жить стану! — говорит.

— Ну, станешь, дак садись в сани и поедем ко мне!

Сели в сани и поехали к попу. Приехали к попу. Поп чаем напоил, ужином накормил.

— Ложись спать! — говорит.— Утром ехать за сеном.

Утром поп будит с полночи работника:

— Вставай, надо ехать.

Сам чаю напился, отзавтракал, а работника не кормит на дорогу. Работник запряг пару лошадей.

— Ну, садись, батька! Поедем,— говорит.

Сели и поехали. Выехали за поле.

— Батька,— говорит,— я веревки забыл! Нечем сено завязать.

— Экой ты чудак! Еще хорошо — скоро вспомнил! Беги, я подожду!

Иван-дурак прибежал к попадье:

— Матка, давай скорей белорыбник и бутылку вина. Поп велел дать!

Попадья сейчас подала. Работник побежал.

— На веревки, батька! Теперь есть чем сено вязать!

Верст сорок проехали. Наклали они возы, завязали. Поехали домой,— сумерилось, а еще верст сорок ехать домой. Иван-дурак на возу выпивает из бутылки и белорыбником закусывает. Поп и говорит Ивану-дураку:

— Ваня, гляди. Есть дорога направо, как бы туда лошадь не сбрела. А я дремлю.

— Ладно, батька, поезжай. Я усмотрю эту дорогу.

Ваня идет и смотрит эту дорогу. Увидал эту дорогу, скочил с воза и отвел лошадь в сторону по той дороге, по коей не надо было ехать.

Проехали они по этой дороге верст пятнадцать. Потом поп проснулся. Осмотрел место и видит, что в сторону едут, неладно.

— Ваня, ведь мы неладно едем!

— А я,— говорит,— почему знаю — ладно или неладно! Ведь ты впереди едешь, а я за тобой.

— Экой Ваня! Как я наказывал, что посмотри, дорога направо будет, а ты и заехал!

— Ишь, сам впереди, а я и заехал!

— Ну, стало быть, Ваня, делать нечего! Надо ехать по этой дороге. Должна тут быть деревня недалеко, нужно нам в ней ночевать.

Так поехали дальше продолжать. Приезжают они в одну деревню. Поп посылает работника:

— Пойди просись ночевать вот у такого-то мужика!

Работник побежал к дверям. Видит — двери заперты. Сейчас большуха вышла, двери отворила. Работник вошел и просит хозяина:

— Пусти нас, пожалуйста, с попом ночевать!

— Милости просим,— говорит,— ночуйте!

— Да, пожалуйста, я вас прошу, попа ужином не кормите: накормите, он еще горазже сшалеет. Примолвите так, а садить не садите более, а если посадите, так не взыщивайте, если сшалевать будет!

— Ну ладно!

Работник лошадей выпряг, поставил к возам. Вошли в избу, разделись поп и работник.

— Поужинать ли не хотите ли, батюшка?

Поп на ответ ничего не подает, а работник свернулся да и за стол. Работник отужинал как ему надо, а попу сесть неловко, только примолвили, а больше не садят; а есть очень хочется. Так работник отужинал, полез на полати, и поп за ним. Работник захрапел, а попу не спится. Работника тычет под бока:

— Работник, ведь я есть хочу!

— Ох.., косматый леший! Садили тебя есть, не садился. Ведь не дома, где попадья за руки садит. Поди, я видел у большухи горшок каши стоит, пойди ешь!

Поп сошел со полатей, разыскал горшок в сошке.

— Работник! — говорит.— Чем я буду кашу есть? Ложки мне не найти,— говорит.

— Ах ты, черт косматый, навязался! Есть ему дал, и то спокою не дает! Засучи руки и ешь так!

Поп загнёл туда руки и ожег; а там не каша была, а вар. Вот он и забегал с горшком опять:

— Работник, ведь мне рук не вынуть!

Работник и говорит:

— Ишь лешего косматого навязало на меня! Всю ночь спокоя не даешь со своей кашей.

А ночь была месячная, значит.

— Вон— говорит,— у порога точило лежит, брякни горшком об него — и вынешь руки-то!

Этот поп разбежался — да как хрястнет об это точило! А это лежало не точило, а хозяин лысый спал. Поп об его лысину и ударил. Хозяин завопил, а поп скочил да из избы вон: испугался. Тогда все хозяева скочили за огнем. Хозяин кричит чего-то, работник кричит:

— Куда поп девался?

Не знаю, что и делалось здесь. Хозяева за работника:

— Зачем старика убили?

А работник за хозяев:

— Куда попа дели? Давайте попа! А нет, сейчас схожу к десятскому: «Деревню собери!» Где хотите, попа давайте!

Потом хозяева одумались:

— Куда поп девался?

— Давайте,— говорит работник,— триста рублей, все дело замну, а нет — к десятскому пойду!

Хозяева мялись, мялись, дали триста рублей.

— Только не сказывай, что случилось!

Так работник запряг лошадей и поехал с сеном домой. Попа нет, значит. Проезжает деревню — стоит поп у пелевнюшки, стоит, из угла выглядывает, видит, что работник едет с сеном. Поп и спрашивает:

— Аль ты, Ваня, едешь-то?

— Я,— говорит,— косматый плут! Ужо в остроге будешь сидеть! Убил хозяина!

— Неужели его до смерти я, Ваня, убил?

— Да быть, до смерти! Сейчас ладят за урядником ехать, протокол составлять.

— Не можешь ли, Ваня, как-нибудь этого дела замять?

— Триста рублей давай, так замну, а нет — так в остроге сидеть будешь!

Так поп согласился триста рублей работнику заплатить,

только бы замял это дело. Работник вернулся в деревню, постоял за углом, постоял немножко и идет назад.

— Поезжай, батька! Теперь ничего не будет! Поедем назад!

Приехали домой. Поп сделался такой добрый, стал работника жалеть. Как сам садится чай пить, так и работника садит. Ваня прожил зиму, семьсот рублей денег получил заместо сотни. Приходит домой, отцу и говорит:

— Вот, тятька, на деньги! Гляди, сколько заработал! Не как твои два умные сына!

После этого стали жить-поживать и добра наживать. И теперь живут хорошо.

## ПОПОВ РАБОТНИК

Жил-был поп. Вот у этого у попа не было работника: не уживались у него работники.

Пошел он нанимать работника. Нанял. Приходит домой, говорит:

— Попадья, я нанял работника.

— Ну, хорошо,— говорит.

Послали они работника молотить. Приходит время — он идет обедать. Приходит он и говорит:

— Поп, пора обедать.

— Ну, что ж, свет, садись.

Он сел. Налила попадья щей. А у попа маленькая дочка была. Только стали обедать, дочь-то и закричала.

— Ну, свет, тащи ее на двор.

Покамест работник пробыл с ней на дворе, поп с попадьей уже пообедали. Вот работник вернулся, говорит попу:

— Что ж,— говорит,— батюшка, я не обедал.

— Что ж, свет, два раза не обедают.

Мужик так и пошел опять молотить.

Приходит ужинать. Подали щей. Опять дочь заорала.

— Неси ребенка из дому.

Вот он унес ее на двор. Пока там пробыл, они уж поужинали. Работник опять приходит и говорит:

— Что ж, батюшка, я не ужинал.

— Что ж, свет, два раза не ужинают.

Работнику уж скучно стало. Он взял от них ушел.

Поехал поп опять нанимать себе работника. Едет на деревню. Стоит круг мужиков. Он стоит и спрашивает:

— Мужички, не пойдет ли кто ко мне в работники?

— Нет,— говорят,— мы знаем, как у тебя жить-то.

А дурачок и говорит:

— И дураки, не умеете вы попу услужить.

— Ну, ты,— говорят,— умный человек, ступай.

Он и пошел и сделал уговор: не сходить и не сгонять друг друга.

Вот на другой день поп послал его молотить. Пришло время обедать. Пришли. Сели. Дурак и давай резать хлеб, весь его изрезал. Закричала опять дочь попа.

— Ну,— говорят,— свет, тащи ее.

Он положил за пазуху краюху хлеба, пошел с ней. Покамест он пробыл на дворе, весь хлеб съел. Приходит с надворья, говорит попу:

— Что ж,— говорит,— батюшка, я,— говорит,— щей-то не хлебал.

— Ну, свет, у нас два раза щей не варят.

Пошел он молотить хлеб. Помолотил, пришел ужинать. Садятся за стол. Дурак стал опять хлеб резать. Нарезал хлеба. Попова дочь и закричала.

— Ну, свет, неси ее на двор.

Он взял половину хлеба, положил за пазуху, пошел с ней.

Пока пробыл на дворе, весь хлеб и съел. Пришел домой, лег спать на печку.

Вот попадья смекнула дело, что у них работник много хлеба ест.

— Что,— говорит,— свет, нам делать с работником? У нас ведь хлеба не достанет так-то.

— Что, попадья? Надо бежать со двора. Мы с ним ведь уговорились: не сходить и не сгонять друг друга.

А работник и услыхал их разговор.

Вот попадья на другой день, покамест работник молотил, насушила сухарей, положила их в мешки.

Приходит работник обедать и увидал эти мешки.

Сели за стол. Он нарезал хлеба. У попа дочь закричала. Он взял, положил в карман хлеба, пошел с ней на двор. Покамест он пробыл, хлеб весь поел. Приходит с надворья, а поп ему и говорит:

— Ты,— говорит,— свет, поди, потаскай скирд, а я отдохну да к тебе выйду.

Работник видит, что они собираются бежать, не пошел таскать скирд. Когда они вышли в другую комнату, он половину сухарей отсыпал, а сам в мешок-то и сел.

Вот они убрались совсем. Поп взвалил один мешок попадье, другой сам понес. Ударились бежать из дому.

Бегут несколько времени, а он в мешке-то и кричит:

— Догоню, догоню!

Наконец они выбились из сил, принуждены были остановиться и остановились у речки.

Вот поп как бросит с плеч мешок.

— О,— говорит,— какой тяжелый.

А работник и говорит:

— О, батюшка, ты меня ушиб.

— Попадья, ведь он тут!

— А вы хотели от меня убежать.— Нет,— говорит,— я вас на дне моря найду.

Пришлось дело к вечеру. Нужно было около речки ночевать. Поп и стал советоваться со своей женой, чтоб батрака положить с краю, к речке.

Вот легли они спать. Батрак ночью проснулся и переложил попадью-то на свое место, а сам в середину лег.

Поп проснулся и будит батрака, думает, что жена:

— Вставай! Давай,— говорит,— батрака-то в воду скинем.

А батрак ему говорит:

— Давай.

Размахнули ее и бросили в воду.

Батрак и говорит:

— Ну, камень в воду, чертям поклон (подарок).

— Ах, свет, это ты остался со мной?

— Все я,— говорит,— батюшка.

## КАК КУЗНЕЦ ПОПА ПРОУЧИЛ

Жил поп жадный. Чем больше давай ему, тем больше просит. Требы собирать всегда ездил с подводой. И взялся кузнец проучить попа.

Однажды поп возвращался из соседней деревни, всякого добра наклал полную бричку. Как на грех, расковалась лошадь, отлетели все четыре подковы, обратился тогда поп к кузнецу. Тот запросил сходную цену — три рубля.

— Что ты! — говорит поп.— Разве можно с пастыря такие деньги брать?

— Вот что,— сказал тогда кузнец.— Давай, подкую по такому условию: за первый гвоздь возьму копейку, за второй — две, за третий — четыре, за четвертый — восемь, и все будем умножать по два, потом сложим общую сумму — и плати.

Поп видит, что дешево, и согласился.

Кузнец управился быстро, забил двадцать четыре гвоздя. Стали расплачиваться.

За первые шесть гвоздей попу пришлось платить всего шестьдесят три копейки. А потом начались рубли, да десятки, да сотни, да тысячи — у него волосы дыбом встали.

А кузнец все подсчитывает.

— Ну, плати, батя, сто шестьдесят семь тысяч семьсот семьдесят два рубля пятнадцать копеек.

Как вскочил поп, да как пустится бежать! Оставил и коня, и подводу с добром. И больше той дорогой, где кузница стоит, никуда не ездил.

## РАБОТА ЯЗЫКОМ

У папа раскаваўся конь. Праязджае ён каля кузні. Спыніўся.
— Колькі, каваль, возьмеш за нагу?
— Два рублі.
— Не, гэта дарага.
— Ну, як з вас, бацюшка, адзін рубель вазьму.
Каваль куе, а поп глядзіць ды й кажа:
— Зайздрошчу кавалю. Як стук, так і руб.
— А ты, бацюшка, языком тара-тара — вось табе і паўтара.

## ПОП І РАБОТНІК

Жыў сабе поп, а ў яго ні адзін работнік не выбудзе года. Вот адзін прыйшоў к яму наняцца ў работнікі на год, а поп гаворыць:

— Добра! Ну, зробім так: калі ты выбудзеш у мяне год, то я табе заплачу, а калі не выбудзеш, то ты мне заплоціш.

— Ну, добра: давай закладзёмся аб тры шчаўкі,— кажа работнік,— калі я выбуду ў цябе год, то я табе дам тры шчаўкі, а калі не выбуду, то ты мне.

Тады поп гаворыць:

— Ідзі зарэж вала.

Ён узяў нож і пайшоў, а поп пайшоў ды глядзіць, чым ён яго будзе рэзаць. А работнік узяў ды яго шчаўком і забіў. Тады поп і гаворыць:

— Ідзі сцеражы авёс, там яго нехта есць.

Работнік узяў лыка і пайшоў. Лёг у радках і чакае. Прыйшлі к яму мядзведзі, дык ён самага старшага ўлавіў, сеў на яго і едзе ў двор к папу і пытае:

— Куды мне гэтага каня паставіць?

А поп гаворыць:

— Пастаў яго з конямі.

Ён паставіў. На другі дзень поп пайшоў глядзець таго каня, глядзіць — ажно мядзведзь там усіх коней задраў, а сам ужо ляжыць. А поп гаворыць:

— Што гэта ты здзелаў! На чым жа цяпер у пруд жыта везці.

А ён гаворыць:

— Я свайго мядзведзя запрагу.

Узяў мяшкоў наклаў, запрог мядзведзя і павёз у пруд. А ў тым прудзе не давалі чэрці малоць. Толькі ён прывёз, а к яму тут чэрці і выскачылі і хацелі яго задавіць, а ён як ухапіў прудны камень і забіў аднаго, а двух улавіў і прывёз к папу: Кірылу і Гаўрылу. А поп пытае:

— Што, ты змалоў?

— Змалоў.

— Ну, едзь цяпер к пану па грошы.

Ён запрог Кірылу і Гаўрылу і паехаў. Толькі прыехаў к таму пану, а пан як выскачыць — хацеў яго біць. А ён гаворыць:

— Кірыла, Гаўрыла! Сцісніце яго!

Яны яго як сціснулі, дык пан аддаў яму грошы. Работнік узяў і паехаў. Поп яго пытае:

— Што, ты прывёз грошы?

— А во яны.

Адслужыў ён свой год і просіць грошы. Поп аддаў яму грошы. Тады ён гаворыць:

— Дай я табе шчаўкну тры шчаўкі.

Папу нечага рабіць — выставіў лоб. Ён яму як шчаўкнуў, аж іскры з ілба пасыпаліся. Тады работнік узяў свае грошы і пайшоў.

## ПОП І ПАРАБАК

Жыў-быў у адной вёсцы поп. І вось аднойчы прыйшоў да яго прасіцца на работу малады хлапец. Прыняў поп гэтага хлапца на работу і павёў паказваць яму, што ён будзе рабіць. Завёў яго поп у кладоўку, а там у яго было многа сала, калбас. І кажа поп:

— Гэта ж мы будзем есці, а не хто іншы.

Узрадаваўся хлапец. «Вось гэта дык будзе жыццё»,— думае ён.

Астаўся ён працаваць у папа, а работа ў яго была — дроў нанасіць, жывёлу даглядаць, ваду цягаць. Адным словам, цяжка працаваў чалавек.

А поп тым часам загадаў кухарцы зварыць снеданне — наварыць бульбы і поліўкі для парабка.

Прыйшоў час хлапцу для абеду, але бачыць ён, што замест сала і калбасы далі яму поснай бульбы і поліўкі.

«Што гэта за ліха,— думае ён,— замест сала і калбасы вунь што». Але рашыў пачакаць і пайшоў працаваць далей. Прыйшоў ён вячэраць, а яму зноў жа далі той поліўкі і бульбы. І так кармілі яго і на трэці, і на чацвёрты дзень.

І рашыў парабак адпомсціць папу.

Паехаў поп кудысьці, а парабку загадаў добра працаваць. Вось хлапец узяў мяшкі, напхаў іх сенам і падвесіў на бэльцы высока ў хляве, каб не магла жывёла дастаць. Жывёла хоча есці, бачыць сена, а дастаць не можа.

Прыехаў поп і пайшоў глядзець жывёлу. Увайшоў у хлеў і здзівіўся: жывёла раве галодная, а сена вісіць на бэльцы. Раззлаваўся поп, паклікаў парабка і гаворыць:

— Што ж ты жывёлу голадам морыш?

А той хлопец быў кемлівы ды й кажа папу:

— Ты ж, бацюшка, таксама мяне карміць добра абяцаў,

а цяпер голадам морыш. Паказаў сала, і на гэтым усё стала.— І пабачыў тады поп, што яго парабак праўчыў.

І больш да папа ніхто працаваць не пайшоў.

## ДОБРЫ ПОП

Жыў-быў поп. Наняў сабе работніка, прывёў яго дамоў.

— Ну, работнік, служы добра, я цябе не пакіну.

Пажыў работнік з тыдзень, настаў сенакос.

— Ну,— гаворыць поп,— пойдзем заўтра касіць сена.

— Добра, бацюшка.

Дачакаліся яны раніцы, усталі рана. Поп і гаворыць пападдзі:

— Давай-ка нам, матка, снедаць, мы пойдзем на поле касіць сена.

Пападдзя сабрала на стол. Селі яны ўдвох і паснедалі. Поп гаворыць работніку:

— Давай мы і паабедаем за адзін раз і будзем касіць да самага поўдніка.

— Як вам угодна, бацюшка, можна і паабедаць.

— Падавай, матка, на стол абедаць,— загадаў поп жонцы.

Яна падала ім і абедаць. Яны па лыжцы, па другой хлібнулі — і сыты.

— Давай за адным сталом і папалуднуем і будзем касіць да самай вячэры.

— Як вам угодна, бацюшка, палуднаваць дак палуднаваць.

Пападдзя падала на стол і поўднік. Яны зноў хлібнулі па лыжцы, другой — і сыты.

— Давай заадно і павячэраем і заначуем на полі — заўтра раней на работу паспеем,— гаворыць поп работніку.

— Давай, бацюшка.

Пападдзя падала ім вячэраць, яны хлібнулі раз-два і ўсталі з-за стала.

Работнік схапіў свой армяк і збіраецца вон.

— Куды ты,— пытае поп.

— Як куды? Самі вы, бацюшка, ведаеце, што пасля вячэры трэба спаць класціся.

Пайшоў на сенавал і праспаў да свету.

З тае пары перастаў поп частаваць работніка за адзін раз снеданнем, абедам, поўднікам і вячэрай.

## ПАПОЎСКІ ПОЛУДЗЕНЬ

Поп з работнікам грэблі сена. Прынеслі ім абедаць: папу бутэльку малака, а работніку бутэльку вады.

Паабедалі яны і пайшлі зноў грэсці. Поп жа грабець сена ў капу, а работнік грабець у ваду.

— Што ты гэта робіш? Куды ты грабеш? — пытаецца поп.

— А, бацюшка, ты грабеш сваёй кароўцы, а я сваёй.

## СКУПЫ ПОП

Жыў поп. Ён быў вельмі скупы. У яго было сала, мяса, калбасы, сыр, масла. Усё гэта ён трымаў у царкве, бо баяўся, каб у двары не паелі яго работнікі. Адзін работнік дагадаўся і папрасіў старасту, каб той запёр яго ў царкве на час які, а пасля выпусціў.

Узлез на званіцу і схаваўся там. Як толькі скончылася абедня, ён пачаў есці. І паеў усяго, і ў мех наклаў. А потым узяў ды Міколу вусны вымазаў малаком. Пятру — салам, каля Паўла паклаў мяса кусок. Усіх надзяліў. Прыйшоў стараста, набралі яны там, чаго хацелі, і пайшлі.

Праз некаторы час прыходзіць у царкву поп. Бачыць, што яго дабро пакрадзена. Калі ён паглядзіць,— а ў Міколы вусны ў малацэ. І стаў яго лаяць:

— Ах ты сякі-такі! Стары, а ласун.

Падышоў к Пятру-Паўлу, а там сала і мяса. Ён іх лаяў, лаяў.

— Ну, няхай жа Мікола паеў, а вы і паелі і з сабою яшчэ забралі.

І прынёс усё ў двор.

## ЯК БАГІ ПАКРАЛІ СМЯТАНУ Ў ПАПА

Жыў-быў скупы поп. У яго быў работнік Кузьма. Ён яму загадваў многа работаць і стараўся, каб работнік менш з'еў.

Кузьма лажыўся часта не даеўшы, а то зусім не вячэраўшы.

Кузьма пасля гэтага ўсяго, як толькі поп і пападдзя палягуць спаць, стараўся чаго-небудзь падабраць і паесці ноччу. Ключы ад дамашняй гаспадаркі і ад царквы заўсёды віселі ў пакоі на сцяне.

Аднойчы Кузьма ціханька ўстаў і на цыпачках пракраўся ў пакой папа і ўзяў там ключы. Потым забраўся ў чулан і, каб поп не падазраваў, ад кожнага жбаночка патрошку адпіваў малака, самыя вяршкі.

Поп доўга не мог зразумець, што гэта робіцца. Спачатку ён думаў, што гэта каты, а потым стаў ужо падазраваць і самога Кузьму. Адзін раз пытае:

— Ці не ты гэта крадзеш смятану?

А Кузьма:

— А божанька барані, бацюшка, гэта не можа быць, я знаю, што гэта грэх.

Поп яму не верыць і гаворыць:

— Калі я цябе паймаю, я табе пакажу, як красці.

Тады Кузьма надумаўся папа абхітрыць.

Узяўшы ключы ад царквы ў ноч з суботы на нядзелю, набраў у жбаночак смятаны і забраўся ў царкву і ўсім багам панамазаў па губах смятаны.

Поп раніцай прыйшоў служыць у царкву, убачыў гэта і са злосці паламаў, пабіў усіх багоў, усе гэтыя іконы.

Прыйшлі богамаленцы, а ўсе багі пабіты — і маліцца некаму.

## РАСШЧАДРЫЎСЯ

Неяк адзін поп у вялікі пост кажа служанцы:

— Звары мне два яйкі, а юшку можаш сама выпіць.

— А ці ж...— пачала яна, бо хацела сказаць, што грэх у пост яйкі есці.

— Што? — перабіў яе поп.— Калі табе мала юшкі з двух яец, то звары мне тры.

## ВАЛАЧАШЧЫСЯ ПАРАБАК, ЦІ СЛУЖАЧЫ ХЛЕБ САБАЧЫ

Быў сабе адзін валачашчыся парабак. Ён не меў свае дамоўкі, а ўсё парабкаваў. Але дзе ён ні застанецца, там усюды яму нядобра, не можа ён ужыцца да й валачэцца далей, шукаць лепшага прытулку. Наняўся ён у двары служыць пану. Думае сабе, што дзе ж лепш служыць, як не ў пана. Пан багаты, усяго ў яго многа — будзе й на яго долю. Служыць ён пану верна, шчыра працуе, а пан усё частуе яго кожны дзень:

— Гультай, пся крэў! Немаш тобе лозы!

Ведама ж, праўду кажуць людзі, што служы пану верна, а ён табе... бо ў пана ласка па парог. Пан дурны, работы не знае, да толькі панукае. Яму не трэ добра рабіць, а як ён вяліць. Кінуў той парабак пана — агідла яму глядзець, што ўсё робіцца не на карысць, а напаказ,— і пайшоў шукаць лепшае гаспадаркі. Доўга ён цягаўся без дзела да й зайшоў у карчму аддыхаць да людзей распытаць, ці не трэ каму парабак. А тыя кажуць, што ў кожнага работы многа, але якая з валачашчагася парабка карысць, ведама — чужы. І ніхто не хоча яго браць.

— От ідзі хіба ж к папу,— кажуць нарэшце,— бо ў папа якое дзела. Паблагатаў, паблагатаў да й спажывай, што люд даў.

Пайшоў той парабак да й наняўся к папу. Але ведама поп, быў ён вельмі скупы да завідны. Бачыць ён, што людзі завіхаюцца, стараюцца сабе больш зрабіць і што ў іх усяго многа, от і хочацца яму, каб парабак згураваў людзей і нарабіў больш,

як свой сем'янін. Стараўся, стараўся парабак, а папу ўсё мала; от і застаўляе той яго, каб уставаў да свету, як запяе певень да забрэша сабака, да ішоў у гумно малаціць.

— Людзі,— кажа,— усё памалацілі, а ў нас стаіць у торпе. Гультай ты, а не парабак.

Горка парабку. Ён стараецца лепш, як сабе, пнецца з усіх сіл, а папу не ўгодзіш. Да яшчэ не так папу, як пападдзі, бо апроч свае парабкоўскае работы трэ зрабіць усё за наймічку, бо ведама, што ў папа заўжды дурная да гультаявая наймічка, якое-небудзь пакідзішча, што нічога не робіць.

— Людзі памалацілі,— гаворыць ён сам сабе,— памалацілі, бо не было чаго малаціць. Якая там лава. Як градка, а ў папа на паўпалетка. Налядаваў поўнае гумно, што й да каляд не змалаціць.

Але ўстае парабак досвітку, пне жылы да малоціць. Нарэшце надаела яму чуць не дарам рабіць папу да яшчэ ўставаць так рана, і давай ён прыслухоўвацца, які гэта певень пяе так рана і чаму з ім не абзываюцца другія пеўні. Пацікаваў ён, аж гэта пяе сам поп; запяе ён пеўнем да раскатурхае сабаку, пачне яго біць да цкаваць ім нібыта воўка. Сабака і забрэша. На другі дзень парабак укінуў сабаку ў пусты калодзеж да й спіць сабе, пакуль сонейка ўзышло, а пеўня не слухае. Пеў, пеў поп, аж яму горла апухла,— а не ўстае парабак; шукаў ён, шукаў сабаку — няма. От поп плюнуў да й пайшоў спаць. Назаўтра давай лаяць да сварыцца на парабка. А той кажа, што ніхто яго не пабудзіў, затым ён і заспаўся. Бачыць поп, што з такім парабкам піва не зварыш, і хоча ён, каб не плаціць, а каб парабак ці загінуў, ці сам пакінуў службу. А ў папа было вельмі вялізных да драпежных пяць вепрукоў. От і веліць ён парабку закалоць аднаго вепрука на каўбасы. Думае поп, што як парабак пачне калоць аднаго вепрука, то другія кінуцца бараніць яго да й разарвуць парабка.

«Што тут рабіць,— думае парабак,— нельга калоць аднаго вепрука».

От ён папрасіў дзяцюкоў, да разам і закалолі яны ўсіх вепрукоў. Пасварыўся поп, але нічога не парадзіць, трэ рабіць каўбасы да ўжываць, бо сала й мяса сапсуецца.

— От ёсць каўбасы, а няма хлеба,— кажа поп да й пасылае парабка ў пусты млын, дзе аблюбавалі сабе прытулак чэрці да ўсялякая нечысць, каб ён там намалоў мукі з мякіны й рознае бузы.

Павёз парабак тую лабазу к чартам у млын малоць. Толькі ён пад'ехаў, як тут насустрач выскачылі чэрці, памаглі яму знесці мяшкі, змалолі сваю самую лепшую пшаніцу да й насыпалі ў мяшкі таму парабку за тое, што ён першы прыехаў к ім у млын малоць. Прывозіць парабак муку, а поп як убачыў, дак аж спляснуў рукамі, бо ён дзіву даўся, што парабак не толькі не загінуў у тым млыне, але яшчэ й намалоў мукі. Спужаўся поп,

заплаціў парабку ўсю ардынар'ю нават уперад да яшчэ аддаў і тую муку, абы ён ішоў сабе, куды захоча. Забраў парабак тое дабро да й пачаў сабе гаспадараваць, «бо,— кажа,— служачы хлеб сабачы».

## ПЕРЕХИТРИЛ

Жил в нашем селе поп, да такой скупой, что среди зимы куска льда не выпросишь. Работников у него перебывало — не перечтешь. Кормил их плохо, а работать заставлял много. Наконец нанялся Вавила. Был он дотошный и любого попа мог перехитрить.

Раз задумал поп продать сено в городе. Перед тем как ехать, Вавила зашел в чулан, взял две буханки хлеба, обернул клевером и спрятал в воз: знал, что до города в день не добраться, а поп ни крошки в дорогу не возьмет.

Едут они, и Вавила есть захотел. Вынул буханку в клевере, отщипывает и ест. Поп заметил, спрашивает:

— Что ты там, Вавилушка, в рот-то кладешь?

— Да что же, батюшка, хлебца-то в дорогу не взяли, вот и жую клеверок.

— А вкусно?

— Очень даже.

А попа давно голод мучил: «Дай,— думает,— и я попробую». Набрал охапку, жует, а сам думает: «Вот работничка-то бог послал невзыскательного! Нет хлеба — и не просит».

Жует, давится, вида не показывает. А Вавила хлебушек уминает:

— Ладно, батя, еще не так проучу!

## ЯК ФУРМАН ПАПА ПРАВУЧЫЎ

Быў сабе поп, ды такі скупы, што шкадаваў слугам нават кавалак хлеба. От яго фурман і вырашыў правучыць. Поп збіраўся ў дарогу. Усё ўзяў, а есці забыўся. А фурман, як выязджаў з дому, узяў сабе хлеба і каўбасы ды й павёз папа праз лес. Ездзіў, ездзіў цэлы дзень, вазіў папа, нібы заблудзіўся, а на самай справе ён толькі так, абы той згаладаўся.

От вырашылі яны пад сціртаю сена заначаваць, бо не відна было ехаць. Фурман загарнуў хлеб у салому, а каўбасу ў сена, пасыпаў сена і салому пяском і так еў.

— Што ты ясі? — пытае бацюшка.

— А што б я меў есці, мушу есці сена з саломай.

— Дай мне трохі,— просіць поп.

Фурман скруціў яму жмут сена ды й дае. Поп жаваў-жаваў, а потым і кажа:

— Агэй, я не магу есці!

Ну, пераначавалі, едуць ужо далей. Як выехалі на дарогу, сустрэлі карчму. Зайшлі. У карчме далі ім кіслага малака з хлебам, бо іншага не было чаго даць.

А як выходзілі, дык поп пайшоў спераду, а фурман за ім. Карчмар надумаўся і крычыць ім услед:

— У мяне яшчэ ёсць маслёнка, можа, будзеце есці?

А фурман нібы не дачуў ды да папа:

— Яшчэ ёсць прасянка, можа, будзеце есці?

Поп на тое:

— Сено мякчэйшае, ды й то я не еў, а то стаў бы есці прасянку!

Як прыехалі дадому, ужо поп і наеўся трохі; аж тут ідзе дзеўка па ваду, а ён і кажа:

— Вазьмі сабе кавалак хлеба ў вядро, бо ведаеш, калі ідзеш, але не ведаеш, калі вернешся.

## БОЖЬЯ БЛАГОДАТЬ

У попа было много земли. Придет жниво, хлеб осыпается, а попу не управиться одному. А нанять на уборку — поп денег жалел. Раньше крестьяне убирали, но поп им ничего не платил.

Не пошел на этот раз никто к попу. Что делать: хлеб надо убирать, а за деньги не хочет поп нанимать.

Остановился в деревне служивый. Поп к нему:

— Братец-служивый, наймись хлеб убирать!

— А что дашь?

— Харчи, так и быть, мои, табачок твой, а деньги за богом.

— Ладно,— говорит служивый,— пойду за харчи.

Дал ему поп хлебину, сала кусок да пшенца на кулеш. Приходит солдат в поле, кулешу наварил, поел, спать улегся. Проснулся, а солнышко высоко, пшеница не кошена. Покосил малость и к попу.

— Ну как, братец, много скосил?

— Да почитай всю, батюшка,— отвечает солдат,— да на тебе, видно, благодать божья: я кошу, а пшеница следом встает, и впрямь мои деньги за богом.

— А колос-то тяжелый, зерно-то крупное?

— О, и не говори, батюшка, колос тяжелее того, что был, зерно крупнее прежнего.

Обрадовался поп. Вот, думает, благодать ко мне пришла. Объявил он всем о чуде и решил недельку переждать. Все ему хотелось собрать больше.

Ждал поп, что зерно еще крупнее станет, а хлеб осыпался. Поп с того слег, недельку похворал и умер.

## КАЛІ Б ВЫ СВІСНУЛІ

Наняўся бедны чалавек да папа служыць.

Аднаго разу пайшоў поп у поле, каб пабачыць, ці добра робяць слугі, а пападдзя гатавала абед. Засмажыла яна гуску і наймітам паслала папу. Але есці найміту пападдзя не дала. Наймiт зґаладаўся і па дарозе адну нагу гускі з'еў. Калі поп убачыў, што гуска з адной нагой, запытаў найміта:

— Дзе другая?

Найміт баяўся прызнацца і сказаў, што гэта гуска мела толькі адну нагу. Але поп гэтаму не паверыў:

— Я табе дакажу, што ўсе гусі маюць па дзве нагі!

Увечары найміт з папом ідуць дадому. Праходзілі каля рэчкі. Глядзіць найміт, а ля рэчкі стаяць гусі, і кожная на адной назе. Найміт і кажа папу:

— Бачыце, што гусі маюць толькі па адной назе?

Поп хацеў даказаць сваё і свіснуў на гусей. Гусі ўспалашыліся і паказалі другую нагу.

— Бачыш, гусі маюць па дзве нагі.

А найміт адказвае папу:

— Калі б вы свіснулі і на тую гуску, што я прынёс, яна б паказала і другую нагу, а вы паспяшаліся яе з'есці.

## САЛДАТ НА СЛУЖБЕ Ў ПАПА

У адным сяле быў поп. У яго ні адзін работнік не жыў больш як тры дні. Прычына зразумелая. Поп дрэнна карміў і прымушаў шмат працаваць. Аднойчы да яго прыйшоў наймацца адстаўны салдат.

— Колькі возьмеш з мяне за год грашыма? — пытае поп.

Салдат ужо ведаў, што поп сам грошы любіць і ён у яго не разжывецца. «Дай,— думае,— насалю яму».

— Не будзем, бацюшка, таргавацца, пазнаёмімся, а тады будзем гаварыць!

На другі дзень поп дае яму работу:

— Найперш падмажаш брычку, бо мы з матушкай паедзем у горад.

А той узяў ды дзёгцем вымазаў усё сядзенне, калёсы, падрыхтаваў, значыць, да ад'езду.

Поп як выскачыць, як пабачыў тую работу, дык мала не лопнуў ад прыкрасці. А матушка яшчэ і сварыцца:

— Ты б яму толкам растлумачыў, а то сказаў падмазаць брычку — ён і вымазаў!

Ну, паехалі яны аднойчы ў горад, а яму далі работы на цэлы дзень. Ён усё зрабіў, а ўвечары пытае:

— Бацюшка Якаў, а што мы раніцай будзем рабіць?

— Ды лажыся, не клапаціся, што людзі будуць рабіць, тое і мы.

А той падняўся, глянуў, што ў дзяка старую хату развальваюць, ён за лом ды і давай новую цясовую крышу ламаць, а сілы яму пазычаць не трэба было.

Ломам раз, два калупнуў — ужо і стаўбы паваліліся. Поп усхапіўся з ложка:

— Іван, ты што — здурэў? Ты ж заб'еш нас усіх!

— А вы не бачыце, што я і так запазніўся. У дзяка вунь ужо ўсю хату разабралі, а я толькі пачынаю!

Бачыць поп, што натрапіў камень на камень, заплаціў яму грошы напярод і разлічыў работніка.

## ЯК ПОП ПАРАБКАЎ КАРМІЎ

Жыў-быў поп. Ён быў вельмі зайздросны. Усё капіў багацце. Меў у сябе многа быдла і птушак. У сняткі ён многа збіраў з сялян падаяння. Па калядзе, калі ездзіць, то кожны павінен даць яму пару калбас і рэшата аўса. А на вялікдзень, пасвянціўшы сявалкі, браў у кожнага краюшку белага, краюшку чорнага хлеба і пару яец. А гэтымі краюшкамі карміў быдла і птушак. У яго былі два работнікі, каторых ён запугваў грахамі, што ад бацюшкі многа трэбаваць нельга, бо гэта бог не просціць.

Адзін раз на свята матушка пытаецца ў бацюшкі:

— Бацюшка, з чым сёння работнікам суп варыць?

Поп падумаў і сказаў:

— А будзем сабе яечкі варыць, ну і звары іх у супе.

Матушка так і зрабіла. У абед поп і пытаецца ў работнікаў:

— Ну як, сёння жырны суп?

— Ды не, бацюшка, зусім посны.

— Ды як посны, у ім матушка варыла дзесяць яец, павінен быць жырны.

Так карміў поп сваіх работнікаў.

## ЯК СВІНАПАСА ЗРАБІЛІ ПАПАЮ

Быў сірата — ні бацькі, ні маці, узяў яго ксёндз пад сваю апеку, і той сірата пасціў у яго свінні. Пагнаў ён свіней, распусціў іх па лесе, а сам пайшоў ды і сеў ля дарогі; а тут ехаў папа рымскі: ён ездзіў па касцёлах. Папа вылез з карэты і пайшоў пешшу дарогай, убачыў хлопчыка і пытае:

— Чый ты?

Той сказаў, што сірата.

— Што ж ты тут робіш?

— Свінні,— кажа,— пасу.

— Багата ж ты свіней пасеш?

— Сорак штук.

— А дзе ж яны?
— Ходзяць па лесе.
— А як жа ты іх пазбіраеш?
Тут быў прывязаны падсвінак, а хлопец накрыў яго світаю (падсвінка), ды й, не ведаю, як ён велічаў там таго папу, кажа:
— Як вам трэба, дык зараз жа пазбіраю ўсіх.
— Пазбірай,— кажа папа.
Пачаў хлопец душыць падсвінка; пачалі свінні збягацца і ў адну мінуту збегліся ўсе!
— Ты,— кажа папа,— так іх кожны вечар збіраеш?
— Ды так,— кажа.
Прыехаў папа да ксяндза і просіць, каб той прадаў яму хлопца, а ксёндз узяў ды й падараваў таго хлопчыка папе.
Папа вывучыў яго ў школах, а як паміраў, то пакінуў яго папаю на сваім месцы.

## ЯК ДЗЯК ДЫЯКАНА НА ПАПА ПАСВЯЦІЎ

Адзін дыякан часта ездзіў да архірэя і прасіў, каб яго зрабілі папом. Але ж у яго не было для гэтага розуму, і архірэй не хацеў яго свяціць, а ўсё адкладваў: казаў яму прыехаць то тады, то тады, а ўсё не свяціў. Але аднаго разу наказаў ужо прыехаць на пэўны час, а сам узяў і выехаў. Прыязджае дыякан, пытаецца ў дзяка архірэйскага:
— Ці ёсць архірэй?
— Няма!
— А дзе ж?
— Паехаў і цябе не будзе свяціць, бо ў цябе няма розуму!
— А навошта ж ён казаў прыехаць?
— А я ведаю навошта?
— Я прывёз 200 рублёў яму.
— Ну, калі маеш грошы, то я цябе пасвячу. Бо архірэй пакінуў тую кнігу, па якой пасвячаюць папоў. Але хадзем у лес, бо тут яшчэ хто нас пабачыць, то будзе табе, будзе і мне!
Пайшлі яны ў лес, пасвяціў яго дзяк, даў яму білет, грошы ўзяў і паехаў. Той дыякан ужо стаў папом і ў сяло прыехаў. Пачынае хрысціць, службу божу адпраўляе. Але благачынны піша архірэю: ці ён пасвячоны, ці не? Архірэй піша, што не, і кажа выслаць да сябе. Выслалі яго. Той ідзе да дзяка архірэйскага.
— А што,— кажа,— рабіць? Патрабуе архірэй!
— Дык ідзі!
Прыходзіць да яго. Архірэй пытае, хто яму гэта дазволіў і хто яго свяціў.
— А гэта ж,— кажа,— дзяк ваш!
Клічуць дзяка:
— Ты навошта яго свяціў?

— А што ж? Вы больш дурняў пасвячаеце, а як я аднаго пасвяціў, то гневаецеся! От вазьміце сабе 200 рублёў. І я яму ў білеце напісаў: «Пасвяціў Якуба каля дуба!»

— Ну,— кажа,— няма чаго рабіць! Трэба свяціць!

І ўжо на самай справе пасвяціў яго на папа.

## ПОП І МУЖЫК

Распрачаліся поп і мужык. Мужык кажа папу:

— Я цябе, як хочаш, ашукаю.

— Як жа ты мяне ашукаеш?

— Коні вазьму, з жонкі сарочку здыму, у царкву без адзення завяду.

А ў папа былі вельмі добрыя коні, прыгожая жонка.

Не верыць поп. Дамовіліся, што калі мужык усё зробіць, як казаў, дык поп дасць яму 500 рублёў.

— Ды за такія грошы я за адны суткі ўсё гэта зраблю.

«Не, хваробы. Я зраблю ўсё, каб гэтага не было»,— думае поп.

Пасадзіў поп на коней вартаўнікоў і загадаў, каб усю ноч не злазілі з сядла. А мужык узяў гарнец гарэлкі, прыйшоў да вартаўнікоў і так напаіў іх, што яны нічога не помнілі. Зняў мужык іх з коней, пасадзіў на бэльку і папрывязваў. Забраў мужык коней і прывёў у свой хлеў. Вось перад сном поп пайшоў паглядзець, ці добра вартуюць работнікі яго коней. Прыходзіць у хлеў, а коней няма. Пачаў ён лупцаваць вартаўнікоў і пытаць, дзе коні, а яны толькі мікаюць, нічога не разумеюць, думаюць, што на конях сядзяць, тпрукаюць.

Здзівіўся поп і пытае мужыка:

— Як ты дадумаўся гэта зрабіць? Я ж іх напалохаў грахом і смерцю!

— Зрабіў гэта, зраблю і іншае,— кажа мужык.

«Абажджы ж, з жонкі сарочку не здымеш»,— думае поп.

Лёг поп спаць з пападдзёю, а мужык уночы пракраўся ў спальню, набраў карэц вады і выліў на пападдзю. Прачнулася пападдзя і бачыць, што сарочка мокрая. Зняла яна сарочку і павесіла на спінку ложка. Забраў мужык сарочку і пайшоў.

Трэба ж яшчэ завесці папа без адзення ў царкву!

Налавіў мужык ракаў, прыклеіў да іх свечачкі, запаліў і пусціў на падлогу ў царкве. Убачыў гэта вартаўнік, прыбягае да папа і крычыць:

— Бацюшка, цуд, святыя прыйшлі ў царкву, свечкі запалілі. Хутчэй, а то пойдуць.

Ускочыў поп з пасцелі, у адных споднiках пабег у царкву. Бачыць — рухаюцца свечачкі па царкве, а здалёку нічога не відаць. Ён бягом у царкву, а мужык і зачыніў царкоўныя дзверы.

— Ну, бацюшка, завёў я вас?

— Ах, гэта ты так накпіў, ашуканец! Але ж з жонкі сарочкі не зняў, таму і плаціць не буду,— кажа поп.

— А гэта што? — дастае мужык сарочку пападдзі і паказвае папу.

Пачаў поп прасіцца, каб мужык яго выпусціў. Абяцаў аддаць і пяцьсот рублёў і яшчэ ў прыдачу аднаго каня.

## ПОП, ЯКІ СТАЎ КАНЁМ

Ехаў поп параю коней, а яго адзін конь і здох. Поп глядзіць — аж пасуцца чумацкія коні недалёка. Ён і кажа парабку:

— Ідзі ж ты ды стань за гарою, а я пайду ў чумакоў каня вазьму.

Прыходзіць. Чумакі спяць. Ён каня ўзяў, завёў да воза, запрог, а сам пайшоў і спутаўся ў пута з другім канём. Чумакі прачнуліся: то быў конь, а цяпер стаў поп...

Прыходзяць ды й кажуць:

— Быў конь, а цяпер поп...

А поп і кажа:

— Гэта я раней быў папом, але саграшыў, а бог пакараў мяне — і я стаў канём.

Яны й кажуць:

— Ну прабачце, бацюшка, вы былі трохі ленаватыя, мы вас часта бізуном шлёгалі.

Распуталі і пусцілі яго.

Ён пайшоў, сеў і паехаў дадому іхнім канём, і трымаў яго, пакуль ён старым ужо не стаў, той конь. Потым адкарміў яго сухарамі і вывеў прадаваць. Той конь так іграе, што ніяк і не стрымае яго парабак. Хто падыдзе купляць, то тыя самыя чумакі падыходзяць і гавораць:

— Не купляй, гэта не конь, гэта поп.

Людзі глядзяць на чумакоў ды пытаюць:

— Што за поп?

А яны й кажуць:

— Ён саграшыў, дык яго бог пакараў ды зрабіў канём. Ён у нас быў, а як яму бог дараваў, то мы тады яму даравалі. А цяпер ён зноў саграшыў і зноў зрабіўся канём. Не купляйце, гэта поп!

Прыйдуць ды й кажуць пад вуха каню:

— А бачыце, бацюшка, было б вам не грашыць, а то вас зноў бог пакараў...

## ПОП СТАЎ ЧОРТАМ

Былі-жылі сабе тры браты — два зваліся Кандраты, а наймешны Ванькаю. Зямлі ў іх не было. Рабілі на пана. От памер-

ла іх родная маці. А ў іх не было чаго ні есці, ні дроў, каб нацяпліць хату. От старшы брат і кажа:

— Ты, Кандраце, бяжы і дзесьці дабудзь хоць пшана, каб наварыць куляшу, а ты, Ванька, бяжы ў лес па дровы, а я зраблю маці труну.

Так і зрабілі. Іван пайшоў у лес з вяроўкай і сякерай. І прыгадалася яму дзедава апавяданне пра скарб.

...Некалі набягалі на нашу родную Украіну татары і ўсё забіралі: жывёлу, хлеб, усякія каштоўнасці і ўсё, што пад рукі трапляла. Людзей забіралі з сабой у Крым. Там у іх людзі былі рабамі. Так адзін раз татарва наскочыла і забрала яго бацьку. Бацька дзесяць гадоў быў рабом у татарына, але яму пашанцавала ўцячы. Ён перайшоў Перакоп і сустрэў другога такога, як сам, што ўцякаў з рабства. Але той другі быў не такі... От той чалавек сказаў бацьку: «Калі ты мне паможаш уцячы, то я табе дам золата». Бацька згадзіўся яго абараняць пры нагодзе. Так яны дайшлі аж да Савур-магілы, і ўкусіла таго чалавека гадзюка. Ён ужо паміраў і прасіў бацьку, каб той пахаваў яго. Бацька яму нагадаў пра золата. Той крыкнуў: «Золата!» Схапіў шапку і памёр. Бацька забраў у яго шапку, разарваў і там знайшоў паперы. Бацька быў пісьменны ды й прачытаў іх і даведаўся, што той чалавек быў яго панам. На адной паперцы былі тры стрэлачкі, а пасярэдзіне кружок і напісана літара «З». Бацька здагадаўся, што там золата, але не ведаў, дзе яно. Ён са злосці парваў паперы і не пахаваў пана, бо ён з яго здзекаваўся. «Ой, сын, як бы ты знайшоў тое золата, было б добра».

Такая была некалі размова з дзедам...

Іван спыніўся каля трох ялінак. Яны раслі трохвугольнікам, а пасярод стаяў сухі сталетні дуб. Іван нешта крыкнуў, секануў дуб, а з яго пасыпалася золата. Ён яго забраў і пабег дадому. Старэйшаму брату паказаў золата і сказаў, што там яго вельмі багата. Прыйшоў і сярэдні брат ды й гаворыць:

— Казаў поп, што без грошай не будзе хаваць нашу маці.

Старэйшы расказаў пра золата сярэдняму. Параіліся яны, пайшлі і набралі тры клункі золата.

Старэйшыя браты надумалі схаваць скарб, а меншаму далі жменю золата і паслалі да дзяка, каб пачытаў псалтыр.

Іван скора вярнуўся. Брат яму сказаў:

— Бяжы на двор і сцеражы — як будзе ісці дзяк, то свіснеш.

Іван узяў кол. Дзяк толькі ў вароты, а ён яго луп! па ілбу, дзяк раўнуў і ўпаў на зямлю. Іван пайшоў у хату ды й кажа:

— Дзяк ідзе.

А старшы:

— А чаго ж ты не свіснуў?

— Ды я яго як свіснуў, то ён упаў, як свіння, раўнуў, як бык, і выставіў язык,— адказвае Іван.

Выбеглі браты, адлілі дзяка, далі яму золата, і ён пачаў чытаць.

Івана паслалі да папа, каб пахаваў маці. Далі і яму жменю золата. Поп аж затросся, як браў золата. Ён пачаў да Івана яхідна чапляцца:

— Не прыду хаваць маці.

— Чаму, бацюшка?

— А дзе ты ўзяў золата? Можа, каго зарэзаў або забіў ці абрабаваў? Тут без граха не абышлося. Калі хочаш, каб пахаваў маці, прызнайся, дзе ўзяў золата?

Іван расказаў. Поп аж затросся, як пачуў. І сказаў:

— Ідзі. Прыду хаваць маці.

Ну і пахавалі. Браты палеглі спаць. Але чуюць, штосьці злазіць з хаты. Браты засвяцілі агонь, аж выходзіць чорт з драцяным бізуном і пачаў іх біць і дапытвацца:

— Дзе золата тое, што вы забралі?

Іван кажа, што яно панскае і ён яго аддаў яшчэ прадзеду, але той яго не знайшоў, а мы знайшлі, і яно наша. А чорт яму:

— Я чортаў бог Калла і мне гонар не малы. Я судзіў таго пана, дык ён аддаў мне тое золата, каб я яго пусціў у рай. А вы яго забралі.

Тут Іван адскочыў да печы, ухапіў качаргу і ўдарыў ёю чорта. Чорт упаў, браты яго дабілі. Зараз жа паслалі Івана капаць за хатаю яму на чорта, а самі сабраліся ўкінуць яго ў мяшок. Аж бачаць, што гэта поп у казлінай шкуры.

Браты Івану таго не сказалі. Выцягнулі яго за хату і закапалі.

Мінула сорак дзён. Пападдзя думае, што поп дзесьці прапаў. Яна склікае людзей і спраўляе па яму абед. Пазвалі на памінкі і братоў. Іван напіўся і надумаў учыніць штуку ды й кажа:

— Матушка, а я ведаю, дзе ваш бацюшка.

— То скажы, як ведаеш, Іване.

Іван расказвае:

— Мы знайшлі золата, прызналіся бацюшку, а ён хацеў ноччу забраць, то мы яго забілі і закапалі за хатаю.

Братоў звязалі, прывялі дадому, а Івану загадалі адкапаць. Іван выкапаў, ухапіў яго за рогі і гукае:

— Матушка, а які наш бацюшка, бязрогі ці з рагамі, бо той з рагамі.

Усе паглядзелі, аж у яме казёл. Пасмяяліся ды й выпусцілі ўсіх братоў на волю, а пра скарб і не дапытваліся.

## НЕ ПАМЫЛІЛАСЯ

У адным сяле жыла бедная ўдава. Хата ў яе старая, паганая. У сенцах дзверы паламаныя. От і прызвычаілася суседская свіння адчыняць дзверы ў сенях.

Было гэта зімой. Па сялу хадзіў поп з крыжам, зайшоў і да тае ўдавы і толькі стукнуў дзвярыма ў сенях, а жанчына і крычыць, не адчыняючы дзвярэй з хаты, каб холаду не напускаць:

— Чу-чу! Куды ты са свінячым рылам лезеш?

А тут бацюшка ў хату, дык яна і рукі апусціла і кажа:

— Прабачце, бацюшка, я думала, што суседская свіння, а вы, бацюшка, застукалі дзвярыма ну зусім так, як свіння.

## ВАРТЫ ДВУХ САБАК

Аднойчы сабраліся сяляне ды й гавораць:

— Хто не курыць і не нюхае табакі, то не варты і сабакі.

А поп, які быў тут, і пытае:

— Дык і я, атрымліваецца, не варты сабакі?

А адзін яму і адказаў:

— Э, не, бацюшка, вы варты двух сабак ды яшчэ і добрых.

## БЕДНЫ ІВАН І ПАПАДДЗЯ

Даўным-даўно жыў сабе бедны найміт Іван. Ды так ужо бедна жыў, што й не сказаць. Думаў Іван, думаў ды і надумаўся пайсці на заработкі.

Ішоў дзень, ішоў два, а на трэці дзень пад вечар прыйшоў у адно сяло ды й пайшоў да папа на работу наймацца. Папа не было дома, дзесьці адпраўляў службу божую ў другім павеце. Пагаварыў Іван з пападдзёю ды і застаўся на ноч.

Кажа яму пападдзя:

— Ёсць у мяне работа, не лёгкая і не важкая. Як добра зробіш — добрыя грошы заплачу.

Іван не меў заработку, дык і згадзіўся.

От і кажа яму пападдзя:

— Памёр нядаўна наш бацюшка і папрасіў перад смерцю, каб яго пахавалі ў мяшку, у рэчцы, у начны час, тады яго душа хутчэй у рай трапіць.

Здзівіўся Іван, але пра гэта не сказаў ні слова: «Як у рэчку, дык і ў рэчку, чорт з ім. Як яму так захацелася, аднясу». Іван і не ведаў таго, што мінулай ноччу начавалі ў пападдзі тры багатыя папы і што пападдзя, калі ўбачыла ў іх багата грошай, падліла атруты ў наліўку ды й адправіла іх грэшныя душы на той свет, а цяпер яна хоча і сляды змыць.

От павяла пападдзя Івана ў цёмную камору, дала яму мяшок з папом ды й кажа:

— Глядзі ж, кідай аж пасярэдзіне рэчкі.

Узяў Іван мяшок на плечы, аж прысеў, і панёс да рэчкі. Прынёс, укінуў у рэчку ды й кажа:

— Ну й цяжкі такі, відаць, грахоў багата, заважылі; плыві цяпер у рай ці ў пекла, па мне куды хочаш.

Ідзе Іван да пападдзі ды й думае: «Ну, добра зрабіў». А пападдзя сустрэла яго ды й кажа:

— А як жа ты, сякі-такі, насіў, калі ён вось тут і ляжыць?

Пачухаў Іван патыліцу: «Вось дык штука». А пападдзя яго падганяе:

— Бяры мерцвяка ды нясі, а то праз цябе, лядашчы, мой бацюшка і ў рай запозніцца.

Нечага рабіць, узваліў Іван мяшок на плечы ды й панёс. Укінуў папа ў рэчку, стаў ды й глядзіць, ці не будзе зноў вылазіць. Не. Выцер Іван мокрую чупрыну ды й пайшоў да пападдзі: «Ну, цяпер ужо,— думае,— адпачну».

Ды дзе там! Не паспеў ён на парог ступіць, як пападдзя ўжо сіпіць:

— Ну, ужо як такіх наймаць, то толькі грошы плаціць! Як жа ты, чортаў сын, робіш, мяшок з папом зноў дома. Можа, ты яго і не насіў?

Раззлаваўся Іван ды й кажа папу, што ў мяшку:

— Ну, цяпер ты ў мяне не ўцячэш!

Ускінуў мяшок на плечы трэці раз і прынёс да рэчкі. Прынёс, паставіў мяшок на беразе, знайшоў камень, прывязаў ды й укінуў з самага крутога берагу.

— Ху! — зіхнуў Іван і паплёўся да пападдзі, ледзьве ногі нясе.

Ішоў ён, ішоў, калі глядзь — з другога канца ідзе бацюшка з крыжам і прама да матушкі ў двор (гэта ж бацюшка вяртаўся досвіткам са службы божай дадому). Як глянуў Іван, аж сэрца ў яго забілася:

— А, дык я цябе нашу адною дарогай, а ты ўцякаеш дадому другою? Злавіўся! Я табе набегаю!

Схапіў Іван камень і забіў папа. Забіў, закінуў на плечы і пабег да рэчкі бягом, бо ўжо пачынала світаць. Бег, ад злосці не адчуваў ні стомы, ні ног пад сабой не чуў. А стораж з калатушкай як закрычыць:

— Хто ідзе?

— Чорт папа нясе! — адказаў Іван ды й пабег. Прынёс да рэчкі, прывязаў два камені да шыі ды й укінуў з крутога берагу.

— Цяпер жа,— кажа,— ты не вылезеш!

Ды й завярнуўся да пападдзі. Ідзе ды й думае: «Бач, які святы ды божы, ані сораму, ні сумлення; я яго адной дарогай нашу, а ён другой уцякае. Хацеў замарыць чалавека, а яшчэ яму ў рай».

Прыйшоў Іван, а пападдзя яго сустракае радая ды вясёлая.

— На ж,— кажа,— Іване, табе грошы за работу, цяпер жа ты маладзец, бацюшка не вярнуўся.

Узяў Іван грошы ды й кажа:

— Як бы ведаў, што мне з вашым бацюшкай такая марока будзе, то й не браўся б. Толькі аднёс яго ў трэці раз, вяртаюся да вас, аж глянуў — з другога боку прама ў двор бяжыць ды яшчэ й з крыжам. Узяла мяне злосць, думаю: «Дык дакуль я за ім буду бегаць?» Як трахнуў камянюкаю, схапіў на плечы ды ў рэчку яго, яшчэ й два камені да шыі прывязаў. Цяпер ужо чорта вылезе!

— А-а-а! — закрычала пападдзя ды й самлела.

— Вам і сам чорт не ўгодзіць! — сказаў Іван ды й пайшоў сваёй дарогай работы шукаць.

## АБ ТЫМ, ЯК КСЯНДЗЫ ВЫЛЕЧЫЛІСЯ

Тры гладкія, атылыя ксяндзы сабраліся ехаць на воды лячыцца. Яны растаўсцелі, як адкормленыя вепрукі. Чаго яны ні рабілі, якіх зелляў не прымалі — нічога не памагае. Дахтары кажуць, што ім трэ' ехаць на воды, дык там лою збудзе. Паехалі ксяндзы па панох збіраць грошай на дарогу.

От прыязджаюць яны к аднаму пану і жаляцца яму на сваю бяду. Просіць пан ксяндзоў падсілкавацца ды пераначаваць. Заначавалі ксяндзы. От пасадзіў пан іх вячэраць да так участаваў, што ксяндзы і заснулі пры стале. Храпуць ксяндзы на ўсе застаўкі, спяць так моцна, што хоць з гармат страляй — не пачуюць. От пан і вялеў іх раздзець, перанесці ў бровар ды й палажыць там разам з браварскімі работнікамі. Прачухаліся назаўтра трохі ксяндзы, але не ведаюць, дзе яны. Але ось і будзяць дзецюкоў набіваць картаплянік. Падняліся ксяндзы і не хацелі йсці на работу, але як перацёг іх наменік бізуном, нябось, пайшлі. Робяць ксяндзы разам з другімі ўсё, што трэ' ў бровары, разам ядуць, разам спяць і ніяк не могуць з бровара вырвацца. От праходзіць нядзеля-другая, і пачало з ксяндзоў спадаць сала, а цераз нядзель пяць яны падгіндзіліся, як харты. Паглядзяць адзін на другога — і пазнаць не могуць, так выпетралі за гэтыя пяць нядзель. Думалі ўжо ксяндзы, што гэта іх чэрці ўхапілі ды й засадзілі ў бровар на пакуту; думалі, што ўжо ім ніколі адтуль не выбавіцца. От раз вялеў пан даць браварскім работнікам вядро гарэлкі, а ксяндзам — лепшае гарэлкі, самае моцнае. Напіліся яны і без памяці пассоваліся ў бровары каля катла. От як ксяндзы моцна заснулі, пан вялеў перанесці іх у ахвіцыну і палажыць там, дзе яны ляжалі першую ноч. Прахапіліся назаўтра ксяндзы і трасуцца, спалохаліся, што позна спалі; баяцца, каб наменік не лупцаваў іх бізуном; сталі скарэй апранацца, але бачаць — аж каля іх ляжыць ксяндзоўская адзежа. Дзівяцца ксяндзы і вачам не вераць. Адзеліся яны, але ось прыходзіць пан, заве гарбату піць. Стаў гэта пан частаваць ксяндзоў ды й пытае, куды яны думаюць ехаць на воды.

— Не,— кажуць ксяндзы ў адзін голас,— цяпер не трэба ехаць на воды, бо мы ўжо вылечыліся.

От як пан вылечыў ксяндзоў.

## ТРЫ КСЯНДЗЫ

Даўней ксяндзы валачыліся па свету да дурылі людзей, каб яны слухалі паноў, шчыра рабілі да давалі на хвалу божую. А дзе там тое бог бачыў. Людзі дадуць, а ксяндзы да паны сажруць. От раз сышліся разам тры ксяндзы: езуіта, барнадын да капуцын. Блізка не было двара, каб наесціся да напіцца ў пана. Ведама, паны заўжды ксяндзоў паважалі да частавалі. Няма чаго рабіць, трэба пацярпець. Пайшлі яны разам да й заходзяць пасілкавацца ў адну карчомку. Зайшлі ў алькерык да й сказалі сабе даць гарэлкі да закускі. Карчмар быў бедны да на той час апрача гарэлкі ў яго нічога не было. Бо, ведама, у малых карчомках заўжды нічога няма. Мужыкі п'юць гарэлку да закусваюць языком, а хто хоча, канешне, закусіць, то з дому прынясе з сабою ў кішэні ці за пазухаю галоўку кіслае капусты, акраец хлеба, таран, агурок або абы-што. От ксяндзы лыкнулі мо па адной ці па другой чарцы, а закусіць нечым. Бачаць яны, аж на двары каля абозні ходзіць курыца. Давай яны яе лавіць. Бегаюць ксяндзы, падняўшы полы, а курыцы не могуць злавіць. Бегала яна, бегала туды-сюды, а за ёю ксяндзы; нарэшце згубіла яйцо да й залезла дзесь пад абозню.

Схапілі ксяндзы тое яйцо да й вялелі гаспадыні яго зварыць. Зварыла да падала гаспадыня яйцо. Не ведаюць ксяндзы, як яго падзяліць. Рахавалі яны, рахавалі, але нічога не ўрадзяць. Нарэшце атаўбаваліся на тым, што той з'есць яйцо, хто лепш другіх прыкажа. Узяў першы капуцын яйцо, пачаў яго лупіць да й прыказвае:

— Ачысць яго ад шкарлупы няпраўды.

Толькі ён хацеў палажыць тое яйцо ў рот да праглынуць, як вось з яго рук бярэ барнадын. От узяў ён яйцо, пасыпае яго соллю да прыказвае:

— І пасалі яго соллю мудрасці.

Сказаўшы тое, хацеў ён палажыць яйцо ў рот да з'есці. Але вось бярэ тое яйцо ў яго з рук апошні ксёндз езуіта. Ён зірнуў на сваіх таварышаў да й кажа:

— Ачысціўся ад шкарлупы няпраўды, абсыпаўся соллю мудрасці, дык увайдзі да хвалы твайго пана.

Пры гэтых словах езуіта ўнёс яйцо ў рот да й праглынуў.

От з тых часоў годзі капуцыны і барнадыны таварышаваць з езуітамі.

## МУЖЫК, ПАН І КСЁНДЗ

За штосьпан вельмі абазліўся на ксяндза. От і захацелася яму накпіць над ксяндзом, але так накпіць, каб ксёндз не дагадаўся, хто гэта так зрабіў. Думаў-думаў пан, нічога не прыдумае. Сядзіць пан сярдзіты ды толькі вусы кусае. Тым часам прыходзіць к яму мужык. Бачыць мужык, што пан вельмі моцна штосьдумае, ды не можа агарнуць сваею панскаю галавою, і захацелася яму памагчы пану сваім дурным мужыцкім розумам.

— Памагай бог, паночку! — кажа мужык і цялюх пану ў ногі.

— Табе што? — пытае пан.

— Паночку дарагенькі,— кажа мужык,— пан штосьдумаеш вельмі моцна; скажы мне, можа, я памагу сваім дурным мужыцкім розумам,— і плюсь пана ў руку.

— Што ты,— кажа,— паможаш! Мне трэ' накпіць над тым галганам ксяндзом.

— Добра, паночку. Заўтра пан пабачыць, як я накплю над ксяндзом.

— Ну, глядзі, калі добра зробіш, то заплачу, а калі не, то з'ясі бізуноў.

— Слухаю,— кажа мужык.

І пайшоў на раку. Налавіў гэта мужык ракаў, папрыклейваў ім свечачкі, папускаў ракаў у садзе перад ксяндзоўскімі вокнамі ды й пазапальваў свечачкі. Поўзаюць ракі. Вечар ціхі, як у вусе. Гарацьсвечачкі ў траве, бы зоркі. Падышоў мужык пад вакно і кліча ксяндза.

— Хто там? — пытае ксёндз.

— Анёл з неба.

— А чаго ён прыйшоў?

— Па ксяндзоўскую душу. Велена яе аднесці ў неба.

Рад ксёндз. Адчыніў ён акно, зірнуў — аж у траве гарацьсвечачкі, бы зоркі. Паверыў ксёндз ды й высунуўся ў вакно. Мужык падставіў мех, а ксёндз шусь у мех. Ускінуў мужык мех на плечы і папёр у свінушнік, кінуў там мех з ксяндзом і запёр дзверы. Назаўтра, ужо сонейка высока, мужык пайшоў к пану і просіць, каб пан прадаў яму парсюка. От пан і пайшоў з мужыком к свінушніку паглядзець парсюка. Падходзяць яны туда. Скрыгічуць свінні ў свінушніку, аж дзверы грызуць. От адчынілі дзверы, выбеглі свінні. Зірнуць яны ў свінушнік, аж там сядзіць у вугле ксёндз у адной сарочцы, чуць жыў ад страху.

— Чаго гэта,— пытаецца пан,— сюды забраўся ксёндз-дабрадзей?

Маўчыць ксёндз, зубы сцяўшы: так яму сорам.

Пасмяяўся пан і даў мужыку многа грошай.

## ДВА БРАТЫ

Былі сабе два браты: адзін быў вельмі багаты, другі — бедны. Ды яшчэ так было: багаты ды на багатай ажаніўся, дык яшчэ і больш стаў багатым, а беднаму давялося на беднай ажаніцца, дык яшчэ стаў бяднейшым. У багатага кожны божы дзень музыкі іграюць ды весяляцца, а ў беднага і агню няма ў каганцы. У багатага ж быў толькі адзін-адзіны сын, а ў беднага аж чацвёра, ды ўсіх жа трэба накарміць ды напаіць... у багатага і найміты, і наймічкі — усіх хлебам корміць, а беднага брата і малаціць да сябе не пускае.

Сядзіць раз бедны брат са сваёй жонкай, раяцца, дзе б гэта хлеба зарабіць сабе. От жонка і кажа яму:

— Што ж, чалавеча, у цябе брат багаты: пайдзі да яго ды папрасі хоць памалаціць што-небудзь, бо ўжо вось апошні хлеб даядаем.

— Ну то што ж, пайду.

Прыходзіць да варот, а брат на дварэ быў; як убачыў, што ён ідзе, то зараз да яго і бяжыць.

— Чаго ты,— кажа,— ідзеш да мяне? Хіба хочаш, каб з мяне людзі смяяліся, як з цябе?

— За што ж яны, браце, будуць смяяцца? За тое, што я бедны, а ты багаты? Я ж твой брат.

— Дык што з таго, што ты мне брат? Ёсць у мяне браты не такія, як ты, а такія, як я.

— Дык хоць яны такія багатыя, як і ты, а я твой брат бедны, то пусці мяне да сябе хоць кавалак хлеба зарабіць.

— Не,— кажа,— брат, нягожа мне са старцамі знацца.

— Ну, калі табе сорамна, дык не называй мяне братам, а заві хоць парабкам.

— Не,— кажа,— усе ведаюць, што ты мой брат.

— Ну, дык калі не хочаш мяне наняць, то дай мне мяшочак хлеба, бо дома дзеці галодныя сядзяць. Апошняе даядаем.

— Не, брат, не дам. Я яшчэ для цябе не нажываў. А ты пайдзі зарабі, а да мяне не хадзі.— А сам ляпнуў веснічкамі ды й пайшоў. Застаўся бедны каля варот, падумаў: «От, госпадзі літасцівы, дзе ў бога праўда?! Ну, бог з табою, браце». Насунуў шапку ды й пайшоў дадому.

А жонка чакае.

— Пачакайце,— кажа,— дзеткі, пайшоў бацька да дзядзькі, то прынясе мукі, то я напяку хлеба, дык будзеце есці! (А сама такая радасная.) Калі ж глянула — ідзе чалавек, а слёзы з вачэй, як гарох, так і коцяцца.

— А што, чалавеча, зарабіў? Цяпер,— кажа,— будзем есці.— А сама так і загаласіла.

— Што ж, жонка, не плач. Гасподзь дасць,— пайду ў горад, то там і зараблю.

— А што табе брат сказаў?

— Дык які ён мне брат, калі ён мяне за брата і не лічыць.
— То хоць бы ты ў яго парабкам стаў.
— Ды й за парабка не бярэ, бо, кажа, усе ведаюць, што я яго брат.
— Ну, няхай жа яго бог пакарае... Ідзі ў горад, ці не паможа тебе бог чаго зарабіць.
Сабрала тое, што не даелі раніцай, дала дзецям павячэраць, а самі паселі ды глядзяць на іх, ды плачуць, бо нечага было есці. Паклала жонка дзетак спаць, сама памалілася богу, таксама лягла. А ён, небарака, не ведае, што рабіць: ці лажыцца, ці зараз ісці ў горад, бо ўжо як прачнуцца дзеці, то сам як хочаш, а ім давай есці.
— Ну што ж, чалавеча, сядзіш, чаму не лажышся?
— Ды што з таго, што лягу? Дзе мая торба?
— Навошта табе?
— Пайду. А ты гадуй дзетак, як сама ўжо ведаеш, пакуль я прыйду з горада.
Узяў торбу ды і пайшоў.
Прыйшоў у горад і наняўся да купца жыта, ці што, перасыпаць. Прарабіў у купца тыдняў са тры і зарабіў рублёў з трыццаць грошай.
— Ну,— кажа,— слава табе госпадзі, будзе на харч.
Пайшоў на базар, купіў солі, купіў хлеба, купіў сала — рублёў з пяць страціў. «А з гэтымі,— кажа,— пайду дадому, каб жонка бачыла, што недарма рабіў».
Прыходзіць у сваё сяло. Ідзе каля братавай хаты, а ў яго дварэ гоман такі, што аж копаць да неба ідзе. Падышоў да варот, адчыніў веснічкі, аж там музыкі іграюць, камедыі прадстаўляюць.
— Вось дык так. А ў роднага брата і святла няма ў хаце. Ну, бог з ім, няхай сабе цешыцца.
Прыходзіць да сваёй хаты ды й стукае ў дзверы.
Жонка ўсхапілася ды й да дзвярэй.
— Хто такі?
— Твой мужык.
Адчыніла.
— Ну, слава ж табе госпадзі, што цябе бог прынёс.
Увайшоў у хату — дзеці спяць: хто на лаве, хто на печы, хто ў запечку пад дзяружкай згарнуўся; як пачулі, што бацька прыйшоў, дык усе і ўсхапіліся. Той кажа: «Тата, дай хлеба», той: «Дай, тата, сала, дай сала». Развязаў торбу. Як накінуліся дзеці, як саранча, даруй божа: той за сала, той за паляніцу, той на печы, той на прыпечку, той на падлозе — сядзяць, ядуць.
— Ну, а гэта ж табе, жонка, гасцінец.— Выняў дваццаць пяць рублёў, дае. Жонка як убачыла, то аж затраслася, бо як выйшла замуж, то ў яе столькі не было. Паклалі дзяцей спаць, і самі пaляглі. Раніцай усталі, жонка і кажа:
— Ну, муж, слава табе госпадзі, у нас цяпер грашаняты

ёсць, ідзі ж цяпер у горад ды купі хлеба, купі солі, купі мне чобаты або і сабе купі, каб з нас хоць людзі не так смяяліся.

— Добра, пайду.

Пайшоў. Прыходзіць у горад. Ідзе вуліцай, калі глядзіць — стаіць гурт людзей і штосьці гавораць. «А пайду хоць пагляджу, што там такое». Падыходзіць да таго гурту, пытаецца ў чалавека:

— Што тут такое, дзядзька?

— Ды гэта прадаюць валацугу.

— Якога валацугу?

— Ды ці падушнага, ці што, не заплаціў ды вандраваў цэлы год, дык яго злавілі, ды ў турмах з год пратрымалі, ды гэта прадаюць — хто ўнясе за яго грошы дваццаць пяць рублёў, то той да сябе і возьме яго... і ён ужо таму адробіць тыя грошы, што за яго заплацяць.

— Чаму ж вы, дзядзька, не возьмеце?

— А куды я вазьму? Хіба можна да сябе зладзеяў прымаць? Ідзі вось паглядзі, які стаіць?

Прасунуўся ў натоўп — стаіць здаровы хлопец пасярод гурта, і вяроўкай рукі назад звязаны, а ўраднікі выкрыкваюць:

— Хто дасць дваццаць пяць рублёў за гэтага хлопца, то няхай бярэ яго да сябе,— ён таму адробіць яго грошы.

Злодзей стаіць панурыўшыся ды і кажа:

— Вазьміце мяне, людзі добрыя, хто ў бога верує, я таму адраблю яго грошы.

Бедняку шкода стала хлопца: «А ну, што бог дасць — вазьму яго ды выкуплю: будзем удваіх рабіць,— ці не лепш пойдзе заработак».

Прапіхнуўся аж да ўраднікаў ды й пытаецца:

— А на колькі гадоў гэты хлопец прадаецца?

— На адзін год.

— А там?

— А там як ён сам захоча: захоча — будзе служыць яшчэ, а не захоча — адыдзе ад цябе,— тады ён ужо вольны будзе.

Выняў грошы, аддаў:

— Дык наце ж вам за яго дваццаць пяць рублёў.

Узялі ўраднікі грошы, запісалі, каму злодзея здалі на парукі, тады ён развязаў злодзею рукі:

— Хадзем, нябожа.

Злодзей пакланіўся яму.

— Дзякуй табе,— кажа,— дзядзечка, што цябе гасподзь навёў на думку мяне выкупіць.

Пайшлі. Вядзе яго бедны ў сваё сяло, ды, дарогаю ідучы, зажурыўся. Злодзей і пытаецца:

— Чаго ты, дзядзька, журышся?

— Не,— кажа,— я не журуся.

— Не, дзядзька, журышся.

— Чаго ж мне журыцца?

— А таго, што ты мяне выкупіў, ды яшчэ й зладзюгу.

— Эге, сыне, гэта праўда. А ты ведаеш, нябожа, што ў мяне толькі і было, што дваццаць пяць рублёў,— то за апошнія я цябе і выкупіў.

— Ну, дзядзька, не журыся.

Ідуць. Прыйшлі дадому. Жонка глядзіць у вакно — думае сабе: «Каго гэта ён вядзе з сабою?»

Увайшлі ў хату:

— Вось, на табе, жонка, купіў.

— Што купіў?

— Ды вось, глядзі, якога парнюгу.

— Ды няўжо ж?

А сама ў слёзы.

— Што ты нарабіў. Самім нечага есці, дзеці з голаду пухнуць.

А хлопец сеў на лаве ды й кажа:

— Не лайцеся, цётка, не журыцеся. Дзякуй вашаму мужыку, што ён мяне выкупіў, а я вашы грошы вам хутка адраблю. Яшчэ і так, што й хлеб будзеце за мною есці.

Пасядзеў трошкі, пасядзеў:

— А што, цётка, ці ў вас ёсць што на вячэру, ці не?

— Дзе ж яно возьмецца, хіба ж вы не бачыце, што ў нас і гаршкоў няма, ды мы не знаем, у чым што і варыць.

Пасядзеў той хлопец ды й выйшаў з хаты. Праз нейкі час стукаецца ў дзверы:

— Дзядзька, адчыні.

Адчыніў бедны хату.

— А наце, дзядзька, вось дзецям вячэру прынёс.

Калі туды — аж ён поўны прыпол усякага харчу трымае. Як пачулі дзеці пра вячэру, дык не далі яму і на стол пакласці: хто за сала, хто за паляніцу, хто на печ, а хто ў запечак... Ужо й цётка трошкі не тая стала, адышла злосць:

— Дзякуй табе, хлопча.

— Няма за што, цётка, дзякаваць. Сядайце вось — павячэраем разам.

Селі і павячэралі гуртам, богу памаліліся, палеглі спаць.

Раніцай паўставалі:

— А што, дзядзька, будзем працаваць? Трэба штосьці прыдумаць, а то без дзела будзе ніякавата.

— Дык што ж рабіць?

— Як няма гаспадаркі, то давайце хоць пляцень будзем плесці каля двара.

— Дык галля няма.

— Ну, дык заўтра будзе галлё.

— Ды няма ж грошай.

— Дык і грошы заўтра будуць. А хто гэта, дзядзька, побач з вамі жыве?

— Не пытай, нябожа.

— А што ж такое?
— Гэта,— кажа,— брат мой жыве,— а сам аж уздыхнуў.
— Такі багаты, ды вам пры беднасці нічога не дае?
— Ды ён і веснічкі зачыняў, не тое, каб што даваў.
— Гэтакія багатыя браты? Э, пачакай жа, дзядзька, ён некалі будзе даваць.

Пагаварылі сабе ды й пайшлі ў хату. (На дварэ гаварылі.) Цяпер ужо селі вячэраць не за голы стол, ужо штосьці было на стале. Палеглі спаць. Як ужо дзядзька з цёткаю заснулі моцна, хлопец ціхенька падняўся, выйшаў з хаты, прычыніў за сабою дзверы, пайшоў прама да пана. Забраўся да яго ў камору, разбіў скрыню з грашыма, набраў поўныя торбы чырвонцаў ды й пайшоў. Прыйшоўшы дадому, пайшоў на гарод, выкапаў яму, закапаў торбы з грашыма, а трошкі грошай паклаў сабе ў кішэню. Пайшоў у хату й лёг.

Раніцай усталі, паснедалі. Хлопец пасядзеў, пасядзеў, а пасля вымае з кішэні аж цэлых сто рублёў:

— А наце ж, дзядзька, вось вам за тое, што вы мяне выкупілі.

А пасля вымае яшчэ сто рублёў:

— А гэта табе, цётка, каб ты не лаялася са сваім мужыком за тое, што ён мяне выкупіў.

Як убачыла яна тыя грошы, як бухнецца яму ў ногі:

— Дзякуй жа табе, мой галубчык!

Ды раз, ды другі, аж хустка ў яе з галавы звалілася. А дзядзька дык ужо не ведае, што й рабіць,— толькі плячыма паціскае ды падцмоквае.

— Ну, дзядзька, цяпер паедзем у горад ды купім, што трэба ў гаспадарцы.

Паехалі ў горад. Купілі каняжыну, купілі пару валоў, купілі карову з целем, купілі воз. Прыехалі дахаты. Сталі гаспадарыць патроху.

Багаты брат дзівіцца.

— Што гэта,— кажа,— у майго брата невядома адкуль узяліся валы, конь і карова?

А жонка кажа:

— А зладзюга нашто?

— Дык то зладзюга ён быў калісьці, а цяпер ён ужо не злодзей, бо я чуў, што ён выкуплены.

— А дзе ж яны грошай набралі?

— Ды пра тое ўжо ім ведаць. Можа, у таго злодзея яшчэ даўнія грошы ёсць?

А цешча кажа:

— Вось пашліце хлопца, няхай ён пойдзе да яго дзяцей гуляць: тое, што дзеці будуць гаварыць, то ён падслухае, прыйдзе ды нам і раскажа:

— Гэта добра.

Узялі і паслалі хлопца. Бедны брат думае: «Што гэта за

знак? Ніколі багач не пускаў сваё дзіця гуляць да маіх дзяцей, а цяпер пусціў». Селі абедаць, пасадзілі і хлопца багатыровага за стол. Пагуляў хлопец з дзецьмі і пайшоў. Прыходзіць дадому, бацька і пытае:

— А што, сын, што ты там чуў?

— Нічога, тата, не чуў. Гулялі. Мяне дзядзька і абедаць пасадзіў. Боршч быў з мясам і каша з малаком.

— Эге... Вунь што?! Гэта ўжо значыць — годзе высеўкі есці, што ў тым годзе ў мяне браў і малоў з жытам, і еў... Цяпер ужо боршч з мясам, яшчэ і каша з малаком! Што ж гэта яно значыць? Як бы даведацца?

А цешча сядзіць на печы і кажа:

— Вось як даведацца: ты пайдзі да брата і скажы яму, што прыйдуць да мяне суддзі дабро маё апісваць, дык дазволь, браце, няхай мая скрыня з грашамі ў цябе ў хаце пастаіць, пакуль я паноў адбуду. Ды вазьмі скрыню вялікую, тую, што ў каморы, ды мяне туды замкні, а я ўжо пачую, што яны будуць гаварыць.

— Гэта добра.

— Толькі як бы чаго-небудзь туды есці мне паставіць.

— Ды вунь варэнікі тыя, што не даелі, так з макітраю і паставім.

Вынеслі з каморы скрыню, улезла туды цешча, паставілі ёй варэнікі і замкнулі скрыню.

— Вось цяпер пайду да брата.

Бедны брат нешта рабіў на дварэ; глядзіць: ідзе да яго брат.

— Што гэта за знак? — кажа. А ў самаго аж слёзы на вочы навярнуліся.

Прыйшоў, вітаецца:

— Здароў, браце.

— Здароў.

— Памажы табе божа.

— Дзякую. (Яшчэ і руку падаў.)

— А чаго я, браце, да цябе прыйшоў?

— Не ведаю.

— Зрабі ласку, браце, ці не можна да цябе маю скрыню з грашыма перавезці, бо да мяне панаедуць суддзі апісваць худобу, то няхай скрыня ў цябе пастаіць, а заўтра раніцай прыйду і забяру.

— Дык што ж, няхай пастаіць, прывязі.

— Толькі, браце, у хаце пастаў скрыню, бо ў сенях страшна ставіць.

— Ды паставім у хаце, вязі.

Пайшоў багаты. Прывезлі скрыню і паставілі ў хаце на самым покуце. Хлопца тады дома не было. Прыходзіць увечары, бачыць — скрыня стаіць:

— Дзядзька, што гэта ў вас за скрыня?

— Ды гэта брат прывёз, аддаў, каб пасцераглі, бо да яго суддзі наехалі худобу апісваць. Толькі ноч перастаіць, а заўтра раніцай прыйдзе брат і забярэ.

— Маніць ён.

Павячэралі і леглі спаць.

Як заснулі дзядзька з цёткаю, ён устаў ціхенька, узяў таўкачом адчыніў скрыню, падняў века, а там баба... Ён яе як стукне таўкачом... І не войкнула... Узяў варэнік з макітры, уціснуў ёй у рот, быццам задушылася. Замкнуў скрыню і лёг сабе.

Калі гэта раніцою ідзе багаты брат з парабкамі.

— А што, браце, цэлая скрыня?

— Цэлая.

— Ну дзякуй табе, дай бог здароўя. Бярыце, хлопцы, стаўце на воз.

Паставілі і павезлі. Багач ідзе ззаду і пытаецца:

— Маці, чулі, дзе яны бяруць грошы?

Тая не адзываецца.

— Мусіць, заснула.

Прывезлі скрыню дадому, паставілі ў хаце, адамкнулі, як глянуў багач, дык аж рот разявіў:

— Памерла?! Глядзі, жонка, яшчэ і варэнік у роце. Мусіць, удавілася... Глядзі — варэнік у роце. Галованька бедная, што ж рабіць. Трэба ісці да папа — няхай ідзе хаваць. Скажам, што раптоўна памерла.

Прыйшоў да папа:

— Добры дзень, бацюшка.

— Добры дзень, добры дзень.

— Ідзіце хаваць — маці памерла.

— Ды няўжо? Як гэта так? Я ж яе ўчора бачыў, здаецца, здаровая ж была?

— Дык яна, бацюшка, і сёння здаровая была, ды ела варэнікі ды за ядою памерла; яшчэ й варэнік у роце застаўся.

— Дык, можа, яна ўдавілася?

— Ды, можа ж, і ўдавілася. Бог жа яе ведае.

— Ну дык я прыйду і пахаваю.

Прыйшлі і пахавалі цешчу.

Ноччу хлопец устаў, пайшоў на могілкі, адкапаў цешчу, выняў з труны, узяў у ахапак, панёс да багатага ў двор. Адчыніў камору, а ў той каморы ў засеках пшаніцы так што, мусіць, пудоў з дзвесце, такая, як золата. Ён узяў тую пшаніцу раскрыў, рассыпаў, параскідаў па ўсёй каморы; цешчу пасадзіў у засек, даў ёй лапату ў рукі, а сам замкнуў камору ды й пайшоў. Прыйшоў дадому, лёг спаць, быццам нічога не ведае. Калі ж раніцай чуе — гвалт па сялу. Пытаецца дзядзька:

— Што там такое?

— Ды там дзіва: багацеева цешча ноччу ўстала, ды прыйшла да яго ў камору, дый да гэтага часу сядзіць у засеку.

— Дык хадзем, дзядзька, паглядзім.

Прыходзяць у багатыроў двор, аж у яго повен двор народу, і праціснуцца цяжка. Багач аж чуб на сабе рве, крычыць парабку:

— Бяжы, Каленік, да папа, хай ідзе, што хоча, тое й робіць! Вось паслаў бог напасць. Бачыш, што яно значыць, як не сваею смерцю памрэ.

Пабег Каленік да папа:

— Дзень добры, бацюшка.

— Дзень добры, добры дзень... А што скажаш?

— Хадзіце да нас ды як можна хутчэй.

— Што такое? Што такое?

— Ды прыйшла баба Параска з таго свету. Учора пахавалі, а яна ноччу прыйшла, села ў каморы, аж у засеку, яшчэ й лапату ў рукі ўзяла, параскідала па каморы ўсю пшаніцу.

— Усю пшаніцу? Усю пшаніцу? Па каморы? Баба Параска? Давайце хутчэй епатрахіль. Сямён, бяры трэбнік... Ідзі спераду мяне і чытай: «Да ўваскрэсне бог» ды «Памілуй мя, божа».

Прыйшлі... Якраз у засеку... Багаты аж да ног папу прыпадае:

— Бацюшка, ці нельга якое закляцце палажыць, каб асінавым калком прабіць?

— Трэба, трэба, абавязкова трэба. Бярыце ж яе хто ды выносьце з каморы.

Людзі стаяць, раты паразяўлялі, ніхто з месца і не варухнецца. А хлопец стаіць каля дзвярэй.

— А дайце,— кажа,— я вазьму.

Перахрысціўся на ўсход сонца тройчы, абярнуўся, узяў цешчу ды ўжо не панёс у хату, а прама на могілкі; паклалі ў труну яе, закапалі; бацюшка прачытаў праклён, забілі асінавы калок на магіле.

— Во цяпер,— кажа,— не ўстане, бо нячыстая сіла з яе выйшла.

Прыйшлі ў двор. Багаты пытаецца:

— А што, бацюшка, ці нельга мне гэту пшаніцу на патрэбу пусціць?

— Э, ні-ні, нельга.

— А дзе ж яе дзець?

— Дзе хочаш, туды і дзень, хоць закапай, хоць спалі, калі ніхто не возьме.

А бедны брат, што тут жа стаяў, кажа:

— Давай, браце, я вазьму гэту пшаніцу, ужо што бог дасць, тое і будзе. (Яго загадзя падвучыў хлопец.)

— Вазьмі, зрабі ласку. Ды вазьмі і камору, калі ласкавы, бо калі яе цяпер спаліць, то і ўся будоўля згарыць. Вазьмі ўсё, забяры пшаніцу і камору.

Як пачалі тую пшаніцу насіць — дзядзька, цётка і хлопец,

дык цалюсенькі дзень насілі да вечара, такой насыпалі пшаніцы, як золата. А потым ужо і камору перанеслі. Багач кажа:

— Ну, слава богу! Цяпер пазбавіўся.

А бедны з хлопцам паставілі камору, пассыпалі ў засекі пшаніцу.

— А што, дзядзька, хопіць з цябе?

— Слава богу, хопіць.

Дачакаўшыся вечара, пайшоў хлопец зноў на могілкі. Адкапаў цешчу, узяў на плечы, панёс да багача. Адамкнуў камору, а тая камора поўная адзення: кажухоў, паўкажушкоў, шапак, світак, смушак — рублёў на тысячу будзе ў той каморы дабра. Ён узяў адамкнуў камору, паскідаў з жэрдак адзенне, паздымаў з кручкоў, павыварочваў са скрыняў, скрозь параскідаў, некаторыя ўзяў параздзіраў. Узяў найлепшы кажух, сінім сукном пацягнуты, ды яшчэ і сівым смушкам абшыты, у якім жонка багача вянчалася, надзеў яго на цешчу, пасадзіў яе ў куточку, замкнуў камору, а сам пайшоў дадому.

На другі дзень было нейкае свята. Жонка багача збіраецца да царквы ды й кажа наймічцы:

— Бяжы ў камору ды прынясі мне той кажух, у якім я вянчалася.

Тая ўзяла ключ ды й пабегла. Як толькі адамкнула камору, дык аж ускрыкнула:

— Ох, бяда мне! Што гэта за гармідар такі!

Калі зірнула — аж у куточку сядзіць цешча. У беднай наймічкі чуць вочы з лоба не павыскоквалі. Як пабяжыць... А на дварэ снег вялікі — пагубляла ў снезе і чаравікі. Убегла ў хату.

— Што там такое?

— Ох, мая ж ты матачка! Баба Параска сядзіць у каморы ў вашым кажуху.

А багаты ляжаў на лаве. Як пачуў, дык аж ачкур* у яго лопнуў з перапалоху.

— Ды няўжо ў каморы? Бяжы, Каленік, да папа.

Пабег Каленік. Прыбягае да папа і слова не можа вымавіць:

— Ба-ба-ба-ба-бацюшка! Па-па-ппа-параска зноў.

— А што? Што, баба Параска прыйшла?

— Прыйшла.

— Сямён, Сямён, уставай, зараз жа давай мне трэбнік. Трэбнік... Трэбнік... Кадзільніцу бяры... Херувімскага ладану палажы. Ідзі зараз уперад, чытай, каб усе чулі...

Прыйшлі да багача. Ён як убачыў папа, то аж чобаты яму цалуе.

— Бацюшка, ці не паслаць да архірэя? Можа, у яго малітва другая, можа, у яго праклёны не такія, як у вас?

— Не, пачакай, пачакай — гэты раз пахаваем, і ўжо запя-

* Ачкур — шнур, што трымае штаны.

чатаем не так яму, і ўжо два асінавых калкі заб'ем: адзін у галавах, а другі ў нагах. Пасярэдзіне крыж зраблю рыдлёўкай ды херувімскага ладану туды засыплю, дык ужо не ўстане.

— Трэба было і тады так зрабіць, дык яна не прыйшла б... Бярыце хто, распранайце яе ды панясем.

Толькі людзі вочы вытрашчылі ды раты паразяўлялі... Ніхто не хоча і падступіцца — баіцца. Што гэта значыць, як не сваею смерцю памрэ! Хто ж пойдзе браць нячысціка? Хлопец стаіць каля дзвярэй, кажа:

— Давай я распрану і панясу.

Распрануў і панёс. Прынёс да ямы, палажыў у труну, закапаў, засыпаў зямлёю, забілі два асінавых калкі — адзін у галавах, другі ў нагах, зрабілі пасярод магілы крыж, насыпалі туды херувімскага ладану, поп прачытаў малітву.

— Ну,— кажа,— цяпер не выйдзе.

— Ну, дзякуй вам, бацюшка. А дзе, бацюшка, мне адзенне дзяваць? Ці яго спаліць, ці папрадаваць? Ужо яго цяпер не насіць, бо на чарце было надзета.

— Так, так, як ніхто не возьме, то спалі.

А бедны брат кажа:

— Аддай мне, браце, тое адзенне.

— Вазьмі, калі ласка.

Пайшлі бедны брат з жонкаю, з хлопцам у камору, набралі ахапак адзення, колькі можна было. Пайшлі і другі раз: набралі зноў па столькі ж. Пайшлі і трэці раз, набралі столькі ж.

— Ну, брат,— кажа багач,— узяў адзенне, бяры і камору, бо як мне яе спаліць, то й усе будынкі згараць.

Забралі і камору, перанеслі.

— А што, дзядзька, цяпер ёсць што надзець табе і цётцы?

— Дзякуй табе, нябожа.

— А ведаеш што, дзядзька, дзе ў твайго брата грошы стаяць?

— Ды чур ім, нашто яны нам?

— Ды я толькі так пытаю.

— У патрабе ў яго скрыня стаіць, жалезным ланцугом да слупа прыкаваная. Поўная чырвонцаў, так без ліку чортаў сын і сыпле туды!

Парабак наматаў на вус.

Устаў ноччу, пайшоў на могілкі, зноў выкапаў цешчу, узяў яе ў ахапку, панёс да багача ў двор, унёс у пограб, адамкнуў скрыню з грашыма, параскідаў грошы скрозь па пограбе, пасадзіў цешчу ў скрыню, панасыпаў ёй чырвонцаў у жменю, прыкрыў трошкі яе векам; зачыніў пограб ды й пайшоў. Прыйшоў дадому і лёг.

Багаты ўстаў раніцай ды пайшоў у пограб, каб грошай узяць — яму трэба было на штосьці многа грошай. Адчыніў

пограб, глядзіць — скрозь грошы валяюцца: калі да скрыні — аж там цешча сядзіць... Аж дух заняло ў яго — і не ўскрыкнуў... Як выскачыў з пограба, як залемантуе:

— Каленік, бяжы скарэй да бацюшкі! Як можна хутчэй! Скажы, што зноў прыйшла!

Той як пачуў, то аж збянтэжыўся! Як драпане да папа! Прыбег, аж пена ў яго з рота.

— Што такое? Што такое?

— Зноў прыйшла...

— Зноў прыйшла?.. Вось гэта так! Гэта так! Сямён! Сямён! Бяры Евангелле! Пасылай, няхай ідуць у царкву, няхай бяруць харугві... няхай ва ўсе званы звоняць...

А сам апранаецца, ды з перапалоху надзеў адзін бот і адзін чаравік, ды яшчэ й на босую ногу... Выйшлі з хаты, ды ўжо Каленік за варотамі заўважыў ды кажа:

— Бацюшка, што гэта ў вас такое? Халяву ці што згубілі?

— Дзе? А! Якраз! Якраз! Гэта чаравік... Бяжы хутчэй, найдзі мне бот.

Пабег Каленік у хату, шукае бот, аблазіў скрозь, аж пот з яго льецца, ды ўсё ніяк і не знайдзе, ды лемантуе на ўсю хату:

— Дзе бацюшкаў бот?

А поп стаіць на дварэ, мароз такі, што аж лыткі пачырванелі на марозе, а яму нічога, ён толькі думае пра Параску ды пра тое, што яму будзе за тое, што ніяк не закляне звышнатуральнай сілы... Дойдзе да мітрапаліта, дык той расстрыжэ за тое, што не ўмеў заклясці. Прынеслі бот — ледзь знайшлі. Абуў. Як пабягуць, дык да самага двара, не пераводзячы духу. «Да васкрэсне бог» бацюшка чытае, а званы равуць, аж зямля стогне. Сабралася народу безліч... А багаты стаіць каля варот, як пуп, сіні,— пасінеў на марозе,— ды ўсё чакае папа. Прыбег поп. Бух папу ў ногі:

— Бацюшка, ці не даць знаць мітрапаліту? Мажа, у яго закляцце не такое, як у вас?

— Э, не ведаю, не ведаю... гэта ўжо... гэта ўжо... гэта ўжо звыш... звышнатуральная сіла... Не ведаю.

— Глядзіце, бацюшка, усе грошы знявечыла, тут, мабыць, больш, як з мільён папаскудзіла.

— Так, так, гэта ўжо не твае — гэта чортавы грошы.

— Так будзьце ласкавыя, калі што — то й да мітрапаліта б...

А хлопец стаіць ды кажа:

— А што мне дасце, як я яе так пахаваю, што і да канца свету не вылезе? Не трэба будзе і да мітрапаліта пасылаць.

Поп як пачуў, то аж вочы вылупіў...

— А як жа ты зробіш? Хіба можаш?

А багаты бух яму ў ногі:

— Зрабі, будзь ласкавы! Што захочаш, тое і бяры, толькі зрабі, каб больш не вылазіла.

— Зраблю. Аддай мне толькі тыя грошы, што чарцяка параскідала, больш мне нічога не трэба.

— Бяры, зрабі ласку, я яшчэ і рады буду.

— Добра, дык хадзем жа.

Пайшоў у пограб, выцяг цешчу са скрыні, узяў за плечы:

— Хадзем, людзі добрыя, паглядзіце, буду хаваць; ужо пасля мяне не вылезе.

Прыйшлі на могілкі: палажыў цешчу ў труну, накрыў векам, загроб зямлёю, абышоў тройчы грудок, пераступіў, плюнуў на грудок.

— Вось,— кажа,— ніколі не вылезе.

А багач ад радасці аж плача:

— Дзякуй, дай бог здароўя, ідзі бяры грошы тыя, што чарцяка параскідаў па пограбе; бяры, куды хочаш, туды і дзень.

Пайшоў парабак дахаты:

— Бярыце, цётка, мяшок і вы, дзядзька, ды хадзем.

Пайшлі. Нагрэблі тры мяшкі, прынеслі, ды яшчэ раз пайшлі і па мяшку набралі — прынеслі.

— Цяпер хадзем, дзядзька, возьмем і скрыню.

Прынеслі і скрыню, ссыпалі ў яе грошы.

— Цяпер, дзядзька, замыкай, хопіць з цябе?

— Хопіць, нябожа.

— Цяпер давай разлічымся з вамі.

— Давай, нябожа.

Стаў бедны брат гаспадарыць. Купіў валоў, купіў карову, купіў пару коней добрых. Купіў зямелькі: ды як пайшоў хлеб радзіць, то за год так падняўся, што на ўсё сяло багачом стаў.

А багатаму брату пайшло ўсё на спад і на спад. Згарэла ў яго: два млыны, згарэла клуня, пагарэў і хлеб, усё чыста. Пайшоў да беднага брата:

— Купі, браце, жывёлу.

— Прадай,— кажа.

Прадаў усіх валоў, усіх коней, папрадаваў і авечак... Праз два гады дажыўся да таго, што асталася толькі адна хата.

## ЯК ЧАЛАВЕКУ Ў ДЗЕСЯЦЬ РАЗ ВЯРНУЛАСЯ

Аднаго разу поп за пропаведдзю сказаў людзям, каторыя былі ў царкве:

— Хто дасць мне карову, таму бог вясной назад зверне дзесяць.

Пачуў гэта адзін селянін, прыйшоў дахаты і гаворыць жонцы:

— Вось што, жонка. Сёння нам бацюшка гаварыў, калі хто дасць папу карову зараз, то вясной бог у дзесяць разоў болей зверне. Ёсць у нас карова апошняя, давай завядзём яе. А можа будзе ад бога праўда.

Згадзілася жонка аддаць апошнюю кароўку. На другі дзень, ледзь золак заняўся, прыводзяць яны карову на папоў двор і гавораць:

— Вазьмі вось, бацюшка, толькі малі бога, каб даў вясной у дзесяць раз болей.

Заіскрыліся вочы ў папа ад жаднасці. Ну, думае, удалося мне адурачыць іх. Узяў поп карову сялянскую і далучыў яе да сваіх, а селяніну абяцаў богу маліцца шчыра.

Вясною выпусцілі кароў на пашу. Стала хутка жарка, і авадні пачалі кусаць кароў. Тыя пабеглі ў кусты, а селяніна карова па прывычцы пабегла да свайго дома, а за ёй пабеглі дзевяць папоўскіх кароў.

Селянін убачыў гэта, вельмі ўзрадаваўся, зачыніў іх у хлеў, а сам пайшоў хваліцца суседзям.

Дачуўся пра гэта поп і пайшоў да селяніна, каб аддаў ягоных кароў, а селянін яму і гаворыць:

— Ты ж, бацюшка, гаварыў: «Калі мне хто аддасць карову, то таму бог па вясне зверне ў дзесяць раз болей». Не век жа гараваць.

## ЦАРКОЎНЫЯ РЭЧЫ

Фурман вязе двух семінарыстаў-багасловаў на каляды дадому. Семінарысты змерзлі і зайшлі ў карчму пагрэцца, а фурман стаіць каля коней.

Падыходзіць другі фурман.

— Здароў, зямляк!

— Здароў!

— А што вязеш?

— Баслаёў.

— А што гэта такое: рыба ці птушка?

— Не, царкоўныя рэчы.

## ПРА ПАПА І СЕЛЯНІНА

Да аднаго селяніна зачасціў поп. Ходзіць, ходзіць ды яшчэ патрабуе, каб яго кармілі.

Вось раз прыйшоў поп, а селянін крычыць на курэй:

— Кыш-кыш, каб вас сабакі паелі!

Бацюшка яму і кажа:

— Хіба ж можна так на божае стварэнне казаць? Лепш гавары: «Каб вас бацюшка паеў!»

Ідуць яны аднаго разу вуліцаю ўдвух, а сабакі накінуліся на іх ды пачалі шматаць! Селянін тады як крыкне на іх:

— Цыц вы! Каб вас бацюшка паеў!

## РАТУЙ, БОЖА

На моры — бура. Віхор свішча, мігцяць бліскавіцы, хвалі заліваюць карабель.

— Ну што ж, бацюшка,— пытаецца адзін з пасажыраў, стоячы на палубе,— мабыць, сёння ўжо будзем у раі?!

— Ратуй мяне, божа! — перапалохаўся поп.

## ПА ШЧЫРАСЦІ

Настаўнік гімназіі пытае ў папа пасля першай пропаведзі ў новай парафіі:

— Ну як, спадабаліся вам вашы веруючыя?

— Не, аслы ўсе і скнары,— адказвае поп.

— А, дык цяпер мне зразумела, чаму вы звярталіся да іх увесь час са словамі: «Браты мае!» — сказаў настаўнік.

## БУДЗЕ ЗНАК

Да адной бабулі зайшоў дзяк.

— Ахвяруйце,— кажа,— грошы на царкву.

Бабуля здзівілася:

— Колькі я вам ужо грошай дала, а ніякага знаку няма.

— Будзе, грэшнікі, знак, будзе.

— Дзе ж ён будзе, пракляты,— з крыўдай прамовіла бабуля,— калі ты цэлы дзень збіраеш, а потым цэлу ноч п'еш.

## УНУК І БАБУЛЯ

Пытае ўнук у бабулі:

— Бабуля, каму гэта ты наладавала тры паляндвіцы, кавалак сала, карэц мёду і пернікі?

— Панясём у дар богу,— адказала бабуля.— Завязала яна ўсё ў хустку, узяла ўнука за руку, і пайшлі да царквы.

У царкве стараста забраў у бабулі хустку з дабром і панёс у алтар. Унук паглядзеў, колькі таго дару пананосілі людзі, павярнуўся да бабулі і пытае:

— Бабуля, хіба бог ненажэра, што яму гэтулькі трэба?

— Не,— кажа бабуля,— гэта папу за труды.

— Ото ж, бабуля, я і думаю, што гэта не туды,— адказаў унук.

## СМЕРЦЬ, ДЗЯК І САЛДАТ

Сябравалі сабе поп і дзяк. У папа быў добры заробак. Калі людзі пміралі, яму плацілі, калі нараджаліся — зноў

плацілі. Але мусіў поп перайсці з горада ў невялічкае сяло, а там не было такога заробку. І што ён сабе прыдумаў? Зрабіцца Смерцю, душыць людзей, а потым і заробак будзе. Паклікаў поп да сябе дзяка ды й кажа:

— Пойдзеш у такую-та хату, там ёсць старая баба, скажы ёй, што ўночы а дванаццатай гадзіне прыйдзе Смерць і задушыць яе.

Пайшоў дзяк, сказаў бабе:

— Баба, а дванаццатай гадзіне ночы прыйдзе за вамі Смерць. Добра падрыхтуйцеся.

Баба зажурылася, бо ўжо ўночы памрэ, але Смерць ёсць Смерць. Ад яе ніхто не выкруціўся. Памерла баба. Поп з дзякам пахавалі яе і ўжо мелі заробак. З таго часу пастаянна хадзілі і паведамлялі, куды прыйдзе Смерць, хто ў якім сяле павінен памерці.

Раз дзяк прыйшоў да адной бабы. Яна была вельмі бедная. А ў яе была адзіная дачка. Дзяк і кажа:

— Баба, ваша дзеўка гэтай ноччу павінна памерці.

Села баба і плача. Але ратунку няма — Смерць прыйдзе і задушыць яе дачку. Баба сядзіць на печы і плача, а дачка ўжо мыецца, рыхтуецца паміраць.

Ішоў праз тое сяло адзін салдат. Ён меў пры сабе шаблю. Ідзе, стомлены, вуліцай, ужо позні вечар, нідзе ні агеньчыка, аж глядзь — свеціцца ў адной хаце. «Ну,— думае,— пераначую тут, а раніцай пайду далей». Уваходзіць і кажа:

— Добры вечар.

— Добры вечар,— адказала дзяўчына.

Бачыць салдат: баба сядзіць на печы і плача, а дзяўчына, маладая, прыгожая і сумная-сумная, чамусьці адзявае новую сукенку. Пытае старую:

— Бабка, чаму плачаце?

— А, чаму я плачу? У мяне толькі адна дачка, і тая будзе паміраць.

— Калі будзе паміраць?

— Сённяшняй ноччу.

— Адкуль вы ведаеце, што будзе паміраць? Нешта ў яе баліць?

— Нічога ў яе не баліць.

— Дык як жа?

— А так. Прыйшоў дзяк і сказаў, што а дванаццатай гадзіне прыйдзе за ёю Смерць.

— Як жа так, бабка, можа быць? Ваша дачка такая маладая, нічога ў яе не баліць, а павінна памерці.

— Ды хіба я ведаю, як? Гэта дзяк ведае, як. Людзі так паміраюць.

— Як паміраюць?

— Ды так: прыйдзе дзяк, каго паведаміць, той сапраўды памрэ.

Таму салдату ўсё гэта неяк не ўкладвалася ў галаву.

— Ведаеце што, бабка, прыміце мяне на ноч.

— Я і рада б вас прыняць, але ведаеце, як гэта. Вы тут спаць не будзеце аж да ранку, а вам трэба адпачыць.

— Не, бабка, раз вы б мяне з радасцю прынялі, то застануся ў вас. Я хачу быць пры тым паміранні, хачу бачыць тую Смерць, якая гэта яна. Вы толькі мяне прыміце.

Баба й кажа:

— Калі ўжо так хочаце, то пераначуйце. Калі хочаце тую Смерць бачыць, то застаньцеся.

Салдат сабе сеў, а дзеўка рыхтуецца. Паслала канец стала, бо труны яшчэ не мела. Палажыла дошкі, на дошкі — салому і чакае. Глядзіць: ужо набліжаецца поўнач і ляжыць. Смерць прыйдзе, задушыць яе — і гатова.

А салдат схаваўся пад ложак і таксама чакае. Аж Смерць ужо ідзе. Пастукала, увайшла, высокая да самай столі, уся ў белым. Увайшла ў хату і накіравалася да дзяўчыны. А салдат як замахнуўся шабляю, дык адсек Смерці вуха. Смерць схапілася за параненае месца, скруцілася і ўцякаць. Як Смерць уцякла, салдат выйшаў, глядзіць: вуха адсек. Так яго адсек, што яно ўпала на зямлю і засталося ў хаце. Глядзіць, разглядае, а гэта зусім чалавечае вуха. Абгарнуў тое вуха паперай, схаваў у кішэню і кажа:

— Ну, дзяўчына, уставай, ты ўжо не памрэш.

Але дзяўчына не ўстае — яна ж павінна памерці.

— Уставай, дзяўчына, ты ўжо не памрэш. Вядома, памрэш, але не будзеш знаць калі. Ужо больш ніхто не будзе паміраць так, каб ведаў, калі памрэ. Уставай. Смерць ужо не прыйдзе па цябе.

Падняў дзяўчыну сілай, бо яна ўсё яшчэ верыла, што павінна памерці.

— Уставай і лезь сабе на ложак. Лажыся і спакойна спі.

І дзяўчына паслухала, пайшла, легла каля сцяны, а ён — з краю. Але дзяўчына ўсё яшчэ баялася. Неяк яны пераначавалі, раніцай паўставалі і салдат пытае:

— Дык як гэта, бабка, як з тою Смерцю?

А бабка зноў расказвае:

— Ды так, што дзяк ходзіць і паведамляе, куды ўночы прыйдзе Смерць і хто павінен памерці.

«Гм, то гэта будзе так: напэўна, толькі поп ёсць тая Смерць»,— думае салдат.

— Бабка, ідзіце да вашага папа і скажыце, што ў вас ёсць адзін салдат, ішоў дадому ў водпуск, спыніўся пераначаваць і вельмі захварэў. Так захварэў, што памірае і хоча выспавядацца. Скажыце папу, каб прыйшоў мяне выспавядаць.

Сабралася баба і пайшла. Прыйшла, але там толькі пані. Старая пытае:

— А дзе пан?

— Пан хворы.

— А што ў яго?

— Хворы... А чаго вы, бабка, хацелі?

— Так і так: ішоў адзін у водпуск, спыніўся у нас пераначаваць і вельмі захварэў. Ён паслаў мяне паклікаць пана, бо хацеў бы выспавядацца: думае, што памрэ.

— Дык ідзіце, бабка, дадому і скажыце салдату, што пан хворы і не можа прыйсці.

Вярнулася баба й кажа:

— Поп хворы і не прыйдзе вас спавядаць.

— Ага,— кажа салдат,— разумею. Ідзіце, бабка, яшчэ раз і скажыце яму, што павінен прыйсці, бо салдат памірае.

Пайшла баба яшчэ раз і зноў гаворыць пападдзі:

— Я прыйшла яшчэ раз клікаць пана, бо салдат памірае і хоча, каб пан яго выспавядаў.

— Бабка, ідзіце дадому, пан не пойдзе, хоць салдат і памрэ. Пан не пойдзе, бо сам такі хворы, што памірае.

Прыйшла баба дадому і расказвае:

— Поп не прыйдзе, бо сам такі хворы, што памірае. Не можа прыйсці.

— Дык мушу я ісці да папа, раз ён не можа прыйсці,— кажа салдат.

Сабраўся ды й ідзе. Прыйшоў туды, вітаецца:

— Добры дзень.

— Добры дзень,— адказвае пападдзя.— А што хочаце, салдат?

— Я хацеў бы выспавядацца, бо вельмі хворы.

— Поп не можа нікога спавядаць, бо сам вельмі хворы.

— А што ў яго?

— Хворы, штосьці ў яго баліць, я не ведаю.

— А дзе поп? — пытае салдат.

— Там ляжыць у пасцелі.

— Дык я хачу падысці да папа.

— Вам нельга туды ісці.

Пападдзя салдата не пускае, але ён сілай хоча пайсці і пайшоў. Увайшоў, глядзіць — у папа ўся галава абкручана, абвязана. Салдат і пытае:

— А што ў вас, пане?

— Ды хворы.

— Але што ў вас?

— Галава ў мяне баліць.

— Ану пакажыце, дзе ў вас баліць.

— Дык хіба вы мне паможаце? Ніхто не паможа.

— Эй, так ужо і не. Можа, я б і дапамог. Я ў войску служыў фельдшарам. Да мяне ўсякія людзі прыходзяць. Даю ім лекі — і пілюлі, і мазь, і ўсё, што трэба. Я разумею ў гэтым. Пакажыце толькі, што ў вас.

Але поп не хоча. Бачыць салдат, што поп не скажа па-добраму, узяў і сарваў бінт сілай.

— Эй, паночку,— кажа,— так у вас вуха не хапае? Гэта ў вас толькі і баліць?

— Ды мне дужа баліць.

— От бачыце, а я вуха маю. Можа б, вам тое вуха было добра. Глядзіце,— салдат выняў з кішэні вуха і прылажыў да раны,— добрае вуха. Паночку, дык гэта ж ваша вуха. Дык гэта вы зрабіліся Смерцю і душылі людзей?!

Пайшоў салдат, паведаміў пра папа жандарам. Жандары прыйшлі, забралі папа і аддалі на пакаранне.

А салдат пайшоў дадому, і людзі з таго часу не ведаюць, калі будуць паміраць.

## ПОП ОДИЧАЛ

Вот жил-был поп. И он жил-то в деревне, а приход был три версты от его деревни.

Ну, а попы завидны; когда запоходил служить заутреню — жене приказал приготовить корзинку, она спросила:

— Куда с корзинкой?

Он ей ответил:

— Я промежду обедней и заутреней пойду в лес — наломаю грибов корзину.— Дала.

Пришел поп в село, а пономарь тамотко звонит заутреню; он отслужил эту заутреню и пошел в лес. И вот в лесе грибы ломал и заблудился; шалел уж не один день — блудил, не мог найти, как ему выйти домой.

И вот, значит, он изнурился — жрать тошно захотел; и вот, откуда ни возьмись, навстречу попадет ему странничек-прохожий и вот спрашивает:

— Чего, батюшка, ходишь это-то?

— У ты, дурак, не видишь, что я заблудился? Веди меня на дорогу.

Странничек сказал ему:

— Ладно, батюшка, утро вечера мудренее. Вот сейчас,— говорит,— закусим, отдохнем, а утречком я тебя приведу на место.

И вот странничек вынимает из сумочки две просфорки — режет на две части: одну побольше, а другу поменьше; и вот он взял маленькую половинку себе, а большую дал: «Батюшка, вот тебе». И вот поп видит, что у его еще одна просфорка в сумочке; повалились отдыхать, странничек притворился, будто спит, а он в то время разрезал у его сумку и достал просфорку — съел. Утром встали и пошли. Странничек одел сумочку — идет позади, у его из сумочки и вытряхнулось там бельишко — сумочка разрезана была. И вот он спросил:

— Батюшко, что это у меня в сумочки-то легко стало?

Поп ему и ответил:

— Ишь,— говорит,— на сук-от налетел — из сумки все вывалилось.

И пошли назад: все, что у его было потеряно, все нашли, а просфорки нет.

— Батюшко, где просфорка?

— А я почем знаю, кака просфорка.

Пришли к речке: странник речку перешел — можно сказать ноги не подмочил. Перешел на ту сторону, махнул платочком — река сделалась быстра и глубока. И от поп побрел через эту реку, и у него ноги не хватили, и он заплавал, просто захлебывается. Ну, странник сжалился над попом, махнул платочком — опять сделалась река мелка, и перешел к ему поп.

И вот приходят в город, в одно царство. В царство пришли, там были наколочены афишки: «Кто возьмется вылечить царевну, тому полцарства или же золота, сколько хочешь; кто возьмется вылечить, да не вылечит — у того голова с плеч». Странник прочитал и говорит:

— Батющко, пойдем — вылечим.

Поп сказал страннику:

— А там видишь, что написано: «Кто возьмется вылечить, да не вылечит — у того голова с плеч»; не дорога твоя-то голова, а дорога моя.— Все-таки согласился с им идти.

Приходят к царскому дворцу, заводят их слуги к царю, и царь спрашивает:

— Чего вам нужно?

Вот странник тут ему и сказал:

— Я хочу вылечить вашу царевну.

Царь, конечно, этому обрадел. Странник приказал вытопить ванну и приказал принести стул и топор — в ванну положить.

Когда все приготовили, странник и поп вошли в помещение, странник потребовал царевну; когда принесли царевну — помещение замкнули. Этот странник посадил эту царевну на стул и треснул топором — разрубил ее пополам; а поп в то время бегает по помещению и рвет с головы волосья, думает — пропала евонна голова...

И потом странник разрубил ее на мелкие куски, сбросил эти все куски в ванну, размыл и спрыснул мертвой водой — эти куски все сошлись в одно место; а поп одно знает — волосы дорывает последни, нечего стало рвать уж...

Потом взял спрыснул живой водой странник эту царевну, и царевна сразу пришла в чувство. Странник спрашивает:

— Ну, как сама себя чувствуешь?

— Я,— говорит,— не чувствую никакой болезни у себя. Поп обрадел...

Царевна заколотилась — открыли помещение, и царевна выскакивает навстречу своему отцу...

Тогда царь призвал этого странника и попа к себе и спросил, чего им требуется.

Странничек сказал:

— Мне ничего не надо, только милостыньку дадите — и я за то буду благодарен.

А поп его толкает, ему и шепчет:

— Бери ты золото, бери ты.

Странник сказал:

— А мне, царь, золота дайте немного — сколько сойдется.

И вот царь открыл погреб с золотом; и вот странник спустился в погреб — горсточку взял и вылезает обратно, а поп в то время и пихнул странника опять в погреб:

— Бери ты, в карманы, сумку больше накладывай!

И вот странник наклал, и поп забрался — и до того добрали, что больше класть некуда уж...

Царя поблагодарили за золото, распростились и пошли. И вот опять подходят к той же самой речке, и вот, значит, странник высыпал золото и приказал попу высыпать тоже, в одну кучу. И вот высыпали это золото, и стал странник делить на три кучки. Вот тут поп сам себе и думает: «Если возьмет странник две кучки себе, то зарежу».

Вот когда разделил странник это золото, сказал:

— Вот, батюшко, бери ты кучку, и я возьму кучку, а та кучка пусть останется тому, кто просфорку съел.

И тут поп третью кучу в свою-то кучу и загребает:

— Я,— говорит,— просфорку съел; я,— говорит,— просфорку съел!

И вот тут так было: когда забрал золото, странник сразу же от него скрылся... И он очутился дома, этот поп, безо всякого золота в рваном подряснике.

## ПОП-САПОЖНИК

Жил-был поп. Очень уж любил деньги. Как-то у него оторвалась от сапога подошва. Зашел поп к сапожнику. Починил сапожник сапоги и взял за работу два рубля. У попа глаза разгорелись: за одну подошву два рубля!

На другой день — а это было в воскресенье — после службы поп объявил: «Православные, у кого есть худые сапоги или новые кто шить думает, несите ко мне — я починю и новые сошью».

Через день приходит мужичок и приносит заказ: сапоги сшить.

Принял поп и сел за работу. Сшил сапоги — ни надеть, ни смотреть.

Через три дня идет мужик за сапогами. Поп увидел его и говорит жене: «Матушка, я хочу полежать под лавкой пол-

часика, а ты сапоги отдай и за работу три рубля возьми. Да скажи, батюшки дома нет».

Подошел мужик к окну и спрашивает сапоги.

— Готовы,— отвечает попадья,— плати три рубля.

— Ладно сапоги сшиты,— говорит мужик.— Жаль, батюшки нет. За такую работу пяти рублей не жалко.

Как услышал поп про деньги, вылез из-под лавки и кричит:

— Здесь я, свет, давай пять рублей,— высунулся из окна, а мужик его за волосы! Еле вырвался поп.

С тех пор закаялся поп сапоги шить.

## КАК АНГЕЛЫ ПОПА УНЕСЛИ

Жил крестьянин с женой, у него было три племянника. Когда племянники достигли взрослых лет, то предложили дяде разделиться с ними, дядя тоже согласился. После раздела дядя начал сильно пьянствовать, а племянники живут скромно и все время терпят от бедности, а дядя их, хотя и пьянствует, но все богатеет. Один из племянников, старший, по имени Андрей, решил пойти к дяде и спросить, отчего он так богатеет. Дядя принял его ласково, угостил водкой. Выпивши водки, племянник Андрей сказал:

— Дядя, я к тебе пришел спросить, отчего ты богат?

На это дядя отвечал:

— Как же мне не быть богатому, ведь я день и ночь занимаюсь воровством.

Племянник просит дядю:

— Поучи меня воровать.

Дядя сказал:

— Приходи ко мне вечером.

Наступил вечер, и они отправились в лес. Дядя подвел племянника к большому толстому дубу и спрашивает:

— Что, племянник, если мы этот дуб спилим, куда он годится?

Племянник отвечает, что из него можно сделать большое корыто лошадям для корму. Тогда дядя говорит:

— Не годишься ты, Андрей, воровать, а живи по-прежнему дома и занимайся хозяйством.

На следующий день второй племянник Никита отправляется к дяде. Дядя также принял его ласково, угостил водкой и спросил его, зачем он пришел. Никита ответил:

— Я пришел к тебе, дядя, спросить, отчего ты богат, а мы бедно живем?

На это дядя ответил:

— Ведь я постоянно ворую, оттого я и богат.

— Поучи, дядя, и меня воровать.

— Ну, приходи ко мне вечером.

Наступил вечер, и Никита отправляется к дяде, и вдвоем с ним приходят в лес к дубу толщиной в аршин.

— Ну, если мы, Никита, этот дуб спилим, что из него можно сделать?

Никита ответил:

— Это дерево очень удобно на клепку — много боченов можно сделать.

Тогда дядя говорит:

— Иди-ка ты, Никита, по-прежнему работай бочки, а воровать ты не годишься.

На третий день идет младший брат, Герасим, дядя также принял его ласково и угостил его водкой. Выпивши водки, Герасим спрашивает:

— Отчего ты, дядя, богат?

Дядя отвечает ему то же, что и старшим двум братьям.

— Так научи же и меня воровать.

— Ну, приходи вечерком ко мне.

Наступил вечер, и они отправились в лес. Подходят к маленькому дубочку, так, в оглоблю толщиной. Дядя спрашивает Герасима:

— Что, если мы срубим этот дубочек, куда он годится?

Племянник ответил:

— Его не стоит рубить, а стоит выкопать с корнем и оправить топором — славная будет дубина, хоть кого можно сразу убить.

Тогда дядя понял, что Герасим может воровать и разбойничать.

— Ну, племянник, ты можешь воровать, но все-таки тебя надо испытать, как ты будешь аккуратен в этом. Вот в тростнике сидит дикая утка на яйцах, вытащи из-под нее хоть одно яйцо, чтобы она не услыхала.

— Да ведь учиться у тебя хочу, прежде ты, дядя, вытащи, а потом уж и я.

— Ну, смотри, Герасим,— и пополз дядя на брюхе, осторожно, чтобы не спугнуть утку с гнезда. Когда он полез, то предполагал, что его сапоги цепляются за тростник, и когда вытащил из-под утки яйцо, только тогда заметил, что на его ногах нет сапог, тут он и говорит племяннику:

— Ты лучше моего можешь воровать, я вытащил из-под спящей утки яйцо, я же не спал, а ты с меня так сапоги стащил, что и не почуял.

— Ну, дядь, пойдем куда-нибудь и украдем что-нибудь.

— Да я, Герасим, тут всю округу обобрал.

— Пойдем, дядя, у нашего барина кладовую оберем.

— Нет, Герасим, там собаки очень лихи, я уж не раз думал это устроить.

— Пойдем, дядь, я устрою, что ни одна собака не брехнет.

Взяли они веревку и отправились к барскому двору, свя-

зали вязанку соломы и принесли к барскому забору, где помещалась кладовая. Племянник влез на забор, втащил за собою солому, зарылся в нее, и дядя опустил его по веревке через забор. Собаки побрехали, побрехали на солому да и перестали. Тогда наш Герасим сломал замок на кладовой, набросал собакам говядины. Собаки начали говядину глодать, а Герасим вещи за веревку вяжет из кладовой, а дядя веревку таскает за забор. Когда вытаскали что можно, дядя вытащил и Герасима. Приходят они в дом дяди и начинают делить вещи. Дядя берет себе вещи больше: «Я тебя учил, за это мне и следует больше». А Герасим оспаривает: «Мне, мол, больше следует, потому что я лазил в кладовую, а ты стоял за забором: если б заметили, то меня б, мол, скорее поймали, а ты бы ушел». Так они и не поделили. Тогда Герасим говорит:

— Пойдем, дядя, спросим у барина у этого, кому он скажет следует больше получить.

— Что ты, Герась, аль удурманил? Ведь нас с тобой тут же поймают и отправят, куда Макар телят не гонял.

— Не твое дело, дядь, я сам пойду к барину в дом, а ты стой под окном и слушай, кому барин прикажет больше получить.

Подходят к барскому двору, дядя стал под окном около барской спальни, а Герасим пошел в дом. Барин в это время уже лег спать. Герасим переменил голос и начал говорить как лакей баринов, окликает барина.

— Барин, я сегодня во сне видел, что у одного барина обобрали кладовую дядя с племянником, племянник лазил в кладовую, а дядя стоял у забора: кому из них следует большую часть получить, дяде или племяннику?

— Конечно племяннику,— сказал барин,— так как он трудился больше.

Тогда Гераська отправился из дому и говорит дяде:

— Слыхал, дядь, кому барин сказал получить больше?

Тогда дядя выдал ему часть побольше, как барин сказал. Утром барин узнал, что кладовая его обобрана и припомнил, как вор был у него в доме и говорил с ним. Приезжает к барину поп в гости. Поп этот был барину кум. Барин рассказал попу, как у него кладовую обобрали и даже вор был в доме и говорил с ним. Поп стал смеяться барину, что он не мог поймать вора. Несколько раз поп подсмеивался над барином перед гостями. Барину эта насмешка не нравилась. Призвал барин к себе старосту с деревни и говорит ему:

— Скажи-ка ты своим мужикам, кто может отсмеять попу за меня насмешки, я тому заплачу пятьсот рублей. Если кто согласится, то пришли его ко мне.

Староста пришел домой, собрал сходку около кабака и объявил просьбу барина — мужики никто не соглашались на это. Герасим, узнавши, приходит к дяде и говорит:

— Дядь, сейчас на сходе староста объявил: барин даст полтысячи, кто отсмеет попу насмешки, пойдем к барину и возьмемся отсмеять попу насмешки.

— Нет, Герась, ни за что не возьмусь, если мы не угодим барину, то нам с тобой достанется на орехи.

— Не твое дело, дядь, я возьмусь и все обделаю как следует.

Уговорил дядю, приходят к барину.

— К вашей милости, ваше благородие, мы слыхали, что вы нанимаете отсмеять попу насмешки, мы это можем делать.

— Хорошо,— сказал барин,— делайте, я вам заплачу за это пятьсот рублей, а если не сделаете, то вам от меня достанется как следует.

— Есть воля ваша, тогда сажайте нас в острог,— сказал Герасим,— пожалуйте нам на расходы задаточку две сотенки рубликов.

Барин достал двести рублей, а дядя с племянником отправились в кабак. Пробывши в кабаке до вечера, изрядно выпивши, приходят домой. Взяли два белых полотна и поздним вечером отправились к дому попа, посмотрели в окошко — поп ложится уже на постель. Тогда они обернулись этими белыми полотнами (ночь октябрьская очень темная была), и стучит племянник в окошко рукой. Поп глянул в окошко и, увидя такую белизну, спрашивает:

— Кто это там стучит?

— Это мы, батюшка, с небес святые ангелы.

— Зачем же вы, святые ангелы, пожаловали ко мне?

— Нас господь послал за вами, батюшка, так как у нас на небе все попы поумерли, то некому обедню служить. Бог говорит: «Нам без попа не быть, ступайте, ангелы, в село Воробьевку, притащите отца Андрея, он достоин служить на небе». Мы вот по приказанию господа и прилетели за вами, батюшка.

— Ах, святые ангелы, неужели никого нельзя взять, кроме меня, туда, у меня и тут приход хороший, прихожане хорошие, богатые, за требы платят хорошо.

— Мы этого, батюшка, ничего не знаем. А вы, батюшка, что бог приказывает, то и должны исполнять, а то на вас бог рассердится за ослушание.

— Но вот что, святые ангелы, попросите, пожалуйста, господа, чтобы он денек обождал, я распродам лишний скот и лишние постройки, а то — что тут попадье делать со скотом? Она и продать за цену не сумеет.

— Ну хорошо, батюшка, мы попросим...

— Пожалуйста, святые ангелы, попросите, я вас за это поблагодарю.

— Ну до свиданья, батюшка, да уж готовьтесь к завтраму.

— Хорошо, скажите богу, буду готов.

И отправились наши племянник с дядей к себе по домам.

Поп всю ночь не спал, все думал, за какую лошадь сколько просить, сколько за коров и овец и сколько за сарай с амбаром, и мечтает поп, как он на небе будет поживать и как он оттуда будет деньги присылать своей матушке. Рано утром поп рассказал это своей попадье, та тоже очень рада, что такая благодать пала на их семейство.

— Распродавай-ка, отец, все лишнее. Это лучше, чем с мужиками тут возиться, там скорее пойдешь на повышение. Глядь, пробудешь года два попом, смотришь — в архиереи сюда назначат.

И начал поп распродавать скот, все распродал, только остался один амбар не продан. Наступил вечер, дядя с племянником опять отправились к дому попа, приходят к окошку, видят — сидит поп, посматривает в окошко. Они стукнули в окошко.

— Это вы, святые ангелы?

— Мы, батюшка. Что же вы совсем собрались или нет?

— Нет, святые ангелы, попросите бога отсрочить, а то я не успел амбар продать.

— Ах, батюшка, и за вчерашний-то день бог обиделся.

— Ах, святые ангелы, уж попросите бога, к завтраму необходимо буду готов.

— Да вот что, батюшка, не забудьте, возьмите полное облачение, крест, Евангелие и кадило, а то у нас обычай таков: как помрет поп, все это кладется с ним,— да захватите рублей семьсот деньжонок, там придется вам кой-кому сделать подарочки, да и себе на расход, покуда устроитесь. Да берите звонкой монеты, бумажки у нас не ходят.

— Хорошо, святые ангелы, все будет готово.

Ангелы отправились по домам. Наутро поп продал амбар, начал ездить по кабакам и по лавкам и менять кредитки на серебро, а вечером уж сидел в облаченье и держал в руках крест и Евангелие, кадило и мешок с деньгами. Дядя взял большой мешок, а племянник веревку и оглоблю из саней. Накрылись белыми полотнами, пришли к окну, где сидел поп, постучали в окошко.

— Сейчас иду, святые ангелы,— простился поп с попадьей и вышел на улицу.

Батюшка отправляется в путь.

— Только вам неудобно будет, как станем на небесную высоту подниматься, вы можете испугаться и упасть.

— А как же с этим быть?

— У нас есть мешок, нам уже не в первый раз доставлять на небо батюшек, так вы полезайте в мешок, вам и не видно будет высоты.

Поп полез в мешок, а один из ангелов спросил:

— А это что у вас, батюшка, в мешочке?

— Это я деньжонок взял.

— Давай их сюда, а там на небе мы их вам отдадим.

Поп подал мешок с деньгами. Дядя с племянником завязали мешок, зацепили на оглоблю и понесли на плечах на барский двор. Около барского дома была поставлена лестница, с тех пор как дня два тому назад были трубочисты. Ангелы потащили попа по лестнице на крышу. Поп спршивает:

— Скоро ли, святые ангелы, долетим до неба?

— Сейчас, батюшка, да вам придется еще подождать, бог еще спит, а проснется — тогда вас позовут.

Взошли на крышу, опустили мешок с попом в трубу и пошли домой. Утром, когда начали топить печи, полны комнаты набрались дымом. Барин проснулся и спрашивает:

— Почему это дым в комнатах, или галка гнезда натаскала в трубу?

Барин вышел на крыльцо, а кучер с дворником полезли на крышу посмотреть в трубу, не забилась ли сажей. Видят — в трубе мешок, кричат:

— Барин, тут какой-то мешок.

— Какой мешок, тащите и бросайте.

Вытащили мешок и бросили по крыше, вдарился оземь поп и крикнул:

— Ой!

Лакей, слыша это, сказал барину:

— Барин, тут что-то есть в мешке живое.

— Развязывай.

Развязали мешок, а из него вылезает поп в облаченье, держа в руках крест, Евангелие и кадило. Тогда барин понял, в чем дело и сказал:

— Кум, ведь сегодня не праздник, что ты? Или у меня молебен служишь?

Поп взошел в дом к барину и рассказал, как его обманули, как он по дешевой цене продал свое имущество, и как у него ангелы взяли семьсот рублей денег, и какую с ним проделку сделали.

Барин за это племяннику доплатил договоренную плату и дал десять рублей на водку.

## БЕДНЫ МУЖЫК І ПРАГНЫ ПОП

Жыў мужычок бедны, і дзяцей у яго было многа. Падыходзіць празнік гадавы, старуха і гаворыць:

— Ну, што ты, стары, сядзіш дома? Хоць бы ж ты схадзіў у каго папрасіў гарчык мучыцы, ці два!

Ну, ён і пайшоў, узяўшы торбачку; толькі зайшоў у дзярэўню к мужычку:

— Брат дзядзюшка, здзелай міласць: ці не даў бы ты мне гарчык ці два мучыцы для празніка?

— На, брат, табе і з лукошачкам!..

Выходзіць ён з дзярэўні. Адкуль узяліся віхар і вецер, вырвалі гэта лукошачка з рук вон і пакацілі па чыстаму полю. Заплакаў стары горкімі слязамі.

— Ну,— гаворыць,— цяпер дамоў не пайду, а то старуха і не пусціць.

Агарнула яго цёмная ноч у цёмным лесе, ён бачыць аганёк.

— Пайду,— гаворыць,— на гэты агонь!

Стаіць там дом, ён і просіцца аначь.

— Пусці,— гаворыць,— любезная, аначь!

Уваходзіць у комнату.

— Добры вечар!

Старушка гаворыць:

— Здрастуй, здрастуй, нішчанькі, прахадзі, садзіся!

Ён раздзеўся і сеў аддыхнуць. Пытае старуха:

— Дзе ты гэта бываў?

— Што,— гаворыць,— матушка, расказваць табе — доўгая песня! Дзеці дробны, дзяцей многа, паесць нечага, падходзіць празнік гадавы: я пайшоў мучыцы даставаць. Даў мне чалавек мучыцы гарцы два — я адправіўся было дамоў. Адкуль узяліся віхар і вецер, вырвалі ў мяне гэту мучыцу з рук і пакацілі па чыстаму полю,— дык я і не пайшоў дамоў.

— Ну,— гаворыць,— нішчанькі, паужынай і лажыся спаць.

Прыходзяць яе дзеці — Віхар і Вецер; стала на іх маці браніцца:

— Нашто вы так, дзеці мае, шутку шуціце, балуецесь; вы б балуваліся каля багатага, а не каля беднага старыка!..

— Ну, матушка, не браніся: мы яго наградзім!

Устаў гэты старык, мыецца. Тады яны яму і гавораць:

— На табе, старык, жаронцы!

— Ах, бацюшкі, што мне дзелаць з гэтымі жаронцамі?

— А прынясі дамоў, скажы сваёй старусе, што крутнець, то куль мукі, якой угодна.

Скорым поспехам стаў гэты мужык добра жыць. Дажыдае празніка бальшога. Прыбраў ён, як закон гласіць, дажыдае свяшчэнніка і гаворыць:

— Бацюшка, зайдзіце ка мне з іконамі; прашу вас, бацюшка, адслужыць мне акафіст ці два!

Угашчае ён папа. Гаворыць поп:

— Што, Міхалка, адчаго ты стаў багат?

— Бацюшка, ды бог мне даў!

Поп гаворыць:

— Ды не! Бог не бог, ды не будзь-ка ты сам плох!

Хазяйка мужыкова гаворыць:

— А я скажу!

— Ну скажы,— гаворыць ёй дзед,— табе худа будзіць.

— Бацюшка,— гаворыць старуха,— у нас ёсць такія жоранцы, што крутнеш, то куль мукі.

Свяшчэннік гаворыць:

— Аддай мне! Табе худа будзіць: у цябе іх хто-небудзь украдзіць; а када ў цябе хлеба не хваціць, то ка мне прыйдзі.

Старуха і гаворыць:

— Дзед, аддадзім: табе худа будзіць.

Свяшчэннік як гэтыя жоранцы ўзяў, досыць хадзіць з абразамі. Гаворыць:

— Я балён!

Ну, мужык пажыў, можа год, і выйшаў у яго запас хлеба, і астаўся мужык зноў бедны — нечага паесць. Ён схадзіў к гэтаму свяшчэнніку раз ці два; той даў яму мерку ці чвэртку; трэці пайшоў раз,— дык ён яму не даў, а па шапцы задаў. Адправіўся гэты старык дамой, заплакаўшы: было, ды й няма!

Асталіся яны зноў страднічаваць, беднату цярпець. Пайшоў гэты дзед зноў у белы свет к Віхру ды к Ветру:

— Абману як-небудзь іх!

Заходзіць зноў у гэты дом і гаворыць:

— Добры вечар добрым людзям!

Старушка гаворыць:

— Здрастуй, здрастуй, добры чалавек!

— Ці не пусціце нанач?

— А ступай, галубчык, чаго ж!

Ён увайшоў, раздзеўся, сеў на лаўцы; старуха стала ў яго распрашваць:

— Дзе быў, старычок?

— Што, матушка, хадзіў даставаць мучыцы.

— Ну, што ж, старычок, ці дастаў жа ты!

— Даў чалавек гарцы два, дык я адправіўся было дамой; адкуль узяліся Віхар і Вецер, вырвалі гэту мучыцу і панеслі па чыстаму полю; агарнула мяне ноч, я і зайшоў сюды начаваць.

— Ну, вужынай і лажыся спаць.

Памаліўся ён богу і лёг спаць. Прыходзяць яе сыны — Віхар і Вецер. Стала яна іх браніць:

— Ах, дзеці мае, што вы каля старога чалавека шутку шуціце!

— Ах, матушка, не брані: мы яму за гэта заплоцім.

Даюць яму Віхар да Вецер залатую козку. Ён і гаворыць:

— Ах, бацюшка, што мне з ёю рабіць?

— А вось што: прывядзі дамоў, засцялі скацерць белую на стол, вазьмі яе за рожкі, пастаў на ножкі, трахані: будзіць у цябе і злата і срэбра.

Ну і адпраўляецца мужычок гэты па дарозе дамоў; прыйшоў ён дамоў і гаворыць:

— Ну, слава богу! Прывёў залатую козку!

А баба пытае:

— А што ты, дзед, будзеш рабіць з ёю?

— Засцялі ты белую скацерць на стол, вазьмі ты гэту козку

за рожкі і пастаў яе на ножкі, трахані: будзіць злата і срэбра.

Стала гэта баба радая такая:

— Ну, вот, дзед, слава богу, што прынёс нам залатую козку!

Ну, чакаюць яны зноў свята, чакаюць к сабе святара, святара ў сабе — пазываюць к сабе свяшчэнніка, просяць яго службу паслужыць:

— Бацюшка, адслужыце-ка акахвіста два ці тры!

Ён адслужыў. Садзяць яны яго, частуюць. Поп гаворыць:

— Што, брат Міхалка, адчаго ты стаў багаты зноў?

— А, бацюшка, бог мне даў!

— Аднака ж, бог не бог, ды не будзь-ка ты сам плох!

Старая гаворыць:

— Дзед, я скажу!..

— Скажаш, табе худа будзіць.

— А вот, бацюшка, у нас ёсць залатая козка.

Поп гаворыць:

— Аддайце вы мне яе, а то вам худа будзіць: хто-небудзь у вас яе ўкрадзіць.

Баба гаворыць:

— Дзед, аддадзім!

— Аддавай! — гаворыць.

Старуха ўзяла да і аддала. Пажылі яны з год з гэтым капіталам, выйшаў гэты капітал увесь у яго; пайшоў ён да свяшчэнніка:

— Ну, што ты, Міхалка, ка мне ходзіш?

— Што, бацюшка? Хоць бы з пяцёрачку вы мне далі.

— Ну, нечага рабіць: першы раз ужо дам, а яшчэ не хадзі ка мне.

Ну, ён гэту пяцёрачку праеў і яшчэ да яго прыйшоў; той гаворыць:

— Ну, што ж ты, Міхалка, ходзіш?

— Бацюшка, хоць бы мне з рублік...

Поп паставіў яго на парог і паказаў яму сем дарог, ажно іскры з глаз пасыпаліся. Заплакаў ён горкімі слязамі і пайшоў. Пайшоў к Віхру ды Ветру:

— Спадманю як-небудзь!

Прыходзіць да іх дома, стучыцца пад вакном:

— Добры вечар добрым людзям!

Бабка адказвае:

— Здрастуй, здрастуй, дзядок!

— Ці не пусціце нанач?

— А хадзі, з богам.

Ён увайшоў, раздзеўся, сеў на лаўцы. Стала старая распытваць у яго:

— Дзе ты, дзядок, бываў?

— А што, матушка? Хадзіў мучыцы даставаць.

— Ну, што, ці дастаў жа дзе?

— Даў чалавек гарцы з два мучыцы, я і адправіўся дамоў.

Адкуль узяліся Вецер і Віхар, вырвалі гэту ў мяне мучыцу і панеслі па чыстаму полю!

— Ну, садзісь жа ты, вячэрай, маліся богу ды лажыся спаць.

Прыходзяць яе дзеці — Вецер ды Віхар; яна і гаворыць:

— Ах, дзеткі мае, што ж вы каля старога чалавека жарты блазнуеце?

— Ну, мамачка, не лай нас: мы яму за гэта заплоцім.

Гавораць Віхар ды Вецер:

— Вось, дзядок, на залатую торбу: торба залатая, кісці сярэбраныя.

Дзядок і гаворыць:

— Што мне з ёю рабіць?

— А вось што: не даходзячы да свайго дому, здзень шапку і стань на каленях, вазьмі яе за вушы і скажы: «Тры з торбы!» А як трэба іх схаваць, то скажы: «Тры ў торбу!»

Адпраўляецца стары дадому; не даходзячы да дому, становіцца на калені, скідвае шапку, бярэць сумку за кісці, трах:

— Тры з торбы!

Як выскачылі тры з торбы з добрымі нагайкамі, як пачалі гэтага старога прабіраць добрым праборам і гавораць:

— Не давай козкі, не давай і жаронцаў!

Астаўляюць яго ледзь жывога; ён і гаворыць:

— Тры ў торбу!

Іх і не стала.

Прыходзіць ён у свой дом:

— Ну, баба, слава богу! Прынёс залатую торбу!

— На што ж нам, дзед, залатая торба?

— А лезь, баба, з печкі далоў, станавіся на калені, бяры торбу за вушы ды кажы:

— Тры з торбы!

Як сказала баба, выскачылі яны, тры з торбы, з добрымі нагайкамі, пачалі гэту бабу лупіць:

— Не аддавай жаронцаў, не аддавай козкі!

Забіваюць гэту старую да смерці. Стала дзеду жалка сваёй бабы.

— Скажы, баба: «Тры ў торбу!»

Як сказала, так яны і ўбраліся ў сваю торбу. Дзед гаворыць:

— Ну, што, баба, будзем рабіць? Будзіць у нас свята, а ў нас цяпер капейкі грошай пры душы няма: хоць бы мы апошні андарак заставілі.

— А добра, дзед!

Заставілі андарак капеек за 50 і чакаюць свяшчэнніка.

— Бацюшка, заходзьце да мяне, хоць малебен адслужыце!

Ну, ён адслужыў малебен яму, было ў яго трохі гарэлкі, мужык яго стаў частаваць. Поп гаворыць:

— Што, Міхалка, ад чаго ты зноў стаў багаты?

Ён гаворыць:

— Бог даў!

— Ну, аднака ж, бог, не бог, ды не будзь-ка сам плох!

А старуха гаворыць:

— Дзед, а я скажу, адчаго мы зноў багаты!

Дзед гаворыць:

— Скажы, табе ж худа будзіць.

— А, бацюшка, у нас ёсць такая-то залатая торба, а кісці сярэбраныя.

— Аддайце яе мне, а то вас хто-небудзь заб'ець.

Яны ўзялі і гэту торбу яму аддалі.

— Ну, што ж мне з гэтаю торбаю рабіць?

Дзед гаворыць:

— Бацюшка, не даязджаючы да двара станьце на калені, вазьміце торбу ў рукі, здзеньце шапку, скажыце: «Тры з торбы!» А як увабраць, скажыце: «Тры ў торбу!»

Скорым поспехам адправіўся свяшчэннік з гэтаю торбаю. Не даязджае да свайго двара, становіцца на калені, здзявае сваю шапку, бярэць торбу ў рукі і гаворыць:

— Тры з торбы!

Як выскачылі тры з торбы з харошымі сваімі нагайкамі і пачалі біць і гаварыць:

— Аддай торбу, аддай і жаронцы, аддай і козку!

Збілі яго на горкае яблыка, ледзь жывога аставілі. Ён і гаворыць:

— Тры ў торбу!

Пад'язджае да свайго дому, уваходзіць у пакой і гаворыць:

— Матушка, вось я прывёз залатую торбу!

— Што ж мы будзем рабіць з гэтаю торбаю?

— Станавіся, матушка, на калені, бяры торбу за кісці і скажы: «Тры з торбы!»

Выскачылі яны з нагайкамі, давай прабіраць матушку і гавораць:

— Аддай жаронцы, аддай і козку, аддай і торбу!

Яны збілі яе на горкае яблыка, яна і гаворыць:

— Бацюшка, пасылайце батрака, каб вёз жаронцы, козку і торбу, штоб ён аддаў гэта Міхалку, таму старому, штоб ён цяпер на мой двор і нагі не накладваў!

Прывозіць работнік усе гэтыя рэчы і гаворыць:

— На, стары пёс, ды на бацюшкін двор і нагі не накладай, спажывай сам, што табе бог даў!

Астаўся гэты Міхалка жыць да быць, да дабро нажываць.

## ЯК МУЖЫК АШУКАЎ ПАПА І ДЗЯКА І ЗАСТАВІЎ РУКІ ЗБРУДЗІЦЬ

Капаў адзін мужык калодзеж і выкапаў золата. Вось ён і думае:

— Куды мне яго дзець? Сабе пакіну — пан адбярэ, а не пан,

дык падпанак, а не той, дык стараста. Панясу я лепш схаваю, бо мне ад іх заплаты не будзе і палепшання не будзе. Бо рабі пану верна, а пан табе не верне.

А ў мужыка стаяла ў доме кабыла. Палажыў мужык у гной золата. Пан не нойдзе, а калі нойдзе, то ў гной рук не папхне. Аднаго разу заехаліся да мужыка поп і дзяк.

Глядзяць — у мужыка ў доме кабыла стаіць. Пытаюцца ў мужыка:

— Чаму яна ў доме стаіць?

Мужык і кажа:

— Знаеце, паночкі святыя, яна мне многа пользы прыносіць. Я яе сенам кармлю, а яна мне золатам адкідывае.

Вымае золата з гною і паказвае панам. Як глянулі на золата, дык вочы заіскрыліся.

Яны і кажуць:

— Знаеш, мужычок, прадай ты нам гэту кабылку, а мы табе заплоцім.

Доўга мужык не згоджваўся, пакуль не нагнаў вялікай цаны.

Але прадаў папам і ўзяў у іх грошы (што можна было б купіць каля сотні коней).

Аддаў кабылу папам, а сам завярнуўся і выехаў у другую мясцовасць.

Згадзіліся па калейцы, адныя суткі кабыла будзе ў папа, а другія ў дзяка.

Паставіў дзяк кабылу ў пакоі, накарміў яе булкамі. (Бо мужык сенам карміў, і то золата давала.)

— А я накармлю булкамі, дык болей дасць.

Нарабіла кабыла гною. Дзяк падляцеў з жонкаю, шукаў, шукаў і не найшоў.

Прылятае поп, пытаецца:

— Ну, як, многа золата?

Дзяк адказаў, што многа, бо скажы, што няма, то будзе смяяцца: «Як, ты рукі збрудзіў, а золата не найшоў!»

Узяў і поп кабылу. Прывёў яе ў свой пакой, накарміў булкамі, а сам ляжыць на ложку і паглядае, ці многа золата будзе.

Нарабіла кабыла гною. Поп калі ўзрадаваўся, падлятае да гною. Шукаў, шукаў, а золата не найшоў.

Зазлаваліся і падалі мужыка на суд, але мужыка тут не было. Так асталіся поп з дзякам у дурнях.

## ПОХОРОНЫ КОЗЛА

Жили старик со старухой; не было у них ни одного детища, только и было, что козел: тут и все животы! Старик никакого мастерства не знал, плел одни лапти — только тем и питался. Привык козел к старику: бывало, куда старик ни пойдет из

дому, козел бежит за ним. Вот однажды случилось идти старику в лес за лыками, и козел за ним побежал. Пришли в лес; старик начал лыки драть, а козел бродит там и сям и траву щиплет; щипал, щипал да вдруг передними ногами и провалился в рыхлую землю, начал рыться и вырыл оттедова котел с золотом. Видит старик, что козел гребет землю, подошел к нему и увидал золото; несказанно возрадовался, побросал свои лыки, подобрал деньги — и домой. Рассказал обо всем старухе.

— Ну, старик,— говорит старуха,— это нам бог дал такой клад на старость за то, что сколько лет с тобой потрудились в бедности. А теперь поживем в свое удовольствие.

— Нет, старуха,— отвечал ей старик,— эти деньги нашлись не нашим счастьем, а козловьим; теперича надо нам жалеть и беречь козла пуще себя!

С тех пор зачали они жалеть и беречь козла пуще себя, зачали за ним ухаживать, да и сами-то поправились — лучше быть нельзя. Старик позабыл, как и лапти-то плетут; живут себе, поживают, никакого горя не знают. Вот через некоторое время козел захворал и издох. Стал старик советоваться со старухой, что делать:

— Коли выбросить козла собакам, так нам за это будет перед богом и перед людьми грешно, потому что все счастье наше мы через козла получили. А лучше пойду я к попу и попрошу похоронить козла по-христиански, как и других покойников хоронят.

Собрался старик, пришел к попу и кланяется:

— Здравствуй, батюшка!

— Здорово, свет! Что скажешь?

— А вот, батюшка, пришел к твоей милости с просьбою, у меня на дому случилось большое несчастье: козел помер. Пришел звать тебя на похороны.

Как услышал поп такие речи, крепко рассердился, схватил старика за бороду и ну таскать по избе.

— Ах ты, окаянный! Что выдумал! Вонючего козла хоронить!

— Да ведь этот козел, батюшка, был совсем-таки православный: он отказал тебе двести рублей.

— Послушай, старый хрен! — сказал поп.— Я тебя не за то бью, что зовешь козла хоронить, а зачем ты по сю пору не дал мне знать о его кончине; может, он у тебя давно уже помер.

Взял поп с мужика двести рублей и говорит:

— Ну, ступай же скорее к отцу дьякону, скажи, чтоб приготовлялся; сейчас пойдем козла хоронить.

Приходит старик к дьякону и просит:

— Потрудись, отец дьякон, приходи ко мне в дом на вынос.

— А кто у тебя помер?

— Да вы знавали моего козла, он-то и помер!

Как начал дьякон хлестать его с уха на ухо!

— Не бей меня, отец дьякон! — говорит старик.— Ведь козел-то был, почитай, совсем православный: как умирал, тебе сто рублей отказал за погребение.

— Эка ты стар, да глуп! — сказал дьякон.— Что ж ты давно не известил меня о его преславной кончине: ступай скорей к дьячку, пущай прозвонит по козловой душе!

Прибегает старик к дьячку и просит:

— Ступай, прозвони по козловой душе.

И дьячок рассердился, начал старика за бороду трепать.

Старик кричит:

— Отпусти, пожалуй, ведь козел-то был православный: он тебе за похороны пятьдесят рублей отказал.

— Что ж ты до сих пор копаешься! Надобно было пораньше сказать мне: следовало бы давно уж прозвонить.

Тотчас бросился дьячок на колокольню и начал валять во все колокола. Пришли к старику поп и дьякон и начали похороны отправлять; положили козла в гроб, отнесли на кладбище и закопали в могилу.

Вот стали про то дело говорить промеж себя прихожане, и дошло до архиерея, что-де поп козла похоронил по-христиански. Потребовал архиерей к себе на расправу старика с попом:

— Как вы смели похоронить козла? Ах вы, безбожники!

— Да ведь этот козел,— говорит старик,— совсем был не такой, как другие козлы: он перед смертью отказал вашему преосвященству тысячу рублей.

— Эка ты глупый, старик! Я не за то сужу тебя, что козла похоронили, а зачем ты его заживо маслом не соборовал!..

Взял тысячу и отпустил старика и попа по домам.

## МУЖЫК, ПОП І АРХІРЭЙ

Быў сабе ў адным сяле дурны, да багаты мужык і вельмі разумны, да бедны поп. Вось аднаго разу паспрачаліся яны між сабою, што на свеце мае большую сілу — розум ці грошы?

— Ты,— кажа поп,— сваім багаццем нічога не зробіш, да толькі дурна перавядзеш усе грошы, бо ты дурны.

— Хоць вы, бацюшка, і вельмі разумны, а я такі грашыма так вас уплутую, што вы сваім розумам нічога не зробіце, а я як грашыма ўвёў у паганае дзела, так грашыма і выведу.

— Добра, добра, але і для гэтага трэба розум.

— Калісь пабачым.

Прайшло з паўгода, а мо' яшчэ і больш, мужык цераз гэты час не забыў сваёй крыўды наконт таго дурня, што тады зарабіў ад папа, да як толькі з ім стрэнецца, дак так віляе, каб не зайшла гаворка за розум да за грошы. Мужык хацеў, каб поп забыўся аб колішняй спрэчцы. Вось раз увечары прыйшоў да папа, тройчы перахрысціўся, сказаў «вечар добры», сеў да быц-

цам зажурыўся. Поп перастаў чытаць, кніжку склаў, адсунуў, зірнуў на мужыка да й пытае:

— Чаго ты такі маркотны?

— Ой, маўчыце, бацюшка, маю вялікае гора.

— Ну?!

— Сучка здохла!

— Цьфу! Па сучцы так гаруеш? І сораму табе няма?

— Каму сучка, а каму роднае дзіця.

Гэтак кажучы, паклаў на стале кучку сярэбраных рублёў, мо' з сотню, а паповы вочы загарэліся полымем.

— Што ж мне з табою рабіць,— кажа жаласна,— каб твая пячаль скора прайшла?

— Ёсць спосаб: мне вось знах... добры чалавек (тут мужык прыпомніў, што поп знахароў не любіць, дак пасунуў, быццам нехаця, грошы так, што кучка разбурылася і рублі бразнулі) нараіў, каб сучку пахаваць на могілках у труне з малітваю, з крыжам да з вадою, дак я прыйшоў прас...

Як рассердзіцца бацюшка, да як стане крычаць:

— Што ж ты такі да сякі, падла гэтакае, скруціўся ці якога чорта?! Гэта ж не то грэх, а яшчэ і астрогам пахне; ці ты аб гэтым падумаў, а?!

— Ну,— кажа мужык, зграбаючы са стала ў кішэню свае грошы,— дак я ж сілаваць не буду, калі няможна.

Але хоць і разумны бацюшка, да ўсё ж такі, маўляў, на грошы мае паповае вока, дак крыкнуў:

— Пастой, я падумаю!

Мужык грошы паклаў назад, сеў, жджэ, а поп бегаў па хаце, а далей стаў да й кажа:

— Добра, я гэта для цябе зраблю, толькі прысягні, што людзі не будуць знаць аб сучцы, што быццам то хаваем тваё дзіця, да што б на могілках дамавіны не адчыняць.

— Добра, бацюшка! Нашто вам што? Будзьце спакойны, усё зробім, як трэба.

Назаўтра рана пайшла па сялу плётка, што Ганна-багатырыха сяеначы скінула дзіця. Стаў сходзіцца народ, а незабавам і бацюшка падышоў. После малітвы вынеслі з хаты дамавіну, паставілі на калёсах, а багатыр сам узяў вожкі ў рукі да й павёз, быццам мерцвяка. Вось як прыехалі на могілкі і бацюшка хацеў крапіць, то хтосьці з суседзяў падбег да й крышку скінуў з дамавінкі.

— Так,— кажа,— святая вада не дойдзе да мерцвяка, а цяпер крапіце.

Як пабачылі людзі сучку ў труне, да як наробяць крыку, той тое, а той другое: «Поп скруціўся, папу нешта зроблена, а мо' на ўсіх чорт туман напусціў, і ўсім здаецца, што гэта сучка». Да яшчэ знайшліся і такія, што хацелі біць абодвух: і папа і багатыра. А поп ні на гэтым, ні на тым свеце — сам не

свой — ведама з вокам запарушаным: стаіць ні жывы ні мёртвы, а багатыр падышоў да й кажа:

— Цяпер адрабі сваім розумам тое, што я зрабіў грашыма.

Сеў сабе на калёсы да й паехаў да гасподы, пасвістваючы, а поп яшчэ доўга стаяў моўчкі, покуль народ разышоўся, а тады і ён паваloкся дадому па-за гумнамі.

Мужык, добра паабедаўшы, звязаў чорнага казла, паклаў на калёсы, запрог каня да й паехаў у мястэчка, бо чуў ад якогась праезджага, што там сёння ждуць архірэя. Прыехаў ужо змяркoм да астанавіўся ў заездзе, выпраг каня, закінуў травы да, аслабаніўшы казла, прывязаў яго каля каня, а сам пайшоў на подслухі...

Прыйшоўшы на двор благачыннага, уваткнуў таму да сяму гасцінца да яшчэ, быццам нехаця, як паказаў, сколькі мае грошай пры сабе, дак і даведаўся, што яму трэба: што архірэй прабудзе са два дні і што да яго можна даступіцца заўтра после службы. Прыйшоўшы да заезду, калі яўрэі ўжо запальвалі свечкі шабас канчаць, папаіў каня, узяў чвэртку крэпкае гарэлкі і тарана да, маючы з дому сала і хлеб, павячэраў да й лёг на калёсах, напрануўшыся світаю.

Назаўтра, после службы, дапусцілі яго з казлом да архірэя, думаючы, што казла ён вядзе на гасцінец, калі архірэй сядзеў у пакоі адзін. Увайшоўшы туды, нізенька пакланіўся, перахрысціўся тройчы да й цмокнуў у руку:

— А што скажаш, чалавеча добры?

— Ваша прасвяшчэнства, мне бог даў усяго патроху, нечага грашыць, да козы нешта не вядуцца, дак мне добры чалавек параіў прасіць вас, каб на майго казла руку палажылі, пастрыглі да далі яму імя айца Івана.

Да гэта кажучы, паклаў на стале здаровы варашок сярэбраных рублёў, мо' больш трох соцень. Архірэй зразу анямеў, а далей вочы загарэліся агнём, да як раскрычыцца да стане лаяць, дак яшчэ горш за папа:

— Ты сякі-такі, сабака... пайшоў вон, сволач, падлец!

Да яшчэ такога нагнуў, што і пераказаць сорам.

— Калі няможна, ваша прасвяшчэнства, то я ж сілаваць не буду, маўляў; купіў, не купіў, а патаргавацца можна.

Да давай зграбаць свае грошы ў кішэні так, каб галасна звінелі. Але хоць ён і архірэй, да ўсё ж такі паповае вока: як пачуў, што рублі звоняць, хаваючыся ў кішэнях, то крыкнуў:

— Пастой, я падумаю.

І давай бегаць, як тады поп; бегаў-бегаў, а далей стаў да кажа:

— Добра! Толькі ж, барані цябе госпадзі, не кажы нікому, бо нам абодвум будзе бяда.

— Не бойцеся, ваша прасвяшчэнства, ад мяне ніхто не даведаецца, калі вы самі да гэтага не давядзеце.

Зрабіўшы ўсё, як трэба, мужык з казлом, ці бок то з айцом

Іванам, прыехаў дадому яшчэ рана, да вельмі рады.

Хтось данёс архірэю, што поп хаваў сабаку на могілках, дак архірэй не паехаў у аб'езд да завярнуў сюды, каб гэту пагану справу разабраць. Прыехаў ён з благачынным, пазваў старасту, дзесятніка да з дзесятак гаспадароў, склалі такі суд, што і куды, а бедны папок, бачыўшы гэта, думае сабе: «Ну, ужо я цяпер прапаў!»

Яшчэ не пачыналі дапытвацца, як і што было, калі глянуць— багатыр вядзе казла проста к самым папоўскім дзвярам.

— Ці ты скруціўся,— хтось кажа,— куды ты прэшся з гэтым казлом?!

— Эге! каму,— кажа,— казёл, а каму айцец Іван.

Архірэй як гэта пачуў, дак вельмі спужаўся; ухапіўся за галаву да й сам сабе кажа:

— Ох, бедная ж мая галоўка! Мне і няўцямкі, што мужык з казлом і поп з сабакаю можа быць у адным сяле.

— Пускайце гэтага чалавека да мяне!

Мужык казла прывязаў, увайшоў у хату, дзе, акрамя архірэя, нікога больш не было, і, як бы ні ў чом не бывала, тройчы перахрысціўся, пакланіўся нізенька, цмокнуў у руку і маўчыць.

— Ты ж кляўся, што ніхто не будзе знаць, а бач, як дадзяржаў прысягу.

— Ніхто, ваша прасвяшчэнства, не знае і ведаць не будзе, як вы самі да гэтага не давядзеце; я вам і тады гэта казаў.

— Дак чаго ж ты ад мяне хочаш? Гавары барзджэй, бо ўжо людзі вельмі цікавяцца.

— Аслабаніце і ачысціце нашага бацюшку, што ён ніколі, нічога, ніякага, што вока мае святое, а я вам аддам прашпарт да скажу людзям,, што казла прыводзіў вам на гасцінец, бо мне знахар нараіў, а вы не прынялі.

— Бог з табою, няхай будзе і так!

Выйшаў на двор, быццам папытаў то сяго, то таго, а іх упярод багатыр падпаіў да падгаварыў, дак яны і ляпнулі ні тое, ні сёе, да й агласіў, што поп ні ў чым не вінаваты.

## САБАКА І ГРОШЫ

Быў у ваднаго чалавека вельмі разумны сабака. Таго сабаку не кармілі, хіба калі-нікалі гаспадар кідаў яму скарынку хлеба да агрызеную косць. У таго чалавека была вельмі паганая жонка, яна заўжды выганяла сабаку з хаты мешалкаю або качаргою ці аблівала вадою. Той чалавек быў жаласлівы нават да ўсякага жыўёла. Ён часта гаварыў жонцы, што трэба сабаку карміць, бо, кажа, мо' не праз чыю ласку жывём. Пачуўшы тое, паганая жонка толькі зневажала свайго гаспадара да яшчэ біла сабаку.

— Сабака, як кот,— крычала яна,— павінен сам сабе знайсці корм.

І праўда, бедны сабака цэлы дзень бегаў туды-сюды, шукаючы сабе корму. Больш усяго любіў ён грабціся ў зямлі, каб злавіць мыш або крата. От пайшоў раз той чалавек у поле, дзе на мяжы стаяла груша, каб натрасці дзікіх ігруш. Ідзе ён і думае сабе: «Натрасу повен кашэль ігруш, занясу ў гумно, высыплю ў мурог. Яны там сапрэюць і хутка пагніюць. Будзе добра есці дзецям, рэшту баба высушыць да наварыць узвару».

Падходзіць ён к ігрушы, аж бачыць — яго сабака грабецца тут на мяжы. Падышоў ён туды. Сабака ўбачыў хаджаіна, выскачыў з ямы, лашчыцца, кідаецца на грудзі да ўсё зноў скача ў яму. Зірнуў чалавек у яму — аж там стаіць повен гаршчок грошай. Блішчыць золата, бы сляза. Забраў чалавек грошы ў кашэль, натрос ігруш наверх і папёр да гасподы. Ужо быў падвячорак, як ён прыйшоў дамоў. Жонка падаіла карову. От той чалавек наліў у місу малака, накрышыў туды хлеба ды і даў сабацы. Жонка давай лаяцца, давай зневажаць да праклінаць на чом свет стаіць. Насілу гаспадар сутрымаў трохі шалёную бабу. На другі дзень ён вялеў бабе кожны дзень варыць страву сабацы да карміць яго малаком.

«Ашалеў гаспадар,— думае баба,— дай жа я хіба атручу сабаку, а то ён скорміць яму ўсё малако».

Пабегла баба к суседкам, жалілася на сваю горкую долю, праклінала гаспадара дай выпрасіла атруты. Наварыла яна стравы, усыпала туды атруты да й атруціла таго сабаку. Вярнуўся з работы гаспадар ды як даведаўся, што сабака здох, дык чуць не заплакаў, так яму шкода было вернага слугі. Няма чаго рабіць, дастаў ён харошых дошак, збіў вельмі гожую труну, наслаў у яе пуху ды і палажыў туды сабаку. Потым выкапаў на могліцах яму, прынёс туды труну ды і пазваў папа хаваць змарлага. Прыйшоў поп і вялеў адчыніць дамавіну. Зняў той чалавек з труны века. Убачыў тут поп, што ў дамавіне сабака, а не чалавек, закрычаў і кажа, што за гэтакі абман сашле да Сіберу ці згноіць у астрозе. Насыпаў той чалавек папу поўную шапку грошай і просіць, каб пахаваў сабаку. Паглядзеў-паглядзеў поп у сваёй ксёнжцы дай кажа:

— Усякае стварэнне да хваліць госпада,— і пахаваў сабаку.

Ідуць яны з могліц, а поп і кажа:

— Шкада, што больш не хаваюць сабак.

## ЗАВІДНЫ ПОП

У аднаго вельмі беднага чалавека памерла дзіця. Просіць бедны чалавек суседзей зрабіць дамавіну і выкапаць магілу для дзіцяці. Але, ведама, калі чалавек багаты, то ўсе яму памагаюць, а беднаму — ніхто. Прасіў, прасіў бедны чалавек, але ніхто не пайшоў капаць яму. Горна яму, слёзы так і ця-

куць, бы з бярэзіны сок. Няма чаго рабіць, трэба йсці самому капаць яму для сваго дзіцяці. Кажуць, гэта вельмі вялікі грэх, але што зробіш, калі ад беднага й людзі адступіліся. Узяў бедны чалавек заступ і пайшоў, але перш зайшоў к папу і просіць, каб пахаваў дзіця.

— Добра,— кажа поп,— толькі ты мне перш прынясі дзесяць злотых і паўасьмінку аўса.

— Няма,— кажа,— бацюшка, у мяне ні аўса, ні грошай.— І давай прасіць, каб поп пахаваў дзіця так, а што ён ужо потым адробіць. Куды там! Поп не хоча і слухаць. Як ні прасіў бедны, поп стаіць на сваём ды і толькі. Заплакаў бедны з жалю і пайшоў капаць магілу. Ось капае ён ды капае і выкапаў гаршчок з грашыма: чырвонцы аж ззяюць! Панёс гэта бедны чалавек гаршчок з грашыма да гасподы і схаваў яго пад печ, а адзін чырвонец прыносіць папу. Здзівіўся поп, адкуль гэта ў беднага золата, й давай выпытваць. Бедны ўсё і расказаў, як было. От пахавалі ў беднага чалавека дзіця. Сама пападдзя з папом потым зайшлі ў хату к беднаму на памінкі. Толькі позна разышліся ўсе. Астаўся бедны чалавек адзін з жонкаю.

Прыйшоў гэта поп дамоў, і хочацца яму адабраць ад беднага грошы. Зарэзаў гэта ён казла, абвярнуўся ў казліную шкуру, прыладзіў рогі ды й пайшоў у самую глупась к беднаму пад вакно. Прыйшоў, высунуў у вакно галавішчу з рагамі і кажа немым голасам:

— Аддай мае грошы.

Спалохаўся бедны чалавек і аддаў гаршчок з грашыма. Ухапіў поп аберучкі гаршчок і пабег дамоў. Прыбег, хоча паставіць гаршчок на стол, да нельга — рукі прыраслі. Папрабавала пападдзя садраць з папа казліную шкуру. Куды там! І шкура, і рогі прыраслі. Што ні рабіў завідны поп, нічога не ўрадзіць. Прыйшлося прасіць беднага чалавека, каб ён забраў свае грошы. Сабраліся людзі, дзівяцца на папа, а ён толькі казлінаю барадою трасе. Ось прыйшоў бедны чалавек і як узяў свае грошы, дак і шкура з папа звалілася, ды не толькі казліная, але й свая. От які быў завідны поп.

## ВЕРШ ПРА КІРЫКА

Ой, тое было на Валыні,
У Бабруйскім павеце —
Такі цуд сатварыўся,
Што не было ў свеце.
Паслухайце ж, людзі добры,
Штось хачу сказаці.
Мая мова хоць не гладка —
Не стану ж ілгаці.
У адным сяле між борам

Цячэ быстра рэчка.
Там стаяў той крыж высокі,
А пад ім каплічка.
Высіўся там палац прыгожы,
А ў яго раскошы
Жыў багач, дзіўна добры —
Усё раздае грошы.
Кожны дзень ён п'е, гуляе,
Яшчэ йграюць музыкі,
А як прыйдзе хтось судзіцца —
Усе бачаць — ўладыка.
Там і цэркаўка стаяла —
Не знаем якая...
Каля яе поп касматы,
Пападдзя гладкая.
Там жыў мужык дужа бедны,
Ён Кірыкам зваўся,
І працаваў ён шчыра,
А з дабром не знаўся.
Якраз у жніва, у час рабочы —
Няшчасна гадзіна!—
Зрабіўся Кірыку клопат —
Памерла дзяціна.
Пайшоў Кірык па суседах
Падмогі прасіці.
Не схацеў ніхто нічога
Кірыку даці.
От і вярнуўся ён дадому,
Абліўшыся слязамі.
Спазнаў цяпер бедалага,
Як жыць з суседамі.
Пайшоў Кірык да бацюшкі
Ды ўпаў на калена:
— Злітуйся, наш чэсны ойча,—
Памерла дзяціна.
Якраз у жніва, у час рабочы,
Найвялікша бе́да!
Ды няма ў мяне зараз
Ні солі, ні хлеба.
Прашу я вас, чэсны ойча,
Дзяціну пахавайце.
А што ма́ю плату даці —
Да вясны чакайце.
— А!— агрызнуўся поп на Кірыка,
Топнуўшы нагою.—
А! Ты кажаш, хлус, п'яніца,
Я ў цябе слугою?!
Няма ў цябе чым плаціці?

Ляніўся ты рабіці!
От пайшоў бы ты да мене
Дзён на пяць касіці.
А твая ўзялася б жонка
Жыта маё жаці,
Чым бы я меў тваёй платы
Да вясны чакаці.
А тады шчэ поп Кірыка
Кулаком ў спіну:
— Пайшоў прэч з маёй ты хаты,
Ератычны сыну!
Ідзе сялом бедны Кірык,
Ідзе, плача, тужыць,—
Няма яму шчасця ў свеце,
Фартуна не служыць.
Ідзе сялом бедны Кірык,
Слёзы ўцірае.
Аж вось яго гаспадар добры
Якраз сустракае.
— Чаго ж ты плачаш, Кірык?
Чаго засмуціўся?
І пра бяду расказаў Кірык,
Што пан аж скрывіўся.
Потым кажа ён Кірыку
Пра яго выпадак:
— Ідзі ж, Кірык, на могілкі,
Схавай сам дзяціну.
Бедны Кірык з гора —
Што больш чыніці?—
Узяў заступ ды лапату,
Пайшоў ямку рыці.
Прыйшоў Кірык на могілкі,
Ямку пачынае,
Аж вось ідзе дзед старэнькі,
Барада сівая.
— Здароў,— кажа,— бедны Кірык.
Што маеш рабіці?
— Хочу,— кажа,— ямку капаці,
Дзіця схараніці.
— Не капай жа ты тут ямкі,
Цвёрда капаць будзе,
Хай тут выкапаюць ямку
Сабе іншы людзі.
Вось хадзем я пакажу,
Дзе табе капаці,
Будзеш мяне за тое месца
Доўга ўспамінаці...
Не багата ён пракапаў,

Дакапаўся да грошай
Ды й выкапаў у тым месцы
Кацялок харошы.
Вось жа Кірык над кацялком
Не стаў разважаці,
Ухапіў з ім грошы
Ды й памчаў да хаты.
Схаваў тыя грошы
Далей у камору.
Рады Кірык грошам,
Пра іх не гаворыць.
Набраў Кірык грошай ціха
Кішэню нямалу,
Штоб справіць абед добры,
Для ўсіх каб хапіла.
Вось жа пайшоў да карчомкі
Ды ўзяў штоф гарэлкі,
Падмацаваўся пасля горкай працы,
Не забыў і жонкі.
А яна ўсю ноч не спала —
Пякла ды варыла,
Завіслівых сваіх суседаў
Добра ўчаставала.
Пайшоў Кірык да пан-ойца,
Пабег хутка, прытка,
Каб і там не забавіцца
І вярнуцца хутка.
— Памагай бог вам, чэсны ойча!
Зноў да вас у хату.
Пахавайце з благачэсцем,
Вазьміце з мяне плату.
— Што ты, Кірык! Ці ты здурэў,
Ці гарэлкі напіўся,
Ці лежачы, знай, на баку,
З раскошы сшалеўся?
Дай пятнаццаць рублёў,
Як добрыя людзі,
Пахаваю з благачэсцем,
Усё добра будзе.
Бедны Кірык ад парога
Падышоў паволі
Ды й высыпаў рублі
Перад ім на столе.
Тут жа пайшоў Кірык хутка
К служкам царквы прасіці,
Каб служкі загадалі
На абед званіці.
Тут жа людзей бедны Кірык

На абед ззывае,
А хто едзе з капамі,
У двор завяртае.
Ды ўсе людзі ў Кірыка
Елі, напіліся,
А наеўшысь і напіўшысь,
У хаце разыйшліся.
Ды й ніхто ж так, як пан-ойцец,
Усё не пажырае,
Ды нейкую яшчэ ён думку
Сам сабе гадае:
«Ото, божа літасцівы,
Як на свеце дзіўна,
Што які яшчэ учора
Быў той Кірык бедны.
Учора лазіў на каленах,
Плакаў ды прасіўся,
Цяпер сыпле рублямі,—
Дзе ён так разжыўся?»
Вось з абеду пападдзя ўжо
Прыйшла, раздзелася,
Як успомніла пра Кірыка,
За сэрца ўзялася.
— Ой, ты,— кажа,— чэсны ойча,
Прымі настаўленне:
Няхай прыме Кірык споведзь
У гэту нядзелю.
Ды выпытай усю праўду,
Няхай табе скажа,
Дзе ён узяў столькі грошай,
Няхай ўсё пакажа...
Вось ужо нядзеля
Свята наступае,
А поп дзяка па Кірыка
Зараз пасылае.
Кірык прыйшоў і тут споведзь
Святую прымае...
Скора ж яго поп пра грошы
Знайдзеныя пытае:
— Ото, Кірык, прызнавайся,
Бо то грошы закляты,
Пасвяціць іх табе трэба
І на цэркву даці.
Цяпер,— кажа,— ты ў раскошы,
Усё п'еш ды гуляеш,
А я знаю, як ты за іх
Душу пацяраеш.
Кірык выслухаў ту споведзь

Ды й прызнаўся пра грошы,
Што выкапаў на могілках
Кацялок харошы.
— Калі ж я ўзяў за тыя грошы
Грэх на сваю душу,
То я той грэх то сяк, то так
Спакутаваць мушу.
Скончыў поп служэнне,
Дадому вяртае,
А пападдзя пажадліва
Ужо хутчэй пытае:
— А што, скажы, чэсны ойча,
Ці Кірык прызнаўся?
— Знайшоў, кажа, скарб вялікі...
Граху ж не спужаўся.
— Ой, не знаеш жа ты, попе,
Як тыя грошы ўзяці.
Трэба ў сенях з балкі
Шкуру вала зняці...
Ўнеслі шкуру валову,
Змачылі вадою.
Не было тут больш нікога,
Толькі поп з пападдзёю.
І папу адзела яна шкуру
На рукі й на ногі,
На галаву паставіла
Валоўі рогі.
Дык то перш быў бацюшка,
Толькі барадаты,
А цяпер ужо зрабіўся,
Як той чорт, рагаты.
От прыйшоў той чорт рагаты
Да Кірыка хаты
Ды й па якім, чорт яго ведае,
Стаў ён мармытаці.
Кірык тут адчыніў кватэрку,
На двор паглядзеў,
Бачыць чорта з рагамі —
Ды й перахрысціўся.
— Ой ты, чорце, ты нячысты,
Чаго тут явіўся,
Чаго ж ты так на мяне
Дужа разазліўся?
— Ты знайшоў там на могілках
Кацялок з рублямі.
Аддай мне, бо абдзяру
Цябе пазурамі
Ды й укіну ў пекла на дно,

Голаву сарваўшы,
Будзеш знаць, як грошы браці,
Не загараваўшы!
Кірык выйшаў зразу з хаты,
Грошы яму сунуў
І хутчэй дзверы моцна
Засавам засунуў.
Як вярнуўся ён у хату —
Што з бяды рабіці?
Забраў д'ябал усе грошы —
Пачаў галасіці.
От жа поп над кацялком тым
Не стаў развважаці.
Выхапіў з ім рублі
Ды й памчаў да хаты.
А пападдзя з форткі
Даўно выглядала.
— Бачыш, папе, хутка справіўся,
Я ж табе казала!
От жа хацеў поп матушцы
Кацялок аддаці,
Ды не хочуць яго рукі
Ад яго адстаці.
То ж хацела так матушка
Вала шкуру зняці,
Ды чорта з два!— ўжо няможна
І нажом ададраці.
— Эх!— як крыкне поп касматы,—
Вы грошы пракляты!
Нашто ж мне было вас
Ад Кірка браці?!
А назаўтра да Кірыка
Пападдзя прыходзіць
І дзіўную гісторыю
Яна з ім разводзіць:
— Добры дзень табе, Кірыку,
Памагай бог жыці!
От хацеў поп з табой
Жарты жартаваці,
А тыя яму з табою
Жарты не ўдаліся,
Тая няшчасная гадзінанька
У рукі далася...
Ідзі, Кірык, будзь ласкаў,
Да нашае хаты,
Мо дадуцца твае грошы
Табе ў рукі ўзяці.
Не пайшоў да папа Кірык

Сваіх грошай браці,
А пайшоў ён да багача
Пра дзіва сказаці.
А багач загадаў хутка
Грамаду збіраці.
Сказаў папу несці грошы
Да Кірыка хаты.
— Цяпер жа,— ён кажа,— людзі,
Па маёй уладзе
Вядзіце папа ў Пачаеў,
Хоць бы мог ён і прапасці.
Залыгалі тады папа
За рукі й за рогі,
Аставілі не звязаныя
Толькі адны ногі.
Як павялі ж па базарах —
Курава ўзнялося,
А па цэрквах, куды вялі,
Скрозь на збор званілі.
Збіраліся шаўцы, краўцы
І малыя дзеці —
Усе на тое вялікае дзіва,
На цуд глядзеці.

## ЦЯГЛО

Памерла неяк маці цыгана. Сын дужа зажурыўся, што яму рабіць з нябожчыцай. Потым пайшоў да папа:

— Што табе трэба?— насмешліва запытаў поп у цыгана.

— Ой, ойча прападобны, памерла мама, от я вельмі прасіў бы, каб прыйшлі пахаваць.

— Добра,— кажа поп цыгану,— я пайду і пахаваю маму так, што й чорт яе больш не знайдзе... Толькі скажы, чым думаеш плаціць за пахаванне ды ці пакінула твая маці якуюнебудзь маёмасць.

— У мяне ў самога няма чым плаціць, хіба аддам мамінае цягло, што нябожчыца пакінула.

— Ну, добра,— згадзіўся поп, калі пачуў пра цягло,— а цяпер скажы, як хочаш хаваць?

— Так, як і ўсіх багацеяў хаваюць... Каб было «тры штацыі» ды й каб не забыліся ўзяць з сабой «харахадзільніцу»— маёй маме косці пакадзіць...

— Цыган, а аддасі цягло, што маці пакінула?

— Няхай мяне бог пакарае, калі я збрашу...

Поп абрадаваўся, думаючы пра каня ды воз. Адпеў нябожчыцу і адразу ж прыйшоў да цыгана:

— Ну, цыгане, давай сюды матчына цягло.

— Я б вас, паночку, прасіў, каб вы беднаму цыгану тое ўсё даравалі, бо як вам аддам цягло, тады асіроціце мяне...

— Цыган, цяпер ужо не круці, бо згода згодаю.

— Калі пан прападобны наважыліся, дык тут і маеце цягло,— кажа цыган, вымаючы пракураны цыбук з люлькаю.

— Гэта ў цябе цягло?— злосна крычыць поп.

— А вы, паночку, як думалі?.. Гэта ў нас называецца цягло... Бо ім цягнем дым з люлькі.

— А бадай цябе, цыгане, крукам сагнула з тваім цяглом!..

## БРАТ СОНЦА І БРАТ ТОРБЫ

Быў у адным сяле поп, а па суседству з ім жыў цыган. Калі надышоў час касіць сена, поп паклікаў цыгана.

Дамовіліся так. Цыган будзе касіць цэлы дзень і за гэта атрымае плату — адну торбу кукурузы.

Пачаў цыган касіць. Касіў цэлы дзень, а калі сонца заходзіла, пачаў гаварыць папу пра разлік за работу.

Поп яму і кажа:

— Глядзі! Яшчэ дзень не мінуў, бо сонца хоць і заходзіць, але яго брат — месяц — свеціць.

А тады месяц ужо ўзышоў.

Бачыць цыган, што нічога не зробіш, і вырашыў касіць далей. Касіў цэлую ноч, аж пакуль месяц не зайшоў. Тады поп паклікаў цыгана, каб даць яму плату.

Прыйшоў цыган з торбаю ды ўзяў з сабою яшчэ і мяшок. Прарваў у торбе дно і наставіў дзіркаю над мяшком.

Сыпле поп у торбу кукурузу, а яна праз дзірку ў мяшок высыпаецца.

Заўважыў тое поп і пачаў на цыгана крычаць.

А цыган і кажа:

— Калі ў сонца з'явіўся брат, што свяціў мне цэлую ноч, я маўчаў. А цяпер, калі я ўзяў торбінага брата, то і вы не крычыце. Трэба шанаваць сваякоў.

Так цыган перахітрыў прагнага папа.

## ЯК ПОП З ЦЫГАНОМ СУДЗІЎСЯ

Гэта было, дзе не было, у семдзесят сёмай дзяржаве, за шклянымі гарамі, за малочнымі плынямі... Так бы нашы ворагі трымаліся на сілах, як пясок на вілах. Я іх не маю, дай ім, божа, што сабе жадаю...

Быў адзін цыган, што карчаваў лес, а поп туды хадзіў на паляванне. Пабачыў ён зайца і стрэліў у яго, а калі падстрэляны заяц прабягаў каля цыгана, той падняў матыгу, прыцэліўся дзяржаннем і выгукнуў: «Пу-у-у!»

— Што ты, цыган, робіш?— пытае яго поп.

— Я ведаю, што раблю...
— Заяц мой!
— Ой, бо мой!
— Я падам цябе на суд...
— Падавайце мяне хоць на неба!
І напісаў поп скаргу на цыгана, і падаў у суд...
Аднойчы прыйшла павестка ісці на суд. Поп сустрэў цыгана і кажа:
— Дык вось, нябожа, трэба нам збірацца на суд.
Цыган аглядзеў сябе і кажа:
— Я ў такім лахмоцці не пайду на суд.
— А як тады будзе?
— Пане святар, як дасце мне сваё адзенне, то пойдзем.
Поп задумаўся.
— Ну, дык хадзі да мяне, і я табе знайду якое-небудзь адзенне.
Цыган пайшоў у дом святара, і поп яму пазычыў сваё адзенне.
Ідуць яны ў горад. Цыган ганарліва крочыць з капелюшом набок.
Калі суддзі пачалі разглядаць справу, пытаюць цыгана:
— Ну, чый быў заяц?
— Быў мой і ёсць мой!
— Але пан святар кажа, што яго...
— Адкуль яго, калі маё дзяржанне страляла.
Суддзі смяюцца.
— Як матыга магла стрэліць?
— Пане суддзя, калі бог захоча, то й матыга стрэліць, а калі не захоча, то й і ружжо не стрэліць.
Але поп б'ецца ў грудзі, што заяц яго.
Тады цыган кажа:
— Пане святар можа сказаць, што і гэта адзенне, што на мне,— яго?
А поп закрычаў:
— Ой, сапраўды маё!
Суддзі засмяяліся:
— Пане святар, гэта немагчымая рэч!
Закончыўся разгляд, суддзі параіліся і прагаласавалі:
— Справу выйграў цыган.
Поп і цыган вяртаюцца дахаты. І калі ўжо расходзіліся, поп прагаварыў:
— Небарака цыган, як будзе з адзеннем? Хадзі да мяне і пераадзенешся...
— Пане святар, вы хіба не чулі, што пастанавіў суд? Адзенне маё... А раз вы яшчэ круціце, то вяртаемся да суда...
Пачухаў поп патыліцу і махнуў рукою:
— Чорт з табою, цыган...
Ды й казцы канец.

## ДЗІКАЯ СВІННЯ

Хадзіў адзін чалавек ад сяла да сяла, ад хаты да хаты. Дзе яго ноч заставала, там і начаваў. Адну ноч спаў у бедняка, у якога было васьмёра дзяцей. Рана прачнуліся, глядзяць, а той чалавек памёр. Бядняк вырашыў прадаць апошнюю казу, каб пахаваць нябожчыка, але жонка параіла мужыку пашукаць у дзеда, можа, у яго дзе знойдуцца якія-небудзь грошы. Так і было. Знайшліся грошы, і не малыя — дзве тысячы пяцьсот карун. Бядняк аж спалохаўся такіх вялікіх грошай ды пайшоў па параду да папа. Поп узяў пяцьсот карун за пахаванне, а на рэшту параіў бедняку купіць дзесяць парасят і кукурузы, каб карміць іх. Так бедны і зрабіў. Купіў дзесяць парасят і такі рады, бо будзе і саланіна, й грошы. Гадуе парасят ды ўсё прымаўляе:

— Якая ў мяне добра дніна, будуць грошы й саланіна.

А поп смяецца ды й кажа пападдзі:

— Нам дурны Грыцько такога парсючка корміць, што саланіна будзе ого-го!

Але аднойчы кончылася кукуруза, няма чым карміць свіней, і Грыцько пайшоў да папа. Поп параіў прадаць двое свіней і купіць кукурузы. Скора выйшла і гэта кукуруза, і бядняк зноў прадаў двое свіней, як параіў поп. Так да канца года застаўся адзін кабан, вялікі-вялізазны і цяжкі-цяжэзны. Грыцько хацеў ужо рэзаць яго. Поп думае, як бы выдурыць гадаванца, і прыдумаў. Апоўначы пераапрануўся ў жабрацкія лахманы, прывязаў з клочча бараду і пайшоў да Грыцька. Каля хаты запаліў свечку, стаў пад акно да й кажа умольным голасам:

— Грыцьку, мяне ў пекле чэрці мучаць. Аддай на бога гадаванца.

Грыцько падышоў да акна, глядзіць, а гэта той чалавек, які памёр у яго хаце.

Жонка рана паднялася і пачала рыхтавацца да вялікага свята, якога ў іх хаце яшчэ ніколі не было. Бо хіба гэта не вялікае свята — бядняк будзе калоць свінню.

А як Грыцько расказаў пра начнога госця, жонка й дзеці заплакалі. Пачаў Грыцько думаць, як перахітрыць бога. Пад вечар пайшоў ён да кума, купіў напавер малое парасятка і панёс да папа. Поп узяў парася, але наказаў Грыцьку, што калі яшчэ раз з'явіцца той чалавек, трэба будзе аддаць вялікага кабана.

— Ото,— кажа поп,— браце мой у Хрысце, страшная рэч. Не толькі той жабрак будзе гарэць у пекле, але й ты, твая жонка і дзеці. Я кажу, што лепш тут галадаць, а на тым свеце ў раі радавацца.

Грыцько думаў яшчэ і так: даць гадаванца — будзем галадаць, не даць — вечнае пекла. Аднаму ён здзіўляўся, як гэта папы ядуць, п'юць, грошы забіраюць і не баяцца пекла.

Прыйшоў ён дадому, узяў поўную жменю фасолі і пачаў раскладваць на дзве купкі.

— Даць, не даць, даць, не даць...

— Не даць!— закрычаў Грыцько, калі паклаў апошнюю фасоліну.— Чуеце, дзеці? Не даць! Так і ёсць. Раз будзем есці, а на тым свеце няхай нас і лупяць.

Калі надышоў вечар, Грыцько і старэйшы сын узялі сякеры, выйшлі у двор і прыселі за бадыллём.

Настала поўнач. Чуюць: хтось ідзе. Падышоў бліжэй, чыркнуў запалкаю, запаліў свечку і пад акно. Глядзіць Грыцько — той самы чалавек, толькі барада трохі даўжэйшая, а на нагах не пасталы, а нейкія старыя чаравікі.

— Грыцьку! Я з таго свету. Мяне ў пекле чэрці мучаць, дай кабана на бога.

— Даю,— сказаў Грыцько, падбег бліжэй і замахнуўся сякераю.

Нячыстая сіла заверашчала:

— Не бі, бо зараз памрэш.

Тады сын схапіў таго за бараду, а барада адарвалася. Той закруціўся і даў драпака. Грыц з сынам — за ім. Дагналі аж на пералазе. А якраз засвяціў месяц, і Грыц пазнаў, што гэта за нячыстая сіла. Доўга не думаў, адчыніў свінушнік і штурхнуў айца духоўнага да гадаванца. Поп спрабаваў страшыць Грыца богам, пеклам, а Грыц смяецца, не адмыкае дзвярэй. А тут пачало днець, і поп бачыць, што Грыц не жартуе.

— Грыцьку!— кажа ён ласкава.— Пусці, людзі ўбачаць!

Грыц нібы нічога і не ведае да й кажа:

— Што за мара, няйнакш гадаванец навучыўся гаварыць?

— Ды адчыні. Я твой духоўны пастыр.

Пры гэтым пачалі сходзіцца суседзі, якіх Грыцько паклікаў гадаванца калоць.

— Людзі добрыя,— кажа Грыц,— бярыце колле ў рукі, бо я ўначы злавіў дзікую свінню, дык і яе трэба закалоць.

— Ой, браты ў Хрысце, не бярыце колля! Пусціце. Я ваш айцец духоўны.

Тады Грыцько адчыніў дзверы, а з свінушніка на чатырох вылез поп.

— Эге, суседзечкі добрыя, пазірайце на святога злодзея. Хацеў ад мяне гадаванца выманіць.

Поп пабег гародамі, каб яго менш людзей бачыла.

Грыцько расказаў суседзям усё па парадку, потым закалолі гадаванца. Жонка насмажыла свежыны, і ў беднага Грыцька была вялікая гасціна, радасць у хаце, а поп знік з сяла. Грыц і яго дзеці больш у царкву не хадзілі, жылі ды працавалі і на памерлыя душачкі богу ніколі не давалі.

## ЯК ПОП ПАДАРУНКІ ЗГУБІЎ

Прыйшоў поп да мужыка — з малітваю ці што. Даў яму штосьці мужык. А папу мала, яшчэ хочацца. От, ён і просіць: і таго дай, і другога дай, ды яшчэ дай. Мужык дае ды й дае — набраўся поп усяго. Выходзіць з хаты, а сярод двара брус ляжыць.

А мужык:

— Можа б вы,— кажа,— бацюшка, і брус узялі?

А поп яму:

— Я б,— кажа,— і ўзяў, дык куды ж яго ўзяць? Бач, рукі занятыя. Хіба дай мне ў зубы?

— Як кажаце, бацюшка? Даць у зубы?

— Эге,— кажа бацюшка,— у зубы дай.

Дык мужык узяў брус ды як даў папу ў зубы, дык той і тое пагубіў, што ў рукі набраў.

## БЕДНЯКОВА ШЧОДРАСЦЬ

Жыў на свеце бядняк, які меў маленькую хатку, а ў хаце — кучу дзяцей. На зялёныя святкі прыйшоў да яго пан айцец. Пабачыў курку і пеўня, якія грэбліся на смецці.

— Навошта табе, мой сын, тая птушка? Падары мне. За тваю шчодрасць памалюся, каб бог паслаў табе вялікае шчасце.

Бядняк адказаў:

— Добра, пан ойча... Згода.

Злавіў курку і пеўня, усунуў іх папу падпахі. Але поп не ішоў. Усюды заглядваў, усё абнюхваў. Глядзеў у вакно, а сярод хаты кросны. На іх ужо гатовае добрае палатно. Паповы вочы засвяціліся, як два каганцы.

— Навошта табе, сын мой, тое палатно? Падары мне. За тваю шчодрасць памалюся, каб бог паслаў табе вялікае багацце.

Бядняк вынес сувой палатна і даў папу ў рукі.

А той далей шастае па ўсіх закутках. Каля стайні бачыць новы дышаль.

— Падары мне той дышаль, у цябе ж каня няма, а мне ён спатрэбіцца.

Бядняк падняў дышаль і пытае:

— Куды вам яго даць? Падпахамі ў вас певень і курка, у руках — палатно...

— Дай мне ў зубы...— гаворыць поп.

Бядняк схапіў дышаль і так даў папу па зубах, што той аж айкнуў і даў лататы: уцякаў так, што дарога курылася за ім.

Каля хаты зноў певень кукарэкаў, курка кудахтала, каб чалавек думаў, што ён таксама гаспадар.

## ЯК ГУЦУЛ НАЙМАЎСЯ Ў ПАПА

Калісьці адзін поп трохі падпіў у войта на хрэсьбінах і пачаў выхваляцца.

— Я ў самым Рыме пяць гадоў вучыўся. Не знойдзецца ў свеце такога, каб мяне вакол пальца абвёў.

Пачуў тое кемлівы гуцул, што служыў у войта, і вырашыў правучыць хвалька.

От у другі дзень пайшоў да папа.

— Табе што?..— пытае поп.

— Прыйшоў я да вас, паночку, прасіцца на службу.

— А што рабіць умееш?..

— Што скажаце, ойча, тое й буду рабіць,— паказаў гуцул здаравенныя кулакі.— Нават зварыць што-небудзь магу.

— Э, не, для гэтага ў мяне ёсць кухарка, а вось да цэпа добры работнік спатрэбіўся б. Малаціць умееш?..

— Чаму не ўмець? Умею, ойча.

— А якую табе плату на год прызначыць?

— Я, шануючы айца духоўнага, адзін, як палец, то мне багата і не трэба. Дасце на год тры карцы пшаніцы. Ды й, вядома, будзеце мяне, як свайго слугу, адзяваць і карміць.

Абрадаваўся поп, што такому дужаму і маладому найміту так мала трэба будзе плаціць, ды й паспешліва кажа:

— У мяне ва ўсім павінен быць парадак. Ідзі ж, хлопча, у пакой, паклічам панамара і дзяка і пры сведках складзем умову, каб ты ад сваіх слоў потым не адмовіўся.

Поп паслаў па сведкаў. А калі тыя неўзабаве прыйшлі, пачалі пісаць дагавор. От поп і кажа:

— Калі ты, хлопча, будзеш мне дрэнна рабіць, то я цябе праганю і зярняці не дам.

— Як так, то й так,— пагадзіўся гуцул.— А калі вы, ойча, парушыце ўмову, аддасце мне наперад усю плату за год.

На другі дзень раніцай поп выйшаў на ганак паглядзець, як гэта новы найміт лупіць цэпам. Та ба! Нешта не чуваць на таку работы. Пан айцец паслаў наймічку адшукаць лежая.

Кінулася наймічка ў стадолу і праз міг выскачыла адтуль чырвоная, як рак.

— Ён... ён... Ой, не магу...

— Што ж ён?— дапытваецца поп.

— Ды ідзеце пагляньце...

Раззлаваўся поп, падаўся ў стадолу. Глядзіць: сядзіць найміт на свежым сене, у чым маці нарадзіла, склаўшы накрыж на грудзях рукі:

— Гэта так ты мне служыш, дармаед?— затросся ў гневе пан айцец.

— А што ж мне рабіць?— спакойна кажа найміт.— Я ж вас,

пане ойча, ад самага світанку чакаю. А вас як няма, так няма.

— Што ты пляцеш, дурань?

— Ой, і кароткая ў вас памяць, ойча. Мы ж дамовіліся пры сведках, што вы мяне будзеце адзяваць і карміць. Забылі? Ото ж я і чакаю, калі вы мяне адзяваць прыйдзеце. Ды і перакусіць ужо не шкодзіла б...

Толькі цяпер зразумеў поп, што пашыўся ў дурні, але было позна.

Давялося папу-хвальку адмяраць хітраму гуцулу тры мяшкі зерня.

## ДЗЕСЯЦІНА З КАВАЛКА ЗОЛАТА

Зайшоў аднойчы цыган да папа. Айцец прападобны якраз абедаў. Цыган убачыў курку смажаную і аблізваецца. А поп і не думае клікаць няпрошанага госця да стала. А той стаіць сабе каля парога, камячыць шапку ў руках. Ды не проста сабе так стаіць — думае, як бы ў папа паабедаць.

— Пане прападобны!— кажа цыган.— Ці дзесяціну на царкву трэба даваць з усяго, што мае чалавек?

— З усяго.

— І з таго кавалка золата, што знойдзеш?

— І з кавалка золата,— не думаючы кажа поп. А як да яго дайшло, падскочыў:

— А ты што, знайшоў кавалак золата?!

— Знайшоў — не знайшоў. Вы мне лепш скажыце, як гэта можна з цэлага кавалка золата адламаць дакладна дзесятую частку?

— Ты аб гэтым не журыся. Прынось золата — я адламлю з таго кавалка дзесяціну на бога.

— А як я не захачу выканаць божую запаведзь пра дзесяціну?

— То будзеш мець неспасёны грэх. Бойся гэтага, цыгане!

— Але вы чамусьці не баіцеся гневу божага, хоць самі не выконваеце яго запаведзь.

— Якую запаведзь?

— А такую: «Палюбі бліжняга, як самога сябе». А вы тут курку ясце, а пра бліжняга не думаеце.

— Як гэта не думаю,— аж разгневаўся поп.— Я цябе якраз збіраўся запрасіць да стала, але ты мне не даў слова сказаць.

Запрасіў поп цыгана паабедаць. А як усталі з-за стала, пан прападобны кажа:

— А цяпер кажы, дзе той кавалак золата, з якога я павінен узяць дзесяціну?

— А я вас проста так запытаў, каб ведаць, ці трэба будзе вам даваць дзесяціну з таго кавалка золата, які спадзяюся некалі знайсці.

## ГЛУХІЯ

Жыў у адным сяле дзяк Даніла і вельмі нячысты на руку. Кожны раз у царкоўнай касе за яго дзякаванне не хапала то два злотых, то пяць. А аднойчы нават дваццаць пацёг.

Разлютаваўся поп Вікенці за такое самавольства дзяка і вырашыў яго паспавядаць. Паклікаў дзяка ў алтар ды й пачаў:

— Ты,— кажа,— раб божы, грэшны, грошы з царкоўнай касы крадзеш.

— Што?— перапытвае дзяк.

— Грошы, грошы з царкоўнай касы крадзеш!— крычыць поп.

— Нічога тут не чуваць,— адклікаецца дзяк.— Калі не верыце, станьце на маё месца, а я на ваша, самі ўпэўніцеся.

Паслухаўся поп і стаў на месца дзяка, а дзяк — на папоўскае. От дзяк і пытае яго:

— А скажыце, святы айцец, хто вам сінякоў такіх наставіў?

— Мацней, дзячэ, не чую!— выкручваецца поп.

— Хто вам, ойча, сінякоў такіх наставіў? Ці не я ўчора каля маёй жонкі?

— А й сапраўды,— кажа поп,— тут нічога не чуваць. Ну, бог табе даруе, і я табе дарую.

І адпусціў грахі дзяку.

## ПЕРАХІТРЫЎ

Адзін поп залез у царкву, накраў багата царкоўнага золата і, каб ніхто яго не забраў, паклаў у плашчаніцу, а зверху напісаў: «Тут захоўваюцца целяса божыя».

А псаломшчык уночы забраў усё сабе і напісаў:

«Тут няма цялес, Хрыстос васкрэс!»

## ЯК ПОП ВЫДУРВАЎ ГРОШЫ

Хлопец некалькі гадоў гараваў у багацеяў. Недасыпаў і недаядаў, каб сабраць трохі грошай і купіць штосьці для гаспадаркі. Потым пайшоў да сельскай дзяўчыны і кажа:

— Слухай, Марыя, у мяне ёсць грошы і хачу гаспадарыць. Будзь маёю жонкаю.

Дзяўчына адказала:

— Не магу я быць тваёю жонкай — у цябе бацька ліхі.

Тая Марыя хлопцу падабалася — меў бы добрую жонку! Што цяпер рабіць? Не выганіш жа бацьку на зялёную пашу. Зажурыўся, задумаўся. І аднойчы павёў свайго тату на трэцяе

сяло, да далёкіх сваякоў. Пакінуў грошай, каб там старога добра глядзелі, і зноў пайшоў да дзяўчыны.

— Будзь маёй жонкай. Ужо няма бацькі — пахаваў яго.

— Калі так, то буду я тваёй...

І справілі вяселле.

Але не прайшло і тыдня, як Марыі прысніўся стары. Ён прасіў яе: «Вазьмі мяне, нявестачка, дадому, бо мне цяжка на чужыне з чужымі людзьмі...»

Марыя вельмі спалохалася. Раніцай пабегла да папа і кажа:

— Пан айцец, прысніўся мне мужаў бацька. Прасіўся нябожчык, каб яго ўзяць з таго свету. Я баюся...

— Не бойся, сястра мая, ён у пекле да самых калень,— адказвае поп.— Заплаці тысячу лей, і я памалюся, каб даў табе спакой.

Жонка пайшла дадому, узяла грошай і панесла пану айцу.

А ўночы ёй зноў прысніўся стары. Сказаў: «Нявестачка мая, вельмі хачу вярнуцца дадому. Скажы майму сыну, каб забраў мяне ўжо адсюль».

Жонка ледзь дачакалася ранку. Як мужык пайшоў на работу, яна пабегла да папа.

— Пан айцец, любы, нябожчык-бацька яшчэ раз прысніўся мне. Вы што-небудзь рабіце, бо мне аж страшна заставацца ў хаце.

— Ён, маладзічка, у пекле да самага пояса. Дай тысячу лей, каб я памаліўся, тады дасць табе спакой.

Марыя адразу пабегла дадому. Кінулася да скрыні, дзе былі заробленыя мужам грошы, узяла тысячу лей. Дала іх папу і цешылася, што больш не будзе нябожчык бацька сніцца. Але калі надышла ноч, ён зноў прысніўся. Жанчына — да папа:

— І далей сніцца, пан айцец! Што мне рабіць? Парайце, бо здурэю.

— Дай тысячу лей, і цяпер усяму мае быць канец.

Маладзіца прынесла папу рэшту мужавых грошай, вярнулася дадому.

На другі дзень яе чалавек хацеў узяць грошай і адчыніў скрыню. Мацнуў,— а там нічагуські. Крыкнуў:

— Жонка, а дзе нашы грошы?

І яна прызналася:

— Я дала пану айцу, каб маліўся за твайго нябожчыка-бацьку, бо стары штоночы мне сніцца.

Чалавек раззлаваўся, як агонь.

На другі дзень прывёў свайго бацьку з трэцяга сяла і пайшоў з ім да папа.

— Пачакай, бацька, тут, перад парогам,— сказаў бацьку, а сам зайшоў у дом.

— Пан айцец, за што вы забралі грошы ад маёй жонкі?

— Я маліўся, каб твайго тата выпусцілі з пекла.

Чалавек выйшаў на двор, паклікаў старога.

— Бачыце, ён тутака... За каго ж вы маліліся?

Поп перахрысціўся і нічога больш не сказаў, толькі зашморгаў носам і дарэмныя грошы паклаў на стол перад чалавекам.

Муж і жонка потым багата гадоў добра гаспадарылі, а стары бацька дажываў свой век пры іх.

## ГУЛЬНЯ «КУРАЧКА»

Было гэта тады, калі ў школе дзяцей вучылі святчэннікі. Да вялікдзеня было далёка, а папу хацелася яечні. От і прыдумаў, як сабраць некалькі дзесяткаў яец.

— Дзетачкі! Прынясіце заўтра па яечку, будзем гуляць у адну гульню,— кажа поп.

На наступны дзень усе прынеслі па яечку, толькі Петрык не прынёс, бо быў з вельмі беднай сям'і.

— Сядайце, дзеці, уздоўж сцяны,— кажа поп.— Будзем гуляць, быццам вы куры. Да каго падыйду, таму трэба сказаць «ко-ко-ко» і пакласці мне ў кошык яйцо.

Пачаў поп абходзіць дзяцей. Падышоў да аднаго: «Ко-ко-ко» — і яйцо ў кошык. Падышоў да другога: «Ко-ко-ко» — і яйцо ў кошык. Так абышоў амаль усіх. Дайшоў да Петрыка, а той маўчыць.

— А ты чаго маўчыш?— пытае поп.— Ці ты яйцо не знёс?

— Хіба вы не бачыце, што я адзін певень сярод курэй!— адказаў Петрык.

## ПРО НАЗАРКА

Жил бедный Назарка. Доменко у него был худой, скотины не было. Потом он решил продать и домик. За десять рублей продал и пошел в Чебсару к Калякину в кабак.

Отдал все десять рублей Калякину и сказал: «Ты мне подавай, а когда деньги кончатся, мигни мне». А на десять рублей сколько можно было выпить — по две копейки бутылка. Заказал бутылочку водки, рыбник и всех поит.

Приходят три попа, потом из извозу приехало мужиков двадцать.

— Хозяин, дай им чаю, я заплачу.

Вот попы глядят: шикует Назарка.

Хозяин мигнул: кончается, мол. Назарка подошел к хозяину, шляпой помахал:

— Хозяин, в шляпе квито! — и к выходу.

Попы переглянулись: шляпа-то какая у Назарки!
— Эй, Назарка, погоди!
— Чего вам?
— Продай шляпу.
— Что вы! Видели, как я рассчитался?
Не отстают попы:
— Продай шляпу!
— Ой, не знаю, сколько за нее и взять. Ну, ладно — по двести рублей с брата!
Шестьсот рублей заплатили. Назарка деньги в кошелек. Пришел, домок купил, лошаденку купил, живет себе припеваючи.
Попы не пошли в Чебсару, приезжают в Вологду, пошли в «Золотой якорь», шикарный ресторан.
Всем трем нельзя идти сразу.
Один поп пошел. Он набрал всего рублей на сто. Помахал шляпой:
— Хозяин, в шляпе квито!
Тут его схватили:
— Что ты, дьявол долгогривый, не платил ни копейки!
Схватили его, оттрепали и книзу головой спустили под лестницу. А те два попа ждут.
— Ну, как?
— Ой, добро, ребята! (Ему обидно, что этим-то не досталось.)
Другой пошел. Набрал вина и закуски рублей на двести.
— Хозяин, в шляпе квито!
— Да что это! И другой нашелся!
И этому наподдавали. Выкатывается, а первый-то хохочет.
Такая шляпа изладилась!
— Ну что, как, брат?
— Добро нагулялся!
Двое нагулялись, надо и третьему.
Третий еще больше набрал всего. Подходит к прилавку:
— Хозяин, в шляпе квито!
— Да что,— говорит,— конец-то будет?!
И этого оттрепали, вниз головой под лестницу спустили. Поддали им, хорошо попало. Все трое собрались:
— Пойдем, убьем Назарку.
Приехали домой, собрались Назарку бить.
Назарка видит: идут попы.
А он клячу купил. На навоз серебра набросал. Сидит, выбирает серебрушки.
— Бог помощь, Назарушка! (Про шляпу и не спрашивают.)
— Чего делаешь?
— А вот, купил лошадь, а она серебром оправляется. Вот уж три рубля набрал.

— Продай нам!
— Да как я продам, вот сидя триста рублей наберешь.
— Продай!
— Да что вы! В жерёбе лошадь.
Ну, сговорились за восемьсот рублей.
Тот, кому первую ночь коня держать, дал ему меру пшеницы, зерна насыпал.
Поп сидит в углу, ждет. Вот лошадь хвост оттянула — поп полу подставил, повалилось. Потом и шляпу подставил. Прибежал в избу — прямо на стол:
— Иди, попадья, ищи.
Как они ни рылись, ничего не нашли, кроме зерен.
Все три попа спробовали и решили убить Назарку.
А Назарка женился за это время и знал, что его бить придут попы. Надул пузырь, налил крови и привязал его бабе под левую руку. Плетку достал, что на стене висела.
— Я буду заставлять самовар ставить, ты не хоти, в тебя ножиком шаркну, ты свались.
Попы идут.
— Садитесь, садитесь, дорогие гости, ну-ка, давай ставь самовар.
— Неохота, ну тебя!
— Ой, такая-сякая, я тебя!
Ножиком ее в пузырь, она — на пол.
Упала, кровь потекла. Попы глаза вытаращили: заколол бабу.
— Ничего, ничего, сейчас шелковая будет.
Схватил плетку и давай стегать бабу, а она как закричит:
— Сейчас поставлю, сейчас самовар поставлю!
Попы глядят: что такое, баба как шелковая бегает!
И попам захотелось выучить своих матушек.
— Продай плетку!
— Нет.
— Продай, по пятисот рублей дадим.
Назарка согласился. Вот один поп приходит домой в непоказанное время. Кондратьевский ножик, хороший такой, лежит.
Он рычит:
— Напеки-ка блинов.
— Да что ты, уж девять часов!
— А, еще не слушаешься. Ты у меня не станешь?
Как саданул ножиком, а потом плеткой стегать, но так она и не встала.
Тут и заревел:
— Ох, бабу зарезал!
Выучил! Ему обидно стало, он другим и не сказал.
И все три попа зарезали своих матушек.
А Назарка не мог больше придумать ничего. Взял дубинку

и всех трех попов убил. Одного попа в угол посадил, а других в подпол.

Кричит соседу:

— Филька, зайди ко мне вечером.

Зазвал Фильку.

— Давай, Филя, я угощу. Попа я убил, стащи его в Вологду в реку.

Схватил тот, бякнул его туда в прорубь.

Пока он ходил, Назарка вытащил другого, в угол посадил. Филька является:

— Ну как, стащил? На, выпей.

Тот выпил много.

— Парень, ты его утащил, а он вот стоит!

— Да как он, дьявол!

Царапнул этого и стащил.

Прибегает бегом, чтобы успеть быстрее. Дверь отворяет, а он сидит в углу.

— Слушай, да ты камень привяжи.

Филька царапнул этого, камень привязал да жердью под лед и пихал всю ночь.

Смотрит утром — священник идет заутреню служить.

— Ах, ты опять здесь?

Он и живого попа цап и потащил.

Тот верещит, насилу на́род отнял.

Все-таки этого спасли.

## БРЮХАТЫЙ ПОП

Был у нас, ну, скажем, как вы больше знакомы,— в Шуньге — жадный поп. Уж, знаете, по-крестьянски любят брюхо набить. А он так по-поповски. И то все дивовали. Кто к ему придет, корочки не даст, а сам за щеку прячет.

Ну, вот. Праздновали в Шуньге. Он и пошел с крестом. (Это так у нас попы ходят.) Придет, лошадиным хвостом побрызжет — и гони ему чё-ле.

Ну, он куда придет:

— Бла-а-гослови бог! (А хорош ли пирог?).

Все сам на стол заглядывает, помашет хвостом со святой водичкой. Кому в глаз, кому в лоб. А сам ногою топ-топ. К столу, значит, ближе.

— Православные живите дру-у-жно! (А к киселю молока нужно.)

— Во имя отца и сына и святого духа! (А в рыбнике запеклась муха.)

— Бойтеся греха и ад-а-а! (Покормить попа надо.)

Да и насядет. Только скулы потрескивают. Рыбник — так с костями, кисель с блюда слизом. Нажрется так — пузо вздует. Ряса торчком стоит.

— Мир дому сему, отныне и до ве-ка-а! (Накормили человека.)

Да в новую избу.

Ходил это он до вечера. Нажрался зело, к душе подвело. Он за брюхо схватился. Глаза закативши. А сам рукавом машет:

— Нет бога свят-ей! (Запрягайте лошадей.)

Его на дровни. Свалили и повезли. У нас какие дороги... Короста. Его и подпрыгивает...

— Ох-ох-ох! Помогите, родимые! Помираю!

А у него брюхо вспучило, ну не хуже, как у тяжелой бабы.

А уж мать-попадья у тына стоит.

— Что с тобой, батюшка?

— Обрюхател, матушка.

— Ох-ох-ох! Надо за бабкой Маланьей бежать, обабит.

Бабка Маланья пришла попа направлять:

— Здравствуй, батюшка, обрюхател?

— Обрюхател. Не направишь ли?

Она его и так, и сяк, и в бане парила.

— Ничего,— говорит,— веретешком не поможет, рожать будешь.

Тут поп завыл:

— Куда я рожать?! Засмеют! Прогонят! Архиерей в синоде судить будет.

— Надо потихоньку, из села долой.

— Куды-ы я пойду?

Ну, ночь пала. У попа воют. Собрала ему попадья шанежек да еще и говорит:

— Иди, батюшка, из села. Сраму примешь.

Он и пойди. Идет да на брюхо косится. Шел это он лескомлединой. Лежит человек убитый. Он и говорит:

— Господи, помилуй и помоги-и! (А на нем хорошие сапоги.)

Да давай с мертвяка сапоги тащить. А тот уж заколел. Сапоги нейдут. Поп взял да сапоги-те с ногами отрезал. В сумку сложил, дале идет.

Ну, уж время на полночь. Стоит изба. Он и попросись ночевать.

Его запустили, он и лег на печь, сапоги под голову. И заспал.

А у хозяев тех корова тельна была. Да в ту ночь отелилась. Они и взяли теленочка, чтоб не замерз, на печь положили. Подле попа. Он ночью проснись — меж ногами мокро. Кто-то помыкивает.

— Свят, свят, свят, да я родил.

От сраму скорей с печи да вон из избы. И котомку призабыл и сапоги-те.

Утром хозяева встали.

— Иди, батюшка, щей хлебать.

Ответу нет.

Они на печь полезли, а там два сапога, да с ногами. Они и вопят:

— Беда, наш теленок попа съел!

Созвали деревню да того теленка и порешили. А ноги с сапогами зарыли: ведь батюшкины, священнейшего.

А тот поп и сейчас ходит. Может, брюхо-то сбавил.

## ПРО ПОПА И НЕМУЮ ДЕВОЧКУ

Жили дедушка с бабушкой богато, и была у них дочь, красивая, да немая.

Что делать? Как дочь лечить?

И прослышали они, что в лесу живет лесник и лечит немых. Весь изрос, старый. И говорит он им:

— Вот там, на горе, растет лук. Три сорта его: свиной, лошадиный и человечий. Сорвите человечий лук, сварите из него суп и дайте вашей дочери.

А дедушка с бабушкой возьми да и сорви вместо человечьего — свиного луку. Наелась свиного луку дочь и начала хрюкать по-свиному:

— Хрю-хрю-хрю.

Все напугались.

Вот дедушка пошел опять рвать лук. Взял человечьего луку, сварил суп и дал дочке. Она съела и уже больше не хрюкает.

А свиной суп остался стоять на плите.

Вдруг едет поп на Сивухе. Лошадь его так звали. Едет, нюхает, как хорошо супом пахнет!

— Пойду, погляжу, что делается,— думает поп.

Подошел к плите, похлебал свиного супа, его никто и остановить не успел. Едет, хочет крикнуть по-человечьему, а у него по-свиному выходит:

— Хрю-хрю-хрю, Сивуха! Хрю-хрю-хрю, Сивуха!

Приехал домой, вошел в избу, хотел сказать «обед подавайте», а у него опять «хрю-хрю-хрю» выходит.

Все дома испугались, пошли спрашивать, как лечить попа. Их и послали к леснику.

Вот лесник и ему велел нарвать три сорта луку и варить суп из человечьего, а те два оставить.

А поп пожадничал, сварил все три супа да и хлебнул лошадиного.

Вот едет он опять на Сивухе. Хочет крикнуть по-человечьему, а у него выходит по-лошадиному:

— Но, Сивуха, го-го-го! Но, Сивуха, го-го-го!

Лошадь испугалась. Стала, не бежит. А он ее как хлестнет. И опять кричит:

— Но, Сивуха, го-го-го!

А дело как раз накануне праздника было. Подъезжает он к церкви, сходит, начинает служить обедню. Хочет запеть «господи, помилуй», а выходит у него «го-го-го».

Все из церкви так и побежали.

И не стал никто с тех пор в церковь ходить.

## РАЗМОВА

Дзядзька Кандрат быў бедны. Ён мусіў працаваць ад світання да цямна на сваю сям'ю. Ото ж бывала ўстае рана.

Дзядзька Кандрат быў суседам папа Філата. Не раз поп, бывала, выходзіць ранкам і бачыць, што дзядзька ўжо працуе.

А вось аднаго разу поп пытае ў дзядзькі:

— Кандрат, хто цябе так рана будзіць?

— Пеўні,— адказаў Кандрат.

— А хто цябе малаком корміць?

— Карова, бацюшка.

— А калі ты спаць лажышся?

— Ноччу, калі ўсе спяць.

— А хто цябе распранае?

— Святыя айцы і валасны старшыня.

## ЯКІ АСЁЛ

Гэта было ў старой школе. На ўроку закона божага поп паказваў малюнак асла, на якім Хрыстос ехаў у Іерусалім. А Петрык не слухаў — глядзеў у вакно.

— Петрык! — клікнуў поп.— Глядзі на мяне, бо не будзеш знаць, які асёл.

## НА ВОЗЕ

Слуга, не спытаўшы дазволу, падсеў на воз, на якім сядзелі поп і арганіст. Возчык убачыў яго і закрычаў:

— Злезь з воза ты, асёл! Не бачыш, што ўжо два сядзяць на ім?

— Прашу прабачэння, я адразу й не пазнаў...— усміхнуўся слуга і злез з воза.

## НЕНАЖЭРНЫ ПОП

Быў сабе заможны дзядзька. Прыйшла смерць, і ён памёр. Яго жонка пайшла да папа ды й кажа яму:

— Я вам, бацюшка, заплачу, колькі захочаце, толькі да ладу пахавайце майго чалавека.

Поп рады. Збіраецца ды ідзе на пахаванне. Правіў-правіў — колькі хацеў. Прышлося да платы — адчыняе гаспадыня яму скрыню з меднымі грашыма.

— Бярыце, бацюшка, колькі вам трэба.

Набраў поп поўныя кішэні.

Тады яна адчыняе яшчэ і другую скрыню са срэбнымі грашыма. Чухаецца поп, што яму рабіць. Бярэ ўжо ён і тыя грошы срэбныя; і запазуху і ўсюды.

А тады яна адчыняе яму і трэцюю скрыню з залатымі грашыма. Глядзіць поп — што рабіць? Набраў ужо і ў дзве жмені; дзе якая была латка — ён і туды напхаў. Развітаўся з гаспадыняй, падзякаваў, ды й ідзе. Выйшаўшы з хаты, успомніў: пад хлевам вісіць хамут з набедрыкамі, ды й кажа:

— Параска, дай мне і той хамут!

А яна кажа:

— Вазьміце, бацюшка.

А поп кажа:

— Надзень мне яго сюды, на шыю.

Надзела яна яму на шыю хамут, ідзе ён. Тады ўспомніў, што на паліцы пад хлевам ляжыць брус, ды й кажа:

— Параска, дай мне гэты брус, дай мне сюды яго, у зубы!

Так нагрузіўся поп, больш як трэба. Ідзе ён памалу, але набедрыкі неяк ссунуліся і трапілі папу пад ногі. Поп заблытаўся ў набедрыках ды й упаў, а брус пасунуўся яму далей у горла — поп і памёр.

## ПОП-ХАБАРНІК

Жыў у нашай вёсцы шавец, бедны чалавек, ды к таму яшчэ ад свайго горкага жыцця і выпіваў калі-нікалі. Пахварэў ён крыху ды і памёр.

Трэба пахаваць чалавека. Паклікалі папа з суседняга сяла. Прыгледзеўся ён, што чалавек бедны, нічога з яго не возьмеш, і гаворыць да людзей:

— А што мне дасцё?

Людзі да яго і так і сяк:

— Мы вас адвязём і прывязём.

Ну, нарэшце, згадзіўся ён. Пахавалі чалавека, а поп усё прыглядваецца, ці не можна ад пакойніка што ўцягнуць. Людзі гавораць:

— Гляньце, бацюшка, быў ён бядняк, асталося шылля ды капылля і толькі.

Ажно дзіву даліся людзі. Узяў поп у торбу гэтае шылля ды капылля і паехаў. І ні сораму яму ніякага. Так і прыказка кажа: «Поп і з жывога і з мёртвага дзярэ».

### ЯК ПОП ЗЛАЗІЎ З ВОЗА

Нейк адзін селянін вёз папа да хворай жонкі. Бедная каняжына аж у дугу гнецца, бо і воз нялёгкі да і папішча, няўрокам кажучы, гладзенькі. Пад гару зусім прыстала. Злез селянін з воза, упёрся плячом у развору* — памагае змучанай каняцы.

А на той час падыходзіць нейкі чужы чалавек.

— Гэй! Тпру! — падняў палку і на селяніна: — Вось дзе я цябе знайшоў! Цяпер ты ўжо не выкруцішся з маіх рук!

Селянін здзіўлена вытрашчыўся на незнаёмага.

— Што, ужо забыў? — выгукнуў далей чалавек.— Дык я нагадаю. За што ты на мінулым тыдні адхвастаў майго папа пасярод дарогі? Чаго лыпаеш вачыма? Вока за вока, зуб за зуб! Цяпер палатаю бокі твайму папу!

Ён выхапіў у збітага з панталыку селяніна пугу да як агрэе пану айцу па спіне — раз, другі... Хацеў пацягнуць яшчэ і трэці, але папішча не дурны чакаць: яго з воза нібы ветрам здула! Падхапіўшы рызу, імгненна апынуўся на горцы.

— Ну, дружа, цяпер едзь сабе памалу,— усміхнуўся нетутэйшы селянін і пайшоў сваёй дарогай.

Калі селянін выехаў на горку, поп, чухаючы спіну, стаў яго дакараць:

— І трэба ж было табе чапаць яго, чорта!

Селянін і вокам не змаргнуў: ён жа таго папа і ў вочы не бачыў!

### ЯК СЕЛЯНІН ПАПА ПРАВУЧЫЎ

Было гэта ў старыя часы.

Вязе адзін раз дзядзька папа кудысьці, а кабылка ў таго дзядзькі худая-худзюшчая, няшчасная, толькі косці ды скура — сказана, бядняк. Ну, а поп гладкі, тоўсты, так, пудоў восем — адным словам — поп, як і ўсе папы, што на людскіх хлябах выкармліваліся.

Ну, ідуць, але трэба ўз'ехаць на вялікую гару, а тут яшчэ гразка пасля дажджу, цяжка кабылцы пад гару вылезці. Дзядзька злез з воза, ну, а поп, сказана, як поп,— лянівы, не хоча злезці пад гару.

Сядзіць такая васьміпудовая туша ў расе, а каняка з усіх сіл напружваецца, аж стогне, бедалашная, і ніяк на тую гару не ўскарабкаецца з возам...

---

* Развора — шост для падаўжэння воза.

Аж ідзе насупраць другі селянін — малады ды моцны. Адразу дагадаўся, у чым тут справа. Спыніўся, зняў люшню* ды да таго дзядзькі, што папа вязе:

— А, сякі-такі, папаўся мне цяпер?! А памятаеш, як я вёз папа, а ты майго папа пачаў люшняю біць? Цяпер жа я табе аддзячу тым жа!..

Ды з тымі словамі да папа, што разлёгся на возе, ды люшняю папа, ды люшняю па спіне, ды па тоўстаму жывату, ды яшчэ й прыгаварвае:

— А от ведай, як майго папа біць, а от ведай, як майго папа біць!

А поп бачыць, што не пярэліўкі, ды як завые ад болі, ды з возу, ды драла пяшочкі пад гару — у адзін міг на гару забег.

А як дзядзька ўжо ўз'ехаў на гару, то поп і кажа яму:

— Бачыш, Сцяпан, які ты дурань. І навошта было табе таго папа чапаць? А цяпер табе добра, як твайго папа б'юць?

А дзядзька толькі ўсміхнуўся.

## ЯК БЕДНЫ СЕЛЯНІН ПАЗБАВІЎСЯ ПАПА

Было гэта даўно.

Ехаў аднойчы бедны селянін з вёскі ў горад. І кабылка была слабая — ледзьве-ледзьве цягне. А тут па дарозе поп сельскі ідзе. А паганы поп быў, заўсёды на вазы мужыцкія пхаўся. Сеў поп на воз і едзе...

Бедны селянін усё думае, як бы яго пазбавіцца, каб кабылцы лягчэй было.

Тут поп пытае:

— Куды гэта ты едзеш, Іван?

— У горад,— кажа.

— А чаго?

— Ды мяне,— кажа Іван,— сабака шалёны пакусаў, дык я еду да лекара.

— А з табою яшчэ нічога не было, Іван? — пытае поп.

— Ды не было,— кажа Іван, а сам глядзіць, дзе б яго патлатага сагнаць.

Аж вось у нізіцы пабачыў лужыну. Толькі даехалі да сярэдзіны яе, Іван як кінецца на папа, як гаўкне. А поп як паляцеў у лужыну ды адтуль і гаворыць:

— Ой, Іван, Іван, чаго ж гэта ты ашалеў? Хоць бы быў на сухом!..

А селянін за лейцы ды й паехаў сабе далей. Ужо без папа.

---

* Люшня — упорка ў арбе, прымацаваная да асі.

## ІНШЫ СОН ЯК У РУКУ ДАСЦЬ

Быў сабе адзін поп да вельмі бедны. Прыход маленькі, людзі бедныя — нямашака з іх ніякага прыходу. Хундушовая зямля — адзін пясок жоўценькі, бы золата. Трымаў ён сабе парабка, горкага п'яніцу Сцяпана Штукара. Яго дражнілі Штукаром затым, што гэсты дохлы п'яніца часамі такія вычвараў штукі, што й не прыдумаць. Жыве сабе Штукар у папа да голадам падыхае, бо поп хоць бедны, але дзяцей мае, як бобу. Яны хоць дробныя, але ядзяць, бы саранча. Што поп ні зробіць, як хавае каго або хрысціць, дзеці адразу з'ядзяць і не абліжуцца. А тут непадалёчку паабапал папа жывуць сабе да таўсцеюць вельмі багатыя пан і карчмар. Ведама, калі людзі бяднеюць, та пан і карчмар заўжды багацеюць. Чаго толькі ў пана няма, хіба мо птушынага малака. Да што і казаць! Ведама, як у пана ў багатым двары. Аднаго сала мо дзесяць кублоў. І еж, хоць падавіся. У ландара сала саўсім нямашака, хіба гусіны шмалец, дак затое ў яго абаранкаў цэлае вясло, а селядцоў поўныя бочкі да гарэлкі хоць захлябніся. Падойдзе Сцяпан Штукар у двор паглядзець на панскае дабро да толькі сліну каўтае. І так у яго каля сэрца заўе, так яму зробіцца моташна, што ён проста з двара і пабяжыць у карчму. Толькі як глытне кручок ці два, дык трохі палягчэе. Ужо не раз Штукар зарыўся ўкрасці ў двары што-небудзь, ды ўсё баяўся, бо куды ты дзенеш, калі нямашака ніякага прытулку. От раз вельмі яму захацелася есці, от ён прыйшоў да папа ды і кажа:

— Бацюшка, ці ведаеш, што я прыдумаў. Пан багаты, усялякага ў яго дабра многа, аж з горла прэ, а нам няма чаго, каб душу падперці. Дзе ж праўда?

Раскірэчыў Штукар ногі, растапырыў пальцы да так пазірае, што поп аж зарагатаў.

— Не смейся, бацюшка! Няма праўды на свеце.

— Праўда ёсць, ды мы яе не бачым, бо свет грэшны, дак бог нас карае.

— Не, бацюшка! Няма праўды, калі ў аднаго з горла лезе, а другі дохне з голаду. Чаму пан багаты, а мы бедныя?

— Бо так бог даў. Ён ведае, што робіць. Яго пуці ніхто не знае.

І пайшоў поп вучыць Штукара, пайшоў яму гаварыць цэлае казанне да й кончыў на том, што багатыя на том свеце будуць у пекле смажыцца ў смале, а бедныя пойдуць у рай. Слухаў, слухаў Штукар, нарэшце і кажа:

— Сам бог казаў выцягці з калодзежа казла, а мы, бацюшка, выцягнем у пана вала.

— Што ты кажаш? Якога вала?

— Гладкага, бацюшка, вала.

— Не разумею твае гаворкі.

— Украдзема ў пана вала, то і будзе што есці.

— Гэта ж грэх.

— Які грэх? У пана красці не грэх, бо пан багаты. Ён у нас накраў, а мы сваё дабро возьмем назад. Дык гэта ж не грэх.

Доўга адгаворваў поп Штукара, каб ён нічога не краў у пана, нарэшце махнуў рукой да й кажа:

— Рабі, як знаеш.

Пачасаў Штукар патыліцу да й выйшаў. Толькі вось уходзіць да папа матулька да ўжо з самага парога пачынае крычаць да лаяцца, што поп сядзіць дома, нічога не робіць, а тут дзеці галодныя, у хаце ні крошкі хлеба й няма чаго ў гаршчок палажыць. Заткнуў поп вушы да бягом з хаты, аж тут якраз сустракае Штукара. Хацеў ён пасланы яго на вёску, каб пазычыць хлеба да закрасы, але той не даў і вымавіць да й пытае:

— Дак што ж, бацюшка, возьмем вала?

— Возьмем, возьмем,— адмаўляе поп, бы шалёны.

От Штукар завёў папа ў адрыну, падвязаў яму доўгія кудлы, падабраў раску, а зверху надзеў сваё лапікла, да й пайшлі яны ў хмызняк, дзе паслося скарбовае гаўяда, занялі там самага гладкага вала, загналі ў лес да й зарэзалі. Няма чаго рабіць, завіхаецца поп каля вала, а Штукар толькі камандуе. От злупілі яны з вала шкуру, павесілі яе на галіну сушыцца, а мяса пачвертавалі, закапалі ў зямлю да й засыпалі трухою з сухога балота. Зверху завалілі каладзьём, а самыя лепшыя кускі прынеслі дамоў да й давай спажываць.

Агледзеліся ў двары, што няма самага лепшага вала, от яны туды-сюды бегалі, бегалі — от бы скрозь зямлю праваліўся. Ну, думаюць, мабыць, дзе адбіўся ад гаўяда, дак ваўкі зарэзалі. Але пану шкода добрага вала, от ён вялеў пазваць знахароў, каб яны паваражылі да сказалі яму, дзе той вол. Прыходзяць знахары, варожаць, але кожны гаворыць інакш. Адзін кажа, што вол заплутаўся ў лесе і не можа выбрацца з балота, другі гаворыць, што ваўкі зарэзалі, трэці пляце, што цыганы ўкралі, але ніхто дасканала не скажа, дзе яго найсці.

Тым часам Штукар сядзіць сабе ў карчме п'яненькі да пахваляецца, што ён ведае, куды дзеўся панскі вол. Пачуў тое ландар да й пабег казаць аб том пану. Пакуль ландар збегаў к пану, Штукар дастаў з кішэні дзве палачкі, выняў з вярэнькі збанок, прылажыў тыя палачкі к дну купы з гарэлкаю да як упёрся каленам пасярэдзіне ў тыя палачкі, яны выправіліся да так расперлі клепчыны, што цераз уторы й забурчэла гарэлка. Нацадзіў ён сабе повен збан да й пацёгся дамоў.

— Дзе ты быў? — пытае поп, катораму яшчэ вол вельмі карціць.

— У карчме, бацюшка,— адказвае п'яны Штукар.— Ось прынёс гарэлку на магарыч бацюшку за тое, што вельмі смачнае мяса.

Поп скрывіўся, аж яму вочы пад лоб завярнула, але ўсё-такі пераліў гарэлку ў пляшкі да й схаваў.

— Няма калі мне з табою дурыцца,— кажа поп.

От ён адзеў лепшую раску, прычасаў з большага кудлы да й пайшоў к пану, каб і яму сказаць таму прыемнае слаўцо ў няшчасці. Прыходзіць поп, аж там ужо многа сабралося ў пана гасцей. Сядзяць яны, п'юць, ядзяць да размаўляюць аб том, як цяпер кепска жыць на свеце, як многа ўсялякіх прыпадкаў, як, напрыклад, прыпадак пану з валом, гаворыць і поп да яшчэ складней за ўсіх.Ківае яму пан галавою, сам налівае яму віна да гарэлкі, частуе добрага гаваруна да падкладвае яму лепшыя кускі. Жумрыць поп, толькі барада трасецца, бы ў казла. Тым часам паслаў пан па таго Штукара, каб ён сказаў, што ён знае пра вала. Прыйшоў Штукар, раскірэчыў ногі, растапырыў пальцы да й стаіць сабе ў парозе.

— А што скажаш, каханы? — пытае пан.

— Усё добрае, паночку.

— А па добрым што?

— Дачуўся я, што ў пана прапаў вол.

— Прапаў.

— А добры вол?

— Добры.

— І з рагамі?

— З рагамі.

— І з хвастом?

— Ну, ведама, з хвастом,— кажа з нецярпеннем пан, катораму ўжо надаела слухаць п'янага мужыка.

— Дак, пэўне ж, гэта той самы вол,— крыкнуў на ўсе пакоі Штукар і пляснуў рукамі.

— Які той самы? — пытае пан, каторага ўжо ўзяла цікавасць.

— Да той, што я бачыў.

— Да дзе ж ты бачыў?

— На поплаве каля хмызняку.

— Калі ж ты бачыў?

— От гэта добра не ведаю, паночку, ці ўчора, ці заўчора, а мо і пазаўчора, толькі добра памятаю, што тое было ў досвіткі.

— Дак што ж было з тым валом?

— Нічога, паночку. От стаіць сабе вол да такі рагаты, што хоць ты вілы з рог рабі, стаіць сабе да траву языком косіць, от баццэ касою. Але ж у пана і трава на поплаве. Далібог што можна касіць.

— Дак куды ж пайшоў вол? — з нецярпеннем пытае пан.

— Нікуды не пайшоў, паночку. Гэта я сам ад яго пайшоў, паночку.

— Куды ж ты пайшоў?

— Ой, ведама ж, паночку, хто мае дамоўку, той ідзе да

гасподы, а ў мяне яе нямаш, дык я пацёгся к папу. Думаю, ось матулька дасць якое-небудзь бульбы лантух налядаваць.

— Цо ты, дурань, пляцеш,— закрычаў пан да ўжо і прагнаць хацеў п'яніцу.

— Пан крычыць на мяне, а я думаў, што пан хоча ведаць, дзе прапаў вол.

— Дык кажы, што знаеш.

— Толькі няхай пан не перабівае да не крычыць, бо я й забудуся.

— Ну, кажы.

— Дык от паглядзеў я на панскага вала, які ён гладкі да гожы да й думаю: от каб мне такім быць. Што валам, мабыць, панскім сабакам лепшая жытка, як наша. Дзе ж тая праўда на свеце? Што ж гэта бог робіць? І прыпамянуў я, што наш бацюшка ўсё кажа: бог ведае, што робіць. От я ўзяў бацюшку, да й пайшлі мы аглядаць таго вала. Вельмі спадабаўся ён нам. От мы яго загналі ў хмызняк да там і зарэзалі. Бацюшка злупіў шкуру.

Тут усе азірнуліся на папа, а ён сядзіць да ўсё круціцца, бы на калу, да то пачырванее, то пабялее, круціцца, аж пот з яго валіць, бацэ толькі што выйшаў з лазні.

— Эге ж, дай бог памяць. От і забыўся, што далей. Ага! От бацюшка і пытае, куды дзяваць шкуру. А я кажу: павесім на галіну, няхай сушыцца. От павесілі мы шкуру, пачвертавалі мяса, падзялілі, потым пачалі кішкі дзяліць. Ухапіліся мы за кішку разам. Я цягну к сабе, а бацюшка к сабе, я к сабе, бацюшка к сабе, кішка і парвалася, а гной з яе як свісне нам у вочы, дак я і прахапіўся.

— Дак гэта ты сніў?

— Але ж, сніў, паночку. Але хоць сон гразь, толькі іншы як у руку.

## ПРА ТОЕ, ЯК ДЗЯК З ПАПОМ БУГАЯ ЎКРАЛІ

Быў у пана бугай такі, што ён нізавошта не мог прадаць яго. А жыў Іван-бядняк насупраць дзяка. Прыходзіць Іван да дзяка і кажа:

— Хадзем, украдзем бугая.

Пайшлі і ўкралі. Прывялі да дзяка ў клуню, зарэзалі, знялі шкуру, сталі дзяліць мяса.

Поп бачыць, што святло віднеецца з клуні, прыходзіць:

— То што вы робіце? — гаворыць.

— Маўчыце, бацюшка, бярыце сабе палавіну тушы...

Перанёс дахаты. А Іван з дзякам таксама палавіну забралі. Папу стала шкода шкуры, прыходзіць і кажа:

— Аддайце мне шкуру, а то скажу.

А Іван кажа:

— Бацюшка, мы — беднякі, няхай нам будзе.

А поп не згаджаецца:

— Бярэм удвух — хто ў каго выдзярэ — таго шкура.

Поп такі дужы, што выдраў ад Івана шкуру.

Разыйшліся. Іван прыносіць дадому мяса. Жонка наварыла. Ён наеўся, лёг ды й думае:

— Мяса ёсць — хоць хлеба няма, а як бы на грошы разжыцца?..

А пан бугая шукае, дае 300 рублёў, каб хто паказаў злодзея. От Іван думае: «Пайду да пана...»

Прыходзіць.

— А што скажаш, Іван?

— А от, калі ласка, пане, я ведаю, хто бугая ўкраў...

— Сядай, Іване,— пан кажа,— раскажы мне.

От Іван кажа, што ўкраў дзяк з папом.

— А як ты ведаеш?

— Я бачыў, што свяцілася ў клуні, прыходжу — яны мне далі мяса, каб я маўчаў; поп узяў палавіну тушы, а нас двое з дзякам — палавіну.

От пан да прystава.

Прыязджае.

Поп з дзякам пачулі, што Іван кажа на іх, што яны ўкралі бугая, клічуць яго да сябе:

— А што ты, Іван, кажаш, што мы ўкралі?

А ён кажа:

— Не... Дайце ўдвух хоць 200 рублёў, то я вас пазбаўлю ад гэтага.

Даюць яму 200 рублёў. А пан таксама даў 300— мае Іван 500 рублёў, думае, як бы тут не ўвесці каго ў бяду? Заклікаюць усіх на следства. От дзяк з папом баяцца, што Іван будзе гаварыць. От прыстаў пачынае пытаць Івана:

— Ну, Іван, скажы, як было?

Іван пачынае гаварыць:

— Падняўся ноччу, выйшаў на двор, гляджу — свеціцца ў дзяка ў клуні, от я прыходжу, а поп з дзякам дзеляцца — зарэзалі бугая і дзеляцца мясам...

От поп з дзякам памлелі, баяцца — што будзе?

Іван гаворыць:

— Бацюшка, так як я,— кажу,— бяднейшы за ўсіх, аддайце мне шкуру — куплю дзецям хлеба.

А поп кажа:

— Я не дам.

— А я так думаю,— кажа Іван,— як вы ўкралі, дык я магу і адабраць шкуру. Я да сябе, а поп — да сябе. Як ён пацягнуў — вырваў шкуру, дык я ўпаў ды аб саху галавой!.. Ды й прачнуўся...

А прыстаў гаворыць:

— Ды што ж, ты спаў?

— А спаў.
— Дык гэта табе снілася?
— Так, снілася,— кажа.
— Ну так, сучы сын, я думаю, што ты прыйшоў праўду гаварыць, а ён сон расказвае! — І прагнаў Івана.

## АБ ХІТРЫМ ДЗЯКУ

Украў поп з дзякам карову, падзяліліся яны ўсім, анно скураю не маглі падзяліцца, так пабралі ў зубы ды й цягнуць: поп не вытрываў, пусціў, а дзяк бэнц! аб сцену галавою і забраў скуру. Тут зараз погаласка пайшла, што нехтась карову ўкраў. Так дзяк прыходзіць да папа ды й кажа:
— Я хіба не вытрываю, мушу сказаць!
— Што ты, здурэў, ці што?
— Калі ж мяне надта сумленне грызе!
— На табе грошай, колькі хочаш, анно не выказвай нікому.
Назаўтра зноў ён прыходзіць ды й кажа:
— А-ей, не вытрываю.
Так поп яму яшчэ больш грошай даў, каб анно не казаў. Вечарам назбіралася да папа ўсялякіх гасцей і згаварыліся аб карове, так дзяк кажа:
— А гэта я з папом украў гэту карову!
Так поп зачырванеўся, усунуў яму няўзначне ўсе свае грошы, а дзяк кажа:
— І ўсім, здаецца, падзяліліся, анно скураю не далі рады, так я ўзяў адзін канец у зубы, а яны другі і цягнулі. Яны пусцілі, а я бох! аб сцену галавою, так і прачнуўся.
Такім спосабам дзяк ні граху не меў, бо прызнаўся і ўсе грошы ад папа забраў. От хітры, ліха яму!

## БЯДА

Поп: — Што новага, пан аптэкар?
Аптэкар: — Бяда, дарагі прыяцель. Калі бог не нашле якую-небудзь халеру або тыф, то мы абодва станем жабракамі...

## ЧТО СЕГОДНЯ БОГ ДЕЛАЕТ

Богатый поп заспорил с бедным попом об одном селе. И они принуждены были жалиться правосвященному. Вызывает лично к себе бедного и богатого архиерей. Те приезжают в Смоленск. Так что архиерей был в то время в соборе. И они подходят к нему. Архиерей и говорит:
— Из попов-то есть дураки! Нашли об чем спорить!

Спрашивает у богатого:

— Какой час?

Тот вытаскивает часы с кармана. Архиерей говорит:

— Двадцать лет ты учен, оказываешься дураком!

— А в чем дело?

— Должон бы посмотреть на сегодняшнее число и это время, что нужно начинать петь, какой час поется: глас первый али глас восьмой! Ну-ка, ты,— на бедного попа говорит архиерей,— отвечай голубчик, когда умеешь с богатыми судиться!

— Говорите, ваше правосвященное владыко!

— А что сегодня бог делает?

— А мне сказали, что его дома нет, когда я был у него.

— А где ж он сегодня?

— Поехал в степь!

— Зачем?

— Пеньку скупать.

— На что ж ему пенька?

— А кнут вить!

— На что?

— А вас, долгогривых дураков, бить, зачем небыли спрашивать.

— Молодец! — сказал архиерей.— Село остается за тобой! И сейчас служит в селе Бизякове. Значит, дело тем кончилось, живет богато.

## ДВАРАНІН

Быў сабе адзін дваранін па прозвішчу Пятроўскі. Ён не меў ні двара, ні падданых, а так сабе валачыўся ад аднаго пана к другому. Дзе прыстане к панам на паляванне, дзе трохі паслужыць намеснікам або аканомам. От так і жывіўся цэлы век. Бо, як кажуць, ад зямлі адарваўся, але і неба не дастаў... Але, вядома, дваранін,— ён усё-такі спаганяе панства. Дарма, што ў яго часам у гаршку трасца кіпіць, затое на назе чобат рыпіць. А на нашага брата — мужыка інакш не пазірае, бы як на гаўяда. Бало на паляванні ці што, крычыць:

— Мужык, гад! У цябе ў роце чорна!

Дык от які то дваранін быў, бо не меў свае хаты, а, бы сабака, на дварэ жыў, ды на людзей брахаў, быццам сваё дабро аберагаў. Але як ён ні круціўся, ды такі да ліха дажыўся... А ведама, як трывога, то й да бога.

От пан Пятроўскі пайшоў да касцёла, укленчыў ды й моліцца: «Пане Езус Хрыста, дай мне рублі трыста, але й без еднага не вазьму».

Ходзіць ён кожны дзень да касцёла ды ўсё моліцца, усё просіць рублі трыста, ні на шэлег не збаўляе. Падслухаў тое ксёндз і вялеў арганісту зрабіць пробу, што з таго будзе —

даць Пятроўскаму без аднаго трыста рублёў.

От як Пятроўскі, укленчыўшы, маліўся: «Пане Езус Хрыста, дай мне рублі трыста, без еднага не вазьму»,— арганіст залез на хоры ды й спусціў адтуль на нітачцы дзвесце дзевяноста дзевяць рублёў у Пятроўскага перад самым носам. Пятроўскі пералічыў грошы, палажыў іх у кішэню ды й кажа:

— Кеды пан Езус Хрыста даў рублі трыста без еднага, то дасць і ўшыстко. Дзенькаваць за боскую ласку.

Пры гэтых словах Пятроўскі падняўся на ногі й хацеў ісці, але чуе, хтосьць кажа:

— Хоць жа пан Пятроўскі шляхціч, але кеп!

Гэта сказаў ксёндз, бо яму шкода стала грошай. А Пятроўскі падумаў, што гэта кажа Езус. Закіпеў Пятроўскі, аж затросся ад злосці ды й крычыць на ўвесь касцёл:

— Цо, цо? Я кеп? З ласкі боскай естэм пан Пятроўскі, радавіты шляхціч да патопу ды прытым і дважанін герольдэм утвердзоны, а ты...

І пайшоў з касцёла. Дык от які быў ганарлівы дваранін пан Пятроўскі.

## СЫН БОЖИЙ

Пришла мужику нужда в деньгах. Хоть зарежь, так негде копейки достать, и взаймы не у кого достать. Знал мужичок, что есть у попа деньги, но хоть умри, поп копейки не даст. Решил мужик на хитрость деньги у попа взять. Пошел в церковь, стал на колени и молится. Кладет поклоны, а сам шепчет громким шепотом:

— Господи, пошли мне сто рублей. Сто рублей возьму, а девяносто девять не возьму. Это деньги нечистые.— И опять молится и шепчет:

— Господи, пошли мне сто рублей.

Увидел поп и думает: «Что так мужик усердно молится? Наверно грех большой на душе. Дай,— думает,— подойду, послушаю». Услыхал, о чем мужик бога молит и подбросил ему не сто, а девяносто девять рублей. Наклонился мужик очередной поклон положить и видит — деньги лежат. Пересчитал и говорит:

— Господь с тобой, пусть будет рубль за тобой.

Поднялся и пошел домой. Видит поп, провел его мужик. «Дай,— думает,— пойду ночью отниму у него деньги». Вот настала ночь, поп и стучится у мужика в дверь. А мужик чайку попил и уже спать хотел ложиться. Вдруг слышит: стучит кто-то.

— Кто там? — спрашивает мужик.

— Человек божий,— отвечает поп.

— Иди прочь, неча по ночам шляться.

Видит поп, не пускает мужик его в избу. Подождал и опять стучится. А мужик уже спать лег.

— Кто там? — кричит мужик с полатей.

— Сын божий,— отвечает поп.

— Пошел к черту,— говорит мужик,— твой батька мне еще рубль должен.

## МАЗУР І КСЁНДЗ

Быў сабе мазур — так сабе, прастак. Пайшоў да папа на споведзь ды й каецца:

— Так, пане ксёндз, знайшоў я шпачынае кубельца, хацеў, дачакаўшы, як вылупляцца шпачаняты, павыдзіраць.

— А грэх, чалавеча, грэх. Трэба быць літасцівым і да птушкі, і да ўсякай твары... А скажы, калі ласка, дзе ты тое знайшоў кубельца?

— А там-та і там.

На другі дзень ідзе мазур, бачыць: папоўскія дзеці нясуць шпачанят.

— Дзе гэта вы пабралі? Хто вам сказаў?

— Бацька.

«А,— думае,— трывай, і я цябе абдуру».

Прыходзіць.

— Паночку, знайшоў я дзяўчыну — прыгожая такая. Ці цалаваць можна яе?

— О, не! Узяць шлюб ды тады. А якая гэта дзяўчына, дзе яна жыве?

— Э, да д'ябла, пан ойча: гэта табе не шпачаняты!

## ГЭТА НЕ ДЗЯТЛЫ!

Адзін праворны хлопец нагледзеў дзятлы ў дубе за гародам суседа, а пятроўка яшчэ не кончылася. Таму пайшоў да папа да й пытае:

— Чы можна, бацюшка, вырубаць дзятлы, хаця яшчэ пятроўка не кончылася?

— Няможна, дзеткі,— бог накажа, бо і пост і грэшна катаваць маленькія птушачкі. А дзе ж тыя дзятлікі?

— У дубе за гародам дзядзькі Фёдара, да і дупло не вельмі высока, можна ўзлезці поўзкі.

— Ну, ідзі, сыну, дадому, а за дзятлы і не думай.

Хлопец, маркотна вярнуўшыся, да так перад змеркам пайшоў к дубу паслухаць, як цвіркаюць дзятляняты, калі старая прынясе чарвячка або мушку. Яшчэ не дайшоў, аж бачыць — з лесу выходзіць бацюшка з сакеркаю.

— Што ж гэта ён будзе рабіць? — падумаў.— Давай прысяду.

Прысеўшы за кусцікам, глядзіць, аж бацюшка высек астрову, прыставіў к дубу, палез, рассек дупло так, каб руку прасунуць, і давай кідаць дзятляняты долу адно за адным. Злез, пазбіраў, стаптаў усе ў сваю папоўскую кішэню, сказаў:

— Восім.

Да забраўшы астрову, пайшоў у лес.

«Пастой жа,— сказаў хлопец сам да сябе,— я ж на цябе нешта выдумаю, калі ты такі разумны».

Цераз колькі дней, мо' цераз тыдзень, прыйшоў ён к папу ды й стаіць моўчкі ля парога.

— А што ты, дзеткі,— пытаецца поп,— скажаш?

— Я прыйшоў к вам, бацюшка, папытацца: ёсцяка жа цяпер у нашым сяле чужастаронная дзеўка, да такая харошая, што проста вады напіцца. Дык ці можна з ёю саграшыць?

— Што ты сабе ўздумаў! — крыкнуў поп, а вочы загарэліся, як бліскавіца.— Без вянца нельга, а вянчаць цябе яшчэ таксама нельга, бо годы не выйшлі. А тая ж,— пытаецца, аблізваючыся,— гэта сваячаніца, гэта дзеўка і дзе яна?

— Эге, бацюшка, гэта не дзятлы!

## І Я БЫЎ БЫ ЎСЁВІДУШЧЫ

Служыў адзін цыган у войску. І вельмі здзекаваўся з яго капрал. Калі цыган стаяў на варце, капрал пайшоў яго правяраць. Пазнаў цыган капрала, крыкнуў:

— Тройчы стой!

Не паспеў капрал легчы на зямлю — упаў з прабітаю галавою.

Потым быў суд над цыганом.

— Ці крычаў ты, цыган, тройчы «Стой!»?

— Крычаў,— кажа цыган.— Але капрал на зямлю не лёг. Я падумаў, што гэта вораг, і выстраліў.

— Пабожышся, цыган, на Евангеллі?

— Пабажуся!

Цыган пабажыўся, што ён крычаў «Тройчы стой!», і суд яго апраўдаў. Але цыган пабаяўся граха і пайшоў да папа спавядацца.

— Якія ў цябе грахі? — пытае поп.

— Я забіў чалавека.

Поп выведаў, каго і як.

— Вялікі ў цябе грэх! Ідзі і маліся, можа, бог табе даруе. Бог усюдыісны і ўсёвідушчы — ён ведае пра твой грэх, але маўчаў, бо хацеў, каб ты сам прызнаўся і тым заслужыў выратаванне на тым свеце.

Пайшоў цыган з малітваю ў казарму. Але не дайшоў: схапіла яго варта і кінула ў цямніцу.

І быў зноў суд над цыганом. І прысудзілі яму шыбеніцу. Перад пакараннем прыйшоў поп выспаведаць цыгана.

— Ці я табе не казаў, цыгане, што бог усюдыісны і ўсёвідушчы! Ён усё ведае, ён усё бачыць, але не скора скажа. Але хто перад ім саграшыць — кара таго не міне.

А цыган на тое:

— І я быў бы ўсёвідушчы, калі б мне поп памагаў!

## БОГОРОДИЦЫНА ТРАВКА

Были в одном селе поп с попадьей. Был у них работник Иван. Попадья часто прихварывала и в то время, когда поп ездил за лекарством в город, гуляла со своим любовником — их же дьяконом.

Вот узнала попадья от своей просвирни, что есть где-то богородицына травка, исцеляющая ото всех болезней, и совсем в постель слегла. Поп было опять в город за лекарством, а попадья ему кричит:

— Не надо. Все равно не поможет. Вот если бы ты достал богородицыну травку, я бы тогда сразу выздоровела.— А сама мечется по кровати, стонет и охает.

Жаль стало попу жену, собирается он за богородицыной травкой. Не вытерпел работник Иван такого притворства и рассказал, чем больна его попадья.

Не верит поп работнику. Уж очень обидно, что жена его так обманывает. Вот Иван и говорит:

— Вот что, батюшка. Не веришь, так посмотри сам.

— Как же я посмотрю?

— Пусть матушка думает, что ты ушел за богородицыной травкой. А вечером я тебя завяжу в вязанку соломы и принесу домой. Вот тогда сам увидишь.

Так и сделал Иван.

Попадья, ничего не подозревая, лишь только ушел поп, позвала своего друга дьякона, и началась у них гульба. А когда стали навеселе, пригласили к себе и Ивана поиграть на балалайке. Иван играет, а попадья пошла плясать и прибасает:

Муж, муж, муженек
По травушку ушел.
Чтоб он туда не дошел
И оттуда не пришел.

Не выдержал Иван, пустился сам в пляс да так же попадье с прибаской:

Гляди, гляди, солома,
Твоя жена здорова,
Безмен висит на стене,
Он походит по спине.

Узнал теперь поп, чем больна его попадья, выскочил из соломы, схватил безмен да и давай им угощать и попадью, и дьякона.

С тех пор всю болезнь с попадьи как рукой сняло.

## ЯК ВАНЬКА ПАРАБКАМ СЛУЖЫЎ

Жылі-былі тры браты: два разумныя, а трэці — Ванька-дурны. Разумныя браты зямлю аралі, хлеб дабывалі, а Ванька зімой і летам на печцы грэўся ды есці трэбаваў чым паболі. Раззлаваліся браты і выгналі Ваньку вон. І пайшоў Ванька, куды вочы глядзяць. Ідзе ён праз вялікае-вялікае сяло. Дамы ў гэтым сяле ўсе харошыя, зеленню абсаджаны. А каля аднаго дома сядзіць на лавачцы гаспадар ды люльку пакурвае.

— Дзе ты ходзіш, хлопец? — пытаецца ён у Ванькі.

— Іду, куды вочы глядзяць,— адказвае Ванька.— Выгналі мяне браты з дому, не маю цяпер ні прытулку, ні начлегу.

— Хочаш да мяне ў парабкі пайсці?

— А чаму б і не? — абрадаваўся Ванька.— Я ўсё ўмею рабіць.

— Работы-та асаблівай у мяне няма, хіба на ворыве быкоў вадзіць ды дома жывёліну даглядаць. Давай зразу дагаварымся наконт платы — і дзелу канец.

— Заплаціце 100 рублёў золатам, дык буду верай і праўдай служыць табе, аж пакуль у тваёй хаце ваўкі не завыюць.

Гаспадар падумаў, падумаў і рады, што 100 рублёў золата ён можа і не будзе плаціць, затое работнік будзе доўга, бо ў яго хаце ваўкі не вылі і не завыюць.

— Згодзен,— кажа гаспадар.

— Толькі я хачу яшчэ аб адным папярэдзіць,— кажа Ванька,— на леце я тры разы зыпкую. Так што тады не пакарайце, калі мяне зып заспее ў час работы.

— Гэта няважна,— успакоіў яго гаспадар, думаючы, што Ванька жартуе.

Сказана — зроблена. Ударылі па рукам, справа ўладжана.

— Сягодня гуляй,— кажа гаспадар,— а заўтра араць пойдзем.

Ванька адправіўся на сяло паслухаць, выведаць, як у гэтых краях люд жыве.

— Ты глядзі, хлопец, будзь насцеражэ,— кажуць мужыкі.— Да тваёй гаспадыні поп ходзя, гаспадар аб тым не ведае. Чаго добрага, гаспадыня можа атравіць, ці якую трасцу ўстроіць, каб лацвей было з папом любошчы вадзіць.

А Ванька, знай, маўчыць, ды на вус матае, што добрыя людзі кажуць. На зарэ гаспадар будзіць Ваньку ехаць на ворыва.

Ванька надзеў кажух з буркай, шапку зімовую, валёнкі

на ногі ўссунуў. Гаспадар дзіву даецца, што за дзівак яго работнік.

— Гэта каб жара не данімала,— гавора Ванька.

Арэць гэта гаспадар, а Ванька, знай сабе, быкоў водзіць ды на дом пазірае. Сонца ўжо ладна паднялося, як бачыць Ванька, што пашкандыбаў поп да гаспадыні. Тады ён топ-топ нагой, перакаціўся па раллі ды ў кусты.

«А праўду падла гаварыў, што зыпу баіцца»,— думае сам сабе гаспадар.

А Ванька ўбег у кусты, скінуў кажух ды вальней і пабег дадому.

— Прэцца ж гэты чорт,— згледзеўшы Ваньку праз акно, закіпяціўся поп.— Дзе ж мне, галубка, схавацца.

— Лезь, бацюшка, пад печ,— параіла гаспадыня.

Ледзьве залез поп у падпечак, як убягае ў хату Ванька.

— Ну, як арэцца? — быццам нічога не бывала пытаецца гаспадыня.

— Ай, чуеш, ці ведаеш, гаспадынька, не дай бог маёй службы. Робіш адно, а тут табе другое пасылаюць. Гаспадар кажа, што дождж паказвае, дык загадаў колля, што пад прызбай ляжаць, пад печ скідаць, каб не змоклі на дажджы.

(Ванька адразу ўбачыў, што поп пад падпечкам сядзіць.)

— Ванічка, аддыхай, я сама скідаю.

— Мне загадана, я і павінен зрабіць.

Набраў Ванька бярэма калкоў і давай іх выкладваць пад печ. Поп і туды і сюды, нідзе не знойдзе спакойнага месца. Выламаў драбінку ды ходу.

— Гаспадынька, глядзі якога чорта выгнаў.

А гаспадыня топчыцца, як на вуголлях, не ведае, што і сказаць.

Тым часам Ванька забраўся на сенавал спаць. На зарэ гаспадар зноў будзіць Ваньку на ворыва ехаць. Ванька зноў апрануўся ў зімнюю адзежу, і паехалі. Водзіць гэта Ванька быкоў ды на дом паглядае. Як сонца трохі паднялося, бачыць Ванька — пайшоў поп да гаспадыні.

Ванька топ-топ нагой, перакаціўся ў раллі і пабег у кусты. А гаспадара злосць бярэ, што араць трэба, а тут зноў быкоў няма каму вадзіць. А Ванька скінуў у кустах кажух, валёнкі і пабег дадому.

— Дзе ж мне цяпер хавацца, ляціць ізноў гэты чорт,— занепакоіўся поп.

— Лезь, бацюшка, на гару, там стаіць яшчык з пер'ем, дык ты ў пер'е схавайся, хваробу, не нойдзе там.

Поп так і зрабіў. А Ванька яшчэ здалёку ўгледзеў, куды палез поп.

Убег ён у хату, а гаспадыня як ні ў чым ні бывала пытаецца:

— Ну, як арэцца, Ванічка?

— Ай, чуеш, ці ведаеш, гаспадынька, ужо як маё шчасце, дык не дай бог каму такога. Загадаў жа гаспадар пер'е перасушыць, што на гарэ стаіць, а то, кажа, там пацукі гнёзды павілі.

— Аддыхай, Ванічка, я сама перасушу.

— Мне загадана, я павінен зрабіць.

Узяў Ванька яшчык ды як кіне з чардака аб зямлю. Поп выскачыў з пер'я ды давай ходу.

— Глядзі, гаспадынька, які вялікі пацук пабег.

А гаспадынька тая топчыцца, як ачумелая. Ванька забраўся на сенавал і праспаў да раніцы. На зарэ гаспадар і будзіць Ваньку на ворыва ехаць. Ванька апрануў кажух, валёнкі, шапку зімовую, і паехалі. Ванька водзіць быкоў ды на дом пазірае. Як сонца трохі паднялося, бачыць Ванька — пайшоў поп да гаспадыні.

Ванька топ-топ нагой, перакаціўся ў раллі і ў кусты. Гаспадара зло бярэ, што такога работніка ўзяў, каторы зыпу баіцца.

Ванька скінуў у кустах адзенне зімняе і пабег дадому.

— Прэцца ж гэты чорт,— занепакоіўся поп.— Дзе ж мне цяпер схавацца?

— Бяжы, бацюшка, у хлеў, схавайся сярод цялят.

Бачыць Ванька, куды падаўся поп.

— Ну, як арэцца, Ванічка? — сустрэла яго на ганку гаспадыня.

— І не пытай лепш, гаспадынька. Такі пырнік, што карагай не ўбіць. Загадаў гаспадар цялят выгнаць, каб аб'елі трохі.

— Аддыхай, Ванічка, я сама выганю.

— Мне загадана, я і павінен зрабіць.

Зняў Ванька са сцяны бізун і пайшоў у хлеў.

— Цялятки, ці ўсе вы? — пытаецца ён.— Адно, два, пяць, дзесяць, адзінаццаць.

— А адкуль жа гэты дванаццаты бычок узяўся? — пытаецца Ванька ды калі ўрэжа бізуном папу па спіне. Поп аж зараве ад болю ды наўцёкі.

Бачыць поп, што няма ратунку ад Ванькі, і назаўтра паехаў і ён араць. Гаспадар з Ванькам араў у лагчыне, а поп трохі далей за ўзгоркам. У гаспадара абодва быкі чорныя, а ў папа — адзін з белай перапялісткай праз крыж. Ванька зняў споднікі і павесіў на аднаго быка.

— Нашто ты споднікі скінуў? — пытаецца гаспадар.

— Горача надта. А ведаеш, гаспадар, гаспадыня абяшчала вельмі смачны палудзень прынесці.

Толькі сонца на поўдня, гаспадыня ўвязала вандзэлак яешні, сала, гуся смажанага, гарэлкі пляшку і нясе папу.

Бачыць — у лагчыне адзін бык падласы і шыбуе прама туды. Падышла, глядзіць, аж гэта гаспадар яе з Ванькай. Няма куды ёй падзецца, мусіла развязаць свой вандзэлак.

— Як гэта, каб і бацюшку паклікаць,— кажа яна.

— Схадзі, Ванька, пакліч,— загадаў гаспадар.

— Бацюшка,— прыйшоўшы, кажа Ванька,— гаспадар узнаў, што ты ходзіш да гаспадыні. Грэзіўся засячы цябе.

А вярнуўшыся да гаспадара, сказаў:

— Сашнік паламаўся ў бацюшкі. Прасіў, каб ты, гаспадар, прынёс яму тапор.

Гаспадар узяў тапор і пайшоў. Бацюшка згледзеў, што той ідзе з тапаром, і ну ўцякаць.

— Пачакай, пачакай! — крычыць гаспадар, а поп яшчэ хутчэй уцякае.

З'елі гаспадар з Ванькам удваіх палудзень. Ванька вырваў адну травіну і кажа:

— Калі гэту травіну спячы ў булцы — аслепнеш.

Вырваў другую.

— Калі гэту травіну спячы ў яешні,— аглохнеш.

Вырваў трэцюю.

— Калі гэту спарыць з малаком,— зусім памрэш.

Гаспадыня ўкрадкай сабрала гэтыя травы і панесла гатаваць страву. А Ванька кажа гаспадару:

— Як сягоння сядзем вячэраць, глядзі, што я буду рабіць, тое і ты рабі.

Прыехалі яны вечарам з арбы, гаспадыня паставіла ім вячэру адменную: булкі, яешня, малако паранае.

Укусіў Ванька булкі і пачаў тыкаць рукамі куды папала, а гледзячы на яго — і гаспадар.

«Аслеплі, слава богу»,— думае гаспадыня.

Паеў Ванька яешні. Гаспадыня да яго гаворыць, а ён нічога не чуе. Гаспадар таксама. Хлебануў Ванька малака і бац пад стол, а гаспадар за ім.

— Падохлі,— абрадавалася гаспадыня.

Паклікала папа. Усю ноч з ім ела, піла, пела, весялілася. Пад дзень поп і кажа:

— Усяк пелі, толькі па-воўчаму не вылі,— і давай выць.

Ванька ўсхапіўся і кажа:

— Гаспадар, у тваёй хаце ўжо ваўкі выюць, давай 100 рублёў золата.

Памыкаў гаспадар, але мусіў заплаціць Ваньку абешчаных 100 рублёў золата.

Так Ванька за чатыры дні службы зарабіў столькі грошай.

## ЯК ДАНІЛКА ПРАДАВАЎ ЗАЙЦАЎ І ВУЧЫЎ ГАВАРЫЦЬ ПЕЎНЯЎ

У адной вёсцы жыў мужык. У яго была добрая гаспадарка. Але на гэтага мужыка вельмі зліўся поп. Мужык часта гаварыў аднасяльчанам, што ён богу не верыць, а жыве лепш, чым тыя, якія вераць. Поп задумаў адпомсціць мужыку.

Аднойчы ў горадзе мужык у карчме сустрэў папа. Поп хацеў пры чарцы гарэлкі перакапаць мужыка на свой густ, каб ён не мяшаў яму. Але ў яго нічога не выйшла. Ап'янеўшы ад выпітай гарэлкі, поп паспрачаўся з мужыком. Мужык і поп пагадзіліся на тым, што мужык аддасць на тры месяцы папу ў батракі сына. Калі за гэтыя тры месяцы ён ні разу яго не наб'е за дрэнную работу, ён аддасць сваё багацце і адну з дачок за яго замуж. Калі ж батрак будзе працаваць дрэнна, то і ён, і мужык, яго бацька, застануцца назаўсёды батракамі ў папа.

Прыехаўшы дадому, мужык расказаў аб гэтым свайму сыну Данілку. Данілка прыгатовіўся і пайшоў да папа на работу.

Спачатку поп даручыў Данілку даглядаць жарабят. Ён лічыў, што гэта самае цяжкае заданне, да якога можна прыдрацца і адлупцаваць за гэта работніка. Аж Даніла так даглядаў жарабят, што поп не мог ні к чаму прычапіцца.

Поп убачыў, што справы дрэнныя.

Аднойчы ў горадзе ён убачыў паляўнічых, якія часта бывалі ў яго лесе. Ён звярнуўся за парадай да іх. Яны параілі яму даць работніку пасвіць зайцаў. Паляўнічыя далі папу зайцаў, ён заплаціў за іх грошы, пабраў у мяшкі і прывёз дадому. Паклікаў Данілку і загадаў пасвіць іх, пры гэтым так, каб усе былі цэлыя, ні адзін не згубіўся.

Данілка забраў зайцаў з мяшка, а яны ўсе і разбегліся. Сеў Данілка на густую траву і заплакаў ад гора, што яму і ўсёй яго сям'і трэба будзе батрачыць у ненавіснага папа.

Пайшоў ён у лес. Але тут якраз ішла бабулька з вязкай дроў, зачапілася за корні, і ўпала вязка на яе. Яна ніяк не магла пазбавіцца ад вязкі. Данілка дапамог ёй падняцца, паднёс дровы да маленькай хаткі ў лесе. Бабулька спытала Данілку, чаго ён такі сумны. Данілка ўсё ёй расказаў.

Яна і кажа:

— У цябе ж ёсць дудка. Зайграй — і зайцы прыбягуць да цябе.

Пайшоў Данілка на луг, зайграў у дудку і бачыць, што не толькі тыя зайцы прыбеглі, а шмат другіх з лесу.

Праз некаторы час поп захацеў праверыць. Прыходзіць ён і бачыць, што зайцы слухаюцца Данілку, а ад яго адбягаюць.

Поп пайшоў на хітрасць. Пасылае ён старэйшую дачку купіць у Данілкі зайца, сказаўшы, каб без зайца яна не вярталася дадому.

Вось узяла яна мяшок і прыехала на луг. Пачала прасіць Данілку прадаць зайца. Ён спачатку адказваўся, а потым здагадаўся, што гэта папова дачка, і кажа:

— Я прадам зайца, але за гэта ты павінна пераспаць са мною ноч.

— Ну, што ты. Гэта ж вялікі грэх. Ніяк нельга. Я ж цябе

зусім не ведаю. За зайца я заплачу столькі грошай, колькі ты скажаш.

— Не. Калі не хочаш са мной пераспаць, то можаш ехаць туды, адкуль прыехала, без зайца. Мне грошы не трэба.

Што рабіць паповай дачцы?

Ехаць дадому без зайца — страшна. Бацька гаварыў без зайца і не паказвацца дома. Вымушана яна была застацца начаваць у будане Данілкі. Затое раніцай яна ехала з зайцам у мяшку. А калі дастала яго з мяшка, ён рвануўся з рук і на вачах папа, пападдзі і людзей уцёк (пачуў дудку Данілкі).

Поп разлаяўся так, што страшна было слухаць. Пасылае поп сярэднюю дачку. З ёю здарылася тое ж самае. Потым паехала малодшая, самая прыгожая. Але і з ёю адбылося так жа сама. Раззлаваўся поп. Паслаў пападдзю. Пападдзя з вялікаю асалодаю згадзілася на прапанову Данілкі.

Заяц уцёк і ад яе. Нарэшце, паехаў сам поп. Ён пераадзеўся. Але Данілка пазнаў і яго. Вось поп пачаў прасіць прадаць зайца. Данілка не згаджаўся ні за якія грошы. Потым усё ж прадаў, але па гуку дудкі і гэты заяц прыбег да Данілкі. Чухае патыліцу поп. Скора расплата. Зноў звярнуўся ён да паляўнічых. Паляўнічыя параілі яму даць Данілку заданне: навучыць гаварыць трох пеўняў.

Забраў Данілка пеўняў, парэзаў іх, зварыў і з бацькам і з сям'ёю паеў.

Скора выклікае поп Даніла і пытае, як справы з абучэннем пеўняў. Даніла гаворыць, што ўжо пеўні ведаюць азбуку.

Цераз нядзелю кліча поп Даніла зноў. Кажа, што час канчаецца. Даніла гаворыць, што пеўні ўжо ўмеюць гаварыць, але гавораць такое, што ён баіцца іх паказваць бацюшку.

— А што ж яны гавораць? — пытае поп.

А яны гавораць:

— Усе паповы дочкі спалі з мужыком, матушка спала з мужыком і другія грахоўныя словы.

— Ну, скажы бацьку, што я прайграў. Можаш браць сабе любую дачку замуж.

— А навошта мне вашы дочкі патрэбныя? Лепш Ганначкі Іванавай мне не трэба.

— Ах ты, галган, дык ты іх сам папорціў, а цяпер адмаўляешся!

— Дык як жа мне іх усіх чатырох браць. Лепш я адну вазьму, ды не вашу.

## ДВАНАЦЦАЦЬ АПОСТАЛАЎ

Жыў сабе на свеце адзін рэзчык. Добры быў майстар. Добры быў і п'яніца...

Аднойчы дамовіўся з ім адзін манастыр вытачыць з дрэва

дванаццаць апосталаў. Даў яму манастыр і ліпы, добрай ліпы.

Ну, захадзіўся рэзчык працаваць. Зрабіў ён дзевяць апосталаў, а астатні матэрыял прапіў, прапіў ліпу на трох апосталаў. Апахмяліўся і думае: «Што ж гэта рабіць. Прыйдзе з манастыра камісія прымаць работу, а матэрыялу няма. Абавязкова павесяць!»

А была ў гэтага рэзчыка добрая жонка, прыгожая і разумная.

— Не журыся,— кажа,— чалавеча, як-небудзь яно ды будзе.

Апранулася жонка прыгожа, узяла вёдры і пайшла па ваду праз папоўскі двор.

А поп быў удавец...

Прывіталася:

— Дзень добры, бацюшка!

Слова за словам, а поп пытае:

— Ці нельга прыйсці сёння ўвечары?

— А чаго нельга, прыходзьце, бацюшачка,— і назначыла папу якуюсь пэўную гадзіну.

Такім жа чынам пайшла жонка і каля двара дыякана. Заўважыў дыякан, аклікнуў... Слова за словам... Назначыла і дыякану пэўны час.

Потым жонка пайшла каля двара старасты. Доўга і не гаварыла.

— Прыйду,— кажа стараста,— да цябе сёння ўвечары.

Вярнулася жонка дадому, расказала чалавеку: так, маўляў, і так, будзь увечары падрыхтаваны.

Прыйшоў і вечар.

Чалавек схаваўся ў сенцах. Чакаюць гасцей...

Нядоўга чакалі, вось ужо і поп стукае ў ваконца.

Упусціла жонка папа ў хату. Выцягла варэнікі з печы, падала чарку...

Захмялеў поп, стаў прычэпліванца да жанчыны. Толькі хацеў абняць, аж тут чалавек у дзверы — стук-стук!

— Ой, бяда мне! — ускрыкнула.— Дзе ж вас схаваць, бацюшачка?

І паказала:

— Распранайцеся, бацюшка, нагала ды станавіцеся з апосталамі ў рад!

Некуды дзецца папу, пакарыўся, стаў з апосталамі ў адзін рад.

Толькі збавілася ад папа, аж вось і дыякан у хаце. Пасадзіла за стол, пачаставала чаркай. Толькі дыякан хацеў абняць, калі чалавек у сенцах — стук-стук!

— Распранайцеся хутчэй ды станавіцеся ў рад з апосталамі,— загадала жанчына дыякану. Стаў і дыякан.

Аж вось і стараста:

— А, здаровая будзь, маладзіца ў хаце!

Ды толькі хацеў зачапіць маладзіцу, а тут чалавек у сенцах — стук-стук!

Мусіў і стараста распранацца нагала і станавіцца ў рад з апосталамі.

Ну, сталі ўсе трое і стаяць, грэшным целам свецяць.

Аж вось і камісія з манастыра — проста да рэзчыка ў двор: ігумен, настаяцель і яшчэ нейкі там чын. Прыехалі грошы плаціць, работу забіраць.

Зайшлі ў хату. Пайшлі па раду апосталаў — усіх дванаццаць. Аглядаюць. Дайшлі аж да таго краю, дзе стараста стаіць.

— Добрая работа! — хваліць ігумен.— Як жывы!

— Толькі навошта апосталу,— кажа ігумен,— грэшнае цела. Ці нельга без яго?

— Можна і без яго,— адзываецца рэзчык,— для нас гэта пустая справа, імгненна адрэжам!

І ўжо бярэ рэзчык у рукі долата... Эх, як пачуў тое стараста, як сарвецца з месца — скок у вакно! А за ім дыякан, а за ім поп...

А рэзчык як закрычыць:

— Трымайце іх, такую іх маць! Трымайце ўсіх, а то разбягуцца! Трымайце, а то я за іх не адказваю!

Ну, тут ігумен стаў прасіць рэзчыка, пакінь, маўляў, долата, чалавеча, няхай ужо будзе, як ёсць...

Вось так вызваліла жонка свайго мужа з бяды. А то павесілі б, абавязкова павесілі б!

## АРХАНГЕЛ У ШАФЕ

У папа быў найміт, звалі яго Цімоха. Аднойчы поп загадвае яму:

— Глядзі мне, каб сёння ўсё было, як на каляды.

«Што ж гэта рабіць? — думае Цімоха.— На каляды ж ішоў снег, быў люты мароз, а зараз лета, і хоць бы табе які-небудзь дожджык, то, можа б, лужын нарабіў. О, тады б я зрабіў яму каляды!»

...І прыгадаў Цімоха, што тады было на каляды. Папа не было дома, а да маладой пападдзі прыйшоў малады гусар. Як ім там было, Цімоха не ведае. Зачынілася маладая пападдзя з маладым гусарам у пакоі. Сядзяць, чаёк папіваюць, адзін аднаму маргаюць. Раптам стукат у дзверы.

— Ой, бяда! Гэта ж попік,— гаварыла пападдзя,— куды ж мне цябе схаваць?

І схавала пападдзя гусарыка ў шафу. От увайшоў поп і грозна да пападдзі:

— Хто тут быў? Чаго зачынілася? Ніколі не зачынялася, а сёння, на каляды, на табе! Што гэта?

Пападдзя з перапалоху слова не вымавіла, а поп усё грымеў. Калі раптам пачуў ён, штосьці ў шафе варушыцца, дыхае.

Спалохаўся поп, а пападдзя яшчэ больш. «Гэта ж выдасць ён мяне»,— думае яна. І адразу шафа адчынілася. Тады пападдзя апаматалася і з усёй сілы крыкнула:

— Грэшнікі мы з табой, попе, архангел Гаўрыла з мячом стаіць.

Глянуў поп, і сапраўды... (гусарык дагадаўся — шаблю з ножнаў выняў і ўгару падняў).

Поп як пабачыў, так і ўпаў, а пападдзя і сабе. Гусарык выкарыстаў гэта і выбег з пакою...

Цімоха зноў павярнуўся, знайшоў папа і кажа:

— А ведаеце, бацюшка, што ў нас на каляды было?

— А што? — поп пытае.

— Архангел Гаўрыла з мячом у шафе стаяў.

— Дурань! — крыкнуў поп.— Гэта не твая справа, ідзі вон!

### САЖА

Прыехаў я з бацькам пасля першай сусветнай вайны ў родную вёску і стаў служыць, таму што ў хаце нічога не было есці. Падаўся да аднаго гаспадара і кажу:

— Наймайце мяне да працы.

Ён быў заможны: меў тры пары коней. А парабкі ў яго былі. Так што не захацеў ён браць мяне за грошы.

Я яму кажу:

— Не трэба мне вашых грошай. Я буду ў вас комін чысціць і збіраць сажу сабе. Зрабіце толькі мне добрую скрыню на гэту сажу.

Мужык гэты палічыў мяне дурнем.

— Ну,— гаворыць,— пажыві ў мяне, папрацуй, а мне няцяжка будзе зрабіць скрыню.

Нягледзячы на тое што мне было чатырнаццаць год, я хлопец быў рослы і працавіты. І спадабаўся я гэтаму гаспадару лепей, як тыя яго дарослыя парабкі. Зрабіў ён скрыню і пачаў я коміны вымятаць і ссыпаць сажу. Кажу яму:

— Ну, дзядзька, праз чатыры месяцы, калі я сабяру гэту сажу, каб вы далі мне коней завезці яе на рынак.

Гаспадар толькі ўхмыляецца. А дарослыя парабкі кажуць мне ў вочы:

— Нашто ты збіраеш гэту сажу! Яе ж ніхто не купіць. Дурань ты: за нішто робіш.

— Цяпер,— кажу,— я дурань, а, можа, прыйдзе час, калі вы скажаце, што я вельмі разумны.

А да гэтай маёй гаспадыні хадзіў поп у госці. Калі прайшло тры месяцы і ў мяне сажы гэтай сабралася паўскрыні, я аднойчы не замкнуў яе і паехаў з гаспадаром і парабкамі на поле араць. Заўсёды я замыкаў сваю сажу, а на гэты раз не замкнуў. Поп заўважыў, што мы паехалі на поле. Тады ён ідзе да маёй гаспадыні.

Вось гаспадыня напякла ўсяго. Яны выпілі, пад'елі. А я ў той час, едучы па полю, пачаў у гаспадара прасіцца.

— Ведаеце, дзядзька, што? Вы мяне адпусціце дамоў. Я забыў замкнуць сваю сажу.

Ён кажа:

— Ды тваю сажу ніхто не будзе чапаць. Яна нікому не патрэбна.

Ну, я ўсё-такі прашуся:

— Ведаеце, дзядзька, я за яе працую вам амаль чатыры месяцы і, ведаеце самі, як працую: лепей як іншыя старыя парабкі. А калі гэтую сажу ўкрадуць, уся мая праца згіне, што я вам рабіў чатыры месяцы.

Гаспадар кажа:

— Бяжы, замкні, калі ты так страшышся.

Я прыбег да хаты і слухаю пад вакном, што там робіцца. Бачу: гаспадыня з папом банкетуюць. Праз дванаццаць хвілін яны паляглі спаць у голым выглядзе. Я тады падыходжу і стукаю ў дзверы. Поп схапіўся голы і пытаецца:

— Куды мне цяпер дзявацца?

Яны кінуліся ва ўсе бакі і бачаць, што мая скрыня адамкнёна. Гаспадыня гаворыць:

— Вось нашага парабка скрыня адамкнёна, лезь туды.

Потым адчыніла мне дзверы і пытаецца:

— Чаго ты, Саша, прыйшоў?

— Ведаеце, гаспадыня, я забыў зачыніць скрыню.

— Што ты, дурань! Тваю скрыню ніхто не будзе чапаць. Ідзі рабіць на поле!

Я адказваю:

— Я за гэтую сажу чатыры месяцы працаваў, а цяпер яе ў мяне хто-небудзь украдзе.

Увайшоў я ў хату і замкнуў сваю скрыню. Потым варочаюся я да гаспадара і кажу:

— Ведаеце што, дзядзька, сёння ў мяне баліць пуза. Адпусціце мяне дамоў.

Я страшыўся, каб гаспадыня тым часам не разбурыла маёй скрыні.

Гаспадар кажа:

— Раз хворы, ідзі ляжы.

Я за якіх хвілін пяць прыбег назад дахаты і бачу — скрыня цэла.

На другі дзень у нашым мястэчку Бытэнь рынак быў. Я прашу ў гаспадара, каб ён даў мне коней адвезці на рынак маю сажу.

Гаспадар згодны:

— Ну, што ж, едзь, прадавай.

— Вось дурань. Хто ў яго будзе купляць сажу?

Я запрог коней, папрасіў і гаспадара, каб дапамаглі мне вынесці на воз, і паехаў я з сажай на рынак.

Ехаў я шляхам па калдобінах вельмі хутка, так што поп з боку на бок перавальваўся ў скрыні. У яго зубы адны белыя засталіся, а ўвесь стаў чорны, як сажа.

Заехаў я на рынак. Паноў там было шмат. Я абвяшчаю ім:

— Хто хоча, можа паглядзець чорта за пяцьсот. злотых.

А ў паноў грошай шмат і зрабілася чарада, каб паглядзець чорта за пяцьсот злотых. І пачалі мне даваць не па пяцьсот, а па тысячы, каб я пахутчэй паказваў.

За якіх тры гадзіны я набраў грошай столькі, што некуды іх было дзяваць. Я ўзяў тады і адчыніў накрыўку скрыні. Поп выскачыў і пабег па рынку, а бабы ўсё скуголяць:

— Вось, вось чорт!

Варочаюся з рынка дамоў і паказваю гаспадару і парабкам грошы, што я набраў за сажу.

Яны здзівіліся:

— Хто быў такі дурны, што заплаціў грошы за сажу?

Успомнілі яны мае словы: «Прыйдзе час, што вы скажаце: не дурань ён, а вельмі разумны».

Надаваў я ім па руках грошай, колькі і за год не заробяць яны ў гаспадара. А гаспадар гаворыць:

— Калі хочаш, Русак, у мяне служыць, давай дамаўляцца на грошы альбо на хлеб, а сажу я буду сам збіраць і прадам яе.

Я кажу:

— Мне грошай хапае!

І пайшоў я ад яго да сваіх бацькоў.

А ён з велькага нецярпення праз два месяцы павёз сажу на рынак.

Заязджае ён і становіцца ў тым раду, дзе прадаюць каўбасы і булачкі. І адчыняе сваю скрыню.

— Што ў цябе?

— Прадаю сажу.

Тут падняўся віхор, схапіў сажу і панёс па ўсім народзе, па гэтых булачках і каўбасах.

Нарвалася на яго паліцыя і арыштавала яго. Пакуль яго жонка даведалася, пратрымалі яго ў каталажцы цэлы тыдзень галодным. Потым налажылі на яго штраф заплаціць за ўсю порчу, якую ён нарабіў сваёю сажаю. Але не хапіла ў яго гаспадаркі заплаціць за гэтую порчу. Даведаўся тады гаспадар, як сабіраць сажу, і пайшоў ён за парабка служыць да другіх людзей.

## НЕЧАКАНАСЦЬ

Быў адзін чалавек, а да яго жонкі хадзілі ксёндз, дзяк і паддзячы. Але аднаго разу той чалавек хацеў наняць службу божую і малебен ды й пайшоў у горад купіць чаго-небудзь. Ужо вечарам, яго яшчэ не было з горада, прыйшоў ксёндз найпер-

шым, прынёс гарэлкі, кілбасу, і пачалі яны баляваць. Але падходзіць дзяк да вакна ды й кажа:

— Адчыняй.

А яна кажа:

— Эй, ягамосць, муж ужо прыйшоў з гораду.

А ён кажа:

— Дзе ж схаваюся?

А яна кажа:

— Лезьце на гару, там ёсць саламянік вялікі, дык там і схавайцеся.

Дык ён схаваўся. Дзяк увaходзіць у хату ды й зноў ставіць гарэлку на стол, ды й пачынаюць піць абое. Але прыбягае паддзячы ды й зноў кліча з-пад вакна, каб адчыніла. А дзяк кажа:

— Дзе ж я схаваюся? Ужо муж ёсць!

Яна кажа:

— Лезьце на гару ды й там залезьце ў саламянік.

Але ён не ведае нічога ды й сеў сабе ў другі кут. Ужо іх ёсць два. Прыйшоў паддзячы ды й таксама без нічога не з'явіўся: прынёс штосьці трохі ды й п'юць абое.

Але нарэшце прыйшоў ужо й муж дадому, ды й прыйшоў пад дзверы і крычыць:

— Адчыняй, жонка, ды й хадзі сюды з лампай да сянец, бо я прынёс мяса, ды пакажу табе, якое для каго, бо я іду ў вёску сазываць людзей, каб заўтра пасходзіліся да царквы.

А як ён пад дзвярыма закрычаў, паддзячы кажа:

— Дзе я схаваюся?

А яна кажа:

— Лезьце на гару ды й там схавайцеся ў саламянік.

Той залез, мацае — штосьці ёсць у адным куце; мацае ў другім — таксама ёсць. «Эй,— думае сабе,— бяда». Але не ведае, хто там ёсць... Ды й стаў сабе ўжо пасярэдзіне і стаіць. А гаспадар увайшоў да сянец ды й кінуў мяса на зямлю і кажа жонцы:

— Гэта без касцей, файнае, дык будзе для ксяндза, а гэта будзе для дзяка, а гэта з касцямі — будзе для паддзячага.

А той цікавы, хацеў паглядзець, ці хоць вялікі кавалак, хоць бы ўжо было з касцямі, а саламянік стаяў на краі, а ён як трошкі зважыўся, хацеў паглядзець, ды й гоп! Усе тры да сянец. Аж тут жа ўскочылі, бо там было цёмна, то не бачыліся. А гаспадар тады кажа:

— Агіль на вашы галовы! Яшчэ ж я вас не падзяліў, а вас ужо бог пазносіў!

## ЯК ІЕРУСАЛІМСКІЯ СВЯТЫЯ ПРАЗ ПЕЧ ДАРОГУ ПРАЛАЖЫЛІ

Быў сабе чалавек ды хадзіў у чумацтва, а жонка дома заставалася ды прынадзіла да сябе і папа, і дыякана, і дзяка. От раз прыходзіць дзяк. Пачалі яны гуляць, аж ідзе дыякан.

— Дзе б ты,— кажа дзяк,— мяне схавала?

— Ды лезьце на печ.

Завесіла яна яго там дзяружкай, упусціла дыякана, зноў гуляюць, аж ідзе і поп.

— Дзе б ты,— кажа дыякан,— мяне схавала?

— Ды лезьце на печ.

Ужо іх там двое. От пагулялі трохі з папом, як чуе на дварэ:

— Тпру! Жонка, адчыні!

— Ох, мне,— кажа жонка,— ліха! Гэта ж муж з дарогі прыйшоў! Лезьце, бацюшка, хутчэй на печ.

Ужо іх там трое. От муж зноў:

— Адчыні, жонка!

А яна зрабілася такою слабаю ды хвораю, ледзь-ледзь адчыніла.

— Чаго гэта ты,— пытае,— так доўга не адчыняла?

— Ды тут, чалавеча, такое ў нас робіцца...

— Што ж яно там такое?

А тыя на печы як пазналі адзін аднаго, дык давай, кажуць, уцякаць. От адзін зараз: «Благаславі!» — ды з печы да ў дзверы, а другі: «Благаславёны!» — ды за ім, а трэці сабе штосьці сказаў ды таксама ў дзверы.

— Бач,— кажа жонка,— гэтак кожнай ночы. Кажуць людзі, што гэта іерусалімскія святыя праз нашу печ дарогу пралажылі.

— А падай,— кажа чалавек,— каганец, я палезу, пагляджу, што яно там такое.

Залез на печ, аж там у кутку цыркун дзірку прагрыз. Ён тады:

— Бач, госпадзі, твая воля! Сказана — святое! Якая маленькая дзірачка, а яно і пралезе. А дай,— кажа,— нож, я калочак застругаю ды заб'ю.

## ШТО ПАПУ БЫЛО ЗА ЧУЖУЮ ЖОНКУ

Адзін поп хадзіў да жонкі аднаго гаспадара, і яна мужыку ўзяла ды сказала. А мужык быў хітры: навалок у каморку дзе якое меў жыта і папастаўляў у мяхах ля жарон ды й кажа да жонкі: «Я бытто паеду, а ты яго закліч сюды, а як над'еду, так скажы, каб ён жыта малоў у каморцы». Но ўзяў ды паехаў.

Поп гэта прыбягае, анно ж над'язджае ён. Так жонка шэпча:

— Ідзі ў каморку і мялі жыта, то ён будзе думаць, што сусед прыйшоўшы меле.

Той гэта пабег. Так меле, так меле, а мужык сабе прыйшоў, лёг спаць, праспаўся, устаў, пасядзеў, анно ж чуе — ужэ пусты камень так барбаціць,— а ён так круціць!

Так ён устаў да ўзяў дубіну і да каморкі. А поп у адной сарочцы (бо гарачо яму зрабілася), так круціць жорна! Ён яму як ні ждзеліць* разоў кілька, так поп дзверы паўбіваў і ўцёк. От была папу карачка!

## НЕТЛЕННЫЕ МОЩИ

Повадился поп за одной женщиной ухаживать. Как мужика дома нет, так поп к ней. Билась, билась она, никак от попа не отделаешься. Пожаловалась мужу. А муж и говорит:

— Ладно, Даша, зови сегодня попа к себе в гости, скажи, что Семен в город уехал.

Так и сделала.

Вечером идет к ней поп, ног не чует — торопится.

Только пришел поп, а Семен в сени стук-стук. Испугался поп:

— Спрячь меня, Дашутка, скорее. Верно твой хозяин вернулся.

— Куда ж я тебя спрячу, все равно Семен найдет, обоим плохо будет. Раздевайся скорее да становись под образа, скажу, что мощи нетленные явились.

Поп так и сделал.

Приходит муж, узнал попа, а виду не показывает, сам спрашивает:

— Что это у тебя, женка, за чудо стоит?

А молодуха и отвечает.

— Мощи нетленные явились.

Семен ей и говорит:

— Дура ты! Мощи — святые, надо свечку поставить!

Взял, зажег свечку и поставил попу на голое плечо.

Жарко попу, а свечка как стала догорать, поп как заорет да из избы вон! А Семен схватил дубину — и ну его тузить: «Не ходи, кудлатый, к чужим женам, не ходи!»

Насилу поп убежал.

Все прихожане узнали про это.

## УМНАЯ ЖЕНА

В некотором царстве, в некотором государстве жил-был молодой купец. У него была жена Аленушка, из бедных она, дочь сапожника, но такая умница, такая разумница, красоты

---

* Ждзеліць — ударыць.

писаной. Ну, ладно. Вот купец собрался в дальнюю страну, а жене наказывает:

— От дома далеко не уходи, а пуще всего себя береги.

Уехал купец, осталась жена одна в дому полной хозяйкой. От дома далеко не уходит, а пуще всего себя бережет.

Прошло ни мало ни много — три года, как муж отлучился. Стала она думать и гадать, долго ли ей мужа ожидать. Купечески сынки мимо Аленушкина дома похаживают, на Аленушку поглядывают.

— Аленушка,— говорят они,— муж твой от тебя отвернулся, ума-разума рехнулся.

Пошла Аленушка на базар, а купец пристает до нее и говорит:

— Ах, душа Алена, жена мужняя, долго тебе мужа ждать, нельзя ли к тебе ночевать?

Сустревает его Аленушка второй раз, а он все с нее не спущает глаз. Сустревает третий раз, а он то же.

Идет Аленушка к попу, говорит ему на духу:

— Как ни пройду мимо купца, а он ухмыляецца, надо мной потешается. Долго, говорит, тебе мужа ждать, нельзя ли у тебя ночевать?

Отвечает поп:

— Ох, раба Аленушка, то грех большой, не согласишься ли ночевать со мной?

— Ладно,— говорит она,— подумаю.

Пошла Аленушка к архиерею:

— Святой отец, ко мне просится ночевать купец, поп говорит, грех большой, согласись лучше ночевать со мной.

— Попутал их всех сатана, возьми лучше на ночь меня.

— Ладно, архиерей, пущу ночевать часов в пять. Приходи, закуски приноси.

Пошла Аленушка к попу и велела приходить в шесть часов ему.

От попа завернула к купцу:

— Купчик-голубчик, приходи ночевать, в семь часов буду ожидать.

Ладно. Приходят пять часов. Стучится архиерей. Впустила его Аленушка, закуску положила, винца налила, стала угощать, гостя привечать.

Прошел час, стучится в дверь поп.

— Батюшка,— говорит Аленушка,— кажись, муж на дворе.

Архиерей испугался, стал по комнате метаться, куда бы это убраться.

— Ты,— говорит Аленушка ему,— рясу-то с себя скидай да в бочку полезай.

А бочка-то была из-под меда.

Полез архиерей с перепугу в бочку, а Аленушка и говорит:

— Ох, отец, не ладно я придумала, полезай в сундук.

Залез архиерей с перепугу в сундук. Она его и закрыла.

Приходит поп. Аленушка попа привечает, угощает, винцом поит. Прошел час, слышит поп стук.

— Батюшка,— говорит Аленушка,— никак муж вернулся.

Поп испугался, по комнате заметался, не знает, куда бы это ему убраться.

— Ты,— говорит Аленушка,— рясу-то с себя скидай да в бочку полезай.

А в бочке-то варенье было.

Вот он с перепугу-то в бочку и сел.

— Ох,— говорит Аленушка,— неладно я удумала, полезай лучше в сундук.

А в сундуке был пух. Открыла она крышку, а поп и полез туда. Аленушка сундук закрыла, купца впустила.

Вот его она привечает, угощает, а сама все в окно смотрит.

— Ох,— говорит,— никак мой муженек поспевает, к воротам подъезжает.

Купец испугался, по комнате заметался, не знает, куда ему спрятаться.

А Аленушка и говорит:

— Ты платье скидай да в бочку полезай.

А в бочке-то был деготь.

Вот он с перепугу-то платье с себя снял, в бочку сел, а Аленушка и говорит:

— Ох, неладно я что-то удумала, полезай-ка лучше в сундук.

А там поп с архиереем сидели. Полез он в сундук. Аленушка сундук на замок закрыла. Сидят в сундуке архиерей, поп и купец, в пуху перевалялися, пыли наглоталися.

А Аленушка удумала. Взяла сундук, на телегу погрузила и в город повезла.

Сустревает ее солдат.

— Что, тетка, везешь?

— Да вот чертей, солдатик, везу. Повелись у меня черти в саду. Насилу изловила.

— Э, тебя, что черт, что поп, прибыль-то одна. Дай ты мне их.

— Ну что ж, бери.

Взял солдат веревку, вынул их из сундука, на веревку привязал и зачал кнутом стегать. А они, как черти, в пуху, в меду, в дегтю. Солдат их стегает да приговаривает:

— Вот те, черт, не ходи в чужой огород, вот тебе, бес, не ходи в чужой лес, вот те, сатана, не ходи в чужи дома никогда.

Бил их бил да всех в прорубь спустил.

А тут и басенка вся, кому басня, а мне гуся.

## ЯК ПОП БЫЎ СВЯТЫМ МІКАЛАЕМ

Адзін дзяк хадзіў да маладзіцы. Таго дзяка звалі Міколаю. Маладзіца прыходзіла ў нядзелю ў царкву, падала на калені каля іконы святога Мікалая і малілася:

— Мікалаю, Мікалаю, я цябе чакаю.

Гэта быў знак дзяку, каб прыходзіў — мужа няма дома, робіць у лесе.

Раз малітву маладзіцы падслухаў поп. Ён падумаў, што маладзіца так моліцца, каб яе муж (ён таксама зваўся Міколаю) хутчэй вярнуўся з лесу. Маладзіца ўжо даўно прыглянулася папу, толькі ён не ведаў, як да яе прыступіцца, а падслухаўшы малітву, прыдумаў!

На казанні апавядаў веруючым, як анёлы кахаліся з зямнымі дзяўчатамі, як святыя па зямлі хадзілі. А потым сказаў, што калі вельмі часта паўтараць просьбу богу, дык ён выкапае яе.

На другую нядзелю поп схаваўся за абразом святога Мікалая. Калі прыйшла маладзіца і сказала перад абразом: «Мікалаю, Мікалаю, я цебе чакаю»,— поп прагаварыў з-за абраза:

— Мікалай цябе наведае!

Маладзіца перапалохалася. Яна прыгадала, што поп гаварыў на казанні. «Я вельмі саграшыла,— падумала яна,— бо прамаўляла перад святым Мікалаем тыя словы, якія павінен быў пачуць дзяк». І пачала шчыра замольваць свой грэх. Тут падышоў да яе поп:

— Бачу, маладзіца, ёсць у цябе грэх на душы. Паспавядайся — лягчэй табе будзе.

Пайшла маладзіца за папом у спавядальню. Расказала яму.

— Вельмі ты саграшыла, бо сваімі просьбамі давяла святога Мікалая да спакусы.

— Дык што ж мне цяпер рабіць?

— Павінна святога Мікалая прыняць.

— А калі яго чакаць?

— Гэтай ноччу.

Усё гэта падслухаў дзяк. «Ну, пачакай, поп,— падумаў дзяк.— Ты зрабіў цуд — але ж і я зраблю».

Уночы прыйшоў поп да маладзіцы і стукае ў вакно:

— Маладзіца, адчыняй! Прыйшоў святы Мікалай!

Упусціла маладзіца святога ў хату. Не пазнала, што гэта поп, бо ён падмаляваў твар і прыклеіў бараду. Толькі замкнула дзверы — зноў хтосьці стукае.

— Хто там?

— Святы Пятро!

Пазнаў поп па голасе дзяка. Падумаў, падумаў ды й кажа маладзіцы:

— Упусці яго, я чую, што ён хоча.

Зайшоў святы ў хату. Маладзіца дзяка не пазнала, бо й ён

падмаляваў сабе твар і прыклеіў бараду, у руках трымаў вялікі ключ. Поп пазнаў ключ ад царкоўных дзвярэй.

— Ты хто такі? — напаў «святы Пятро» на таго, каго застаў у маладзіцы.

— Я святы Мікалай.

— Як ты сюды прыйшоў, калі я рай замкнуў?!

— Пералез праз сцяну.

— Праз сцяну? — вызверыўся «святы Пятро».— Хіба ты не ведаеш, што праз сцяну нельга лазіць?!

— Знаю.

— Дык чаго лазіш? — І давай тым ключом «святога Мікалая» па галаве біць.

Ледзьве «святы Мікалай» уцёк. А «святы Пятро» зняў бараду — і маладзіца пазнала дзяка.

— Ты мяне клікала — і я прыйшоў.

Маладзіца ўсё зразумела. На другую нядзелю малілася каля вобраза святога Мікалая: «Мікалаю, Мікалаю, я цябе чакаю». Але абраз маўчаў.

## МИКОЛА ДУПЛЕНСКИЙ

Мужик-от был охотник, а жена любила дьякона; он заметил и сказал:

— Женка, я нашел в лесу Миколу Дупленского — чего попросишь, то и даст.

Назавтри женка напекла шанег, колобов, круговой дальней дорожкой в лес; а мужик-от ейный — прямой пошел, там дерево большо — залез в дупло.

Она пришла и стала молиться:

— Микола Дупленский, кабы муж оглох.

А муж-от в дупле:

— Клади сюда колобы-ти, шаньги-ти, дак придешь домой — оглохнет.

Женка положила, пошла домой круговой опять; мужик — прямой, на полати залез. Женка пришла — он на полатях. Она там говорить стала что-то.

— Что, женка, говоришь? Я не чую.

— А лежи знай, как не чуешь, что тебе надь!

Назавтри опять колобов да шанег напекла и пошла опять круговой дорожкой, а муж — прямой, залез в дупло.

Женка пришла, опять стала молиться:

— Микола Дупленский, кабы муж ослеп.

— Клади колобы да шаньги, придешь домой — ослепнет.

Женка положила. Мужик колобы-шаньги взял да прямой дорожкой домой, на полати залез. Женка пришла, он и говорит:

— Женка, я что сегодня ничего не чую и не вижу?

— Ну, лежи знай, как не чуешь и не видишь, что тебе надь!

Ну, тут позвала дьякона в гости; наварила, напекла блинов, взяла вина — стала угощать.

— Дьякон,— говорит,— тихонько ешь блины-ти, задавишься.

А муж на полатях:

— Женка, подай мне ружейко, погляжу его — мне хошь веселее.

Она подала.

Не хватило у ей вина — маловато, убежала за вином. Мужик направил ружье — бах дьякона! Дьякон пал. Он слез, ко столу осторожил его — посадил; напихал полон рот блинов, сам залез на полати. Сидит — пасть широку отворил!

Женка пришла:

— Что ты, дьякон! Я как тебе говорила: тихонько ешь блины, задавишься — вот и задавился!

Мужик вскочил с полатей и почал женку трепать: порол ремнем и всяко... Дьякона схватил — понес его к попу... руки его запихал в кольцо к воротам и привязал веревочку за кольцо, сам стал за угол. Стал дергать веревочку-то, колотиться — поп вышел: «Кто, крещеный?» — Молчит. Поп ушел, не отворил ворот.

Поп ушел, но опять дергает-колотится... Поп опять вышел — с молитвой, прочитал молитву и спрашивает: «Кто, крещеный?» А он молчит. Поп не отворил — опять ушел.

Охотник опять веревку дергает — опять колотится... Поп вышел с книгой: книгу читал-читал, ворота отворил — дьякон пал попу в ноги. Мужик выскочил:

— Ты заморозил дьякона-то!

— На сто рублей да и убери, не сказывай никому.

Мужик схватил дьякона и понес на берег; крестьяне неводят, а он повыше занес его. Нашел лодку — посадил дьякона в лодку, весло дал под пазуху... Дьякон тянет весло, мужики кричат:

— Дьякон, не езди в тоню!

Дьякон прямо садит в тоню... Мужики ругаются, а дьякон прямо в тоню... Крестьянин один в лодку сел — поехал... дьякона веслом шварнул как по щеке — дьякон прямо в воду... Этот мужик и выскочил:

— Что,— говорит,— ты сделал, потопил дьякона-то!

— Возьми двести рублей да не сказывай никому.

Вот мужик триста рублей нажил и пришел к женке домой. И стал жить да быть, теперя живут да нас переживут.

## ПОПОВСКИЕ ХОМУТЫ

Захотелось попу Семену щегольнуть, и купил он себе новые хомуты с бляхами. Не успел поп и раза прокатить в новых хомутах, как вдруг в одну прекрасную ночь хомуты пропали,

как в воду канули. Подозревал поп в краже хомутов работника Ивана, но придраться было нельзя.

Подошел пост, началось говенье. Стал говеть и попов работник Иван. Исповедь началась еще в пятницу вечером, но Ивану в пятницу было некогда и он подошел исповедаться в субботу во время утрени. Уже рассказал Иван попу все свои грехи, а он все спрашивает и спрашивает. И вот не выдержал Иван и сказал:

— Грешник, батюшка, хомуты-то твои новые я украл.

Закипело у попа сердце так, что подрясник затрясся. Захотелось ему притянуть Ивана к суду, да нельзя ему огласить, что сказано ему на исповеди. И вот придумал поп такую хитрость.

— Во всех грехах я тебя прощаю, а в краже хомутов не могу. Уж очень велик твой грех, Иван. Чтобы получить в нем отпущение, необходимо покаяться всенародно. Вот сейчас я объявлю прихожанам, а ты выйди на амвон и расскажи о краже хомутов во всеуслышание, и тогда я дам тебе разрешительную молитву.

— Ну что же, батюшка,— говорит Иван,— раз так закон требует, я согласен.

Подошел Иван к амвону, а поп вышел на амвон и громко сказал молящимся:

— Православные христиане, все, что этот человек скажет, истинная правда.

После такого оглашения Иван взошел на амвон, обернулся лицом к молящимся и так же громко, как поп, сказал:

— Православные христиане, у кого рыжие ребятишки — все от нашего попа.

Круто повернувшись, поп молча ушел в алтарь и с шумом захлопнул за собой царские врата.

## ЯК СЕЛЯНІН ПАПА ВЫКРЫЎ

Украў раз бедны селянін у папа валы. А поп і западозрыў яго. От чакае ён і чакае, калі селянін спавядацца ў царкву прыйдзе. Прыйшоў. Поп і кажа:

— Прызнайся, Сямён, ты валы ўкраў?

— Я,— кажа,— бацюшка. Але гэта даўно было, я ўжо й растраціўся.

— Ну й што ж,— кажа поп,— цяпер ты будзеш раскаяным грэшнікам і на небе, і на зямлі. Грахі твае дараваныя будуць толькі тады, як ты перад прыхаджанамі выступіш і раскаешся.

— Добра,— кажа Сямён.

От сабралася ў вялікае свята шмат людзей. І Сямён прыйшоў. Поп выступае і кажа:

— Зараз, прыхаджане, выступіць раскаяны грэшнік. Тое,

што ён будзе гаварыць, гэта ўсё ісцінная праўда.

От Сямён выступае і кажа:

— Прыхаджане, ведайце: усе дзеці ў сяле, каторыя рыжыя, гэта паповыя байструкі.

## ДЗЯКАВА ПАШАНА

Ідзе дзяк позна ноччу дадому. Глянь, а штосьці сярод дарогі, як мяшок, ляжыць. Дзяк як смальне яго чобатам пад бок:

— А ну, падымайся — знайшоў дзе спаць!

— Ты куды, баранова тваё горла, рэжаш бруднымі чобатамі? — загарлаў ляжачы знаёмым голасам.

— Ох, бацюшка,— схамянуўся ачумелы дзяк,— каб жа я ведаў, што гэта вы, хіба б я іх не пачысціў?

## БАТРАК

Жил в селе поп с женой. Нанял он себе батрака и уговорились: если поп будет батрака ссылать, то чтобы ему двойное жалованье отдать; если батрак сам сойдет, то жалованья ему ничего не брать. Вот живет батрак у попа и месяц, и два. Пришло лето, стал его поп на луга посылать овец стеречь.

Вот батрак купил себе два пуда ладану, вышел на луг, зажег его и начал богу молиться. Вдруг и услыхал он голос:

— Батрак, о чем ты молишься?

Батрак и говорит:

— А вот о чем я молюсь, чтоб господь сослал такую дудку: когда я заиграю, чтоб кругом меня все плясали.

Не успел он выговорить, вдруг дудка летит с неба и упала подле него. Взял батрак дудку и заиграл на ней, и вдруг все овцы заплясали; играл, играл батрак, а овцы все пляшут. Перестал батрак играть, и овцы перестали. И раз так сделал батрак, и другой раз сделал. Стал поп замечать, что овцы худеть стали, и вздумал он посмотреть, что с ними батрак делает в поле.

Стал батрак рано утром овец выгонять, а поп присел между ними и идет среди них. Батрак будто не замечает, гонит овец; нет-нет да и стегнет их кнутом, да все норовит прямо попу в голову. Выгнал батрак овец в поле, вынул дудку и заиграл на ней, овцы заплясали, вскочил поп из средины и начал плясать вприсядку; умучился бедный поп, пот градом течет с него, а батрак все играет. Стал поп просить батрака, чтобы перестал играть, а он и не слушает. Перестал батрак играть, поп выскочил из стада, пустился бегом бежать домой.

Прибегает, рассказал жене.

— Вот,— говорит,— жена, у нашего батрака какая есть дудка! Заиграет, так все запляшет!

Стала попадья бранить попа, что он дурак, что плясал нарочно.

— А вот,— говорит,— он придет с поля, я попрошу его сыграть.

Стал поп просить попадью:

— Посади меня в короб, привяжи на чердаке за перекладину, чтоб не слышно было.

Попадья так и сделала. Пришел вечер: пригнал батрак овец с поля; стала его попадья просить, чтоб он на дудке сыграл. Батрак вынул дудку, заиграл. Дело-то было под праздник; попадья в это время пироги месила, да как было у ней на руках тесто, так и пошла плясать, переваливает тесто с руки на руку. Услыхал поп на чердаке: тесно ему там плясать в коробе; вот он нет-нет да стук об крышку головой, сорвался с перекладины со всем коробом, убился больно, прошиб головой крышу, выскочил из короба и начал на чердаке вприсядку плясать. Устала попадья плясать, и тесто вывалилось у ней из рук, а батрак не перестает играть. Бросил батрак играть, пошел на двор. Повалилась попадья среди полу, охает от устали. Пришел поп с чердака, от устали духу не переведет; повалился тоже на пол, и отдыхали они до самого свету.

Утром рано они стали совет держать, куда бы им батрака девать. Была у попа на болоте мельница, лет тридцать уже не молола она; черти поселились в ней, не дают никому ни проезду, ни пропуску. Поп и вздумал на эту мельницу батрака послать с чертей оброк собрать. «Авось,— говорит,— они его там задушат». Встал батрак; поп стал его посылать на мельницу. Батрак отнекивается, однако нечего делать, стал просить лошадь. Попу и лошади не жаль, дал ему. Запряг батрак лошадь в телегу и поехал.

Ехал, ехал батрак и приехал к мельнице; отрезал веревку от вожжей, сплел ее конец с концом, сел на берегу, дожидается чертей, вертит в руках веревку. Вдруг выскочил из болота чертенок и говорит батраку:

— Что ты здесь делаешь?

Батрак и говорит ему:

— Отдайте мне оброк за все года, сколько вы здесь прожили! А то вот я свил веревку без конца, без начала, всех вас из болота повытаскиваю!

Чудно стало чертенку, не видал он таких веревок.

— Покажи,— говорит,— мне эту веревку.

Подал ему батрак веревку; чертенок взял в руки, вертел, вертел и удивился: нет ни начала, ни конца; отдал назад.

— Постой,— говорит,— я пойду дедушке скажу.

Шмыгнул хвостом, скочил в воду. Остался батрак один на берегу; сидел, сидел, скучно ему стало; стал он чертей бранить, что долго нейдут к нему с деньгами.

Вдруг ползет из воды чертенок, кряхтит, тащит. Батрак

обрадовался, думает, что он пудов двадцать волокет ему. Выползает чертенок из воды и тащит за собой железную палку в тридцать пудов.

Стал чертенок говорить батраку:

— Вот дедушка прислал эту палку: кто выше из нас ее закинет кверху, тот и прав.

— Ну, кидай!

Черт кинул палку кверху так, что чуть видно ее стало, слетела вниз, ударилась о землю так шибко: земля затряслась.

Ухватил батрак палку и не подымет ее. Приподнял коекак на колено да и глядит кверху. Черт его и спрашивает:

— Что ты глядишь? Кидай!

Батрак и говорит:

— Постой! Дай вот зайдет облако, я ее на облако закину, там она и останется.

Испугался чертенок: палка была у деда любимая. Строго было приказано не потерять ее, а то в омут не пустят. Схватил чертенок палку да в воду скорее.

Недолго он там был, выходит опять и говорит:

— Дедушка приказал: кто из вас кого поборет, тот и будет прав.

Усмехнулся батрак да и говорит черту:

— Где уж,— говорит,— тебе меня побороть! У меня есть дед во сто лет, ты и его не поборешь.

Стал черт просить показать ему деда, а чертенок был очень силен: он одной рукой поборол самого сильного богатыря. Привел батрак черта к медвежьей берлоге и говорит ему, чтобы он слазил туда посмотрел его. Полез черт в берлогу и начал манить медведя, чтоб вышел, поборолся с ним. Осерчал медведь, вышел из берлоги, ухватил черта поперек да и ну его ломать: все кости ему переломал. Кричал, кричал черт, чтобы дед погодил, дал ему ухватиться хорошенько. Нет, дед-медведь не слушает; знай ломает его, в бараний рог согнул. Вырвался чертенок из медвежьих лап да поскорее в воду.

Опять сел батрак на берегу, поджидает чертенка; недолго ждал, выходит опять чертенок и говорит батраку:

— Вот, дедушка приказал: кто из нас кого перегонит, тот прав будет.

Усмехнулся батрак и говорит черту:

— Где уж,— говорит,— тебе меня перегнать; у меня есть племянник без году семь недель, да и тот перегонит тебя.

Стал черт просить показать ему племянника; а черт был резов, всегда сапоги-скороходы перегонял. Привел батрак черта к заячьей норе, свистнул. Выскочил оттуда заяц и пустился бежать. Черт кричит:

— Погоди, погоди! Дай вровень встать!

Заяц не слушает, знай бежит. Юркнул черт опять в воду.

Сел батрак на берегу, ждет, чем дело кончится. Выскочил опять чертенок и говорит:

— Дедушка приказал: кто из нас свистнет сильнее, тот и прав будет.

А черт шибко свистал; когда сидел он у Ильи Муромца, свистом с ног людей сбивал за сто верст. Осерчал батрак.

— Что,— говорит,— я в насмешку что ли дался?

Испугался чертенок.

— Это,— говорит,— последнее, больше и беспокоить не будем.

Велел батрак черту свистнуть. Свистнул черт так шибко, что листья с деревьев посыпались, а батрак насилу на ногах устоял. Пришло время батраку свистеть. Сметил батрак, что ему так не свистнуть, и говорит черту.

— Жаль,— говорит,— мне тебя: не вытерпишь ты моего свиста. А вот лучше сядь на пригорок, закрой глаза да зажми уши, тебе все-таки легче будет.

Уселся черт на пригорке, закрыл глаза, заткнул уши да ждет, как свистнет батрак. А батрак подошел к телеге, вынул оттуда дубинку да как свистнет ей черта по уху: у того искры из глаз посыпались. Скатился кубарем черт в омут, а батрак сел на берегу да поджидает, когда черт выйдет к нему.

Недолго он его ждал. Выходит чертенок из воды и спрашивает его, сколько ему надо денег за выкуп.

Батрак и говорит:

— Мне немного надобно; вот всего эту шляпу насыпать золотом.

Черт хлопнул хвостом, прыгнул в воду да про себя и смеется: экой дурак этот батрак! Старался, старался, а все из-за шляпы золота; я бы на его месте и целой бочки не взял. А батрак отошел немного от берега, вырыл глубокую яму и сделал кверху уже; выбил дно у шляпы да и поставил ее над ямой. Стало смеркаться; глядь — черт тащит большой мешок золота: думал, что много будет; высыпал, не достало. Сбегал за другим мешком — и этого мало. Пять мешков принес, все мало. Прибил водяной чертенка, что много денег перетаскал, а делать нечего, давать надо по уговору. Стащил чертенок еще три мешка и насыпал полную шляпу. Лишь только ушел чертенок в воду, батрак насыпал полную телегу золота, а что осталось, землей прикрыл и поехал к хозяину.

Поп был в это время в поле; увидал издалека, что едет батрак. Приехал батрак домой; поп с попадьей обрадовались, что он столько золота привез. Вот поп велел ссыпать золото в амбар и велел батраку остаться его караулить. Сидит батрак, караулит золото, не отходит от амбара. На другой день приходят, зовут попа на поминки; поп рад зову, уходит да и приказывает батраку.

— Смотри,— говорит,— батрак, я пойду на поминки, ты все

смотри на дверь, от ней никуда не уходи, а то у нас унесут золото.

Ушел поп. Вдруг вспомнил батрак, что он не сказал попу, что ведь золото надо с ним пополам делить, взял снял с петли дверь, идет по улице и все смотрит на нее. Приходит в тот дом, где был поп на поминках, а с двери и глаз не спускает. Увидал поп батрака, выскочил из обеда, стал бранить его. Батрак и говорит ему:

— Ты,— говорит,— велел мне на дверь смотреть, вот я все смотрю на нее.

Пошли домой посмотреть, цело ли в амбаре золото, а его унесли.

В этом царстве, в котором жил поп, был царь, и у него была дочь — прекрасавица собой. И разослал царь весть по всему своему царству, что если кто скажет, какая у его дочери на теле примета, за того ее и замуж отдаст. Услыхал это батрак и начал проситься у попа к царю. Поп отпустил его. А батрак знал, какая у царевны на теле примета. Раз гуляла она в поле, а батрак на дудке играл, а овечки плясали; царевна и попросила у него себе парочку маленьких овечек, чтоб они ее пляской забавляли. Батрак согласился дать ей пару овечек, но с таким уговором, чтобы она сказала ему: какая у нее на теле примета есть; она и сказала, что у нее подмышкой золотой волосок растет.

В этот день, когда царь назначил всем собраться отгадывать, пришло во дворец множество министров, князей, генералов и батрак с ними — не умытый, взъерошенный, сел на золотое кресло. Стал царь обходить всех, спрашивать: никто не знает, какая есть у царевны примета. А подле батрака сидел генерал. Подходит царь к батраку и говорит:

— Зачем ты, мужик неотесанный, явился в царские палаты?

Батрак отвечал, что «я,— говорит,— знаю, какая есть у царевны примета».

— Какая?

— У нее,— говорит,— золотой волосок подмышкой растет.

Вдруг и генерал за ним проговорит:

— У нее золотой волосок подмышкой растет.

А генерал вовсе не знал; так уж за батраком проговорил. Царь и задумался: за кого дочь замуж отдать? Оба проговорили вместе. Велел составить совет. Совет и присудил положить их всех вместе спать, царевну в середину — к кому она утром лицом обернется, за того и отдать замуж.

Вот подали разных закусок, фруктов: угощают и министров, и князей, и генералов, и батрака угощают. Батрак ничего не ест, а возьмет горсть изюму и черносливу да положит в карман, и набрал он полный карман. Потом подошел ужин; батрак и за ужином ничего не ел, а тот генерал ничему спуску не дает, так и убирает во все лопатки. После ужина увели царевну, ге-

нерала и батрака спать и положили всех рядом, царевну в середку... Поутру приходит царь в их комнату и видит, что царевна обратилась лицом к батраку, подумал, что ей батрак полюбился, и отдал ее за него замуж, а генералу отказал. Стал жить да поживать батрак с молодой женой, выкопал свое золото, что получил от чертей на мельнице; после сделался царем и стал править своим царством.

## ЯК ПАПОЎ БАТРАК ПАПАДДЗЮ ПРАЎЧЫЎ І ДЗЯКАНА, ЯЕ СПАЛЮБОЎНІКА, І ПАПА НАШЧОТ ПАПАДДЗІ АБРАЗУМІЎ

У некаторым царстве, у некаторым гасударстве, не іменна ў том, у каторым мы жывём, жыў поп. Вот нужын быў яму работнік, вот ідзець прахожы чалавек і гаворыць:

— Бацюшка, я слышаў, што вам нужна работніка.

— Да, нада.

— Ну, найміце мяне.

— А какую плату табе даць, прахожы чалавек?

— А сто рублей, бацюшка.

— Да какова ўрэмя?

— А пакуда за печкаю цяляты замычаць.

Поп думаў, думаў, какія ета цяляты, потым і гаворыць:

— Ну, так і так.

Вот ён яго наняў, патом і гаворыць:

— Ну, брат, паедзем у поле пахаць.

Вот яны едуць на цэлую нядзелю пахаць. А работнік знаў, што дзякан жывець з пападдзёю. Вот яны пахалі, пахалі цэлы дзень, патом прыходзіць ноч, адпраглі лашадзей, паужыналі, поп лажыцца спаць, а работнік сядзіць. Поп і гаворыць:

— Што жа ты не лажышся?

А ён атвячаець:

— Нет, бацюшка, мне нельзя спаць.

— Чаго так нельзя?

А ён яму гаворыць:

— А ў мяне палуношніца.

А ён гаворыць:

— Ах, божа, як мне цябе жалка. Дзень работаў, работаў і ноч не спаць.

— Ну, што дзелаць, бацюшка!

Толькі поп заснуў, а работнік, за што наняўся, тога і смотрыць. Садзіцца на каня і паехаў дамой, прыязджаець дамой, а дзякан з пападдзёй піруюць. Ён пасматрэў у вакошка і давай стучаць:

— Атварыце-ка мне!

Пападдзя і спрашыіць:

— Хто там такой?

— Я, работнік ваш.

Пападдзя і гаворыць:

— А, дзяканка мой, куды мне цябе дзець? Палязай ты пад пол.

Вот ён уходзіць у хату і гаворыць:

— Ах, к якому я беспакойнаму папу наняўся: дзень работай, а ноч не спі. Вялеў мне, штобы я печку вытапіў і цялят напаіў!

— А едзь ты, едзь. Я сама напаю.

— Не, матушка, пушчай не грэх будзіць пабажыцца, што я сваё справіў.

Вот ён затапіў печку, нагрэў пойла і давай цялят паіць. Вот ён паіў і папаўся яму дзякан. Вот ён как саскрэб яго за грыву, уж ён яго тапіў, тапіў, абпачкаў яго ўсяго ў пойла, а сам выйшаў і смотрыць пад вакно, вылазіць дзякан з-пад полу і гаворыць:

— Во, нанялі работніка, такога беспакойнага.

Работнік і паехаў апяць у поле. Прыязджаець ён к свайму месту, к шалашу, поп спіць, і ён лёг спаць. Назаўтрыга ўстаець поп і будзіць работніка:

— Ну, брат, уставай, будзем пахаць.

Работнік устаець і начынаець пахаць. Вот яны пахалі апяць да вечара, адпраглі коней, паужыналі, поп лёг спаць і гаворыць:

— Ну, брат, лажысь да спі.

— Нет, бацюшка, вы знаеце: у мяне палуношніца!

Поп заснуў, а работнік апяць паехаў, прыязджаець дамой, стук, стук пад вакно і гаворыць:

— Атвары, матушка! (А дзякан уж там.)

Яна і спрашыіць:

— Хто там такі?

Ен і гаворыць:

— Ета я, работнік.

— Што ты прыехаў?

Яна і гаворыць:

— А, дзяканка ты мой, а дзе ж мне цябе дзець? Лезь на горніцу да ўлезь у мяшок.

Вот ён узлез на горніцу і ўлез у мяшок.

А работнік уходзіць у горніцу і гаворыць:

— Ах, к какому я беспакойнаму папу наняўся: дзень пашым, а ноч упраўляйся!

Яна і спрашыіць:

— Што ж ён табе прыказаў?

— Дак как жа што? Вялеў улезць на горніцу і перашчытаць мяшкі з пер'ем!

— Да я сама знаю, сколькі іх там. Паязжай ты ў поле!

— Нет, матушка, няхай мне не грэх будзіць пабажыцца, што я сваё справіў.

Вот ён палез на горніцу і давай еці мяшкі шчытаць, і папаўся яму мяшок, ідзе сядзеў дзякан, вот ён яго збросіць,

збросіць аб зямлю да й апяць усташчыць, патом перашчытаў і апяць паехаў у поле. Выйшаў за вароты і смотрыць пад вакно: уваходзіць дзякан, увесь ізбіты, і гаворыць:

— Во, нанялі работніка, какога беспакойнага: яму і ночы нет.

Прыехаў работнік апяць к свайму месту і лёг спаць. Назаўтрыга поп і будзіць работніка:

— Ну, брат, уставай — пара пахаць.

Пахалі, пахалі апяць да вечара, патом адпраглі коней і ляглі спаць. Работнік апяць устаў, сеў на каня і паехаў апяць дамой. Во ён стук, стук у вакошка і гаворыць:

— Матушка, атвары.

А яна гаворыць:

— А, дзяканка мой, куды ж мне цябе дзець. Вазьмі лезь за печку. Вот яна яго схавала, патом і спрашыіць:

— Хто ета там такой?

А ён атвячаіць:

— Ета я, работнік ваш!

— Што ты прыехаў?

— Да как жа, матушка, какой ваш беспакойны поп: сам ляжыць спаць, а мяне пасылаець печку вытапіць, вады нагрэць і ўсіх прусоў за печкай павыварыць!

— Паязжай ты спі: я ўсё падзелаю.

— Нет, матушка, пускай мне не грэх будзіць пабажыцца, што я сваё справіў.

Вот ён затапіў печку, нагрэў вады і давай прусоў заварываць: абварыў усяго дзякана, а сам пайшоў і стаў пад вакошкам. Дзякан вылазіць із-пад печкі і гаворыць:

— Ну, я тапер досыць хадзіць к табе за такім машэннікам: ета не работнік, а ета машэннік, ён мне нідзе не даець спакойна спратацца. А вот табе скажу: заўтра я паеду пахаць, а ты мне прынясі абедаць.

— А йдзе мне цябе найці?

— А я буду пахаць пад бярэзнікам на пегым кані.

А работнік ета і слышыць, потым і паехаў апяць на места, лёг спаць і заснуў. Назаўтрыга поп устаець і будзіць:

— Ну, уставай, давай пахаць.

Апяць пахалі, патом і гаворыць:

— А што ты, бацюшка, знаеш?

— А што?

— Сяводні нам матушка прынясець палуднаваць!

— А пачом ты знаеш?

— А я відзеў ва сне.

Вот прыходзіць дзела к палудню, а ён пахаў на вараном кані, вот ён узяў да збросіў з сябе далоў штаны, падпаясаў лошадзь і здзелаў яе пегаю. Вот яна ідзець і нясець абедаць дзякану. Глядзела, глядзела з краю, ідзе пашуць на пегым кані, патом ідзець прама к ім. Патом ён і гаворыць:

— Вот, бацюшка, віць нам матушка палуднаваць нясець: мой сон збыўся!

Вот яна падходзіць бліжы, пасмотрыць — не дзякан, а поп, то уж ёй некуда дзявацца, яна прыносіць прама к ім і плачыць, а поп спрашыець:

— Што ты ета сяводня ўздумала пра нас?

А яна гаворыць:

— А, бацюшка, сяводні маёй матушкі дзень, то я прынесла к вам атслужыць панахвіду.

Вот ён і гаворыць на батрака:

— Схадзі-ка за дзяканам.

Вот ён прыйшоў к дзякану і гаворыць яму:

— А што ты, дзякан, знаеш?

— А што?

— А ведзь поп знаець, што ты з пападдзёй жывеш.

Патом пайшоў к папу і гаворыць:

— Не, бацюшка, не ідзець: ён гаворыць, штобы вы прыйшлі.

Поп пайшоў за дзяканам, а работнік гаворыць:

— Бацюшка, вазьмі палку, ато яго сабакі ўкусяць цябе.

А дзякан як увідзеў, што поп ідзець з палкаю, думаў, што ета яго поп ідзець біць за то, што з пападдзёй жывець, да як пусціцца на ўход, а поп гаворыць:

— Дзякан, дзякан, падажджы! Што ты ета збясіўся?

А ён гаворыць:

— У цябе мыслі дурныя.

Поп прыйшоў і гаворыць:

— Дзякан наш, знаць, ашалеў! Я крычу: пажджы, а ён уходзіць, як воўк. Ну, што дзелаць? Я і адзін адслужу!

Во што дзякану несена, поп з работнікам усё пакушалі за здароўе дзякана. Вот яны ў суботу прыязджаюць дамой, назаўтра нада служыць абедню. Поп пайшоў служыць, а дзякан не думаець: баіцца папа.

Вот аднажды пападдзя пайшла ў калодзісь вады браць, прыйшлі і другія бабы, і пайшлі ў іх там разгаворы, а работнік упярод адну ўдаву падгаварыў, штоб яна ёй расказала, чым іх істрабіць, вот яна і гаворыць:

— Матушка, у мяне ёсць такія каплі, што ежэлі дасі іх, то яны ад аднаго аглохнуць, ад другога аслепнуць, а ад трэцяга падохнуць.

Вот яна і гаворыць ёй:

— Ах, мая ты галубушка, дай мне етых капель!

Баба гаворыць:

— Матушка, я дарма не дам.

— А што возьмеш за іх?

— А толькі 100 рублей.

Пападдзя вынула і аддала, вот яна прыносіць вады і гаворыць папу:

— Бацюшка, я вам сяводня нагатую, чаго вы хочыце.

— Ну, гатуй.

А работнік гаворыць папу:

— Бацюшка, паслухайце мяне, што я буду дзелаць, то і вы дзелайце.

— Ну, харашо,— сказаў поп.

Вот яна засадзіла іх за стол, давай ім падаваць да ўсе еты лякарствы так і падсыпаець. Вот яны аслеплі, яна паставіла другой, то яны аглохлі. Крычаць адзін на другога. А яна гаворыць:

— Ну, слава богу!

Паставіла трэція, а яны елі, елі і заваліліся, а яна з радасці заскакала, зняла са стала, што яны елі, заслала чыстую скацяротку, пабяжала з радасці за сваім дзяканам, прывяла і гаворыць яму:

— Во, што хацела, то й падзелала.

Вот яны січас началі піць, гуляць: пілі, пілі, гулялі, гулялі, а патом саскрэб дзякан пападдзю і павалок за печку і замычалі, як цяляты. Тады работнік і гаворыць:

— Бацюшка, цяляты мычаць за печкаю.

Работнік ускачыў, поп ускачыў: во й давай цянуць іх аттуда. Вот поп дзякана біў, біў і валасы ўсе папавырваў. Тады і работнік і гаворыць папу:

— Ну, бацюшка, я жыў у вас і служыў вам, цяпер ужо мне пажалуйце рашчот.

Вот поп узяў работніка рашчытаў, пападдзю прагнаў із дому далоў, а сам стаў жыць да пажываць, да дабра нажываць. Я там быў, мёд, віно піў, па губам цякло, а ў рот не папала; далі мне калача, куда та памача; я быў смел, узяў да і з'еў.

## КСЁНДЗ, БАБА І МУЖЫК

Ксёндз прыходзіў да жонкі мужыка. А яна, каб мужык не ведаў, прыкінулася хворай і паслала мужыка к ксяндзу, ці не параіць ён якога зелля. Той пайшоў, а ксёндз яму і параіў:

— З'ездзі,— кажа,— на Лысую Горку, набяры пяску ў чужым двары, звары яго ды той вадой напаі жонку.

Прыйшоўшы ў двор, селянін запрог каня і хоча ўжо ехаць. Выйшаў я к яму і пытаю:

— Куды гэта, дзядзька, хочаш ехаць?

— Ды за пяском,— кажа,— на Лысую Горку — ксёндз параіў.

— Слухай ты іх,— кажу.— Ты ж от толькі не ездзі, дык убачыш, што тут будзе.

Ён паслухаў, узяў выехаў з двара, аб'ехаў навакол, паставіў на агародзе каня, а сам у пуні схаваўся.

Тым часам прыходзіць ксёндз, прыносіць гарэлкі. Хворая накрыла на стол і пайшла бяседа. Я й кажу:

— Цётка, дай мне торбу, пайду я на траскоўнікназграбаю чаго-небудзь, няхай прасохне к заўтраму.

— А й добра ты кажаш, ідзі ў клеці вазьмі.

Пайшоў я, выбраў вялізны мех — ды ў пуню. Пасадзіў мужыка ў мех ды й уцягнуў у хату, ды пад печ і падсунуў, а сам стаў ля печы. А ў іх ужо дым каромыслам. Баба пяе:

— Як паехаў мой Ягорка за пяском на горку. Каб пяску ён не набраў, а каб згінуў ды прапаў.

А ксёндз сабе нагамі тупае: «Тра-та-та, тра-та-та». А тады мне кажа:

— Спей-ка й ты што-небудзь.

От я й зачаў:

— Ой, ці чуеш ты, Ягорка, што тут жонка гавора? Ой, бяры-тка ты вожкі ды вылазь-ка патрошкі. Ой, бяры-тка разгон ды бі ксяндза наўздагон, жонку раз, ксяндза два, каб ні казаў тра-та-та.

Як вылез жа мой Ягор ды як пачаў лупцаваць іх: то ксяндза, то жонку, то ксяндза, то жонку. Кінуў ксёндз і гарэлку, і шапку, і рыззя сваё ды наўцёкі...

## СПОВЕДЗЬ ШЛЯХЦІЦА

Спавядаўся шляхціц перад бернардынам* і гаварыў то тое, то гэта, аж, нарэшце, кажа:

— Цалаваў чужую жонку,— але ў сваё апраўданне дадае, што не рабіў бы гэтага, ды людзі яму дарадзілі, што гэта ад хваробы вачэй памагае.

А бернардын на тое кажа:

— Не вер, калі б то праўда была, я ўжо праз сцяну бачыў бы.

## ЯК КСЯНДЗЫ НЯЧЫСТАГА АД СЯБЕ АДГАНЯЮЦЬ

От сабралася аднойчы некалькі ксяндзоў і гавораць: што, маўляў, ты робіш, як цябе спакушае нячысты?

Адзін кажа:

— Я сябе бічую.

Другі:

— Я ўсё малюся!..

А трэці, стары з іх:

— А я крыкну: «Марына, ідзі адсюль!» І так як рукой здыме.

---

* Бернардын — каталіцкі манах.

## ВИДЕЛ ЛИ АРХИЕРЕЙ ДУШУ ЧЕЛОВЕКА

В одном монастыре жил архиерей. Он держал у себя келейника, который ухаживал за архиерем, стлал ему постель, варил еду. Келейник был неграмотным. Архиерей держал его потому, что он всегда в спальне и в келье наводил порядок.

Однажды келейник запоздался. Приходит он к спальне и хотел прийти приготовить постель. Когда он стал тянуть дверь спальни, то дверь была крепко заперта. Он так удивился: «Почему архиерей так рано лег спать?» Он хотел зайти к нему и просить извинения, но не хотел нарушать сон архиерея и стал прислушиваться. Если только архиерей не храпит, значит, он не спит, а если храпит, то он отошел ко сну. Но вместо храпения он услышал разговор. Говорил архиерей:

— Ну, душа, бери юбку, башмаки и отправляйся!

Келейник испугался, что он нарушит архиерею тайное видение, и он поспешил убежать от дверей.

Все он думал, как бы спросить у архиерея о разговоре в спальне.

Однажды пошли они в баню. Когда он архиерея мыл, и думает себе: «Сейчас удобное время спросить у него о видении души».

Завел он разговор с архиерем, что может ли кто видеть душу человеческую?

— Никому невозможно видеть душу человеческую,— говорит архиерей.— Кто только угодит богу, тот только может видеть душу человеческую.

Келейник бросил мыть архиерея и стал перед ним на колени и сказал:

— Владыко, я не достоин тебя мыть, потому что ты достоин бога, всегда можешь видеть душу человеческую.

Архиерей удивился и говорит:

— Откуда ты можешь знать, что я видел душу человеческую?

Тогда келейник ему и говорит:

— Владыко, однажды я запоздал и не вовремя пришел стелить вашу постель. Ваша дверь оказалась закрыта, и я не посмел нарушить вашего сна и стал прислушиваться; вы сказали тогда: «Ну, душа, бери юбку, башмаки и отправляйся!» Вот вы тогда видели душу человеческую.

Архиерей испугался, что его тайна будет раскрыта, и не велел этой тайны никому открывать.

— За это я дам тебе большую награду. Чего хочешь, того и дам, проси у меня.

А келейник вдруг сказал:

— Ничего мне не надо, ни золота, ни серебра. Сколько бы вы мне ни дали, я все равно издержу, а лучше поставьте меня попом и дайте мне приход. Это до смерти будет мне кусок.

Архиерей говорит ему:

— Ты ведь неграмотный, как я тебе могу дать сан священника?

А келейник настаивает на своем:

— Если поставите меня попом, то это я возьму.

Наконец, архиерей думал, думал и додумался, что можно его отправить туда, где попов не было.

Архиерей поставил его попом, дал ему указ и направил его в Туруханск, где народ был совсем неграмотным.

Вперед этого попа в Туруханск отправили депешу, что едет поп. Тогда туруханский трапезник и сторож стали с нетерпением ждать попа. Наконец-то поп приехал. Приходит к нему трапезник, подходит под благословение к священнику и ожидает его приказания. Поп ему приказывает, чтобы раньше вставал и звонил в колокол.

Утром рано встает трапезник и звонит в колокол. Народ стал собираться к обедне.

Когда набралось народу полная церковь, тогда поп приходит к северным дверям, заходит в алтарь, одеется в поповское облачение, отворяет царские двери, выносит оттудова книгу и начинает всех градить. Люди, увидя священника, начали молиться, кто стоя, а кто на коленях. Священник спросил:

— Вы, прихожане, не знаете, какая это книга?

Прихожане говорят:

— Нет, мы не знаем.

Тогда он говорит:

— Нечего вам и читать.

Поп раздевается и уходит домой. Прихожане все остаются в церкви и толкуют: «Зачем мы сказали, что не знаем эту книгу, надо было сказать, что знаем».

Решили они, что на другой раз надо говорить, что все знаем.

И вот на другой раз священник пришел служить обедню. Оделся он, открыл царские двери, вынес книгу, стал градить и спрашивает:

— Прихожане, знаете ли, какая это книга?

Тогда люди все в один голос ответили:

— Знаем!

— Ну, если знаете, тогда вам нечего и читать,— сказал он.

Такова была служба попа. Если говорят, что не знают книгу, то он говорит: «Не надо читать», а если знаешь книгу, то он говорил тоже: «Не надо читать».

Так всю свою жизнь поп провел в этом приходе.

## ДВЕ СТАРУХИ И АРХИЕРЕЙ

Однажды в один приход приезжает архиерей. В деревне, где был приход, жили две старухи, которые никогда не видали архиерея. Старухи стали говорить своим сыновьям, чтобы им сходить в церковь и увидеть архиерея. Сыновья стали готовить своих матерей, чтобы подойти старухам на благословление; тогда только тщательно могут увидеть архиерея.

«Чтобы подойти на благословление к архиерею, нужно правую руку положить на левую и приблизиться к нему, а он положит на ваши руки свою, тогда поцелуйте его руку и придете домой»,— сказали сыновья своим матерям.

Вот пошли эти старухи. Подходят они к церкви, увидали — стоит карета у церкви. Они подумали, что архиерей сидит в карете. А на самом деле архиерей был в церкви, а в карете у него оставалась любимая собака. Старухи стали между собой толковать. «Заглянуть в карету или ждать выхода?» И решили заглянуть. Одна из них говорит:

— Я карету отворю, а ты правую руку на левую сложь, подойди ближе к двери и подставляй, а когда архиерей положит правую руку, ты тогда целуй его руку.

Одна старуха отворяет, а другая сложила свои руки и подошла к дверцам кареты и просунула их туда.

А в карете любимая архиерейская собака, увидя старуху со сложенными руками, подумала, что лапку просит. Собака дала лапку — положила старухе на ладонь. Старуха поцеловала эту лапку, стала придерживать дверцу, чтобы другая старушка подошла. Та тоже сложила так руки, просунула в карету — собака и ей положила лапку на ладонь, и она поцеловала лапку. И веселые пошли домой.

Когда пришли домой, то дети стали спрашивать у старух — как, видели они архиерея или нет? А старушки говорят:

— Да, видели.

— Ну, кого он из себя представляет?

— Ой, батюшки!— говорят старухи.— Весь на нашего барбоса походит.

Сыновья удивились и подумали: «Видно, все архиереи псы».

## ПОП-П'ЯНІЦА

Быў у нас поп і такі п'яніца, што не ведаю, як яго і зямля трымала. І ні сумлення, ні сораму яму не было! Хрысцілі мы дзіця майго брата і паклікалі папа. Звалі яго Лагіза. Пахрысціў ён дзіця. Выпіў столькі, што на карачках папоўз. Назаўтра чуць свет прыбягае з сваёю літроваю кружкаю.

— Марк Францавіч, зуб баліць, наліце ў карэц.

— Ідзём у хату.

— Не, не. Налівайце тут.

Выліў бацька цэлу кварту. Бацюшка выжлукціў тут жа, нават губы не выцер — такі быў п'яніца.

Так ён служыў і ў царкве. Пазбіраюцца людзі, а ён прыходзіць п'яны, ледзь на нагах трымаецца. Але, каб ашукаць нас, трымае платок каля рота, быццам зубы баляць.

— Парах... парахвіяне. З мілаю душою, але... але... зу-зубы ба-баляць,— прагаворыць ён языком, які ледзь варочаецца, і пойдзе. Ідуць людзі дадому ды смяюцца.

## ПОП І ШЫДАР

У адным месцы жыў бедны чалавек, але ён вялікі шыдар (хто шуткі якія ўмее гаварыць). Яго так і не называлі па імені, але яго называлі Шыдарам. Адзін раз запрог ён кабылу сваю і паехаў. Едзе, дак едзе, а кабыла яго была благая*. Прыехаў ён на грэблю (дзе ў балоце да зробяць дарогу, накідаюць хлуду** шмат, а на той хлуд навозваюць пяску і паабапал гэтае грэблі капаюць капаніцы. Гэта называецца грэбля). Прыехаў Шыдар на гэту грэблю і думае сабе: «Паеду я ў балота, можа, з каго пашыдарую». І паехаў. Як уехаў у балота, кабыла благая — узяла і ўгразла. Едзе поп прама коньмі з сваім хурманам. Як угледзеў Шыдар, што едзе поп, прыбег на грэблю, пакінуўшы кабылу ў гразі. шапку зняў і просіць, кажа:

— Бацюшка, памілуйце мяне, от з'ехаў убок з грэблі і ўгразла кабыла, памажыце выцягнуць.

Кажа поп на свайго парабка:

— Злезь, пайдзі памажы.

Злез парабак і пайшлі ўдвух. Цягалі, цягалі гэту кабылу, ніяк не выцягнуць. Прыходзіць поп да іх, кажа:

— І я памагу троха.

Стаў памагаць ім, і ўсё роўна не выцягнулі такі. Кажа поп:

— Трэба паклікаць больш людзей.

А Шыдар адказвае:

— Дайце мне свае коні, я паеду ў гэту вёску, прывязу чалавек з чатыры.

Кажа поп:

— Вазьмі, толькі не баўся.

Шыдар сеў на паповы коні і паехаў, а поп з парабкам стаіць каля гэтае кабылы. А Шыдар, не едучы па людзей, а паехаў да паповага дому. Як прыехаў ды кажа на папову жонку:

— Матушка, казаў бацюшка, каб вы далі мне ўсе свае

* Благая — худая.
** Хлуд — галлё.

грошы, колькі ў вас ёсць, і яшчэ так веле каб пазычылі, бо бацюшка бярэ двор у арэнду вялікі, дак грошай трэба шмат.

Бацюшкава жонка дала яму сваіх пяць тысяч, а недалёка там быў двор; пайшла яна ў той двор, пазычыла ў пана пяць тысяч і дала. Гэты Шыдар забраў грошы і паехаў. Прыехаў туды, дзе яго кабыла ўгразла, а бацюшка стаіць з парабкам ды кажа:

— Што ты забавіўся гэтак доўга?

— Дык гдзе,— кажа,— прасіў, прасіў людзей, ніяк не дапрасіўся. Будзем цягнуць утрох, паспрабуем, можа выцягнем, а можа не.

Як сталі яны папраўдзе ўсе трох цягнуць, узялі і выцягнулі. Бацюшка паехаў з парабкам да свайго дому, а Шыдар — да свайго. Прыехаў бацюшка дадому, выходзіць бацюшкава жонка і пытаецца:

— А ці вялікі той двор, што бацюшка ўзяў?

Пазірае бацюшка ў вочы:

— Які двор?

— А гэта ж прыязджаў Шыдар і казаў, каб я дала грошы, колькі сваіх было, яшчэ так вялеў, каб пазычыла. У мяне сваіх грошай было пяць тысяч, а пяць тысяч я пазычыла і дала яму.

Кажа бацюшка:

— Вот дурань, хоць бацюшкава жонка, але дурань. Дзе ж мы іх сышчам, ён жа бедны саўсім, ды нічога...

Назаўтра бацюшка кажа на парабка:

— Запрагай коней, паедзем шукаць Шыдара. Мы яму ўчора кабылу памаглі цягаць, а ён прыехаў ды матушку тут ашукаў.

Запраглі коні і паехалі. Усё едуць па вёсках і пытаюцца, а потым дапыталіся. Бацюшка злез з воза ды ідзе ў хату. А Шыдар, як угледзеў праз акно, што бацюшка ідзе, шапку скінуў з галавы, а жончыну хустку завязаў на голаў, і жончыну спадніцу ўзлажыў, і жончын каптан адзянуў, і ўзяў у рукі сякач і сячэ ў карыце картоплі свінням. Бацюшка ўвайшоў у хату і пытаецца:

— Гэта Шыдарава хата?

— Гэта,— адказвае Шыдарава жонка.— А чаго вы хочаце?

— Ён учора ехаў грэбляю і з'ехаў убок з грэблі, і яго кабыла ўгразла, і ён нас папрасіў выцягнуць, і мы цягалі яе і не выцягнулі. То я яму, як добраму, даў коні свае, каб ён паехаў у вёску і папрасіў людзей. А ён, не едучы ў вёску, да паехаў да майго дому ды ўзяў усе грошы забраў. Я не ведаю сам, што цяпер рабіць: ці вы аддасцё мне, ці не?

Жонка Шыдарава засмяялася ды кажа:

— Гдзе мы вазьмом вам аддаць, калі і яго няма дома.

А ён стаіць каля карыта і сячэ картоплі. Бацюшка яго і не пазнаў. Пытаецца бацюшка ў яго жонкі:

— А гэта што за кабета?
А жонка Шыдарава адказвае:
— Гэта дачка мая.
Бацюшка гаворыць:
— Трэба мне яе забраць, няхай яна мне адслужвае гэтыя грошы.
Жонка Шыдарава гаворыць:
— Бярэце.
Узяў бацюшка на воз і павёз гэтую дачку. А гэта не дачку, а самога Шыдара. Служыць Шыдар у бацюшкі за дзеўку.
Адзін раз прыехаў малады чалавек у сваты да бацюшкавай дачкі і гаворыць:
— Вот я жанюся, хоць мужычку ўзяў бы замуж, але каб яна... мне спадабалася.
Пасля малады кажа:
— Я буду браць гэтую служанку.
І давай жаніцца з ёю. Нанялі музыкаў трох, а тыя музыкі ды ўсе тры браты родныя. І звянчаліся, гуляюць, а музыкі іграюць. Як прыйшла тая гадзіна, што іх трэба весці спаць, а як жа ж яны пойдуць спаць, калі яны абодва мужчыны. То гэта Шыдар думае: «Як тут выкруціцца ад гэтага?» Так узяў, давай дурнець: то таго ў галаву, то таго выцяў, бацюшкава гумно запаліў. Усе крычаць:
— Здурнела маладая.
Узяў бацюшка павыганяў усю дружыну. Ідуць музыканты ды гавораць:
— Ах, няшчасце наша: колькі гралі — і ніхто не заплаціў. Возьмем хоць бацюшкаў вулей з пчоламі.
Прыйшлі і бяруць. А гэтая маладая як выскачыла ды ў вуллі лягла. Трэба папасці гэтым музыкантам у гэты самы вулей. Нясуць ды гавораць:
— Нешта цяжка: мусіць, шмат мёду тут.
А не мёду, ды Шыдара нясуць. Гэты Шыдар, лежачы ў вуллі, як аднеслі музыканты вёрст дзве, так ён памаленьку і гаворыць:
— Стой!
Музыканты гавораць адзін на аднаго, кажа:
— Браце, гоніцца нехта.
Так другі раз Шыдар, лежачы ў вуллі:
— Стой!
Яны ўзялі і кінулі вулей ды ўцёкі. Гэты Шыдар пайшоў адзін уночы цераз лес. Ідзе, дак ідзе, чуе: пішчыць парася недзе. Ён давай ісці. Прыходзіць туды, дзе гэта парася пішчыць, дак парася ў яме і воўк там. А гэта яма была: адзін пан выкапаў яму глыбокую і ўкінуў туды парася і прыкідаў гэту яму ломам, і гэтае парася як стане пішчаць, то воўк ідзе на гэты піскат, і як прыйдзе, на гэты лом, дык уваліцца ў гэтую яму, па-

рася задушыць, а сам сядзіць. То гэты пан прыйдзе ды застрэліць у яме ваўка. А гэта ідучы, Шыдар пайшоў на еты піскат. Воўк задушыў ужо парася і сядзіць у яме. Узяў Шыдар вяроўкаю ваўка за шыю і вядзе напраціў тых музыкантаў. Пытаюцца яны:

— Што вядзеш, чалавек?

— Валоўскага маркача.

— Прадай нам.

— Ці вы купіце: ён дарагі.

— Што яму за цана?

— Трыццаць рублёў.

Адзін з другім гавораць:

— Аднак мы ўсе тры браты: складземся па дзесяць рублёў і забярэм. Добра будзе да авечак пушчаць.

Узялі і заплацілі. Прыводзяць дахаты, старэйшы брат кажа:

— Сягоння гэты маркач няхай з маімі авечкамі пераначуе.

Пусціў да сваіх авечак, а назаўтра рана пайшоў паглядзець, ці памаркітавалі авечкі.

Як адчыніў хлеў, дык гэта воўк сядзіць у парозе, а авечкі ўсе падушаны.

— Ах,— кажа,— на ліха мне; нашто я пусціў, гэта ж воўк. Мусіць, буду маўчаць, няхай возьмуць і яны, і іх авечкі няхай падушыць.

Прыходзіць селядоршы брат і кажа:

— Ну, а што, памаркітавалі?

— Памаркітавалі.

— Ну, я ўжо вазьму.

— Бяры.

Узяў і пайшоў у свой хлеў і пусціў да авечак. За ноч і ў селядоршага брата падушыў.

На трэцюю ноч прыходзіць меншы брат, пытаецца:

— Ну, а што, памаркітавалі твае?

— Памаркітавалі.

— Дай мне, няхай і мае памаркітуюць.

Узяў і пайшоў. За ноч і трэцяга брата авечкі падушыў. Прыйшоў ён да селядоршага.

— Гэта,— кажа,— воўк падушыў мае ўсе авечкі. А твае?

— І мае,— кажа,— падушыў. Пойдзем разам да старэйшага брата, папытаемся.

Пайшлі.

— А твае авечкі жывы ці не?

— А вашы?— пытае старэйшы брат.

— Нашы падушаны.

— І мае падушаны.

— Ну, сукін сын, пойдзем шукаць яго.

Так пайшлі яны ўсе ўтрох. Пытаюцца то ў той вёсцы, то ў

той вёсцы: «Нейкі чалавек прадаў нам маркача, казаў, што гэта валоўскі. А гэта не маркач, але воўк, ён нашых усіх трох авечкі падушыў». Людзі сталі смяяцца:

— Гэта не іначай, як Шыдар, ён умее гэтакія штукі рабіць.

Пытаюцца яны:

— А дзе ён жыве?

А людзі паказалі ім:

— Вунь там, у той вёсцы.

Пайшлі яны, дапыталіся яго хаты, увайшлі к яму ў хату, пытаюцца:

— Гэта ты, Шыдар?

— Я.

— Чаму ж ты нам ваўка прадаў за маркача?

— І мне прадалі людзі за маркача, а я вам.

Адзін да другога гавораць:

— Што яму рабіць? Заплаці нам за нашы авечкі.

Адказвае Шыдар:

— О-го-го, як стану я вам усім плаціць, то на свеце і грошай не стане!

А старшы брат гаворыць на гэта:

— Няма з ім што гаварыць. Узяць мех, усадзіць у мех і занесці на рэчку, прасекчы лёд і пусціць яго пад лёд, бо ўжо шмат ён людзей паашукваў.

Адказвае Шыдар:

— Што хочаце, тое рабіце, я — адзін, а вас — трое.

Узялі ў мех і панеслі на рэчку, палажылі на лёд.

— Бяда, што сякеры няма, чым палонку прасячы,— кажа старшы брат на селядоршага,— пайдзі ў гэтую вёску пазыч сякеру.

— Я,— кажа,— не пайду, няхай ідзе меншы.

А меншы адказвае:

— Пойдзем усе трох.

Пакінулі Шыдара ў мяху, завязалі яго і пайшлі па сякеру.

Едзе пан чацверыком, а гэты Шыдар крычыць у мяху. Кажа пан на хурмана:

— Затрымайся, хто-та крычыць.

А хурман адказвае:

— Чалавек у мяху завязаны, і ён крычыць.

Шыдар:

— А, гвалт, ратуйце, не знаю ні чытаць, ні пісаць, за караля абіраюць!

Злез пан з сваіх санак ды кажа:

— Вылезь, чалавеча, з мяха, сядзь на маіх санях ды едзь, а я ўлезу ў гэты мех, я знаю чытаць і пісаць, то я буду каралём.

Шыдар сеў на панскіх санях і паехаў з хурманам, а пан улез у мех і сядзіць.

Прынеслі гэтыя тры браты сякеру, высеклі палонку і ўкінулі гэтага пана ды ідуць дахаты і гавораць:

— Ну, хоць пагаравалі, але Шыдара спраталі. Ужо не будзе людзей ашукваць.

Ідуць, ідуць дарогаю, Шыдар аб'ехаў, дзе яму трэба, і насустрач ім едзе. Кажа на хурмана:

— Памалей коні.

Хурман едзе памалей. Пад'язджаюць пад гэтыя тры браты, крычыць хурман:

— Гэй, набок!

Яны сышлі і ідуць памалу. Адзін меншы брат кажа на гэтае:

— Ета Шыдар паехаў.

А селядоршы адказвае:

— Куды ён паедзе, ён жа з вадою паехаў.

А старшы брат гаворыць:

— Здаецца, ён. Аднак жа яшчэ блізка, папытаемся.

І пытаюцца:

— Адкуль вы, пане?

Шыдар кажа на хурмана:

— Стой!

Хурман спыніўся, Шыдар гаворыць:

— Нашто вам, адкуль мы, хадзеце сюды.

Падходзяць яны, такі пазналі, што гэта Шыдар, і гавораць:

— Адкуль ты ўзяўся? Мы ж цябе ўтапілі.

— Адкуль я ўзяўся,— адказвае Шыдар.— Вось як вы мяне ўкінулі, дык я папаў якраз на етыя сані. Хурман сядзеў на іх, чацвёра коней гэтыя самыя запрэжаны. Дык хурман мяне праз гэту палонку і вымчаў.

Гавораць яны:

— А каб гэта мы ўскочылі, ці папалі б гэтакія коні?

— Ой-ой-ой,— адказвае Шыдар,— каторы ўпярод ускочыць, то лепшых пападзе коней.

Пайшлі яны да той палонкі, дык адзін перад другім спяшаўся, каб наперад ускочыць. Як ускочыў адзін, потым другі, а потым і трэці, узялі ды патапіліся. Яны хацелі Шыдара ўтапіць, а Шыдар патапіў іх. З Шыдарам няма чаго зачапацца. Голаму разбой не шуміць. Прыказка гаворыць: голы, як біч, а востры, як меч.

## ЦІ БЫЛА Ў ПАПА ГАЛАВА, ЦІ НЕ?

Раз адзін чалавек пасеяў жыта на палянцы. Жыта не ўрадзіла. На другую вясну прыехаў чалавек да пасеяў грэчку — і грэчка не ўрадзілася. Стаў ён і гадаець: «Што гэта за месца такое, што не родзіць?» От ён пасеяў солі — і соль не вырасла. Раз прыходзіць ён на палянку і ўгледзеў сляды мядзведзя і кажа:

— Што гэта казулька пераходзіць, за тым нішто не родзіць.

От яны пазвалі папа, каб ён адправіў малебен. Поп, едучы, угледзеў гняздо мядзведзя, пазваў людзей і кажа:

— Гэта тая казюлька, што пераходзіць цераз поле. Забіць яе трэба. Лезьце! Біце!

Ніхто не хоча. От палез сам поп у дупло, толькі ўніз галавою, прылез к самаму мядзведзю, а мядзведзь узяў да папу галаву адкусіў. Ждуць людзі папа час, ждуць другі — няма іх папа. Сталі яго цягнуць за ногі з дупла, выцяглі, зірнулі — ажно няма ў папа галавы. Адны кажуць, што казюлька адкусіла, а другія кажуць, што ён гэтак прыехаў з дому. От яны заспорылі да і падраліся. Пайшлі спрашываць у хурмана, які вёз папа, хурман кажа:

— Я хоць вёз, да не знаю, як ён быў, але, здаецца, без галавы, а можа і з галавою. Папытайцеся ў наймічкі: яна знае, яна ўчора часала яму косы.

Яна кажа:

— Я хоць часала яму косы, але забыла.

Так нашы мужыкі ўсё пыталі да пыталі, а толку не дабралі: ці была ў папа галава, ці не? Так і асталіся не ведаўшы.

## АБ ПАПУ, ШТО КАЛЯД ЗАБЫЎСЯ

У адным месцы пазбіраўся народ на каляды да царквы — ждуць-пождуць папа, а папа няма. Ужо і слонка ўгару падышло — папа няма! Ідуць ужо яны да клябані глядзець, што то такое з папом сталася. Калі прыйдуць, ажно поп сабе, седзячы, лапця пляце, а пападдзя хусты мые! Угледзіў іх поп ды й пытае:

— А вы чаго, мужыкі, пазбіраліся?

— Ля, да царквы,— кажуць,— бацюшку, то ж сягодня ко́ляды.

А поп:

— Дзе,— кажа,— вам сягодня ко́ляды?

Дай давай па пальцах лічыць дні, ды й ні дайшоў толку і кажа на жонку:

— Давай ксёнжку, недзе ляжыць пад лаваю!

Пападдзя ксёнжку падала з-пад лавы, поп паглядзеў:

— Ля, але, праўда, ко́ляды!— Да й гэта плясь жонку ксёнжкаю, што не напамянула, ды й кінуў зноў назад пад лаву, а сам пайшоў гэта хутчэй да царквы подбегам.

От і папоўскі лік!

## БЯЗГЛУЗДЫ ПОП

Быў такі поп, што не ведаў, калі свята і нядзеля. Але ў нядзелю сеў сабе на падваротніцы, стружа моркву і есць. Людзі ідуць да царквы, а ён пытаецца:

— Куды ідзяце, парафіяне?
— У царкву!
— А сёння што?
— Нядзеля!
Той кінуў моркву і пабег да дабрадзейкі і кажа:
— Дабрадзейка, а сягонні нядзеля!
— Чаму?
— Бо людзі ідуць у царкву!
— Чакай! Зараз палічым: у панядзелак з плугам выпраўлялі, а ў аўторак выйшлі, а ў сераду на ніву пайшлі, а ў чацвер аралі, а ў пятніцу валы згубілі, а ў суботу знайшлі і дадому прыйшлі... Ды сёння — нядзеля!
— Ну, то трэба службу божу мець! Дзе мой апарат?
Пападдзя кажа:
— Дзіця спавіла!
— Распавівай! Давай сюды! А дзе патрахіль?
— У садку цяля прывязала!
— Давай сюды! А дзе ж кадзільніца?
— Курам піць дала!
— Давай сюды!
І сабраўся поп, і пайшоў да царквы, і правіць службу божу. Але прыгадаў сабе, што нешта ён чуў між папоў, што ёсць нейкае свята, і не ведаў якое і ў які дзень. І як скончыў службу божу і кажа:
— Ёсць, парафіяне, свята на гэтым тыдні?
І маўчыць. Але адзін мужык пытаецца:
— Якое гэта свята і калі?
— У панядзелак. А як не ў панядзелак, то ў аўторак. А калі не ў аўторак, то ў сераду або ў чацвер. А як не ў чацвер, то ў пятніцу, а не, дык у суботу будзе, бо нядзеля далей не пусціць.
Мужык пытаецца:
— Якое ж гэта свята, дабрадзею?
І поп думае: «Якое свята? Бо забыў». А царква тая была старая, драўляная, і свіння пачала чухацца аб сцену, аж тая сцяна трасецца. Дык стараста стаяў пад сцяной і крыкнуў:
— Аля!
А поп кажа:
— Так, так, панове парафіяне! Добра стараста кажа: «Ілля! Ілля!»

## ЯК БАБА ЧОРТА НА ГАСПАДАРЦЫ АШУКАЛА І Ў ПАЯДЫНКУ ПЕРАМАГЛА

У часе веснавым баба з д'яблам увайшлі ў нягодныя адносіны і так угаварыліся з сабой:
— Ты, пане д'ябле, гэты кавалак поля заары, і я маім просам засею, а вашэць забаранууеш. А восенню, як уродзіцца, то тым просам напалавіну падзелімся.

Калі тады проса тое паспела, баба, пайшоўшы, гронкі проса ў фартух пазжынала для сябе, а яму, як лес, сцяблiны з карэннямі пакінула. Д'ябал, прыкмеціўшы тое, а асабліва калі яна з таго проса кашу ела, пачаў яе папракаць: «Ты мяне, баба, ашукала, бо сабе вярхі сабрала, а мне карэнне пакінула».

Баба на тое: «Ну, калі вашэць лічыш гэта для сябе крыўдай, то на другі год засеем для сябе тое самае поле, а вашэць ужо падбярэш вярхі, а я карэнне!»

І пасеяла баба рэпу. Чорт тады найперш націну для сябе пазразаў, а яна сабе потым рэпу выкапала.

Чорт, бачачы, што і другі раз яго ашукалі, сказаў бабе: «О, ужо трэці раз пасеем ячмень і, зрабіўшы з яго піва, разам вып'ем».

Баба тады на тое згаджаецца, і сеюць яны ячмень, які яны з поля, калі той паспеў, разам сабралі і звезлі. Д'ябал змалаціў, змёў, баба солад зрабіла. Д'ябал дровы сячэ, носіць, ваду цягае, бочкі набівае, а баба тым часам адстоенае піва папераливала сакрэтна ўбок, у іншае начынне, а сама гушчу навідавоку трымае, і сама каштуе, і яму каштаваць дае, кажучы: «Будзе добрае піва, як перабродзіць!»

Калі піва ўжо зусім перахадзіла, пазлівалі яго ў бочкі і бочкамі падзялілі тую мутную гушчу — а яна адстоеную частку таго піва сабе ўзяла.

Д'ябал, бачачы, што піва нічога не варта, раззлаваўся, кажучы: «Якога нарабіла сабе, такое і пі!»— і пайшоў.

Аж баба крычыць яму: «Пане д'ябле, а яшчэ ж падзелімся доннымі саладзінамі!»

А д'ябал у адказ: «Бяры сабе і ўсе саладзіны»,— і з той пары больш ніколі не хацеў звязвацца з бабай. Адтуль і прымаўка пайшла: «Чорт з бабай піва рабіў і саладзінаў выракся!»

На чацвёрты раз, пакрыўдаваўшы такім чынам тры гады на бабу, прыходзіць зноў вясной да яе і выклікае як на паядынак.

Яна, маючы смелае сэрца, не толькі ахвотна бярэцца з ім ваяваць, але нават дае яму вілы, а сама бярэ ражон, кажучы яму: «Калі ты мяне ўпораш віламі, то праб'еш мяне два разы, а калі я пiхну цябе ражном, то толькі раз праб'ю цябе!»

І пачалі яны праз плецены плот ваяваць. Калі баба піхне ражном д'ябла праз плот, то ражон навылёт прашывае д'ябла. Калі д'ябал піхне віламі бабу праз плот, то вілы ў плоце загразнуць, а баба цэлая.

Зваявала тады баба ў тым паядынку д'ябла. І адтуль пайшла другая прыказка: «Бабу і чорт не зваюе!»

## ПРА ПАПА З ПАРАБКАМ, ШТО ДАМОВІЛІСЯ, КАБ НІКОЛІ І НІ ЗА ШТО НА СЯБЕ НЕ ГНЕВАЦЦА

Поп угаварыў сабе на гадавую службу парабка і, дамаўляючыся з ім аб плаце, такую з ім заключыў умову: «Я што табе скажу, то ты ўсё павінен здзелаць, і хоць бы я табе што цо і прыкрага здзелаў, то ты не павінен за тэе гневаць на мяне».

Парабак, чуючы тое, узаемна кажа папу: «Але, ойчаньку, калі і я вашэці што нядобрага здзелаю, то і вашэць на мяне не павіненэсь ся гневаць!»— і такі стаў паміж імі з абодвух бакоў кантракт.

Заключыўшы такі між сабой кантракт, пачаў поп дрэнна да парабка адносіцца, а потым пытаецца ў яго: «Ці не гневаешся, парабча?»

Парабак адказвае: «Не гневаюся, ойчаньку, бо такая мендзы намі напачатку згода стала!»

Узаемна парабак учыняе яму такую штуку: пасля каляд загадаў поп парабку насеч сухіх дроў. Парабак, пайшоўшы, пасек усе вазы і ўсе летнія экіпажы.

Пабачыўшы гэта, пачаў поп яго моцна папракаць.

Парабак на тое: «Не мог я сушэйшых дастаць, а экіпажы летнія, цяпер, на зіму, непатрэбныя».— І сказаў: «А ці не гневаешся, ойчаньку, за тое?»

Кажа поп: «Не гневаюся, бо такая міжы намі ўмова стала, кабы не гневацца!» Тут поп пачаў парабка з левай пляжыць, а парабак узаемна папа — ужо не з левай, а з правай.

На вясну камандуе поп парабку, каб пайшоў араць, і кажа яму ўзяць с сабой суку і загадвае яму: «Датуль не сыходзь з поля, пакуль сука ўперад не пойдзе дамоў, і што сука будзе рабіць, каб і ты тое самае рабіў!»

Пайшоў парабак араць. Парабак пачынае араць, сука ідзе за ім, парабак узараў адзін загон, ідзе на другі, сука ідзе за ім. Парабак ідзе на трэці загон, сука ідзе за ім. Прыйшоў поўдзень. Людзі ідуць дамоў, а ён арэ, бо сука ходзіць за ім. Людзі, папалуднаваўшы, прыходзяць і запрагаюць валы ў ярмо, а ён арэ, бо сука ходзіць за ім.

Урэшце, спыніўся, валокі пад саху падклаў і, злавіўшы суку, як пачне біць, як пачне прыгаворваць ёй: «А ці ты ж мяне даўжэй яшчэ будзеш трымаць на полі?»

Як яе тады выпусціў, яна бягом домоў, ён па яе прыкладу пайшоў з валамі за ёй, стараючыся, каб таксама за сукай разам гнаўся, бо поп загадаў яму, каб так рабіў, як чыніць будзе сука.

Прыбягае сука ў плябанію, аж вароты закрытыя, таму сука скок праз вароты! Ён за ёй з валамі прыбег, а калі не змог разам з імі пераскочыць праз вароты, дастаў з-за пояса сякеру і, пачацвертаваўшы на кавалкі валоў, паперакідаў іх праз вароты.

Поп, тым расстроены, рукі заламіў і кажа: «Ах, што ты, бязбожны чалавек, здзелаў?»

Парабак на тое: «А што ж, ойчаньку, што вашэць мене кажэце, то я тое і ўчыніў. Вашэць мене казаў тое чыніць, што сука будзе чыніць, то я так чыніў, як сука чыніла; сука праз вароты, так я перакінуў валы праз вароты, а ото і сам лезу праз вароты, я ўсё захаваю, як вы, ойчаньку, казалі. А чы не гневаешся, ойчаньку, за тое?»

Поп адказвае: «Не гневаюся, бо так ва ўмове стаяла!» Тут поп, рассярдзіўшыся, пачаў рознымі спосабамі парабка цвічыць: кіем латаць, нагаем кропіць, прывязаўшы да пераплота, розгамі сячы. Урэшце ад шыі аж да полу зрэзаў кавалак скуры, а пас дзёр і ячменнымі асцюкамі пасыпаў, пытаючыся: «А ці гневаешся, парабча?»

Парабак адказвае: «Не гневаюся, ойчаньку, бо такая ўгода паміж намі стала, каб ніколі не гневацца».

Аднойчы паехаў поп на хаўтуры і, адправіўшы хаўтуры, прыехаў дадому і сказаў парабку: «Парабча, пайдзі разбяры каня!»

Парабак пайшоў, разабраў каня, як разбіраюць вепрука: пасек іх на кавалкі і, склаўшы іх у кадушку, прыйшоў у плябанію, кажучы: «Ойчаньку, ужо я разабраў каня, дай, ойчаньку, солі, буду саліць!»

На тое поп: «А што ж ты будзеш саліць?»

— Саліць,— кажа парабак,— ну, то ж каня, што вашэць казаў разабраць!

Поп пайшоў і паглядзеў: ён жа каня на кавалкі пасек. Поп на тое: «Ах, ты ашалеў, што ты здзелаў?»

Парабак: «Вашэць казаў каня разабраць, так я разабраў! А чы не гневаешся, ойчаньку, за тое?»

Поп: «Не гневаюся, бо такая ўгода мендзы намі».

Поп зноў парабку зрэзаў кавалак скуры ад шыі аж уніз і пацёр ячменнымі асцюкамі, пытаючыся яго: «А ці не гневаешся, парабча?»

Парабак адказвае: «Не гневаюся, ойчаньку, бо такая стала міжы намі ўгода: квіта за квіта, а дарма нічога!»

⟨...⟩Поп, тое бачачы, што ўжо нічога не зможа з парабкам, а пакольki быў няўпэўнены і ў сваім жыцці, задумаў з пападдзёй уносіцца з плябані, кажучы: «Хоць я яго рознымі спосабамі мучаю і хачу, каб ён мяне кінуў, але ён мне болей шкодзіць, чорт яго перабудзе, мы яго не перабудзем. Уцякайма з хаты, нех яго чорт бярэ!»

Здарылася тады, што той парабак трохі напіўся, прыйшоўшы, лёг і, больш прыкідваючыся, нібы цвёрда спіць, пачаў страшна храпець. Поп тады кажа да пападдзі: «Цяпер нам час уносіцца, бо парабак цвёрда спіць. Ну, жонка, забірайма ў мяшкі, што можна, а ўцякайма, пакуль ён спіць!»

Тут пачалі з другога пакоя зносіць, у тыя мяхі складваць і паклалі адзін мех, падняў поп і сказаў: «Ужо пападдзі

досыць будзе, кладзём цяпер у другі для мяне!» Прынеслі раз, пайшлі па болей, а тым часам, устаўшы, парабак улез у той мех.

Яны, прынёсшы болей адзення, прыхавалі яго ім. Падняў поп, аж цяжка: «Ой, як цяжка буду несці, поўна ўжо! Цяпер жа ціхухна ўносьмыся, каб парабак не ўчуў!»

Падаўшы тады на сябе тыя абодва мяшкі, далей у прочкі, бездарожжам, і прайшлі яны чвэрць мілі ў радасці, што ад парабка ўцяклі, аж раптам парабак, седзячы ў папа ў мяшку за плячыма, крычыць, нібы здалёку: «А пачакайце мяне, ге, ге!»

Чуючы тое, поп з пападдзёю сказалі сабе: «Ах, ён жа за намі бяжыць, уцякайма ў старану, кідайма гэтую дарогу, а бермася ўбок, каб ён за намі па шляху не ўзяў!»

Кінуліся тады ўбок, прабіраючыся праз хрусты, праз ламы, і ў той, і ў гэны бок, губячы па сабе след, аж парабак зноў, седзячы ў папа за плячыма, крычыць: «А пачакайце мяне, ге, ге!»

Тут поп з пападдзёй кажуць сабе: «Ах, чы яму чорт паказвае дарогу, ён жа за намі гоніцца, уцякайма ў іншую старану!» Перапраўляюцца яны тады праз балоты, праз багны.

Аж ён зноў крычыць, нібы ўжо недалёка іх будучы: «А пачакайце мяне, ге, ге!»

Поп з пападдзёю зноў у іншыя бакі. Ужо з папа і пот ліецца, а ўсё ж, губячы след, у розныя кідаецца бакі.

А парабак кліча іх: «А па-ча-кай-це мя-не, ге, ге!»

Тут поп, мала сілы ўжо ў сабе маючы, прыбягае да ракі вялікай, праз якую цяжка перабрацца, потым, як змардаваны, скінуў з сябе мех на зямлю, а парабак, седзячы ў мяху, сказаў: «Ой, ойчаньку, як жа неміласэрна ты мяне кінуў!»

Тут поп, здзівіўшыся, сказаў: «А ты што тут робіш?»

А на тое парабак: «А я ж з вамі ўцякаю!»

Тут поп, не ведаючы, што мае болей чыніць, паціснуў плячыма і рашыў, каб пры той рэчцы пакладаліся спаць. Загадаў тады поп легчы парабку пры самым беразе той ракі, сам лёг пасля яго, а пападдзя — ад поля. Пакладаліся такім чынам.

Поп з пападдзёю, змардаваныя, паснулі цвёрдым сном, парабак жа, добра думаючы пра сябе, не засынаў, але калі адчуў, што поп і пападдзя паснулі, тады ўстаў, перайшоў за пападдзю і, пачаўшы яе штурхаць, разбудзіў яе і сказаў ёй: «Папіхайма парабка!» Пападдзя зразумела, што гэта ёй кажа поп, папхнулі небараку папа, аж поп у ваду, баўбыць, паляцеў. Толькі тады сказалі яны да сябе: «Ах, што ж мы здзелалі, ушак мы попучку ўтапілі!»

Парабак пападдзю супакоіў, і, за рукі ўзяўшыся, пайшлі, і з сабою шлюб узялі.

Так тое збываецца, што сказаў русін: «Дастаў пан слугі, як чорт грэбла!»

## КСЯНДЗЫ — НЕ ЛЮДЗІ

Я, будучы сам ксяндзом, да таго францысканцам, заўсёды меркаваў, што ксяндзы з'яўляюцца людзьмі, так як і іншыя людзі, але, жывучы на Белай Русі, даведаўся наступнае. У адсутнасць ключніка пайшоў я сам з кухарам на вяндлярню, дзе саланіну і іншае мяса вешаюць.

Пачаў той кухар браць, рэзаць мяса, колькі хацеў, і, нарэзаўшыся, сказаў: «Досыць будзе!» — і тут зноў рэзаць пачынае.

Я пытаюся ў яго: «А гэта нашто ты рэжаш?»

Аж ён адказвае: «Гэта, маспане, для людзей».

Я на гэта яму: «Альбо ж мы не людзі?»

Ён кажа: «Не, вашэці не людзі».

Я: «А хто ж мы?»

Ён мне адказвае: «Вашэць ксяндзы, а не людзі».

І толькі тады я даведаўся, што мы ксяндзы, а не людзі!

## ХИТРЫЙ МУЖИК И ЖАДНЫЙ ПОП

Однажды поп заходит к мужичку, а тот на дворе копается, делает грядки и что-то в них садит.

Поп спрашивает:

— Что, свет, делаешь?

— Да вот золотые сажаю,— отвечает мужик.— Приходи поутру,— посмотришь, сколько буду рвать.

У попа глаза разгорелись. Очень заинтересовался он и раззавидовался. Ночью не спалось, а наутро прибежал проверять.

Мужичок покопался в грядках. Смотрит поп, и вправду — вместо одного золотого вынимает пять.

Поп и говорит:

— Нельзя ли и мне это устроить?

Мужик отвечает:

— Давай тебе посажу.

Поп на это согласился. И пошли они к попу на двор садить золотые.

Наскоро сделали грядки, посадили. А через несколько дней обещался мужик прийти и выкопать золотые...

Приходит он в известное время, начинает землю рыть. Действительно, где был золотой — вынимает пять, где был золотой — вынимает пять.

У попа дыхание сперло, разгорелись глаза, не верит себе от радости и говорит:

— Эх, жалко, мало посадили. Засеяли бы сто — сколько бы уродилось?

Мужик отвечает:

— На один — по пяти, а при хорошем урожае — и по десяти. Тысяча бы уродилась!

— Давай свет,— говорит поп,— сделай такую милость, посади сто золотых, я буду благодарить и поминать.

Вынес поп несколько пригоршней золотых — только сажай, мол!

Посадил мужик золотые, а ночью пришел на огород да все и повырыл.

Поутру поп призывает проверять урожай. Приходит Иван, начинает землю рыть — ни одного золотого!

Поп и говорит:

— Иван, что ж такое? Золота ведь нет!

— А ты чего же хочешь?— отвечает мужик.— Хлеб на хлеб и то не сеют, дают земле отдыхать. А ты снял хороший урожай, опять посеял и снова хочешь урожай получить? Вот земля-то и не уродила.

## ХИТРЫЙ МУЖИК

В одной деревне жил бедный мужик; дожил он до того, что у него только и осталось одна овечка да две тыквы.

Лежит он однажды на печи и думает: «Нет у меня ни хлеба, ни муки, продать разве овечку?» Слез с печки, оделся, привязал овечку на веревку и повел ее на рынок продавать.

Идет он мимо своей церкви; попадается ему навстречу поп и спрашивает:

— Куда повел овечку?

— Продавать, батюшка.

— Продай мне?

— Купи.

— А что просишь?

— Пятьдесят рублей.

— Что очень дорого?

— Да ведь, батюшка, овечка-то не простая: с десятком волков одна справится.

— Ну, хорошо.

Отдал поп мужику деньги и повел овечку домой. Вдруг овца увидела двух волков, забегала, зарвалась, веревочка и сорвалась, а волки схватили ее и съели. Поп потужил, поохал да и говорит: «Кабы веревочка не порвалась, так бы овечка волкам не поддалась!»

Пришел домой и говорит попадье:

— Ну, матка, я овечку купил!

— Ну хорошо. А много ли дал?

— Пятьдесят рублей.

— Что больно дорого?

— Да овечка-то не простая: с десятком волков одна справится.

— Ладно, мы ее на охоту будем отпускать, она нам волков надавит, а я тебе волчьих шуб нашью.

— Да у меня беда случилась.

— Какая?

— А когда я вел овечку-то, она увидела двух волков, хотела на них броситься, а веревочка-то и сорвалась, она им и поддалась, волки ее и съели...

— Ох, ох, батюшка!..

Поохали, поохали, да делать было нечего. А мужик, получивши деньги за овечку, накупил муки и напек хлебов, сел на лавку и думает: «Теперь у меня хлеб есть, только соли нет. Пойду-ка я срежу две тыквы, продам их да и куплю себе соли».

Срезал две тыквы, положил в корзину и пошел продавать. Идет мимо церкви, ему навстречу опять поп попадается и спрашивает:

— Куда, мужичок, пошел?

— В город.

— Зачем?

— Жеребячьи яйца продавать.

— Продай мне.

— Купи.

— Сколько просишь?

— Десять рублей.

— Что дорого?

— Да жеребята-то высидятся какие!

— А ты научи меня, как их высидеть-то.

— А как придешь домой, положи яйца в пестерь и сядь на них — через месяц они у тебя и вылупятся.

Отдал поп мужику деньги, взял тыквы и пошел домой. Приходит домой и рассказывает попадье, как он купил жеребячьи яйца и что с ними нужно делать, чтобы высидеть жеребят.

Попадья дала ему новый пестерь и велела поставить на полати. Вот поп сел, сидит день, сидит два, сидит и неделю, с пестеря не сходит и думает: «Вот скоро у меня жеребята вылупятся».

Случилось, что в это время у барина родился сын, и посылает барин своего кучера к попу, чтобы тот пришел и дал младенцу имя. Приходит кучер к попу и спрашивает у попадьи:

— Где батюшка?

— А на что тебе?

— У барина сын родился, так надо ему дать имя.

— Он на полатях сидит на яйцах.

Кучер подошел к полатям и говорит:

— Батюшка! У нашего барина родился сын, так иди, дай ему имя.

— Не пойду,— отвечает поп сердито.

— Пожалуйста, батюшка.

— Я сказал тебе: не пойду, так и не пойду! Мне из-за

вашего барина не лишаться же жеребят.

Так и не пошел поп к барину.

Приходит кучер к барину и говорит, что поп не идет. Тогда барин взял плеть и пошел сам. Приходит к попу и говорит:

— Батюшка! Дай моему сыну имя!

— Я сказал вам, что не пойду,— отвечал поп.

— Пожалуйста, батюшка!

— Убирайся ты к черту и с твоим сыном! — закричал поп.

Тут барин и давай его хлестать плетью. Поп долго вертелся и ежился, наконец стало ему невтерпеж, соскочил с полатей, схватил свой пестерь и, держа его так, как сидел на нем, бросился бежать в поле, а барин с плетью за ним. Прибежал поп к огороду, а в этом месте подле огорода была навалена куча хворосту, под которым сидели два зайца. И хотел поп перелезть через огород, да задел пестерем за кол; пестерь остался на коле, а поп упал на хворост. Зайцы испугались и выскочили, а поп думал, что это его жеребята, и погнался за ними. Бежит за ними и кричит:

— И-го-го-го! жеребятки, я ваша матка!

Зайцы убежали в лес; поп долго бегал по лесу, не мог найти своих жеребят и воротился домой с пустыми руками.

## ЯК МУЖЫК ПАПА ПЕРАХІТРЫЎ

У некаторым сяле быў свяшчэннік вельмі сярдзіты і багаты. У гэтым жа сяле быў мужык, ды такі ён быў жартаўнік. Адзін раз у гадавое свята прыходзіць ён у царкву (а справы свае ён ужо зрабіў). Пасля абедні падыходзіць ён да папа і гаворыць:

— А што, бацюшка, ці грэх гэта, што я зрабіў?

— Ну, што?— гаворыць поп.

— Ды вось што. Я выгнаў з паповага гароху свінню.

— Во дурны. Ну які ж гэта грэх, што ты папу зрабіў карысць — гэта, брат, яшчэ табе нават дзякуй!

Потым мужык гаворыць;

— Вось што, бацюшка! Я з паповага калідору ваўка выгнаў.

— Усё дурны! — гаворыць поп.— Які ж гэта грэх,— гэта ты мне таксама карысць зрабіў: ён бы ж тама паеў і маё быдла, і дзяцей і ўсіх бы маіх дамашніх паразганяў! За гэта, брат, таксама дзякуй!

Пасля мужык зноў гаворыць:

— Дык вось яшчэ, бацюшка, што хацеў я вам сказаць. Толькі я прыходжу ў царкву, народ увесь стаіць, а шаптуны так і шэпчуць. Ці грэх гэта, што я іх выгнаў?

Поп і гаворыць:

— Вось мужык, значыць, дурны. Ну які ж грэх з божай царквы выганяць нячыстую сілу? Гэта ты, значыць, атрымаў сабе спасенне!

Поп яму ўсё прасціў і пайшоў дамоў. Раздзеўся і садзіцца ён абедаць (а ў яго быў у доме госць). Поп і гаворыць пападдзі:

— Нясі нам гавядзіны.

А яна і гаворыць:

— Я там кідала ў гарох свініну, калі будзеце есці.

— Давай,— гаворыць поп.

Пабегла пападдзя ў кухню, цап у гаршчок — няма той свініны; тут яна і давай лаяць работніцу; пасля прыходзіць у горніцу і гаворыць папу:

— Я кідала ў гаршчок свініну, а яе там няма. Я не ведаю, хто яе ўкраў.

А поп кус сам сябе за язык:

— Ну,— гаворыць,— пападдзя, ты свініну не пытай: яе ўкраў такі і такі мужычок, а я яму прасціў.

Госць пабег у калідор, а там ляжала воўчая шуба, а шубы няма.

— Ну, брат,— гаворыць поп госцю,— не пытай, я і шубу яму прасціў.

Памешчык, што быў у царкве, хваць за карман, хацеў паглядзець, які час, а часоў і няма. Стаў шукаць. А поп і гаворыць яму:

— Ну, брат, і ты не шукай сваіх часоў: у нас сёння ў траіх выйшла прапажа, і гэта я ўсё прасціў і дазволіў. Нашым рэчам — свініне, ваўку і шаптунам — вяртання не будзе.

## ПОП И РАБОТНИК

Поп с работником спорил. Поп говорит:

— В моем приходе изо ста мужиков найдется ли, нет ли трое не дураков?

А работник говорит:

— Нет,— говорит,— бачко! Изо ста попов найдется ли, нет трое не дураков.

Поп говорит:

— Да неужто,— говорит,— я дурак?

— Не знаю,— говорит,— как,— говорит,— прихожане похвалят тебя?

Разговаривали, разговаривали, потом залог положили по четвертной: мужиков похвалят али попов.

Попу пришло письмо — в другое село звали на гости. Поп работнику велит лошадей закладать:

— Запрягай взъемчату повозку,— говорит.

Едут волоком; увидали выскирь, а сквозь мох месяц светит. Работник туда указывает:

— Бачко,— говорит,— смотри-ко: медведь-то!

Поп взглянул.

## ПОП-МУЖИК

В одной церкви не было ни попа, ни дьякона лет тридцать. Вот проживал в этом приходе старик со старухой; грамоты сроду не знал он аза в глаза. И говорит старик своей старухе:

— Вот что, старуха! Наймемся-ка мы у прихожан — я буду попом, а ты дьяконом.

Вот старик объяснил своим прихожанам: не желают ли они его принять в священники? Прихожане на этот вопрос очень были рады какому ни на есть священнику, с удовольствием приняли старика. Старик дожил до первого воскресенья и начал служить обедню, и в этот день много было народу у церкви, потому что каждый христианин желал посмотреть нового священника. Священник у них был не чумак, увидал, что очень много народу, взял книгу и вышел из алтаря и начал говорить:

— Слушайте, православные миряне! Слыхали ли вы чтение и пение?

Отвечают ему миряне:

— Слыхать, батюшка, слыхали.

— Ну, слыхали, так ступайте домой, здесь делать нечего.

Вот и пошли миряне из церкви домой, идут дорогой и разговаривают: «Что же, ребята, прежде у нас не этакие были попы, потому что-нибудь попоют и почитают, у нас новый поп, что не пел и не читал. Этак славно, ребята: обедать сразу отпустил!»

Вот дожили до другого воскресенья и опять пошли к обедне. Новый поп, взявши, наклал полное кадило уголья горячего, вышел из алтаря да и говорит:

— Слушайте, православные миряне! Я что буду делать, так вы все это делайте,— и начал махать кадилом. И все миряне начали махать руками. И вывалился попу каленый уголь за голенище; поп упал на спину и давай трясти ногою. И все миряне упали на спины и давай трясти ногами.

В это время проезжал мимо какой-то барин и послал кучера узнать время. Кучер прибежал на паперть и видит: лежит тут старуха лет девяноста пяти, едва шевелит ногою. Спрашивает ее кучер:

— Что, бабушка, много ли времени?

— Да вот уж, батюшка, пинанье отошло, ляганье начинается.

Кучер отворил двери в церковь и видит, что весь народ лягает ногами, затворил двери и обратно пошел к барину. И спрашивает его барин:

— Что, кучер, много ли времени?

— Ничего не знаю, сударь, сходите сами, так и узнаете.

Барин пошел, сам увидел на паперти старуху: едва шевелит ногою. Спрашивает ее барин:

— Слушай, бабушка, много ли времени?

— Да вот уж, батюшка, пинанье отошло, ляганье идет.

И отворил двери в церковь и видит, что весь народ лягает ногами. С этого времени так понравился священник барину, что: «Отроду не видывал этаких попов: в какое чувство приводит народ!»

## БЕЗГРАМОТНАЯ ДЕРЕВНЯ

Деревня была безграмотна: поп безграмотный, дьякон безграмотный да дьячок безграмотный, а церковь была, приход служили (так!). Прознал архиерей, поехал любопытствовать. Приехал к попу на фатеру, поп и побежал к дьякону.

— Вот беда, архиерей приехал, как мы служить станем?

А дьякон сказал:

— А как-нибудь, сваракосим как-нибудь.

Поп скажо:

— Ты тое пой, что я буду.

Дьячок скажо:

— Мне уж надо свое петь на крылосе, не с вам.

Поп скажо:

— Что знашь, то и валяй.

Затем обедню зазвонили, поп и запоходил к обедне, архиерею и говорит:

— Владыка, благослови.

— Бог тебя благословит, поди, служи.

Поп и запел — голос громкий:

О-о-о! Из-за острова Кельястрова
Выбегала лодочка осиновая,
Нос-корма раскрашенная,
На серёдке гребцы-молодцы.
Тура-мура и пара.

Дьякон тоже запел:

О-о-о! Из-за острова Кельястрова
Выбегала лодочка осиновая

(и пр. до конца).

А дьячок на крылосе:

Вдоль по травке, да вдоль по муравке,
По лазуревым цветочкам.

Архиерей вышел да рукой махнул:

— Служите, как служили!

Да и уехал прочь.

## ЯК МУЖЫК СТАЎ КСЯНДЗОМ

Было гэта ў старыя часы. Адзін бедны чалавек меў поле на мяжы з ксяндзом. А той ксёндз быў, як звер,— усё шкоду бедняку робіць: то ў яго агарод свіней пусціць, то худобу.

Куды толькі мужык на ксяндза не скардзіўся, усё прайграваў, бо некалі, гаворыць, усюды паны сядзелі і ўсюды права мелі. Пакуль ксёндз шкодзіў, датуль шкодзіў, але нарэшце забірае той агарод сабе. Чалавек — у суд, а суд прызнаў агарод ксяндзу. Ідзе ён з суда і плача. Толькі ідзе дарогаю цар і бачыць, што чалавек плача. Спыніў карэту і загадвае слугам:

— Прывядзіце сюды таго хлопа.

Прыводзяць яго да цара.

— Чаго ты, чалавеча, плачаш?

— Ой, пане, ці няма чаго плакаць? Нідзе няма праўды на свеце.

— Чаго няма?

— Меў я агародзец на мяжы з ксяндзом, але карысці з таго не меў, бо ксёндз то свінні там пасвіў, то худобу — усякую шкоду рабіў, якую толькі мог, а нарэшце ўзяў ды й забраў мой агарод. Я — у суд, а ён падкупіў суддзю, і прысудзілі яму маё поле. Усюды панскае права. Ніхто за мяне не заступіцца. Іду да цара. Ужо як ён не абароніць, то няма чаго на свеце жыць.

Цар падумаў ды й кажа:

— Чаго ты хочаш ад цара?

— Нічога не хачу, толькі хачу, каб я трохі ксяндзом пабыў, а ксёндз мною.

— Ты ўмееш чытаць?

— Умею.

— Я твой цар. Будзеш у сяле ксяндзом.

Выдае чалавеку дакумент, што за дваццаць чатыры гадзіны ксёндз павінен выбрацца з сяла, а ўсю сваю маёмасць, худобу, царкву пакінуць таму чалавеку. Ставіць цар пячатку:

— Вось бяры.

Чалавек узяў дакумент, падзякаваў і ідзе. Зайшоў у карчму, добра выпіў, ідзе дадому і спявае. Спаткнуўся аб камень і ўпаў.

А ідзе дарогаю яго кум — таксама п'яны і таксама спявае. Зачапіўся за камень і ўпаў таксама. Ужо поруч ляжаць. Гэты другі і пытае:

— Ты што, Кліме, са смутку такі п'яны?

— Не, Максім, з радасці. Я выйграў, а не ксёндз.

— Выйграў?

Паказвае Клім дакумент і кажа:

— Я ўжо ксяндзом стаў.

Абодва п'яныя і адзін аднаго не разумеюць. Нарэшце дайшло да Максіма, і ён кажа:

— Слухай, як будзеш ксяндзом, то вазьмі мяне за дзяка.

— Добра, будзеш дзякам.

Але і гэты непісьменны, і той непісьменны, бо некалі хто там умеў чытаць і пісаць.

З перапою Клім і забыў, што ён ксёндз. На трэці дзень бярэ тую паперчыну, прыходзіць да ксяндза й кажа:

— За дваццаць чатыры гадзіны каб ты выбраўся з сяла.

А ксёндз ускіпеў:

— Ты што? Я выклічу паліцыю, каб цябе арыштавалі.

Прыехала паліцыя з горада, ксёндз скардзіцца, што мужык абразіў яго, але ў чалавека ёсць папера і ён не дужа баіцца.

Паказвае:

— Вось вам дакумент, што мне цар даў.

Паглядзелі і кажуць ксяндзу:

— Праз дваццаць чатыры гадзіны каб нават духу вашага тут не было! Гэты чалавек з сённяшняга дня ксёндз, а ўся твая маёмасць з зямлёю, царквою пераходзіць у яго ўласнасць.

— Ды ён нічога не разумее ў царкоўных справах!

— Навучыцца. Цар ведае, што робіць.

Стаў ён ксяндзом, а кум дзякам. Мінае адзін тыдзень — царкву не адчыняюць, п'юць. Другі тыдзень — царква зачынена, п'юць. Пачалі людзі крычаць:

— Ён ксяндза выгнаў, а ў царкве не служыцца.

Трэцяе суботы адзванілі, што ў нядзелю будуць правіць. Людзей насыходзілася поўна, каб на новага ксяндза паглядзець. Пачынае Клім правіць. Перахрысціў усім галовы:

— ...Святога духа. Амінь!— спявае.— Правім, як колісь правілі-і-і...

І зноў тое ж.

А дзяк памагае з кліра:

— Мы спяваем, як колісь спява-а-а-лі-і.

Людзі слухаюць: нешта не так.

Дайшло тое да епіскапа. Піша ён ксяндзу, што прыедзе. Той доўга не думае, прадае два быкі, разам з дзякам падгінаюць краі звона, насыпаюць туды грошай, прывязваюць да яго шнур, а яго падвешваюць над тым месцам, дзе павінен епіскап сядзець.

Прыехаў епіскап, сеў сабе якраз пад тым звонам, а рыза яго, як падол. Сядзіць. А людзей сышлося — мора.

Пачынаюць ксёндз з дзякам правіць.

— У імя айца і сына, святога духа. Амін... Мы правім так, як колісь правілі-і-і-і... А ты, уладыка, пацягні за лыка — вялікае табе шчасце пасе...

Епіскап пацягнуў за шнурок, а са звона пасыпаліся грошы яму на калені.

Ксёндз прыкідваецца, што не бачыць,— правіць тое ж самае:

— Мы так спяваем, як калісь спявалі-і-і!

Яшчэ ксёндз сказаў патузаць звон, а адтуль зноў залатыя грошы пасыпаліся. Епіскап пазбіраў «падарункі», тады ўстаў, перахрысціў грамаду і абвяшчае:

— Слухайце, людзі, чаго вы хочаце? Ксёндз так правіць, як калісь правілі, а дзяк так спявае, як калісь спявалі, не шукайце сабе бяды. Новых кніжак няма, каб інакш правіць. Усё як трэба ў вас...

## ПОП-МУЗЫКАНТ

Вот однажды батюшка на скрипке хорошо играл. Одному парню захотелось выучиться. Приходит к батюшке и говорит:

— Батюшка, научи меня играть! Сколько за это возьмешь?

— Для того чтобы тебя научить играть, сто рублей.

— Я, батюшка, сто рублей тебе заплачу, только в любой момент дня и ночи ты меня учи.

Батюшка начинает его учить. Вот однажды в престольный праздник приехали к этому молодому парню гости. Парень и говорит:

— Хотите, поп в алтаре заиграет?

Гости говорят:

— Ну!

Парень побежал. Батюшка в церкви служит. Он скрипку под полу и пробирается к батюшке в алтарь.

— Слышь ты, батюшка, я забыл колено.

— Ведь у меня сейчас служба, слышь, свет!

— Ну, тогда подавай обратно сто рублей!

А поп жадный был, он и говорит:

— Погоди, погоди, дай сюда!

Дьякон вышел с кадилом перед людьми, ждет, покуда батюшка подаст благословение. А батюшка в алтаре спрашивает:

— Какое колено-то забыл?

— Да камаринскую.

Поп и правит камаринскую за молитву:

— Да, да, да, исправится молитовка моя!

А дьякон услыхал да и подскакивает:

— Раскадилася кадилица моя!

Поп в алтаре:

— Да, да, да, исправится молитовка моя!

А дьякон:

— Раскадилася кадилица моя!

Парень рассмеялся и убежал.

Таким путем попа и дьякона расстригли из духовенства.

## ПОП-ЗАВИРАЛО

Один священник, читая проповедь, много очень привирал. Один раз, чтоб особенно не завраться, говорит дьякону:

— Как я много навру, ты останови меня.

Дьякон спрашивает:

— Каким образом?

Судили, рядили, наконец решили, что привяжут к ноге священника мотоус, а другой конец будет у дьякона в алтаре, чтоб дьякон дернул, когда священник заврется. Как решили, так и сделали. Батюшка начинает говорить проповедь (гнусавым голосом):

— В одном городе на берегу моря каждый день погибает много народу от прожорливого крокодила.

От так увлекся описанием этого чудовища и говорит, что у него хвост один в 1000 верст, в это время он чувствует, что кто-то ногу его сильно тянет, он делает паузу и думает, что бы это значило. Вспоминает и говорит:

— 500 не 500, а 300 будет.

Опять его дергают за ногу, он паузит и опять говорит:

— 1000 не 1000, а 500 будет.

Народ в церкви до того даже прослезился, начинает прислушиваться, что бы это значило. Дьякон опять дергает, а поп:

— 300 не 300, а полтораста будет.

Дьякон знай дергает, священник начинает волноваться, переступает с ноги на ногу:

— Полтораста не полтораста — 50-то будет.

Молящиеся начинают улыбаться — дьякон дергает, священник разозлился и кричит:

— Что ты со мной делаешь, черт возьми, неужели крокодил был совсем без хвоста?

Братие и сестры, которые помоложе, те хихикают в платочки, а старухи молят господа бога, чтоб он простил ихнего пастыря за такие речи.

## СВЯТОЕ ПАДРЫГВАННЕ

Пайшлі нашы людзі ў заработкі дзесь вельмі далёка да й папалі там расколаў. Ведама, у будзённыя дні жылі сабе ў лесе, пушчалі дзерава да рабілі клёпку, а ў нядзельку пайшлі ў вёску паглядзець, як там жывуць людзі. Прыйшлі яны раненька да й паглядваюць сюды-туды. Вёска як вёска. Шырокая вуліца,

паабапал хаты, а на канцы стаіць вялізазная хата з крыжам на даху. Пачалі туды збірацца тамашнія людзі да й кажуць, што гэта царква. Прыйшоў якісь сівы дзед, адчыніў царкву, вынес адтуль жалезную штабу, павесіў яе на гвозд да й давай па ёй лупіць малатком. Звініць штаба, аж глушыць, а людзі здымаюць шапкі да хрысцяцца. Дагадаліся нашы дзецюкі, што гэта ў іх такі звон. Улезлі яны ў царкву. У царкве ўсё як трэ: канастас, пратэсы, абразы. Прыйшоў поп да й кажа:

— Дзелайце тое, што я буду дзелаць.

От пачаў ён хрысціцца да адбіваць паклоны. Хрысцяцца й людзі да грукаюць ілбамі аб памост. Запеў поп. Падхвацілі тое й людзі да й пяюць, баццэ ў лесе пастухі галёкаюць. Нарэшце, узяў поп чарапок з жарам, насыпаў туды ладуну да й пачаў кадзіць. Кадзіў ён, кадзіў, аж анучы на нагах закурыліся. Валіць дым ад папа, баццэ з коміна. Пазіраюць людзі да грукаюць ілбамі аб памост. Тым часам поп кінуў з рук чарапок да давай тупаць, тушыць агонь. Убачылі тое людзі да як пачалі ўсе тупаць, дак аж царква трасецца. Але ось перабіраў, перабіраў нагамі поп, нарэшце, не вытрымаў, мабыць, яму такі добра прыпякло, от ён пакаціўся долу да давай дрыгаць нагамі. Зірнулі людзі да ўсе раптам грым на памост, да давай дрыгаць нагамі. Паскідаў поп з ног лапці да анучы, забраў іх у ахапку да тым і кончыў службу. Пачалі людзі расходзіцца з царквы, от наш чалавек і пытае тамошняга старога, што гэта ў іх за свята й што гэта яны рабілі ў царкве. А той і кажа:

— Сёння святога Дрыгуна, от мы й рабілі святое падрыгванне.

Падзівіліся нашы людзі да й думаюць:

— Што край, та абычай, што сяло, то нораў, а што галава, та розум.

## ДЗЯК І МАЛАПІСЬМЕННЫ ПОП

У адным сяле быў старэнькі поп, ды мала што ён цяміў у пісанні. Бывала, як адпраўляе ён службу, асядлае нос акулярамі да й мямліць сабе штосьці пад нос. А як чытае, бывала, Евангелле, дык усё адно, бо адно толькі і ўмеў прачытаць да ладу. Евангелле тое пачыналася словамі: «І ўзыдзе Ісус на карабель». От і пасварыўся поп з дзякам. Дзяк і думае, як бы гэта яму адпомсціць? Ды і зрабіў вось што. Узяў Евангелле ды й выразаў словы «на карабель». Поп у нядзелю пачаў чытаць. Раскрыў Евангелле ды й вымаўляе:

— І ўзыдзе Ісус...— а далей — дзірачка. Аж варам абдало папа. Ён зноў пачынае яшчэ мацней:

— І ўзыдзе Ісус...— зноў чортава дзірачка.

Ён здагадаўся, чыя штука, дык гнеўна глядзіць на дзяка ды крычыць:

— І ўзыдзе Ісус...

А дзяк яму з крыласа голасам цягне:

— А куды ж ён узыдзе?

— У дзірачку, трасца, тваёй маці,— грымнуў поп, закрыў кніжку і схаваўся ў алтар.

## СЛИШКОМ ДОБРЫЙ ПОП

Был в одном селе поп, да такой добрый, да разумный, что и сказать нельзя. (И где он такой уродился, не знаю.) Часто он нас поучал своими проповедями.

Один раз он начал нам рассказывать, да так-то хорошо, что мы слушали-слушали да давай плакать.

А батюшке стало нас жаль. Посмотрел он на нас сквозь очки да и говорит:

— О чем вы плачете? Чего же вы плачете? Может, это еще все и брехня!

Промолвил аминь, закрыл книжку и пошел в алтарь.

## ЯК ПОП КАРТЫ РАССЫПАЎ

Адзін поп дужа любіў гуляць у карты і так загуляўся адну ноч пад нядзелю, што гуляў да самай утрані. Стораж званіў, званіў, а папа ўсё няма. У царкву ўжо людзі прыйшлі маліцца, а папа ўсё няма. Ужо і дзячок прыйшоў, а папа ўсё няма.

Вось стораж кінуў званіць ды прыйшоў к папу ў хату. А той з гасцямі гуляе ў карты і ніяк не хоча адарвацца. Вось стораж пачаў яго прасіць. Поп са зла схапіў карты, ды не паклаў іх у кішэню, а засунуў у рукаў і так прыбег у царкву. Апрануўся ў свае рызы, забыўшыся, што ў рукаве карты.

Адслужыў утрань. А потым выйшаў на амбон да людзей і пачаў казанне. Казаў, казаў, ды як размахнецца рукой і як пасыплюцца з рукава карты па царкве. Дзеці і падлеткі давай збіраць тыя карты, ды піхацца, ды біцца. Папужаліся людзі, а папу стало сорамна. Дык ён вось што выдумаў. Падышоў да хлапчука і кажа:

— Ты карту падняў?

Хлопчык кажа:

— Я.

— Пакажы мне яе!

Хлопчык паказаў.

— А ну, скажы мне, як гэту карту завуць.

Хлопчык кажа:

9 Зак. 2359

— Пікавая дама.

— А богу маліцца ты ўмееш?— пытаецца поп.

— Не,— кажа хлопчык.

Вось поп узяў гэту карту, узышоў на амбон, падняў карту ўверх ды як закрычыць:

— Сорамна вам, людзі, за такія вашы ўчынкі. Якія ж вы бацькі, што вашы дзеці такія распусныя. Паднялі ў царкве такую вайну. Я рассыпаў карты наўмысна для таго, каб вывядаць вашых дзяцей. Аж гэта не дзеці, а авечкі; такія ж і вы, бацькі, як вашы дзеці. Богу маліцца не ўмеюць, а карты ведаюць. Значыцца, хутка канец свету.

Вось так поп змог адурыць у царкве людзей, яшчэ і накрычаў на іх ды напужаў канчынай свету.

## ЯК ПОП МАЛІЎСЯ

— Панамар, панамар! Узыдзі-тка на званіцу, паглядзі-тка ці не йдзець к нам хто, не нясець нам што?

— Віжу, бацюшка, ідзець якаясь баба, нясець на паніхіду стопку бліноў і чарку мёду.

— Падай, госпадзі!

— Дзякан, дзякан, годзе табе вякаць, узлезь на званіцу, падзівіся, ці не ідзець хто, ці не нясець нам што?

— Віжу, бацюшка, ідзець мужычок і нясець дубінку на папову спінку!

— Табе, госпадзі!

## ЯК ПРОПАВЕДЗЬ НЕ ЎДАЛАСЯ

Аднае нядзелі поп кажа да людзей:

— Прыйдзеце ў другую нядзелю, адно каб не было між вамі паляка, то я вам пропаведзь скажу.

Тыя:

— Добра!

Прыходзяць на другу нядзелю, але і католікаў некалькі між імі паслухаць тае пропаведзі. Так поп кажа:

— На пачатку свету не было ні кала ні двара, ні тычыны, ні ляшчыны, так бог зляпіў з гліны Адама і паставіў пад плотам сушыць.

Ажно адзін з католікаў і кажа:

— Скуль жа той плот узяўся, калі нічога не было?

Папу нечага гаварыць, так кажа:

— От і сапсаваў пропаведзь. Я ж вам казаў, каб вы з сабою ніводнага паляка не мелі. Прыйдзеце ж заўтра, адно прынясіце кожны па свечцы, то я вам скажу лепшу.

І гэта пайшоў з царквы.

## ПРОПАВЕДЗЬ

Даў адзін мужык сына на папа вучыць. Пабыў ён недзе колькі гадоў, у бацькі грошы набраўшы, ажаніўся ды й прыехаў дадому. Тым часам мужыкі паставілі царкву, і такія радыя, што свайго папа маюць. Ну, заказаў жа ён ім у нядзелю на пропаведзь прыходзіць. Папрыходзіў народ, ён выйшаў з кніжкай ды й пытае:

— Людзі, людзі, ці вы ведаеце, што ў гэтай кніжцы напісана?

— Не,— кажуць,— не ведаем, ойчэ духоўны.

— То вам і казаць нечага, калі вы такія дурні.— Ды і сам пайшоў за райскія дзверы і больш не паказваўся. Пастаялі людзі, пастаялі, пажурыліся і разышліся... На другую нядзелю зноў наказвае прыходзіць на пропаведзь, так ужо мужыкі сыйшліся пад царкву ды й урадзілі, як адказаць бацюшку. Увайшлі ў царкву, ажно і поп выходзіць:

— Людзі, людзі, ці вы ведаеце, што ў гэтай кніжцы напісана?

— Ведаем, ойчэ духоўны!

— То што,— кажа,— буду язык аб зубы біць, калі вы самі ведаеце.

Ды й завярнуўся і пайшоў. І зноў мужыкі пастаялі, як мыла з'еўшы. Потым, выйшаўшы з царквы, пабедавалі, што занадта папа разумнага маюць, бо ўжо і невядома, як цяпер яму адказваць, ды й тым абышлося.

## КАЗАННЕ ПАПА МІРОНА

У двух суседніх сёлах жылі два папы: адзін зваўся Гапон, а другі — Мірон. У тым сяле, дзе поп Гапон, храмавое свята на ўзвіжанне; у сяле, дзе поп Мірон,— пазней, на святога Мікіту. На храмавое свята заклікае Гапон да сябе Мірона. Паслужылі, пакадзілі, і выходзіць Гапон з казаннем:

— Праваслаўныя хрысціяне! Сёння мы святкуем шаноўнага і жыватворчага Хрыста. У свой час роўнаапостальны Канстанцін і Алена захацелі адшукаць крыж, на якім быў распяты наш гасподзь Ісус Хрыстос. Яны знайшлі пячору, а ў той пячоры знайшлі тры крыжы. Усе тры крыжы былі вельмі падобныя адзін на аднаго. Каб даведацца, які з іх самы сапраўдны, усесвяты і жыватворчы крыж, прынеслі нябожчыка і прыкладалі па чарзе да кожнага крыжа. Прыклалі да першага крыжа — не васкрэс. Прыклалі да другога — не васкрэс. Прыклалі да трэцяга крыжа — васкрэс. І гэта аказаўся самы сапраўдны, святы і жыватворчы крыж, які мы і святкуем сёння з вамі, праваслаўныя хрысціяне. Амін!

Сум агарнуў Мірона пасля казання папа Гапона. Яшчэ ні разу не гаварыў ён казання ў сваёй царкве, бо не ўмеў скласці: малапісьменны быў у гэтай справе. З часам, добра падпіўшы, просіць ён Гапона скласці яму казанне, каб і ён хоць раз-такі ды сказаў штосьці людзям. Гапон, будучы п'яны, і раіць яму:

— На вось табе маё казанне — гэта ўсё роўна. Толькі пазакрэсліш усюды «крыж», а на тое месца паставіш Мікіту. І гатовае табе казанне.

Так і зрабіў Мірон. Прыйшоў час, і Мірон выступае з казаннем. Разгладзіў бораду, разоў з тры пракашляўся і пачаў:

— Праваслаўныя хрысціяне! Сёння мы святкуем шаноўнага і жыватворчага Мікіту. У свой час роўнаапостальныя Канстанцін і Алена захацелі адшукаць Мікіту, на якім быў распяты наш гасподзь Ісус Хрыстос. Яны знайшлі пячору, а ў той пячоры знайшлі тры Мікіты. Усе тры Мікіты былі дужа падобныя адзін да аднаго. Каб даведацца, які з іх самы сапраўдны, святы і жыватворчы Мікіта, прынеслі нябожчыка і прыкладалі па чарзе да кожнага Мікіты. Прыклалі да першага Мікіты — не васкрэс. Прыклалі да другога — не васкрэс. Прыклалі да трэцяга Мікіты — васкрэс. І гэта аказаўся самы сапраўдны, усесвяты і жыватворчы Мікіта, якога мы і святкуем сёння з вамі, праваслаўныя хрысціяне. Амін!

## НА БОГА

Зайшла адна старая баба ў аўтобус і дае кандуктару капейкі.

— Бабко, ды гэта ж старыя грошы! Вазьміце і выкіньце праз акно.

Бабка ўзяла і схавала:

— Нічога, што старыя. Спатрэбяцца: дам у царкве на бога.

## АДЧАЛЬВАЙ, ХЛОПЦЫ!

На адной рэчцы быў паром. Вось як на Дняпры. Калі на паром сядала дастаткова людзей, паромшчык заўсёды крычаў:

— Адчальвай, хлопцы!

Аднойчы паромам ехаў поп. Яму вельмі спадабаўся голас таго паромшчыка. Ён і кажа яму:

— От голас у цябе добры. І для царквы быў бы прыгодны. Прыходзь у нядзелю, але ж крычы так, як ты крычыш на пароме.

Прышоў паромшчык у нядзелю да царквы і стаў на крыласе. От поп і правіць:

— Пакі, пакі госпаду памолімся!

А паромшчык як крыкне на ўсю царкву:

— Адчальвай, хлопцы!

## ЯК ПАПУГАЙ ГЛАС БОЖЫ ПАДАВАЎ

У аднаго немца быў папугай. І такі той папугай быў вучоны, што «отчэ наш» напамяць ведаў. От, бывала, сядзіць у клетцы, а немец прыйдзе, дык:

— Ну, попка, «отчэ наш!»

І той пачынае гэта заводзіць. Слаўна спяваў папугай.

Пачуў пра таго папугая адзін архірэй ды й запрасіў немца да сябе з папугаем, ну, як кажуць, на дасведчанне ці што. От немец за клетку з папугаем — і да архірэя. А ехаць трэба было рэчкай. На прыстані грузчыкі грузілі нейкі груз у той параход, дзе ехаў немец з папугаем.

Адзін грузчык не мог чагосьці пацягнуць, дык на яго галоўны як крыкне:

— Цягні, цягні, сволач паршывая!

Ды так крыкнуў, што папугай аж падскочыў.

От прыехалі яны да архірэя. Тут сядзяць такія пузатыя, усякія саноўнікі.

— Ну, давайце паспрабуем гласу божага, паны саноўнікі,— кажа архірэй.— Паслухаем глас божы.

А тады да немца і ківае — пачынай, маўляў.

Немец штосьці сказаў папугаю ды кажа:

— Ну, попка, давай!

Папугай маўчыць. Немец раззлаваўся:

— Попка, давай!

Папугай маўчыць.

Тады архірэй адпіхнуў немца, стаў перад папугаем і загугнявіў:

— Отчэ наш, іжэ есі на небесі...

Папугай глядзеў-глядзеў ды як крыкне:

— Цягні-цягні, сволач паршывая!

## ЯШЧЭ, МОЖА, ГЭТА І БРАХНЯ

Быў у адным сяле поп, ды такі ж добры да разумны, што і сказаць нельга (і дзе ўжо гэта ён такі ўрадзіўся, не ведаю!); і, бывала, часта ён нас павучае сваімі пропаведзямі. От раз у нядзелю і пачаў ён нам расказваць, ды так ужо прыгожа, што мы слухалі ды давай плакаць. Аж бацюшку стала нас шкода: паглядзеў ён на нас праз акуляры ды й кажа:

— Дык чаму вы й плачаце? Чаго ж вы плачаце? Яшчэ, можа, гэта і брахня!

Прамовіў амінь, закрыў кніжку і пайшоў у алтар.

## ЦЯБЕ НЕ ПРОСЯЦЬ, БОЖАНЬКА

Аднаго разу царкоўны параста прапіў усе царкоўныя грошы. Каб гэтым не наклікаць на сябе гневу божага, ён пайшоў у царкву, стаў перад іконаю святой Варвары і пачаў замольваць грахі. А поп быў якраз у царкве ды пачуў, што параста моліцца, узяў і стаў за іконаю Мікалая-цудатворца. Параста б'е паклоны ды ўсё просіць Варвару:

— Даруй мне, Варвара, больш такое не паўторыцца!

А поп з-за Мікалая як загудзе басам:

— Не дарую, не дару-у-ю!

Павярнуўся тады параста да Мікалая ды с сэрцам і кажа:

— Цябе не просяць, божанька, дык ты ўжо, будзь ласкавы, маўчы і не гудзі тут.

## НЕ ВЫТРЫМАЎ

У адной царкве ды курыў поп. І от яму захацелася ў час адправы закурыць, а тытуню не было. Ён ведаў, што дзяк курыць і хавае тытунь у алтары. Поп выйшаў з алтара ды да дзяка спявае:

— Ой, дзячэ, дзячэ, дзе ты тытунь прачэш?

А дзяк:

— У алтары з правага боку пад старою іконаю, пад самым Міколаю.

А поп яму:

— Амі-і-і-н!

І пайшоў закурваць.

## ПРОПАВЕДЗЬ БЕЗ ШПАРГАЛКІ

Кожную нядзелю поп гаворыць у царкве пропаведзь. У аднаго выходзіць добра, у другога — не надта.

Быў адзін поп і меў слабую памяць, таму ўсё гаварыў толькі па напісанаму. Дома з кніг выпіша, а ў царкве прачытае напісанае. Але аднойчы здарыўся выпадак: забыў поп паперку з пропаведдзю ў старых нагавіцах, бо гэта была вялікая служба, і ён надзеў новыя. А пропаведзь павінна адбыцца. Выйшаў поп на амбон і кажа:

— Хрысціяне! Жывіце, рабіце і маліцеся так, як у мяне ў старых нагавіцах напісана!

## КАЗАННЕ

Адзін поп усё тую ж самую гаварыў пропаведзь, і калі ўжо, бывала, завядзе ад Адама, то прыхаджане добра ведалі, што далей будзе, і памаленьку ўсе адзін за адным і пашыюцца з царквы. Адзін толькі сторож застаецца — трывае, трывае, а там і сам цягнецца дадому.

— Наце, бацюшка ключы, як скончыце, то царкву замкнеце.

## ЯК ДЗЯДЗЬКА ПРЫЧАШЧАЎСЯ

Адзін дзядзька хацеў наесціся мёду і пайшоў прычашчацца. Дык поп, вядома, дае па маленькай лыжцы віна і праскуру. А дзядзька думае: «Да й што гэта мне столькі — як сабацы муха. А ну дам рубля».

І даў папу рубля. А поп яму зноў маленькую лыжку. Тады дзядзька раззлаваўся, плюнуў ды й кажа:

— Вот няшчасце — не прычасце: даў рубля і не наеўся.

## ЯК КАРМАЛЮК ПАНА СПАВЯДАЎ

Быў сабе адзін пан, на выгляд рахманы-рахманы, ціхі-ціхі, ласкавы-ласкавы. Усё рабіў лагодна ды з увагай, ды з паклонам, а людзі баяліся яго горш агню, горш чумы і паморку лютага. Бо як толькі не выйдзе нейкі небарака на работу своечасова, то так і ведай, што прышле пан аканома і той забярэ ў яго ўсяго-наўсяго адну чвэрць дабра. А не выйдзе небарака другі раз, то ўжо палавіну, а як хто не паслухаецца, то ўсё дабро з хаты забярэ.

А біць, лаяць — барані божа!.. Ды колькі ж гора з ім людзі зведалі, колькі крывавых слёз пралілося, колькі сірот няшчасных засталося...

І вось паехаў той пан раз да царквы. Выспавядаўся ды й едзе цугам назад, але ў лесе чуе — крычыць штосьці ззаду. Аглядаецца — аж гэта дзяк царкоўны бяжыць за ім і крычыць пачакаць. Стрымаў пан коней, а дзяк і кажа яму, што так і так, ваша светласць, забыў айцец-бацюшка, якія грахі вы яму спавядалі, дык і паслаў мяне наўздагон, каб вы сказалі яшчэ раз, бо яму трэба адмаліць вашы грахі. Ну, пан і кажа зноў:

— Спавядаюся, каб дараваў мне бог грахі мае цяжкія, што я калісьці ў святую пятніцу скаромнае ў рот узяў, яшчэ калісьці, нехаця, кошачцы маёй хвост прыціснуў ды яшчэ фурмана вылаяў.

— Ага,— кажа дзяк,— і гэта ўсё, ваша светласць?

— Усё,— кажа пан.

— Ага,— кажа дзяк,— але вы, ваша вяльможнасць, забылі яшчэ адзін маленькі грашок — гэта ваша багацце, што вы яго са слёз сіроцкіх збудавалі.

Ды й раз з сябе дзякаўскае адзенне, а пан як убачыць, што гэта Кармалюк, ды як наробіць гвалту, а Кармалюк тады — раз, бярэ адну тапаліну ды й прыгінае, бо моцны быў, прыгнуў яе ды тады матузок пану на шыю — р-раз! ды й кажа:

— Ну падымайцеся, ваша светласць, там ужо й рэшткі грахоў аддасце.

Ды й пусціў таполю наверх. Толькі вецер свіснуў.

## ЦЫГАН НА ИСПОВЕДИ

Приходит цыган в деревню. Все люди исповедаются.

— Дай я исповедаюсь!

Он заходит к батюшке раньше. Видит у батюшки одна матушка, и тут стоит стол.

— Дай-ка я посмотрю в этот стол.

А матушка на кухне. Он посмотрел, а там у батюшки деньги. Он деньги забирает, в карман складает.

— Ну, раз деньги забрал, надо еще чего-нибудь взять, батюшке грехи отдать.

Видит, тут висит шапка пред иконой.

— Давай и эту сюда. Нам пригодится.

Он и шапку берет под свой халат. А матушка на кухне что-то делает. Он видит, что матушка побегла дальше. Цыган туда на кухню уже побёг. Оглянулся кругом — матушки нету. Тут поварешка стоит. Он эту поварешку схватывает:

— Что матушка варит?

Он повернул поварешкой в горшке, а там поросенок. Он поросенка выхватывает. Ну, хоть он не доварился, цыган думает: «И так сойдет, если в наши руки попадет».

И поросенка этого схватил. И сам отправляется подальше. Приходит:

— Матушка, а где батюшка?

— Да в церкви исповедает да мужикам закон показывает, чтоб мужики постом не ели скоромного — ни мясного, ни масленого.

Он и думает: «Почему ж у тебя поросенки варятся?»

— Ну, прощай, матушка!

— С богом, цыган!

Вот цыган приходит в церкву. Народу много. Все свечек покупают. (А раньше было так: свечку купи да на блюдо попу поклади — это и будет его уже.) Доходит его очередь идти попу отдать свои грехи. А он был такой, что обманывал людей, и он думал покаяться, а потом подумал: «Нас больше обманывают, как мы обманываем людей».

Он подходит к батюшке. Батюшка накрывает своей одеждой и спрашивает тихонько у его:

— А чем, цыган, грешен?

А цыган говорит:

— О, батюшка, грешен я! Раньше был, батюшка, грех такой у меня: у мужика коня украду, потом через несколько время проеду — сменяю и мужика обиждаю.

Батюшка сказывает:

— Нельзя этого делать. Это грех.

Он и говорит:

— О, батюшка! Тогда и сознаваться нельзя. Батюшка, за это грех и за тое грех, так лучше не сказывать.

Батюшка и говорит:

— Раз ты пришел на исповедь, ты должен всем грехам мне признаться, то я все выслушиваю.

— Если ж ты, батюшка, кому скажешь?

Батюшка отвечает:

— Мне нельзя. Если я скажу, то мне язык отрежут.

— Вот теперь, батюшка,— цыган говорит,— я все грехи признаю. Первый грех, батюшка, у меня — я в шкатулку деньги поклал. Второй грех — пред иконой шапку снял, а третий — с гороху поросенка выгнал.

Батюшка ему говорит:

— Это не грешно, если ты поклал деньги в шкатулку. Кто возьмет, тот попользуется. (Раньше были пред церковью скабёрки.) А пред иконой шапку снять — это тоже не грешно, потому что она святая. А поросенка выгнать с гороху — тоже не грех, пусть он не портит горох.

Цыган и говорит:

— Больше, батюшка, у меня грехов нету.

Батюшка приходит домой — кончилась вечерняя служба. Смотрит в свою шкатулку, а там денег нет. Он глядь на пред икону (там его шапка висела), а шапки нет. Он сразу смекнул, что цыган правду признавался.

— Ну, давай, матушка, будем ужинать.

Матушка вытягивает горшок с печки. Поварешкой повернула там в горохе — поросенка нет. И говорит:

— Батюшка, поросенок разварился, что и костей нету!

Ну, у батюшки душа скрипит, что денег нету, шапки нету, уже и в горохе поросенка нету. Он и думает: «Это цыган и выгнал, свой грех отдал. Ну, ладно. Придет завтра аль нет?»

Даже его тоска целу ночь била, батюшку:

— Может быть, цыган сдобрится и отдаст мне деньги.

Пришел батюшка в церкву причащать народ, а сам все посматривает в двери, не идет ли цыган сюда. Видит: идет цыган. Цыган приходит, и он кричит:

— Цыгане, цыгане-е-е, полевые дворяне-е-е, людей обманывают, со стола деньги забирают, на исповеди в шкатулку

складают, пред иконой шапку снимают, а поросенка с гороху выгоняют...

Ну, а цыган, ничего не сказавши, за язык свой стал хвататься. Батюшка увидел, что язык отрежут ему, как он сказал. Батюшка запел:

— Господи благослови-и-и, все прощаю.

Что с возу упало, то пропало.

## НЕ ЎТАІЛА

Уцёк чалавек з войска. Зрабіў у лесе будан і там жыў. Ніхто пра яго не ведаў, толькі жонка. Яна яму туды есці насіла.

Жонка была вельмі набожная. Перад вялікаднем пайшла спавядацца. Сказала, якія ў яе грахі. А поп пытае:

— Нічога не ўтаіла?

— Нічога.

— А хіба тое не грэх, што ты зацяжарала без свайго мужа?— спытаў поп, бо ўбачыў у яе вялікі жывот.

— Ды гэта ж ад майго мужа,— вымушана была прызнацца жанчына і ўсё расказала.

Калі ішла з царквы, зайшла да кумы. У кумы засядзелася. А як ішла дадому, то ўбачыла: жандары вядуць яе мужа.

— Ну, ці выспавядала-с-ся, Марыя?— сказала сама сабе.

## ЯК КУМ АДВУЧЫЎ СВАЙГО КУМА АД СПОВЕДЗІ

Пайшоў селянін да папа спавядацца. Поп яго пытае:

— Колькі багоў на небе?

А селянін кажа:

— Пяць.

Поп выцяў селяніна крыжам па галаве. Потым зноў пытае:

— Колькі багоў на небе?

А селянін адказвае:

— Пяцьдзесят!

Поп зноў ударыў селяніна крыжам па галаве так, што ў таго аж у вушах зазвінела. Ледзьве вырваўся селянін ад папа. Ідзе дадому і сустракае свайго кума.

— Ды куды, дарагі куме, у божы час выбраўся?

— Іду спавядацца.

— А ведаеш, куме, колькі багоў на небе?

— Ведаю! Адзін бог на небе.

Селянін засмяяўся:

— Ой, куме, я казаў, што і пяць, і пяцьдзесят, але поп мяне мала не забіў. А калі скажаш, што адзін, поп цябе заб'е.

Кум з кумам вярнуліся дадому і болей не хадзілі да споведзі.

## КАЛІ ВЯЛІКДЗЕНЬ

Пан пытае:
— Калі вялікдзень?
А мужык адказвае:
— Тады вялікі дзень, як есці нечага.

## БЯДА

Што ж ты, кума, так зажурылася?
— Э, дай мне спакой! На споведзі за пакуту загадалі мне аж сем ойчэнашаў адмовіць, а я толькі адзін умею.

## НЕ ТОЙ АПОСТАЛ

Сварыліся дзяк з папом. Пайшоў дзяк чытаць апостала на літургіі. Поп крычыць:
— Не той апостал!
Дзяк сабе чытае.
Зноў поп:
— Не той апостал!
Дзяк звяртаецца да людзей і кажа:
— Але, людзі чэсныя, хіба не гэты наш апостал?
І чытае сабе.
Поп крычыць:
— Пераступі!
А дзяк не звяртае ўвагі.
Зноў лемантуе поп:
— Пераступі!
Дзяк не вытрымаў. Кінуў на зямлю апостала, пераступіў яго нагою.
— Ды не так! Главу прапусці! — лютуе поп.
«Пачакай, навучу і я цябе»,— думае сабе дзяк.
Пакінуў поп Евангелле і пайшоў з кадзілам па царкве. Дзяк выняў закладку з кнігі і перакінуў далей. Давялося чытаць Евангелле, а закладка не там, дзе трэба. Поп глядзіць, шукае да ўжо кажа:
— Гаворыць гасподзь!..— але хутка знайсці не можа. Перагортвае поп Евангелле да ўсё кажа:
— Гаворыць гасподзь...
А дзяк з кліраса:
— Ды няхай ужо гаворыць, што хацеў.

## ПАМАЛІЛІСЯ...

Прыйшла бабуля ў царкву да й кажа папу і дзяку:

— Наце вам, святыя айцы, па рублю і маліцеся за тапельца Якава.

— Памолімся, сястра, памолімся! — адказваюць дружна поп і дзяк, хаваючы грошы ў кішэню.

Ну, бабуля і падыбала сабе дадому.

Тады дзяк пытае папа:

— Дык што, бацюшка, памолімся за раба божага Якава?

— Трэба было, дзяча, таму Якаву на глыбокае не лезці! — адказаў поп.

## О!..

Сабраў поп веруючых ды й пачаў пропаведзь:

— Парафіяне! Занепадае наша вера, руйнуюцца храмы. Бог прагневаўся на нас. А ўсё таму, што некаторыя з вас па корчмах пачалі цягацца!

— О!..— вырвалася ў кагосьці з прысутных.

— Хто сказаў «О!..»? — спытаў поп.

— Ды я сказаў, ойча,— прызнаўся адзін чалавек.

— А чаму ты сказаў «О!..», раб божы?

— Нарэшце я ўспомніў, ойча, дзе мы з вамі галошамі памяняліся...

## ПАРАЗУМЕЛІСЯ

Прыйшоў поп да шаўца ды й кажа:

— Я ведаю аднаго дурня, які спачатку парэжа цэлую скуру, а потым сшывае.

А шавец падумаў, падумаў ды й кажа:

— А я ведаю аднаго дурнога, як хто-небудзь памрэ, дык усе людзі плачуць, а ён спявае.

## МУЖЫЦКІ РАЙ

У царкве поп заклікаў веруючых цярпець усе зямныя пакуты. За гэта, маўляў, пасля смерці яны трапяць у рай. А Іван не вытрымаў ды й кажа:

— А наш пан таксама трапіць у рай?

— Так, усе паны таксама будуць у раі.

— Дык я лепш падамся ў пекла.

— Правільна! — загаманілі людзі.— Бо з панамі і ў раі пекла будзе...

## ЯК БАГАТЫ ПАКАЯЎСЯ

Жылі два суседы — бедны і багаты. Бедны хадзіў галодны і абарваны. А аднаго разу ён пайшоў у горад, пабыў там нейкі час і купіў кароўчыну.

Багацей нагнуўся праз плот — пытае:

— Дзе ўзяў кароўку?

— Зарабіў у горадзе грошай і купіў на кірмашы. Праз тры тыдні куплю сабе і коніка. Тады стану гаспадаром!

«Глядзі ты, і жаба пнецца ў валы!» — падумаў багацей.

І праз тры тыдні гаспадар сказаў жонцы:

— Хадзем у пушчу. Як наш сусед будзе вяртацца з горада, то заб'ём яго і забяром грошы...

Заселі яны ў лесе. Чакалі цэлы тыдзень і добра згаладаліся. Пад вечар убачылі беднага суседа, што вяртаўся з горада. Багацей выскачыў з карчоў, ударыў яго сякерай — забіў. Забралі торбу і ўцяклі ў яр. Там адразу абмацалі торбу, вывернулі яе, але знайшлі толькі акраец хлеба і кавалак сала. Багацей і яго жонка ўзрадаваліся і гэтаму, бо вельмі згаладаліся.

Елі, елі, калі раптам жонка спахапілася:

— Ой, чалавеча, зараз пост святы — вялікі грэх сала есці!

— Праўду кажаш, жонка! Няхай бог даруе...— і чалавек выплюнуў з рота сала й перахрысціўся.

## ПРА ВЯЛІКАГА ГРЭШНІКА

Было гэта даўным-даўно, калі яшчэ людзі хадзілі на паншчыну.

Ідзе чалавек полем, журыцца:

— Вялікі я грэшнік. Што мне рабіць? А скора і паміраць трэба. Мушу ачысціць сваю душу.

І дадумаўся чалавек, што пойдзе да папа на споведзь.

— Калі выспавядаюся, на сэрцы мне будзе лягчэй. Можа святы бог і адпусціць мае грахі на тым свеце.

Як думаў, так і зрабіў. Зайшоў у царкву, перахрысціўся, стаў на калені і моліцца.

Закончылася набажэнства, людзі разышліся па хатах. А чалавек усё яшчэ перад іканастасам моліцца.

Убачыў чалавека поп, падышоў да яго і пытае:

— Хто ты такі? Якія ў цябе грахі?

— Я, пане свяшчэннік, вялікі грэшнік. За сваё жыццё на гэтым свеце я загубіў дзевяноста дзевяць душ.

Поп зацікавіўся чалавекам, падышоў да яго яшчэ бліжэй і пачаў распытваць далей:

— Так, так. Ты забіў дзевяноста дзевяць чалавек. Дык якія то былі людзі — бедныя, багатыя, сумленныя, нячэсныя?

— Я сумленных і бедных людзей не кранаў, бо іх досыць бог пабіў. Я адправіў на той свет багатых, якія пазабывалі пра бяду і смяяліся з народа.

Калі пан свяшчэннік пачуў тыя словы, так раззлаваўся, што аж пачырванеў:

— Ты страшны разбойнік! Ты вялікі грэшнік. Я такіх не спавядаю. Няхай цябе бог пакарае на тым свеце за тое, што ты чэсных людзей загубіў!

Калі чалавек пачуў такія словы, ускочыў на ногі і грозна сказаў:

— Пане свяшчэннік! Я забіў дзевяноста дзевяць чалавек, а цяпер заб'ю яшчэ й сотага! І няхай мяне бог карае, як хоча! Бо й вы такі, як тыя былі...

Поп так спалохаўся, што аж пабялеў.

— Та... та... бог літасцівы... Ён адпусціць табе грахі... Я цябе паспавядаю. Але ты мусіш несці кару за свае грахі. Зарэжаш вала, знімеш з яго шкуру, з яе зробіш сабе мяшок. У яго пакладзеш столькі цаглін, колькі душ ты пагубіў. І будзеш насіць іх да таго часу, пакуль мех сам па сабе не распадзецца.

Разбойнік паслухаў папа. Сшыў сабе са шкуры мяшок, паклаў у яго дзевяноста дзевяць цаглін, узяў ношу на плечы і пайшоў па свеце. Нямала гадоў з ношай хадзіў, а мяшок не распадаўся.

Аднойчы грэшны чалавек ішоў полем засмучаны і здалёк заўважыў людзей, што на паншчыне рабілі.

Падышоў грэшнік бліжэй, глядзіць, а пад дзічкаю — калыска. Калыска вялікая, не дзіцячая, а людзі па чарзе падыходзяць і калыску калышуць. Панскі гайдук стаіць каля самай калыскі і б'е людзей бізуном, бо людзі не могуць пану дагадзіць. Калі адзін калыша памалу, пан крычыць, а гайдук б'е бізуном! Другі калыша хутка, пан крычыць, каб калыхаў памалу, а гайдук і тут б'е бізуном.

Глядзіць разбойнік на людскую муку, глядзіць і ківае галавою. «Божа праведны! — падумаў разбойнік.— Якое няшчасце выпала на людзей! Людзі галодныя, босыя, змучаны, а ён ляжыць без работы і гора, а яго яшчэ і калышуць. Няма праўды на зямлі! Госпадзі, як трываеш такую несправядлівасць?»

І распалілася сэрца разбойніка лютым гневам:

— Хоць як цяжка будзе мне насіць сто цаглін, але мушу вызваліць тых людзей ад мукі.

Стаў каля калыскі і сказаў:

— Людзі чэсныя! Дайце мне, каб я яго крыху пакалыхаў. Закалыхаў чалавек пана, аж той вылецеў на зямлю. Тут грэшнік ступіў пану нагой на чэравішча і паліцаю так бухнуў па галаве, што напалавіну раскалолася.

І адразу скураны мяшок распаўся.

## ВЯЛІКІ ГРЭШНІК

Даўно гэта дзеялася... Чула я ад старшых людзей,— а яны лгаць не будуць,— значыць, праўда была. Жыў на свеце дужа вялікі грэшнік. Такі грэшнік, што не было таго граха, каб ён не саграшыў. Такі быў злодзей, якога і свет не бачыў: ён і краў, і чыніў разбоі, губіў людзей без пакаяння... Нават чорту душу запрадаў; чараваў, калі краў, абарачваўся ваўкалакам, пушчаў моравае паветрые — і не было ліку яго грахам.

Прыйшлося яму паміраць. Тут такі страх яго агарнуў, што не магла яго душа пакінуць цела. Няма яму смерці, ды й годзе. Тут успомніў ён на бога. Захацеў паспавядацца, душу ачысціць. Сколькі ні прыводзілі к яму папоў, ксяндзоў,— як раскажа ім свае грахі,— не даюць адпушчэння. Такі ён быў грэшнік. А смерць не прыходзіць, а душа яго мучыцца, з целам не можа разлучыцца.

Раздаў ён багацце ўбогім і пайшоў па свету шукаць таго ўгодніка, каб замаліў яго грахі, разлучыў душу з целам. Ідзе, распытвае...

Параілі яму людзі наведацца к аднаму пустэльніку, што цэлае жыццё жыў у пушчы, еў толькі хлеб з вадой, маліўся, душу спасаў і ўгодны быў богу. І пайшоў ён к яму. Прыходзіць, так і так, кажа: я дужа вялікі грэшнік, ратуй мяне, выспаведай. Ты ўгодны богу, можа адпусцяць мае грахі. Стаў спавядацца. Выслухаў яго той пустэльнік, кажа:

— Ты такі грэшнік, што цябе смерць не возьме, зямля не прыме, пакуль ты свае грахі на гэтым свеце не адпакутуеш, пакуль ты не зробіш дабра, каб яно твае грахі пераважыла. А датуль ты будзеш мучыцца.

І пайшоў той грэшнік заслужваць спасення. Хадзіў ён на афяры, і хадзіў на каленях, марыў голадам сваё цела, нанімаўся к сярдзітым гаспадарам на работу, каб яго білі, лажыўся за другіх пад розгі, служыў хворым і ўбогім — смерць не прыходзіць. Хацеў на сябе рукі налажыць: тапіўся, вешаўся і рэзаўся — усё няма смерці, толькі мукі прымаў надарэмна.

І так прайшло многа год. Раз ідзе ён полем. Ідзе і праклінае сваю долю. Узяла яго злосць, што няма яму смерці. «Дакуль я буду мучыцца?» — думае ён сабе. А быў першы дзень вялікадня. Ідзе ён і бачыць многа-многа народу на полі — пашуць, барануюць. «Што ж бы гэта значыла? — думае ён.— Першы дзень вялікадня, такое свята, што і птушкі святкуюць — гнёзды не ўюць, а тут народ марудзіцца». Падыходзіць бліжэй, бачыць — войт пахаджвае паміж работнікамі і бізуном іх падганяе. Тыя плачуць, жалуюцца:

— Што гэта,— кажуць,— ты насміхаешся над намі? Хіба няма ў цябе бога ў сэрцы? Б'еш нас, катуеш у будні, у свята не даеш адпачынку... І нават сягоння, на вялікдзень, выгнаў на прыгон!

А войт раве, як апантаны, бізуном лупіць. Глядзеў, глядзеў той грэшнік. «Во,— думае,— акаянны, ні папушчы мяне! Падумаць гэта, як народ мардуе!» Падышоў ён к войту і кажа:

— Што ты робіш? За што людзей мучыш?

А войт, ні слова не кажучы, як нахлысне бізуном цераз лоб,— аж іскры з воч пасыпаліся. Азвярэў наш грэшнік, схваціў камень, як пусціць ім у войта... І разбіў яму чэрап. Войт не айкнуў — сасвяжыўся. А грэшнік і скончыў сваю пакуту.

## ПА СПРАВЯДЛІВАСЦІ

Здарылася, што адзін год была вялікая засуха. Людзі вельмі бедавалі, а поп у царкве на пропаведзі адпаліў веруючым такое:

— ...І сніцца мне пан бог...

Веруючыя насцярожыліся і замерлі. А поп далей:

— ...Гаворыць мне, што засуха ёсць кара за бязбожнасць.

У царкве цішыня. Поп упэўнены, што пераканаў веруючых, і вось пасыплюцца яму грошы за службу.

На другі дзень сустракае поп каля царквы веруючага падхаліма. І цуд! Веруючы, праходзячы каля яго, не зняў шапкі. Поп здзіўлена:

— Міхайла! Як? Нават шапку не здымеце?

Міхайла хутка адказвае:

— Я ўжо вам не веру.

— Што?!

— Вы сніліся мне ўчора, з нядзелі на панядзелак, і ўва сне сказалі мне, каб вам не верыць, бо вы брэшаце.

— Няпраўда! — крычыць поп.

— Ага! Як вы з богам гаварылі ўва сне, дык я паверыў... А як толькі з вамі ўва сне гаварыў, то вы мне не верыце. Гэта ўжо несправядліва,— сказаў Міхайла і пайшоў далей.

## НЯДОБРА ХРАПЦІ

Г р ы ц ь к о: — А я кажу, што нядобра ў царкве храпці ў час казання.

В а с і л ь: — І я так кажу, бо можна іншых разбудзіць.

## ТАК У КНІЗЕ НАДРУКАВАНА

У час праверкі інспектарам вучань чытае:

— Мы ўсе на свеце грэшнікі...

Настаўнік перапыняе вучня і звяртаецца да інспектара:

— Пане інспектар, даруйце, але тут сапраўды так надрукавана.

## АСУЧАСНІЎ

Адзін поп усё страшыў людзей, што іх за грахі бог і святы Ілля пакараюць.

— Гром заб'е кожнага грэшніка! — закончыў поп сваё казанне.

— А можа і не заб'е,— кажа на гэта адзін чалавек.— Усюды ж грамаадводы пастаўлены.

Поп не ведаў, што на гэта сказаць. Але да другой нядзелі надумаў. У час казання доўга гаварыў пра тое, што ўсе людзі грэшныя перад богам, і закончыў словамі:

— Кайцеся, людзі! Бо электрыка заб'е кожнага грэшніка!

## ЛІСА-КАТАЛІЧКА

Ішла сабе лісіца, знайшла гавядзіну паджараную і жалеза наведзенае. Дагадалася яна, што гэта яе хочуць злавіць, і не зачапіла мяса. І пайшла далей. Сустракае яна мядзведзя.

— Кумок-галубок, ці снедаў ты сягоння?

— Не, кумка-галубка,— кажа мядзведзь,— не здарылася!

— Ну, хадзі ж, я цябе завяду ў адно месца,— слаўнае снеданне будзе! Сама б з'ела, ды сягоння серада, мне нельга есці. Я каталічка.

— Дзякую, кумка-галубка, хадзем!

Вось лісіца і падвяла мядзведзя да тэй гавядзіны. Як толькі ён сунуўся да яе, так яго жалеза і абхваціла і падняло ўгору. Лісіца тады ўзяла гавядзіну і есць. А мядзведзь і кажа:

— Кумка-галубка, табе ж серада!

— Э, кумок-галубок, няхай той серадзіць, хто ўгору глядзіць!

## ЯК ДЗЯЦЕЙ ХРЫСЦІЛІ

Ігналёў сын ходзіць скручаны вось праз якую прыгоду. Уздумаў Ігнат хрысціць сына, а гэта было зімой, на санках вёрст дваццаць паехаў да царквы, сына малога ў кажух укуталі — і да папа.

Поп у царкве ў купель паклаў; вада, што з прорубі,— халодная; дзіця малое і пасінела адразу. Дамоў неяк даехалі, а праз дзенъ яно малака не бярэ. Ногі, рукі неяк скруціла, так, можа, з год качалася ў ложку, ледзь дзіця адхадзілі, а поўзаць пачаў, дык не як усе дзеці — хадзіць да гадоў трох не мог. З таго часу і калекай астаўся.

Вось якая «карысць» ад гэтага хрышчэння.

Дзеці нашы жывуць здаровыя і без папоўскага хрышчэння.

## ПРА ДВАНАЦЦАЦЬ АПОСТАЛАЎ, АБО ЯК ЖОНКА МУЖА З БЯДЫ ВЫРАТАВАЛА

У адным мястэчку згадзіўся майстар зрабіць для новага касцёла дванаццаць постацей апосталаў. Заключыў біскуп з ім умову на тэрмін і ўзяў з яго шмат грошай у залог. І вось ужо дзевяць постацей былі ў майстра гатовы, а тры асталіся няскончанымі, калі ён запіўся, і так запіўся, што забыўся зрабіць у тэрмін апошнія тры постаці. А жонка яго паглядзела ў яго паперы і даведалася, што ўжо канчаецца тэрмін і шмат грошай прападзе ў яго. Тады яна пабегла ў мястэчка шукаць мужа і знайшла яго ў карчме — п'е ён сабе гарэлку, ні аб чым не тужыць. Вось жонка і кажа яму:

— Дурань ты! Заўтра раніцай камісія прыедзе прымаць дванаццаць апосталаў, а ты не зрабіў яшчэ трох постацей. Прападуць твае грошы!

Як ускочыў ён з-за стала, як схапіў сябе за чупрыну!

— Скажы-ка ты мне, што рабіць? Я ж прапаў!

— Вось ты паслухай мяне. Кідай гарэлку піць і пойдзем дахаты, будзем нешта рабіць. Калі паслухаеш мяне, я цябе з гэтай бяды выкуплю.

— Буду цябе слухаць,— кажа муж.

Прыйшлі дахаты. Жонка гаворыць:

— Ты сядзі ў хаце, пакуль я не вярнуся.

Увабралася яна ў сваю лепшую сукенку і зноў пабегла ў мястэчка. Была яна харошая, маладая, а яшчэ як адзелася хараша, дык проста не наглядзецца. Бяжыць яна па вуліцы і вітаецца са знаёмымі (як у жонкі выдатнага майстра шмат было ў яе знаёмых у мястэчку). Падыходзіць да яе малады афіцэр і пытаецца:

— Дзень добры, мадам. Куды вы спяшаецеся?

Яна яму кажа:

— Па справах.

— Дазвольце, мадам, пагутарыць з вамі.

Яна кажа:

— Не маю часу — спяшу. Калі жадаеце са мной гутарыць, прыходзьце да мяне на кватэру ў дзевяць гадзін вечара. І паляцела далей.

А малады афіцэр пайшоў купляць віна і закускі — збіраецца ўжо на дзевяць гадзін у дом майстра.

Спатыкае на вуліцы жонку майстра стары палкоўнік і кажа:

— Дзень добры, чароўная мадам. Дазвольце праводзіць вас і пагутарыць з вамі.

Яна кажа:

— Спяшу па справах! Калі жадаеце са мной гутарыць, прыходзьце да мяне на кватэру ў дзесяць гадзін.

І далей паляцела па вуліцы.

Спатыкаецца з папом. Поп кажа:

— Красуня вы мая, што ў вас чуваць добрага? Можа, зайдзеце ў маю хату выпіць чайку?

— Я не маю часу — спяшу па справах,— кажа яна. — Калі жадаеце,— прашу на кватэру ў адзінаццаць гадзін.

І вось з'яўляецца яна дамоў з дарагімі пакупкамі (накупляла яна выпіўкі і закускі). Майстра бачыць, што жонка прынесла такое багацце, і не разумее нічога. Яна гаворыць:

— Будуць справы ў нас сёння! Прыйдзе да мяне малады афіцэр у дзевяць гадзін вечара, а ў дзесяць гадзін прыйдзе стары палкоўнік, а ў адзінаццаць гадзін — бацюшка. А ты выйдзі цяпер з хаты і прыходзь у палавіне дванаццаці.

Майстра забраў інструменты і сумку сваю і пайшоў.

Якраз у дзевяць гадзін вечара прыязджае малады афіцэр. Здароваецца з жонкай майстра і садзіцца з ёй за стол. Выпілі па чарцы і разгаварыліся. Ён пытаецца:

— А скажы, што б ты рабіла, калі б твой мужык дахаты вярнуўся?

— Нічога,— кажа,— я б вас схавала.

І вось ужо падыходзіць дзесятая гадзіна. Афіцэр кажа:

— Чаму ж так доўга не вядзеш у свой пакой?

Тут стала чутна, што на дзядзінцы колы грукацяць. І ў акно застукаў нехта. Афіцэр пытаецца:

— Хто такі?

Яна кажа:

— Можа, мужык мой?

— Што мне рабіць?

— Здымайце, пан афіцэр, адзенне. Хутчэй здымайце!

Калі ён распрануўся, яна кажа:

— Цяпер станавіцеся ў рад да гэтых постацей.

Зрабіўся афіцэр дзесятым апосталам, стаў і стаіць.

Адчыняе яна дзверы, уваходзіць палкоўнік. Паздароваліся і за стол селі. І таксама было з палкоўнікам, як з афіцэрам. Падышоў час, і ў акно застукаў поп. Палкоўнік ускочыў і пытаецца:

— Што рабіць?

— Здымайце, пан палкоўнік, адзенне сваё і станавіцеся ў рад з гэтымі апосталамі. Пахутчэй толькі!

Ён і стаў у рад — зрабіўся адзінаццатым апосталам.

Тут яна ўпусціла і бацюшку. Бацюшка таксама паздароўкаўся. Селі за стол, выпілі, пагутарылі. Тады ён пытаецца:

— А што было б, калі б твой мужык прыйшоў дахаты?

— Нічога. Скінулі б сваё адзенне і сталі б у рад з апосталамі.

І якраз муж пастукаў тады ў акно. Яна кажа:

— Хутчэй раздзявайцеся, бацюшка. Праўда, мой мужык дахаты ідзе.

Бацюшка раздзеўся і стаў у рад з палкоўнікам — дванаццатым апосталам зрабіўся.

Прыходзіць майстра і глядзіць — стаіць дванаццаць апосталаў. Дае яму жонка есці — выпіць, закусіць і гаворыць:

— Спаць не кладзіся, пачынай рабіць, бо як развіднее, прыедзе камісія апосталаў прымаць.

Ён закусіў, выпіў. Адзеў рабочае адзенне, бярэ ў рукі фарбу і пензелі і падмацоўвае фігуры (пачаў падмалёўваць нежывыя фігуры).

Вось прыязджае камісія прымаць апосталаў. А ў камісіі быў біскуп і шмат ксяндзоў. Першай справай селі яны выпіць і закусіць. Добра выпілі і закусілі — аж у галаве зашумела ў кожнага. Адзін ксёндз устаў, бо ён гарэлкі мала піў, і пайшоў постацей гэтых глядзець. Усіх апосталаў паглядзеў, а на трох апошніх надта добра прыглядаўся. Прыйшоў да камісіі і кажа:

— Вось гэта дык майстра! Зрабіў дзевяць апосталаў падобных да жывых, а трох — саўсім як жывыя.

Тады біскуп і тыя ксяндзы ідуць паглядзець. Біскуп кажа:

— Надта добра зробленыя, толькі гэтых трох голых апосталаў трэба яшчэ падчысціць.

Вось майстар бярэ разец і давай іх падчышчаць. Падыходзіць ён да трох апошніх апосталаў, а яны давай уцякаць. І як зачапіўся бацюшка за адну постаць — паваліўся, і постаць пабілася. І ўцяклі тры апосталы.

Тады біскуп крычыць:

— Зачыняй хутчэй дзверы, бо ўсе апосталы паўцякаюць і паразбіваюцца. Ужо няхай мы страцілі чатыры постаці. Мы заплацім за іх удвайне. Мы адложым табе, майстар, тэрмін, і ты зрабі іх нанава.

Тады камісія паехала, а майстар абняў сваю жонку і сказаў:

— Дзякую, што ты мяне з бяды выратавала.

І пачаў майстар рабіць постаці чатырох апосталаў.

## КАЗКА ПРА АДНАГО ДЗЕДА І МІКОЛУ

Прыйшоў стары дзед у царкву, купіў свечку, але яшчэ не рашыў, каму свечку паставіць. Пастаяў ён, пастаяў ды й пайшоў шукаць якую-небудзь найбольш палезную ікону, а свечку ў карман палажыў. Пастаіць дзед перад адной іконай, памоліцца і далей ідзе. Так дайшоў ён да Міколы. Стаў дзед на калені, моліцца і думае: «Ну, Міколе свечку і пастаўлю». Палез дзед у карман, а свечкі няма. Раззлаваўся дзед ды як крыкне на Міколу: «Ах ты, стары чорт, за чым глядзеў? Вось табе хвіга, а свечку ўкралі».

## МУЖЧЫНА ЗА МУЖЧЫНАЮ ЦЯГНЕ

Адна баба хацела даць на мшу да пана Езуса, каб пан Езус укараў яе мужыка, што ён з яе збыткаваўся. Ну, так ідзе і спатыкаецца з кумою да й кажа: так і так, а кума кажа:

— Не давай,— кажа,— да пана Езуса, лепш да найсвентшай маткі, бо такі ведама, што мужчына за мужчынаю пацягне.

## ЗА ШТО?

Настаўнік пытаецца вучня ў школе:

— За што бог выгнаў Адама і Еву з раю?

— За тое, што яны з'елі зялёнае яблычка, а зялёнага няможна есці, бо жывот забаліць.

## НЕ ДАРАВАЎ

— Ці праўда, што бог забраў сабе тваю ўжо трэцюю жонку?

— Праўда, браце. Але я ўзяў сабе чацвёртую: бярэ бог, бяру і я.

## «СВЯТЫЯ» ІКОНЫ

Мужык, купіўшы сабе на кірмашы то таго, то сяго патроху, хацеў ужо было ехаць да гасподы, аж ось — на табе! Чорт панёс да рускага, што прывёз абразы прадаваць. Як той да яго прыстаў: «Купі да купі, убачыш, якое благаславенне бог табе пашле з гэтымі іконамі». Да яшчэ багата чаго наабяцаў, што і не разбярэш, і такі прымусіў купіць матку боскую ды яшчэ якогась святога ўгодніка. Аддаўшы без мала дзесяць злотых, паклаў пакупку на калёсы ды й паехаў. Едзе ды едзе, уехаў у лес ды й стаў драмаць. Доўга ківаўся то сюды, то туды, а далей прачнуўся ды й глянуў угору на сонца.

— А-ау! Ужо і папалуднаваць пара,— ды зір туды, сюды,— оуа! А дзе ж мая кайстра?! Мабыць, згубіў, трэ' йсці шукаць — яна дзесь недалёка ўпала.

Падкінуў кабыле травы, пастаўляў абразы паўз дарогу з абодвух бакоў, штоб наглядалі ад ваўка, а сам пайшоў шукаць згубы. Ішоў, ішоў мо' вярсты са дзве — аж вось ляжыць сярод дарогі!.. Забраў сваё дабро ды й вярнуўся, аж тут... воўк кабылу задушыў! Мужык плюнуў у жменю, выразаў добрую папліску і давай лупіць святога ўгодніка.

— Я,— кажа,— аддаў за цябе столькі грошай, што ты і з сваімі патрахамі не варт, а ты мне зрабіў гэтакую пакасць, дык на ж табе яшчэ! На яшчэ!

Ды і б'е, ды і б'е; аж едзе чалавек, ды як разгледзеў, што тут робіцца, дык стаў крычаць:

— Кум! Ці ты скруціўся? Ці ты бога не баішся? Біць святога ўгодніка?!

— Які ён святы... А калі пастаўлены, то няхай жа, падла, пільнуе, а ён бач: губы развесіў, вочы вылупіў ды й глядзіць, як баран, што воўк кабылу душыць.

І пабіў вобраз на шчэпачкі.

## МАСТАК І ІКОНЫ

Раз у Лоеве на кірмашы маладзіцы зайшлі да мастака, што малюе і прадае багі, ды й сталі выбіраць святых. Адна просіць — дай ёй святога Міколу.

— Вось табе,— кажа,— святы Мікалай-цудатворац.

— Мікола ж,— кажа маладзіца,— стары, з белаю барадою, а гэта нейкі безбароды блазнюк.

— Пагаліўся, так і без барады, ды, між іншым, чорт з ім, зараз яму падмажам бораду, а ты не гавары так бязбожна пра святога ўгодніка, а то глядзі — грэшна табе будзе.

Папляваўшы святому ў морду, выцер нейкаю караўкаю да, намазаўшы белым бараду, паставіў вобраз на сонцы, каб сох.

— Цяпер,— кажа,— калі высахне, будзе сапраўдны святы цудатворны ўгоднік; тады бяры і цягні дамоў.

Другія выбіралі, выбіралі, а мастак, што прынясе абярэмак, ды хваліць, хваліць, а далей як маладзіцы не спадабаюць ніводнага або не зыйдуцца на цэну, бразне аб зямлю ды й ідзе за новымі. Насіў ён так, насіў, ды як ужо вельмі апастылела, то крыкнуў з усёй сілы:

— Ды ну вас к чорту з вашымі святымі!

І, паказваючы нагою на ворах абразоў, гаркнуў на свайго хлопца:

— Убяры гэту сволач!

## ПРА БАГАРОДЗІЦУ І СВЯТОГА МІКАЛАЯ

Ехалі раз два кумы з горада. Былі на рынку, купілі сяго, таго, а яшчэ адзін купіў сабе багародзіцу (ікону, значыць), а другі — святога Мікалая. Ну, едуць. А на дарозе карчма, людзі спыняюцца.

— А што, куме, заедзем?

— Заедзем. Толькі ж коні як?

— Ды чаго там коні? А багі ж навошта?

— Ды й сапраўды!

От яны пад'ехалі, злезлі з вазоў, адзін паставіў у сябе на возе багародзіцу, другі — Мікалая.

— Вартуйце ж тут!

А самі ў карчму. Сядзелі там, выпівалі, потым выходзяць — коней няма. Укралі. Пляснулі рукамі, а тады адзін звяртаецца да святога Мікалая:

— Ну, няхай жа тая з дзіцем не ўгледзела, а ты ж, стары сабака, куды глядзеў?!

## НА КАГО ПАДОБНА БАГАРОДЗІЦА

Адзін мастак жыў з таго, што іконы маляваў. Запрасіў яго поп намаляваць вобраз багародзіцы дзевы Марыі. Цэлы месяц жыў мастак у сяле, цэлы месяц маляваў багародзіцу. Не адзін прыехаў мастак у сяло, прывёз з сабою і сяброўку, каб дапамагала яму фарбы расціраць.

Закончыў мастак работу, паклікаў папа і кажа:

— Тут мая работа — дайце абяцаныя грошы.

Поп глядзеў-глядзеў на ікону ды й кажа здзіўлена:

— Пане мастак, багародзіца штосьці дужа на вашу сяброўку падобна.

— А вы хацелі б, каб на вашу тоўстую пападдзю была падобная? — спытаў мастак.— Дык каля такой іконы ніхто не памоліцца.

## ІКОНА БЕЗ СВЯТОГА

Маладзіца прынесла да царквы свяціць ікону, а на той іконе толькі і намалявана — хатка да садочак, а ніводнага святога няма. Дык бацюшка, убачыўшы такую ікону, пытае:

— А чыя гэта ікона?

Маладзічка абрадавалася, што бацюшка звярнуў увагу на яе ікону, кажа:

— Мая!..

— А якога ж гэта святога?

— Маляр казаў, што святы Анухрый.

— А дзе ж ён?

— Маляр казаў, што ў хатцы сядзіць...

— Бяжы ж, сэрца, да маляра, скажы, няхай ён папросіць святога Анухрыя выйсці з хаты на двор.

## БОЖЫЯ ІКОНЫ

У адным сяле жыў мастак. От ён намаляваў багоў ды й паехаў на сяло прадаваць іх. Заходзіць да адной старой, яна і пытае:

— А ці няма ў цябе, сынку, Грыгорыя Пабеданосца?

Мастак адказвае:

— Як гэта няма, ёсць, бабуля.

Ды і пачаў шукаць паміж іконамі. Шукаў, а яго няма. Дык ён знайшоў святога Яўхіма і кажа:

— Ёсць, бабуля.

Бабуля ўзяла ды й здзіўляецца:

— Хіба гэта Грыгорый? Гэта ж не ён. Грыгорый гэта той, што на кані перамагае мячом змея.

Але мастак не разгубіўся — трэба ж прадаць ікону — і кажа старой:

— Гэта, бабуля, як ён быў багаты, дык ездзіў на кані, а цяпер ён бедны, то ходзіць пешкі.

## ДВАНАЦЦАТЫ АПОСТАЛ

Адзін мастак у царкве маляваў «тайную вячэру». У той самы час, калі ён закончыў маляваць адзінаццатага апостала, у царкву зайшоў поп. Паглядзеў ён на ікону, палічыў апосталаў, а потым і пытае:

— А куды ж то, мастача, дванаццаты апостал дзеўся?

— Дванаццаты? Бачце, бацюшка, тыя вось селі вячэраць, а дванаццатага па гарэлку паслалі,— адказаў маляр.

## ПУТАНИК

Жили старик со старухой, и были у них две дочери. Одну выдали замуж.

Ждут год, другой, а внучат не дождутся.

Старик старуху начал посылать к попу: закажи батюшке молебен — авось, намолит внучат.

Собралась старуха, взяла яиц да курочку. Приходит.

— Ладно,— говорит поп,— бери рублевую свечку, ставь Николе-угоднику, а я молебен отслужу.

Отслужил, а внучат все нет.

Прошел год. Старик опять гонит старуху к попу. Отнесла она не одну, а пару кур, дала опять и яиц, и денег, ставила Николе рублевую свечу. И опять молебен не помог.

Снова старик провожает старуху молиться. Приходит она к попу, а тот ей свое: «Бери рублевую свечку, ставь Николе». Тут старуха на него напустилась:

— Не стану ставить свечи этому путаннику, и так уж два раза ставила. Он намолил сыночка дочери, да только незамужней!

## ШТО КУПІЛА

— Эй, што купіла?
— Ды бога.
— Ды нейкі ж крываносы.
— Э, чорт яго бяры, абы на сцяне вісеў.

## АБРАЗ І ТАБАКА

— Быў на кірмашы, куме?
— Быў. Абраз купіў.
— А ну, пакажы.
— А бадай жа цябе, куме... не магу развязаць: рукі памерзлі.
— Дык цягні, куме, з капшука табаку — закурым.
Давай баржджэй.

## ЛИБО В РАЙ, ЛИБО В АД

Одна баба, ставя по праздникам свечку перед образом Георгия Победоносца, завсегда показывала змию кукиш:

— Вот тебе, Егорий, свечка; а тебе шиш, окаянному!

Этим она так рассердила нечистого, что он не вытерпел, явился к ней во сне и стал стращать:

— Ну уж попадись ты только ко мне в ад, натерпишься муки!

После того баба ставила по свечке и Егорию, и змию. Люди и спрашивают, зачем она это делает?

— Да как же, родимые! Ведь незнамо еще куда попадешь: либо в рай, либо в ад!

## ЛЕЗЕТ СО СВЯТИТЕЛЯМИ

У крестьянина Ивана волки двух овец загрызли. Иван пошел к попу за советом. Поп говорит:

— Я тебе святых дам, что обороняют от волков.

И дал ему икону: святых Власия, Флора и Лавра. В пятницу это было, а в субботу у самого попа волки загрызли корову. Иван тогда потащил икону опять к попу:

— Возьми, батюшка, пригодится.

А поп бегает по двору и не слушает. Иван опять:

— Батюшка, я святителей принес.

— Да отвяжись ты, Христа ради,— у человека горе, а он со святителями лезет.

## НИКОЛА ЛЕТНИЙ И НИКОЛА ЗИМНИЙ

Церковный староста, купец с большой бородой, заказал иконописцу икону Николы Милостивого.

Прошло значительное время, и староста решил зайти к иконописцу проверить, как у него идет работа.

— Ну, зашел посмотреть икону.

Иконописец ему:

— А-а пожалуйте, пожалуйте! Вот готова!

Староста рассматривал, рассматривал икону, а потом недовольно заявляет:

— Да ты мне кого написал?

— Николу Милостивого,— говорит иконописец.

— Вижу, что Николу Милостивого, да вопрос в том,— какого: Летнего или Зимнего?

Иконописец опешил. Староста, сердито уставившись в иконописца, говорит ему:

— Да ведь ты мне Летнего Николу-то написал!

Иконописец повеселел и говорит:

— Пустяки, ваше степенство, вот сейчас напишу ему казанские пимы с красными пятнышками, и будет Никола Зимний!

## «АСВЕТНІК»

Выходзіць поп з царквы, а насустрач яму старая бабуля:

— А я да тваёй міласці, бацюшка.

— Чаго табе, старая?

— Ды вось народ гаворыць, што я ў цемры жыву...

— А ты перад угоднікамі свечак пабольш стаў, вось табе і пасвятлее.

## СВЯТЫ СПАС, ІДЗІ ДА НАС

Быў у аднаго папа парабак, а поп вельмі шкадаваў яму есці; так раз дабраўся той да смятаны: еў-еў, еў-еў, а што асталося, так вынес Спаса з царквы, абрабіў яго таею смятанаю да, на грушу пасадзіўшы, сам залез на хоры ды й сядзіць. Ажно ўваходзіць поп і спявае:

— Святы Спас, ідзі да нас, святы Спас, ідзі да нас! Падай яго, божа, нам, падай яго, божа, нам!

А парабак, седзячы, кажа:

— А калі ж не падам!

Так поп:

— Чаму не падасі?

— Таму што ты з парабкамі хлеба не ясі!

Калі поп уваходзіць у сад, ажно ля! — Спас на грушы сядзіць, смятанаю абмазаўшыся! Так ад таго часу заўсёды ўжэ еў разам з парабкамі.



Без святой воды и ладану и доходу нет монастырю.
Монастырю без явлений, что портному без иголки.
Не все то чудесное, что зовется небесное (о мощах).
На образ взглянешь — свят не станешь.
Богов не сеют, не орут, их люди малюют.
Воля иконника Пятницу на коне, а Егорья пешим писать.
Глупая баба и песту молится.
Из одного дерева икона и лопата.
Годится, так богу молиться, а не годится — горшки покрывать.
Взял боженьку за ноженьку да об угол.
Богу помолившись, сыт не будешь.
Вот тебе, боже, что нам не гоже.
Не поможет бабе кадило, коли бабу скосило.
Сколько ни молилась, Фекла, не вставил бог стекла.
И молебен пет, да легче нет (вар.: да пользы нет).
Жилами не нажить (вар.: не натянешь), то бог не даст.
Молитвой квашни не замесишь.
Аминем лиха не избудешь.
Богу молись, а к берегу гребись.
Бог-то бог, да и сам не будь плох.
Не боги же и горшки обжигают.
По-монашески спать — хлеба в поле не видать.
Кто спать горазд, тому «бог подаст».
Хлеба край — и под елью рай.
Святой боже пахать не поможет.
Прялка не бог, а рубаху дает.
Вози навоз, не ленись, так и богу не молись.
Господь сказал: «Дождь, иди, где просят»,— а он пошел туда, где сено косят.
И без кропила и кадила земля добро нам уродила.
Сколько дней у бога в году, столько святых в раю, а мы, грешные, их празднуем.
У бога что день, то и праздник.
Сегодня Саввы, завтра Варвары.
День свят — и дела стоят.
Святые угодники на пьяниц угодливы: что ни день, то праздник.
Варил поп пиво — не велико диво.
На никольщину едут мужики с поглядкой,
а после никольщины валяются под лавкой.
Праздники помнит, а будни забывает.

Великий богослов: все праздники знает по перстам.
И дурак праздники знает, да будней не помнит.
То не спасенье, что пьян в воскресенье.
Лучше не понедельничать да не бездельничать.
Праздники часты, а руки одиноки.
Сладок канун, да как бы не окунул.
В одном кармане сочельник, а в другом — Иван постный.
Пост не мост, можно и объехать.
Великий пост всем прижмет хвост.
В посту редька, да хрен, да книга Ефрем.
За еду не быть в аду.
Брюхо не зеркало: что попало в него, то и чисто.
Испостился, измолился в нитку, а все нет прибытку.
Бес и хлеба не ест, да не свят.
В пост у попа мясоед.
Кому скоромно, а нам на здоровье.
Поп велит поститься, а у самого рожа лоснится.
Попы говорят, что постное едят, а жрут скоромное.
Колокол в церковь сзывает, а сам в церкви не бывает.
Дан попу колокол, хоть звони, хоть об угол колоти.
Нехай звонят, их на барщину не гонят.
К вечерне колокол — всю работу об угол.
На псалтирь уже звонят, да нас не загонят.
Нет тяжелей — богу молиться да старый долг платить.
Для чего в церковь спешить? Не завтра ее ломать, еще поспеем.
Либо к обедне ходить, либо обрядню (хозяйство) водить.
Не до обедни, коли много обредни (обрядни, хлопот по хозяйству).
Повадишься к вечерне — не хуже харчевни:
нынче свеча, завтра свеча, ан и шуба с плеча.
«Деньги сюда, деньги сюда»,— кричат все колокола.
Близко церкви, да далеко от бога.
Три попа, а заросла в церковь тропа.
Напраслину терпеть, что богу свечки ставить.
Что больше народу в церкви, то поп выше руку заносит.
Всякий поп по-своему поет.
Всякий поп свою обедню служит.
Из одних уст клятва и благословение.
Всех и вся, и обедня вся.
Шабаш, миряне, обедня вся.
Хоть его святи, не святи, а он все в болото лезет (сказал мужик, уронив на улице в грязь пасхального жареного поросенка).
Как надо говеть, так и стало брюхо болеть.
Поп Ваньку не обманет, а Ванька попу правды не скажет.

Коли поп Сеньку не обманет, так и Сенька попу правды не скажет.
Худой поп свенчает — и хорошему не развенчать.
Поп руки свяжет и голову свяжет, а сердце не свяжет.
Крестом любви не свяжешь.
Ты батюшке печаль свою, а он у тебя деньгу твою.
Попу друг и недруг мил за золотую копеечку.
Святые денежки умолят.
Деньга попа купит и бога обманет.
По деньгам и молебен, по покойнику канун.
Каков молебен, такова и плата.
Попу темнота народа — источник дохода.
Не учись бога славить, а учись государством править.
Кому нечего делать, тот богу молится.
Кто во тьму смотрит, тот от света кривится.
Мы живем своим трудом, а не молитвами попов.
На бога уповать — урожая не собрать.
Надо не кропилами махать, а глубже землю пахать.
Народ рабочий церквей не хочет.
По полям поп не ходит, а пшеница родит.
Рад бы поп и котенка окрестить, да не несут.
Уж и дед Данило забыл про кадило.



# Народ пра бога, д'ябла, рэлігійнае вучэнне



## БОГ І МУЖЫК

Быў сабе адзін бедны мужычок. Пайшоў ён раз на кірмаш і купіў сабе кабылку жаробную за карбованца, можа, якога. Вядзе ён яе дамоў, і абняла яго цёмная ноч у адной вёсцы. Прасіўся ён нанач, прасіўся, і ніхто яго не пускае. Тады адзін мужык кажа:

— Быў тут у мяне раней за цябе адзін дзядок, прасіўся. Дык вунь ён за вёскай начуе, і ты туда ідзі!

Ну, ён і пайшоў. Прыходзіць туды:

— Здрастуй табе, дзядуля!

— Здароў!

— Ці нельга б і мне ля цябе пераначаваць?

— А начуй сабе!

Уваткнуў колік у зямлю.

— Во,— кажа,— прывяжы кабылёшку!

Ну, і пераначавалі. Назаўтра ўстаюць яны ўранні — кабыла ажарабілася. От яны і занялі спор за жарабя. Мужык гавора:

— Кабылка мая ажарабілася!

А стары гавора, што колічак яго ажарабіўся. Яны спорылі, спорылі і давай судзіцца. Павёў яго мужык у адзін суд, у другі, у трэці — усюды дзед выйграе. Ён усюды грошы даваў у судзе. Абхадзілі яны ўсе суды, ну, тады дзед гаворыць мужыку:

— Ну, цяпер абходзілі мы ўсе твае суды, пойдзем цяпер на мой суд,— што мой суддзя прызнае!

Прыходзяць яны к святому Гаўрылу.

— Ну, што,— кажа дзед,— рассудзі ты нас, святы Гаўрыла! Так і так, такое і такое дзела: што ажарабілася — ці яго кабылка, ці мой колічак?

Святы Гаўрыла толькі глянуў на яго і гавора:

— Ішоў я, госпадзі, цераз сіне мора і сеяў авёс; не знаю, ці парос, ці не, госпадзі?

Гасподзь бог тады гавора:

— Дзе ж яно парасце на моры?

— А дзе ж, госпадзі, колічак ажарэбіцца?

От тады гасподзь бог пасля свайго суда адправіў мужыка і аддаў яму кабылку з жарабёнкам. І пайшла тая кабылка мужыку ў пуць.

## БОГ, БАБА І МУЖЫК

Жала баба на полі з дзіцёнкам. А тады дзіцёнак закрычаў, дык яна лягла ды й корміць яго груддзю і сама есць. А ідзець бог па дарозе і пытаецца:

— Баба, пакажы мне дарогу туды і туды.

Яна ўзяла ды нагой і паказвае:

— Вунь,— кажа яна.

— Ды не, ты ж устань і пакажы добра.

— А мне некалі.

— Ну, будзець жа табе некалі да веку, пакуль ты жыва будзеш, што ты мне дарогу не паказала.

Пайшоў бог далей. Прыходзіць к мужыку. Ён косіць.

— Пакажы мне, чалавек, дарогу туды і туды.

Кінуў чалавек касіць і павёў бога. Прывёў яго к дарозе, вынуў табак, сам нюхаець, бога частуець. Бог тады гаворыць яму:

— Ну, прыйдзеш жа ты, чалавек, дамоў, дык табе будзець час, слабода. А бабе ні разу.

Дык вось мужык і цяпер прыйдзе дамоў, паабедае і аддыхне час які. А бабам усё некалі.

## СУДДЗЯ ПРАВЕДНЫ, БОГ І МІКОЛА

...Судзіў суддзя праведны 60 гадоў. Сазвалі валасны сход зноў выбіраць яго.

— Я... 30 лет сядзеў з глазамі і 30 без глаз: пара старым касцям даць пакой...

Пакланіўся міру і пайшоў проч. Падыходзіць да лесу:

— Пераначую здзесь, а то скажуць сыны і ўнукі: плоха служыў дзед, што прагналі яго проці начы.

Заначаваў. Звіняць камары каля яго — не даюць спаць. Цеплушка разлажыў. Ляжыць на баку. Яўляецца бог:

— Што, вы начуеце? Ці можна мне з вамі пераначаваць?

— Не будзеш са мной начаваць! Я за вамі знаю прычыну.

— Якую?

— Свет роўны, і глядзім мы роўна, другі чалавек сыт, і адзет, і абут, а ў другога нет нічога — ні сыт, ні адзет.

Бог пайшоў прэч ад суддзі праведнага. Пасылае к яму бог Мікалая-ўгодніка:

— Можа ён за табой не знайшоў ніякай прычыны? На мне знайшоў.

Яўляецца Мікалай-угоднік.

— Начуеш?
— Начую.
— Можна з табой пераначаваць?
— А хто ты такі?
— Мікалай-угоднік.
— Не можаш. Я за табой прычыну знаю.
— Якую?
— Выхвальны за грошы купіць свечку і нясець, а багаты з свайго воску ставіць. А тады ты бровы задзіраеш, вусы падымаеш, глаза выгаляеш, смотрыш так прама на... багатых, што харашо свечкі ставяць.

А бедны чалавек саб'ецца і паставіць свечку. Тады ты не смотрыш на яго прама: глаза зажмурыш, бровы апушчаеш, глаза закрываеш, вусы вешаеш — не смотрыш ты прама на нас, бедных, што ні харашо мы табе свечкі ставім. Ідзі — не будзеш са мной начаваць!

І таго прагнаў...

## ЯК СМЕРЦЬ ВЫВУЧЫЛА ЧАЛАВЕКА ЗНАХАРСТВУ

Адзін чалавек быў надта бедны. Так наварыў сабе стравы, узяў у збаночак да й пайшоў сабе ў свет. Ідзе так, ідзе, анно ж спатыкае чалавека, а гэта быў бог, і пытае ў яго:

— Куды ідзеш?
— У свет.
— А што нясеш?
— Абед. Калі трапілася б з кім справядлівым, то з'еў бы.
— Ну, то з'еш са мною.
— А хто ж ты?
— Я бог.
— Э, калі ты бог, то я не буду з табою ў паляруша есці. Які ты справядлівы, калі адзін аж надта мае, а другі з голаду здыхае!

І пайшоў далей. Ідзе, так ідзе, анно ж сустракае пана Езуса. Ну, так пан Езус кажа:

— Куда ідзеш?
— У свет.
— А што нясеш?
— Абед. Сустрэўся б хто-небудзь справядлівы, то з'елі б з ім.
— З'ядзім са мною.
— А хто ж ты?
— Я сын божы.
— Э, такія вы ўсе справядлівыя: які бацька, такі і сын — усей род ваш гэтакі!

І гэто ўвайцяўшы пайшоў. Ідзе так, ідзе, анно ж спатыкае смерць. Смерць таксама ў яго пытае, а ён:

— А хто ж ты?
— Я смерць!
— О, калі смерць, то з табою з'ем, бо ты прынаймней справядліва — усіх бярэш: і багатага і беднага.

## ПРА БОГА І СВЯТОГА ІОСІФА

От як нарадзіўся Хрыстос, дык, значыць, святому Іосіфу прыкра стала. Усё ж жонка яго, а дзіця ад святога духа. От ён і запіў. П'е ды п'е, п'е ды п'е. От бог яму і кажа:
— Годзе табе, Іосіф, піць! Ты ўсё ж святы.
А Іосіф маўчыць ды п'е. От другі раз з'яўляецца да яго бог.
— Годзе табе, Іосіф! Кінь піць!
А той толькі сапе. Бог пайшоў, а ён зноў за чарку. От і трэці раз прыходзіць бог.
— Ды кінь жа, кажу табе, гарэлку! Што ты робіш?
А Іосіф як раззлуецца:
— Маўчы,— кажа,— божа! А то як хракну свайго байструка па галаве, дык да чортавай маці ўся ваша тройца і паляціць!

## РАСТЛУМАЧЫЎ

Было гэта ў старой школе. Ішоў урок закону божага. Поп тлумачыў, што бог адзін, але ў трох асобах. Дзеці ніяк не маглі зразумець такой мудрасці. Тады поп падышоў да найлепшага вучня і, паказваючы на гузікі на світцы, сказаў:
— Вось тры гузікі. Так і бог у трох асобах. А кожны гузік вось што будзе абазначаць: першы — бог-айцец, другі — бог-сын, трэці — дух святы.
На другі дзень поп, каб праверыць, як дзейнічае яго метад, першым спытаў таго хлопчыка, якому тлумачыў на гузіках.
Хлопчык устае — і ў слёзы.
— Тлумач на гузіках! — закрычаў поп.
Хлопчык, усхліпваючы, адказаў:
— Бог мае тры асобы. Вось бог-айцец, вось бог-сын, а бога-духа святога маці да... штаноў прышыла.

## ЦІ ВЕДАЕШ, ШТО ГЭТА ТРОЙЦА?

Ішоў мужык на святую тройцу ў цэркаў, а насустрач яму едзе пан.
— Куды ты ідзеш, мужычок?
— У цэркаў маліцца богу.
— Якое сёння свята?
— Тройца.

— Ці ведаеш, што гэта тройца?
— Не, паночак мой, не ведаю.
— Вот я табе расталкую.
Пан зняў з галавы шапку і кажа:
— Бачыш: шапка мае верх, сяродку і падкладку, так і бог — адзін, да ў трох ліцах. Ці паняў?
— Паняў.
Пайшоў мужык далей, сустрэўся яму другі пан і пытае таксама, як той, што ўперад ехаў.
— Куды ідзеш?
— У цэркаў маліцца богу.
— Якое сягоння свята?
— Святая тройца.
— А ведаеш ты, што гэта тройца?
— Чаму не ведаю? Як панава шапка.

## ЯК ПРАЎДЫ ШУКАЛІ

На сяле жыла адна ўдава, і было ў яе чацвёра дзяцей. Мужа ў яе не было: забралі ў салдаты на 25 гадоў. Улавілі беднага, а адкупіцца не было чым,— ведама, бядняк, гол, як сакол. Жонка на прыгон хадзіла, не глядзелі, што яна адна дома з дзецьмі дробнымі. Прыйдзе яна з прыгону, а дзяцей карміць няма чым, так другі раз і не еўшы спаць лажыліся. Прыйшла яна, бедная, дамоў і злегла ад працы цяжкай. Цэлую восень ляжала, думалі памрэ, ажно неяк акрэяла. Сабраліся да яе яшчэ тры ўдоўкі на параду. Давай яны думу думаць, як з гарабядоты вырвацца, каму пажаліцца на іх жыццё горкае. Адна кажа: «Пойдзем мы, кумачкі, да папа, можа ён парадзіць». А другая кажа, што лепш да пана трэба пайсці, не збяднее, калі сіротам дробным мех які бульбы падкіне. А трэцяя кажа: «Не, кумачкі, пойдзем мы лепш да самога бога, бог людзям бедным спагадае, так і кнігі святыя кажуць».
Пагаманілі яны, пагаманілі і рашылі ісці да самога бога. Як даведаліся на сяле, што бабы да бога ідуць, дык кожны наказвае, каб і за яго ў бога слова якое закінулі, можа і ў іхняй бядзе ён крыху спаможа.
Праважалі іх старыя і малыя. Пакінулі яны хатулі і пайшлі. Ішлі тыя бабы тры гады, тры месяцы, тры дні і прыйшлі да самога бога. Кінуліся богу гэтаму ў калені, давай яму расказваць пра сваю прыгоду. Казалі, што і пан з іх здзекуецца, і папы надругаюцца, і вось пайшлі яны да самога бога праўды шукаць.
Бог слухаў, слухаў іхнае жаласлівае казанне і нарэшце кажа ім:
— Вось што, кумачкі мае дарагія, сястрыцы мае падданыя, нічога я вам на гэтым свеце парадзіць не магу, відаць, такая

ваша судзьба і доля. Вы на гэтым свеце гаруеце і гаруйце да смерці. А як пamраце і пойдзеце на той свет, то вы, сястрыцы, будзеце ў раі, дзе я вам месца загатую, бо вы мучыліся ў жыцці вашым. А ўсе тыя людзі, якія надругваліся над вамі, будуць у пекле ў смале-смалучай кіпець.

Пакланіліся тыя ўдовушкі богу і пайшлі назад дамоў. Сустракаюць іх людзі і пытаюцца, ну, як і што бог параіў. Расказалі ўсё жанчыны па парадку, як ім бог цярпець прыказваў і чакаць наказваў.

І пачалося ізноў жыццё іх цяжкае, і на прыгон пачалі хадзіць зноў, і працаваць ад раніцы да ночы.

А ад бога парады яны ніякай не дачакаліся ў сваім жыцці бядацкім, дарма толькі лапці збілі.

## БОГ І ЎГОДНІКІ

Паслаў раз бог святых угоднікаў паглядзець, што на свеце робіцца. Вот і пайшлі яны рана-ранёханька, яшчэ сонца калі не ўсходзіла. Ідуць яны, ідуць, ажно ім па дарозе адна дзеравушка папалася. Заглянулі яны ў першую хату, ажно там дзеўка прыгожая і здаровая ўжо ўстала і памылася, і кароў падаіла, хату падмяла, печку затапіла. Падзівіліся ўгоднікі на працавітую дзеўку і пайшлі далей; прайшлі дзярэўню, выйшлі ў поле. У полі яшчэ пусцёханька, ні душы, толькі на адной ніўцы прыгожы хлопец ужо, знаць, даўно арэ. Падзівіліся зноў угоднікі: «І калі ета ён паспеў выспацца і ўжо столькі наараў?»

Пайшлі яны далей. Ужо й сонца ўзышло, па дарозе сталі людзі пападацца то з сохамі, то з баронамі, глядзяць — зноў дзеравушка стаіць. Сталі яны ў хаты заглядваць, да ўжо мала людзей дзе відна; толькі ў адной хаце дзеўка, бальшая, тоўстая, толькі што вочы прадзёрла, сядзіць на палу і зявае, пацягваецца, каса ўся ў пер'і, аж глядзець праціўна. Паглядзелі ўгоднікі, падзівіліся і пайшлі далей.

Прайшлі дзярэўню і выйшлі на поле, глядзяць — пад кустом ляжыць маладзец, ляжыць ды спіць, ажно храпіць на ўсю галаву. Каля яго кабылка ў сасе стаіць, траўку шчыплець, знаць, як выехалі, так нічога і не рабілі. Паглядзелі святыя ўгоднікі, плюнулі і пайшлі далей. Прыйшлі яны к богу. Бог пытае ў іх:

— Ну, што вы добрае на зямлі бачылі, што чулі?

Сталі ўгоднікі расказваць пра дзевак ды пра малайцоў і гавораць:

— Вот, божа, па-нашаму жаніць добрага малайца ды й з добрай дзеўкай, а лянівага з лянівай: былі б дзве пары якраз адзін у аднаго.

А бог вазьмі ды й скажы ім так:

— Дуракі вы, дуракі, як я пагляджу. Калі б я так дзелаў,

як вы гаворыце, людзі і пра мяне, і пра вас даўно б забылі. Рабацягі б усё самі падзелалі, і бог бы ім ніколі не панадабіўся, а лянівы і глупы падаўна пра бога не ўспомніць.

Зрабі я па-вашаму, па-глупаму, людзям бы ні бог, ні святыя не нада былі.

## ЯК БОГ ЧАЛАВЕКА ЛЯПІЎ

Надакучыла богу жыць аднаму. І пачаў ён з гліны чалавека ляпіць.

Вылепіў ногі і кажа:

— Ногі для таго чалавеку, каб станавіўся перада мной на калені.

Вылепіў тулава:

— А гэта ўмяшчальня для ўсялякіх болек, для ўсякіх жаданняў. Забудзе чалавек пра мяне,— а яго кольне ў бок, дык і згадае імя божае. Забудзе чалавек пра мяне,— а яго голад пачне мучыць, дык папросіць: «Хлеб насушчны дай нам днесь».

Вылепіў рукі і кажа:

— А гэта для малітвы.

Зрабіў вуха — голас божы слухаць. Зрабіў вочы — вобраз божы бачыць. Зрабіў рот — славу богу спяваць. Зляпіў і прыпёр да плоту, каб высах. А сам лёг адпачыць.

Праходзіў тут чорт.

— А гэта што такое? — тыцнуў пальцам у чэрава прыпёртага да плоту чалавека з гліны. З таго часу ў кожнага чалавека відаць след чортавага пальца — там, дзе пуп.

І пачуў чорт у адказ:

— Гэта ўмяшчальня ўсялякіх болек і жаданняў. Ці забаліць мне, ці згаладаю,— усё мушу згадаць імя божае.

Глянуў чорт, адкуль ідзе голас,— у рот, а там пуста.

— Э! — кажа ён.— Дык бог табе недадаў. Таму ты толькі адно ведаеш — яго словы паўтараць. Але не бяда — зараз мы ўсё паставім на месца.

І чорт узяўся за работу. Зняў чэрап з галавы, уставіў туды мазгі, закрыў зноў і кажа:

— Ну, цяпер ты маеш самае галоўнае — розум.

З таго часу і пайшлі па зямлі разумныя людзі. Яны знаюць, што ногі — для хады, рукі — для работы, рот — для спявання песень, вочы — на дзяўчат заглядацца, вушы — каб чалавек на асла не быў падобны, а жывот — каб лёгка адрозніваць бедных і багатых.

З таго часу ўсе, хто мае розум у галаве, пытаюць:

— А хто той плот зрабіў, да якога бог прыпёр першага чалавека?!

## ПАГАНЫ ГАСПАДАР

Да селяніна прыходзіць поп, у парафіі якога гром спаліў царкву, ды й вымагае грошы на будаўніцтва новага «божага храма».

— Хто ж запаліў царкву? — пытаецца дзядзька.

— Пан бог сам у сваёй неразважлівай прамудрасці дапусціў, што гром запаліў царкву.

— Так? — здзівіўся дзядзька.— Гаспадару, які сам запаліў сваю хату, я нічога не даю.

## НЯХАЙ БОГ СТВОРЫЦЬ ЗОРКІ Ў ЦАРКВЕ

Пайшоў стараста ад хаты да хаты яйкі і грошы збіраць, бо трэба ў царкве неба намаляваць. Зайшоў да мужыка й кажа:

— Дайце на царкву яйкі і грошы, бо трэба зоркі, месяц і сонца намаляваць.

— Ды на небе колькі зорак! І сонца е, і месяц! Хіба хтосьці для гэтага яйкі і грошы даваў?

— Дык тое бог стварыў! — кажа стараста.

— То няхай створыць і ў царкве! — адказаў на тое мужык.

## ХТО СТВАРЫЎ СВЕТ

Поп злосна крычыць на вучняў, якія не вывучылі ўрока:

— Хто стварыў свет, пытаю вас?

Спалоханы вучань ляпеча:

— Не я, прашу айца прападобнага. Не я!..

## ХУТЧЭЙ ЗА ЎСЁ

На ўроку закона божага поп пытае вучня:

— Чаму Хрыстос, калі ўваскрэс, перш за ўсё з'явіўся жанчынам?

Вучань думаў, думаў, а потым кажа:

— Ды таму, пан айцец, што так хутчэй звестка расходзіцца.

## І Я ТАК МОГ БЫ

Неяк у час казання поп памыліўся і сказаў пра адзін з цудаў Хрыста:

— Узяў Хрыстос пяць тысяч кулідак хлеба ды пяць тысяч рыбін і накарміў пецярых чалавек.

А адзін з прыхаджан кажа на тое:

— І я так мог бы.

Зразумеў поп, што памыліўся, але,нібы нічога і не здарылася, працягвае пропаведзь:

— Я вам і кажу, прыхаджане, што Хрыстос зрабіў цуд: пяццю кулідкамі хлеба і пяццю рыбамі накарміў пяць тысяч чалавек.

А чалавек на тое:

— І я так мог бы!

Раззлаваўся поп:

— А як бы ты, Іван, гэта зрабіў?!

— А вельмі проста,— кажа Іван.— Я ім даў бы з'есці хлеб і рыбу, што засталася ад першага разу, калі на пяць чалавек Хрыстос дзяліў пяць тысяч кулідак хлеба і пяць тысяч рыбін..

## НЕСЦЕРКА

Жыў сабе так Несцерка, меў дзетак шэсцерка. Рабіць ляніцца, красці баіцца, папрасіць не пасмее — не з чага яму пражыць. Вот ён узяў ды й пайшоў к богу. Ідзе, ажно ідзе Юр'я — залатое сядло.

— Здароў, святы Юр'я!

— Здароў! Хто ты такі?

— А я,— кажа,— Несцерка, маю дзетак шэсцерка, рабіць лянуюся, красці баюся, папрасіць не пасмею!

— Куды ты ідзеш?

— К богу!

— Чаго?

— А вот чаго: не з чага мне пражыць, дык пайду к богу спрашу, чым мне займацца: ці чытаць, ці пісаць, ці з гаршкоў хватаць? А ты куды, святы Юр'я?

— К богу й я!

— Зачым?

— А пра свае надабнасці!

— Ну, успомні там, святы Юр'я, пра мяне!

— Добра, успомню!

— Спытайся ў бога, святы Юр'я, чым мне займацца.

— Добра, спытаюся!

— Забудзеш, святы Юр'я?

— Не, не, спытаюся!

— Не забудзеш? Дай мне ў заставу сваю залатую страмяну, што не забудзеш!

— А як жа я паеду?

Несцерка ўзяў лазінку, зрабіў страмяну і прывязаў, а залатую ў заставу ўзяў. Паехаў той Юр'я к богу, а Несцерка дажыдае, пакуль ён вернецца. Тады святы Юр'я распрасіў у бога пра свае надабнасці і стаў садзіцца на каня. А бог убачыў лазовую страмяну і пытаецца:

— А дзе твая страмяна?
— А, госпадзі, Несцерка адабраў,— мае дзетак шэсцерка, рабіць ляніцца, красці баіцца, папрасіць не пасмее, з чаго яму пражыць?
— А няхай круціць ды матае і душу пітае!
Юр'я і паехаў. Пад'ехаў ён к Несцерку, той Несцерка пытае:
— А што, святы Юр'я, што табе бог казаў?
— А во што бог казаў: «Няхай круціць ды матае і душу пітае!» Ну, дай жа, Несцерка, маю страмяну, што ты ў мяне ўзяў у заставу залатую!
— А калі я ў цябе яе браў? Я яшчэ сам табе даў страмяну лазовую. Падавай яе мне назад! Во мая страмяна, ля сядла!..
Што той Юр'я набраўся з Несцеркам, але-такі мусіў заплаціць за лазовую страмяну.
Той Несцерка пабег у хату:
— Троху пажытку ёсць, слава богу! Мне-ткі не напрасна бог сказаў, што як салгу, дык жыў буду і з таго хлеба!
Пражыў тое, што заплаціў яму Юр'я за лазовую страмяну, тады ўзяў і павесіў залатую страмяну на варота. Ажно едзе пан багаты. Убачыў страмяну, што вісіць на варотах, і кажа свайму кучару:
— Зайдзі, папытайся, ці не ёсць у яго прадажныя сёдлы?
Кучар зайшоў у хату і спрашвае:
— Што, ты сёдлы дзелаеш?
— Дзелаю,— кажа Несцерка,— ды толькі на заказ, патаму дзелаю сёдлы дарагія — сярэбраныя, залатыя!
Кучар пайшоў і сказаў пану. Той пан злез і стаў дагаварвацца. Дагаварыліся, каб ён здзелаў яму сядло за сто рублёў... Узяў Несцерка грошы ды і сядзіць на печы. Прыязджае той пан за сядлом, а ён ляжыць босы на печы.
— Дзе сядло?
— Якое сядло, паночак?
— Ды тое, што я табе даваў грошы.
Несцерка толькі ксціцца:
— А вой, а вой! Якое ў мяне сядло? Я не ўмею лапцей сплесці...
Пан той крычаў, крычаў ды і кажа:
— Адзявайся, пойдзем на суд!
А Несцерка кажа:
— А што, ці я босы пайду?
— Ах, д'яблы яго вазьмі! Кучар, дай яму мае валенцы! Ну, адзявайся, пойдзем!
— А што, ці я голы пайду?
— А, нех це, пане, д'яблы ўзялі! Дай яму, кучар, маю хутру!
Кучар прынёс хутру. Несцерка абуўся, адзеўся. Выйшлі вон. Пан стаў садзіцца на каня. А Несцерка паглядзеў ды кажа:
— А што я ці сабака, ці што, што я пяшком пабягу!

— А, нех це д'яблы, пане, узялі! Дай яму, кучар, прысцяжнога каня!

Сеў той Несцерка, і паехалі на суд. Прыехалі туды. Сталі іх судзіць.

— Ну, што ты, Несцерка, грошы пану не аддаеш?

— Ды я ж яму не вінават! Ён ка мне вяжацца, сам не ведаю чаго. Хоча, мусіць, сарваць што-небудзь! Зараз скажа, што гэта і боты яго на мне!

Пан той кажа:

— Дурань ты! Дык гэта ж мае боты!

— Ну во, бачыце! Ён во кажа, што боты яго на мне. Можа, ён скажа, што і хутра гэта яго!

Пан зноў:

— Ах, каб цябе д'яблы, пане! Гэта ж мая хутра!

— Ну во, бачыце, гаспадзіны суддзі: ён ужо прызнаецца і к хутры! Можа, зараз скажа, што і конь гэта яго!

Пан той зноў крычыць:

— Ах, каб цябе д'яблы, пане! Гэта ж і конь мой!

— Ну во, бачыце, гаспадзіны суддзі: ён ужо кажа, што і конь яго!

Суддзі тыя думалі, думалі ды і кажуць пану:

— Не, брат, відаць, што ты маніш, што гэта ўсё тваё: і хутра, і боты, і конь, і грошы.

І нічога не прысудзілі Несцерку. Сеў той Несцерка на каня і паехаў у двор. Засталіся яму і конь, і хутра, і боты, і грошы. І цяпер ён жыве з тых грошай.

## ЧАМУ ГРОМ ГРЫМІЦЬ

Ідуць дарогаю праваслаўны поп і мусульманскі мула. Гавораць сабе пра тое, пра іншае. А ў гэты час набеглі хмары, і раптам грымнуў гром.

Вось мула і пытаецца:

— Скажыце, божы слуга, што гэта так грыміць?

Поп вырашыў паздзекавацца з мулы і кажа:

— Гэта наш праваслаўны бог лупцуе вашага алаха.

Вельмі не даспадобы прыйшоўся мулу адказ папа, і, каб не застацца ў даўгу, мула і гаворыць:

— Так яму, дурню, і трэба: хай, чортаў бацька, абы з кім не звязваецца.

## БОГ ПАМЕР

Ішло два чалавекі: адзін з ярмаркі да гасподы, а другі з гасподы на ярмарку да й сустрэліся.

— А што там у месце чутно?

— Ой, ліха чуваць, вось што: стары бог памёр.

— Ох, мне на ліха! А хто ж цяпер будзе багаваць?

— Кажуць, што мацер бож'я.

— Ну, то трэба ж ісці дадому да й сабе паміраць, бо ўсё адно жыцця не будзе, як бабскі лад завядзецца.

## СУД СВЯТЫХ

С нетерпением ждали крестьяне весеннего Николку. Зимний запасный корм весь вышел. Скот голодал. Ожидали, по примеру прежних лет, выгнать скот на подножный корм в день весеннего Николы.

Но обманулись: травы не вышло.

Думали-подумали мужички и решили, что виноват во всем Никола и что следует на него подать прошение богу.

Подали.

Получил это прошение бог, позвал для объяснения Николу.

— Почему ты не выгнал травы крестьянам? — спросил он Николу.

— Я тут не при чем,— ответил Никола,— вина в этом Егория, если бы он дал дождь, я бы выгнал траву, а без дождя это невозможно.

Сейчас же был позван Егорий. Он явился. Бог сказал:

— Мужички жалуются на Николу, что он не выгнал травы, а, оказывается, виноват в этом ты, а не он. Почему ты не дал дождя в свое время?

— Причина тут не во мне. Все делается по порядку. Засори Дарья прорубь в свое время, был бы и дождь в свое время.

Позвали на допрос Дарью. Дарья не признала своей вины:

— Моей вины тут нету. Все дело в Алексее. Он не дал с гор потока в свое время. Как же я могла засорить проруби?

Позвали на суд Алексея.

— Почему ты не дал потоки с гор в свое время? — спросил бог Алексея.

— Я в том не виноват,— ответил Алексей,— запоздал в своем деле Василий. Он не дал в свое время капели, а без капели потоку не сделать.

Василий тоже не признал себя виновным.

— Капель от тепла, а где было его взять, если Авдотья не плющила. Виновата Авдотья.

Нашли Авдотью; привлекли ее к ответу по иску мужиков. А та отвечала:

— У меня не одно дело, что только плющить. На моих руках кросна и тканье. Если бы было на руках одно дело, я не запоздала бы и плющить в свое время. А тут как раз пришлось ставить кросна в Пудоже.

Виновных, таким образом, не находилось, и было на суде у бога постановлено: оставить прошение без последствий.

## ІЛЬЯ І ПЯТРО

Даўно тое было: як яшчэ сам бог па зямлі хадзіў. Аддаў бог увесь свет Ільі й Пятру. Але, ведама, дзе два паны, там ніколі ладу няма. Адзін пасылае дождж, а другі — пагоду. Плачуць хмары, не ведаюць, што рабіць, каго слухаць. Пойдзе дождж, то Пятро бяжыць ды крычыць, лаецца на чом свет стаіць:

— Што вы, патаскухі, робіце, на што мочыце сена, цяпер жа людзі косяць!

— Нам,— кажуць хмары,— Ілья прыказаў.

— Ах, вы...— лаецца Пятро,— я вам пакажу Ілью! Ілья заўсёды наробіць гнілля.

Ухваціць Пятро мятлу і паразганяе хмары па кутках, а неба чысценька падмяце. То вось, адкуль ні вазьміся, тарахціць, едзе Ілья, крычыць, як на жывот, аж неба й зямля дрыжаць. Хмары таўкуцца, як непрытомныя, вылазяць з куткоў, і ўжо ліне такі дождж, што не толькі берагі, але й груды паплывуць. Жаляцца людзі богу, што паны дзяруцца, а ў мужыкоў гіры трасуцца, жаляцца й просяць, каб бог даў пагоду.

Прызаве бог Ілью, насварыцца на яго, а той кажа, што столькі развялося нечысці-чарцей, што трэба іх громам пабіць, бо ўвесь свет запаганяць. Прызаве бог Пятра й кажа, што няхай Ілья трохі папалюе чарцей. А Ілья тым часам падыме такія грымоты, што аж зямля стогне: няма ні дня, ні ночы; хмары таўкуцца, як уюны ў рэшаце; на небе кіпіць, як у гаршку; маланка бліскае, аж у вачах цёмна становіцца, а пярун смаліць раз-паразу, паласуе хвоі і дубы ды паліць будоўлю або стагі. А Ілья едзе сабе па небу ды камандуе: «Так-так-так! Го-го-го! Яшчэ, яшчэ... Лупі, лупі яго, гада... От так-так... Го-го-го... Трэсні яго па затылку! У патыліцу, у патыліцу лупі яго, гада! Трах-трах! Так-так-так! Го-го-го!» Просяць людзі на прамілы бог, каб уняліся грымоты, а Ілья не слухае. Ходзіць Пятро ды плюецца бяззубым ротам ад злосці. Нацешыцца Ілья, пачысціць сваю каляску і паедзе к сонейку ў госці. Тут Пятро падмяце неба ды давай сушыць зямлю. От ужо падыходзіць пара сеяць жыта, а зямля сухая, як прысак,— зноў бяда! Бяда ўжо, што няма дажджу. А Ілья сваволіць сабе з сонейкам, а пра зямлю й забыўся. Не маюць вока адзін на другога Ілья і Пятро, сярдзітыя, баяцца, каб і не сустрэцца. Але от раз уздумалі яны пахадзіць па зямлі, папытаць людзей, каго яны больш любяць: Пятра ці Ілью. Як сыйшлі яны на зямлю, так па немалым часе і сустрэліся. Ідуць яны разам і спораць: Пятро кажа, што яго больш любяць людзі, а Ілья кажа, што яго. Як даканацца, чыя праўда? Бачаць яны, аж чалавек сее грэчку.

— От,— кажа Пятро,— давай папытаем, каго мужыкі больш любяць.

— Папытаймася,— маўляў Ілья.

— Памагай бог! — кажа Пятро.

— Дзякуваць!

— Скажы, добры чалавеча, каго вы больш любіце, Пятра ці Ілью?

Мужык зняў з плеч сявок, паставіў яго на зямлю, пачасаў патыліцу ды й кажа:

— А багі яго знаюць, каго мы больш любім: мо' Ілью, мо' Паўла-Пятра.

— Ты не гарадзі плота,— кажа Пятро,— а кажы проста.

— І Ілья, і Павел-Пятро — добрыя сяткі; мы іх і любім.

— А каго больш?

Бачыць мужык, што тут не выкруцішся, і кажа:

— Пэўне ж Паўла-Пятра.

Аж затросся Ілья ад злосці. Пайшлі яны далей, а Ілья й кажа:

— Ото ж спяку я за гэта яму ніву — нічога не зародзіць.

— А я намачу і зараджу,— кажа Пётр.

— Калі так, дык зраблю вось як: хто першы ўкусіць з гэтай нівы перапеч, той падавіцца.

Ухмыліўся Пятро, і пайшлі яны далей.

Было вельмі добрае лета: аб дзень пагода, цяпло, а ўначы ці цёплая раса, ці ціхенькі цёпленькі дожджык. Расце ўсё, як на дражджах; здаецца, пасадзі на поле дзіця, то й тое вырасце. Зарадзіла грэчка па пояс, аж палягла. Набіў мужык паўгумна. От намалаціў ён грэчкі, намалоў, і напякла баба свежых перапеч поўну печ. На той час прыходзяць у тое сяло Ілья з Пятром і заначавалі ў таго мужыка. Забыўся Ілья, не пазнаў яго.

От селі яны вячэраць. «От жа, дзякаваць богу,— кажа мужык,— зарадзіла цяпер грэчка, пробуйце, госцікі, свежых перапеч». А Ілья-такі добра прагаладаўся. От ён як хваціў перапеч, так і падавіўся. Туды-сюды ён, і вадою запіваць, і кулаком біць у грудзі і ў спіну — от хоць бы што. Дагадаўся ён, што гэта праклятыя ім перапечы, і давай ён прасіць мужыка і Пятра, дык насілу ачухаўся. От з тае пары годзе Ілья мяшаць людзям сена касіць. Але ўсё было б добра, каб Ілья не быў такі стары ды глухі. Бог кажа: «Пасылай тагды дождж, як людзі просяць», а ён недачуе ды й пасылае дождж, як людзі косяць.

## АБ СВЯТЫМ МІКОЛЕ І ЯГОР'І

Ішоў Мікола святы з Ягор'ем. Ідуць яны — мужык выехаў пахаць пшаніцу — ляда.

— Ягор'я, пойдзем пасобім яму — спасіба скажа.

Прыходзяць к яму:

— Бог помач, мужычок! Што ты хочаш тут дзелаць? Мы табе пасобім пахаць.

— Што ж вы мне пасобіце — на адной кабылёнцы? Я і адзін запашу.

— Не нада твая кабылёнка: мы так успашам... Ты, Ягоры, дзяржысь за рагач*, а я стану ў вобжы...**

Адмеціў ім (мужык) месца. Мікола стаў у саху, а Ягоры за рагач — і паехалі. Успахалі. Падзякаваў ім мужык.

— Скажы, мужычок, хто важней: што ў сахе стаяў, ай што за саху дзяржаўся — хто даражэй будзе стоіць?

Ён думаў, думаў.

— Дораг конік, без каня пахаць не будзеш, а з канём і баба ўспашыць...

Пайшлі яны. Ягор сказаў:

— Ты мяне будзеш бабай зваць, будзеш смяяцца... Я яму зямлю апяць палажу...

— Слухай, Ягоры... ён нам абаім гаварыў спасіба. Брось, не дзелай гэтага.

Зноў вядзе Мікола к гэтаму мужыку. Мужык выехаў сеяць.

— Бог помач, мужычок! Што ж, ты хочаш пшанічку сеяць? Няхай мы табе рассеем... Ты, Ягоры, паляшы*** мне, а я пшанічку раскіну.

Пасеялі.

— А хто ў нас важан: ці сявец, ці ляшэннік?

— Ай, бацюшкі мае, важан у нас сявец, а ляшэннік — і баба і тая лешыць.

— Прашчай, мужычок!

Па дарозе гаворыць Ягоры:

— Стала быць, я — баба, а дораг-важан сявец — ты. Цяпер узварачу зямлю назад — апяць будзе луг.

— А, Ягоры, не сварыся ты з мужыком, не гневайся, як бы ён знаў, што мы ўгоднікі, дык ба абаіх паважаў...

— Няхай сабе сее — будзе яму ўраджай, а валодаць не будзе...

— Што ж ты яму здзелаеш?

— Напрашу Іллю, штоб наслаў ён буры-грозы, штоб навозам паклаў яго хлебушка к зямлі — хлеб пусць прэе.

Мікола з'яўляецца к мужыку.

— Мужык, прадай папу пшаніцу, а ту ўсю Ягоры паложыць.

Мужык прыходзіць к папу:

— Бацюшка, купі ў мяне пшаніцу. Відалі вы яе?

— Відзеў.

— Купіце вы яе ў мяне?

— Што табе за яе даць?

— Што, бацюшка, пажалаіце.

— Я дам табе сто рублёў.

Узяў (мужык) сто рублёў. Прыйшла ноч, і Ілья паклаў усю пшаніцу, прыкаціў, як бярном, бурай — палягла ўся.

---

* Рагач — ручка сахі.

** Вобжы — аглоблі сахі.

*** Ляшыць — адзначаць край засеянага ўчастка пры сяўбе ўручную.

Назаўтра, аддаўшы грошы, поп выходзіць глядзець пшаніцу. Глянуў — рукамі ўспляснуў.

— За што я аддаў дзеньгі — за навоз!

Мікола к Ягор'ю прыходзіць.

— Што ты, Ягоры, знаеш? А віць, мужык хітрэй за нас, угоднікаў.

— Чым так?

— А ён папу пшаніцу прадаў.

— Што ён узяў?

— Да сто рублёў. Ты надзелаў бяды: віць поп пamрэ. Ты ж знаеш: папы жадныя. Ты гэта на сябе грэх узяў — поп па дзеньгах жыў не будзе.

— А, дак ён папу прадаў! Падыму ж папу — ні адзін колас не згіне...

Прыходзіць к мужыку Мікола.

— Нясі папу дзеньгі: заўтра падымецца пшаніца.

Пабег перад вечарам, яўляецца (мужык) к папу, а поп яму і гаворыць:

— Ухадзі ты, сукін сын,— абманіў! Пшаніца палягла, а ты яе прадаў.

— Бацюшка, наце вашы дзеньгі назад, я прынёс да капейкі...

Пайшоў мужык глядзець пшаніцу: уся яна, як тросць,— ні адзін колас не згінуў... На трэці дзень сабраў ён талаку: наклалі гумно і скірды змяталі.

Мікола абарачваецца к Ягор'ю:

— Што ты знаеш, Ягоры?

— А што?

— Гэты мужык хітрэй за нас...

— Чым?

— А вот чым. Перакупіў пшаніцу ў папа — стаў поп абіжацца, ён знёс папу дзеньгі... А ты падняў пшаніцу мужыку...

— Ну, не будзе нас хітрэй! Я здзелаю яму такую шутку.

— А што ты яму здзелаеш?

— А я яму спор* выну.

— Якой?

— А хоць 10 коп пасадзі — усё асьміна будзе выходзіць.

Мікола абарачваецца к мужыку:

— Мужык, глядзі ж садзі па пяці снапоў у авін, па вуглах па снапу, а пяты ў вакне — усё асьміна будзе выходзіць.

Стаў мужык малаціць пшаніцу. Пяць снапоў пасадзіць — асьміна выйдзе.

Сколькі ўрэмя малаціў — насыпаў цэльны амбар.

Мікола абарачваецца к Ягор'ю.

— Што ты знаеш, Ягоры?

— Што?

---

* Спор — прыбытак.

— Мужык хітрэй за нас.

— Чым?

— А ён як падладзіўся пшаніцу малаціць: пяць снапоў пасадзіць — асьміна выйдзе.

— Не, не будзе ён хітрэй за нас! Я яму здзелаю шутку.

— Якую?

— Уганю злыдню ў амбар: усю пшаніцу переносіць.

Мікола абарачваеца к мужыку:

— Што ты, мужык, знаеш?

— А што?

— Сматры, забі дзверы старыя наглуха, а новыя прарубі ззаду...

Мікола абарачваецца к Ягор'ю:

— Што ты, Ягоры, знаеш? Мужык хітрэй за нас...

— Чым хітрэй?

— А вот чым. Забіў старыя дзверы наглуха — злыдня твая сядзіць, дажыдаецца, пакуль адчыняць, а ззаду мужык прарубіў дзверы і адтуль прадае пшаніцу.

— А, дык ён хіцёр. Харашо ж!

— Што ж ты яму здзелаеш?

— Пайду к Ільі, штоб ён панаслаў грозы-ветры, буры-маланкі, штоб яго дом размяло і не было нічога на чыстым полі...

Мікола абярнуўся к мужыку.

— Мужык, сматры, твой дом запаліць Ягоры.

— А чым жа мне абараніцца?

— Я цябе навучу. Прыйдзе нядзеля, ідзі ў царкву, купі дзве свечкі: адну грашавую, другую пятаковую; грашавую ўмарай у сажу, пятаковай не марай. Стань к Ягор'ю, к абразу, і гавары: «Святы Ягоры храбры... вот табе свечка чысценькая, а гэту грашавую пастаўлю Міколу-абманшчыку». Тады ён ад цябе адчэпіцца.

## ЯК МІКОЛА З ПЯТРОМ НАВУЧЫЛІСЯ Ў ЧОРТА ВОДКУ ГНАЦЬ

Ішоў бог са святымі па зачацці свету; відзяць яны, што курыцца аганёк. Бог і пасылае Міколу з Пятром паглядзець, што гэта такое.

Прыйшлі, глядзяць: чорт водку гоніць.

— Хаціце — паспрабуйце!

Паднёс ім водачкі з жалудовай чашачкі. Спадабалась — выпілі па другой. Харошая водачка была ў чорта, заматаліся святыя, толькі што бадрацца, вусы свае прыгладжваюць.

Прыйшлі к богу, хоць і не гаворацъ, што паспрабавалі трохі чортавай водачкі, ну бог гэта харашо знае.

— Чорт водку гоніць.

— Ну, ладна! Ідзіце сабе к яму, пахмяліцеся.

Пахмяліліся. Назад к богу ідуць ужо бодра, весела: панаўчылісь, як водку гнаць, і кажуць:

— Устроім і мы такую штуку, як чорт, штоб водку гнаць.

## П'ЯНІЦА Ў РАЙ ТРАПЛЯЕ

Прыходзіць п'яніца к царству нябеснаму і ў дзвер стучыць: «Адчыніце!»

У апостала Пятра ключы ад царства нябеснага; так ён слышыць стук, падыходзіць к дзвярам:

— Хто здзесь?

— Да я.

— Хто ж ты?

— Да п'яніца. Пусці мяне ў царства нябеснае!

— Ну, здзесь п'яніц нет — нялься!

— А ты хто, што мяне не пускаеш?

— Я апостал Пётр.

— Я знаю цябе: гэта той, што ад Хрыста адракаўся, не ўспеў пятух тры разы прапець... Я ўсё, брат, знаю.

Нечага гаварыць Пятру супраць гэтага, назад вараціўся, падышоў да Паўла:

— Ідзі, Павел, пагавары ты з ім!

Падыходзіць Павел к дзвярам:

— Хто здзесь?

— Я п'яніца, пусці мяне ў царства нябеснае!

— Здзесь п'яніц не прымаюць.

— А ты хто, што мяне не хочаш пусціць?

— Я апостал Павел.

— А, Павел! Знаю: гэта той самы, што гнаў Хрыста ад Ірусаліма да Дамаска, а цяпер ты ў яго міласці!..

Нечага сказаць Паўлу проці гэтага; вараціўся назад і расказаў Пятру пра ўсё. Гаворыць Пётр:

— Ну, пашлём евангеліста Іаана: ён ад Хрыста ні разу не адракаўся — пусць-ка з ім пагаворыць.

Падыходзіць к дзвярам Іаан:

— Хто здзесь?

— Я п'яніца, пусціце мяне ў царства нябеснае!

— А, ты — п'яніца, і яшчэ просішся! Такіх сюда не прымаюць.

— А ты хто такі, што не хочаш мяне ўпусціць?

— Я евангеліст Іаан.

— А, ты, евангеліст! Зачэм жа вы абманываеце людзей?! Вы напісалі ў Евангеліі: «Стучыце — і адчыняць вам; прасіце — і палучыце». Ці ж гэта не абман?! Я часа два стаю і стучу, а мне не адчыняюць. Калі ты мяне не ўпусціш у царства ня-

беснае сейчас жа, то я варачусь на белы свет і раскажу людзям, што вы напісалі ў Евангеліі няпраўду.

Спужаўся Іаан сораму і ўпусціў п'яніцу ў царства нябеснае.

## СВЯТЫЯ ДАПАМАГЛІ

Ехаў адзін дзядзька зімою з горада. І заспела яго завіруха. Ён і заблудзіў і ўехаў у нейкую бездань... Конь і стаў. Дзядзька нокаў-нокаў, а конь не ідзе. Дзядзька і кажа:

— Дай памалюся я Міколу-ўгодніку, ён паможа мне з бездані выехаць.

Памаліўся ён Міколу-ўгодніку, а конь усё стаіць. Ён нокае на каня, а конь стаіць — змарыўся.

Пастаяў дзядзька, пасумаваў, а тады і думае: «Памалюся яшчэ дзеве Марыі».

Але і дзева яму нічога не дапамагла — стаіць конь...

«Дай,— думае дзядзька,— памалюся сарака мучанікам, бо Марыя старая ды яшчэ з дзіцем, нічога не паможа».

Ну, памаліўся ён сарака мучанікам і як нокне на каня, як сцебане, а конь наваліўся на адну аглоблю ды й пераламаў яе. Дзядзька раззлаваўся ды як закрычыць:

— А чэрці б вас пабралі, наваліліся ўсе сорак на адну аглоблю, дзіва што пераламалі, трэба ж было вам папалове на адну і на другую, дык не здарылася б ліха! Святыя, а такія дурні!

## ПАКАРАНАЯ ВАРВАРА

Быў такі хлопец, што як маці пойдзе ў поле, то ён возьме смятану ў гладышках пазбірае і з'есць. Але маці прыходзіць з поля, пытаецца яго і кажа:

— А ты навошта з'еў смятану?

— А вам хто казаў?

— А вось святая Варвара!

Бярэ б'е. Маці на другі дзень зноў пайшла ў поле. Хлопец узяў лучынку і святой Варвары вочы выпек, а смятану з'еў. Думае сабе, што ўжо цяпер не будзе бачыць і не скажа. Прыходзіць дадому маці, паглядзела па гладышках — няма смятаны і кажа:

— А ты навошта з'еў?

— А хто вам сказаў?

— А святая Варвара!

— А яна бачыла ці што, калі ў яе няма вачэй?!

Паглядзела маці на вобраз, а там толькі дзіркі, дзе былі вочы. Давай яго біць! Добра набіла і ўжо на святых не звальвала.

## СВЯТЫЯ МОШЧЫ

Манаху ў адной царкве паказалі галаву святога Іаана Хрысціцеля. Манах пацалаваў галаву й сказаў:

— Слава богу, гэта ўжо шостая яго галава, якую мне давядося цалаваць.

## ЖАБРАК І ЎСЕ СВЯТЫЯ

Папрасіўся неяк жабрак да гаспадара нанач. Гаспадар быў вельмі скупы і не даў жабраку нават паесці. А было гэта перад калядамі. Гаспадар меў багата ўсякай усячыны, бо некалькі дзён назад закалоў кабанчыка.

— Дарагі гаспадар, пашкадуйце беднага чалавека, дайце павячэраць.

— Дык што я табе, небарача, дам, калі я сам нічога не маю. Ямо сухі хлеб і вадою запіваем.

Убачыў жабрак на жэрдцы кілбасу, кіндзюк і пытае:

— А гэта што вісіць на жэрдцы?

— Ды гэта ўсе святыя, а сярод іх — пан бог.

Палеглі спаць. Уночы жабрак ціхенька ўстаў, забраў усіх святых, паклаў у торбу і зноў лёг.

Ледзьве пачало світаць, як бедны чалавек устаў. Падзякаваў за начлег і кажа:

— Я, сумленны гаспадар, іду сабе з усімі святымі, а вы заставайцеся з панам богам здаровыя.

— Ідзі, ідзі здаровы! — сказаў гаспадар.

Калі бедны чалавек быў ужо ў другім сяле, гаспадар устаў сабе з ложка. Глядзіць, а на жэрдцы ніводнай кілбасы, толькі кіндзюк застаўся.

## ПАЛЯШУК І ЧОРТ

Людзі кажуць: «Дзе балота, там і чорт». Але не толькі, штоб у балоце,— куды ні зірні, усюды трапіш гэтую нечысць. Вада, бывала, кішыць чарцянятамі. Толькі на вадохрышча, як павыганяюць чарцей з вады, то яны таўкуцца ў паветры да паднімаюць такую хвілю, што не пі, не еж і з хаты не лезь. Затым-та па вадохрышчы заўжды бываюць ганебныя мяцеліцы. Часам усходзіцца такая круцель да завіруха, што спрэсу пазаносіць вёскі. Бяда тады ў полі: свету божага не бачна. Пападуцца ў полі людзі, дык нячысцікі закруцяць іх каля самага сяла да й загубяць. Бывала, багата хвіля нішчыла людзей. Цяпер ужо рэдка бывае ганебная завіруха, бо менш стала чарцей, а чарцянята спрэсу перавяліся: іх Ільля пабіў громам, а другія не раджаюцца. Перш чэрці былі вельмі плодныя, але паляшук перахітрыў і чорта. Вось як тое было.

Абабраў сабе паляшук сядзібу паміж балота каля ракі да й давай там рабіць будоўлю. Збудаваў ён сабе перш станок, наклаў агню, налавіў уюноў, напёк іх, наеўся да й апякаецца сабе каля агню. Бачыць чорт, што паляшук не лякаецца ні балота, ні ракі, ні лесу, і давай ён усюды пужаць чалавека, давай рабіць яму ўсялякую пакасць, каб выгнаць яго з тае сядзібы. Куды паляшук ні сунецца, чорт ужо там чакае да наровіць, каб зрабіць якуюсь пакасць. Пайшоў чалавек у лес, каб нагледзець здатнага дзерава сабе на будоўлю, а тут чорт давай яго вадзіць да кружыць, каб ён заблудзіўся да й загінуў. Але паляшук ідзе сабе па лесе да ўсё залысвае сякераю дзераўлякі. Вадзіў-вадзіў чорт палешука па лесе, кружыў-кружыў, аж сам заплутаўся, а той нагледзеў сабе здатнае дзерава, надраў лыка на лапці да й пайшоў проста да гасподы, пазіраючы на залысленыя дзераўлякі. Бачыць чорт, што чалавек не заблудзіўся, забег уперад, сустрэўся да й пытае, на што ён залысіў так багата дзераўлячын.

— Гэта мне здатнае дзерава на будоўлю,— кажа паляшук.

— На што ж табе так багата?

— Я хачу забудаваць усё Палессе.

«От бяда»,— думае чорт.

От і пусціўся ён на хітрасць.

— Давай я табе буду памагаць,— кажа чорт,— мне ўсё роўна няма чаго рабіць.

— Добра,— кажа паляшук,— памагай, то я падзякую.

Тым часам чорту толькі тое і трэба.

«Буду памагаць,— думае ён,— да так нараблю, што пападзеш ты ў мае лапы».

От давай паляшук расчышчаць зямлю да гатовіць дзерава на будоўлю. Перш вялеў ён чорту расчысціць пушчу. Няма чаго рабіць — слухае чорт палешука: выдзірае таўшчэразнае дуб'ё з карэннем да сцягае ў балота або ў возера. Кудою чорт цёг дуб'ё, там да гэтага часу яшчэ ёсць равы да выскаці. Расчысціў чорт добрае лапікла зямлі, а паляшук вялеў яму нарабіць дарог. Вырваў чорт вялізазнага дуба, ухапіў яго за верх да й пацёг цераз лес. Барануе дуб карэннем, вырывае дзераўлякі і так арэ зямлю, што ззаду толькі астаюцца брады да брадзяняты. Нарабіў чорт такіх дарог, што па іх толькі ён сам і можа прайсці або праехаць. Зірнуў паляшук да давай лаяць чорта на чым свет стаіць.

— Дзеля якога ты,— кажа,— чорта нарабіў брадоў да брадзянят?

Рад чорт, што нарабіў чалавеку ліха, рад, аблізваецца да толькі ціхенька хвастом круціць.

— Ну, давай жа,— кажа паляшук,— я на табе праеду па тваіх дарогах.

Сеў паляшук на чорта да й паехаў цераз брады і брадзяняты. Бяжыць чорт па брадах у вадзе да ў гразі па самае

горла, а паляшук сядзіць на карку, падгібаўшы ногі, да толькі кіруе. Ездзіў, ездзіў паляшук на чорце, здаволіўся да й вярнуўся да гасподы.

— Бачыш, добрыя дарогі,— кажа чорт.

— Добрыя-то добрыя,— адказвае паляшук,— да чорт бы іх пабраў разам з табою.

От з тае пары і асталіся ў Палессі такія дарогі, што па іх толькі на чорце можна праехаць. Потым пачаў паляшук з чортам пляжыць лес да вазіць дзерава на будоўлю. Збудаваў сабе паляшук усялякі будынак, ускарпаў палянку зямлі, расчысціў лапікла сенажаці да й зажыў добрым хазяінам, а чорт рад, што яму асталіся балоты і нетра,— пайшоў туды да й сядзіць там з чарцянятамі. От абжыўся паляшук, нагадаваў гаўяда, нажаў збожжа, налавіў уюноў — жыве і ліха не знае. Толькі вось раз малоціць паляшук у гумне, аж і прыходзіць чорт да й пытае, што гэта чалавек робіць.

— Малачу хлеб,— кажа паляшук.

— Дай я памалачу.

Даў паляшук чорту цэп, а той як пачне біць, дак снапы ляцяць аж пад строп.

— Чаму ў цябе,— пытае чорт,— снапы ляжаць на месцы, а ў мяне скачуць уверх?

— Бо я дужэйшы, як дам, дак сноп і ўліпне ў ток.

— Адкуль у цябе такая сіла? — пытае чорт.

— Адкуль! Бо я сябе вылегчаў.

— Вылегчай мяне,— просіць чорт.

— Добра,— кажа паляшук,— толькі трэба цябе звязаць, бо ты ўцячэш, а тое зашкодзіць.

— Звяжы.

От узяў паляшук ліну, што цягаюць улье на дзерава, скрампаваў ею чорта, прывязаў яго к тоўстаму дубу, узяў серп і давай легчаць. Крычыць чорт, раве немым голасам, а паляшук піліць сярпом. Цярпеў-цярпеў чорт да як рванецца, дак перш дуба вырваў з карэннем, а потым і ліну разарваў, бы павуцінне. Вылегчаў паляшук чорта да й кажа:

— Ну, цяпер будзеш дужы, як і я.

Пацягся чорт у балота; ужэ не бяжыць, а паўзе чуць не ракам. Пасядзеў ён там — няма рады: кроў льецца, бы з вепрука. Пацягся ён зноў к палешуку. Бачыць паляшук, што чорт цягнецца раскарачыўшыся, сказаў жонцы, каб яна апранулася ў мужчынскую адзежу да й пайшла ў гумно малаціць. Апранулася баба, пайшла ў гумно і малоціць. Прыходзіць чорт. З болі ён і не ўвазнаў, што гэта не паляшук, а баба, да й пытае, што чаму гэта рана не зажывае.

— От чаго ты захацеў,— кажа баба,— каб так хутка рана зажыла. Мяне ўжо от дваццаць гадоў як вылегчалі, а яшчэ і цяпер не зажыло. Пры гэтым баба падняла падол да й паказала чорту сваю рану. Зірнуў чорт, аж праўда рана не за-

жыла. От ён падагнуў хвост да й пацёгся ў балота. От з тае пары і годзе чэрці пладзіцца. Тым часам Ілья кожнае лецячка перуном б'е іх да нішчыць. Усё менш да менш чарцей у балоце, а палешукі множацца і селяцца па ўсім Палессі. Можа скора ўсе чэрці перавядуцца, тады людзі заўладаюць і балотам і ўсялякаю нетраю.

## ЯК МЕЛЬНІК ЧОРТА НАДУВАЎ

У некаторым царстве, у некаторым гасударстве жыў адзін пруднік, і вельмі добра знаў ён сваю справу. Вось ён адзін раз малоў-малоў — камень яго і астанавіўся. Ён і то рабіць, ён і другое рабіць — нічога не бярэ. Ён і гаворыць:

— Што за чорт!

А чорт як тут быў:

— Што табе нада?

— Ды як, што нада: чаму ты так шуціш?

— Ды затым я шучу, каб ты не малоў.

— А што мне рабіць?

— А давай у карты гуляць.

— На што мы будзем гуляць?

— Хочаш на арэхі, а хочаш на шчаўкі.

— Адпусці мяне на тры часы.

Вось пруднік пайшоў к кавалю ды скаваў сабе малаток на пружыне і нажаў алавяных арэхаў; тады і прыходзіць к чорту гуляць. Чорт раз узяў, другі раз узяў, а трэці раз пруднік схамянуўся. Як здалі карты, чорт і пытае ў прудніка:

— Што ў цябе?

— Хрэсці!

Чорт і гаворыць:

— Бяры, бяры!

Вось яны гулялі-гулялі, потым чорт як стане яго арэхі кусаць: жвець, жвець, ды й выплюне, а пруднік як выйграе, так і пакусае. Чорт і гаворыць:

— Ці не хопіць нам гуляць у арэхі: твае арэхі дрэнь, давай лепш на шчаўкі.

Вось як здадуць карты, чорт і пытае:

— Што ў цябе?

— Хрэсці!

Тады чорт гаворыць:

— Бяры, бяры!

Вось пруднік як стаў даваць свае шчаўкі, чорт і кажа:

— Не, пруднік, хопіць і на шчаўкі гуляць!

— А што будзем цяпер рабіць?

— А во што, брат пруднік, пойдзем ляда матычыць.

— Ну, пойдзем!

Пруднік матычыць цэлы дзень па лапічку, а чорт дзесяціну. Вось яны наматычылі вялікае поле.

— Ну, што мы будзем сеяць? — пытае чорт.

— А пасеем пшаніцу.

Вось яны пасеялі пшаніцу. Расла-расла тая пшаніца і ўжо паспела. Тады прыходзіць чорт к пруднiку:

— Ну, пруднік, давай пшаніцу дзяліць! Што ты возьмеш: макушкі ці камлюшкі?

— Я вазьму макушкі.

А чорт:

— А я вазьму камлюшкі.

Вось пруднік стаў ірваць макушкі ды вазіць дамоў і кладзе ў гумно, а чорт ірве ржышча ды носіць у кусты. Потым пруднік пачаў сваю пшаніцу малоць, памалоў яе. Прыходзіць чорт к пруднiку:

— Давай мне паспытаць сваёй часці!

Пруднік даў чорту пакаштаваць ляпёшкі. Чорт і гаворыць:

— А ты мяне надуў, пагадзі,— цяпер ужо не надуеш! Давай зноў ляда матычыць.

Вось яны ўзматычылі.

— Ну, пруднік, што мы цяпер пасеем?

— А цяпер ужо пасеем рэпу.

Вось яны пасеялі рэпу. Паспела рэпа.

— Ну, пруднік, будзем рэпу дзяліць?

— Давай. Ды глядзі не памыліся: не вазьмі зноў камлюшкі.

— Не,— гаворыць чорт,— ты мяне ўсё надуваеш, а цяпер ты не надуеш: цяпер я ўжо вазьму макушкі.

А пруднік гэтаму і рад.

Вось пруднік стаў выбіраць рэпу, а чорт давай валачыць цеціву ў кусты. Управіліся яны з гэтай рэпай. Прыходзіць чорт к пруднiку і гаворыць:

— Ну, давай есці, чыё каму падабаецца!

Вось даў пруднік чорту адну рэпку. Чорт і гаворыць:

— Ну што, пруднік, наша дружба, здаецца, з табою ўрозь.

— Калі так, то ўбірайся прэч!

— Што табе нада яшчэ?

А пруднік і гаворыць:

— А во што мне нада: пазыч мне грошай тысяч пятнаццаць.

— А, гэта можна! А калі ты мне іх аддасі?

— А во калі я табе аддам: калі будуць ісці свінні з поля пяшком ды будзе вялікая спякота.

Вось чорт давай выбіраць самы жаркі дзень. Пайшоў на выган і глядзіць, як свінні ідуць: шагам або не. А свінні ідуць сваім парадкам. Нельга чорту ў прудніка грошай спытаць. Вось ён і гаворыць:

— Ну што, пруднік, прапалі мае грошы?

— Ты пачакай нямнога, потым зноў прыйдзі.

Праз некаторы час чорт зноў прыходзіць к пруднiку, а пруднік стаў над ракой і давай віць вяроўку. Чорт і гаворыць:

— Пруднік, што ты гэта робіш?

— А я ўю кавязу, усіх чарцей з вады завязу!
— Брат пруднік, зрабі міласць, не ві! Што ты ў мяне грошы занімаў, то я ў цябе не буду пытаць.
Вось з тых пор пруднік з чортам раздружыўся.

## МУЗЫКА І ЧЭРЦІ

Быў адзін музыка. З маленства ён нічога не рабіў, толькі іграў. Яшчэ хлапчуком пасе валоў альбо коней, зробіць з лазы дудачку ды як зайграе, дык валы пакінуць пасціся, развесяць вушы да й слухаюць, а ў лесе птушкі прыціхнуць, нават жабы не крумкаюць. А як павядзе коней на начлег,— лета, ночы цёплыя, аж парыць; папрыводзяць на дуброву коней хлопцы і дзеўкі з усяго сяла, сваволяць, смяюцца, пяюць песні — ведама, маладосць, заўжды весела, а музыка як зайграе на сваёй дудачцы, дык адразу ўсе прыціхнуць. Ім здаецца, што якаясь слодыч улілася ім у сэрца, а якаясь сіла ўхваціла на плечы і нясе ўсё ўгору, к ясным зоркам, у чыстае неба, у чыстае, сіняе, шырокае неба. Сядзяць яны, нічога не думаюць, забыліся, што рукі і ногі млеюць ад цяжкае работы, што ў жываце бурчыць ад голаду. Сядзяць і ўсё слухаюць. І хацелася б ім сядзець гэтак усё жыццё і ўсё слухаць, як грае музыка. Вось ён замаўчыць. Але ніхто не смее паварухнуцца, каб не спужаць таго голасу, што пошчакам рассыпаўся па дуброве, па лесе і паднімаецца ў самае неба. Але вось зайграе музыка жаласліва, і заплачуць і лес і дуброва, набяжыць хмарка, і з неба слёзкі так і пальюцца. Ідуць позна да гасподы мужыкі і бабы, учуюць тую музыку, стануць, слухаюць, плачуць. От так уся іх горкая жытка перад ачу й стаіць, і такі іх апануе жаль, што і мужыкі, старыя, барадатыя мужыкі, плачуць, як бабы над пакойнікам альбо як праводзяць сынкоў у салдаты. Але вось па немалым часе музыка ад жаласлівага да на вясёлае зверне. Пакідаюць мужыкі і бабы косы, граблі, вілы, гаршкі і біклагі, возьмуцца ў бокі і давай скакаць. Скачуць малыя дзеці, скачуць коні, скачуць кусты і лес, скачуць зоркі, скачуць хмаркі — усё скача і смяецца.

Вось такі-та быў музыка чарадзейнік, што захоча, то ён з сэрцам зробіць.

Падрос музыка, зрабіў сабе скрыпачку і пайшоў у свет. Куды прыйдзе — пайграе, а за тое яго накормяць, напояць як самага лепшага госця і яшчэ дадуць на дарогу. Доўга хадзіў так па свету музыка, весяліў добрых людзей, а ліхім без нажа рэзаў па сэрцу.

Бачаць чэрці, што, куды музыка прыйдзе, там менш людзі грэшаць, і давай вастрыць на яго зубы. Ідзе раз музыка цераз лес, а чэрці й наслалі на яго дванаццаць галодных ваўкоў. Заступілі яны музыку ў лесе дарогу, стаяць да зубамі ляскаюць,

а вочы гараць, як гарачае вуголле. Няма ў музыкі нічога ў руках, толькі пад пахаю ў мяшочку скрыпка. Што тут рабіць! Думае музыка, што тут пачаць. Прыйшоў яму капец. Дастаў ён з мяшэчка скрыпку і смык, каб хаця яшчэ раз напаследак паіграць, прысланіўся к дзераву да й пацёг смыкам па струнах. Як жывая загаварыла скрыпка, раздаўся пошчак па лесе. Прытаіўся лес — і лістком не варухне, а ваўкі як стаялі, разявіўшы горла, так і акамянелі: стаяць да слухаюць, а слёзы так і цякуць з воўчых ачоў. Перастаў музыка іграць, а ваўкі, бы сонныя, пасунуліся ў лес.

Пайшоў музыка далей. Ідзе ён да ідзе, падходзіць к рацэ. Сонейка ўжо закацілася за лес, толькі яшчэ свеціць на самыя вярхі і як бы аблівае іх пазалотаю. Ціха, як у вусе, ніводзін лісток не варухнецца. Вельмі харошы вечар. Сеў музыка на камень на крутым беразе, каля ракі, дастаў сваю скрыпачку і зайграў, да так гожа, што яго заслухаліся і неба і зямля. І давай усё скакаць. Зоркі мітусяцца, як зімою снег, хмаркі плаваюць па небе, як ластаўкі перад дажджом, а рыба так узгулялася, што рака кіпіць, як вада ў гаршку. Але вось падняўся ў рацэ вадзяны цар да як пачаў скакаць, дак вада так запляскала, што заліла берагі, а чэрці спужаліся і павыскаквалі з вады. Бачаць яны, што ім ад музыкі нідзе супакою няма, вось яны давай думаць, як бы яго загубіць. Бачыць музыка, што вадзяны цар нарабіў людзям бяды, перастаў іграць, палажыў скрыпачку ў мяшок і хацеў ісці далей, але вось падходзяць два панічы і просяць пайграць на ігрышчы, абяцаюць заплаціць, што схоча. Падумаў музыка, што яму недзе начаваць да й грошай няма, паслухаў панічоў і пайшоў з імі іграць вечарынку. Прывялі панічы музыку ў палацы. Бачыць ён, аж там паноў і паненак хоць гаць гаці. Пакуль ён збіраўся іграць, бачыць, што гэта ўсё панічы — падбягуць к сталу, абмочаць палец у міску і мажуць сабе вочы. Памазаў і ён, да як памазаў, дак і бачыць, што гэта не паны, а чэрці і ведзьмы й што ён не ў палацах, а ў пекле. Вось і зайграў ён, да так, што ўсё пекла разлящелася ў шчэпкі, а чэрці разбегліся па ўсяму свету. З тае пары чэрці і баяцца музыкі і больш яго не чапаюць.

## ЧОРТАВА БАЛОТА

Бачыце, якая тут нетра, якая тхлань: цэлы тыдзень ідзі, то да краю не дацягнешся. Даўней тут была чыстая вада, усё лялела да блішчала на сонейку, бы шкло. Бог едзіў па вадзе ў чоўне да аглядаў, дзе зрабіць зямлю. Раз плыве бог у чоўне да мяркуе, як і дзе што ўродзіць; а тым часам чорт закмеў бога да й паплыў за ім назіркам: падплыве к чоўну да ад страху нырне ў ваду, бы нырэц, і зноў плыве. Вельмі яму хочацца пранюхаць, што бог мае рабіць. Бачыць бог, што чорт прэцца

следам, як тая мара, бачыць да ўсё маўчыць. Пасеяў бог зямлю — сыпануў жменю зямлі, а тут разам расступілася вада і высунулася сухая зямля з лесам, з полем да з сенажацямі. Глядзіць чорт да толькі дзівіцца, адкуль тое ўсё бярэцца. Плыве бог да жменяю з чоўна, бы з сяўка, раскідае насенне. Прыгледзеўся к таму чорт і думае сабе: «Каб мне дастаць гэтага насення,— нарабіў бы я мудрэй бога, нарабіў бы так, што сам Люцыфер пазавідаваў бы». Пабачыў бог думкі чорта да й пазволіў яму ўзяць таго насення. Павярнуў бог човен да акурат на чорта і наткнуўся. Скорчыўся чорт, хацеў шмыгнуць у ваду, зачапіўся хвастом за пастырчак да й круціцца на віру, бы ўюн.

Тым часам бог адвярнуўся ў другі бок, а човен плыве каля самага чорта. Скорчыўся чорт, што божы човен апёк яму бок, але тым часам ухапіў з чоўна жменю насення, а каб бог не ўбачыў таго да не адабраў, хуценька кінуў насенне ў горла да й глынуў. Не прыкмеціў нібыта бог і паплыў далей. Рад чорт і ад радасці сунуў убок, далей ад бога. Але вось бачыць чорт, што яго чэрава расце, бы на дражджах, расце, аж бакі распірае. Расце чэрава ўсё больш і больш, расце так, што чорту нельга й дыхаць. Давай гэта ён бляваць да выплёўваць тое насенне. Куды плюне чорт, дык там і вырасце корч або куст лазы. Прэцца чорт па вадзе, да так блюе, што аж з яго вантробы выпірае. А тым часам усё больш і больш па вадзе заплёўваецца чортава лаза. Моташна чорту, хочацца яму ўсё насенне з жывата выкінуць, от ён снуе па вадзе, бы павук, да ўсё блюе. Па немалым часе ўся вада закрылася лазою да ракітаю. Зачапіўся чорт за лазу да як рыгне, дык усё насенне і выскачыла з жывата ў ваду, і пачала з яго расці ўсялякая непатрэбная трава. Запаганіў чорт чыстую ваду і абярнуў яе ў паганае чортава балота. Зірнуў бог, што нарабіў чорт, да аж за галаву схапіўся. Што тут рабіць, што пачаць?! Як тут лазу выгубіць? А, ведама, куды ўжо лаза ўплюнецца, дык яе нічым не выгубіш. Паслаў бог сонейка, каб яно спаліла чортаву лазу. Прыпякло сонейка, нагрэла ваду, а лаза хоць бы што — яшчэ лепш расце. Узялася лаза па балоце, бы везель. Бачыць сонейка, што нічога не парадзіць, кінула пекці і пайшло к богу на скаргу. І вялеў бог марозу вымаразіць паганыя кусты. Хапіў мароз, трашчыць, гняце. Замерзла вада, а лаза і нігадкі — сядзіць сабе да вясны чакае. Што ні рабіў мароз, як ні ціснуў лазовыя карчы, маразіў, аж з сілы выбіўся і пайшоў к богу на скаргу. Падумаў, падумаў бог да й вялеў, каб лаза аставалася расці, бо, ведама, пакуль згубіш ліхое, то добрае само згіне. Расце лаза і закрывае не толькі балота, але й сенажаці, а то лезе і на поле. Пабачыў чалавек, што лазы так многа, да й думае сабе: «Ці няможна і з лазы што-небудзь патрэбнае зрабіць». Пайшоў чалавек у чортава балота, наздзіраў з лазы кары да й давай віць вяроўкі. Уе да песні пяе. Убачыў тое чорт і спужаўся. Падходзіць ён к чалавеку да й пытае:

— Што ты, чалавеча, робіш?

— Хіба табе бельма павылазілі, што не бачыш,— кажа чалавек.

— Бачыць-то я добра бачу, але не ведаю, навошта табе гэтая работа.

— А вось дай пакажу.

Узяў гэта чалавек, скрампаваў чорта лычаком да й прывязаў яго к таўшчэразнаму дубу.

— От цяпер,— кажа чалавек,— давай я цябе вылегчаю. Спалохаўся чорт да як ірванецца, дык і вырваў дуб з карэннем, вырваў да й сунуў наўцекача з дубам разам. Бяжыць па балоце, а дуб карэннем да сукамі баранує зямлю, толькі выскаці да глыбокія равы ззаду астаюцца. А чалавек сеў сабе на рала таго дуба да пакрыквае на чорта:

— Вяртай налева! Вяртай направа!

Бегаў, бегаў чорт, узвярнуў усё балота. Ад таго часу яшчэ стаяць па балоце выжары, азярыны да выскаці. Доўга круціўся чорт, пакуль вылузаўся з вяровак, а потым як сунуў наўцекача, дык чорт ведае куды й дзеўся. Астаўся тут чалавек і заўладаў чортавым балотам. Давай гэта ён церабіць лазу, драць яе то на лапці, то на лычакі. Выцерабіў трохі, пабудаваўся сярод лесу, ускарпаў поле, высек на сенажаць, але да гэтага часу нічога не парадзіць з чортавымі карчамі: высячэ адзін, то дзесяць вырасце. І астаецца чортава балота чортавым балотам да гэтага часу.

## ПАПОЎСКІ НАЙМІТ

У адной слабадзе жыў поп. Раз ён пайшоў на базар наймаць работніка; доўга хадзіў па базары, аж сустракае чалавека ды й пытае:

— Ці ты наймешся да мяне ў работнікі на год?

— Наймуся.

— А колькі ты возьмеш?

— Ды я вазьму не дорага: дваццаць рублёў, ды толькі з такой умовай, каб адзін на аднаго не злаваўся і не лаяўся, а як нехта з нас раззлуецца, то таму адсекці галаву.

— Калі так, то й так,— сказаў поп.

Дае поп работніку рубля задатку і кажа:

— А я тут яшчэ пахаджу ды што-небудзь куплю, а ты ідзі да мяне прама дадому.

Жывуць яны тыдзень, другі. Глядзіць поп, не выконвае работнік сваю справу як след: што яму рабіць? Просьбы не слухае, а лаяць нельга. А потым поп прыдумаў заданне ды й кажа пападдзі:

— Давай пашлем свайго работніка ў лес за дровамі, там яго звяры з'ядуць; дадзім яму дрэнных валоў, каб не шкода было, як іх з'ядуць зверы.

Прыйшоў поп да работніка ды й кажа яму:

— Запрагай гэтых шэранькіх валоў ды едзь у лес па дровы.

А работнік не быў разявакай, ён чуў усю гаворку папа з пападдзёю ды ўзяў з сабой пуд пражы, бочку смалы, зрабіў сабе бізун, прычапіў яго да панараду, палажыў на воз, запрог валоў ды й паехаў у лес па дровы. Заехаў аж на сярэдзіну леса ды й давай секчы дровы. Калі ж прыходзяць два мядзведзі і пачалі лавіць валоў да есці. Работнік і кажа ім:

— Ешце, ешце, будзеце вы самі тады везці мой воз.

Насек дроў, наклаў на воз іх так багата, што тыя валы, якіх мядзведзі паелі, і з месца не зварухнулі б; тады ўзяў палавіў тых мядзведзяў, запрог іх у воз, а сам залез на воз ды й паганяе іх бізуном. Прыехаў дадому, а поп як пабачыў, што работнік едзе мядзведзямі, дык аж звар'яцеў. Работнік узяў выпраг сваіх волікаў, пусціў іх у загон, а сам пайшоў у хату абедаць. Як пайшлі ж тыя волікі душыць ды есці жывёлу, дык за тыдзень засталіся ў загоне адны косці. Пасылае поп зноў свайго работніка да памешчыка за грашыма і думае сабе, што там яго разарвуць злыя сабакі. Аж не, таго работніка не абдурыш, бо ён, мабыць, зачараваны. Ён запрог сваіх валоў, узяў бізун і паехаў спаганяць грошы, цэлую мерку. Прыязджае да пана ў двор; а сабакі на яго й напалі; ён іх узяў да й пазабіваў сваім бізуном. Уваходзіць да пана ў хату ды й кажа яму:

— Давай, пане, папоўскія грошы.

— Якія?— кажа пан.

— Ды я ж не ведаю: мяне паслалі, дык давай, а то тут табе і смерць.

— Колькі ж табе грошай?

— Ды цэлую мерку!

Спалохаўся пан, адмераў мерку грошай і аддаў. Работнік узяў грошы ды й паехаў дадому. Прыязджае, а поп стаіць каля варот сам не свой, вароты адчыняе і галавой ківае, думае сабе: «Вось чыста хвароба мне з такім работнікам». Праз тыдзень поп зноў пасылае работніка ў млын да чарцей, за мукою. Ён паехаў. Прыехаў да млына, злез з возу і ідзе ў млын. Чэрці тут яго і спынілі:

— Чаго гэта ты,— кажуць,— сюды прыцёгся? Мы цябе тут раздзярэм і костачкі не астанецца.

Ён, нядоўга думаўшы, узяў свой бізун ды як пачаў чарцей перабіраць, як пачаў... Чэрці ўжо бачаць, што бяда, ды давай цягаць мяшкі яму на воз; нацягалі столькі, што мядзведзі ледзь-ледзь што цягнуць. Ён узлез на воз ды едзе дадому. Калі гэта трэсь, паламалася вось. Ён падняўся з возу, пабег у млын да чарцей, паймаў аднаго за рогі ды й цягне яго да воза. Прывёў і кажа:

— Лезь, акаянны, пад вось ды трымай яе, каб яна не цягнулася па зямлі.

Той чарцяка ўтрое сагнуўся, трымае ды аж крэкча ад такога ліха, якога яму і зроду не здаралася бачыць.

— Трымай, трымай, акаянны!— крычыць яму з возу папоўскі работнік, а сам паласуе сваіх валоў бізуном.

Прыехаў да двара, а поп ходзіць па двары.

Работнік і гукае:

— Попе, попе, адчыняй вароты.

Раззлаваўся поп, што з чарцякамі работнік справіўся, ды й кажа:

— Няхай табе бес.

— Ды бес не гуляе, ён трымае вось,— кажа работнік.

Нічога не зробіш, трэба папу адчыняць вароты. Заехаў работнік на двор, паскідаў мяшкі ў каморку ды тады ўзяў свой бізун ды як агрэе таго чорта. Чорт, бедалага, ледзь не... і драпануў дадому, толькі пыл падняўся.

Жывуць яны месяц, жывуць паўтара, калі гэта поп з пападдзёю задумаў уцякці ад работніка. Узяў поп два мяшкі, палажыў у адзін сухары, а ў другі рызы, кніжкі ды яшчэ штосьці і сабраўся ў дарогу. Перад тым днём, калі ім трэба ўцякаць, поп разгаварыўся з пападдзёю пра ўцёкі, а работнік тады якраз ляжаў на лаве ды чуў іх размову. Пачуў ён, што яны ўжо спяць, ды ўзяў укрыў сваю пасцель дзяружкай, так як быццам бы ён там спіць, а сам пайшоў ды высыпаў сухары з мяшка, улез у мяшок і завязаўся. Устае поп, паглядзеў, што работнік не варушыцца, ды й будзіць пападдзю.

— Уставай ды будзем хутчэй уцякаць.

Пападдзя паднялася. Выйшлі ціхенька на двор, поп ухапіў той мяшок, што быў з сухарамі, а пападдзя той, што з кнігамі, ды й падаліся і не аглядаюцца. Бягуць ды бягуць і ўжо далёка забеглі. Калі чуюць, нібы нешта гукае. Яны тады яшчэ хутчэй пабеглі. Ужо пападдзя так замарылася, што аж ногі заплятаюцца, а яшчэ такі бяжыць. Бягуць ды й бягуць; калі тут рэчка, хоць не надта глыбокая, але шырокая. Сталі яны пераходзіць цераз тую рэчку, а работнік сядзіць у мяшку ды й кажа:

— Глядзі, попе, мяне не замачы.

А поп з перапалоху не разабраў, дзе яно гаворыць, ды як пабяжыць, што шалёны, дык не заўважыў, як і на беразе апынуўся. А работнік крычыць яму:

— Ды не дужа бяжы, а то і мяне ўпусціш.

Поп тады адурэў ды й стаіць, а пападдзя толькі глядзіць на яго. Думаў, думаў поп ды й кажа:

— Хіба і ты тут?

А работнік прарэзаў мяшок ножыкам, выскачыў ды й кажа:

— А вы думалі так ад мяне і ўцячы, не, мяне не ашукаеце.

Надышла ноч.

— Дзе ж цяпер будзем спаць?

— А тут, на беразе,— кажа работнік.

— Па мне хоць і тут,— кажа поп,— толькі ты кладзіся ад берагу, пападдзя пасярэдзіне, а я аж з краю, ад гары.

Пасламіся класціся спаць. Поп узяў адышоў з пападдзёю за ўзгорак ды й кажа ёй:

— Як засне работнік, то я разбуджу цябе, ды ўкінем яго ў рэчку, у глыбокае месца, дык ён утопіцца.

А работнік усё і падслухаў. Палеглі спаць. Пападдзя абкруцілася ў рызы, а поп накрыўся расаю, ды і заснулі. А работнік ляжыць ды й слухае, ці яны ўжо храпуць. Пачуў, што ўжо пачалі храпці, аж харкочуць, ён акуратненька ўстаў, сцёг з пападдзі рызы, адкаціў яе на сваё месца і накрыў мяшком, а сам уматаўся ў рызы, лёг ды й будзіць папа:

— Попе, попе, уставай, ужо работнік спіць.

Поп усхапіўся, як ухопіць з работнікам тую пападдзю ды ў рэчку шыльбух, дык і забулькацела. Работнік тады й кажа:

— Вось так прапала пападдзя.

— Хіба гэта ты тут?— кажа поп, а сам стаіць ні жывы, ні мёртвы, спалохаўся.

— А ты думаў дзе?

Астаўся тады поп без пападдзі з работнікам удвух жыць, ды й да гэтага часу дзесьці жывуць ды хлеб жуюць і ніяк адзін ад аднаго не адчэпяцца: што поп уцячэ, то той хлопец і зловіць.

## ПРЫГОННЫ СЕЛЯНІН І ЧОРТ

Колісь, як была паншчына, у аднаго пана служыў чалавек. От пан яму кажа:

— Дай мне дзве жмені срэбра або выгані з таго балота чарцей, то я цябе на волю адпушчу.

Чалавек думае сабе: срэбра цяжка дастаць, а чарцей можна выгнаць.

Пайшоў ён да каваля, каб той яму зрабіў драцяны бізун. Каваль зрабіў. Узяў ён бізун ды да таго возера. Прыйшоў і пачаў з гразі слупкі ляпіць.

Аж чорт выходзіць з возера ды й пытае:

— Што гэта ты, чалавеча, робіш?

Чалавек яму кажа:

— Вось думаю пабудаваць на возеры манастыр. Вось, бач, і слупы палажыў.— Паказвае на тыя слупкі, што з гразі ляпіў. Чорт яму кажа:

— Не пабудуеш ты тут манастыр, бо мы цябе задушым.

Сказаў ды зараз жа і пабег у возера і пахваліўся самаму галоўнаму чорту. А той, галоўны, пасылае да таго чалавека высокага чорта і наказвае:

— Скажы так таму чалавеку, што думае тут манастыр будаваць: як падужае цябе, то адступім адсюль, а як ты яго падужаеш, то ён павінен адступіць ад гэтага возера.

Выходзіць высокі чорт з возера ды й кажа чалавеку:

— Казаў так наш начальнік: хто каго з нас паборае, той таму гэта возера ўступіць.

Чалавек кажа:

— Дзе табе мяне падужаць! Лепш пaборайся з маім дзедам. Ён такі ўжо стары, што ўвесь аброс мохам, ён тут у лесе ляжыць.

А каля таго возера быў блізка лес. От чорт і паслухаў. Прыходзяць у лес, аж там пад карчом ляжыць мядзведзь. Чалавек яму кажа:

— Вось гэта той дзед, ідзі з ім паборайся. Як яго пабораеш, тады і са мной будзеш барацца.

Чорт прыходзіць ды й торкае мядзведзя лапаю.

— Чуеш, уставай, будзем барацца.

Тут мядзведзь як усхопіцца, як возьме яго ў лапы ды давай кусаць ды мяць — ледзь чорт вырваўся. Прыбягае ў возера ды й кажа галоўнаму чорту:

— Шкода. Нельга яго пабіць. Калі я з яго дзедам бораўся, ды не пабораў,— а дзед яго такі стары, што аж мохам аброс увесь,— то як бы з ім бораўся, ён бы мяне й жывога не пусціў.

От той пасылае другога чорта, ужо гарбатага, да таго чалавека. Выходзіць той гарбаты ды й кажа яму:

— А ну, хто мацней свісне, то таго будзе возера.

Чорт як свіснуў, то й лісце з дрэў пападала. Тады чалавек кажа:

— А ну, я свісну. Толькі ты вочы завяжы хусткай, бо як свісну, то й павыскакваюць.

Чорт і завязаў хустачкай вочы. Той як свіснуў яго бізуном па шыі, дык ён і пакаціўся ў возера. Прыйшоў ды й кажа галоўнаму чорту:

— Нічога мы не зробім з ім, бо я як свіснуў, то з ім нічога не здарылася, а як ён свіснуў, то ледзьве мне вочы не павылазілі.

От ён пасылае трэцяга чорта, такога гладкага, як гадаваны кабан, і дае яму сваю булаву, такую, што, можа, пудоў пятнаццаць, і гаворыць яму:

— Няхай хто вышэй закіне.

Выносіць тую булаву да таго чалавека і кажа:

— Ото так казаў наш начальнік: хто вышэй падкіне гэту булаву, то таго будзе возера.

Чорт жа той галоўны, як даваў булаву, папярэдзіў:

— Глядзі, каб ты яе нідзе не дзеў, бо толькі ты яе дзе-небудзь дзенеш, усе мы тады прапашчыя.

От чорт як падкінуў яе ўгору яшчэ зранку, то аж увечары ўпала на зямлю, а той чалавек толькі з аднаго боку яе падыме, а каб усю яе падняць, то гэтага не мог. Гэта ж ён узяў за адзін канец ды й глядзіць на неба, а чорт яго пытае:

— Чаго ты глядзіш угору?

Чалавек кажа:

— Чакаю, пакуль хмарка набяжыць, бо хачу яе закінуць, каб ты ніколі яе не бачыў.

Тады чорт за тую булаву ды ў возера. Прыбег і кажа чорту самаму галоўнаму:

— Хацеў закінуць булаву на неба, а я не даў.

Галоўны пасылае зноў аднаго чорта да таго чалавека, каб спытаць яго, ці не захоча ён грошай багата ўзяць, абы толькі іх з возера не выганяў. Чорт прыходзіць да яго і кажа:

— Што табе даць, каб ты толькі не выганяў нас з гэтага возера, бо гэта возера яшчэ нашых прадзедаў?

Чалавек яму кажа:

— Я з цябе багата не хачу, толькі дай мне вось гэты капялюш поўны срэбра.

Чорт яго пытае:

— Зараз табе даць грошы?

— Не, прынясеш мне ўночы ў камору.

— От добра, прынясу, толькі не чапай нас.

Прыйшоў чалавек дадому, выкапаў у каморы вялікую яму і зверху прапусціў такую дзірку, каб капялюш змясціўся ў яме, а потым прарэзаў дно ў капелюшы ды й паставіў яго на той дзірцы. Калі ўночы чорт нясе яму мяшок срэбра. Прынёс, высыпаў у капялюш, глядзіць — аж ён парожні. Прынёс ён яшчэ тры мяшкі срэбра — ды такі яшчэ не поўны капялюш.

А чорт і не агледзеў, што пад капелюшом яма, ды й носіць грошы, пакуль не нанасіў поўны капялюш. Той чалавек забраў тыя грошы, даў дзве жмені пану срэбра ды й выкупіўся ад паншчыны.

## ЧОРТ І БАБА

Жылі сабе дзед да баба. Жылі яны ў згодзе да ў ладу, ніколі не сварыліся, не зневажалі адно другога. Так пражылі яны ўсю жытку й дажылі да старасці. Чорт хацеў спакусіць іх. Дванаццаць гадоў сядзеў ён у падпечку, але нічога не зробіць. Выпетраў чорт, бы шкурат. А дзед з бабаю жывуць сабе ладком да бога хваляць. Хацеў ужо чорт кінуць гэтых людзей да ісці спакушаць другіх, але ось раз чуе, што людзі кажуць: дзе чорт не йме, там бабу пашле. Пачуў гэта чорт і пайшоў шукаць такое бабы, каб яна звяла гэтых праўдзівых людзей. Не доўга прышлося чорту шукаць такое бабы: чуць толькі ён высунуўся на вуліцу, як бачыць, ажно бяжыць за мужыком з качаргою падтыканая баба і дубасіць яго па патыліцы й па чом папала да крычыць на ўсё сяло:

— Ось жа табе, хварэць тваёй матары!.. Я табе пакажу,

як збожжа ў карчму цягаць... Я табе пакажу, валацуга ты гэтакі. Ад мяне не ўтоішся. Я што захачу, то зраблю. Хіба ты забыўся, што баба й чорта перахітруе!

Лупіць баба качаргою мужыка, а чорт і рад.

— От,— думае,— гэта баба ўсё зробіць, што захоча, трэба толькі к ёй падкаціцца.

От чорт, каб задобрыць бабу, хацеў ёй прыслужыцца да й ухапіў мужыка за каўнер, каб прытрымаць яго.

— Ах ты, сякі-такі!— накінулася баба на чорта.— Свой сячыся, рубайся, а чужы не мяшайся. Што нос уваткнуў...— І давай чорта пярэсціць качаргою. Насілу чорт вырваўся, да ў ногі. Толькі на загуменні трохі ачухаўся чорт, стаіць да паскрэбаецца, бо баба яму немаль усе косці паламала. Пастаяў чорт і вярнуўся ў сяло. От найшоў тую бабу й давай яе прасіць, каб памагла спакусіць тых праўдзівых людзей.

— Добра,— згаджаецца баба,— толькі за тое дай ты мне шапку грошай.

Чорт абяцаў даць бабе поўную шапку грошай, абы яна толькі так зрабіла, каб дзед з бабаю пасварыліся.

— Што, каб пасварыліся!— кажа баба.— Я так зраблю, што заўтра дзед не толькі аблае бабу, але й павалочыць за косы.

Рад чорт. Зноў залез пад печ і сядзіць, чакае, што гэта баба зробіць. От гэтая сярдзітая баба, бы незнарок, бяжыць з вядром і сустракае жонку таго праўдзівага чалавека. Сталі яны пасярод вуліцы й давай сакатаць. Ведамо, бабы, як сыдуцца, та датуль будуць лапатаць, пакуль аб усім не перагавораць. От пытаюцца яны адна ў другой, ці любяць іх гаспадары, ці добра з імі жывуць.

— Мой гаспадар,— кажа сярдзітая баба,— хаць і п'яніца, хаць і лаецца й зневажае, але так любіць, так любіць...

А тая кажа, што яны з сваім гаспадаром так добра, так згодна жывуць, што дай бог так жыць усім добрым людзям.

— Але твой гаспадар цябе, мабыць, не любіць, калі ніколі не аблаяў або не выцяў, ці мо ён ужо няўздолее?— Пры гэтых словах баба прыгнулася к вуху й штось шапнула суседцэ.

— Эге ж, праўду ты кажаш,— жаліцца жонка праўдзівага чалавека,— гэта маё няшчасце.

— І-і, родная! Калі схочаш, я навучу, што зрабіць, дак не толькі штоб што, але й не наталіш!

— Ой, баюся я, родная, мо яшчэ зашкодзіць...

— Не, не зашкодзіць, ты толькі слухай, зрабі, што я табе скажу. Гэта, бачыш, усё няшчасце, што ў твайго гаспадара пад барадою выраслі сухія валасы; от каб ты іх выразала, толькі каб гаспадар аб том не ведаў, тагды б вы былі так шчаслівы, так шчаслівы, што б вам усе людзі завідувалі.

— Як жа гэта зрабіць, каб гаспадар не ведаў?

— А от як. Купі гарэлкі, спячы яечню да й напой свайго гаспадара, а як ён ляжэ да засне, вазьмі нож, пагастры аб прыпек, плюнь трэйко пад печ да й выраж тые сухія валасы. Яны так і стырчаць проціў шэрсці.

— Дзякуй табе, родная!

— Так глядзі ж, зрабі сягоднячы, та заўтра яшчэ не так падзякуеш: здаволішся, усю ноч спаць не дасць, як з замаладу, хі-хі-хі!.. — І баба засмяялася да й пайшла да гасподы.

От толькі сонейка села за лес, жонка праўдзівага чалавека збегала ў карчму, прынесла кварту моцнай гарэлкі й давай прагці яечню. Тым часам тая баба сустрэла таго праўдзівага чалавека да й кажа яму, што яго сягоднячы хоча жонка зарэзаць. Той не верыць, але яна клянецца на чом свет стаіць, што праўда.

— От жа,— кажа,— пабачыш, яна цябе сягоднячы падпоіць, а як ты ляжаш спаць, та яна цябе зарэжа. От пабачым. Толькі ты сягоднячы ўлезеш да гасподы, яна паставіць на стол яечню й пляшку гарэлкі. Гэта, каб ты ўпіўся да не скеміў, што яна ліха замышляе. А ты толькі прыкінься, быццам спіш, та пабачыш, што яна будзе рабіць.

— Брэшаш, патаскуха! За што мяне мая баба будзе рэзаць, калі мы так добра жывем,— маўляў, справядлівы чалавек і пацёгся да гасподы, каб скарэй аб том сказаць жонцы, але толькі ён пераступіў парог і зірнуў, што жонка ўпраўду пражэ яечню, дак і прыкусіў язык. «Эге,— думае,— мабыць, паганая баба не брахала».

І прыкінуўся ён, што батцэ нічога не ведае, каб паглядзець, што з гэтага выйдзе. Пазірае ён: ось жонка спякла яечню, паставіла на стол пляшку гарэлкі і кажа:

— Пасілкуйся.

— Што гэта ты баба? Хіба сягоння свята, ці што?

— Не, гэта кума мне дала... Выпі, некалі тое будзе.

Выпіў ён чарак са тры гарэлкі, з'еў яечню да й выцягся на лаве, нібы заснуў. Храпе, батцэ спіць; а адным вокам пазірае. Бачыць, аж жонка ўзяла вялізазны нож і давай яго вайстрыць аб прыпек. «Ну,— думае,— праўду казала паганая баба».

От навайстрыла жонка нож, плюнула трэйко пад прыпек так, што аж вочы чорту заплявала, і падходзіць к гаспадару. Толькі яна ўзяла гаспадара за бараду, а той як усхваціцца, хопіць яе за косы да пачне пярэсціць па чом папала. Крычыць баба на прамілы бог:

— Людзі добрыя, ратуйце!

А ён лупіць, як сідараву казу.

— Ось я табе, хварэць твайму бацьку да стагнаць тваёй мацеры, ось я табе пакажу, як гаспадара рэзаць!

Чуць не забіў дзед бабу, але суседзі пачулі крык, збегліся й абратавалі. Рад чорт, вылез з падпечка, працёр вочы да толькі хвастом віляе. І панёс ён бабе грошы. Прыпёр цэлы мех. А баба

паставіла ўверх дном вялізазную бочку, прарэзала ў дне дзірку, а на яе палажыла дзіравую шапку. Сыпаў, сыпаў чорт у шапку грошы — ніяк не напоўніць. Знаў ён, дзе ў зямлі схаваны грошы. Паляцеў, прыцёг яшчэ мех. Сыпаў, сыпаў, а шапка ўсё няпоўна. Падняў ён трохі шапку, бачыць, аж баба яго перахітрыла. Як закмеў тое чорт, дак і кінуўся к бабе з кулакамі. Ухапіла баба вілы да й кажа:

— Ну, падлезь, дак я табе адразу бельма выкалю.

Спужаўся чорт і пераскочыў цераз плот. Баба за ім. А чорт ухапіў ожаг і абараняецца.

— От,— кажа баба,— пакуль ты мне зробіш ожагам адну дзірку, та я табе віламі дзве.

— Давай мяняцца,— кажа чорт.

— Давай.

Памяняліся яны і давай біцца. От баба што пырне ожагам праз плот, та ўсё ў чорта пападзе, а чорт пыраў, пыраў, да ўсё вілы ў плоце застраюць. Бачыць чорт, што нічога з бабаю не зробіць, а яна яго скора зробіць, як рэшата, і давай прасіцца.

— Годзі, баба! Давай памірымся. Я яшчэ дам мех грошай, толькі скажы ты мне, у чом гэта ў баб сядзіць сіла.

— Добра,— кажа баба.

Паляцеў чорт і па немалом часе чуць плішчыць мех грошай. Аддаў бабе грошы да й пытае:

— Ну, у чом ваша сіла?

— От у чом,— кажа баба.

Тут яна падняла падол і паказала чорту сваё зелье...

## КОЛПАК ЗОЛОТА

Жил-был мужик, все по чужим людям в работниках жил. Пришел однажды к барину, а барин послал его сетями рыбу на озеро ловить; а он никогда не делал того, что хозяин приказывал, а что на ум придет.

Пришел он к озеру, бросил сети на берег, сел, попил, выспался и принялся яму рыть; вырыл яму глубокую, потом надрал липовой коры и замочил в озере; ходит по берегу, ждет, когда кора вымокнет, чтобы наделать лыка. Один раз нашел на берегу двух маленьких зайчат и положил их в ямку, а кругом сделал изгородь. Вымокла кора, он набрал лыка и вьет веревки; ночью в яму попался медведь.

Только лег он спать в эту ночь, из озера выбегает чертенок и говорит ему:

— Что ты, дядюшка, делаешь?

— А вот веревки вью, хочу все озеро сморщить и вас всех, чертей, скорчить!

Чертенок сейчас же в озеро, а через несколько времени вышел оттуда и говорит:

— Дедушка мне приказал с тобой потягаться; если ты меня обгонишь, то и морщи озеро, а если я тебя обгоню, то прочь уходи от озера.

— Эка невидаль,— говорит мужик,— с тобой бегать: ты пробеги с моим меньшим братишкой, и тот тебя обгонит, а со мной и тягаться нечего.

Взял мужик одного зайца, держит в руках и говорит:

— Ну, беги!

Чертенок побежал, а мужик пустил зайца, недолго его и видел чертенок: заяц в лес, а чертенок бежит кругом озера; прибежал чертенок, а мужик другого зайца в руках держит и говорит:

— Ну где же тебе тягаться с моим братом, он давно прибежал, видишь — уж отдыхает?

Черт — в озеро, а работник поспал и веревки вьет.

Снова выходит из озера чертенок и говорит:

— Бегаешь ты, дядюшка, лучше, а давай поборемся — кто кого поборет!

— Эко диво бороться, мой средний брат — тот тебя поборет, а где же тебе со мной тягаться?

Спустился чертенок в яму, а мишка захватил так чертенка, что тот еле живой в озеро нырнул.

В третий раз выходит чертенок из озера и говорит:

— Вот, дядюшка, я принес палицу, давай тягаться, кто палицу выше бросит; если ты выше меня бросишь, то и морщи нас!

Работник попробовал поднять палицу, палица была тяжела — куда бросать, когда и поднять не может.

— Ну что ж, бросай; я смотреть буду, высоко ли улетит!

Бросил чертенок палицу, высоко палица улетела и упала назад и завязла глубоко в земле, одна ручка видна.

— А высоко, брат, ты бросил, а все-таки посмотрим, кто выше бросит!

— Ну давай, дядя, тащи палицу!

— Сам завязил, сам и тащи, я после, буде придется, вытащу!

Вытащил чертенок палицу, работник держится за ручку палицы и пошевелить не может.

— Что же ты думаешь? Бросай,— говорит чертенок.

— Не торопись,— говорит мужик,— я вон подожду то облако; пусть нанесет его поближе, я швырну палицу на облако, она там и останется.

— Нет, нет, не бросай палицы на облако, палица дедушке нужна, он без палицы никуда не ходит, и мне велел сейчас принести.

— Ну, как хочешь,— говорит работник,— велишь — брошу, не велишь — твое дело!

Чертенок схватил палицу — и в озеро. Работник опять вьет веревки; выбегает из озера чертенок и говорит:

— Что хочешь бери, только от озера уйди и нас не морщи!

— Да что с вас, чертей, возьмешь, как у вас, кроме золота, ничего нет. Наносите мне один колпак золота, да и будет с вас.

Чертенок согласился и ушел в озеро, а работник убил медведя, на ту яму наклал корьев и прикрыл хворостом; прорезал в колпаке дыру, приладил колпак над ямой, и ночью черти стали носить в колпак золото: выльют золото, а оно через дыру в яму; пока полной ямы не наносили, в колпаке не было золота; наконец колпак наполнился. Снес мужик сети барину и отказался от работы, купил четырех лошадей, и на них увез четыре воза золота, и стал жить да поживать, а после еще барин из ямы набрал воз золота и стал жить богачом!

## ЧЕРТ-ЗАИМОДАВЕЦ

У мужика случилась беда, а на беду надо денег. Между тем денег нет; где их взять? Надумался мужик идти к черту просить денег взаймы. Приходит он к нему и говорит:

— Дай, черт, взаймы денег.

— На что тебе?

— На беду.

— Много ли?

— Тясячу.

— Когда отдашь?

— Завтра.

— Изволь,— сказал черт и отсчитал ему тысячу.

На другой день пошел он к мужику за долгом. Мужик говорит ему:

— Приходи завтра.

— На третий день он пришел. Мужик опять велел прийти завтра. Так ходил он сряду несколько дней. Мужик однова говорит ему:

— Чем тебе часто ходить ко мне, то я вывешу на воротах моих доску и напишу на ней, когда тебе приходить за долгом.

— Ладно,— ответил черт и ушел.

Мужик написал на доске: «Приходи завтра»— и повесил ее к воротам. Черт раз пришел, два пришел — на воротах все одна надпись.

— Дай,— говорит он сам с собой,— не пойду завтра к мужику!

И не пошел.

На третий день идет к нему и видит на воротах другую надпись: «Вчера приди».

— Эк, меня угибало,— сказал черт,— не мог вчера я прийти, видно, пропали мои денежки.

И с тех пор попустился он своему долгу.

## ОТКУДА ЧЕРТИ БРАЛИСЬ

Старики все про чертей да про попов больше рассказывают. Вот и я про это самое расскажу. Только сам я чертей не встречал, а был у меня один такой знакомый мужичок, Павел, что под черта работал. Про него и расскажу.

Деревня Михново и сейчас цела. В Зарецком сельсовете она. Давно это было, почитай, годов сорок назад. Жил в Михнове тогда мужик, Андреем звать. Страсть до работы жадный был. Соседи ему за это и прозвище дали «Каторжный». Лен трепать этот Андрей всегда с вечера ходил.

А Павел, знакомый-то мой, сосед с Андреем был. Отчаянная голова. Почудить любил. Говорит он как-то Андрею:

— Не ходи ты с вечера трепать, задавят тебя черти!

— Ничего, я с молитвой,— говорит Андрей.

Вот Павел забрался пораньше во двор, где Андрей лен треплет, зарылся в солому и ждет. Пришел Андрей. Поставил на корзину фонарь. Набрал горсть льна, господи благослови, и начал трепать. Отрепал и осечку положил на чистое место. Взял вторую и опять треплет.

А Павел потихоньку трепаную осечку за солому к себе утащил.

Отрепал Андрей вторую осечку, несет класть к первой. А первой-то нет. Аж перекрестился мужик: с нами крестная сила! Однако положил вторую. Взял третью, треплет, а сам все по углам поглядывает. Отрепал, несет. Глядь — и второй осечки нет, а Павел в это время в соломе как чихнет!

Бросил Андрей трепалку, подхватил полы да как пустится бежать. И за фонарем до самого света никто не пошел. С тех пор никогда с вечера трепать не ходил. А сколько разговоров по деревне было: черт Андрея Каторжного чуть не задавил!

А то еще Павел начудил. Был в соседней с Михновом деревне Пентяши мужичок такой, Ваня. В баню он всегда ходил в Михново, в третий зной, после всех.

— Не ходи, Ваня, в третий зной,— говорит как-то Павел,— черти в это время блудят.

— Ничего,— говорит Ваня.

Вот Павел забрался на баню, вытащил в потолке доску, как раз над полком, и сидит.

Пришел Ваня в баню не один, вдвоем с товарищем. Залезли на полок париться. А Павел руку просунул, да как схватит Ваню за волосы.

Заревел Ваня и с полка долой, только пястка волос у Пав-

ла осталась. За Ваней — приятель. Выскочили из бани и голые вдоль деревни, только пятки мелькают.

Долго Ваня показывал плешь, откуда Павел волоса выдрал.

— Вона,— говорит,— как черт меня пометил.

А в баню в третий зной с тех пор ни ногой.

Идет как-то Павел с рыбы. Поймано много было. Навстречу ему сосед.

— Где ловил?

— Да вона, на Петровской речке, по виркам, страсть рыбы много, особливо около камня, под кустом.

— Ну, ночью и я схожу с саком,— говорит сосед.

Ночью Павел вперед соседа пошел, залез в куст, что около камня, и сидит. А ночь темная.

Пришел сосед. Опустил сак и давай под куст подсачивать. Только начал тащить, а Павел как чебурахнется из куста, прямо в черпак. Потянул рыбак черпак, тяжело, нагнулся посмотреть, а из черпака кто-то большой, бродатый, выставил руки да как завоет. Бросил рыбак и ведро, и черпак и опрометью домой.

Утром заходит Павел как ни в чем не бывало.

— Ну как,— спрашивает,— поймал?

Сосед перекрестился.

— Поймал,— отвечает,— матерущего черта поймал и днем за саком идти туда боюсь.

## КАК ЧЕРТ НА МУЖИКА ХОМУТ НАДЕЛ

Тогда еще никого не было — ни попа, ни купца, ни царя. Был, значит, черт и мужик. Выдумал черт, как мужика в хомут запречь. И вот сотворил он купца, ну, кулака, значит, для того, чтобы у мужика землю купить. Пошел купец к мужику по землю. Мужик не продает.

— Без земли мне, мужику, и делать нечего.

Идет купец снова к черту. Злой он был на черта: мужик землю не продал, есть нечего ему.

— Сотворил, так корми,— говорит купец черту.

Поругался купец с чертом, поколотил его. Черт кормит купца. Задумался черт, дело у него все сорвалось.

Сотворил черт барина. Надел ему цепочку золотую и вообще все хорошее дал. Вот просит барин у мужика землю, мужик не дает.

— Чтоб земля-то у нас еще барским дерьмом не пахла.

Поругались они. Пришел мужик землю пахать, а барин сел в борону и не дает мужику пахать.

— Есть,— говорит,— я хочу, и не уйду с места.

Мужик избил барина, чтобы он не мешал ему. Приходит барин к черту.

— Плохо,— говорит.

Сотворил черт тогда попа: глаза у него завидущи, руки загребущи. Поп пошел просить землю у мужика.

— Ну, как дела? Чего и сколько, мужичок, ты намолотил?

— Да хватит: пудов тыщу ржи да пшеницы столько же.

— Дай мне хлеба, на том свете в рай попадешь, помолюсь я за тебя.

Мужик согласился.

— Есть у меня корова, отелится — телка дам, ожеребится кобыла — жеребенка дам.

Не согласился поп, мужик его выгнал. Пришли к черту купец, барин и поп — отколотили черта. Черт пошел к Яге-бабе совета спросить, как мужика в хомут запречь. Говорит Яга черту:

— Сегодня в дупле снесла дьявольская птица яйцо — его высидеть надо.

Сидел, сидел барин на яйце и вывелся царь — зубы стальны, глаза огневые — жадные глаза. Дунул, плюнул царь — войско образовалось. Народилось в это время у мужика целое семейство. Пошел царь войной на мужика: все же не осилил. Остался черт снова ни с чем. Снова черт пошел к Яге. Яга выковала на черте гвоздь и говорит черту:

— Вбей этот гвоздь в башку мужику, когда мужик будет богу молиться, нырни в правое ухо, вынь сердце мужика, а в левое вынырни.

Черт подкараулил мужика, забил ему гвоздь в череп, влез в правое ухо, достал сердце, в левое вылез. Сдался мужик. Надели на мужика хомут и стали на нем пахать и сеять.

## КУЗНЕЦ И ЧЕРТ

Вот раз вытолкали кузнеца из кабака: «Иди, чертяка страхолютый!»

Пошел кузнец по улице, идет и думает себе: «Хоть я не черт, а со всем удовольствием согласен быть чертом и в аду жить. А вот пусть черт на моем месте поживет. Узнает, как мы-то живем».

А черт — известно черт. О нем скажешь, а он тут как тут. Услыхал, как кузнец чертыхается, заинтересовался этим делом, думает: «Постой, друг, ты, видать, не знаешь моего житья, вот я поведу тебя в ад, будешь помнить».

Подходит черт к кузнецу и говорит:

— Здоров, кузнец! Я тебя давно хотел видеть.

— А ты кто такой? — спрашивает кузнец.

Черт покрутил хвостиком, подмигнул глазком и говорит:

— Не узнаешь, что ли? Ты ж со мной меняться хотел. Вот я сам черт и есть.

Кузнецу что — черт так черт! Не любил кузнец словами долго распускаться и говорит:

— Давай меняться: я к тебе пойду — в ад то есть, а ты ко мне — в кричню. У тебя лучше.

Черт говорит:

— Ты в аду не бывал, смерти не видал, потому так говоришь.

Одно слово: черт свое, кузнец свое.

Тут черт за поперечество осерчал на кузнеца и поволок его в ад: показывать мучеников да грешников, которые в котлах смоляных варятся.

Пришли в ад. Черт повел кузнеца по геенне огненной, показывает ему все, сам думает, что кузнец устрашится и назад вернется, а кузнец идет, ему хоть бы что, как дома чувствует себя: «Кому ад, а мне — рай»,— говорит.

Ходили, ходили, черт и спрашивает кузнеца:

— Ну как, страшно? Видишь грешников, как они живут — в котлах смоляных кипят!

Тут кузнец осерчал да говорит черту:

— Иди ты к своей матери — к чертовой, значит, не морочь мне голову! Пойдем, я тебе покажу ад — дело верное, а то напрасно тратим время, а толку нет никакого.

Потащил черта кузнец к кричне. Вот приходят. Идут по кричне, а в ней ночь черна от пыли да от сажи, сто горнов горят, четыреста молотов стучат. Рабочие ходят, рожи у них, как полагается,— нет кожи на роже.

Кузнец идет впереди, черт позади. Тут начали сажать крицу и мастеру на лопате подавать, искры посыпались из глаз, черт уж и дышать не может.

Тут и случилась беда: кузнеца увидал хозяин и закричи:

— Ты что, черт, расхаживаешь без дела? Морду твою побью!

А черт испугался, спрашивает кузнеца:

— А что он тут делает? А?

— Морды всем бить хочет и тебе побьет,— сказал кузнец, а сам хотел глянуть на черта. Только это покосил через плечо глаз, черт уж повернулся уходить.

Тут кузнец говорит черту:

— Куда ты, черт? Это еще не все — ты хоть погляди, как хозяин с нами-то расправляться будет. Научись,— говорит,— с грешниками в аду обращаться.

— Нет,— говорит черт, крутнул хвостиком — и только его и видели.

А кузнец долго помнил, как черта в кричню водил, и с чертями язык распускать закаялся.

## САЛДАТ І СМЕРЦЬ

Калісьці салдат служыў дваццаць пяць год у арміі. Ішоў дамоў, адслужыўшы дваццаць пяць год. З сабой яму грошай не далі. І ён ішоў, дзесяць капеек меў, кашалёк меў з сабой і люльку. Ішоў, прытаміўся, захацеў аддыхнуць. І спаткаліся яму тут ля дарогі тры жабракі. І сталі яны прасіць салдата, каб ён ім што-небудзь падарыў. Але што салдат мог даць?

— Нічога ў мяне няма, мае мілыя людцы! — гаворыць салдат.

— Ну падары нам што-небудзь!

І падарыў салдат аднаму кашалёк, другому дзесяць капеек, трэцяму — люльку. Пагаварылі яны і разышліся: салдат сваёй дарогай, жабракі сваёй. Потым чуе салдат — яго аклікаюць. Ён абвярнуўся, а яго завуць жабракі.

— Хадзі,— гавораць,— салдацік, мы хочам табе аддзякаваць.

І аддаюць яму: адзін аддае люльку і кажа:

— Гэта ўжо не простая люлька, а люлька-нявыкурка.

Другі дае сумку-ранец і кажа:

— Патрасі гэту сумку і што захочаш, што задумаеш, тое табе і будзе.

А трэці, якому даў грошы, дае яму невялікі кашалёк і кажа:

— У гэтым кашальку заўсёды будзе столькі грошай, колькі табе трэба.

Падзякаваў салдат і пайшоў. Адышоўся ён кіламетраў колькі і дай, думае, папробую, ці не абманулі яны мяне. Патрос сумкай і задумаў, каб там было што паесці. Адкрыў сумку — ёсць. Паеў ён, абрадаваўся, закурыў люльку-нявыкурку і пайшоў далей. Ідзе да сваёй сям'і. Ішоў, ішоў, сцямнела ўжо. Трэба было дзе-небудзь пераначаваць. Ішоў лесам, кустамі. Бачыць уперадзе агеньчык — свеціцца ў хаце. Зайшоў ён у гэту хату папрасіцца пераначаваць. Праўда, у гэтай хаце была толькі адна баба. Спытаў ён у бабкі, ці можна ў яе пераначаваць. А яна кажа:

— А мой ты салдацік дарагі, у нас ніхто не начуе.

— Чаму? — пытаецца салдат.

— Не хочуць, не начуюць, мне не шкода,— загаварыла бабка і нічога яму больш не сказала.

І салдат рашыў пераначаваць. Патрос сумку, павячэраў, закурыў люльку-нявыкурку і лёг спаць. Прайшло колькі часу, гадзін так у адзінаццаць пачаўся свіст, шум, паадчыняліся вокны, дзверы — набегла поўна хата чарцей. «Што тут мне далей рабіць? — думае сабе салдат.— Праўду бабка гаварыла, выходзіць, што людзі сюды не заходзяць». Думаў, думаў ён, а потым як крыкне:

— А ў ранец!

І як пачалі лезці гэтыя чэрці ў сумку, аж пішчаць, ды лезуць. А ён іх яшчэ каленам прыціскае. Просяцца чэрці:

— Не ціскай нас, салдацік, не ціскай!

А ён іх яшчэ больш ціскае. Ды каленам, ды каленам. Націскаў добра і выпусціў — паўцякалі чэрці. Раніцаю бабка прыходзіць з кошыкам, каб забраць косці, бо хто начаваў у гэтай хаце, заўсёды заставаліся толькі косці — чэрці заядалі чалавека. Бачыць бабка: ляжыць салдацік. Узрадавалася яна. Выйшла, няхай, думае, паспіць салдацік. Устаў салдацік, паснедаў і сабраўся ўжо ісці далей, дамоў. Бабка стала прасіць салдата пераначаваць яшчэ адну ноч.

— Што ж ты, бабка, не папярэдзіла мяне,— гаворыць салдат,— прыходзяць у цябе тут нейкія ўночы, спаць не даюць.

— Няможна было гаварыць,— кажа бабка,— пераначуй яшчэ адну ноч, потым усё раскажу.

Згадзіўся салдат пераначаваць яшчэ адну ноч. Павячэраў, закурыў люльку-нявыкурку, ляжыць, можна сказаць, чытае газету і чакае. І вось у палове дванаццатай гадзіны зноў пачынаюць злятацца з віламі, косамі, тапарамі. Узняўся шум, свіст, крык, гвалт. На гэты раз салдат ужо не разгубіўся. Адкрыў сумку-ранец і крыкнуў:

— А ў ранец!

Так яны ўсе пакорчыліся і палезлі ў ранец. Адціскаў ён іх, адбіў, адмяў і выпусціў.

Назаўтра зноў прыходзіць бабка з кошыкам па косці. А салдат ляжыць. Узрадавалася бабка. «Няхай,— думае,— адпачывае. Прыйду пазней». Устаў салдат, паснедаў і зноў сабраўся ў дарогу. Хацеў ісці дадому. А бабка зноў просіць:

— Пераначаваў ты, салдацік, дзве ночы, пераначуй і трэцюю, а тады ўжо ўсё раскажу!

Ды так просіць, так просіць. Салдат ужо сам зацікавіўся: што тут такое? Застаўся на трэцюю ноч. І зноў у дванаццаць гадзін пачалі злятацца чэрці. Ды ўжо ў тры разы больш. А напаследак прыляцеў самы галоўны іх Люцыпар. Ціскаў, ціскаў іх салдат у ранцы, мяў, мяў. Выпусціў тых памятых, загадаў самому Люцыпару ў ранец лезці. Мяў, мяў яго, ціскаў і ўсё дапытваецца:

— Чаго вы сюды прыходзіце?

— Не скажу,— гаворыць Люцыпар.

— Зараз я табе галаву адсяку! — пагражае салдат.

Тады Люцыпар прызнаўся.

— Тут ёсць,— кажа,— у гэтай хаце пад падлогай склеп. У склепе ляжыць самая прыгожая дзяўчына на зямлі. І прыляталі ўсе чэрці сюды, каб пашчакатаць яе.

— Пішы,— загадаў салдат Люцыпару,— дагавор, што ніколі ні ты, ні твае чэрці на зямлю больш не прыйдзеце.

Люцыпар напісаў дагавор крывёю, і ўсе чэрці разам са сваім галоўным зніклі. Тады прыйшла бабка і кажа салдату:

— Цяпер я скажу ўсё. Тая дзеўка, што ляжала ў склепе, павінна сёння аджыць. Ты пераначаваў тры начы і выратаваў яе.

Пайшоў салдат у склеп, а там дзеўка. Як глянуў ён на яе — як на сонца ўсё роўна паглядзеў. Прачнулася яна, і не мог ён ужо з ёй расстацца. Жаніўся ён з ёй. І гэта з імі бабка. І трое дзетак знайшлося. Але ўсяму прыходзіць канец. Прыйшла пара паміраць. Папрасіў салдат перад смерцю дзяцей і жонку пакласці яму ў труну ранец. Памёр ён і пайшоў на той свет з ранцам. Перанялі яго чэрці. Уперадзе Люцыпар ідзе.

— Ага! Папаўся? — гаворыць салдату Люцыпар.— Павозіш тут у нас смалу, будзеш кожнаму чорціку дагаджаць.

Салдацік схапіў свой ранец ды як гаркне:

— А ў ранец!

І пачаў мясіць чарцей. Скорчыліся чэрці. Пабудаваў ён у пекле казармы. Пачаў ганяць чарцей, займацца салдацкай справай. Паслаў Люцыпар да бога свайго ганца.

— Божа, божа,— просяць чэрці,— вазьмі к сабе гэтага салдата.

— Не трэба мне такі,— адказвае бог,— у яго грахоў шмат: ён і п'е, і курыць, бога не паважае.

А салдат тым часам яшчэ больш узлаваўся на чарцей. Самога Люцыпара ганіць на страявую. Няма чарцям спакою. Даймае іх салдат пабудкаю, трывогу ім робіць, ганіць на занят-кі, прысесці не дае.

Пайшоў Люцыпар сам да бога. Просіць дапамагчы хоць парадаю якою.

— Да сябе не вазьму, а параіць магу,— кажа бог.

І параіў.

— Здзярыце,— гаворыць,— з вала скуру, зрабіце барабан і падніміце яго ноччу па трывозе. Ён салдат, выскачыць па трывозе, і не пускайце яго больш да сябе.

Чэрці так і зрабілі. Садралі з вала скуру, расцягнулі яе зубамі, стала яна тонкая як папера, аж звініць. Ударылі тады паленнямі аб гэту скуру. Салдат думаў, што трывога, схапіўся ды і выскачыў з пекла голы, як стаіць. А чэрці пазакрываліся, рагочуць. Рады, што збавіліся ад салдата.

— Выкіньце мне хоць ранец! — просіць салдат.

Праўда, выкінулі яму чэрці ранец. Узяў ён свой ранец і пайшоў. Хадзіў, хадзіў — ні ў пекла яго не прымаюць, ні ў рай. Пайшоў ён да бога прасіць якой-небудзь работы. Дзе ж яму, беднаму салдату, дзявацца. Ангел расказаў богу аб гэтай просьбе.

— Ну што ж,— кажа бог ангелу,— калі ён салдат, давай яго паставім сторажам, няхай старажыць ля дзвярэй каля майго падходу. Перш чым хто да мяне захоча звярнуцца, няхай звяртаецца да салдата.

Вот далі яму свісточак такі — трывогу свістаць — і паста-

вілі ля дзвярэй. Стаіць ён, стаіць, аж вось прыходзіць смерць да бога пытацца, якіх ёй людзей браць, ці старых, ці маладых, ці сярэдніх. Ну, бог кажа:

— Няхай адзін год старых пабярэ.

Салдат, пакуль ішоў да бога, дагадаўся: старых, а ў мяне жонка старая, смерць можа прычапіцца да жонкі. Абмануў ён смерць.

— Бог,— кажа,— загадаў старога асінніку год пагрызці.

Пайшла смерць, зморшчылася, скрывілася. Думае, за што бог такое наказанне даў. Цэлы год людзі не паміралі. Прыйшла зноў смерць пытацца, каго ёй цяпер браць. Салдат пайшоў да бога і пытаецца:

— Якіх людзей, пытаецца смерць, ёй цяпер браць.

Бог кажа:

— Няхай цяпер тры гады маладых бярэ — маладога свету завялося многа.

Салдат як ішоў ад бога, здагадаўся: у яго ж дзеці ёсць маладыя, можа, думае, за маіх дзяцей учапіцца.

Прыйшоў сказаў:

— Бог,— кажа,— загадаў тры гады цяпер алешніку пагрызці маладога.

Зморшчылася смерць, за што, думае, такая кара. Але бог сказаў — пайшла. Тры гады смерць на зямлі алешнік грызла. А людзей развялося многа-размнога. Смерць не бярэ. Усе жывуць. Ну, тры гады яна грызла і прыходзіць да бога. А салдат усё стаіць.

— Ты, відаць, мяне абманваеш,— гаворыць смерць,— я сама ўжо пайду да бога.

А салдат кажа:

— Я сам цябе пушчу да бога, ты скажы мне, як ты бярэш людзей у мурох. Там жа ўсё закрыта: і вокны, і дзверы, там усё шчыльна зачынена.

— Ну, як я іх бяру, зраблюся мухай ці камаром і тады, як прыходзіць хто да чалавека, я сяду на плечы ці на руку і іду забіраць чалавека.

— А як гэта ты робішся мухай ці камаром?

— А вось так.

Яна раз — ды зрабілася мухай. А ён у свісточак ды заторнуў, ды ў кішэню. І стаіць салдат каля бога. І забыўся на смерць. А бог здагадаўся: і людзі не мруць, і смерць не прыходзіць. Бог пытае ў салдата:

— А дзе смерць? А ці ёсць у цябе свісточак?

— Ёсць.

Выняў ён свісточак, адкрыў, а там муха-смерць чуць жыве.

— Вот табе,— кажа бог,— кара: бяры гэту смерць на плечы і нясі яе на зямлю. Яна цяпер худая, сама не дойдзе на зямлю — нясі яе.

Ну што ж? Узяў ён яе, нёс, нёс, замарыўся. А тады дагадаў-

ся, што ў яго ранец ёсць. Есці ж яму захацелася. Сеў, аддыхнуў, заказаў паўлітру водкі. І так выпіў, стаў п'яны, ідзе ды як ударыць смерць то аб сцяну, то аб камень, то аб дзерава якое. Збіў чыста гэту смерць. Але ўсё-такі прынёс яе на зямлю. Прынёс ён яе, яна памалу ачуняла і цяпер людзей панямногу з'ядае.

## САЛДАТ І СМЕРЦЬ

Праслужыў салдат у цара трыццаць тры гады, і выйшла яму адстаўка. Даў яму цар тры капейкі, ён і пайшоў сабе. Ішоў-ішоў, аж перапыняюць яго тры старцы:

— Сатвары, служывы, міластынку.

— Наце.

Выняў капейку і аддаў. Трохі далей перапыняюць яго яшчэ тры старцы:

— Сатвары, служывы, міластынку.

— Наце.

Аддаў і другую капейку. Пад вечар ужо яшчэ тры старцы просяць:

— Сатвары, служывы, міластынку.

— Наце.

Аддаў і трэццю капейку. Ідзе ды й думае, што гэта будзе, што раздаў астатнія тры капейкі. Аж вось яшчэ ідуць тры старцы:

— Сатвары, служывы, міластынку.

— Наце.

Скінуў шынелю і аддаў.

— Ну — кажуць старцы,— чым цябе, служывы, узнагародзіць, што ты астатнюю міластыню сатварыў? Прасі ў нас тры просьбы.

— А што ж я,— кажа,— буду прасіць? Як задумаю,— штоб грошы ў кішэні былі; каб люльку не накладаць і не закурваць, а як загадаю,— каб сама гатовая была; ды каб была торбачка такая, што я пра што не падумаю, зараз каб там і было.

— Добра, служывы, ідзі сабе з богам.

От сказалі ды й зніклі, быццам іх тут і не было. От салдат прайшоў трохі. «Дай,— думае,— пагляджу, ці не ашукалі». Засунуў у кішэню руку — дык і выцяг жменю грошай. Сеў адпачыць, выцяг люльку, аж яна ўжо і курыцца.

— Э,— кажа,— і гэта добра.

Пакурыў-пакурыў ды так, не патушыўшы, у кішэню засунуў, яна сама і патухла. Глядзіць: ляціць пара качак; ён развязаў торбачку ды:

— А ў торбачку!

Дык тыя качкі туды і загулі. От прыходзіць ён у горад,

а ў тым горадзе ды ў багатага купца быў дом такі, што ў ім ніхто не жыў, бо там завяліся чэрці. Ён да таго купца:

— Што дасі? Я,— кажа,— магу выгнаць чарцей.

— Як,— кажа,— выганіш, я цябе да смерці буду даглядаць.

От накармілі яго, напаілі, пайшоў ён на ноч у той дом. Толькі апоўначы чуе: штосьці стукаціць, грымаціць, падлога лопнула — вылазіць чорт.

— Чаго ты? — пытае салдат.

— Я цябе з'ем!

Салдат торбачку развязаў ды:

— А ў торбачку!

Як крыкне, дык той чорт туды і загуў. Завязаў яго там салдат да ўжо біў-біў. Давай чорт прасіцца:

— Пусці. Унукам,— кажа,— і праўнукам закажу сюды хадзіць.

Пусціў яго салдат. От раніцай павёў ён таго купца ў той дом, і сталі там жыць. А давялося таму салдату ўміраць, ён і наказвае:

— Палажыце са мной абавязкова гэту люльку і торбачку.

От паклалі яму тое ўсё, пахавалі яго, прыходзіць ён на той свет. Глядзіць — пекла, ён і ўвайшоў туды. Зараз калочкі забівае, амуніцыю сваю развешвае:

— Што,— пытае,— гарэлка ёсць?

— Ёсць.

— Табак ёсць?

— Ёсць.

— Агонь ёсць?

— Ёсць.

— От рай, дык рай.

Ходзіць па пекле, муштруецца.

Аж вось прыходзіць той самы чорт, што ён яго на тым свеце біў, дык як пабачыў яго, як загалосіць:

— Гэта ж той самы, што мяне калісь біў. Ён нам тут жыцця не дасць, трэба яго як-небудзь выжыць.

Дык чэрці ўжо і спалохаліся. Павыходзілі з пекла, а яго там самога зачынілі.

— Што ж, братцы, давайце мерацца: каму выпадзе — аблупім таго ды шкуру на бочку нацягнем, як на барабан, ударым, дык, можа, ён і выскачыць.

От выбралі, аблупілі, на якога выпала, нацягнулі шкуру, як удараць, а салдат:

— Ах, у паход, у паход!

За амуніцыю ды з пекла, а чэрці ўскочылі ды й заперліся там. От ходзіць ён па таму свету, нідзе няма яму прыстанішча, аж сустракае яго святы Пятро.

— Ідзі,— кажа,— у рай, там цябе даўно чакаюць.

Пайшоў салдат, дзе там той рай у бога. Бог і паставіў

яго каля свайго палаца на варце. Ходзіць ён, аж ідзе смерць. Салдат да яе:

— Бабуля, чуеш? Ты гэта куды?

— Да бога, служывы.

— За чым?

— Ды спытаць, што мне на зямлі рабіць.

— Пачакай тут, я пайду спытаю.

Прыходзіць да бога.

— Прыйшла,— кажа,— божа, смерць, пытае, што ёй на зямлі рабіць.

— Няхай,— кажа бог,— морыць самых старых людзей тры гады.

От ён звяртаецца ды й згадвае: «А там жа ёсць у мяне браты, яна і іх загубіць». Выходзіць ды й кажа:

— Загадваў бог, каб ты тры гады самыя старыя дубы грызла.

От праз тры гады зноў смерць ідзе, пытаецца.

— Пачакай тут, я пайду спытаю,— кажа салдат.

Прыходзіць да бога.

— Прыйшла, божа, смерць, пытае, што ёй рабіць.

— Скажаш, каб тры гады мярцвіла самых сярэдніх людзей.

Ён і раздумаўся: «Але ж у мяне там, можа, пляменніцы ёсць».

— Выйшаў ды й кажа:

— Сказаў бог, каб ты тры гады грызла толькі сярэднія дубкі.

— Дзякую,— служывы,— ды й пайшла.

От праз тры гады зноў смерць прыйшла, ды такая худая.

— Спытай, служывы, што мне яшчэ рабіць?

Ён пайшоў.

— Прыйшла, божа, смерць, пытае, што ёй рабіць.

— Няхай,— кажа бог,— губіць самых маленькіх дзяцей. Ён і згадаў, што ў яго ёсць унукі, выходзіць ды й кажа:

— Сказаў бог, каб ты яшчэ тры гады грызла самыя маладыя дубкі.

Падзякавала смерць і пайшла. Праз тры гады прыходзіць, а салдат і не ўбачыў яе, яна й праскочыла сама да бога. Як прыйшла, дык і разжалілася, за што яе бог голадам карае.

— Гэта ён табе ўсё хлусіў! Ідзі яго самога яшчэ раз умярцві.

От выйшла яна да салдата ды й кажа:

— Падавай душу!

А салдат развязаў торбачку ды:

— А ў торбачку!

Яна ў яе і ўскочыла. Ён завязаў яе там і закінуў у балота.

## КАЗАКІ І СМЕРЦЬ

Ішлі два казакі стэпам, падышлі да дрэва і селі ў халадку. Адзін на бандуры іграе, а другі слухае.

Раптам адзін і кажа:

— Ой, братка, бяда! Смерць ідзе! (А яна, бачыце, у стэпе так вельмі здалёку відаць!)

— Ну дык што? — кажа той.

— Ды яна ж нас пазабірае! Уцякайма!

— Э не, браце, не падабае казакам уцякаць! Ды й спёка стаіць такая д'ябальская, не вельмі падбяжыш! Будзем ужо сядзець. Раз маці на свет радзіла, час і паміраць!

— Калі так, дык і так!

— Сядзяць. Падышла смерць ды і кажа:

— Вось і добра, што я вас, валацуг, спаткала. Годзі вам гуляць ды раскашаваці, у аксамітавых жупанах хадзіць ды мёд-віно піць. Вось я вас са свету зжыву, касою галовы паздымаю!

— Здымай,— кажа адзін казак,— на тое твая сіла і воля! Толькі дай мне, літасцівая пані, перад смерцю люлькі пакурыць!

— Ну,— кажа смерць,— калі ты мяне літасціваю паняй назваў, дык ужо куры сабе!

Выняў казак люльку ды як закурыў! А тытун добры, моцны,— як пайшоў ад яго дух ды дым, то смерць аж набок адышла.

— Вот,— кажа,— які паганы дух! Як гэта ты такую погань курыш?

— Ды што ж,— кажа казак,— так мне суджана!

Як разышоўся дым ды дух, смерць зноў пачала:

— Ну,— кажа,— пакурыў, цяпер я вас абодвух забяру!

— Пачакай, літасцівая пані, дай і мне палёгку! — кажа другі казак.— Дазволь мне перад смерцю тытуну панюхаць!

— Нюхай,— кажа смерць,— ды знай маю дабрату.

Выняў той казак табакерку, бярэ панюшку, а сам думае, як бы яму папрасіць смерць, каб яна панюхала!.. Нюхнуў на адзін бок, нюхнуў на другі, кракТануў, бо тытун быў добра запраўлены. Там да яго была і чамярыца, і тургун, і перцу прыбаўлена для моцы, каб у носе круціла.

— А што ж яно, добра? — пытае смерць.

— Ды як каму! — кажа казак.

— А ну, дай паспрабаваць! — просіць смерць.

— На, літасцівая пані!

Як нюхнула смерць, як закруціць ёй у носе, як чхне яна,— аж касу ўпусціла!

— Чур жа яму,— кажа,— які паганы! Яшчэ больш паганы, чым той дым! І ты такое паскудства ўжываеш?

— А так, як бачыш,— кажа казак.— Прымаю муку цэлы

век, бо так ужо мне прызначана ці наслана, бог яго ведае! Мушу цярпець...

— А,— кажа смерць,— калі так, то не буду я вас касою губіць! То не штука — памерці, а от ты чхай яшчэ 50 гадоў!

Вось такім чынам і вызваліліся казакі ад назойлівай смерці.

### КОЛЬКІ ВЁРСТ ДА НЕБА

Едуць два дабрадзеі з ярмаркі. І як пяць вёрст праехалі, дык і адпачыць трэба, бо як пяць вёрст, то і карчма стаіць. От едуць і загаварылі:

— А што,— кажа,— як бы палічыць, колькі вёрст да неба?

— А бог яго святы ведае, колькі. Думка такая, што вёрст з пяць будзе.

— Цьфу на цябе, куме! Ды як бы туды пяць вёрст было, дык там бы карчма стаяла.

### І Ў НЕБЕ НЕ ЛЕПШ

Служыў Іван у папа, працаваў ад цямна да цямна, а плаціў поп мала. Вось і гаворыць аднойчы поп Івану:

— Не журыся, Іване, што ў мяне цяжка працуеш і што я мала плачу за тваю працу. Затое я буду маліць бога, каб табе на тым свеце было лепш.

Выслухаў Іван да й кажа:

— Не верыцца мне, бацюшка, што на тым свеце будзе лепш. Там таксама святы Пятро скажа: «Іване, засвяці сонца! Іване, патушы месяц! Іване, падмяці неба! Іване, пачысці зоркі! Іване, нарві анёлам яблыкаў у садзе!» Іване — туды, Іване — сюды, не дадуць мне і там спакою!

### ХОЧАШ У РАЙ — КУКАРЭКАЙ!

Гэту казку,— каб не збрахаць і праўду не сказаць,— мне сарока прынесла на хвасце. А тая сарока чула ад іншай сарокі, што жыла ў гуцульскім сяле і ведала аднаго мудрага чалавека. Да яго ўсе ішлі па параду і дапамогу, хоць сабе не мог нічым парадзіць, каб выдрапацца з беднасці.

Людзі тады казалі: няма на свеце лесу без ваўка, а сяла без жандарма. Той жандарм паклікаў мудрага чалавека і сказаў яму:

— Бацюшка мне скардзіўся, што ты вялікі грэшнік; не посціш, калі святая царква кажа, не ідзеш да службы божае, як святыя званы зазвоняць, а сядзіш дома і брэнькаеш языком, як звонам, гаворыш грэшныя рэчы. Бацюшка прасіў заперці

цябе, каб паразумнеў. Я блыха маленькая, але ўкусіць магу балюча. А цябе яшчэ не кусаў. За гэта бацюшка раззлаваўся на мяне. Кожную нядзелю ў казанні згадвае грэшніка Андрэя — просіць, каб таго Андрэя чэрці ўзялі ў пекла. Парафіяне гавораць, што гэта ён пра мяне. Я, мудры чалавеча, не маю ніякага інтарэсу ў пекле, бо не люблю спёкі ды і надта лянівы, каб дровы насіць. А поп мяне можа справадзіць туды. Штонебудзь прыдумай і паміры нас, бо прападу нізашто.

— Няхай бы прапаў, бо й ты вельмі добры — толькі пацукам на патраву,— адказаў гуцул. Але сабе падумаў: «Ці не надышоў час, каб адплаціць папу за тое, што абдзіраў сяло, як ліпку. Людзі бядуюць, а яму ўсё ў рот пхай!» І паабяцаў жандарму:

— Добра, я вас паміру...

Пайшоў гуцул на рэчку, налавіў ракаў і кожнаму на спіну прыляпіў па свечцы, а сабе на галаву паклаў папяровую карону, зрабіў бараду з клочча і адзеў жончыну сарочку з доўгаю спадніцай. Пад вечар падаўся з кавенькаю да царквы. Запаліў свечкі па раках і крыкнуў на ўсё горла:

— Дзе ты, бацюшка? Я прыйшоў забраць цябе ў рай.

Поп падумаў, што да царквы прыйшоў бог.

— Ужо іду, божачка,— сказаў.

А гуцул засунуў папа ў мяшок і завязаў матузом. Узяў мяшок на плячо і падаўся ў дзверы. А на парозе гупнуў ім аб прыступак так, што поп аж застагнаў.

— Цярпі, бацюшка, бо цяжкая дарога да раю.

У браме зачапіў ім за слуп. Поп за бок схапіўся.

— Цярпі, цярпі, бацюшка, я грахі з цябе выбіваю...

Панёс яго да рэчкі, апусціў у ваду, а мяшок прывязаў да старой вярбы. Поп быў да шыі ў рэчцы. Гуцул ліў яму на галаву ваду, а той пырскаў, як кот.

— Досыць, бо халынаюся!

— Цярпі, бацюшка, гэта іарданская вадзіца, выйдзеш з яе чысты, як немаўлятка.

Гуцул трымаў мяшок у рэчцы датуль, пакуль поп не вымак, як сноп канапель. Пасля гэтага зноў на плечы — і панёс да папоўскага куратніка. Запхаў яго ў дзверцы. Поп ледзьве ўлазіў — крычаў не сваім голасам.

— Цярпі, ойча, вузенькі ўваход у рай...

Гуцул прывязаў мяшок да жэрдкі і загадаў:

— А ну, бацюшка, закукарэкай, каб анёлы пачулі і панеслі цябе далей.

Поп надзьмуўся і тоненька запеў:

— Ку-ку-рэ-ку-у-у!

— Ото добра пяеш,— пахваліў гуцул.— А ну, яшчэ раз, бо чагось не ідуць тыя лайдакі!

Гуцул пайшоў гародамі дадому. А поп на ўсё сяло, як бы яму гарлянку раздзіралі:

— Ку-ку-рэ-ку-у-у-у!

Спачатку гэта атрымлівалася, як у пеўня. Але перад світаннем поп так ахрып, што роў, як якісьці мядзведзь. Гэта разбудзіла пападдзю. Выбегла да куратніка і ўбачыла мяшок на жэрдцы:

— А гэта што тут? — спытала.

— Ды гэта я, бацюшка, чакаю божых анёлаў. Дзе ж яны падзеліся?

Пападдзя спляснула ў далоні і вызваліла папа.

— Ды хто цябе засунуў у мяшок?

Поп выглянуў і ўбачыў жонку.

— Цьфу, я чакаў анёлаў, а сатаны дачакаўся...

Пра папова вандраванне ў рай даведаліся сарокі. Яны паляцелі ў суседняе сяло і расказалі тамашнім сарокам, а тыя — малому і старому.

У сёлах было пацехі чатыры мехі!

## КАЛЯ РАЙСКАЙ БРАМЫ

Памёр бедны гуцул з голаду, пакінуўшы ў пустой халоднай хаціне жонку і кучу малых дзяцей. Пайшоў ён да райскай брамы, але тут загарадзіў дарогу святы Пятро з вязкай ключоў у руках.

— Ты куды так разагнаўся, нябожа? Не бачыш, вунь важнейшыя за цябе ідуць.

Агляну ўся гуцул і пазнаў з суседняга сяла пана, у якога летась касіў сена. Пакланіўся яму да самых ног, але той паглядзеў на яго непрыязна згары, як і пры жыцці. Далей стаяў знаёмы фабрыкант, суддзя і яшчэ шмат іншых, якіх бачыў упершыню. Давялося гуцулу стаць у самым канцы доўгай чаргі.

На варце пры браме стаялі два анёлы з вогненнымі мячамі ў руках, і Пятро пачаў упускаць у рай па адной душы. Першым прыступіў суддзя.

— Якія маеш заслугі? — спытаў нябесны ключнік.

— Я за сваё жыццё засудзіў сотні вальнадумцаў, бунтароў, але павінен сказаць папраўдзе, што быў я часта несправядлівы, асуджваў больш строга, чым дазваляў закон...

— Нічога, нічога,— перабіў яго святы Пятро,— з імі трэба як мага стражэй. Будзьце ласкавы, пане, заходзьце ў рай.

Наступны быў пан.

— А вы, пане графе, чым служылі для царства нябеснага?

— Я трымаў цвёрдай рукою да апошняга дыхання тысячы хлопаў, што толькі й думалі пра бунт супроць бога і пана. Праўда, часам мае гайдукі засякалі аднаго-другога хама да смерці...

— А трэба, трэба час ад часу для навукі іншым. Шкода,

што вас гасподзь так хутка забраў з такой важнай пазіцыі.

— Не засмучайцеся, пане Пятро, я пакінуў вартага нашчадка. А да таго ж — шэсцьдзесят гадоў працы для мяне досыць.

— А, тады ўсё ў парадку. Прашу, пане, у рай.

Нарэшце дайшла чарга і да гуцула.

— А ты хто такі будзеш? — спытаў старога Пятро, з недаверам прыглядаючыся да яго абарванай вопраткі.

— Я гуцул. З голаду памёр.

Святы Пётр адскочыў ад яго і для пэўнасці паклікаў легіён анёлаў, каб пільнавалі ўваход у рай.

## ЦІ ДОБРА Ў РАЮ

Аднойчы папа запыталі:

— Ці добра ў раю?

— А пэўна што добра,— адказаў поп.— Яшчэ ні адзін адтуль не вярнуўся.

## ЯК ЦЫГАН У РАЙ ЗАЙШОЎ

Было гэта даўным-даўно. Жыў сабе ў адным сяле цыган-каваль. Быў ён п'янчужка, але жыў доўга-доўга. Ужо й жыццё яму надакучыла, бо вельмі пастарэў. Хадзіў па свеце, а смерць па яго не прыходзіла, хоць сам ужо хацеў або ў пекла, або ў рай трапіць.

— Пайду ў пекла, пагляджу, як там грэшнікі бядуюць! — сказаў сабе.

Набраў поўныя кішэні яблык, на бочачку з паленкаю прымацаваў пас, перакінуў праз плячо і ідзе.

Апынуўся перад самым пеклам.

— Чаго хочаш? — пытае чорт.

— Хачу ў пекла!

— Спачатку павінен памерці, потым у пекла цябе прымем.

Раззлаваўся каваль і кажа:

— Дык што цяпер рабіць? Куды мне дзецца?

— Ідзі ў рай, калі цябе пусцяць туды.

Пайшоў цыган у рай. Стукае ў дзверы. Пачуў Хрыстос і кажа святому Пятру:

— Ідзі, Пятро, глянь, хто стукае да нас.

Адчыніў Пятро дзверы, глянуў і кажа:

— Гэта, калі ласка ваша, той самы цыганішча, у якога мы начавалі.

— Кажы яму, што сюды дзверы для яго зачынены. Ён вялікі грэшнік, бо п'яніца.

Пятро крычыць з-за дзвярэй:

— Для цябе дзверы сюды замкнёныя, бо ты вялікі п'яніца.

Каваль ад дзвярэй не ідзе, просіцца яшчэ.

— Ды адчыніце, пане Пятро, хоць на адзін палец, каб я ўбачыў, як у раю.

Пачуў Хрыстос той гандаль пад дзвярыма і пытае:

— Што ён кажа?

— Просіць, каб дзверы адчынілі, бо хоча заглянуць у рай.

— Да адчыні яму, каб бачыў, як праведнікі жывуць.

Адчыніў святы Пятро дзверы, а цыган кінуў у рай свой капялюш.

— Вазьмі свой капялюш і ўцякай адсюль хутка! — загадвае Пятро цыгану, бо святым нельга дакранацца да грэшных рэчаў.

Зайшоў цыган да царства, сеў сабе на капялюш.

— Ідзі адсюль, бо ты грэшны, тут табе не месца.

— Я не ў тваім раю, я на сваім капелюшы сяджу! — кажа цыган. І дагэтуль там сядзіць.

На гэтым казцы канец.

## БУДЗЕШ ПРАКЛЯТЫ, ПАНЕ ІНСПЕКТАР!

Настаўнік папярэдзіў дзяцей, каб яны ў размове з інспектарам гаварылі заўсёды з пашанаю: «пане інспектар». Вось інспектар і пытае вучня:

— А што сказаў гасподзь бог Адаму, калі выгнаў яго з раю?

Вучань:

— Будзеш пракляты ты і твае дзеці, пане інспектар!

## ЯК ПАПАСЦІ Ў РАЙ

Пасля абедні царкоўны стараста выйшаў на амбон і звярнуўся з прамовай да сялян:

— Праваслаўныя! Усе вы турбуеце бацюшку, усе вы просіце, каб ён за вас памаліўся. І бацюшка моліцца, і добра моліцца, часам аж пот капае, асабліва гэта відаць было летам. А хата ў яго аблупілася, а падлога павыбівалася, а ў сенцах смурод стаіць... Ці ж можам мы дапусціць, каб наш свяцісель і заступнік перад богам жыў у такім свінушніку? Сабярыцеся вы гадзіны на тры, абмажце, падрамантуйце, а гэта ўсё на тым свеце і залічыцца. Амінь!

А з гурту хтосьці:

— А ці яно не цесна будзе ў раі? Калі за тое, каб парамантаваць у папа падлогу,— у рай, за тое, каб падстрыгці святую бараду,— у рай, за тое, каб залатаць папоўскія штаны,— таксама ў рай?

## ТКАЧ У ПЕКЛЕ

Прыйшоў ткач у пекла ды як пачаў свой варстак цягаць ды складваць! Насіў, насіў, от чэрці і пытаюць:

— Ці ўсё, ці яшчэ ёсць?

— Дык яшчэ не ўсё, забыў,— кажа,— цвак* ды бёрда. А чарцям здалося, што ён кажа: «свата ды брата».

— Уцякайма,— кажуць,— з пекла, бо яшчэ як і ў свата ды ў брата столькі прыпасаў, то і нам у пекле месца не будзе.

## ПАН ЖАДАЕ БЫЦЬ У ПЕКЛЕ, АБЫ З ПАНАМІ

Аднойчы бернардын паехаў да аднаго пана бязбожнага прасіць манастыру дапамогі. Прыязджае да яго. Той дае яму есці, піць, але нарэшце кліча і кажа:

— Ну, скажы мне, пане бернардын, што мне за гэта будзе, як дам на ваш манастыр?

Той кажа:

— А што ж будзе? Царства нябеснае!

— А хто ж там будзе?

— От усе тыя будуць, што тут бядуюць.

— Як гэта? Мужыкі і жабракі?

— А як жа, пане, будуць!

— А што, тваю маці! Ты хочаш мяне загнаць паміж мужыкоў? Давайце лозы!

Усыпаў бернардыну сто лоз і выгнаў з двара. Выехаў ён. Аж сустракаецца з манахам таго ж манастыра. Расказаў яму ўсё. Той кажа:

— От бачыш? Ты атрымаў сто лоз, а я вазьму багатую міластыню!

Узяў і паехаў. Прыязджае. Пан першы дзень прымае як госця, а на другі дзень запытвае тым спосабам, што і таго. Той адказвае:

— Што ж, пане! У небе дык там будуць мужыкі, калекі і ўсё паскудства, што тут бядуе, а ў пекле, то там самі князі, графы, вялікія паны. То ўжо ж і пану лепей быць у кампаніі з імі.

— О, маеш рацыю, пане бернардын! Хачу ў пекле ды з вялікімі панамі, чым у небе, але паміж мужыкоў.

Зараз жа сказаў напакаваць некалькі вазоў правізіі для манахаў і адвезці.

---

* Ц в а к — палічка з ткацкага чоўніка, на якую надзяваецца цэўка з ніткаю.

## ПАНЫ ТРАПЯЦЬ У ПЕКЛА

Ідзе бедны мужык дарогаю, а пан едзе шасцёркай коней. І пытаецца пан у яго:

— Адкуль ты, чалавеча?

А ён кажа:

— З таго свету.

— А што нашы бацькі робяць?

— А што ж, вяльможны пане? Панам усюды добра; у катлах сядзяць, люлькі кураць, а бедны мужык дровы сячэ і пад імі паліць!..

## ПАН І Ў ПЕКЛЕ ПАН

Знік Іван з сяла. Няма яго год, няма два гады. Ажно неспадзявана з'явіўся ў сяле.

Ідзе Іван, сустракае яго поп.

— Дзе ты прападаў, Іване!

— Я абышоў цэлы свет. Яшчэ й на тым свеце пабываў.

— А як там, на тым свеце? Ты быў у раю або ў пекле?

— Ой не! У рай мяне не пусцілі, а пекла знаю добра.

— А каго ты бачыў у пекле? Што там робіцца?

— Ой, і там праўды няма. Іваны й там бядуюць.

— Як бядуюць?

— А так — сякуць дровы, распальваюць агонь, вараць смалу...

— А паны?

— А паны сядзяць сабе ў катлах, серу пакурваюць, смалою запіваюць, купаюцца. Там я бачыў і вашага бацьку. Пан благачынны па шыю сядзелі ў смале і купаліся. Пад ім я добры касцёр запаліў.

## ЗАБАГАТА

— Адзін езуіт мне сказаў, калі дам тысячу крон на царкву, то пайду на неба.

— І ты даў?

— Пакуль не, бо гэта забагата. Я яму сказаў, што пачакаю, пакуль месцы на небе патаннеюць.

## ПОП У ПЕКЛЕ

Памёр адзін поп. А матушка так плача, так плача.

— Госпадзі,— кажа.— Хоць бы ў сне пабачыць, дзе там мой бацюшка на тым свеце.

От і сніцца ёй сон. Пекла, агонь страшэнны. А з таго агню толькі галава бацюшкі выглядае. Матушка ў слёзы:

— Бацюшачка мой,— кажа,— бацюшачка! За што ж ты такія пакуты церпіш?

А бацюшка ёй:

— Не журыся, матушка! Я яшчэ ў архірэя на галаве стаю!

## СОЛДАТ НА ТОМ СВЕТЕ

В былое время, значит, солдаты служили по двадцать пять лет. Уходил из дому молодой, приходил уже старый. Ну, как говорится, за двадцать пять лет солдат кое-чему научился и немало прошел. И вот приходит время уже ему идти домой. Вот говорит солдату офицер:

— Ты,— говорит,— службу служил верную царю, а теперь вышел срок, есть приказ отпустить тебя домой. Государь тебе дает с собой пустую сумку и двадцать пять копеек денег на дорогу.

Солдат думает себе: «Ну, заслужил за двадцать пять лет двадцать пять копеек и пустую сумку. Что же я по дороге буду делать? Христа ради собирать придется мне». А солдат уже получил себе документы, двадцать пять копеек и старую-перестарую сумку, только бросить ее. Ну, и это заслуга. Взял, надел ее на себя, положил в свой ранец пару белья и направился в путь-дорогу. Идет день, идет два, идет три — все деньги израсходовал. Что эти деньги — купил табаку, мыльца и все. «Что,— думает,— теперь делать?» До дому еще далеко. Прежде поездов не было, ни машин — ничего. Ну, значит, ему надо было идти пешком, а пешком идти — это минимум месяцев шесть до дому. Думал, думал солдат. «Живой человек не пропадет, пойду потихоньку». Где кусочек выпросит, и идет неделю, идет вторую. И вот приходит в одно село и заходит в одну избушку. Там старик со старушкой. Он говорит:

— Дедушка, пусти меня,— говорит,— пожалуйста, переночевать!

— Ох,— говорит старик,— пожалуйста, пожалуйста, родной, ночуй.

Солдат снял сумку, ранец простой и сел побеседовать со стариком и старухой, поужинали, и он лег на полатях. А старик проснулся ночью, и вздумалось ему посмотреть, что у солдата есть в сумке и в ранце. Открывает ранец, смотрит — пустой. «Хм, чем же он,— думает,— питается?» Стал открывать пустую сумку. И когда только он ее открыл, откуда ни возьмись — выскочил чертенок!

— Что,— говорит,— тебе, старик, нужно меня беспокоить? Меня, дескать, хозяин не беспокоит, идет сколько дней, сколько недель, а ты,— говорит,— какой нашелся, беспокоишь меня.

Ну, старик наш прикрыл эту сумку, лег спать, творит молитву. Дескать, что такое, господи, солдат с чертом знается!

Когда утром просыпается солдат, встает, умывается, по обыкновению подходит к иконе и молится богу. Старик смотрит, что солдат по-христиански молится утреннюю молитву. Спрашивает солдата:

— Солдат!

— Что, дедушка?

— У тя что в сумке?

— Ничего,— говорит,— дедушка. Сумка у меня пустая.

— Ох, врешь, солдат, у тя в сумке черт.

Солдат тогда догадался, в чем дело.

— Ну, это,— говорит,— так тебе только помлело.

— Не знаю,— говорит,— но я точно видел черта.

Тут старуха напекла блинов, посадила солдата.

Он покушал, надел на себя сумку и отправился. Прошел день, и вот пристигла его ночь. Он уже не стал заходить в деревню, а остался ночевать в лесу и вздумал открыть сумку, убедиться, правильно или неправильно это дело. Когда он открыл сумку, выскочил чертенок и говорит:

— Ну, слушай, солдат, ты — мой хозяин, а я — твой исполнитель, что тебе сейчас желательно?

Солдат говорит:

— Принеси мне покушать что-нибудь!

Чертенок сейчас, как пуля, бросился в деревню, достал ему хлеба, достал мяса, чугунок, ложку, весь припас. Солдат живо костер разложил, начинает варить мясо. Когда сварилось мясо, он говорит:

— Ну, чертенок, давай садись, кушай.

Сел чертенок, покушал с солдатом. Солдат сумку закрыл, лег чертенок. Теперь утром рано-прерано открывает солдат сумку, выскочил оттуда чертенок.

— Что тебе угодно, солдат?

— Слушай,— говорит,— чертенок, я умаялся идти пешком. Мне надо коня.

— Хорошо,— говорит,— сейчас будет конь.

Пошел к священнику, утащил коня с седлом; подводит к солдату:

— Садись, солдат!

Солдат сел, другой дорогой объехал это село и едет себе спокойно.

Ну, проехали долго ли, мало ли, наконец остановился и говорит чертенку:

— Чертенок, чертенок, мне охота быть на том свете и попасть в рай.

— Ну что ж,— говорит чертенок,— ежели тебе охота, сейчас будешь там. Садись,— говорит,— на меня.

Сел солдат на черта, и черт поднялся на небо и говорит:

— Вон, иди,— говорит,— к этим воротам, там архангел, скажи ему, что твоя душа хочет в рай.

Вот он подходит к воротам, стоит ангел-архангел. Солдат говорит:

— Слушай, архангел, моя душа хочет в рай!

Ворота, конечно, открылись, и солдат заходит в рай.

Смотрит, там такая красота — просто куда: цветы, фрукты разные. На первый раз солдату понравилось. Дескать, как хорошо в раю-то. А когда побыл там дня два-три, и ему так надоело, что просто глядеть уже неохота стало на этот рай. Вот сел на беседочку и думает себе: «Да, весело, хорошо, но одно плохо — кабаков здесь нет, табаку нет». Думал, думал и говорит: «Обожди»! Снимает с себя шнур и начинает размерять место. Тут подходит к нему ангел:

— Что ты,— говорит,— солдат, хочешь делать?

— А вот,— говорит,— в вашем царстве хотя и прекрасно, и весело, но я,— говорит,— хочу веселья добавить: это место хочу табаку посеять, это место кабак построить.

— О,— говорит,— солдат, господь услышит, тебя из рая изгонит.

Но, конечно, солдат стоит на своем, начал дерева рубить, знай, строит.

Архангел-ангел пустил его, и он должен доложить об этом господу богу. Идет, говорит:

— Господи, я принял,— говорит,— одного солдата в рай, и ему,— говорит,— не понравилось, наверно, в нашем раю, он стал строить кабак и посеял табак.

Бог рассердился:

— Выгнать,— говорит,— его из рая и ворота запереть!

Солдат вышел из рая тут же. Когда он из рая вышел, не знает, где находится, и думает: «Что мне не жилось в раю, куда я теперь пойду?» Вот чертенок тут как тут с его ранцем, опять надевает его и говорит:

— Что, солдат, призадумался? А хочешь, солдат, в ад?

Солдат хотя испугался аду, но все-таки интересно посмотреть и ад.

— Желаю,— говорит.

— Ну, пойдем со мной.

Когда пришли к адским воротам, чертенок бросился к Сатане:

— Госпожа Сатана,— говорит,— я привел солдата в ад.

— Ну-ка, давай,— говорит,— приведи мне его сюда.

Солдата привели. Она осмотрела его кругом.

— Ну ладно, веди его.

Чертенок вводит его в ад. Солдат идет и смотрит: кто за язык повешен, кто в котле кипит. Солдату страшно стало: «Ох, как бы мне на горячей сковороде танцевать не пришлось».

Он говорит чертенку:

— Слушай, чертенок, давай сейчас же созывай всех чертей! Собрались все черти. Солдат говорит чертям:

— Вы,— говорит,— давайте будьте мне подчиненными, а я буду над вами старшим.

Вот построил всех чертей и говорит:

— Вот, я буду вами командовать, а вы,— говорит,— выполняйте.

Черти согласились на это. Вот он скомандовал:

— Напра-во!

Они не поворачиваются направо. Солдат схватил дубинку и давай их дубинкой этой.

— Что вы командира слово не признаете и не слушаете команду?

Черти завыли. Чертенок подскочил к нему:

— Слушай, солдат, перестань их бить, они направо не будут ворочаться, им нельзя, а ты командуй им налево.

Он скомандовал им налево, они повернулись и шагом марш! И давай гонять. Гонял, гонял их, они уж до того устали, стали умолять солдата.

— Солдат, пусти нас, мы сильно устали.

— Ну ладно, говорит,— идите до завтрашнего утра отдыхайте.

Солдат прожил еще несколько дней в этом аду, все просматривал, думал, как освободить людей от такой муки. Вот он начал чертей гонять каждый день. Вот солдат им и говорит:

— Ну что, вам нравится?

— Ох, солдат, надоело это нам все!

— Вот что я вам скажу.

— Говори.

— А вы будете выполнять?

— Будем, только не гоняй нас!

— Вот, идите к Сатане и скажите, что солдат просит Сатану освободить всех грешников из ада. Вот тогда я вас гонять не буду. А ежели,— говорит,— она этого не выполнит, то,— говорит,— я сейчас же буду святить местность вашу, весь ад, и поставлю,— говорит,— здесь церкву.

Сказал и послал чертей.

Черти бегут наперебой к Сатане. Прибегают и говорят:

— Ой, Сатана, Сатана, какой,— говорят,— к нам солдат попал! Никакого,— говорят,— спокою не дает никому! Вот,— говорят,— мы пришли просить тебя, чтобы ты освободила всех грешников из аду.

Сатана и говорит:

— Нельзя,— говорит,— такого дела сделать, с кем мы,— говорит,— останемся?

Тогда черти и говорят ей:

— Он тогда,— говорят,— хочет освятить наш ад и построить церковь.

Сатана, конечно, испугалась.

— Ладно,— говорит,— пусть он забирает весь свой народ отседова и уводит.

Когда получил такое распоряжение, солдат отворил адские двери и начинает звать:

— Весь грешный народ, выходи из ада!

И тут все повалили, друг дружку мнут, обрадовались, что выпустили из ада. Все до одного вышли из ада. Ад опустел. Ну, теперь солдат вышел из аду и вышел из раю. «Что теперь делать?» Сел и призадумался: «Как мне попасть на землю и домой?» Думал, думал и пошел к Сатане.

— Сатана,— говорит,— как бы мне попасть на землю? Мне хочется побывать дома.

Сатана и говорит ему:

— У меня,— говорит,— ты нисколько народу не оставил в аду. Дай мне,— говорит,— хотя сколько-нибудь, тогда я тебя отправлю на землю.

Солдат задумался: каждого человека ему жалко, каждый человек дорог. Сел и думает. Глядит: идет монах, за ним идет поп. «А! Это,— говорит,— лишний народ!» Выстроил их всех и отправил в ад. Сатана и этому рада, послала к нему чертенка, тот отправил его на землю и домой. Солдат стал жить и поживать. Значит, не полюбились ему попы и монахи.

## КАК НА ТОМ СВЕТЕ РАБОТНИК СКУПОГО БАРИНА ВЫЗВОЛЯЛ

Жил на белом свете, говаривали старики, какой-то барин. И было у этого барина поле заколдованное. Коли будешь один жать, ввек снопа одного не свяжешь, а беспременно надо вдвоем. Приходит раз к барину один человек, поесть просит, а барин жадный был, скупердяй, и говорит:

— Коли хошь есть, иди да и нажни сноп, а сжавши, обмолоти, тогда и ешь.

А человек-то и не ведал, что поле бариново заколдовано. Целый день жал, а снопа не нажал. Потому без подмоги. Так и лег голодный. И на другой день жнет, а снопа не нажать, хошь матушку-спасительницу призывай. Видит — уже солнышко за лес закатывается, а снопа все нет.

— Свет, красное солнышко! Микола, святой батюшка! Егорий-победоносец! Помоги нажать.

И на второй день лег голодный спать. А есть хоцца. И на третий день вышел человек в поле. Сжалилась над ним одна жница, порассказала чистую правду об том поле и помогла нажать сноп. И так прилюбилась человеку тая жница, стал просить у барина, чтобы повенчаться дозволил. А барин кричит:

— Коли будешь у меня работником да отслужишь верой-

правдой шестнадцать лет — отпущу бабу замуж, а не отслужишь — ни с чем уйдешь.

Проработал работник барину верой-правдой шестнадцать лет, и жалко стало барину своей работницы, и задал он ему загадку.

— Пропаси,— говорит,—моих зайцев в лесу целый день, а к вечеру домой пригони, а ежели хоть один заяц домой не придет, то и голова у тебя с плеч.

Затужил работник и идет к невесте. А она ему в ответ:

— Не тужи,— говорит,— на вот тебе сопелочку: как скроется солнце, заиграй на сопелочке, зайцы-то сами и забегут во двор. А чтобы барин мне худа какого не сделал, обкрути,— говорит,— меня через левое плечо.

Взял он сопелочку, перекрутил невесту через левое плечо, и оборотилась она в кирпичину. Выпустил барин зайцев. Как выскочили зайцы, да в лес наутек. Лови их.

«Ну,— думает работник,— распропала моя бедная головушка!»

Одначе, как вечер пришел, заиграл работник в сопелочку, а зайцы построились в ряды, как будто солдаты, а работник впереди, будто командир какой. Сосчитал барин зайцев — видит: все целы.

И загадал он вторую загадку, мудрей первой.

— Хочу,— говорит,— чтобы мост в одну ночь построить, а к утру чтоб езда была.

Больше прежнего затужил работник и опять идет к своей невесте.

— Ну,— говорит невеста,— это еще не беда, беда впереди будет! На вот тебе,— дает,— палочку-татарочку: как выйдешь на речку, знай по дну стучи да кричи: «Эй, домовые, водяные и шишки лесовые, живо за работу!» А там вот увидишь, что будет.

Оборотил невесту через правое плечо, а она решетом оборотилась, что муку сеют. Вышел он на берег, стукочет палкой-татаркой по дну да вопит:

— Эй, домовые, водяные и шишки лесовые, живо за работу!

Понаскочило домовых да лесовых: кто рубит, кто стругает, кто сваи забивает, а к утру мост готов — возьми да и езди.

— Ну, счастье твое,— говорит барин,— а только одну еще загадку угадай остатнюю. Сходи-ка ты, добрый молодец, на тот свет да узнай у батюшки, где он клад схоронил. Коли узнаешь — половину клада получишь, а не узнаешь — башка с плеч долой. А чтобы ты меня не обманул, управляющего своего дам в товарищи.

Больше других разов затужил работник и опять идет к невесте.

— Да,— говорит невеста,— это задача тяжельше других... На вот тебе,— говорит,— клубочек: куда он покатится, и ты

за ним иди следом; и на тебе еще платочек, передай его моей середней сестрице, в мужьях у ней светлый месяц,— може, она что поможет. А меня перекинь через голову, я в торбину с кусовьем оборочусь.

И пошел за клубочком работник. И привел его клубочек в царство пресветлого месяца. Покуль хозяина дома не было,— караулить он вышел на ночь,— а женка месяцева и говорит:

— Не могу я помочь тебе, а дам я тебе клубочек да шелковый платочек, и дай ты этот платочек моей старшей сестре. А в мужьях у ней красное солнце, может, она в чем поможет.

Пришел с караула месяц, и до того он полюбил работника, и работник месяца полюбил. На другую ночь за месяца караулить на небе взялся. А месяцу-то на руку, чего ночь не поспать! Дошел до середки неба, видит — Егорий, на паству выехавши, сам в кустах спит, а конь просто пасется. Вспомянул, как его дарма просил сноп в бариновом поле нажать, думает:

— Я тебя выучу!

И давай Егория палкой колышматить. Егорий как вдарил бежать — и коня оставил; а работник за ним. Видит — Миколай-угодник куда-то идет. Он к Миколаю, Миколай от него. Подобрал подрясник, потуда его и видали; узнал работника-то Миколай. Пришедши с караулу, и рассказывает месяцу. А тот смеется.

На третий день ушел работник, а привел его клубочек в царство красного солнышка, а управляющий все с ним идет рядом да пыхтит — толст дюже был. Вручил солнцевой жене платочек и докладывает все как есть.

— Могу,— говорит,— помочь, только надо сначала у мужика моего допытаться.

Пришло солнце, баба блинов напекла, ужинать сели.

— Могу,— говорит,— помочь, коли завтра за меня по небу походишь.

— Могу,— говорит работник.

— Только,— говорит солнце,— как дойдешь до середки неба, увидишь там стол, а на том столе кружка с водой и просвирка. Так ты,— бает,— коли есть захочешь, половину мне оставь, не то на другой день без еды меня оставишь.

— Ладно, будь покоен,— говорит работник,— в самом аккурате будет.

А сам думает:

— Не больно-то послушался, когда я тебя просил на бариновом поле!

Дошел до середины неба и видит все как есть: и стол, а на столе кружка с водой и просвирка. Взял да и съел все, а к вечеру домой воротился.

— Вот что,— говорит солнце,— иди ты сегодня в полночь на перекресток, схоронись за столб, а сам нишкни. И аккурат в полночь черти поедут — кажинную у бога ночь они богачей

— Пожалуй, за деньги и укажу. По двести рублей с каждого заплатите?

— Согласны мы. Когда поведешь нас?

— В полночь приходите к речке да захватите мешки и деньги,— говорит Иван.

Как только смерклось, пошел Иван к реке. Смотрит,— а поп с дьяконом уже дожидаются.

— Ну, Иван, получай деньги да только делай скорее,— говорит поп.

Пересчитал Иван деньги.

— Залезайте в мешки.

Когда влезли они в мешки, завязал их Иван. Привязал по камню к мешкам, толкнул мешок с дьяконом в реку: вода забулькала.

Услышал бульканье поп и спрашивает:

— Что это такое?

— Это лошадей выбирает отец дьякон, да все бурых,— отвечает Иван.

— Так чего же ты ждешь? Толкай и меня скорее, а то он жадный, пожалуй, самых лучших себе и захватит,— забеспокоился поп.

Иван столкнул и попа. Послушал, да и побрел домой. Стал жить, поживать да добра наживать.

## ЯК МУЖЫК ПАПОЎ АШУКАЎ

Жыў вельмі бедны мужычок, такі бедны, што хлеба ў яго не хапала нават да каляд. Адзін год сядзяць дзеткі дома галодныя і горка плачуць. Не выцерпеў мужычок, завугаў за рогі апошнюю карову і павёў на базар. Сустракае папоў. Папы яму і кажуць:

— Прадай казу.

— Якую казу? Гэта ж карова.

— Якая карова, спытайся ў людзей.

Ідзе пан. Ён і пытае яго.

— Якая гэта карова, адным словам, каза,— кажа пан.

Ідзе дзяк. Пытае ён і яго.

— Каза, а не карова, здурэў ты, чалавек.

Прадаў бядняк папам карову за казу. Накінулася на яго дома жонка.

— Не крычы. Я яшчэ ім адпомшчу,— кажа бядняк.

Пайшоў ён да багатага брата, пазычыў у яго 150 рублёў. Зайшоў у адну карчму, згаварыўся з карчмаром і аставіў яму 50 рублёў. Тое ж самае зрабіў і ў дзвюх другіх корчмах. Прыйшоў на базар і сустракае зноў папоў. Ён ім і кажа:

— Вы ж казу купілі, а барышу не пілі. Трэба і барыш папіць.

— Хадзем.

Пайшлі. Зайшлі ў адну карчму. Просіць мужык у карчмара піць і есці. Выпілі, закусілі. Узяў мужык капялюш, стукнуў і кажа:

— Квіт?

Карчмар адказвае:

— Квіт.

Пайшлі ў другую карчму. Набраў мужык выпіць і есці. Гаворыць карчмару:

— Квіт?

— Квіт,— адказвае карчмар.

Зайшлі ў трэцюю карчму. Там мужык зноў набраў піць і есці і зноў расплаціўся такім жа спосабам. Папы аж вочы вылупілі ад зайздрасці. Пачалі шаптацца, што, мабыць, у мужыка капялюш чарадзейны.

А мужык сказаў «да пабачэння» і пайшоў.

Згаварыліся папы паехаць да бедняка і купіць у яго капялюш.

Прыязджаюць да яго. Набралі гарэлкі, закускі. Пояць яго, каб адурманіць, а потым ашукаць. А мужык змікіціў гэта. Калі пачалі папы прасіць прадаць капялюш, ён не згадзіўся, а сказаў:

— Капялюш корміць і поіць не толькі мяне, а і маіх дробных дзетак, і прадаць ніяк нельга.

— Дык мы табе дадзім вялікія грошы — 300 рублёў.

— Не, не прадам.

Пачалі прасіць паны, прыбавілі яшчэ пяцьдзесят рублёў. Тады мужык аддаў ім капялюш. Аддаў мужык грошы брату, якія ў яго пазычаў, купіў карову, каня, хлеба. Жыве і гора не ведае.

А папы барджэй у карчму. Сталі піць заморскія віны, есці самыя дарагія стравы. Напіліся, аж языкі заплятаюцца. Стукнуў адзін поп капелюшом і кажа:

— Квіт?

Карчмар жа кажа:

— Які табе квіт? Заплаці грошы — і будзе квіт.

Другі поп кажа першаму:

— Ты не ўмееш. Давай я. Я бачыў, як рабіў мужык. Узяў капялюш, стукнуў рабром і кажа:

— Квіт?

— Які табе квіт? Не прыдурвайся, плаці грошы — і будзе квіт.

Схапіў капялюш трэці поп. Але і ў яго нічога не атрымалася. Вымушаны былі заплаціць папы са свайго кармана.

— Што будзем рабіць з гэтым ашуканцам-мужыком? — пытае адзін поп.

— Адбярэм грошы,— адказвае другі.

Так і рашылі. Паехалі да мужыка. Двое засталіся на двары,

а адзін пайшоў у хату. А ў мужыка быў глыбокі пограб, поўны вады. Вось ён, калі поп прычапіўся аддаць грошы, піхнуў яго туды — поп і захлынуўся.

— Што ён доўга не ідзе? Можа грошы не злічыць? Пайду я дапамагу,— кажа другі поп.

Пайшоў ён у хату, а мужык і яго ў пограб. Ждаў, ждаў трэці поп, не дачакаўся і пайшоў у хату. Толькі ён у хату, а мужык мялам па галаве — ды і яго ў пограб.

Адумаўся мужык, баіцца, што прыйдзецца адказваць. А тут якраз прыйшлі ў вёску салдаты. Адзін салдат прыйшоў на начлег да яго. Вось ён і кажа яму:

— Быў у мяне поп і так напіўся, што паслізнуўся і ўпаў у расчынены пограб. Не паспеў я яго выратаваць, як ён ужо адправіўся да свайго бога. Баюся, што мяне абвінавацяць.

— А ты дай мне кварту гарэлкі, стары дурань, дык я яго занясу ў раку.

Мужык абрадаваўся. Паставіў тры кварты гарэлкі, напаіў салдата. Сцямнела. Палез мужык у пограб, выцягнуў папа, дапамог салдату падняць на плечы. Пацёг салдат папа ў рэку. Варочаецца назад, а мужык і кажа:

— Прыбег той поп назад.

— А, хварэць яго мацеры! Я ж яму пакажу!

Узяў мяла ды давай яго лупіць. Узваліў на плечы і пацёг зноў. Укінуў у рэку і другога папа. Але толькі прыйшоў у хату, як бачыць — ляжыць зноў поп. Узяў салдат сякеру, адсек галаву і пацёг у рэку.

— Ну, цяпер ужо не вылезеш!

Ідзе ён дадому, аж бачыць, едзе поп на брычцы:

— Ах ты, кудлаты, ты зноў вылез?

Да за яго, згроб з каляскі, стукнуў галавою аб калясо, што ў таго і дух выперла, і панёс тапіць.

Сеў у брычку і прыязджае да мужыка:

— Бач, які хітры. Успеў выскачыць з вады і ўкрасці каляску. Але цяпер ужо не вылезе.

— Да ты забіў папа з нашай вёскі? Гэта ж яго конь! Той жа поп быў не наш!

— Чорт іх пахапаў. Бяры вось брычку ды стаў магарыч!

— Не, брычку я не вазьму, а гарэлкі пастаўлю.

Напаіў мужык салдата, а каня ў брычцы пусціў па дарозе.

## ГОЛАС НА СЛІВЕ

Жылі-былі мужык і жонка. Жылі заможна, бо гаспадарка ў іх была вялікая. Але хацелі мець яшчэ больш, таму былі вельмі скупыя. Наварыць жонка фасолі з капустаю, корміць ею слугу цэлы тыдзень. Пакуль іншай сёрбанкі не прыгатуе, яшчэ горшай.

Думаў слуга, як перахітрыць гаспадыню і гаспадара. Бо ўжо абрыдла есці штодня адну страву. Вылез аднойчы ўвечары слуга на сліву ў садзе, рве сліўкі і кідае ў хату. Пачуў гаспадар, выбег на двор і пытае:

— Хто на сліве?

Слуга маўчыць. Сліўкі кідае.

— Хто на сліве? Адзавіся, бо выстралю!

— Я голас божы!

— Дык што табе трэба?

— У вас служыць сірата. Вы мучыце яго страшным голадам! Вялікі грэх маеце. Бог вас пакарае. Пойдзеце жабраваць.

Спалохаўся чалавек, вярнуўся засмучаны ў хату.

Слуга тым часам, пакуль гаспадар думаў, злез з дрэва, махнуў у хлеў у яслі і нібы спіць.

Гаспадар са страхам кажа жонцы:

— Ой, жонка-нябога, прагнявілі мы святога бога.

— Што сталася?

— Я стаяў пад сліваю і чуў божы голас.

— А што ён табе казаў?

— Казаў, што мы здзекуемся з сіраты, голадам яго мучым, а самі скора жабраваць пойдзем.

— Ой, ой!..— заплакала жонка.— Што нам рабіць, дзе нам падзецца?!

— Нябога, як відаць, мусім слугу частаваць,— сказаў гаспадар і тут жа пабег у хлеў. Жонка тым часам узялася хутчэй гатаваць вячэру.

— Іване, Іване!

— А што, пане гаспадар?

— Хадзі, нябожа, вячэраць!

— Я ўжо вячэраў, пане гаспадар!

— Ды што ты там вячэраў?

— Фасольку з капустай.

— Дык хадзі зноў вячэраць.

— Я не галодны!

— Хадзі, нябожа, хадзі!

— Дайце мне спакой! Я сыты.

— Хадзі хутчэй, бо астыне вячэра.

Узяў гаспадар хлопца за руку, падняў з ясель, бо думаў, што той моцна заспаны.

Пасадзіла жонка слугу за стол. Паклала на талерку яечню, яшчэ й паленкі гаспадар знайшоў.

— Еш, дзіцятка, еш!

Паеў смачна Іванка, хоча ісці спаць зноў у хлеў. А гаспадыня — не. Заслала чысты ложак і ўжо не выпусціла слугу з хаты.

## КАЗКА ПРА АДНАГО ЧАЛАВЕКА, ЯКІ ДАВАЎ БОГУ ВАЛА, КАБ БОГ ДАЎ ЯМУ СТАРЫЦАЙ

Было ці дзе не было, за высокімі гарамі, за шырокімі лясамі, за глыбокімі марамі, гэтак дзесьці ў гарах, у невялічкім сяле жыў сабе адзін чалавек, звалі яго Максім. Змалку ён пасціў чужых авец, а калі выраслі яго сыны, ён пабудаваў дом, купіў сабе волікаў і пачаў гаспадарыць.

Аднаго разу ў нядзелю зазванілі званы. Яго жонка Насця ўнесла нядзельнае адзенне сабе і Максіму і кажа чалавеку:

— Максім, пераадзявайся, пойдзем у царкву — час і табе памаліцца богу.

Паглядзеў Максім на Насцю і здзіўлена кажа ёй:

— Настуня, мая дарагая! Я цябе люблю, а ты мяне ў царкву вядзеш. Хіба адракаешся ад мяне? Я быў з табою ў царкве, калі жаніўся, а зараз ты ўжо хочаш мяне разжаніць?

Насця ўсміхаецца яму:

— Не даражэнькі! Мы пойдзем святому богу памаліцца, каб даў здароўя і табе, і мне, і дзецям нашым, і волікам.

Максім доўга думаў і нарэшце пагадзіўся са словамі Насці. Пайшлі яны да царквы. Насця стала на сваё месца, а Максім стаў каля людзей, бо ў яго не было свайго месца. Ён жа ўсяго другі раз у жыцці прыйшоў у царкву.

Стаяў Максім, увесь час глядзеў на папа, прыслухоўваўся да яго дзіўнага малення. Калі поп узяў кадзіла і пачаў кадзіць, Максім заглядзеўся на той дымок. І прыгадаў Максім, як ён сам не раз выкурваў пчолы з дуплістага дрэва і смакаваў мёд.

А як пабачыў, што людзі хрысцяцца, ён і сам пачаў абодвума рукамі адмахвацца, каб часам дым з кадзіла не зайшоў у вочы. А калі поп пачаў набліжацца да Максіма з кадзілам, ён падаўся да дзвярэй, дужа адмахваючыся ад дыму.

Як-небудзь выстаяў Максім службу божую. Пад канец набажэнства поп пачаў казанне пра божае слова. Слухаючы папа, Максім задумаўся. Ды й як не задумацца, калі поп са слязамі на вачах прасіў хрысціян, каб даравалі так, каб правая рука давала, а левая пра гэта не ведала? За тое, гаварыў поп, гасподзь бог аддасць старыцаю.

Калі вярнуўся Максім з царквы дадому, пачаў думаць, як бы штосьці вялікае даць святой маці-царкве, каб вярнуць ад бога старыцаю. О, тады ён стаў бы сапраўдным гаспадаром! Ды ў Максіма, апрача волікаў, нічога не было. Тых волікаў ён зарабіў — за сумленную працу нажыў.

Доўга думаў Максім пра дар царкве, а да чаго нарэшце дадумаўся, тое і зрабіў.

Аднаго вечара ўзяў Максім вала, прывязаў на рогі доўгі і моцны матуз, прывёў вала да царквы і думае, як бы яго ахвяраваць на святую маці-царкву. Паставіў драбіну, залез на верх

царквы, трымае за матуз і кліча да сябе вала. Бедная жывёліна не ведала, як залезці на царкву. Тады Максім задумаў пасеяць на царкве жыта. Яно зазелянее, вол на драбіны залезе пасціся, а тады Максім яго і прывяжа.

Як Максім задумаў, так і ўчыніў.

Калі жыта на царкве зазелянела, Максім прывёў вала, заманіў яго на святую царкву, тут прывязаў і шчаслівы пайшоў дадому. Дома спакойна лёг спаць, бо цвёрда спадзяваўся, што бог прыняў яго падарунак і верне старыцаю.

Што адбылося далей?

Раніцай Максім не спаў, калі Насця не знайшла ў хляве аднаго вала. Усхвалявалася, забегла ў хату:

— Максім, Максім, уставай! У нас хтосьці вала ўкраў! Максім спакойна з пасцелі:

— Насця, не хвалюйся! Я яго святой маці-царкве падараваў, а нам гасподзь бог верне старыцай. Тады ў нас не адзін вол, а сто адзін будзе. Не хвалюйцеся, я высплюся, а тады пойдзем за волікамі,— і лёг Максім дасыпаць.

Ужо перад абедам устае Максім у добрым настроі. Цяпер ужо ён выспаўся, бо ад таго часу, як чуў казанне ў царкве, ні днём ні ноччу не меў спакою на сэрцы — дужа быў заняты божай старыцай. Калі сеў снедаць, расказаў Насці пра тое, што на сэрцы яму лягчэй, і кажа:

— Настуня! Нам трэба такі хлеў збудаваць, каб у ім сто валоў змясцілася.

Насця задумалася і кажа:

— Для чаго нам хлеў будаваць, калі ў нас, апрача аднаго вала, нічога няма?

А Максім спакойна:

— Не, мая дарагая Насця! Мы зараз загародзім кашару для валоў і пойдзем за старыцаю, прыгонім ад госпада бога яго дар — сто валоў. А то калі запознімся, можа гасподзь бог і не даць нам той старыцы.

Вельмі абрадавалася Насця, што стануць багачамі, і распачалі яны гарадзіць кашару для валоў. Як доўга гарадзілі, не скажу, але як толькі закончылі, пайшлі за старыцаю да госпада бога, да святой маці-царквы.

— Знаеш што, Максім? Я табе раіла б узяць ад госпада бога палавіну кароў, а то мы за сваё жыццё ніколі не пілі малака ад уласнай каровы.

Максім згадзіўся.

Рада Насця, што будзе сваіх кароў даіць. Далей пытае Максіма:

— Каму ты, Максімка, вала аддаў?

Максім кажа:

— Я, Настуня, усё зрабіў па «Святому пісанню» пана свяшчэнніка. Хіба ты не запамятавала, як ён казаў, што трэба

даваць на святую маці-царкву і тады гасподзь бог аддасць старыцаю? То я так і зрабіў. Хадзі, я табе ўсё пакажу.

Прыйшлі яны да царквы, на ёй жыта зялёнае, волік прывязаны на вялікім матузішчы, толькі ўжо не той, што быў, а адны косткі. Вол здох ад голаду і без вады, а мяса з яго паклявалі вораны.

Селі сабе абое пад святой маці-царквой. Доўга-доўга гаварылі: як, куды, да каго звяртацца, бо царква замкнутая і каля яе нікога няма.

Абое пасядзелі да вечара. А далей Насця пачала плакаць: шкада ёй стала воліка, праклінала воранаў. Расчуліўся і Максім. Сядзелі яны, плакалі цэлы вечар, цэлую ноч, і ніхто на іх не звярнуў увагі. Ужо цалкам выбіліся з сіл, вельмі прагаладаліся, а святая маці-царква і гасподзь бог не абзываліся. Так і давялося ім з парожнімі рукамі, галодным, заплаканым вярнуцца дахаты без божай старыцы, без свайго воліка.

Кінулася Насця ў хлеў, каб другога воліка пакарміць, напаіць. А волік расцягнуўся пад яслямі, ляжыць дохлы. Насця спрабавала падняць яго, пацягла за рогі, а потым як загалосіць:

— Максім, Максім!

Максім увайшоў у хлеў, глядзіць, а жонка прыпала да воліка і самлела. Максім падымае жонку, спалоханы, кладзе руку на воліка, цягне за вуха і ціха-ціха гаворыць:

— І гэты здох.

Зіхнуў горка, узяў жонку на рукі і панёс у хату. Насця апамяталася, падняла галаву, глянула на Максіма і пытае:

— Максім, дзе я?

А Максім з жалем і сумам кажа:

— Ты, Насця, у сваёй хаце.

— А дзе старыца, якую абяцала святая маці-царква і сам гасподзь бог? Ой — бо старыцу мы атрымалі ад пана бога!

Доўга, вельмі доўга і цяжка Максім з Насцяй наракалі на сваю нешчаслівую бядняцкую долю.

Аднойчы ацялілася ў суседзяў карова. Ды былі ў яе такія прыгожыя блізняты, што цэлы свет абыдзеш, лепшых не знойдзеш. Карова была малая і слабая і не магла гадаваць двойню. Суседзі памеркавалі і вырашылі беднаму Максіму падараваць цялічку. Як задумалі, так і зрабілі. Паклікалі да сябе Максіма і Насцю ды й кажуць ім:

— Калі хочаце, мы падаруем вам адно цялятка. Ці вы зможаце яго выгадаваць?

Максім і Насця ўзялі цялятка і шчыра дзякавалі суседзям за дарагі падарунак.

Лёгка ці не лёгка гадавалі цялятка Максім і Насця, але вырасцілі з яго такую карову, што нідзе не было такой.

Ціхая і спакойная восень была тады, калі Максім пагнаў карову на пашу ў поле. Да хваста каровы быў прывязаны чырвоны шнурочак, каб, як той казаў, не сурочылі, бо, ведаеце,

ёсць такія людзі, што маюць злую душу і як толькі глянуць на добрую карову, жывёліна можа загінуць.

Ну, і што адбылося потым?

Аднаго разу ішоў поп з пападдзёю на прагулку. Як толькі пабачылі Максімаву карову, зіхнулі. Са здзіўленнем спыталі Максіма:

— А чыя гэта карова?

Максім крыху памаўчаў, а потым адказаў:

— Мне сусед даў малое цялятка, цяжка я яго гадаваў, але на старасць маю карову.

Поп глядзеў на Максіма ласкава, а сэрца яго лютавала, як у ваўка. Тады й кажа:

— Як цябе, небарака, завуць?

— Максімам.

А поп зноў пытае:

— А інакш як?

— Інакш завуць яшчэ аўчарам, бо я пасціў людскіх авец. Цяпер мае два сыны на заробках жывуць, бывае, што раз у год прыходзяць дадому.

Поп задумаўся, як бы абдурыць Максіма і забраць ад яго карову, і кажа:

— Слухай, Максім! Ты не хацеў бы за адну карову мець дзесяць?

Максім паглядзеў на папа і кажа:

— А можа, пан святарэ, сказалі б: старыцаю, а? Я ўжо даў воліка святой маці-царкве.

Поп глянуў на сваю пані, потым на Максіма і кажа:

— Мы ідзём на прагулку, а пакуль вернемся, ты падумай. Як захочаш, дык і старыцаю атрымаеш.

Поп з пападдзёю адышлі недалёка, селі так, каб Максім не бачыў іх, і сталі мудраваць, як бы адабраць ад Максіма карову. Доўга меркавалі, пакуль свяшчэннік не прамовіў:

— Усё ж ашукаем старога!

Калі падняліся, каб ісці да Максіма, поп нагадаў расказ Максіма пра тое, як яго ашукалі ўжо раз. Згадаў, як Максім сеяў жыта на царкве, цягнуў туды воліка, як папу давялося самому косткі знімаць з царквы.

І кажа пападдзі:

— Мы яму дадзім бадай такую карову і падпіску, што гасподзь бог праз тры месяцы верне яму старыцай.

Пападдзя не згадзілася: дакумент можа пайсці ў суд. Поп пападдзю супакоіў:

— Я падпіску дам, а праз некалькі дзён украду ў Максіма дакумент і парву. Хадзем да Максіма. Няхай я стану аслом, калі не ашукаю старога аўчара.

Так і зрабілі.

Прыйшлі яны да Максіма і дамовіліся, што ён дае пану карову, а поп моліць бога, каб аддаў Максіму старыцай. А калі

бог праз тры месяцы не аддасць старыцай, поп дае Максіму сваіх дзесяць кароў.

Пакуль што поп дае Максіму адну са сваіх кароў, якіх у яго сто дзесяць.

Мінуў месяц. Аднойчы Максім пагнаў пасціць папоўскую карову — тую, што выменяў на сваю. Спакойна сабе сядзіць і пляце кош. Дзесьці каля абеду прыбягае Насця і кажа:

— Максім, Максім! Бяжы хутчэй дадому, бо нам бог аддаў нашу карову, яшчэ і старыцу.

Абрадаваўся Максім і падаўся дадому. Сталі яны з Насцяй лічыць каровы, што іх да кашары завяла іх уласная карова. Да той ж кашары яна прывыкла з маленькага цялятка.

Налічылі сто дзесяць кароў. Доўга не думаючы, Максім кажа жонцы:

— Насця! Дзесяць кароў трэба гнаць папу, бо гасподзь бог памыліўся, прыгнаў нам больш. А тыя дзесяць, пэўна, меў намер даць папу за добрыя малітвы.

Так Максім і зрабіў. Ноччу прыгнаў кароў да папоўскага двара, а поп выходзіць насустрач і пытае:

— Куды, Максім, гоніш кароў?

— Ды вам, пане свяшчэннік. Мне гасподзь бог даў сто і дзесяць, а то, пэўна, дзесяць вашы, бо, відаць, вы шчыра маліліся.

Поп узрадаваўся, бо не пазнаў уласных кароў, і разам з Максімам загналі худобу да хлева. Яшчэ й падзякаваў за дапамогу.

Максім хутка вярнуўся дадому. Поп ніяк не налюбуецца сваімі кароўкамі. Яго пані не было дома, на цэлы тыдзень пайшла ў госці. Мінае час. Максім размеркаваў каровы паміж бедных людзей, якія не мелі ніколі ўласных. Праўда, дзве каровы пакінуў для сваіх сыноў, адну — для сябе з жонкаю.

Прыйшла пападдзя з гасцявання і пабачыла, што іх каровак бог аддаў Максіму.

Поп падаў на Максіма ў суд. Бо дагадаўся, што Максімава карова завяла з сабою ўсіх папоўскіх да сваёй кашары. Суд Максіма апраўдаў, і поп больш ніколі не турбаваў Максіма.

Максімава сям'я жыве і цяпер. Калі б хто даведаўся, дзе яна, я магу паказаць дарогу. А жыве яна там, дзе сумленныя людзі жывуць і працуюць для сябе.

## ЯК ЧАЛАВЕК ЦАРКВУ ШУКАЎ

Ажаніўся чалавек і ўзяў жонку такую, што ходзіць у царкву, а ён і разу не быў у царкве, яна яго гоніць у царкву, а ён кажа:

— Я не ведаю, якая яна.

— Глядзі, дзе зялёная крыша, то гэта й царква.

Ён апрануўся і пайшоў сялом: глядзіць, аж стаіць шынок, а мох ужо стары, зялёны на ім парос зверху. Ён думае: «Гэта царква» — і заходзіць туды. Глядзіць, а там сядзіць дзед ды іграе ў скрыпку, а баба танцуе.., а другія мужыкі ў карты гуляюць. Ён пастаяў і пайшоў дадому. Жонка і пытае яго:

— Быў у царкве?

Кажа:

— Быў.

— Што ж ты там бачыў?

— Колькі я,— кажа,— там цудаў бачыў!

Жонка пытае:

— Якіх?

— Стары,— кажа,— Спас грае на бас, а святая прачыста — надзела маніста ды гу-цу-цу, гу-цу-цу па царкве. А Мікалай-цудатворац сядзіць за сталом са святымі ды як ухопіць за ногі бажаня, ды аб стол галавою, ды: «Ці няма ў каго козыра?»

— Дык ты ж быў у шынку, а не ў царкве?

— Ты ж казала, што дзе зялёна крыша, то там і царква, дык я туды і пайшоў...

## ХТО БУДЗЕ ВІСЕЦЬ, ТОЙ НЕ ПАТОНЕ

Ехаў аднойчы пан Зянон у горад, і трэба было яму пераязджаць рэчку па лёдзе. Справа была ў канцы зімы. Лёд праваліўся, а пану давялося б патануць, каб не людзі з вёскі, што збегліся на крык і выратавалі яго. Убачыўшы ў гэтым божую дапамогу, ганарысты пан вырашыў аддзячыць «пану богу» за сваё выратаванне. На тым месцы, дзе яго выцягнулі з рэчкі, ён загадаў паставіць вялізны крыж з надпісам:

«Бог пана ад смерці пазбавіў —
Пан богу крыжа паставіў».

Дык скора на тым крыжы школьнікі дапісалі:

«Не бойся, дурны Зяноне,
Хто будзе вісець, той не патоне».

## СТРАХ

Пайшоў гэтак вечарком, ужо змрокам, адзін чалавек шукаць коней. Абышоў ён сувараты, пахадзіў па хмызняку каля выгану — няма. Што тут рабіць? Пайшоў ён у лес. Ідзе, коськае. Пошчак так і рассыпаецца па лесе. Сонейка даўно ўжо зайшло. Вечар цёплы, пагодны. Гэта было ў пятроўку. Хадзіў, хадзіў той чалавек, далёка зайшоў у лес, а коней нямаш.

— Кося, кося, дам аброку,— крычыць ён, а па лесе пошчак абзываецца:

— Ся, ся, аброку, аброку!

Тым часам так сцямнела, што ў лесе хоць вока выкаль. Сумна стала чалавеку ў гэтай нетры. Хацеў ён вярнуцца назад, да не ведае, куды ісці, заблудзіўся, блукаючы ў лесе. Хацеў паглядзець на зоры, да за галлём нічога не відаць. Стаіць чалавек і думае, як з лесу выбіцца. А ведама, пакуль ішоў, то знаў, дзе гаспода, а як стаў, то і згубіў след. Думаў — нічога не можа парадзіць. І такі на яго страх напаў, што валасы растуць, як тая шапка не скінецца. Ужо хацеў ён лезці на дзерава, але ніяк не можа падняцца — лыткі дрыжаць, а ў руках сілы няма. Папробаваў гукаць — у горле сцісла. Бяда. Хоць лажыся да й памірай. Пачакаў ён трохі, паслухаў. У лесе ціха, як у вусе. Гукнуў ён так моцна, што можа за мілю чуваць. Доўга лескатаў пошчак па лесе, а як заціх,— чуе: хтось абазваўся зусім блізка. Той чалавек давай зноў гукаць. Зноў абзываецца. Вось ён гукае і ідзе па голасу насустрач. Ідзе, спатыкаецца на каладдзё да на завалы. А тут гушчэча вочы выдзірае. Узбіўся на выскаць, чуць галавы не скруціў. Залез ён у такую нетру, што й выкарабкацца не можа.

«Згінь, мара, прападзі. Можа,— думае,— гэта ліхі мяне сюды завёў?»

Дастаў гэта ён з магалейкі крамянец да губку і хацеў выкрасаць агню. Мац за пояс — цагала няма. Почапка цэлая, і пяцелька завязана, як была, а цагала чорт ухапіў. Давай гэта ён хрысціцца. Чуе, аж чорт адляцеў з паўганоў, узбіўся на алешыну да так жаласліва плача, аж заліваецца. Узяў таго чалавека страх, не ведае, што рабіць. Пастаяў ён трохі, пастаяў, ачухаўся, паправіў за плячыма торбу, мацнуў, ці ёсць за поясам сякерка, да памаленечку бокам-бокам давай адходзіць адтуль назад. Толькі выбраўся ён з гушчэчы на прагаліну, чуе: хтось ціхонька высунуў у яго з-за пояса сякерку да й гоп яе дадолу. Абярнуўся чалавек, падняў сякерку, чуе: аж ззаду чорт рагоча, бы жарабец.

«Чаго там рагатаць,— думае чалавек,— от вялікае дзіва зрабіў, што выцяг сякерку з-за пояса».

Тым часам чорт, мабыць, дагадаўся, што падумаў чалавек, забег уперад да й рассыпаўся на паляначчы, бы жар. От так і гарыць уся зямля, толькі няма ні полымя, ні дыму.

«Дак гэта ён,— думае чалавек,— украў у мяне цагала да яшчэ хоча мяне спаліць. Маім салам да па маёй шкуры мажа».

Тут чалавек успомніў, што ў яго ў магалейцы павінна быць маленькае цагала. Мацнуў ён, аж цагала целяпаецца на прывязцы каля пояса. Выкрасаў ён агню, раздуў да й упёк вяршаліну. Потым узяў галавешку, абчарціў кругом і лёг сабе каля агню да толькі драва падкладвае. Бачыць чорт, што чалавек не баіцца ў крузе, і давай яго адтуль выманьваць. От ляжыць ча-

лавек каля агню да й бачыць, што тут жа па зямлі рассыпана золата, блішчыць ад агню, бы жар, ззяе. Паглядзеў чалавек да й кажа:

— Добра, няхай ляжыць, калі яно суджана мне, то яго ніхто не возьме — маё маім будзе.

Ляжыць сабе да люлечку пакурвае. А чорт то зарагоча, бы конь, то бегае па лесе, як апантаны, да грукаціць капытамі аб карэнне да аб каладдзё. Альбо залезе ў куст, шамаціць, трэ яго, аж іскры сыплюцца. Але бачыць, што чалавек сядзіць пры агні, а з круга не выходзіць, чорт яшчэ трохі пасвістаў, пабегаў і адкаснуўся ад таго чалавека. Тым часам даў бог дзень. От толькі стала занімацца на свет, птушачкі запелі ўсялякімі галасамі, лес ажыў, загаманіў. Здаецца, як бы грамада паднялася і збіраецца на работу. Устаў той чалавек. Бачыць, агонь дагарэў.

«Няўжо ж то я,— думае,— задрамаў. Быццам не спаў усю ноч і якіх толькі страхаў не нацярпеўся».

Зірне ён: аж начаваў каля самае дарогі, ганоў трое ад сяла. Плюнуў чалавек да й пайшоў да гасподы. Ідзе ён паўз паляначку, бачыць, аж яго коні пераскочылі цераз завалу да й пасуцца сабе ў аўсе.

«Няўжо ж,— думае,— гэта не чорт, а яны рагаталі. А багі іх ведаюць!..»

З тых часоў той чалавек пачаў так баяцца страхаў, што як змеркне, то нізашто адзін не пойдзе ў лес.

## АДРАБЛЯННЕ*

Сябра расказваў, што жыў у адным сяле калдун-вядзьмак. Адкуль толькі к яму ні хадзілі людзі! Ён і завіткі** вырываў і ад усякіх хвароб вылечваў, і адрабляў, як каму што ліхое ўдзеяна...

От раз у аднаго чалавека заняпала карова. Жонка казала папрасіць калдуна-знахара, каб пашаптаў, а гаспадар не паслухаў жонкі — карова назаўтра і выпруцілася. Бядуе мужык— няма дзецям ні каплі малака, а каб купіць другую карову,— грошай, багі іх мелі. Пайшоў той мужык з бяды ў карчму, хацеў выпіць кватэрку гарэлкі. Прыходзіць туды, ажно там сядзіць за сталом калдун-знахар; сядзіць, люльку пакурвае, чакае, пакуль хто паўкварты паставіць.

— Што,— кажа калдун-знахар,— няшчасце, Сцяпане?

— Эге ж, няшчасце.

— Гэта, мабыць, удзеяна, трэ' на зоры паглядзець.

---

* Адрабіць — па старому павер'ю сялян — зняць порчу; прырабіць — наслаць порчу; зачараваць, зрабіць зло пры дапамозе чараўніка.

** Завіткі — тое ж, што заламка.

— Глянь на бога, Нічыпар, паглядзі на зоры, хто гэта мне ўдзеяў, каб яму дабра не было.

— Нічога, не бойся, я адраблю,— кажа калдун-знахар.

Паставіў гэта яму Сцяпан паўкварты, а другую ўзяў у кішэню й павёў Нічыпара да гасподы... Напіўся Нічыпар, наеўся і лёг спаць. Але вось у самую глупась* устаў і пытае Сцяпана, ці ён спіць. Сцяпан абазваўся, што не спіць. «Спі,— кажа Нічыпар,— спі, нічога не бойся»,— а сам і пайшоў з хаты глядзець на зоры...

Але вось назаўтра, яшчэ чуць свет, чуюць, як у суседзей бабы галосяць: самая лепшая, здаровая карова ўвечар наелася, а к свету й выпруцілася. «А што,— кажа калдун-знахар,— от і адрабіў».

Давай ужо тыя суседзі прасіць Нічыпара к сабе... Ноччу ён устаў, пытае: «Ці вы спіце?» — «Не,— кажуць,— не спімо».— «Спіце, спіце, нічога не бойцеся, я толькі пагляджу на зоры». І пасунуў з хаты на двор. А ў запечку ляжаў хлапчук, гэтак гадоў дванаццаці падшпарак, ды вельмі цікавы. Хочацца яму ведаць, як гэта Нічыпар глядзіць на зоры. Вылез гэта ён з запечка і ціхенька выйшаў з хаты ды й прытаіўся за вуглом. Бачыць, што Нічыпар пастаяў на вуліцы ды й пайшоў, азіраючыся, к суседу на двор. Доўга стаяў хлапчук, хацеў ужо ісці ў хату, але ось чуе, штось у суседа ў хлеве вельмі моцна стукае. Падбег гэта хлапчук к суседу пад акно, пабарабаніў у абалонку ды й кажа:

— Дзядзька Мікіта, а, дзядзька Мікіта, паглядзі-тка, штось у тваём хлеве вельмі моцна стукае.

Запаліў Мікіта лучыну, усштурхаў парабка ды й пайшлі яны ў хлеў; бачаць: ажно Нічыпар сядзіць на самым лепшым валу ды зацуркоўвае яму горла, а вол ляжыць ды толькі нагамі дрыгае.

— Што ты,— кажа,— гад, робіш? Дык гэта ты гэтак адрабляеш?

І давай яго лупцаваць чым папала. Нарабілі крыку. Збеглася паўсяла. Насілу адратавалі вала, а Нічыпара так прыбілі, што думалі, ён ужо больш не ўстане. Але жывуч гад, як кот: паляжаў трохі без памяці, а потым і ачухаўся... Ціхенька й папоўз у сувараты. Там, мабыць, адляжаўся і зусім ускарабкаўся. Але годзі з тае пары калдаваць ды адрабляць.

Дак от як Нічыпар калдун-знахар глядзеў на зоры да адрабляў і прырабляў. А мо' і ўсе яны гэтак адрабляюць, чарты іх ведаюць, не перад ноччу кажучы.

* Глупась — апоўначы.

## ШТО ВЕДЗЬМАРУ БЫЛО ЗА АШУКАНСТВА

Быў сабе адзін хлопец сірата, яму было ўжо нешта дванаццаць год. Думае ён сабе: «Пайду я за ведзьмара наўчуся». Ідзе ён, так ідзе, ажно спатыкае яго вядзьмар ды й пытае:

— Куды ты пойдзеш?

— Пайду,— кажа,— за ведзьмара ўчыцца.

— Хадзі са мною, я вядзьмар.

Ідуць яны, так ідуць, прыйшлі ўжо да хаты ведзьмаровае. У тыдзень ці ў два падучыўся той хлопец трошка, пайшоў у горад, аж бачыць — баба нясе дзіця хворае.

— Дайце,— кажа,— мне, то мо' я яго як вылечу.

— Добра,— кажа,— ды й гэта пайшла за ім. Прыходзяць, а старога на той час не было дома, так ён кажа:

— Ідзіце вы дахаты па мужыка, як ён прыйдзе, то ўжо ваша дзіця будзе здаровым.

Прыходзіць вядзьмар ды й кажа:

— Лезь ты, хлопча, у яму (у іх быў пограб сярод хаты), бо зараз той прыйдзе.

Мужык прыходзіць, а вядзьмар падышоў да дзіцяці, узяў за ручку і кажа:

— Вылазь, чорце, з дзіцяці!

Так той хлопец у яме адказвае:

— Вылажу ўжо, вылажу!

Вядзьмар кажа другі раз, трэці, а той усё «вылажу», нарэшце, кажа:

— Вылез?

— Вылез! — кажа.

Тады той чалавек выняў пяць рублёў ды то аддаў, думаючы, што будзе здаровае. Прыходзіць дахаты, ажно дзіця памёрла.

## ЗАЛАМКА*

У кожным сяле ёсць свой вядзьмар... Яны шэпчуць, лечаць, адрабляюць усялякую хваробу або няшчасце. Людзі баяцца іх, годзяць ім. От быў такі вядзьмар. Яго зналі не толькі ў суседніх сёлах, але можа ў цэлай акрузе. Гэта быў такі вялікі вядзьмар, што ён усё знаў. Ніхто не смеў яму сказаць наперакор: так яго баяліся. Толькі быў там адзін чалавек, ён многа па свеце хадзіў, кажуць, быў аж у Круляўцу**. От гэты чалавек не баяўся ведзьмара і ўсё казаў, што ён толькі чмуціць. Але яму не верылі. От той чалавек пайшоў у сваё жыта і зрабіў там заламку. Цераз нядзелю, а можа і дзве прыходзіць к таму

---

* З а л а м к а — скручаныя і звязаныя ў вузел некалькі каліў збожжа на ніве. Па павер'ю, заламка рабілася чараўнікамі, нібыта прыносіла шкоду гаспадару нівы.

** К р у л я в е ц — славянская назва Кёнігсберга (цяпер Калінінград).

ведзьмару і просіць, каб ён вырваў тую заламку. Пайшлі яны ў поле. Падышоў вядзьмар к заламцы на шагоў дваццаць да й кажа, што не можа ісці далей,— такая моцная заламка. Скінуў гэта ён нагавіцы й сарочку да так, як маці радзіла, й папоўз к заламцы ракам. Паўзе і ўсё стогне, што вельмі моцна ўдзеяна. Маўчаў гэта маўчаў той чалавек, а як падышлі другія людзі, уссеў на ведзьмара верхам, дастаў з-пад палы гарапнік да давай паласаваць ведзьмара.

— От жа я табе, хварэць,— кажа,— тваёй матары, пакажу, як моцна ўдзеяна, бо гэтую заламку я зрабіў сам.

Раве немым голасам вядзьмар, а той яго лупіць. Біў, біў, пакуль здаволіўся, да й пытае:

— А што, не будзеш больш добрых людзей чмуціць?

— Не буду,— просіцца вядзьмар,— толькі пусці жывога.

Пусціў той чалавек ведзьмара. Усхапіўся гад, забыў і сарочку й нагавіцы апрануць, ды так і сунуў наўцекача. Падзівіліся людзі, думалі перш, што вядзьмар таго чалавека са свету зжыве, але бачаць, што той чалавек жыве сабе й не лыс... Годзі вядзьмар з тае пары чмуціць. Але нядоўга жыў, бо вельмі яго збіў той чалавек.

Дык от якія ё ведзьмары.

## ШАПТУХА

У якімсьці сяльцы жыла старэнькая баба. Была яна адна, бы тая былінка ў полі. Усе яе крэўныя сваякі даўно паўміралі, а яна як асталася, так і ліпіць, як тое гнілое ды старое дрэва. Сяльцо было маленькае, мо якіх дымоў дзесяць. На самым канцы стаяла бабіна хатка. Яна была такая старэнькая, як і сама баба. Скрывілася ды зморшчылася баба, пакрывілася і яе хатка. Знайшоўся якісь добры чалавек, што нарабіў у бабінай хатцы падпорак ды аблажыў яе загатаю; от і стаіць старэнькая, аброслая мохам, бы яе гаспадыня, хатка, стаіць і не варухнецца, бо не ведае, у які бок паваліцца.

Назбірае баба шчэпачак ды цурбалкаў, падпаліць у печцы ды грэецца перад полымем. Ведама, на старасці дык і ўлетку холадна. Вось так і жыве сабе старэнькая баба: калі ёсць што, то з'есць, а калі няма, дык і так абыдзецца. Ды і колькі ёй трэба? Дасць хто трохі асушкаў хлеба або бульбы, баба размочыць скарынку ды пасмокча яе трохі бяззубым ротам, а бульбу спячэ ў прыску ды есць. Гэтым і жывілася тая баба ўжо, пэўна, гадоў з сорак.

Бачыце, ёй ужо было больш як гадоў сто.

Мо яшчэ доўга б пражыла так тая баба, але вось раз ехаў праз тое сяльцо тамашні пан, убачыў ён старэнькую бабу і здзівіўся, што яна так доўга жыве.

— Хіба ж ты, бабка, яшчэ жыва? — пытае пан.

— Жыва, паночку... От не дае бог смерці...

— Як жа ты жывеш?

— Якое маё жыццё! Як так жыць, дык лепей гніць: зарабіць — не здолею, а дзеткі і ўнукі ўсе даўно паўміралі. Некаму і вады падаць.

— Чаму ж ты, баба, не шэпчаш або не варожыш?

— Не ўмею.

— Слухай, баба, я цябе навучу.

— Навучы, паночак, навучы, каб і я не дарма свет займала.

Пан прыхіліўся к вуху ды й кажа бабе:

— От як пазавуць цябе к хвораму, дык ты і пахукай тройчы на яго ды і шапчы: «Сіголаў жыў, сіголаў не». Пашапчы гэтак трохі, дай яму выпіць вады, ён і паправіцца. А калі памрэ, сіголаў яго бяры. От за тое цябе будуць карміць і паважаць.

Падзякавала баба пану ды й пачала шаптаць...

Пайшла чутка, што аб'явілася такая баба, такая шаптуха, што вельмі добра шэпча... Паваліліі к той бабе людзі адусюль, нясуць і вязуць усялякага дабра. Жыве сабе баба анігаткі. Тым часам той пан, што навучыў бабу шаптаць, чуе аб тым ды толькі смяецца сабе ціхенька з дурных людзей.

Але вось пайшоў пан на паляванне, спацеў ды пакрычаў проці ветру, от і зрабілася ў яго ў горле скула. Пан к дактарам — куды там — от-от скула задушыць. Жонка кажа, каб пазвалі тую бабу, а пан і слухаць не хоча, але, нарэшце, як прыперла ліха, дык згадзіўся. Прыйшла баба, а пан ужо чуць дыхае. От давай баба хукаць ды шаптаць: «Сіголаў жыў, сіголаў не».

Прыслухаўся пан ды як пачуў, што баба шэпча тое, што ён яе навучыў, дык яго апанаваў такі смех, што не можа вытрымаць. А баба шэпча і шэпча. Слухаў-слухаў пан ды як зарагоча — скула ў горле і трэснула. Выздаравеў ён ды й пытае ў бабы:

— Ці ж ты, бабка, усё так лечыш?

— Эге ж, мой саколіку, усё так.

— Ну, а як жа ты, бабка, угадваеш?

— Так і ўгадваю.

— Адгадай жа, баба, што ў мяне ў руцэ?

— Папаўся жучка ў панскую ручку,— шчыра прамовіла баба, бо спужалася, што не ведала, як адказаць.

— А няхай цябе, баба, багі кахаюць, як жа ты добра адгадваеш,— пры гэтых словах пан расчапіў руку ды й паказаў, што ў жмені жук.

Дык вось як шаптала ды варажыла тая баба.

## ПОП І ДЗЯК

Быў сабе ў адным сяле поп ды дзяк, абодва п'яніцы... Хочацца ім піць, ды няма за што. От дзяк і кажа папу: «Есць у цябе, бацюшка, кніга тоўстая, ты будзеш па гэтай кнізе гадаць, а я пайду красці, то нам і будзе з чаго выпіваць».

— А куды ж ты, дзяча,— гаворыць поп,— пойдзеш красці?

— А ў нашага Апанаса ў сяле валы добрыя, то я пайду вала ўкраду, у лес павяду да к бярэзіне і прывяжу, дык ён к табе прыбяжыць зараз, бацька, пытацца, а я прыстаўлю хлопца пілнаваць, каб і ад нас хто не ўкраў.

Як сказаў дзяк, так і зрабіў. Вось прыходзіць Апанас да плюсь бацьку ў руку.

— А чаго ты, свет, прыйшоў да мяне?

— Гэта я, бацюшка, сказаць вам пра сваё няшчасце — вала ў мяне ўкралі.

— А што ты, свет, дасі, калі я вываражу твайго вала: у мяне кніга такая ёсць, то я як прачытаю, то і ўзгадаю.

— Каб то ды была праўда, бацюшка, то я, што захацелі, то б даў бы.

— Я ж табе сказаў, што вычытаю. Дасі пяць рублёў ды гарнец гарэлкі, то і вол табе будзе.

— Ды я, бацюшка, не буду і спорыць за гэтым, зараз пайду ды і прынясу.

— Прынясі ж перш гарнец гарэлкі, а пяць рублёў пасля, як вала вычытаю.

От мужык і паплёўся па гарэлку. Прынёс гарнец. Поп з дзякам селі ды п'юць. П'юць ды ў кнігу поп глядзіць і кажа мужыку:

— От ведаеш, Апанас, я ўжо выгадаў, дзе вол. От ідзі ты ў лес, каля нашай палянкі, там і вол твой прывязаны к бярэзіне, ужо яго хочуць весці, ды баяцца, што дзень.

А дзяк хлопцу сказаў яшчэ наперад: «Калі хто будзе ісці па вала, то ты ўцякай».

Мужык пайшоў, куды бацька казаў, і знайшоў свайго вала. Знайшоўшы, прыйшоў к папу, падзякаваў яму і пяць рублёў аддаў.

Поп з дзякам, узяўшы грошы, давай папіваць. Як грошай няма, а выпіць трэба, то дзяк і пойдзе на промысел: у аднаго авечку ўкрадзе, у другога — свінню, а поп усё вычытвае. Так доўгі час і пражывалі ды гарэлку папівалі.

От раз фурман, лакей ды кухар укралі шкатулку з грашыма ў свайго пана. Пан, пачуўшы, што поп вычытвае, загадаў запрэгчы трое коней у буду ды і пасланць па папа. Прыязджаюць. А поп п'яны, аж вочы пачырванелі ад гарэлкі, як буракі.

— Прасіў пан, каб бацюшка прыехаў к нам у двор,— гаворыць фурман.

Поп зараз кудры свае прычасаў, раску надзеў святочную,

сеў у буду ды і паехаў. Прыязджае. Пан стаў яго частаваць ды і кажа:

— Я чуў, бацюшка, што вы памагаеце людзям у няшчасцях, памажэце і мне. У мяне грошай многа ўкралі. Калі толькі вы, бацюшка, мне іх выявіце, то я дам вам за гэта пшаніцы вазоў два і тысячу рублёў грошай.

— Цяпер, пане, я не магу; дома кніга ў мяне, прыйдзецца, можа, і цэлую ноч сядзець.

А сам сабе і думае, як бы хутчэй з двара ўцячы, бо дзяк не ўкраў, то ўгадаць няможна.

Пан сказаў:

— Во добра, заўтра я прышлю за вамі.

І загадаў адвезці папа дамоў. Прыехаў поп дамоў, паклікаў к сабе дзяка, расказаў яму ўсё ды кажа:

— Прапалі мы цяпер з сваёю штукаю, мы ж не можам адгадаць, хто ў пана грошы ўкраў. Трэба ўцякаць, нам, дзяча, з гэтага сяла.

Дзяк пытае:

— А калі ж мы будзем уцякаць?

— От да вечара пасядзім ды дап'ём гарэлку, а як заспявае певень раз, ды другі раз, ды трэці, дык мы і дадзім цягу з сяла, бо пан як данясе архірэю, што мы людзей абманваем, то будзе нам абодвум.

— Добра,— кажа дзяк.— Ты зноў там будзеш папом, а я дзякам.

Прыйшла і ноч. А поп з дзякам сядзяць за гарэлкаю, балакаюць.

Фурман, лакей ды кухар бачылі, што поп быў у двары, дагадаліся, што поп будзе варажыць, ды і пачалі змаўляцца пайсці к папу, як паны ўлягуцца, ды і папрасіць яго, каб нічога не гаварыў пра тое, што яны ўкралі грошы ў пана. Як толькі паны заснулі, дык яны ў двор к папу і ўвайшлі. А поп з дзякам папіваюць сабе гарэлку. Фурман і падышоў к вакну, а певень: «Ку-ка-рэ-ку!» От поп і кажа:

— Дзяча, дзяча, ужо ёсць адзін!

А фурман, пачуўшы гэта, падумаў, што поп пазнаў яго. Прыбег к таварышам ды і гаворыць:

— Поп пазнаў ды сказаў, што ўжо ёсць адзін.

— Пайду і я паслухаю,— гаворыць лакей.

От яны ўдвух пайшлі пад вакно. Падыходзяць, а певень: «Ку-ка-рэ-ку!» другі раз. Поп і кажа:

— Дзяча, дзяча, ужо два!

Фурман і лакей са страху к трэцяму ды і кажуць, што пазнаў, што і абодва прыйшлі.

— Хадзем утрох,— гаворыць кухар,— паслухаем.

Падышлі яны ўсе тры, а певень: «Ку-ка-рэ-ку!» у трэці раз. А поп і кажа:

— Дзяча, дзяча, ужо ўсе тры.

От яны цоп — ды ў хату. Поп спалохаўся: думаў, што гэта па яго прыслалі з двара. А яны яму бух у ногі:

— Бацюшка, не выказвайце пану, што грошы ўкралі! Мы вам дамо за гэта па трыццаць рублёў усе ўтрох, толькі не выказвайце нас.

Поп уцешыўся ды і пытаецца:

— А дзе ж вы дзелі грошы?

— Мы іх закапалі ў стайні, у другім стаянку, ля дзвярэй.

— А вы ж грошай нічога не ўзялі, цэлы ўсе? — пытае поп.

— Нічога, бацюшка, усе цэлы, як мы іх укралі, так і закапалі.

— Ідзіце ж вы дадому, я вас не выкажу.

Пацалавалі яны ўсе ўтрох руку папа і выйшлі з хаты.

Поп сабе і думае: «Папаў жа я шчасце»,— ды і будзіць дзяка, каторы заснуў пад сталом:

— Уставай, дзяча, будем піць гарэлку да самага дня — наша ўзяло.

Назаўтра поп яшчэ спіць, а ўжо пан прыслаў чацвёрку коней з будаю. Прачнуўся поп, умыўся, узяў кнігу тоўстую ды і паехаў у двор. Прыходзіць поп у пакоі ды і кажа:

— Вычытаў, пане, знайшліся грошы панскія.

Пан ад радасці давай папа частаваць, а поп не стаў гарэлкі піць ды кажа пану:

— Дайце мне двух работнікаў.

Далі. Пайшоў ён з імі ў стайню. Разлажыў сваю кнігу тоўстую. Паглядзеў, памармытаў ды і кажа:

— Ну, капайце тут, у другім стаянку.

Пракапалі. І грошы знайшліся. Пану ўжо трэба даваць папу два вазы пшаніцы і тысячу рублёў грошай. Пшаніцы то нішто, а тысячу рублёў шкода зрабілася пану. «Як бы тут зрабіць? — думае пан.— Каб тысячы не даць». Ляціць жук, пан і ўхапіў жука ў руку. Вярнуўся ў пакоі і гаворыць папу:

— Бацюшка, згадайце, што ў мяне ў руцэ! Як згадаеце, то я тады аддам ужо ўсё, што дакляраваў, ды яшчэ і гарэлкі прыбаўлю.

Поп падрапаў сабе галаву ды гаворыць:

— Ото ж папаўся жучку ў панскую ручку!

А пан і не знаў, што поп Жукоўскім завецца, ды і кажа:

— Справядлівы вы, бацька-ўгадзька.

Паказаў яму жука ды і кінуў на зямлю. Нечага рабіць пану. Трэба аддаваць тое, што дакляраваў папу.

Насыпаў пшаніцы два вазы, даў тысячу рублёў грошай, некалькі вёдзер гарэлкі, падзякаваў яму і адправіў папа дадому. Поп, прыехаўшы дадому, пазваў дзяка ды і гаворыць:

— Удалася і гэта нам штука, будзем цяпер піць ды гуляць ды панскую шкатулку памінаць.

## ДЗЯК-ЗЛОДЗЕЙ І ПОП-ВАРАЖБІТ

У адным сяле поп і дзяк дужа любілі выпіць, але не мелі грошай. Кажа дзяк папу:

— Я вам, пане, дам параду, як быць. Вы прыкінецеся прадракальнікам, а я пайду і ўкраду валоў, адвяду іх у лес, каб ніхто не знайшоў. Вам пра гэта скажу, каб вы ведалі, што чалавеку сказаць.

Пайшоў дзяк, украў валоў, пагнаў у лес і прывязаў да дрэва. Чалавек ходзіць, шукае валоў, але нідзе не можа іх знайсці. Прышоў чалавек да дзяка, а дзяк кажа:

— А што, Іване, ці знайшлі валоў?

— Ой, скажу вам, няма валоў. Дзе я толькі не шукаў іх — няма!

На тое дзяк кажа:

— Бацюшка ведае з кнігі прыкметы, ён скажа, дзе вашы валы.

— Гэй, каб так бог даў, каб мае валы вярнуліся, я бацюшку аднаго даў бы.

З тым і пайшоў чалавек да папа.

— А што ты, Іване, журышся?

— Ой, паночку, валоў у мяне ўкралі. Дзе ўжо я іх ні шукаў, а знайсці не магу. Ды чуў, што бацюшка ведаюць прыкметы.

Поп узяў каляндар,— бо іншай кнігі не меў,— глядзіць то ў кнігу, то на Івана.

— Так, небарача Іване, тут паказваецца, што тvае валы там, дзе сонца ўсходзіць, на ўсходзе прывязаны да карча.

Пайшоў чалавек у лес і знайшоў там сваіх валоў. Прыгнаў іх дадому й сто срэбных нясе папу замест аднаго вала.

Ну, зараз ужо й ёсць што піць. Далёка пайшла вестка, што поп — вялікі адгадчык.

Аднаго разу ў аднае пані прапаў дарагі персцень. Пані проста да папа. Але персня дзяк не краў, таму поп не ведаў, што сказаць. Думаў ён, думаў і кажа:

— Служанка персцень вымела, са смеццем вынесла на сметнік, а індык знайшоў ды пракаўтнуў.

Узяла пані і зарэзала індыка. У валляку знайшла персцень. Папу і самому дзіўна, як гэта ён адгадаў. Дала пані дзвесце срэбных бацюшку.

Пасля гэтага і ў газетах апавясцілі, што такога прадракальніка, як поп, няма больш нідзе.

У аднаго пана ўкралі скрыню з грашамі. Пан заклікаў да сябе папа, каб яму сказаў, дзе грошы. Замкнуў папа ў пакоі. Ды поп не ў кнігу глядзіць, а моліцца богу, каб ўратаваў яго ад бяды. Бо казаў пан, што, як не знойдзе грошы, выража яму пояс з хрыбта.

Слугі дачуліся, што прыйшоў прадракальнік. А яны якраз і ўкралі грошы і на двары ў гнаі закапалі. Пачалі слугі турбавац-

ца, што дрэнна будзе, бо прадракальнік іх выдасць. Вырашылі яны паслухаць, што робіць прадракальнік. Кажуць аднаму найміту:

— А ну ідзі, Іване, пад акно і паслухай, што робіць праміт-нік. Заспявалі першыя пеўні. Поп на гэта кажа:

— Ужо адзін тут.

Пабег найміт і кажа таварышам:

— Бяда будзе! Калі я прыйшоў, поп прамовіў: «Слава богу, ужо адзін тут». А ну ідзі ты, Грыцьку, паслухай!

Прыйшоў пад акно Грыц, слухае. Пеўні заспявалі другі раз. На тое поп:

— Ну, слава богу, ужо тут другі!

Калі Грыц гэта пачуў, падаўся да сваіх таварышаў:

— Ой, дрэнна! Як толькі я прыйшоў, поп кажа: «Слава богу, і другі тут».

А трэцяга слугу звалі Хрыпта. Яму і кажуць першыя два:

— А ну ідзі ты, Хрыпта, паслухай!

Прыйшоў Хрыпта пад вакно, поп стаіць каля печы, зняў сарочку і грэе хрыбет. Калі заспявалі трэція пеўні, поп кажа:

— Ну, слава богу, ужо тут і трэці! — І да гэтага дадае:

— Ой, хрыбце, хрыбце, то ты заўтра будзеш драны!

Калі Хрыпта тое пачуў, стрымгалоў пабег да сваіх сяброў.

— Во дрэнна. Трэба нам прасіць прадракальніка, каб як-небудзь нас абараніў ад напасці.

Сабраліся, ідуць да прадракальніка. Падышлі пад акно, пастукалі, а поп:

— Што вам, небажаты, трэба?

— Паночку, будзьце такі ласкавы, мы вас дужа просім, не выдайце нас. Гэта дурны розум на нас найшоў, і мы пасягнулі на панскія грошы. Мы вам добра аддзячым, толькі скажыце, што тое хтось іншы ўкраў.

— Добра, я пра вас не скажу. Скажу, што іншыя ўкралі.

Поп рады, што яму самі хлопцы ўсё расказалі, і пытае:

— А дзе грошы?

— Закапаны ў гнаі.

Прыйшоў раніцай пан, а поп кажа:

— Зладзеі грошы ў двары ў гнаі закапалі.

Пан выйшаў ад папа і кліча слугу:

— Хрыпта! Ідзі гной раскопвай!

Хрыпта ведаў, дзе грошы закапаны, пайшоў і адразу іх знайшоў. Пан абрадаваўся, што грошы знайшліся, даў слугам на магарыч, а папу трыста срэбных. Поп шчасліва пайшоў сабе дадому. Але не ведаў поп, як ад прадракальніцтва пазба-віцца. Паклікаў дзяка да сябе:

— Ну, дзяча, параіў ты мне, як стаць прадракальнікам, цяпер парай, як бы ад гэтага пазбавіцца, бо я ўжо ў вялікіх руках быў.

— Бацюшка, гэта лёгкая справа. Запаліце хату ды скажыце, што згарэла ў ёй кніжка, а без кніжкі вы не ведаеце нічога.

Так поп і ўчыніў. Запаліў хату, хата згарэла. А калі хтосьці да яго прыходзіў, казаў кожнаму, што без кнігі не ведае нічога.

## ЯК ШАВЕЦ ГАЛОЎНЫМ КСЯНДЗОМ СТАЎ

Быў адзін шавец. Кожны дзень ён гарэлку піў. Жонка просіць яго:

— Кідай гарэлку піць. Схадзі да ксяндза спавядацца.

Ён падумаў: «Хоць раз трэба да касцёла схадзіць».

І пайшоў шавец да касцёла, паспавядаўся і ідзе зноў дахаты. Ідзе ён каля карчмы і захацелася яму гарэлачкі выпіць. Стаў па кішэнях шукаць.

— Ёсць саракоўка! Трэба выпіць.

Ён заходзіць у карчму. Выпіў і зноў пайшоў —ківаецца, бо п'яны. Хутка зваліўся ў канаву і заснуў там.

А ў гэты час укралі ў круля дарагі пярсцёнак, і круль аб'явіў, каб усе ксяндзы з'ехаліся да яго і дапамаглі яму сваімі малітвамі і радамі знайсці зладзеяў.

Вось ідзе да круля той ксёндз, што спавядаў шаўца. Глядзіць — ляжыць гэты шавец у канаве.

«Ну,— думае ксёндз,— зраблю я з гэтым шаўцом жарт».

Зняў ксёндз вопратку сваю і адзеў шаўца, а ў шаўцову вопратку сам адзеўся.

Шавец прачнуўся і сябе не пазнае, пытаецца:

— Ксёндз я ці не ксёндз?

І думае: «Пайду дамоў і паздароўкаюся з жонкай. Калі яна мяне не пазнае, значыць, я ксёндз».

Прыходзіць дахаты, як убачыла «ксяндза», прывітала яго і стала пытацца, ці не бачыў «айцец духоўны» яе мужа ў касцёле.

Шавец сказаў, што не бачыў, і падумаў: «Не пазнала мяне жонка. Ну, вядома, я не шавец, а ксёндз».

Пайшоў ён на дарогу і хутка зноў зваліўся ў канаву — крыху выспаўся там. А гэтай дарогай ехалі ксяндзы з другога раёна. Бачаць — ляжыць ксёндз у канаве. Спыніліся ксяндзы, падышлі да яго і пытаюцца:

— Што з табой, калега, здарылася?

Шавец кажа:

— Вось галава закруцілася і ўпаў.

— А ты не чуў,— гавораць яму ксяндзы,— што круль аб'явіў, каб мы ўсе з'ехаліся да яго.

— Не, ксяндзы, не чуў — праспаў.

— Ну, паедзем з намі да круля. А маеш ты кніжку?

— Не, ксяндзы, не маю.

Далі яму ксяндзы кніжку, пасадзілі ў брычку і паехалі з ім разам да круля.

Прыехалі да круля. Круль завёў усіх ксяндзоў у залю, і тады яны сталі маліцца, каб дазнацца, куды пярсцёнак дзеўся.

Круль падыходзіць да кожнага ксяндза, глядзіць, як ён моліцца. Падыходзіць круль да шаўца, аж ён дагары нагамі кніжку трымае.

Круль пытае «ксяндза», чаму ён так моліцца? А той гаворыць:

— Другія ксяндзы нічога не будуць ведаць, а я ўсё буду ведаць, бо я на ўсе чатыры бакі малюся богу, а яны моляцца ў адзін бок.

І стаў шавец вярцець кніжку на ўсе чатыры бакі і «маліцца».

Прыходзіць круль да міністраў і кажа:

— Усе разумныя ксяндзы ў маім крулеўстве, а адзін найразумнейшы: на ўсе чатыры бакі па кніжцы моліцца.

Скончылі ксяндзы маліцца, пайшлі на абед. Шавец кажа да круля:

— Мне дайце асобную каморку, каб я адзін абедаў.

Круль згадзіўся. Тады ён зайшоў у каморку і сядзіць. Прыносяць яму есці. Тады ён палец адхіліў і кажа:

— Ужо адзін ёсць.

Гэта лакей паставіў яду на стол, а сам ходу. Прыходзіць на кухню і кажа:

— Так яго халера вазьмі — пазнаў мяне.

Тады другі лакей кажа:

— А можа мяне ён і не пазнае?

І пайшоў да «ксяндза».

Прыходзіць да яго. Шавец гэты і кажа:

— Вось другі ёсць!

Лакей паставіў на стол яду і ходу. Прыбягае на кухню і кажа:

— Вось ведае, на мяне сказаў: «Другі ёсць».

І гавораць першы і другі да трэцяга лакея:

— Цяпер ты ідзі. Калі скажа на цябе,— пойдзем прасіцца.

Прыходзіць да «ксяндза» трэці лакей, і «ксёндз» кажа:

— Трэці ўжо ёсць.

Кінуў лакей тарэлку на стол і пабег.

Прыходзяць усе трох да яго і просяцца:

— Мы ўкралі! Не губіце нас, не кажыце крулю.

І паказваюць «ксяндзу» крулеўскі пярсцёнак.

Ён пытае:

— Індык у вас ёсць?

— Ёсць чорны індык.

— Завярціце гэты пярсцёнак у хлеб і дайце праглынуць індыку. Тады круль нічога не будзе ведаць аб вас.

Падзякавалі лакеі ксяндзу і пабеглі задаволеныя. А «ксёндз» ідзе да круля і кажа:

— Я дазнаўся, дзе пярсцёнак!
— Дзе?
— У чорным індыку.
Зарэзалі індыка і знайшлі пярсцёнак.
Тады круль дараваў яму вельмі вялікія грошы і зрабіў яго галоўным каралеўскім ксяндзом.
Прыходзіцца шаўцу адпраўляць імшу, а ён нічога не ведае. Дык ён давай прасіцца ў круля, каб той дазволіў яму жыць у кляшторы. Круль пусціў «ксяндза» ў кляштор.
Вярнуўся шавец да жонкі ўжо без ксяндзоўскага адзення і стаў жыць багата.

## АЧЫШЧЭННЕ ДУШЫ

Да аднаго чалавека забраўся ў хату злодзей ды залез пад покуць. Там была занавеска, дык ён залез пад тую занавеску. От той чалавек пайшоў у тую хату богу маліцца, стаў на калена, богу моліцца і просіць:
— Госпадзі! Ачысць душу маю!
А той за занавескаю і кажа:
— Ачышчу.
А той чалавек абрадаваўся ды й зноў просіць:
— Ачысці і жонку маю.
— Ачышчу.
— Ачысці і дзетак маіх.
— Ачышчу.
— Ачысці і зяцька майго.
— Дык не паспею.
От ён памаліўся богу, пайшоў у другую хату і хваліцца жонцы:
— От, жонка, нас гасподзь любіць і гаворыць са мной. І гаварыў, што ачысціць душы нашы — і цябе, і мяне, і дзетак нашых.
А жонка і кажа:
— А зяцька?
— Дык, гаварыў, не паспею.
От яны палеглі спаць, а ў хату ніхто не пайшоў начаваць. Як усе паснулі, злодзей вылез з-за занавескі і забраў усё дабро іх. Яны як прачнуліся, паглядзелі, дык ужо сапраўды ачысціў. Тады той чалавек і кажа:
— От гаварыў, што ачышчу — вось і ачысціў. А зяцька не паспеў.

## СВЯНЦОНАЕ ЗЕЛЛЕ

Людзі казалі, што свянцоная вада дапамагае ад ста хвароб, а наш поп надумаўся яе ў бутэлькі разліваць і проста вазіць па сёлах, бо не ў кожнай вёсцы «свянцоны» калодзеж ёсць, бо простым, «несвянцоным» журавом ці вядром з калодзежа гэтай вады не вычарпаеш.

Дастаў ён бутэлек мо' дзюжын дванаццаць, паналіваў гэтай вады і збыт пачаў. Хто ідзе да яго, з пустымі рукамі не прыходзіць. Ну, кончыўся гандаль, едзе поп дамоў, бутэлькі хоча сабраць, каб марна не прападалі. Хто згубіў тую бутэльку ці пабіў, дык поп не грэбаваў любой,— ці ад гарэлкі, ці дзенатуркі, ці ад такога спірту даўнейшага, што косці і чэрап намалёваны. А пасля развозіў ізноў гэтае зелле свянцонае, і людзі дзівіліся, што на дне бутэлькі надпіс такі сабе не вельмі святы — «Піць нельга».

## СВЯНЦОНАЯ ВАДЗІЦА

Захварэла ў вёсцы баба ды паслала ўнука свайго ў сяло да папа, каб поп даў ёй святой вады. Паслала яму курачку і яечак, а гэта было якраз вясной, а ў нас вясной Копцеў равок перайсці ніяк немагчыма. Што рабіць? Як вярнуцца з пустой бутэлькай назад да бабы? Хлопец апусціў бутэльку ў ваду, набраў вады з раўчука і сказаў:

Вадзіца, вадзіца,
Будзь памачніца.

Курачка і яечкі асталіся ў гаспадарцы. Прынёс бутэльку вады і сказаў бабе: «Поп сказаў памачыць вадой грудзі і трошкі з бутэлькі выпіць». Памачыла баба грудзі, напілася і ад радасці павесялела. Але вада дык з балота разліўнога была.

Балотная вада тое ж, што і «свянцоная». Адна карысць.

## ПОЛЕГЧАЛО

Идет старуха с корзиной в руке, с узлом на спине, а крестьянин за деревней землю пашет. Спрашивает она:

— Скажи, соколик, правда, у вас бабка Марьянка хорошо лечит? Облегчение дает...

— Правда,— говорит крестьянин.

— Легчает?

— Легчает!

— Пойду и я к ней,— говорит старуха.— А то чуть жива иду.

Через несколько часов идет старуха обратно уже с пустой корзиной и без узла, оставила у бабки за леченье. Идет опять

мимо крестьянина. Спрашивает он:

— Ну как, бабушка, полегчало?

— Полегчало, родимый, полегчало. Теперь легко иду.

— Ну вот,— засмеялся крестьянин,— бабка Марьянка многих так облегчает.

## ВАДА ПАМАГЛА

Жаліцца адна маладзіца, што ёй ад гаспадара жыткі няма: як толькі сыдуцца, то перш сварацца, клянуцца, зневажаюць адно другога, а потым гаспадар давай яе біць. І так амаль кожын дзень.

Цярпела, цярпела маладзіца і давай шукаць людзей, каб памаглі. Якіх толькі забабонаў і прымхаў яна ні рабіла,— нічога не памагае, яшчэ гарэй б'е гаспадар; бо ён перш не піў, а як пачаў з жонкаю калаціцца, дак стаў піць. Хадзіла маладзіца і ў прошчу, пасціла і сем пятніц, давала гаспадару зелляў піць — яшчэ гарэй ідзе ў іх калатня.

От парадзілі людзі схадзіць яшчэ к старэнькаму дзядку, мо ён што парадзіць. Недалёка ад сяла, каля перавоза, жыў сабе той старэнькі дзядок. Улетку ён лавіў рыбу і перавозіў у чоўне, каму трэ, цераз раку. За тое яму давалі хлеб і страву. Так і жывіўся сабе дзядок.

От прыходзіць к яму маладзіца і жаліцца на сваю бяду. Паслухаў дзядок і дае ёй пляшку вады.

— На,— кажа,— гэтае зелле. Як прыйдзе гаспадар у хату, ты набяры яго ў рот, не каўтай (глытай), а так і дзяржы ў роце, то гаспадар і не будзе не толькі біць, але й зневажаць.

Падзякавала маладзіца і пайшла да гасподы.

От як прыйшоў гаспадар у хату, яна і набрала ў рот вады, трымае і маўчыць. Так прайшоў адзін дзень, другі, цэлая нядзелька, а гаспадар і пальцам не зачапіў яе. Рада маладзіца. Хваліць зелле, што даў дзядок. Толькі вось выйшла ўся вада з пляшкі. Зноў давай яны сварыцца да калаціцца.

Удругае пайшла маладзіца к старэнькаму дзядку, просіць, каб даў яшчэ зелля. Даў дзядок пляшку вады. От і ўтрэйкі прыходзіць маладзіца к дзядку па ваду.

— Эй,— кажа дзядок,— маладзіца, маладзіца, ці ты не бачыш, што гэта простая вада! Вада, бач, табе памагла, бо як ты набярэш у рот вады, то й не можаш аскірзацца, а маўчыш, як жа кажуць, бы вады ў рот набраўшы. От гаспадар хоць аблае цябе, калі ёсць за што, ты маўчыш, і ён замаўчыць. Ведаеш, што бабу б'юць за язык. Кажуць: за губу да ў губу. От ідзі ж,— кажа,— дзеткі, з богам да не напрыкрайся свайму гаспадару, а лепш прамаўчы, то ўсё будзе добра.

З тае пары жывуць маладзіца з гаспадаром ладком і ніколі не сварацца.

## ЖАБРАК І КУЛАК

Жыў кулак на вёсцы, і быў ён такі скнара, што каліва не дасць. А богу маліўся штодзень і свячу ў царкве ставіў таўсцей за шуло ў браме. Уся хата ў яго была поўная багацця і сала і розных там прысмакаў.

Вось зайшоў да яго аднойчы жабрак і просіцца заначаваць.

Пусціў яго кулак нанач, а накарміць дык не. Не ў яго натуры чалавека падарожнага карміць. «Птушкі божыя самі кормяцца»,— так развражаў кулак.

Лёг бедны чалавек, пояс падперазаў тужэй, ляжыць і глядзіць на розныя торбачкі, што на сценах развешаны. Глядзеў, глядзеў, а тады і пытаецца ў таго кулака:

«Што гэта ў цябе на сцяне вісіць, на покуце?» — «Спі, спі,— кажа на яго кулак,— гэта бог вісіць. Што табе, недавярку, да яго,— ты вось лёг спаць, нават не ўкленчыўшы; што ты зразумееш, калі я табе пра бога скажу. Бог валацугам не спагадае».

Заснуў той жабрак; спіць, і сніцца яму, што накармілі яго смачна і ўсяго ў яго ўдосталь.

Вось раніцой ён устаў, бачыць, што кулак спіць, ды і памацаў, што вісіць на покуце ў торбе. Глянуў — ажно там сала капчонае. Паціханьку ўзяў ён тую торбу ды і пасоўваецца ісці.

Кулак прачнуўся, глядзіць ды і праз сон пытае: «Ты што, пайшоў ужо, чалавеча?» А сам думае: «Вось добры падарожнік, і карміць яго не трэба»,— і кажа яму: «Ну ідзі, ідзі, братка, з богам, хай ён цябе ў дарозе падтрымае».

А той жабрак развітаўся ды і кажа: «Ну, я і пайшоў з богам».

Прачнуўся пазней той кулак, аж бачыць, што сала яго паехала.

## ЯК КУЛАК ЗРАБІЎ ДЗЕНЬ ДОЎГІМ

Кулак, што воўк: і жрэ, і з сабой бярэ — усё яму мала. З батрака стараецца сем шкур злупіць і яшчэ глядзіць, ці няма восьмай.

Тое, што я хачу расказаць, было не ў нашы дні. Адбылося гэта ў той час, калі кулак меў волю здымаць апошнюю кашулю з нас; калі багацеі смакталі нашу кроў, а беднякі не мелі ніякіх правоў; калі па спінах сялян гуляў панскі бізун, а за падаткі забіралі апошні зіпун; калі было добра жыць папам і манахам, а нас запугвалі божым жахам. Карацей кажучы, гэта было пры цары.

У кулака Жываедава працавала на касавіцы дзесяць батракоў. Ад сонца да зары касілі касары. Толькі дзе там! Хіба

справішся выкасіць хутка велізарныя абшары кулацкіх лугоў? Як ні знураў батракоў кулак работай, але бачыць, што не скасіць яму за добрае надвор'е ўсяго, а наймаць больш батракоў скупіўся.

Тут якраз яшчэ падаспела свята — Пятроў дзень. Шкада было ўпусціць дзень. Думаў ён, думаў і, нарэшце, рашыў пайсці да папа параіцца. Прыходзіць і кажа:

— Бацюхна, ці можна ў Пятроў дзень касіць?

— Што ж,— адказвае поп,— можна, чада маё, бог працу любіць.

— А грэх жа,— кажа кулак, а сам кладзе на стол траяк.

Скасіў поп вочы на грошы і кажа:

— Ідзі з мірам, працуй, а я памалюся за грахі вашы.

Узрадаваўся кулак і ледзь не бягом пусціўся па вуліцы. Але раптам радасць знікла.

«Што,— думае кулак,— адзін дзень? Ці многа за яго скосіш, а плаціць батракам усё роўна трэба, каб дзень быў удвая ці ўтрая больш, вось тады іншая справа».

Так ідзе ён па вуліцы, а насустрач — стары ідзе, на кій апіраецца. Параўняўшыся з кулаком, спыніўся ён і пытае:

— Што задумаўся, ці не згубіў што?

Хацеў кулак са злосці аблаяць старога, але стрымаўся. Справа ў тым, што гэты стары хоць і бедна жыў, але славіўся на ўсю ваколіцу сваёй мудрасцю. Кулак рашыў папрасіць у яго парады.

— Скажы ты мне, чалавеча,— ласкава загаварыў кулак,— ці нельга зрабіць дзень даўжэйшым?

Задумаўся крыху стары, усміхнуўся ў сівую бараду і кажа:

— Чаму ж нельга? Можна.

— А як гэта зрабіць? — пытае кулак.

— Зрабіць гэта можна проста: устань рана, разам з пеўнямі, апрані кажух, валёнкі, цёплую шапку, пярчаткі і станавіся ўперадзе касцоў. Тады дзень будзе доўгім. Ён будзе цягнуцца да тых пор, пакуль ты захочаш.

— Што ты з глузду з'ехаў,— запярэчыў кулак,— дзе ты чуў, каб касілі ў кажуху і валёнках?

— Ну, як сабе хочаш,— адказаў стары,— не хочаш, не слухай.

Не хацеў кулак парыцца ў кажуху, але прагнасць перамагла. Раніцой усе батракі здзівіліся, калі ўбачылі гаспадара, апранутага па-зімняму.

Пачалі касіць. Хутка разапрэў кулак у кажуху. Пот залівае вочы, быццам яго ў вар укінулі, а ззаду косы свішчуць, батракі ледзь пяткі косамі не адразаюць. Яшчэ сонца толькі ўзышло на сярэдзіну неба, а кулак ужо выбіўся з сіл. Батракі — народ прывычны, яны косяць ды пасмейваюцца і яшчэ падганяюць кулака.

Нарэшце, не вытрымаў кулак, кінуў касу і вылаяўся:

— Каб ты згінуў, пракляты дзед! Вось нараіў хваробу на маю галаву, здаецца, і канца гэтаму дню не будзе.

Батракі пераміргнуліся: яны зразумелі, у чым справа.

— Так дзень сёння нешта доўгі, як бы два разам.

Паглядзеў кулак на сонца, а яно як бы насміхаецца над прагным кулаком, які хацеў зрабіць дзень доўгім.

## ПОП І БАРОМЕТР

Бывае так, што стане табе засуха і няўрод. Людзі ў гэтакі час немаведама што робяць, каб гэта дождж пайшоў, а каторыя дак і да папа ідуць, каб малебен адслужыць. Ведама, што даўней тады і навука не кожнаму дадзена была і зямля наша бядняцкая, як каўтуном, каменнямі пабіта была.

Прыйшлі сяляне да папа, каб малебен адслужыў, можа дасць бог дажджу. А поп не прымае; сёння, кажа, ён хворы. А сонца смаліць, і няма паратунку.

Пайшлі на другі дзень. Ізноў поп хворы.

Пайшлі праз два дні. Тады ён і кажа:

— Сёння я магу адслужыць малебен, падрыхтуйце ўсё, што трэба.

Пайшлі небаракі з іконамі. Хто што можа цягне: апошняе папу аддаюць, каб хаця дождж з неба пайшоў.

Моліцца поп, вочы ўгару ўставіўшы; аж, на табе, увечары сыпане дождж як па заказу.

— Гэтакая сіла бога,— людзі сабе думалі.— Добра маліся — усё ад яго будзе.

Але ж яно ўсякая табе няпраўда наверх выходзіць. Парабак быў у папа, такі хлапец хітраваты, ён з пакояў папа ўзяў штуку такую са стрэлкамі, што ў кніжках барометрам называюць, ды ўсім людзям паказаў:

— Вось глядзіце,— кажа,— заўтра дождж і без паповай малітвы будзе.

Ажно праўда. Сыпануў дождж як трэба.

Поп пакуль да бога, так раней у механізм гэты заглядваў. Так і адкрылася папова хітрасць.

## ТОЛЬКІ ВЫХОДЗЬ

Д а ч к а: — Мама! Я не выйду замуж за такога атэіста, як Ілько! Ён нават у пекла не верыць!

М а ц і: — Толькі выходзь за яго, дзіцятка. Потым будзе верыць...

Что наяву деется, то и во сне грезится.
В чох, да в жох, да в чет не больно верь.
Как в воду глядишь, так и кажется.
Знахари-то говорят (вар.: заговаривают), как город городят.
Ворожбиту грош, а больному тож (т. е. не легче).
Береженье лучше вороженья.
Ворожба не молотьба: не красна ей изба.
Пророк на печи промок (издевка над ложным предсказателем).
Нет пророка без порока.
Когда ты, бабушка, ворожить стала? — Да когда хлеба не стало.
Поневоле станешь ворожить, коли нечего на зуб положить.
Знахарке незачем трудиться, ее прокормит и водица.
Кто умеет домом жить, тот не ходит ворожить.
Шаптухам не вер: у нас ёсць дактары цяпер.
Варажба не малацьба — нічога не дасць.
Хто ўмее працай жыць, той не пойдзе варажыць.
Скончыўся папоўскі век, бо ў бога не верыць чалавек.
Па палях і поп не ходзіць, а пшаніца родзіць.



## ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

Антырэлігійныя казкі — Антырэлігійныя казкі, частушкі, прыказкі /Склад. А. І. Залескі, К. П. Кабашнікаў, А. С. Фядосік. Мн., 1961.

Бел. жарты — Беларускія жарты. Мн., 1915.

Бел. нар. казкі — Беларускія народныя казкі. 2-е выд./Склад. Г. А. Барташэвіч, К. П. Кабашнікаў. Мн., 1986.

Бел. нар. супраць папоў і рэлігіі — Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі /Пад рэд. М. М. Нікольскага. Мн., 1969.

Біля райських воріт.— Біля райських воріт: Зб. атеїстичного фольклору українського населения Карпат/Упоряд. І. М. Сенька. Ужгород, 1980.

Добровольский — Добровольский В. Н. Смоленский этнографический сборник. СПб, 1891. Ч. 1.

Жанчына ў бел. нар. тв.— Жанчына ў беларускай народнай творчасці. Мн., 1940.

Жарты, анекд., гум.— Жарты, анекдоты, гумарэскі /Склад. А. С. Фядосік, Г. А. Пятроўская. Мн., 1984.

Казки одного села — Казки одного села. Запис текстів, післямова та приміткі П. В. Лінтура/Упоряд. Ю. Д. Туряниці. Ужгород, 1979.

Нар. о религии — Народ о религии: На материалах русского, украинского и белорусского фольклора /Сост. С. И. Василенок. М., 1961.

Нар. про релігію — Народ про релігію: Зб. фольклорных творів/Упоряд. М. С. Родіна, Ф. Д. Ткаченко. Київ, 1958.

Нар. усмішки — Народні усмішки: Анекдоты, жарты, дотепи, бувальщини, небилиці /Упоряд. П. Ф. Гальченка. Київ, 1986.

Романов, 1—2 — Романов Е. Р. Белорусский сборник. Киев, 1886. Вып. 1—2.

Романов, 3 — Романов Е. Р. Белорусский сборник. Витебск, 1887. Вып. 3.

Романов, 4 — Романов Е. Р. Белорусский сборник. Витебск, 1891. Вып. 4.

Романов, 6 — Романов Е. Р. Белорусский сборник. Могилев, 1901. Вып. 6.

Русск. нар.-поэт. тв.— Русское народно-поэтическое творчество против церкви и религии /Сост. Л. В. Домановский, В. В. Новиков. М.; Л., 1961.

Сац.-быт. казкі — Сацыяльна-бытавыя казкі /А. С. Фядосік. Мінск, 1976.

Сержпутовский. Сказки — Сержпутовский А. К. Сказки и рассказы белорусов-полешуков. СПб, 1911.

Сержпутоўскі. Казкі — Сержпутоўскі А. Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павета. Л., 1926.

Соц.-побут. казка — Соціально-побутова казка/Упоряд. О. Ю. Бріциної Київ, 1987.

Шейн. Материалы — Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. СПб, 1903. Т. 2.

Шейн. Бел. нар. песни — Шейн П. В. Белорусские народные песни. СПб, 1874.

Україна сміється — Україна сміється: Народна сатира та гумор дожовтневого періоду/Упоряд. Ф. І. Лавров, І. П. Березовський, Київ, 1960. Т. 1.

Федароўскі, 2 — Federowski M. Lud bialoruski na Rusi Litewskiej. Kraków, 1902. T. 2.

Федароўскі, 3 — Federowski M. Lud białoruski na Rusi Litewskiej. Kraków, 1903. T. 3.

Кліх — Klich F. Teksty bialoruskie z powiatu Nowogródskiego. Materyaly i prace Komysyi językowej. Kraków, 1903. T. 2.

Пяткевіч — Pietkiewicz Cz. Kultura duchowa Polesia Rzeczyckiego. Warszawa, 1938.

# ЗМЕСТ-ПАКАЗАЛЬНІК

| Старонкі | | Крыніцы |
|---|---|---|
| 79 | Царкоўныя рэчы | Нар. про релігію. С. 79. |
| 79 | Пра папа і селяніна | Там жа. С. 152. |
| 80 | Ратуй, божа | Хто з'еў прасвірку. Мн., 1979. С. 192. |
| 80 | Па шчырасці | Там жа. С. 188. |
| 80 | Будзе знак | Там жа. С. 127. |
| 80 | Унук і бабуля | Там жа. С. 120—121. |
| 80 | Смерць, дзяк і салдат | Біля райських воріт. С. 68—71. |
| 84 | Поп одичал | Русск. нар.-поэт. тв. С. 136—139. |
| 86 | Поп-сапожник | Там жа. С. 142. |
| 87 | Как ангелы попа унесли | Там жа. С. 175—181. |
| 92 | Бедны мужык і прагны поп | Добровольский. С. 585—590. |
| 97 | Як мужык ашукаў папа і дзяка і заставіў рукі збрудзіць | Сац.-быт. казкі. С. 174—175. |
| 98 | Похороны козла | Русск. нар.-поэт. тв. С. 131—133. |
| 100 | Мужык, поп і архірэй | Пяткевіч. С. 178—181. |
| 103 | Сабака і грошы | Сержпутоўскі. Казкі. С. 5—6. |
| 104 | Завідны поп | Сержпутовский. Сказки. С. 40. |
| 105 | Верш пра Кірыка | Нар. про релігію. С. 169—178. |
| 112 | Цягло | Біля райських воріт. С. 211—212. |
| 113 | Брат сонца і брат торбы | Там жа. С. 210—211. |
| 113 | Як поп з цыганом судзіўся | Казки одного села. С. 252—254. |
| 115 | Дзікая свіння | Біля райських воріт. С. 79. |
| 117 | Як поп падарункі згубіў | Нар. про релігію. С. 160—161. |
| 117 | Беднякова шчодрасць | Біля райських воріт. С. 229—230. |
| 118 | Як гуцул наймаўся ў папа | Там жа. С. 220—221. |
| 119 | Дзесяціна з кавалка золата | Там жа. С. 212—213. |
| 120 | Глухія | Нар. усмішки. С. 59. |
| 120 | Перахітрыў | Там жа. С. 59. |
| 120 | Як поп выдурваў грошы | Біля райськнх воріт. С. 193—195. |
| 122 | Гульня «Курачка» | Там жа. С. 207. |
| 122 | Про Назарка | Русск. нар.-поэт. тв. С. 186—189. |
| 125 | Брюхатый поп | Нар. о религии. С. 158—160. |
| 127 | Про попа и немую девочку | Русск. нар.-поэт. тв. С. 100—101. |
| 128 | Размова | Нар. про релігію. С. 125. |
| 128 | Які асёл | Біля райських воріт. С. 209. |
| 128 | На возе | Там жа. С. 209. |
| 129 | Ненажэрны поп | Соц.-побут. казка. С. 220—221. |
| 129 | Поп-хабарнік | Бел. нар. супраць паноў і рэлігіі. С. 34. |
| 130 | Як поп злазіў з воза | Біля райських воріт. С. 230. |
| 130 | Як селянін папа правучыў | Україна сміється. С. 148—149. |
| 131 | Як бедны селянін пазбавіўся папа | Там жа. С. 148. |
| 132 | Іншы сон як у руку дасць | Сержпутоўскі. Казкі. С. 224—228. |
| 135 | Пра тое, як дзяк з папом бугая ўкралі | Україна сміється. С. 170—177. |
| 137 | Аб хітрым дзяку | Федароўскі, 3. С. 178. |
| 137 | Бяда | Біля райськнх воріт. С. 185. |
| 137 | Что сегодня бог делает | Русск. нар.-поэт. тв. С. 35. |
| 138 | Дваранін | Сержпутовский. Сказки. С. 138—139. |
| 139 | Сын божий | Русск. нар.-поэт. тв. С. 134—135. |
| 140 | Мазур і ксёндз | Нар. про релігію. С. 95. |
| 140 | Гэта не дзятлы! | Пяткевіч. С. 181—182. |
| 141 | І я быў бы ўсёвідушчы | Біля райськнх воріт. С. 47. |
| 142 | Богороднцына травка | Русск. нар.-поэт. тв. С. 195—196. |
| 143 | Як Ванька парабкам служыў | Сац.-быт. казкі. С. 278—282. |

| Старонкі | | Крыніцы |
|---|---|---|
| **146** | Як Данілка прадаваў зайцаў і вучыў гаварыць пеўняў | Сац.-быт. казкі. С. 206—208. |
| **148** | Дванаццаць апосталаў | Україна сміється. С. 184—186. |
| **150** | Архангел у шафе | Нар. про релігію. С. 48—49. |
| **151** | Сажа | Сац.-быт. казкі. С. 297—300. |
| **153** | Нечаканасць | Нар. про релігію. С. 184—185. |
| **155** | Як іерусалімскія святыя праз печ дарогу пралажылі | Там жа. С. 186—187. |
| **155** | Што папу было за чужую жонку | Федароўскі, 3. С. 183. |
| **156** | Нетленные мощи | Русск. нар.-поэт. тв. С. 77—78. |
| **156** | Умная жена | Там жа. С. 126—128. |
| **159** | Як поп быў святым Мікалаем | Біля райських воріт. С. 41—43. |
| **160** | Микола Дупленский | Русск. нар.-поэт. тв. С. 80—81. |
| **161** | Поповские хомуты | Там жа. С. 94—95. |
| **162** | Як селянін папа выкрыў | Нар. про релігію. С. 195. |
| **163** | Дзякава пашана | Нар. усмішки. С. 141. |
| **163** | Батрак | Русск. нар.-поэт. тв. С. 196—201. |
| **168** | Як папоў батрак пападдзю праўчыў і дзякана, яе спалюбоўніка, і папа нашчот пападдзі абразуміў | Добровольский. С. 696—700. |
| **172** | Ксёндз, баба і мужык | Бел. нар. супраць папоў і рэлігіі. С. 64—65. |
| **173** | Споведзь шляхціца | Федароўскі, 3. С. 174. |
| **173** | Як ксяндзы нячыстага ад сябе адганяюць | Україна сміється. С. 180. |
| **174** | Видел ли архиерей душу человека | Русск. нар.-поэт. тв. С. 124—126. |
| **176** | Две старухи и архиерей | Там жа. С. 128—129. |
| **176** | Поп-п'яніца | Антырэлігійныя казкі. С. 186. |
| **177** | Поп і Шыдар | Кліх. С. 42—46. Друк. з Бел. нар. казкі. С. 453—458. |
| **182** | Ці была ў папа галава, ці не? | Шейн. Материалы. С. 311. |
| **183** | Аб папу, што каляд забыўся | Федароўскі, 3. С. 176. |
| **183** | Бязглузды поп | Україна сміється. С. 130—131. |
| **184** | Як баба чорта на гаспадарцы ашукала і ў паядынку перамагла | Мальдзіс А. З літаратуразнаўчых вандраванняў. Мн., 1987. С. 42—43. (З «Торбы смеху» К. Жэры). |
| **186** | Пра папа з парабкам, што дамовіліся, каб ніколі і ні за што на сябе не гневацца | Там жа. С. 44—46 (друк. у скарачэнні). |
| **189** | Ксяндзы — не людзі | Там жа. С. 47. |
| **189** | Хитрый мужик и жадный поп | Русск. нар.-поэт. тв. С. 170—171. |
| **190** | Хитрый мужик | Там жа. С. 171—173. |
| **192** | Як мужык папа перахітрыў | Добровольский. С. 700—701. |
| **193** | Поп и работник | Русск. нар.-поэт. тв. С. 143—144. |
| **194** | Дасціпны жарт | Україна сміється. С. 160—161. |
| **196** | Как поп летал | Русск. нар.-поэт. тв. С. 173—174. |
| **197** | Поп і жураўлі | Беларусь, 1959, № 1. С. 29. |
| **197** | Чего на свете не бывает | Русск. нар.-поэт. тв. С. 192—193. |
| **199** | Не любо — не слушай | Там жа. С. 48—49. |
| **199** | Поп-фокусник | Жарты, анекд., гум. С. 59. |
| **200** | Папова завісць не пайшла ў карысць | Федароўскі, 3. С. 121—122. |
| **201** | Дзяк-брахун | Україна сміється. С. 165. |
| **202** | Состязания во лжи | Русск. нар.-поэт. тв. С. 191—192. |
| **203** | Беззаботный монастырь | Там жа. С. 214—216. |

| Старонкі | | Крыніцы |
|---|---|---|
| **255** . . . . . | Святое падрыгванне | Сержпутоўскі. Казкі. С. 140—141. |
| **256** . . . . . | Дзяк і малапісьменны поп | Україна сміється. С. 129. |
| **257** . . . . . | Слишком добрый поп | Русск. нар.-поэт. тв. С. 32. |
| **257** . . . . . | Як поп карты рассыпаў | Бел. нар. супраць папоў і рэлігіі. С. 60—61. |
| **258** . . . . . | Як поп маліўся | Романов, 1—2. С. 189—190. |
| **258** . . . . . | Як пропаведзь не ўдалася | Федароўскі, 3. С. 176. |
| **259** . . . . . | Пропаведзь | Федароўскі, 2. С. 209—210. |
| **259** . . . . . | Казанне папа Мірона | Нар. про релігію. С. 86—88. |
| **260** . . . . . | На бога | Біля райських воріт. С. 107—110. |
| **260** . . . . . | Адчальвай, хлопцы! | Україна сміється. С. 129. |
| **261** . . . . . | Як папугай глас божы падаваў | Там жа. С. 131—132. |
| **261** . . . . . | Яшчэ, можа, гэта і брахня | Там жа. С. 126. |
| **262** . . . . . | Цябе не просяць, божанька | Нар. про релігію. С. 93. |
| **262** . . . . . | Не вытрымаў | Там жа. С. 92. |
| **262** . . . . . | Пропаведзь без шпаргалкі | Біля райських воріт. С. 209. |
| **263** . . . . . | Казанне | Нар. усмішки. С. 61—62. |
| **263** . . . . . | Як дзядзька прычашчаўся | Нар. про релігію. С. 99. |
| **263** . . . . . | Як Кармалюк пана спавядаў | Там жа. С. 213—214. |
| **264** . . . . . | Цыган на исповеди | Русск. нар.-поэт. тв. С. 92—94. |
| **266** . . . . . | Не ўтаіла | Біля райських воріт. С. 154. |
| **266** . . . . . | Як кум адвучыў свайго кума ад споведзі | Там жа. С. 30—31. |
| **267** . . . . . | Калі вялікдзень | Антырэлігійныя казкі. С. 92. |
| **267** . . . . . | Бяда | Бел. жарты. С. 15. |
| **267** . . . . . | Не той апостал | Біля райських воріт. С. 112. |
| **268** . . . . . | Памаліліся... | Нар. усмішки. С. 54. |
| **268** . . . . . | О!.. | Там жа. С. 62. |
| **268** . . . . . | Паразумеліся | Там жа. С. 61. |
| **268** . . . . . | Мужыцкі рай | Там жа. С. 49. |
| **269** . . . . . | Як багаты пакаяўся | Біля райських воріт. С. 147. |
| **269** . . . . . | Пра вялікага грэшніка | Соц.-побут. казка. С. 179—180. |
| **271** . . . . . | Вялікі грэшнік | Шейн. Материалы. С. 371—373. |
| **272** . . . . . | Па справядлівасці | Біля райських воріт. С. 216—217. |
| **272** . . . . . | Нядобра храпці | Там жа. С. 107. |
| **272** . . . . . | Так у кнізе надрукавана | Там жа. С. 139. |
| **273** . . . . . | Асучасніў | Там жа. С. 250. |
| **273** . . . . . | Ліса-каталічка | Романов, 3. С. 28. |
| **273** . . . . . | Як дзяцей хрысцілі | Бел. нар. супраць папоў і рэлігіі. С. 87. |
| **274** . . . . . | Пра дванаццаць апосталаў, або як жонка мужа з бяды выратавала | Сац.-быт. казкі. С. 318—321. |
| **276** . . . . . | Казка пра аднаго дзеда і Міколу | Антырэлігійныя казкі. С. 67. |
| **277** . . . . . | Мужчына за мужчынаю цягне | Федароўскі, 3. С. 79. |
| **277** . . . . . | За што? | Бел. жарты. С. 5. |
| **277** . . . . . | Не дараваў | Там жа. С. 13. |
| **277** . . . . . | «Святыя» іконы | Пяткевіч. С. 173. |
| **278** . . . . . | Мастак і іконы | Там жа. С. 172. |
| **278** . . . . . | Пра багародзіцу і святога Мікалая | Україна сміється. С. 100. |
| **279** . . . . . | На каго падобна багародзіца | Біля райських воріт. С. 117. |
| **279** . . . . . | Ікона без святога | Нар. усмішки. С. 51. |
| **279** . . . . . | Божыя іконы | Там жа. С. 51—52. |
| **280** . . . . . | Дванаццаты апостал | Там жа. С. 51. |
| **280** . . . . . | Путаник | Русск. нар.-поэт. тв. С. 38. |

| Старонкі | | Крыніцы |
|---|---|---|
| 328 . . . . . | Кузнец и черт | Русск. нар.-поэт. тв. С. 44—46 |
| 330 . . . . . | Салдат і смерць | Бел. нар. казкі. С. 388—392. |
| 334 . . . . . | Салдат і смерць | Нар. про релігію. С. 63—68. |
| 337 . . . . . | Казакі і смерць | Нар. усмішки. С. 215—216. |
| 338 . . . . . | Колькі вёрст да неба | Там жа. С. 144. |
| 338 . . . . . | І ў небе не лепш | Там жа. С. 49—50 |
| 338 . . . . . | Хочаш у рай — кукарэкай! | Біля райських воріт. С. 97—99. |
| 340 . . . . . | Каля райскай брамы | Там жа. С. 91—92. |
| 341 . . . . . | Ці добра ў раю | Нар. усмішки. С. 56. |
| 341 . . . . . | Як цыган у рай зайшоў | Біля райських воріт. С. 92—94. |
| 342 . . . . . | Будзеш праклят ы, пане інспектар! | Там жа. С. 139—140. |
| 342 . . . . . | Як папасці ў рай | Нар. про релігію. С. 54—55. |
| 343 . . . . . | Ткач у пекле | Україна сміється. С. 105. |
| 343 . . . . . | Пан жадае быць у пекле, абы з панамі | Там жа. С. 138. |
| 344 . . . . . | Паны трапяць у пекла | Там жа. С. 33. |
| 344 . . . . . | Пан і ў пекле пан | Біля райських воріт. С. 88—89. |
| 344 . . . . . | Забагата | Там жа. С. 85. |
| 344 . . . . . | Поп у пекле | Нар. усмішки. С. 60—61. |
| 345 . . . . . | Солдат на том свете | Русск. нар.-поэт. тв. С. 40—44. |
| 349 . . . . . | Как на том свете работник скупого барина вызволял | Нар. о религии. С. 74—78. |
| 352 . . . . . | Как солдат обучал «закону божьему» | Русск. нар.-поэт. тв. С. 23—24. |
| 353 . . . . . | Вялікае дзіва | Нар. про релігію. С. 79—80. |
| 354 . . . . . | Дачытаўся | Там жа. С. 30. |
| 354 . . . . . | Як я перастаў верыць у бога | Бел. нар. супраць папоў і рэлігіі. С. 220. |
| 354 . . . . . | Адзін дзень за тысячу гадоў | Біля райських воріт. С. 140. |
| 355 . . . . . | Дележ по «Священному писанию» | Русск. нар.-поэт. тв. С. 29—30. |
| 356 . . . . . | «Священско писание» | Там жа. С. 23. |
| 357 . . . . . | Как прихожанин попа перехитрил | Там жа. С. 29. |
| 362 . . . . . | **Выкрыццё цудаў і знахарства** | |
| 363 . . . . . | Святой Авраам | Русск. нар.-поэт. тв. С. 70—71. |
| 364 . . . . . | Набожны ксёндз | Шейн. Материалы. С. 322. |
| 364 . . . . . | Правда о святом Феодосии | Русск. нар.-поэт. тв. С. 63—65. |
| 367 . . . . . | Святой Пантелеймон | Там жа. С. 65—70. |
| 371 . . . . . | «Святы» Ян | Беларусь, 1959, № 1. С. 28. |
| 372 . . . . . | Хітрыкі ксяндза | Бел. нар. супраць папоў і рэлігіі. С. 40. |
| 372 . . . . . | Хтосьці ваду адключыў | Біля райських воріт. С. 125. |
| 372 . . . . . | Поп і студэнт | Там жа. С. 251. |
| 373 . . . . . | Чудо | Русск. нар.-поэт. тв. С. 218. |
| 373 . . . . . | Камень «цудоўны» | Сержпутоўскі. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў. Мн., 1930. С. 216—217. |
| 374 . . . . . | Прошча | Сержпутовский. Сказки. С. 63. |
| 375 . . . . . | О жадных попах и умном Иване | Русск. нар.-поэт. тв. С. 183—186. |
| 378 . . . . . | Як мужык папоў ашукаў | Антырэлігійныя казкі. С. 151—155. |
| 380 . . . . . | Голас на сліве | Біля райських воріт. С. 39—41. |
| 382 . . . . . | Казка пра аднаго чалавека, які даваў богу вала, каб бог | Соц.-побут. казка. С. 232—237. |

Научное издание

**ЧЕГО НА СВЕТЕ НЕ БЫВАЕТ:**
**Антирелигиозные сказки, анекдоты, пословицы восточнославянских народов**

Составители: ФЕДОСИК АНАТОЛИЙ СЕМЕНОВИЧ, ПЕТРОВСКАЯ ГАЛИНА АЛЕКСАНДРОВНА

Минск, издательство «Навука і тэхніка»

На белорусском и русском языках

Навуковае выданне

**ЧАГО НА СВЕЦЕ НЕ БЫВАЕ:**
**Антырэлігійныя казкі, анекдоты, прыказкі ўсходнеславянскіх народаў.**

Складальнікі: ФЯДОСІК АНАТОЛЬ СЯМЕНАВІЧ, ПЯТРОЎСКАЯ ГАЛІНА АЛЯКСАНДРАЎНА

Загадчыца рэдакцыі *Л. І. Пятрова.* Рэдактары *М. А. Вячорка, В. І. Савельева.* Мастак *Э. Э. Жакевіч.* Мастацкі рэдактар *Л. І. Усачоў.* Тэхнічны рэдактар *А. У. Скакун.* Карэктар *І. Л. Дзмітрыенка.*

ІБ № 3433

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР.

Здадзена ў набор 14.03.89. Падпісана ў друк 13.04.90. АТ 04647. Фармат $60\times90^{1}/_{16}$. Папера афс. кн.-журн. Гарнітура літаратурная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 26,0. Ум. фарб.-адб. 26,76. Ул.-выд. арк. 26,86. Тыраж 20 000 экз. Зак. № 2359. Цана 2 р. 50 к.

Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600. Мінск, Жодзінская, 18.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005. Мінск, Чырвоная, 23.